№4 (83)
/ліпень-жнівень/ 2016

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Уладзімер Арлоў



...красуня, што сышла з фатаграфіі, спыталася, ці вядуцца ў Марцінавай краіне эльфы і ундзіны...

# Дом з дамавікамі

***Аповесць***

*Хачу вам паведаміць, шаноўныя сеньёры,*
*што памянёны ідальга прыбыў да нас*
*з намерамі сумнеўнымі і надзвычай падазронымі.*

## 1

У аэрапорце за паўгадзіны да пасадкі Марцін выняў з наплечнай кайстры кармінавы штодзённік, каб праўдзіць, ці не забыўся чаго істотнага. Ён перагарнуў старонкі на бліжэйшыя дні і зрабіў маленькае адкрыццё: абведзеная колцам дата – 23 красавіка – прыпадала акурат на канец яго кароткага падарожжа. Гэта адразу перайначыла Марцінаў настрой, дадаўшы да лёгкага перадвандроўнага хвалявання новыя эмоцыі.

Ён міжволі ўсміхнуўся: дзяцінства праз столькі гадоў па-ранейшаму заставалася з ім. Ён абвёў вачыма пачакальню. Наўрад ці хто-небудзь мог хоць прыблізна ўявіць, чым занятыя цяпер ягоныя думкі.

А імі завалодалі Шэкспір і Сервантэс.

## 2

Больш за прыгоды і фантастыку ў дзіцячыя гады Марцін любіў чытаць розныя даведнікі, а таксама кніжкі і часопісы з цікавосткамі ды таямніцамі, што друкаваліся пад рубрыкамі накшталт *Загадкі мінулых стагоддзяў* або *Вучоныя дагэтуль шукаюць адказ.* Там ён знаходзіў займальныя для юнага розуму звесткі пра жорсткую помсту егіпецкіх фараонаў археолагам ці пра высокаразвітую цывілізацыю інкаў, якая, тым не меней, не ведала кола. Яго захапляла загадка шумераў, што не толькі вынайшлі кола, аднак за тысячы гадоў да Каперніка былі ўпэўненыя, што Зямля рухаецца вакол Сонца. Ну а пошукі ў Гімалаях снежнага чалавека хвалявалі тады і шмат якіх дарослых, у прыватнасці, ягонага старэйшага стрыечнага брата-студэнта. Той ставіўся да Марцінавага захаплення з разуменнем і забяспечваў аматара тайніцаў адпаведнымі выданнямі.

## 3

Сталася так, што Марціна наймацней узяла ў палон загадка смерці Шэкспіра і Сервантэса. У сёмым класе ён вычытаў у часопісе “Вакол свету”, што знакамітыя пісьменнікі памерлі ў адзін і той самы дзень 23 красавіка аднаго і таго ж 1616 года. Яны не загінулі ў адной бітве, не патанулі, плывучы на адным караблі, не былі атручаныя на нечы загад, калі сядзелі за адным сталом на каралеўскім балі. Яны, як выглядала, наогул ніколі не сустракаліся. Між тым энцыклапедыі неабвержна сведчылі, што аўтар “Рамэа і Джульеты” пакінуў гэты свет у родным Стратфардзе-на-Эйване, а стваральнік “Дон Кіхота” ўбачыў цётухну з касой – пра яе Марцін у тыя гады думаў легкаважна і амаль весела, адно як пра метафару – у неверагодна далёкай, як на тадышні час, ад Стратфарда іспанскай сталіцы.

Гэтая таямніца настолькі захапіла хлопчыка, што, каб занатоўваць развагі пра яе, Марцін завёў адмысловы вялікі нататнік з жоўтай вокладкай, на якой ён напісаў і абвёў колцам загадкавую дату. Ад лічбы 23 разыходзіліся стрэлкі, што сімвалізавалі яго пошукі і гіпотэзы. Атрымалася нешта падобнае да сонейка з вострымі промнямі, якіх пакрысе рабілася ўсё больш.

## 4

Нататнік даўно згубіўся, ды Марціну і сёння добра памятаўся ягоны змест.

Побач са здагадкаю, што ў 1616 годзе ўсю Еўропу ахапіў жудасны чумны паморак, які і забраў жыцці двух геніяў, пад жоўтай вокладкай хавалася версія ўтручвання ў гэтую справу цёмных магічных сілаў. Магчыма, даваў волю фантазіі начытаны падлетак, Шэкспір і Сервантэс адмовіліся прадаваць душу ў абмен на вечнае жыццё і былі за тое пакараныя.

Дэталёва Марцін распрацаваў і гіпотэзу, звязаную з іншапланетнікамі. Але не з тымі, што, безумоўна, дапамаглі некалі шумерам, а – з варожымі зямлянам прыхаднямі з касмічных глыбіняў, якія разлічвалі ў будучыні захапіць Зямлю і ператварыць яе ў калонію. Пакуль жа іхнія выведнікі пасылалі на самых выдатных жыхароў нашай планеты нябачнае смяротнае апраменьванне.

Памятаецца, цэлую школьную чвэрць Марцін, знаходзячы сабе ўсё

новыя, самыя фантастычныя доказы і малюючы ў сваім нататніку касмічных прыхадняў з пяццю вачыма на круглых безвалосых галовах і хабаткамі замест насоў, трымаўся менавіта такога адказу на загадкавае пытанне. Але аднойчы ён прачнуўся з думкаю, што вінаватыя ўсё ж не хобатаносыя, а больш блізкія, зямныя цёмныя сілы, калі іх увогуле можна назваць зямнымі, бо не выключана, што яны валадараць ці, прынамсі, ставяць свае бесчалавечныя эксперыменты ва ўсім сусвеце.

Падставаю для такога меркавання стала невытлумачальная смерць аднакласніцы Лілі, якая яшчэ ў панядзелак спісвала ў яго на матэматычнай кантрольнай, а ў пятніцу ляжала абкладзеная кветкамі ў невялікай падлеткавай труне. Хадзіла пагудка, што на просьбу мачахі Лілю *зачаравалі і за два дні звялі са свету.* Пасля таго, як Ліліна сям'я выехала з горада ў невядомым накірунку, гэтыя размовы набылі новы накірунак. Марцінава бабуля казала, што цяпер праклён будзе ляжаць на ўсім родзе і нават на тых, хто паселіцца ў іхняй апусцелай кватэры ў суседнім доме. Аднак у колішняй Лільчынай кватэры неўзабаве атабарылася маладая сямейка з зарэчнай вёскі, у якой, здаецца, штогод нараджаліся белагаловыя здаровыя дзеці, і бабуліна вера ў праклён урэшце адышла ў мінулае.

**5**

Сярод запісаў у нататніку мелася ўжо і не надта дзіцячае вытлумачэнне, згодна з якім Шэкспір ды Сервантэс ліставаліся між сабой і, стаміўшыся ад жыцця і славы, змовіліся сысці ў вечнасць у адзін дзень, пакінуўшы сваю загадку нашчадкам. Марцін марна намагаўся шукаць пацверджанне ў самім "Дон Кіхоце", прычым не ў сваім, з маленькага хатняга кнігазбору, дзе на тытульнай старонцы было пазначана, што кніга пераказаная для дзяцей, а папрасіў маці прынесці раман з дарослай бібліятэкі і напачатку чытаў яго з трымценнем, нібы кабалістычны трактат. Але нават вывучэнне раздзела пра незвычайную прыгоду Дон Кіхота з калёсамі Суда Смерці скончылася безвынікова.

Марцін спрабаваў звяртацца па дапамогу не адно да кніг, але і да дарослых. Маці засмуціла, бо лічыла таямніцу смерці геніяльных пісьменнікаў простым супадзеннем. Вясёлы чырвонаносы настаўнік гісторыі параіў пакінуць праблему вучоным-шэкспіразнаўцам. Бабуля паводле ейнай завядзёнкі меркавала, што паўсюль трэба шукаць сляды нязводных д'ябальскіх сілаў. Брат-стрыечнік, які ведаў пра Марцінаў жоўты нататнік, дакляраваў у вольны час разабрацца з пісьменнікамі, ды хутка пра тое забыўся.

Але, што б там ні было, Марцін пераканаў сябе: 23-ці красавіцкі дзень – не шараговы, у гэты дзень мацней праяўляюцца неспасцігальныя чалавечым розумам сілы і перад верагоднай сустрэчаю з імі трэба трымацца напагатове.

Якраз тады, няхай і не 23 красавіка, а напярэдадні, ён знайшоў на беразе ракі пасля паводкі срэбную манету з партрэтам яшчэ невядомага яму манарха на аверсе і конным рыцарам на рэверсе. Тое здарэнне сведчыла, што і ў наш час у дваццатых днях другога вясновага месяца могуць адбывацца рэчы непрадказальныя і, апрача таго, неабавязкова сумныя.

Так у Марціна з'явілася асабістая таямніца – *магічны дзень.*

## 6

Загадка Шэкспіра і Сервантэса не давала Марціну спакою да дзявятага класа. Але аднойчы брат-студэнт, які прыехаў да іх на Каляды, паблажліва паляпаў Марціна па плечуку і даў параду супакоіцца і пашукаць сабе іншую таямніцу.

Стрыечнік не забыў на абяцанку і, нарэшце заглыбіўшыся ў тэму, высветліў, што насамрэч сэрцы класікаў спыніліся не ў адзін і той жа дзень. Сервантэс адышоў на дзесяць дзён раней, бо ў каталіцкай Іспаніі дзейнічаў грыгарыянскі каляндар, а пратэстанцкая Англія ўпарта трымалася юліянскага. Брат патлумачыў, што такія аддаленыя ад нас даты не пераводзяцца ў новы стыль, праз што і ўзнікла міфічная таямніца, якой дурацць наіўныя галовы.

## 7

Марцін перажыў глыбокае расчараванне. Ягоны свет страціў адну з непаўторных барваў. Сітуацыю не ратавалі і адкапаныя звесткі, паводле якіх Шэкспір памёр у той самы дзень, калі і нарадзіўся, што таксама выглядала дзіўнавата. Марцін з сумам закінуў жоўты нататнік з пабляклым сонейкам на антрэсолі ды ўзяўся шукаць новыя загадкі.

Аднак яго даўняя таямніца не канула ў Лету і па часе вярнулася. Па-першае, разважаў Марцін, і Іспанія, і Англія, а значыць, і Шэкспір з Сервантэсам пражывалі той далёкі дзень менавіта як 23 красавіка. Такім чынам версія з ліставаннем і пакрыёмай дамоваю класікаў канчаткова не губляла імавернасці. А, па-другое, Марціну проста расхацелася развітвацца з *магічным днём*.

## 8

Да гэтай падлеткавай тайніцы Марцін у розныя перыяды жыцця ставіўся неаднолькава, часта іранізаваў над сабой, але не забываў намаляваць у штодзённіку на адпаведнай старонцы сонца са стрэлкамі-промнямі. Цяпер яны азначалі чаканне чагосьці такога, што магло аздобіць сваім водсветам будзённае жыццё. А магло і азмрочыць, таму трэба быць гатовым да неспадзяванак. Калі ты наструньваешся і ловіш адпаведную хвалю, верагоднасць такога здарэння павялічваецца. Урэшце і нязначная, на першы погляд, падзея, убачаная пад іншым ракурсам, можа набыць новае нечаканае гучанне, стацца лёгкім намёкам, знакам, папярэджаннем або абяцаннем. Карацей, Марцін не здраджваў даўняй гульні і ў дваццатыя красавіцкія дні імкнуўся хоць на хвіліну ператварыцца ў падлетка з жоўтым нататнікам.

Калі-нікалі гульня дзячыла яму за вернасць. Ён не вёў дакладнага ўліку таго, што адбывалася 23 красавіка ці ў суседнія дні, ды якраз тады, пры канцы красавіка, некалі перажыў бурнае развітанне з жонкай-актрысаю Жаннай, якую ў сапраўднасці звалі Ганнай. Праз колькі гадоў гэтай парою завязалася знаёмства з мастачкаю Вітай. Яно перарасло ў працяглую, збольшага шчаслівую гісторыю, што, на жаль, пяць гадоў таму – праўда, не ў красавіку, а ў траўні – завяршылася ад'ездам Віты на міжнародны пленэр у Краіну баскаў, які, даходзілі чуткі, скончыўся для яе шлюбам з неўзабаве асуджаным на працяглы тэрмін байцом ЭТА.

Летась і залетась у красавіку не здарылася нічога прыкметнага, а вось тры гады таму Марцін адзіны раз у жыцці выйграў у латарэю. Грошы прыйшлі не богведама якія, аднак хапіла на велікодную выправу ў Вільню з прыстойным зацішным гатэлем у Старым горадзе і трохвечаровай вандроўкаю па знаёмых кавярнях. Ён піў за Шэкспіра з Сервантэсам моцныя літоўскія настойкі, часам, палохаючы афіцыянтаў, дэкламаваў самому сабе ўлюбёныя санеты славутага грамадзяніна горада Стратфарда, а ў адной пітной установе паблізу Базылянскіх муроў пасля шматлікіх кілішкаў *Suktinis'у* пакінуў шчодры гасцінец, падпісаўшыся як *Д.К. з Ламанчы*, за што назаўтра адчуваў пякучы сорам.

## 9

Марцін не стаў літаратуразнаўцам. Ён меў дыплом географа і навуковую ступень, але пасля сарака ў пэўным сэнсе вярнуўся да падлеткавага захаплення чытвом з разнастайнымі цікавосткамі – узяўся пісаць турыстычныя даведнікі. Яму падабалася тлумачыць замежнікам, а заадно і неабазнаным суайчыннікам, што ягоная краіна не проста знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Еўропы, а мае і еўрапейскую гісторыю – з замкамі, магдэбургскім правам, рыцарскімі турнірамі...

У Марціна было лёгкае пяро. Справы ішлі няблага, і ў яго з'явіўся свой выдавец. Пасля кніжкі пра вядомых асобаў, што калісьці адзначыліся ў гэтых шыротах – ад заваёўнікаў розных эпох да Лі Харві Освальда, на прыз якога іхні школьны настаўнік вайсковай падрыхтоўкі ў гады халоднай вайны з Захадам праводзіў штогадовыя стралковыя спаборніцтвы – Марцін пачаў задумвацца пра тое, каб пакінуць выкладчыцкую працу. Студэнты прыносілі на экзамены турыстычныя даведнікі і, падлабуньваючыся, прасілі ў Марціна аўтографы, а яму ўжо мроілася, як ён будзе ставіць подпісы на тытуле свайго гістарычнага рамана, героі якога наведваліся ў сны.

## 10

У самалёце Марцін, узяўшы маленькую пляшачку чырвонага віна, працягваў думаць пра Шэкспіра і Сервантэса. Ён – гэта сталася важным элементам гульні – выдатна ведаў іх жыццяпісы разам з легендамі, дыскусіямі і здагадкамі і сачыў за ўсімі новымі знаходкамі ды версіямі. Нядаўна, да прыкладу, знайшоў у сеціве сцверджанне, што, прынамсі, за частку славы Шэкспір мусіў быць удзячны яго багатай сучасніцы-габрэйцы, надзеленай бліскучым літаратурным талентам. Вядома, не абмінуў Марцін увагаю і свежае паведамленне пра адшуканне магілы Сервантэса ў мадрыдскім кляштары ордэна босых трынітарыяў, якія заплацілі выкуп за пісьменніка, калі той быў захоплены піратамі і пяць гадоў пакутваў у алжырскім палоне.

Апрача таго Марцін сябраваў з Мнемазінай і калісьці вывучыў усе шэкспіраўскія санеты, прычым расставіў іх у памяці па нумараваных палічках, адкуль санеты вельмі зручна было здымаць у патрэбныя моманты. Зрэшты, парою яны і самі прасіліся на волю.

Вось і цяпер, не паспеў Марцін чарговы раз пагадзіцца з тымі, хто лічыць 126 першых санетаў адрасаванымі маладому мужчыну, да якога аўтар меў зусім не платанічныя пачуцці, як гэтыя вершы загучалі ў ім на вышыні дзесяці тысяч кіламетраў над роўнем мора:

Любоў мая не ідалапаклонства,
А мой каханы ідалам не ёсць.
Хоць пра яго яму пяю бясконца,
Ягоную ўслаўляю прыгажосць[1].

Ён замовіў яшчэ адну паднябесную пляшачку чырвонага.

Дваццаць шэсць наступных санетаў відавочна звернутыя да жанчыны. То бок Шэспір адрозна, напрыклад, ад Уайлда здолеў пазбыцца небяспечнага ў тыя часы захаплення або, прынамсі, дадаць да яго іншае, да якога грамадства ставілася з большым разуменнем.

На радасць мне і на пакуту мне
Ва мне жывуць адразу два каханні.
Адно – кабета, што за ноч цямней,
Другое – сябар у анёльскім ўбранні...

Разам з тым цікава, што ў тастаманце драматург пазначыў перадачу жонцы свайго *другога па якасці ложка*. Адны шэкспіразнаўцы расцэньваюць тое як падкрэсленую абразу, іншыя, аднак, перакана  ныя, што гаворка ідзе пра сужэнскі ложак і што нічога зневажальнага ў тастаманце і не начавала.

## 11

Марцін папрасіў у халаднавата прыгожай сцюардэсы-скандынаўкі чорнай кавы ды іхнюю цацачную пляшачку віскі.

Яго думкі набылі новы накірунак. Сервантэс у той дзень, калі іспанскі каляндар паказваў фатальную дату, меў шэсцьдзесят сем пражытых гадоў. За колькі дзён да сыходу ён, цяжка хворы жабрак, пастрыгся ў манахі, але і на Божай пасцелі не разлучаўся з пяром і паперай. Шэкспір жа назаўсёды заплюшчыў вочы, маючы ўсяго пяцьдзясят два, крыху больш, чым ён, Марцін. Тры астатнія гады мэтр, мяркуючы па ўсім, біў лынды, а пры канцы зямнога шляху, бывала, добра выпіваў з жаніхом малодшай дачкі, які зарабляў на жыццё вінаробствам.

Перад пасадкаю ў Стакгольме Марцін не надта цвяроза падумаў, што, калі б Шэкспір карыстаўся інтэрнэтам, ён мог бы своечасова даведацца пра вечны вырай іспанскага брата па духу і таленце і памянуць яго добрым келіхам, а, натхніўшыся, напісаць прачулае развітальнае слова пад рубрыку *In memoriam*.

Марцін ляцеў на кніжны кірмаш, дзе мела адбыцца прэзентацыя перакладу яго шыкоўна ілюстраванага турыстычнага даведніка.

## 12

Кірмаш не належаў да самых прэстыжных, але карыстаўся статусам міжнароднага і, акрамя таго, праходзіў у старажытным горадзе, што, сцвярджала Вікіпедыя, ганарыўся непадступным замкам на азёрнай выспе і ў мінулым пабыў неафіцыйнай шведскай сталіцай. Вечар і ноч Марцін павінен быў прабавіцца ў сталіцы, а назаўтра сесці на цягнік.

Гатэль яму – дзеля зручнасці некалькіх прыездаў і ад'ездаў – замовілі насупраць чыгуначнага вакзала, што ані не ўплывала на цішыню і ўтульнасць.

Марцін трымаўся на хвалі чакання нязвыклых уражанняў і падзеяў,

[1] Тут і далей пераклады Уладзімера Дубоўкі.

але нічым асаблівым, калі не лічыць вялікіх ампірных люстраў у пазалочаных асадах перад шырокімі маршамі парадных сходаў, гатэль не ўразіў. Вечаровае вакно выходзіла на зялёны ўнутраны двор з вячыстымі дрэвамі, адно з якіх падступала зусім блізка. Пупышкі на галінках пакуль не пырснулі лістотай, аднак Марцін чамусьці вырашыў, што гэта вяз. Відаць, таму, што магутным галамнём і галінамі, падобнымі да рук казачных асілкаў, дрэва за вакном нагадала яму стары вяз над ракой на іхняй ціхай гарадской ускраіне. Вяз, пад якім ён-хлапчук, збягаючы з дому, любіў летнімі вечарамі дапазна чытаць і заседжваўся там – ужо з ліхтарыкам – да поўначы, забываючы, што мама з бабуляй не лягуць спаць, пакуль ён не вернецца. Як і на тым даўнім вязе з яго дзяцінства, так і на дрэве за гэтым падвойным шклом мудрагелістыя расколінкі, шнары і раўчукі на галамні ў прыцемку пачыналі складвацца ў больш вычварныя ўзоры, нагадваючы малюнкі з аптычным падманам і нараджаючы ў душы лёгкае хваляванне.

Марцін апусціў шторы, паглядзеў на канале *National Geographik* пачатак фільма пра некранутых цывілізацыяй індзейцаў Амазоніі і, уключыўшы ў сотавым тэлефоне будзільнік, з асалодай выцягнуўся на духмянай хрумсткай прасціне.

## 13

Каб аздобіць адыход да сну, ён зазірнуў у сховы памяці, дзе побач з палічкамі, занятымі шэкспіраўскімі санетамі, знаходзілася і мясцінка з улюбёнымі цытатамі з "Дон Кіхота". Ён вырашыў, што зараз добра надаецца эпізод з астурыйкаю-прыслужніцай, якая ў раздзеле XVI першай кнігі рамана змаўляецца на заезным двары з паганятым мулаў адарыць яго сваімі вабнотамі і жарсцю, але па дарозе трапляе ўначы ў рукі хітрамудрага ідальга.

*Дон Кіхот, пачуўшы яе крокі, сеў на ложку і, не зважаючы на пластыры і боль у баках, раскрыў прыўкраснай дзеве абдымкі. Дакрануўшыся да ейнай пашытай з радна начной кашулі, ён уявіў, што гэта дзівосны найтанчэйшы ядваб. На руках у яе быў шкляны ружанец, але яму прымроілася, што ён мае справу з каштоўнымі ўсходнімі перламі. Яе валасы, што збольшага нагадвалі конскую грыву, ён прыпадобніў да нітак найчысцейшага арабскага золата...*

Ужо ў абладзе дрымоты Марцін своечасова спыніўся, бо наступны рызыкоўны пасаж пра пахі, што густа разыходзіліся ад астурыйкі, мог дазвання сцерці водар канвалій, якім струменіла тонкая пуховая коўдра.

## 14

Яму сніўся вяз, які падступіў да самага ваконнага шкла і шкробся ў яго галінамі, не раўнуючы, як просячыся, каб пусцілі ў пакой. Марцін разумеў, што рабіць гэтага нельга, і, праверыўшы, ці надзейна зачыненае вакно, стаяў пры ім, як зачараваны. Кара на галамні ажыла і зрабілася рухомай. На ёй спачатку прарэзалася адна пара вачэй, затым з розных бакоў ад іх расплюшчылася яшчэ колькі. Усе вочы глядзелі проста на Марціна, і вакол іх пакрысе ўзнікалі абрысы незнаёмых і як быццам знаёмых мужчынскіх і жаночых твараў. Адчуваючы, як з кожным новым

ударам яго сэрца пачынае калаціцца ўсё больш шалёна, Марцін намагаўся распазнаць заваконныя аблічны, але часу на тое ўжо не заставалася...

## 15

Спярша Марціну здалося, што звініць будзільнік. Ён намацаў на століку пры ложку тэлефон і зрабіў спробу вымкнуць званок, аднак нічога не атрымалася. Канчаткова прачнуўшыся, ён даўмеўся, што тэлефон невінаваты. Вусцішны прарэзлівы гук вырастаў і запаўняў усю прастору. *Такім і нябожчыкаў з магіл падымеш*, змрочна падумаў Марцін і запаліў настольную лямпу, бо за вакном яшчэ раскашавала ноч.

У наступнае імгненне першы раз па-шведску, а затым па-англійску грамавым голасам загаварылі сцены: *Fire! Fire! Please, leave your rooms at onse!*[1]

У нявыспанай свядомасці мільганула: *Вось табе і прыгоды. Дачакаўся!*

Марцін ведаў за сабой каштоўную асаблівасць: пры небяспецы галава на хвілю рабілася пустой і звонкай, а затым нейроны ўключалі поўную хуткасць.

Дымам не пахла, затое яшчэ чуўся вечаровы водар канвалій. Нумар на другім паверсе. Вакно адчынілася без праблем: унізе ў начной падсветцы зелянеў газон. У калідоры чуліся галасы, ляпанне дзвярэй і тупат шматлікіх ног. Марцін пастанавіў, што, калі спатрэбіцца, выкіне валізку ў вакно, а сам у горшым разе саскочыць на траву.

Ён апрануўся і склаў рэчы, не забыўшы пра гарнітур, што адвешваўся ў шафе. Забраў з лазенкі зубную шчотку і пасту. Там паветра таксама захоўвала чысціню. Чуйка, як Марцін называў інтуіцыю, падказвала, што трывога нейкая несапраўдная, хоць сірэна працягвала нястомна выць, а заклікі пакінуць нумары гучалі на мяжы прыймальных для чалавечага вуха дэцыбелаў. Набраўшы поўныя лёгкія паветра, Марцін асцярожна прачыніў дзверы ў калідор. Дыму не было і там.

Стоячы на парозе нумара, ён назіраў даволі забаўнае відовішча. У прасторны калідор павыходзілі, мусіць, ужо ўсе госці. Большасць апранулася і стрымана чакала развіцця падзеяў. Многія павыносілі і рэчы, астатнія займаліся гэтым цяпер. Між тым у калідоры мітусілася і некалькі не надта апранутых пастаяльцаў, сярод якіх вылучалася амаль голая маладая парачка: яна – у цынамонавай кашульцы і ён – у адных паласатых чорна-белых майтках, але з пачатай пляшкаю віскі ў руцэ.

Выглядала на тое, што парачка ў паніцы запамятавала, з якога яна нумара, бо раз-пораз рабіла роспачныя высілкі пратачыцца то ў Марцінавы, то ў суседнія дзверы злева і справа. Гэтыя высілкі скончыліся тым, што прысадзісты і барадаты, падобны да шкіпера чалавек у клятчастай начной піжаме элегантным рухам выхапіў у зебрастых майткоў пляшку і схаваў яе сабе ў шырокую кішэню.

## 16

Марцін супакоіўся і ціха радаваўся прыгодзе. Чуйка не здрадзіла: аглушальныя абвесткі, а ўслед за імі і завыванне сірэны, сціхлі. У калідоры з'явілася задыханая супрацоўніца гатэля, якая папрасіла прабачэння: пажарная сігналізацыя спрацавала, бо двое гасцей курылі ў нумары на чацвёртым паверсе. Чалавек з аблічам шкіпера па-англійску, але з нейкім

[1] Пажар! Пажар! Тэрмінова пакіньце нумары! (*англ.*)

моцным акцэнтам выказаў здагадку, што гэта расейскія турысты і прапанаваў неадкладна выселіць парушальнікаў на вуліцу. Сарваныя з ложкаў пастаяльцы ўхвальна зашумелі, аднак кабета ў гатэльнай уніформе зрабіла выгляд, што не пачула.

Публіка паціху вярталася да сваіх дзвярэй. У выніку выявілася: паўголая парачка, што выскачыла ў калідор, зачыніўшы ў ліхаманцы дзверы, за якімі застаўся і ключ, паходзіць з нумара, сумежнага з Марцінавым.

Пакуль адміністратарка хадзіла па запасны электронны ключ-картку, пастаяльцы не спяшаліся разыходзіцца: дзяліліся ўражаннямі і, як падалося Марціну, досыць некарэктна – што, відаць, тлумачылася агульным узбуджэннем – разглядвалі ягоных гаротных суседзяў.

Худы і даўгалыгі маладзён у майтках мог ганарыцца шыкоўнымі рудымі бакенбардамі. Яго спадарожніца, наадварот, мела пышныя формы і сарамліва ўсміхалася з-пад кароткай светлай грыўкі. Сярэдзіну ейнага ілба аздабляла ці то акуратная радзімка, ці то чырвоная плямка-кропка накшталт тых, што ўпрыгожваюць твары індыйскіх жанчын. Марцін успомніў: такая кропелька называецца *біндзі*, што на адной з індыйскіх моваў, здаецца, на хіндзі, азначае поўню і сімвалізуе трэцяе вока.

Наогул парачка глядзелася імпазантна, і, калі нарэшце перад ёю адчыніліся дзверы, у калідоры прагучалі воплескі. Найбольш заўзята апладзіраваў шкіпер. Натхнёны гэтым, маладзён у паласатых майтках наблізіўся да шкіпера і запатрабаваў вярнуць рэквізаваную бутэльку, на што той пахітаў галавой і ляпнуў даланёй па пустой кішэні.

## 17

Гадзіннік паказваў тры з чвэрцю, але заснуць Марціну не пашчасціла. Суседзі за сцяной без валаводжання заняліся тым, што ягоны знаёмы літаратар з іроніяй называе святым і вечным таемствам кахання. У спадзеве, што маладзён з напарніцай неўзабаве нацешацца і заснуць, як кацяняты, Марцін пайшоў у душ.

Ён падставіў даўгое, трохі нехлямяжае цела пад цёплыя колкія струменьчыкі і зірнуў у вузкае вертыкальнае люстэрка. Тое падказвала запісацца ў басейн і зноў пачаць гуляць у настольны тэніс. Марцін пагладзіў сябе па прыкметным жыватку. На сняданак будзе адна аўсянка. Але...

> Не давядзе мне люстра, што стары я,
> Пакуль тваё юнацтва не міне...

Пасля душу Марцін пераканаўся, што сітуацыя не змянілася. Ён паторгаў сябе за вусы, як заўсёды рабіў, калі хацеў утаймаваць нервы, і ўголас сказаў, што рады за суседзяў, але гукаізаляцыя ў чатырохзоркавым гатэлі магла б быць і лепшай.

## 18

Вяртаючыся са сняданку, Марцін убачыў на кансолі каля ампірнага люстра вялікі, плецены з лазы, кошык, поўны жаўтабокіх груш і вінаграду. Густоўная картка паведамляла, што пачастунак – прабачэнне за начны пярэпалах. Марцін выбраў дзве грушкі і цяжкую чорную гронку з буйнымі ягадамі.

Да вінаграду ён ставіўся асабліва. У дзяцінстве іх невялікая сям'я з яго, мамы і бабулі жыла беднавата, і вінаград ён еў раз на год – у дзень нараджэння. У той жніўеньскі, ужо з подыхам блізкай восені ранак Марцін прачынаўся, ведаючы, што побач з ложкам стаіць на зэдліку талерка з вінаградам, і гэта – ягоны святочны сняданак, пасля якога дазволена паваляцца ў пасцелі, а калі захочацца, то і зноў заснуць.

Мама зазвычай купляла яму на рынку якраз такую, цёмна-фіялетавую, неверагодна сакаўную ды салодкую і, пэўна, самую дарагую гронку. Калі Марцін ласаваўся падарункам, здаралася, што адна-дзве вінаградзіны адрываліся і закочваліся пад ложак. Ён абавязкова знаходзіў іх, абціраў ад пылу і парушынак і таксама з'ядаў. Гадоў да дванаццаці Марцін думаў, што дні нараджэння – найшчаслівейшыя ў жыцці.

Мамы даўно не было на свеце, але ён і цяпер не ўяўляў дня, калі прыйшоў на свет, без вінаграду. Буйная ягадзіна не ўтрымалася на гронцы і, упаўшы на падлогу, закацілася за лядоўню. Марцін знайшоў яе, выцер і кінуў за шчаку.

Знізу патэлефанавалі. Стакгольмскі выдавец Нільс чакаў яго ў кавярні, каб разам выправіцца на кніжны кірмаш.

## 19

Нільс, з якім яны дагэтуль звязваліся адно праз электронную пошту, выявіўся чалавекам надзвычай камфортным ва ўсім, пачынаючы з аблічча. Гэта быў падхорцісты бландын, чые нечакана карыя, як у самога Марціна, вочы не дазвалялі назваць яго тыповым скандынавам. Нільса вылучала няспешлівасць і, як уявілася Марціну, упэўненасць у кожным слове і руху – пачынаючы ад прывітальнага поціску сухой цёплай рукі. Адчутай да выдаўца сімпатыі спрыяў і іхні прыкладна аднолькавы век.

Велізарнай палёгкай было тое, што Марцін мог гаварыць на сваёй мове. З ліставання, якое распачыналася па-англійску, ён даведаўся, што Нільс тры гады працаваў у Львове і вывучыў украінскую. Пазней – калі швед стварыў сваё выдавецтва – тая акалічнасць прывяла яго да ідэі спецыялізавацца на кнігах усходнееўрапейскіх аўтараў. На Марцінаву просьбу Нільс у лістах перайшоў на ўкраінскую і сам прапанаваў адказваць пабеларуску. У выпадку неразумення яны паслугоўваліся англійскай, але такое здаралася нячаста.

Калі яны селі ў цягнік, Марцін зрабіў усцешлівае адкрыццё, што Нільс па-ўкраінску не толькі ўпэўнена піша, але і гаворыць. Зрэшты, у дарозе яны размаўлялі няшмат. Нільс выбачыўся і, папіваючы каву, узяўся рэдагаваць тэрміновы тэкст: ягонае выдавецтва мела ўсяго трох супрацоўнікаў. Аднак заўтра, сказаў швед, ён будзе дзеля госця самым гаваркім чалавекам у Швецыі.

Цягнік мякка бег на поўнач. Марцін глядзеў на бясконцыя лясы, азёры ды скалы і спадзяваўся ўбачыць статак дзікіх аленяў, аднак Нільс патлумачыў, што для гэтага трэба праехаць сотні кіламетраў.

Узгадваючы сённяшнюю начную прыгоду, Марцін думаў, што *магічны дзень* яшчэ наперадзе, але ўсё незвычайнае, відаць, ужо адбылося. Праўда, Сервантэс і Шэкспір не пакінулі яго. За вакном праплывалі серабрыстыя ветракі электрагенератараў, і памяць адразу адгукнулася:

*Тут вачам іхнім адкрылася ці то трыццаць, ці то сорак ветракоў,*

*якія стаялі пасярод поля, і Дон Кіхот звярнуўся да пахолка з наступнымі словамі: “Лёс кіруе намі найлепшым чынам”...*

Пасля маленькага, лялечнага гарадка яны праміналі доўгае возера з парослымі хвоямі скалістымі выспамі. Марціну ўзгадалася, як у юнацтве, аддаючыся сваёй гульні, ён у адпаведныя красавіцкія дні па-хлапчукоўску сам шукаў прыгодаў і аднойчы прыехаў у родных мясцінах на вялікае лясное возера.

## 20

На лодцы, узятай у дзеда-рыбака, што жыў у доме на высокім беразе, Марцін адплыў далёка на сярэдзіну. Возера ўражвала спакоем і бязлюднасцю. Яму не сустрэлася ніводнай лодкі, адно чародка вужоў, якая кіравалася некуды па сваіх вужыных справах. Вясновы дзень быў па-летняму цёплы. Марцін склаў вёслы, паслаў на карме вятроўку, прылёг на ласкавым сонцы і няўзнак заснуў.

Ён прачнуўся ад моцнай гайданкі. Усё навокал перайначылася. Замест нядаўняга сонечнага зацішку панавала змрочнае сутонне, што дыхала волкім холадам. Палову неба займала чорная, з жудлівым арабінавым падбоем хмара, якую нястомна разрывалі звілістыя маланкі. Вецер сарваў з кармы і панёс кудысьці ў невараць ягоную вятроўку. Возера разгулялася гэткімі хвалямі, што – каб не важкая, а таму ўстойлівая лодка – ён, відаць, мусіў бы дабірацца да берага наўплаў.

Марцін колькі змогі працаваў вёсламі, ды навальніца няўхільна насоўвалася і заспела на паўдарозе, наводліў ударыўшы цяжкімі пасамі залевы. З няўцямным вясёлым адчаем ён працягваў веславаць. У змаганні са стыхіяй нават заспяваў 90-ты санет, кідаючы словы проста ў твар развар’яванаму вятрыску:

Калі знялюбіш – знелюбі хутчэй,
Пакуль мне свет рыхтуе ўкрыжаванне.
Лієш мне горыч – налівай паўней.
Страшней за ўсё чаканне пакарання...

Хвалі і шчыльная заслона праліўня збівалі з курсу, аднак Марцін, да крыві сцершы мокрыя далоні, зноў і зноў раўняў лодку і паволі набліжаўся да выратавальнага берага. Яму ўжо свяціў маяк – вакно ў рыбаковым доме на пагорку. Хмару перагнала, маланкі білі радзей і недзе ўбаку.

І раптам, калі да прыбярэжнага трыснягу заставалася мо якіх пару сотняў метраў, сляпучая серабрыста-блакітная страла ўдарыла паміж лодкай і берагам проста ў возера. Не, гэта была не страла: у навальнічнай прасторы між небам і хвалямі вырас жывы зіхотка-пульсоўны слуп, па якім імкліва прабягалі чорныя змеі. Слуп як быццам спрабаваў падтрымаць гатовы абрынуцца на зямлю небасхіл. На момант чорныя змеі зніклі, і на слупе як быццам праявіліся невыразныя абрысы жаночай постаці. Але ў наступнае імгненне, успыхнуўшы наастачу сінім агнём, слуп абрынуўся ў возера.

Марціна скаланула і, каб не страціць зрок, ён закрыў твар рукамі. На хвіліну аглух і не пачуў грукатання перуна, а як вушы адклала і ён адняў далоні ад вачэй, то адчуў, што і слых, і ягоная оптыка змяніліся. Вакол запала зусім інакшая ціша. Дождж суняўся, хвалі ўвачавідкі паменшалі. Наваколле ўспрымалася нібы праз акуляры, якія не перайначвалі паме-

раў і колераў, але надавалі ўсяму няўлоўнае дадатковае вымярэнне з прыхаванымі сэнсамі.

Ён узяўся за вёслы і неўзабаве прамінуў месца, дзе, паводле яго разлікаў, неба і вада кагадзе былі паяднаныя вусцішным зіхатлівым слупом. На пацішэлай азёрнай паверхні мёртва пагойдваліся, паблісківаючы белымі, з блакітным адлівам чэраўцамі, пэўна, тыя самыя, сустрэтыя ім вужы.

З блізкага берага махаў вялікім ліхтаром дзед-рыбак. Марціну больш за ўсё іншае хацелася зараз пераапрануцца ў сухое, выпіць шклянку славутай тамтэйшай самагонкі і заснуць да раніцы.

## 21

Швецыя – немалая краіна, і ў горад, дзе адбываўся кніжны кірмаш, яны прыехалі надвечар. Вікіпедыя не падманула: з таксоўкі Марцін угледзеў і возера, што замяняла гораду галоўную плошчу, і напраўду велічны змрочны замак на выспе. Пасля вячэры ў гатэльным рэстаранчыку яны з Нільсам прайшліся старадаўнімі вулачкамі, што кружлялі вакол возера, зліваліся адна з адной і зноў разыходзіліся, выклікаючы рэмінісцэнцыі з Борхеса. Нільс паказаў госцю чумны слуп, да якога хтосьці ўсклаў букецік нарцызаў, і месца, дзе кароль некалі пакараў дэпутатаў-здраднікаў, літасціва дазволіўшы не аддаваць іх на тартуры, а проста адсекчы неразумныя галовы. Выдавец падвёў Марціна да самай старажытнай царквы, быццам высечанай з цэлай скалы, а потым да сучаснага, падобнага да павялічанага ў тысячы разоў слімачынага дамка, будынка, дзе ўчора завірыўся іх кірмаш.

Дарогаю назад Нільс запрапанаваў выпіць па кілішку за мір у карчомцы, што прымала наведнікаў з часоў вайны паміж іхнімі, Нільсавымі ды Марцінавымі, продкамі ў сярэдзіне сямнаццатага стагоддзя. Уладкаваліся пад курадымнымі скляпеннямі за драўляным сталом, спярэшчаным выразанымі ў розныя эпохі надпісамі, сярод якіх вылучалася свежае расейскае слова з трох вялікіх літар. Нільс паставіў на іх скрыначку з сурвэткамі і прызнаўся, што якраз тут у школьныя гады ўпершыню пакаштаваў з сябрамі віскі.

Працяг прагучаў нечакана: *Ты памятаеш* – яны перайшлі на “ты” яшчэ ў Стакгольме – *што для цябе ў дзяцінстве было галоўнай праблемай?* Марцін не стаў перабіраць варыянты адказу: цэлыя два гады яго найбольш займала загадка адначасовай смерці Сервантэса і Шэкспіра.*Чаго толькі не напрыдумляў. І іншапланетнікі, і магічныя сілы...* Нільс з павагаю ўзняў брыво: *І ты знайшоў адказ? — Не я, а мой брат. Іспанія з Англіяй мелі розныя календары. — Шкада...* – Нільс ненадоўга задумаўся. *А ў мяне, уяві сабе, галоўная праблема ў малодшых класах, дый пазней, палягала ў тым, чаму ў нашым горадзе не растуць бананы. Я іх вельмі любіў і марыў, зрабіўшыся дарослым, вывесці бананавыя дрэвы, якія будуць расці ў Швецыі да самага Палярнага круга.* Ён засмяяўся.

Марцін прызнаўся, што першы раз паспрабаваў бананы, як быў студэнтам. У ягонага аднакурсніка бацька быў намеснікам міністра і прывозіў экзатычныя фрукты з Масквы. У мясцовых крамах іх ніколі не бачылі. Нільс з лёгкім недаверам паківаў. Яны выпілі па другім кілішку, і выдавец папрасіў рахунак. *Скажы, а калі Шэкспір з Сервантэсам...* – ён пашукаў слова – *пакінулі жыццё?*

*Дык гэта ў пятніцу*! – выслухаўшы Марцінаў адказ, падлічыў Нільс.

Марцін у прыліве даверу прызнаўся, што з дзяцінства наіўна называе той дзень *магічным* і чакае ад яго чагосьці *такога*, бо якімсьці акрайцам душы, як і раней, верыць у таемныя сілы. Нільс адгукнуўся працяглым сур'ёзным позіркам. *Не ўздумай брацъ з класікаў прыклад. У нас наперадзе дзве прэзентацыі. — Дзве?! – А гэта сюрпрыз. Пабачыш горад, дзе не растуць бананы.*

## 22

Гатэль, што складаўся ўсяго з сямі нумароў, пераглядаўся з ратушай. Адно цяпер Марцін змог як след раззнаёміцца са сваім жытлом на вечар, ноч і раніцу. Яно спадабалася нязмерна больш за сталічнае стакгольмскае – ад цяжкага жалезнага ключа замест пластыкавай карткі да велізарнага трох- ці чатырохспальнага ложка з тканаю шпалерай у галавах, што прапаноўвала сюжэт купання Артэміды з німфамі. Даспадобы прыйшлася Марціну і мэбля з пацінаю старасвеччыны.

Пасля званка Нільса, які прабачаўся за няўдалы жарт наконт Марціна і памерлых класікаў, ён вярнуўся да вывучэння нумара.

Найбольшае ўражанне пакідала зробленая нібыта наадварот планіроўка. Адразу са стромай лесвіцы вы траплялі ў сам вялікі, з густам абстаўлены пакой, а ўжо ў канцы яго, за камодаю з тузінам шуфляд і шуфлядак, ды за высокай шафай, што прыводзіла на памяць раманы Дыкенса, пачынаўся вузкі калідор. Якраз там знаходзіліся дзверы ў прасторную лазенку. На іх пазірала вакно з гэткімі ж, як у пакоі, важкімі залаціста-вохрыстымі шторамі, якія хацелася расхінуць, каб пераканацца, што за імі ніхто не затаіўся.

Але на тым асаблівасці нумара не заканчваліся. У канцы калідора госця чакалі другія, дакладна такія ж, як уваходныя, дзверы. Ключ ад нумара бездапаможна патанаў у шырокай замочнай адтуліне. Куды вялі дзверы, заставалася ані незразумелым, гэтаксама, як і тое, дзе і якія свяцільні запальваліся ад белага квадраціка з уключальнікам пры вушаку.

І гэта не ўсё. На пачатку калідора на выступе сцяны насупраць дыкенсаўскай шафы вісела вытрыманая ў колеравай гаме штораў карціна з трыма размешчанымі адны за аднымі дзвярыма. З-за іх выглядвалі тры аголеныя, бачныя напалову маладыя жанчыны: тры кулі поўных грудзей, тры ножкі, тры крутыя палавінкі клубоў. Але кожная са спакусніц воляю мастака ці кагосьці іншага дзівосным чынам зрабіла такі няўлоўны рух клубамі, што вабны чорны трохкутнічак ва ўсіх маладзёнак быў навідавоку. Разам з чацвёртымі дзвярыма ў канцы калідора карціна стварала ўражанне цэлай анфілады пакояў, у якой шырозны пусты ложак успрымаўся абсалютнай недарэчнасцю і трохі палохаў.

Ён патануў у мяккай пасцелі і міжволі адляцеў ва ўспамінах у свой колішні гатэль у Браціславе.

## 23

Калегі, што запрасілі Марціна з лекцыямі, зрабілі яму своеасаблівы падарунак, пасяліўшы ў пустым гатэльчыку пры зачыненым на летнія вакацыі тэатры. Гаспода, дзе без лішняй раскошы магла спыніцца вялікая гастрольная трупа, уяўляла сабой прастору з паробленымі ўсцяж сценаў кабінкамі-келлямі: кожная з ложкам, крэслам і столікам, але без дзвярэй.

Драўляныя сходы вялі на галерэю з працягам келляў, аднак ужо з двухпавярховымі ложкамі, відаць, для артыстаў, занятых пакуль што на другарадных ролях і ў масоўках.

Гатэльчык, у якім Марцін апынуўся адзіным начлежнікам, адначасна служыў і сховішчам рэквізіту. У інтэр'еры з размаітымі дэкарацыямі знайшлі прытулак манекены ў тэатральных уборах: манархі і прыдворныя, персанажы антычных драм і сучасных трагедый, пейзане, верагодныя кілеры з адпаведнай экіпіроўкай, тройца відавочных вампіраў з ярка нафарбаванымі вуснамі... Пасля выпітай на вячэры слівовіцы Марцін дазволіў сабе павітацца за руку з каралевай і легкадумна пстрыкнуць па дзюбах шаломаў двух рыцараў у парадных панцырах, што вартавалі дзверы прыбіральні.

Гэтая досыць вясёлая і забаўная атмасфера ўмірг вока запаветрыла, калі Марцін патушыў электрычнасць. У прывідным святле, што лілося ў круглыя вокны пад столлю, усе ягоныя мілыя суседзі ажылі і распачалі павольны, але прыкметны рух, мэтаю якога служыла Марцінава келля. Выразна чулася, як хтосьці няспешна і цяжка спускаецца па сходах з галерэі. Рэшта кароткай ліпеньскай ночы аздобілася адчайнай экспедыцыяй у прыбіральню, на парозе якой абражаныя нядаўнімі пстрычкамі рыцары ніяк не хацелі раздымаць скрыжаваныя алебарды.

## 24

Марцін вярнуўся з летняй Браціславы ў вясновую Швецыю. Незвычайнае магло прычыніцца з ім не толькі ў красавіку. Але акурат у гэтыя дні ён прайшоў калісьці мужчынскую ініцыяцыю.

Як на цяперашні час тое здарылася даволі позна – у дзясятым класе. Яго праваднiцай у свет новых дзівосных адчуванняў стала ўдвая старэйшая настаўніца англійскай мовы – высокая, таністая, заўсёды модна апранутая жанчына, якая ўжо не давяла клас да выпускных экзаменаў: звольнілі за сувязь з іншаземцамі, што мантавалі новае абсталяванне на нафтаперапрацоўчым заводзе. Марцін яе ніколі потым не бачыў, але ніколі і не забываў, успамінаючы з нязменнай пяшчотай. Левая смочка ў Тамары была ўдвая большая за правую. Калі ён браў яе ў вусны, ўзнікала адчуванне, што гэта спелая вішня.

## 25

Адрозна ад мінулае ночы Марцін ціхамірна праспаў да раніцы. Ніхто не зайшоў у зачыненыя дзверы ў канцы калідора. Аголеныя прыгажуні, выявіўшы неспадзяваную стрыманасць, засталіся на карціне.

На сняданку ён упершыню пакаштаваў аляніны і адмысловага шведскага печыва з імберцам. Калі яны з Нільсам чакалі ля барнае стойкі каву, у зале з'явіўся Марцінаў браціслаўскі знаёмы, уладальнік буйной кнігарні Любамір. У размове з гэтым вясёлым курдупелем Марцін згадаў векапомны тэатральны гатэльчык. Браціславец зарагатаў. Летась туды пасялілі іншага замежнага госця, якога ўранні знайшлі на канапцы ў фае. *Гатэлі, я вам скажу, гэта такая тэрыторыя...* – шматзначна пракаментаваў Любамір.

Высветлілася, што з Любамірам знаёмы і Нільс, у чым, зрэшты, Марцін не знайшоў нічога нязвычнага. Здзівіла хіба тое, што выдавец таксама аднекуль чуў пра гатэльчык з каралямі ды вампірамі.

## 26

Блукаючы пасля сваёй прэзентацыі па кірмашы, Марцін знячэўку сутыкнуўся са стакгольмскімі суседзямі, што не давалі яму заснуць пасля "пажару". Бакенбардысты маладзён і яго спадарожніца з індыйскай кропелькай або радзімкай трымаліся за рукі і праплылі паўз Марціна з цалкам адсутнымі позіркамі. Дзіўна, але жанчына здалася істотна старэйшай, чым пазаўчора.

Па абедзе Марцін з Нільсам выправіліся ў прыморскі горад, дзе дагэтуль недзе жыла мара выдаўца пра бананавыя дрэвы да Паўночнага круга.

## 27

У чацвер раніцой пасля спакойнай ціхай ночы ў Нільсавых сваякоў Марцін з выдаўцом паехалі паглядзець ягоны летні дом на моры. Дзень радаваў цеплынёю і сонцам. Каля дома зеляненелі пяшчотнай маладой іглiцай лістоўніцы. На кветніку цвілі крокусы, а на смарагдавым лужку цешыў вока ружовы россып стакротак.

Марскі бераг прывітаў велізарным статкам чорных пляскатых камянёў. Пераскокваючы з аднаго на другі, Марцін і Нільс дасягнулі той мяжы, дзе на камяні раз-пораз накочваліся невысокія хвалі з белымі баранчыкамі.

*Дваццаць гадоў таму мой дзед не вярнуўся з мора. Дакладней, вярнуўся без лодкі. Хвалі вынеслі яго вунь каля таго мыса з хвоямі.* Мора не ўпадабала Нільсаў успамін: яны не патрапілі ўцячы ад пенлівага языка, што са зламысным задаволеным шыпеннем намачыў ім чаравікі.

Калі, зноў паскакаўшы па камянях, яны вярнуліся на бераг, Нільс працягнуў аповед. *Суседзі расказвалі, што бабуля ў той дзень на каленях маліла дзеда не выходзіць на рыбалку. Ужо з берага крычала наўздагон, каб вярнуўся, бо ў яе благое прадчуванне. Потым пусцілі чутку, што бабуля... як сказаць, калі нехта знаецца з трансцэндэнтальнымі сіламі? ...ну так, ведзьма. Рыбакі прыходзілі да яе пытацца, ці выходзіць ім сёння ў мора. Згадзіся, што гісторыя вартая літаратурнага твора. Хачу падараваць табе сюжэт. У мяне прадчуванне, што на турыстычных даведніках ты не спынішся.*

Але напачатку Нільс прапанаваў заехаць на могілкі.

## 28

Могілкі разлегліся вакол бажніцы, што стаяла на ўзвышшы і да Рэфармацыі паспела пабыць каталіцкім храмам. Марцін з Нільсам зайшлі ў прыцемны халадок, у якім гучна абазваўся бразгат кінутых у царкоўную скарбонку жалезных кронаў.

Марцін прайшоўся ўздоўж сценаў з умураванымі пахавальнымі плітамі. Некаторыя захавалі яшчэ лацінскія надпісы. Некалькі плітаў былі не пахавальныя, а мемарыяльныя – памяткі пра патанулых маракоў. Адна – чорны мармур з залатымі літарамі імёнаў і аднолькавай ва ўсіх датай смерці – выглядала зусім новай. Марцін змеціў, што паводле гадоў нараджэння тут ёсць і дзеці. *Нашы, што загінулі ў тым страшным цунамі ў Тайландзе,* патлумачыў Нільс.

*Шведы любяць падарожнічаць...* – дадаў ён, памаўчаўшы, і Марцін міжволі згадаў Эмануэля Сведэнборга з ягонымі вандраваннямі па ду-

хоўным свеце, дзе філосаф, зрэшты, бачыў не толькі анёлаў ды новыя ўвасабленні людзей, але і караблі пад рознакаляровымі ветразямі, што яго, Марціна, заўсёды асабліва натхняла.

Родныя Нільсавы магілы пад гарой аказаліся сціплымі прастакутнікамі з шэрага каменю. Імёны, гады жыцця і жывая блакітная аблямоўка з зацвілых "жабіных вочак". Бабуля, адзначыў чамусьці Марцін, перажыла мужа роўна на тры гады, тры месяцы і тры дні. Замест кветак, сказаў Марцін, ён хацеў бы прачытаць пятнаццаты санет Шэкспіра. Нільс кіўнуў.

Калі падумаю, што ўсё жывое
Красуе на зямлі кароткі міг,
Што свет – тэатр, а мы яго героі
Ад зор залежым на шляхах сваіх...

## 29

Падараваны Нільсам сюжэт сапраўды мог надацца для рамана.

На досвітку мінулага стагоддзя ў дрымотна-ціхі шведскі гарадок прыехаў вандроўны цырк са сланамі. Артыстам і звярам вызначылі пустку паміж апошнімі дамамі і лесам. Правесці цыркачоў да месца вызваўся на чыгуначнай станцыі падлетак-гімназіст Стэфан. На чале экзатычнай працэсіі ён засяроджана і самавіта ішоў праз увесь горад. Жыхары, што пакуль не ездзілі адпачываць у Тайланд і бачылі сланоў адно ў школьных падручніках, тоўпіліся ўсцяж галоўнай вуліцы і высыпалі на гаўбцы. Сочачы за дзівоснай падзеяй, на бацькоўскім гаўбцы стаяла і гімназістка Оса – дзяўчынка з доўгімі, як у святой Інэсы, валасамі. Яна лічылася мясцовай каралевай прыгажосці, да якой марна заляцаліся не толькі вучні гімназіі, але і студэнты, што паехалі па навуку ў Стакгольм.

Надышоў момант, калі перадавы слон абвіў гімназіста Стэфана хобатам за пояс і ашчадна перанёс у кошык на сваёй спіне. Такім чынам праваднік сланоў апынуўся дакладна на ўзроўні гаўбцоў, бо ўсе дамы мелі тады не болей за два паверхі. Горад выбухнуў воплескамі, хтосьці кінуў адважнаму гімназісту букет кветак.

У душы незачэпы Осы павеяў нязнаны датуль ветрык. Гімназістка вырашыла пазнаёміцца з цыбатым падлеткам, што стаў героем усяго іхняга маленькага свету. Праз два дні яна знайшла Стэфана на нядаўняй пустцы, дзе цяпер вечарамі таўкліся гараджане рознага веку. За заслугі перад цыркам хлапчына меў права штодня наведваць паказы і праводзіць з сабой аднаго знаёмага. Ганаровага госця нязменна ўсаджвалі ў першым шэрагу, і пры канцы нумара са сланамі якісьці з іх асцярожна падхопліваў Стэфана ды рабіў з ім па пасыпанай пілавіннем арэне адвітальнае кола.

У той вечар, калі прыгажуня з ільнянымі косамі на зайздрасць зграі нешанцоўных кавалераў запыталася ў Стэфана, як яго клічуць, слон далікатна ўзяў за талію яе самую. Гэта і вырашыла лёс: праз колькі гадоў Оса і Стэфан пабраліся, каб у будучыні стаць Нільсавымі дзедам і бабуляй.

На ўспамін пра экстравагантнае знаёмства ў іхняй гасцёўні на вакне заўсёды прысутнічалі сямёра пашыхтаваных па росту парцалянавых слонікаў: самы вялікі памерам з кацяня і найменшы – з дробную мышку. Нільс памятаў хатніх сланоў ад той пары, калі яны – прыцягваючы паводле кітайскай мудрасці фэн-шуй удачу – стаялі на вакне, павярнуўшы хобаты ў бок вуліцы. Раней, калі Стэфан з Осай былі маладыя, дом меў іншы набор

сланоў, які Нільс знайшоў некалі на гарышчы. Атабарыўшыся ў спальні, тыя цягнуліся апушчанымі хобатамі да сужэнскага ложка, дапамагаючы ў зачацці дзяцей, і выдатна спраўляліся са сваёй роллю.

## 30

Слухаючы Нільса, Марцін убачыў перад сабой чародку слонікаў, што ў дзяцінстве ішла па этажэрцы ў іхняй з мамаю і бабуляй двухпакаёўцы. Праўда, мама моцна здзівілася б, пачуўшы пра сістэму фэн-шуй і пра тое, што гэтыя статуэткі здатныя на нешта іншае, апрача ўпрыгожвання сціплай абстаноўкі. Побач са слонікамі на этажэрцы сядзела, выцягнуўшы наперад белую ножку, парцалянавая балерына. Яна з'явілася раней за суседзяў з хобатамі, і малы Марцін калісьці скінуў яе на падлогу, адбіўшы балерыне галоўку.

Мама прымудрылася скласці балерыну, засунуўшы ў пустую ўсярэдзіне статуэтку доўгі цвік, на плешцы якога і трымаўся адляцелы кавалачак з чорнымі кудзеркамі і пунсовымі вуснамі. Калі Марціну хацелася пазлаваць маму, ён цягнуў балерыну за галаву, і тая ператваралася ў жанчыну-жырафу.

## 31

Нільс прапаноўваў усё новыя дэталі і адгалінаванні сюжэта.

Оса і Стэфан шмат гадоў жылі заможна і ў шчасці, пакуль Нільсаў дзед, які служыў на гандлёвым флоце, не прывёз адкульсьці з Індыі або з Інданезіі новых сланоў. Іх, зробленых гэтым разам са слановай косці, зноў жа было сем, але між дзвюма тройкамі цалкам белых адзін меў чорныя біўні.

Бабуля з першага дня знелюбіла мужаў набытак. Яна абвясціла, што здасць яго ў антыкварную краму свайго брата на ратушным пляцы, і рабіла некалькі спробаў запакаваць сланоў у скрынку, аднак Стэфан упарціўся і вяртаў іх на падвоканне. Гэта, маўляў, падарунак, але сказаць, ад каго, – рашуча адмаўляўся. У Нільсавых бацькоў узнікла падазрэнне – яны, зразумела, хавалі яго ад бабулі – што тут тоіцца нейкая ўсходняя жанчына. Маці ў такіх размовах называла яе фатальнай.

А потым дзед у адпачынку між плаваннямі выйшаў у мора на апошнюю рыбалку.

Пасля хаўтураў сланы неадкладна пераехалі да антыквара, але не ў краму Осінага брата, а ў іншую, каля царквы. *Няхай Госпад іх ачысціць,* патлумачыла бабуля. Рэшту адмераных ёй гадоў яна амаль не выходзіла з дому і ўсяго раз наведала мужаву магілу, хоць і загадала пахаваць сябе поруч.

## 32

Марцін акурат думаў, што такіх гісторый можна пачуць адну-дзве за цэлае жыццё, як наперадзе з-за рога дома выплыла знаёмая пара са стакгольмскага гатэля. Занятыя размовай, яны і не заўважылі або ўдала прыкінуліся, што не заўважаюць нядаўняга суседа. Жанчына зноў падалася яму істотна старэйшай за сябе самую тры дні таму. Яна як быццам яшчэ больш пастарэла нават з таго моманту, як Марцін убачыў іх на кніжным кірмашы, аднак радзімка на лобе не пакідала сумневаў, што жанчына – тая самая сяброўка бакенбардыстага, што лётаў па гатэльным калідоры

ў паласатых майтках. *Змыла касметыку плюс натуральнае сонечнае асвятленне,* знайшоў тлумачэнне Марцін, хоць яго пачынала турбаваць, ці не зачаста яны сустракаюцца ў краіне, што прыкметна большая за Манака ці Сан-Марына.

Не паспеў ён развітацца з гэтай думкай, як напаткала новая неспадзяванка. Афіцыянтам, што падышоў да іхняга з Нільсам абедзеннага століка ў кавярні, аказаўся не хто іншы, як стакгольмскі шкіпер або ягоны двайнік. Марцін неўпрыкмет паторгаў сябе за вусы. Карцела пацікавіцца ў шкіпера, ці даўно той наведваўся ў сталіцу, аднак, гледзячы на адстароненыя непранікальны твар афіцыянта, які цяпер, адрозна ад Стакгольма, гаварыў па-англійску без усялякага акцэнту, ён перадумаў. Пытанне магло быць расцэненае як умяшанне ў прыватнае жыццё.

*Ці не зашмат супадзенняў?* Сёрбаючы духмяную юшку, Марцін вырашыў падзяліцца здзіўленнем з Нільсам, але ўрэшце замест гэтага аддаў належнае стэйку з аляніны. Пагатоў выдавец не бачыў раней ні парачкі каханкаў, ні шкіпера.

## 33

Другая ноч у доме Нільсавых сваякоў аказалася поўнай супрацьлегласцю першай.

У сне Марцін апынуўся ў круглым будынку-ратондзе са сценамі з суцэльнага шкла, але шкла не звычайнага, а празрыстага адно з унутранага боку. Такім чынам вачам Марціна адкрывалася ўсё, што чынілася знадворку, а яго – ён аднекуль ведаў – адтуль убачыць не маглі.

Не маглі, але вельмі імкнуліся: да шкла прыціскаліся, марна ўзіраючыся ў недасяжную для іхняга зроку прастору, знаёмыя і незнаёмыя твары.

Знаёмымі былі тыя, з кім Марцін не хацеў мець аніякіх дачыненняў, бо тыя людзі адыгралі некалі ў ягоным жыцці адмоўную, а то і злавесную ролю. Да шкла ціснуўся, напрыклад, знаёмы паэцік – былы, а, відаць, і цяперашні стукач, што, апрача даносаў, пісаў у сеціве пад рознымі нікамі брыду пра яго, Марціна, і некалі здолеў разлучыць з мастачкай Вітай. Ён пазнаў і двух верагодных шэфаў паэціка – супрацоўнікаў органаў, якія ў гады студэнцтва пагражалі за самвыдат выкінуць Марціна з універсітэта і заслаць у войска куды-небудзь пад Магадан. Гэта мімаволі наводзіла на думкі, што і незнаёмых персанажаў за шклом наўрад ці можна далучыць да ягоных прыхільнікаў і сімпатызантаў.

Крыху ратавала агульную карціну купка з трох чалавек, якія трымаліся трохі воддаль. Марцін пазнаў былую жонку ў строях Афеліі, побач з якой быў, праўда, не Гамлет, а хтосьці са схаваным пад маскаю тварам, падобны да басконскага баевіка, якімі іх паказваюць у тэлерэпартажах пра заявы ЭТА. Найверагодней, ён быў усё ж спадарожнікам іншай жанчыны – мастачкі Віты, хоць яна і стаяла ў добра знаёмым Марціну заплямленым фарбамі балахоне, павярнуўшыся да басконца спінай. Яе тонкі нервовы профіль Марцін пазнаў бы з безлічы іншых, магчыма, яшчэ і таму, што Віта любіла дэманстраваць яго, паўтараючы, што анфас – маска, а сутнасць пазнаецца ў профілі.

Але гэтая купка выглядала не ўдзельнікамі, а староннімі назіральнікамі таго, што адбывалася. Тым часам сітуацыя вакол ратонды імкліва мянялася.

Марцін, бясспрэчна, стакроць згадзіўся б мець справу са сваімі зласліўца-

мі, чым з чалавечападобнымі істотамі, якія пачалі адціскаць людзей ад шкла і хутка цалкам запанавалі вакол ратонды. Ён дзесьці ўжо бачыў гэтых пачварных стварэнняў з немігатлівымі вачыма на безвалосых ілбах і шэрымі кашлатымі хабаткамі замест насоў.

Яны прысмоктваліся хабаткамі да шкла і рабілі яго ў тым месцы відавочна празрыстым і з другога, свайго боку. Бязбровыя вочы, якія прынікалі да пакінутых хабаткамі круглых плямак, сведчылі, што ён не памыляецца.

Неўзабаве чалавекападобныя з'адзіночыліся ў адным месцы, і хабаткі-мацуны заміж бязладных плямак на шкле ўтварылі малюнак, падобны да пчаліных сотаў. Тады Марцін убачыў, што яны цягнуць не падобны ні на што загадкавы апарат са шматлікімі стырчакамі-іголкамі. Апарат прыставілі да "сотаў", і ён пачаў роўна гусці. Праз хвілю Марцін зразумеў, што стырчакі-іголкі насамрэч – тонкія свярдзёлкі, якія пачалі прагна ўгрызацца ў шкло ягонай ужо ненадзейнай фартэцы. Хутка і ўадначас свярдзёлкі паказаліся ўжо з гэтага боку шкла.

Ён злякана адбегся да процілеглай сцяны і ўбачыў, як свярдёлкі ўцягнуліся назад, але затое там, знадворку, хобатаносыя ўтварылі жывы калідор, па якім хтосьці ў масцы кат*а* ішоў з цяжкім молатам у руках-лапах. Марцін з апошняй надзеяй кінуў позірк на Віту з басконцам і Жанну-Ганну, ды іх ужо шчытна атачылі хобатаносыя.

Чалавек-кот размахнуўся молатам, і пад першым жа ўдарам зробленыя агіднымі хабаткамі "соты" разляцеліся на драбочкі, утварыўшы ў шкле вялікае вакно.

Марцін прачнуўся ў халодным поце і доўга ўтаймоўваў сэрца. Урэшце дапамагло тое, што чалавекападобныя істоты, якія кагадзе трымалі яго ў аблозе, былі створаныя ягоным жа ўяўленнем і калісьці жылі ў жоўтым нататніку з сонейкам на вокладцы, увасабляючы сабой падступных і жорсткіх іншапланетнікаў.

## 34

Пасля ранішняй кавы Марцін паставіўся да сну ўжо амаль весела і сустрэўся з думкаю, ці не завесці яму на прыклад Сведэнборга свой *Журнал сноў*.

Нільс папрасіў дазволу папрацаваць, і Марцін атрымаў магчымасць на самоце паблукаць па горадзе. Спачатку яму здавалася, што вось-вось насустрач з-за павароткі пакажуцца стакгольмскія каханкі, але тыя, мусіць, з'ехалі або, не даючы суседзям за сцяной спакою, утрапёна займаліся недзе каханнем.

Марцін з выдаўцом сустрэліся на абедзе ў той самай кавярні. Афіцыянта-шкіпера таксама не было відаць, і ўчорашнія сустрэчы ўжо здаваліся яму прысненымі ў добрым і камфортным, параўнаўча з сённяшнім, сне.

## 35

Народу ў гарадской бібліятэцы сабралася паболей, чым на кніжным кірмашы: гарадок, напэўна, не быў распешчаны культурнымі імпрэзамі. Разам з тым Нільс і дырэктар бібліятэкі пайшлі на невялікую хітрасць. Частка прысутных яўна засталася паслухаць замежнага госця пасля вернісажу ў холе.

Выстава складалася з фотапартрэтаў, аўтарам якіх быў сам дырэктар – невысокі, круглагаловы і наогул круглявы лысы чалавек, што няспынна выпраменьваў цеплыню і гасціннасць. Аказалася, ён усё свядомае жыццё здымае землякоў. Фатаграфіі не столькі чаплялі вока і розум майстэрствам, колькі, падумаў Марцін, своеасаблівым выбарам герояў. Ці не кожны другі з іх меў якуюсьці, часам невідавочную, але часцей выразную загану.

Наліты дужасцю рыбак-велікан з мёртвым шкляным вокам. Стройная дзяўчына, знявечаная заечай губой. Сівы гожы стары з люлькай у зубах, але на драўлянай назе. Кучаравы, як анёлак, падлетак з пустымі вачыма і струмком асцы ў куточку вуснаў. Нармальны з выгляду хлопчык з мёртвай птушкай у руцэ.

З даўняга, відаць, чорна-белага здымка глядзела немаладая прывабная пара: яна ў народным строі і ён у форме марака. Трывожнай нотай тут гучала чорная кашуля, якая сушылася на вяроўцы побач. Марцін запытальна зірнуў на Нільса, ды той, зразумеўшы, адмоўна пакруціў галавой.

Урэшце, сярод персанажаў хапала і людзей без чарвяточынкі, проста яны менш кідаліся ў вочы.

Адну з фатаграфій Марцін атрымаў ад дырэктара ў падарунак. Здымак адно ўмоўна належаў да партрэтнага жанру: з глыбіні начнога саду вабіў асабняк з асветленым вакном, у якім відаць была жаночая постаць з раскінутымі, нібы для абдымкаў, рукамі.

Нільс падаваў знакі, што трэба распачынаць. Ён ужо запаліў на іхнім століку вялікую свечку, што, мабыць, павінна была служыць і нейкім кшталтам гадзінніка.

Праходзячы ўздоўж сцяны са здымкамі да свайго століка з сінімі касачамі і стосам кніг, Марцін наастачу схапіў вокам яшчэ адно фота: у небе над цёмным наваколлем цвіло жудлівае і адначасна магнетычнае дрэва разгалістай маланкі. Марцін нават пачуў далёкае водгулле грымотаў і, ужо ўладкаваўшыся з Нільсам за сталом, адчуў, што ягоная оптыка – як калісьці на тым далёкім навальнічным возеры – зноў перайначылася.

## 36

У зале матэрыялізаваліся некаторыя з герояў фотапартрэтаў – на шчасце, людзі без відавочных праблемаў са знешнасцю або псіхікай. Марцін не сумняваўся, што ў другім шэрагу ікееўскіх крэслаў заняла месца менавіта тая цёмнавалосая юная жанчына з авальным тварам, што на здымку стаяла ў адкрытай светлай сукенцы з хлопчыкам гадоў пяці пад яблыняй у ружовай квецені. Зараз, у зялёным швэдры, з каўняром пад круглявы падбародак, яна мела выгляд пасталелай і крышачку распаўнелай, ды, безумоўна, была самай прыгожай сярод прысутных у зале жанчын.

*Дама была ва ўсім зялёным, і строі яе ўражвалі такім багаццем і вытанчанасцю, што здавалася, гэта сама зграбнасць. На левай руцэ ў яе сядзеў сокал...*

Марцін спыніў памяць у яе паслужлівым цытаванні трыццатага раздзела другой кнігі “Дон Кіхота” і зручней уладкаваўся за сталом. Даму ў зялёным ён абраў для вядомага прыёму выступоўцаў, калі звяртаюцца да ўсёй аўдыторыі і ў той жа час да аднаго чалавека.

Ён адчуваў, што выбар бездакорны: жанчына ў зялёным швэдры захвочвальна ківала і пасылала яму прыязныя ўсмешкі. Марціну раптам

прымроілася, што яна падобная і да жанчын з гатэльнай карціны з трыма дзвярыма, і да яго настаўніцы інглішу ды іншых навук Тамары, якой – мільганула непамысная думка – цяпер за семдзясят. Гэтыя два падабенствы пачалі чаргавацца, і ён, адганяючы насланнё, энергічна страсянуў галавой.

Калі Марціну бракавала яго англійскай, ён паварочваўся да Нільса, і той прамаўляў колькі фразаў па-шведску. У такіх выпадках Марцін атрымліваў з другога шэрагу крэслаў дадатковыя позіркі разумення і падтрымкі.

**37**

Два разы Марцін заслужыў воплескі. Першы – калі заўважыў, што іх краіны насамрэч блізкія суседкі, бо ад ягонай сталіцы да іхняй бліжэй, чым ад Стакгольма да самай паўночнай кропкі Швецыі. Другі – калі паведаміў, што ў яго родным горадзе знаходзіцца геаграфічны цэнтр Еўропы, што пацвярджалі здымкі ў кнізе і на экране праектара, але адразу агаварыўся, што яму, Марціну, даводзілася бываць у такіх цэнтрах яшчэ ў пяці краінах.

Некалькі разоў ён абмяняўся са сваёй абранніцай у зале хуткімі ўсмешкамі. Шкада, што сёння пасля прэзентацыі яны з Нільсам ад’язджалі ў Стакгольм.

Пакуль тое, прысутных нечакана паболела: упусціўшы халодны скавыш, з’явілася і, ступаючы на дыбачках, прайшла ў канец залы пара Марцінавых ужо, можна сказаць, даўніх стакгольмскіх знаёмых. Ён мог бы прысягнуць, што жанчына з радзімкай значна памаладзела, нібы час для яе ішоў па-свойму – пятляючы і вяртаючыся назад, каб збіць кагосьці са следу. Аднак сапраўднай прычынаю гэтых метамарфозаў служыла, вядома, штучнае асвятленне. Прыбышы ўладкаваліся ў прыцемным кутку поруч з чалавекам, на якога раней ён чамусьці не звярнуў увагі, што было дзіўна, бо чалавек той моцна выдаваў на браціслаўца Любаміра.

Марціна наведала пачуццё лёгкай ірэальнасці таго, што адбываецца. Яму спадабалася, што на стале па-ранейшаму роўна гарыць свечка, агеньчык якой толькі што затрымцеў пад скавышом, ды не згас. Але лішне разглядацца не выпадала, бо ягоны выступ-маналог скончыўся і распачыналіся пытанні. Цяпер ён мусіў весці дыялог найперш з іх аўтарамі, і таму зялёны швэдар на нейкі час выпаў з поля зроку.

**38**

Нільс вырашыў павесці ў пытаннях рэй і пацікавіўся, якой госць бачыць ролю класічнай літаратуры. *Мой сябар, літаратар і мысляр*, загаварыў Марцін, *называе класіку машынай часу і, паводле ягоных слоў, знаходзіцца цяпер недзе ў эпосе Плутарха. — А вы? — Мне здаецца, я ў адным часе з вамі, хоць, здараецца, трапляю ў стагоддзе Сервантэса і Шэкспіра*. Нільс тонка ўсміхнуўся. *Але для мяне*, працягваў Марцін, *класіка ўсё ж нешта іншае. Бывае, што яна нагадвае, перапрашаю, захаплялыны паноптыкум, і тады я з пачуццём вінаватасці думаю, што гэта, вядома, не так. Класіка – перадусім сістэма каардынатаў. Прычым не толькі ў літаратуры, але таксама ў прасторы і часе. І тут я ў нечым згодны са сваім сябрам...*

Хтосьці нясмела паапладзіраваў. Марцін адчуў, што ўжо засумаваў па абмене паглядамі з жанчынай у зялёным швэдры.

Наступны запыт прагучаў якраз з другога шэрагу.

Пружыніста падняўшыся і паправіўшы пышныя каштанавыя валасы, красуня, што сышла з фатаграфіі, спыталася, ці вядуцца ў Марцінавай краіне эльфы, гномы, ундзіны ды іншыя істоты падобнага кшталту. Напэўна, праз складанасць назваў гэтых суседзяў чалавека пытанне прагучала пашведску, і, пакуль Нільс перакладаў, а Марцін смакаваў яе грудны голас з уніклівымі ласкавымі ноткамі, у зале – а мо яму адно мірсцілася – запала напятае, з адценнем трывогі маўчанне.

На тэму нацыянальнага пантэона добрых, злых ці абыякавых да чалавека стварэнняў Марцін здатны быў прачытаць грунтоўную лекцыю і пабуджаны пасярод ночы. Ён абмежаваўся тым, што коратка адзначыў: яго народ тут не абдзелены, згадаў колькі імёнаў паганскіх бажкоў і з усёй магчымай сур'ёзнасцю паведаміў, што найбольш жывучымі і трывушчымі выявіліся якраз найбліжэйшыя да людзей дамавікі, лазнікі, лесавікі ды вадзянікі з русалкамі-ўндзінамі. Свой лаканічны адказ Марцін расквеціў аповедам пра родную бабулю, у якой дамавік, па яе словах, пачасту прысаджваўся за стол на вячэру, а лесавік, бывала, зладзеявата даіў казу, а ў калядныя халады без дазволу залазіў начаваць у падпечча. На такі адказ ягонай англійскай не хапіла, але, мяркуючы па смеху ў зале, Нільс справіўся з перакладам няблага.

І тут грымнула.

## 39

Прыгажуня ў швэдры зноў устала, абцягнула зялёныя рукавы на пальцы і хутка, глытаючы словы, загаварыла па-англійску. З усімі дзівоснымі істотамі, пра якіх расказаў госць, яна цудоўна знаёмая. Чаму? Ды з тае прычыны, што яны або жывуць у яе, або часта наведваюцца ў ейны дом, куды яна, каб госць пераканаўся ў тым на ўласныя вочы, запрашае яго на гарбату ці на нешта мацнейшае ды цікавейшае.

Дырэктар бібліятэкі зрабіў спробу перавесці прапанову ў жарт, аднак расхваляваная красуня не падтрымала ягонага тону і настойвала. Усе будуць радыя, казала яна, маючы на ўвазе сваіх кватарантаў, а можа – хто ведае? – і паўнапраўных гаспадароў. Яны сыграюць прывітальны марш, бо маюць свой аркестрык. Госць можа спыніцца ў яе на гэтую ноч і на колькі заўгодна. Авал твару ў абладзе каштанавых валасоў залівала густая чырвань, у вачах успыхвалі неспакойныя агеньчыкі.

## 40

Публіка перашэптвалася. Дырэктар абвясціў прэзентацыю скончанай, і Нільс дзьмухнуў на свечку. Усіх чакаў пачастунак ад выдаўца і ўнікальная магчымасць узяць аўтограф у аўтара, які жыве крыху бліжэй за паўночныя шведскія фіёрды.

Прысутныя з гатовасцю адгукнуліся на абодва заклікі. Хвілінаў пятнаццаць Марцін падпісваў кнігі, гадаючы, ці падыдзе да яго стакгольмская парачка і ўдзельнік вечарыны, падобны да Любаміра. Аднак апошняй у невялікай чарзе апынулася гаспадыня дома з дамавікамі.

Марцін ужо рыхтаваўся дадаць да стандартнага *With the best wishes*

*from the author*[1] штосьці адмысловае, але заміж кнігі на столік перад ім лёг ліст – пульхная ружовая капэрта з напісаным буйнымі літарамі словам *Urgent*[2] і драбнейшым подпісам – *Emma.*

Ён узняў галаву, іхнія позіркі сустрэліся. У Эміных зялёных вачах пульсавала няпростая гама эмоцый, з якіх Марцін здолеў вылучыць роспач і надзею. Ён убачыў у яе валасах нітачкі ранняй сівізны. Кропелька восені чулася і ў празрыстым водары парфумы.

Марціну хацелася супакоіць Эму ціхімі словамі, пацалаваць ёй руку, ды жанчына імпэтна адышла да вакна, паспеўшы ўсёй сваёй істотай – ад секунднага дотыку цёплай рукі да перарывістага гарачага дыхання – пакінуць мужчынскую існасць Марціна разгублена-расхваляванай.

Ён узяў у рукі капэрту, дзе штосьці інтрыгоўна зашамацела, але мусіў схаваць яе ў кішэню: акурат падкаціўся, ззяючы нязводнай усмешкай, круглявы дырэктар. Перад стакгольмскім цягніком госцю абавязкова трэба падсілкавацца. Падымаючыся з-за століка, Марцін незразумела чаму паклаў у кішэню з Эміным лістом і запалкі, што ляжалі побач са свечкай. Яму хацелася прыхапіць і саму недагарэлую свечку, ды тое выглядала б надта дзіўна.

Нільс не паскупіўся на пачостку. Марцін налічыў сем відаў паважаных ім сыроў з цвіллю, аднак, выпіўшы келіх пяцігадовага к'янці, аддаў перавагу падсушанай на сонцы і ветры аляніне. Тым часам публіка няўзнакі разышлася, адна Эма па-ранейшаму стаяла, пазіраючы ў цёмнае вакно, дзе люстравалася зала.

*She's crazy*[3], перахапіўшы Марцінаў пагляд, прабачліва прамовіў дырэктар. З далейшага стала вядома, што Эма ўвогуле ціхая і не ўяўляе небяспекі. Жыве насупраць, вось і прыходзіць заўсёды, калі ў бібліятэцы штосьці адбываецца.

З келіхам у адной руцэ і лусцікам у другой да іх наблізіўся выдавец. Да Нільса данёсся канец дырэктаравай фразы, і ён працягнуў тэму. *Памятаеш мемарыяльную дошку ў царкве? У тым цунамі загінулі яе муж і сын. Я чуў, яна да апошняга дня адгаворвала мужа ад паездкі. Потым год прабыла ў лякарні... Целы, канечне, паглынуў акіян, але яна зрабіла дзве магілы ў садзе...*

З Нільсавых словаў вынікала, што Эма не проста з'яўляецца на ўсе бібліятэчныя імпрэзы, але і запрашае да сябе кожнага прыезджага госця-мужчыну. *Кажуць, хвароба ператварыла яе ў німфаманку...*

Марцінава мужчынскае самалюбства было ўражанае.

Нібы пачуўшы размову і не пагаджаючыся з ёю, Эма адарвалася ад вакна і рашуча скіравала да іх. На яе шляху вырас дырэктар. Эма, умольна ўсміхаючыся, намаглася абысці яго, але дырэктар уладна ўзяў жанчыну пад локаць і, пераконваючы ў нечым, павёў да выхаду. Марцін рвануўся быў перашкодзіць яму, але замест гэтага вярнуўся да стала, наліў поўны келіх і адным глытком выпіў.

## 41

Неўзабаве Нільс выклікаў таксі, каб ехаць на станцыю. Выдавец з дырэктарам яшчэ размаўлялі, і Марцін выйшаў раней. Неба было

[1] З найлепшымі пажаданнямі ад аўтара (*англ.*)
[2] Неадкладны (*англ.*)
[3] Яна – вар'ятка (*англ.*)

неверагодна шчодра засеянае зоркамі. Ад захаплення яму на хвілю амаль перахапіла дыханне. Марцін знайшоў улюбёнае сузор'е Касцоў-Касіяпеі і ўспомніў радкі адкрытага ім сёлета паэта.

А я хацеў бы так:
маральны закон нада мной
і зорнае неба ўва мне.

Выразна, нібы ціхі меладычны гук, ён пачуў нечы позірк і. перавёўшы вочы ўніз, знерухомеў. У зырка асветленым і вялікім, на палову сцяны, вакне дома насупроць, раскрыліўшы рукі для абдымкаў, стаяла Эма. Яна была абсалютна голая і нават праз вулічную прастору свяцілася і апякала жаданнем. Марцін адчуў, як жаданне ахоплівае і напаўняе гарачынёй яго самога, і, быццам загіпнатызаваны, рушыў насустрач вакну.

Ужо на тым баку вуліцы, прамінуўшы зазелянелую яблыню і амаль усутыч наблізіўшыся да вакна, ён убачыў Эму ва ўсёй суладнасці яе налітага спеласцю цела. Марцін разгледзеў, што яна не зусім аголеная: на ёй былі празрыстыя, цялеснага колеру майточкі. Крыху ніжэй за іх доўгія і стройныя, у меру поўныя ногі сціскалі чырвоную ружу, ад якой па параненым спічаком сцягне бег, сціхотна перагукаючыся з ярка падведзенымі вуснамі, пунсовы струмок.

Паводле шведскай завядзёнкі, вакно жылога дома не мела ні штор, ні фіранак. Эма стаяла на нізкім шырокім падвоканні на адлегласці далоні. Праз Марціна пракацілася новая гарачая хваля: левая Эміна смочка ўдвая пераўзыходзіла памерам правую і – падфарбаваная нечым бардовым – больш за ўсё іншае нагадвала спелую вішню.

Эма прытулілася да шкла. Марцін паволі падняў руку, дакрануўся да шкляной паверхні ў тым месцы, дзе пачынаўся струменчык крыві, і здзівіўся, сустрэўшы холад.

На другім баку вуліцы, відаць, ужо даўно сігналіў таксіст. Марцін імкнуўся зазірнуць Эме ў вочы, але яна стаяла з апушчанымі павекамі. Нешта прымусіла ягоны пагляд слізгануць долу і на імгненне затрымацца на падвоканні.

Нільс двойчы нецярпліва паклікаў яго, і Марцін, рэзка павярнуўшыся і ўціснуўшы голаў у плечы, пабег да таксоўкі. Ужо калі ён нырцануў на задняе сядзенне, на экране ўнутранага зроку ўспыхнула ўбачанае на драўляным падвоканні. Каля Эміных ног ішла чарада белых сланоў. Белых, ды адзін... адзін з іх нечым нібыта вылучаўся сярод іншых. Марцін не адразу, але зразумеў: чорнымі біўнямі.

## 42

У вагон яны ўскочылі перад самым адыходам. Нільс збянтэжана або проста ад стомы маўчаў. Марцін пачуваўся дарэшты выснажаным і спустошаным. Апрача ўсяго ён дакараў сябе, што зашмат выпіў.

*Забіце мяне, закрычаў гаспадар заезнага двара, калі гэты чортаў ідальга не трапароў адзін з бурдзюкоў з чырвоным віном, якія вісяць у яго над ложкам...*

Марцін цыкнуў на занадта дагодлівую памяць і, каб адолець ніякаватасць, прымружыў вочы ды зрабіў выгляд, што спіць.

Зусім нядаўна чыстае зорнае неба зацягнула хмарамі. Праз колькі хвілінаў за вокнамі цягніка ўжо шалела навальніца. Пад яе акампанемент

Марціну сапраўды ўдалося заснуць неспакойным і, як яму ўяўлялася, неглыбокім чуйным сном, хоць насамрэч яго аднесла надзвычай далёка.

## 43

Марціну сніліся чорныя хвалі, за якімі знікаў бераг, і незлічоныя белыя чэраўцы мёртвых вужоў. Праз гэтыя хвалі, цяжка зыбаючыся і раз-пораз чэрпаючы ваду, ішла вялізная лайба, на якой ён прэзентаваў сваю кнігу. Усе месцы займалі маўклівыя жыхары брацiслаўскага тэатральнага гатэльчыка, якія выправілі наперад курдупеля Любаміра. Той знячэўку падскочыў да Марціна, выхапіў у яго з рук кнігу і пад ухвальнымі позіркамі астатніх шпурнуў яе далёка ў хвалі, увачавідкі збіраючыся скінуць з лайбы і яго самога.

Марцін прахапіўся і прагна выпіў цэлую пляшачку вады. Мусіць, ён крычаў ува сне, бо Нільс кідаў на яго дзіўнаватыя позіркі. Марцін сабраўся выбачыцца, але не сказаў і двух словаў, як выдавец бесцырымонна абарваў: *I don't understand you*[1]. У Нільсавых вачах жыло штосьці чужое, халоднае і жорсткае.

Выдаўца нібы кімсьці падмянілі. На вакзале ён кіўком галавы паказаў Марціну цераз пляц на гатэль і моўчкі сеў у таксі, за стырном якога сядзеў чалавек, які выдаваў у профіль на шкіпера. Марцін злавіў сябе на тым, што не хоча ў гатэль і з радасцю пераначаваў бы на вакзале, але ўрэшце ўзяў сябе ў рукі.

## 44

Дзяжурная, зірнуўшы ў кампутар, перапрасіла за нядаўнюю пажарную трывогу і дала яму ключ-картку ў той самы нумар. На стале чакала яшчэ адно прабачэнне – зялёная ваза з чорным вінаградам – такім, які пасля “пажару” стаяў пад гатэльнымі люстэркамі. Сёння Марцін ужо дзесьці бачыў дакладна такія ж гронкі. Але дзе? Думка не пакідала ў спакоі і пакуль ён, канчаткова цверазеючы, пераступаў з нагі на нагу пад халодным душам, і потым, калі ўключыў і выключыў, натрапіўшы на фільм жахаў, тэлевізар.

Марцін адшчыкнуў ад гронкі некалькі сакаўных, падалося, што ўжо п'янкіх ягад, і тады ўспомніў: *Эма!* У глыбіні Эмінага пакоя на стале цямнела ваза з вінаградам. Але гэта было не адзінае, што стрэліла ў памяці. *Ліст! Як ён мог забыць пра ліст?!*

Ён выцягнуў з кішэні пінжака і няроўна разарваў па краі вялікую пакамечаную капэрту. Там ляжалі акуратна складзеныя карункавыя майточкі цёплага цялеснага колеру. З іх выглядваў ліст, напісаны знарочыста буйным і чытэльным дзіцячым почыркам – відавочна, каб чужаземец усё зразумеў. Ён пачуў грудны ўнiклівы голас, як быццам чытаў не ён, а сама Эма:

*Я пакахала цябе раней за твой прыезд. Ты пазвоніш у дзверы і будзеш жыць у мяне, колькі захочаш. Я лягу з табой у першую ж ноч. Мой муж у плаванні, з якога вяртаюцца праз стагоддзі, і я не дачакаюся яго. Ён называў мяне геніяльнай жанчынай. Я хачу жыць з табой. Я адчуваю, што тваё сэрца свабоднае. Калі захочаш, выганіш прэч усіх маіх эльфаў. Але я папрашу пакінуць Сільвестра. Ён цёпленькі і столькі ўсяго ўмее. Увечары ты будзеш распальваць камін. Мы будзем піць віно, а потым любіць адно аднаго*

[1] Не разумею (*англ.*)

*да самай поўначы, але не пазней, бо тады здараецца ўсякае... Я нараджу табе сына, і з саду прыйдзе мой сын, народжаны ад мужа. Ён палюбіць цябе і свайго брата, і ў нядзелю я спяку вам булачак з цынамонам. Эма.*

Марцін, з дзяцінства прывучаны мамай і бабуляй да ашчаднасці, ніколі не карыстаўся дарагімі міні-барамі ў гатэльных нумарах, аднак зараз адчуў, што яму ўкрай трэба выпіць.

У бары знайшлася маленькая пляшачкі віскі “Jameson”. Марцін зняў закрутку і, перачытваючы ліст, дзе з вар’яцтвам суседзіла непахісная логіка, прагна пацягнуў з рыльца. Двума глыткамі ён дапіў віскі і зноўку палез у міні-бар.

Самалёт заўтра ўвечары. Да горада, дзе жыве Эма, блізу ста кіламетраў і гадзіна на цягніку. *Вар’яцтва!* – уголас прамовіў Марцін.

Памяць жыла сваім жыццём:

Якім прымусам ты ўтлуміла мне
Дабром лічыць зло ўсёй тваёй істоты,
І так, што грэх цяпер мне прыямней,
Чым самая прываблівая цнота?..

Па шырокім драўляным падвоканні ішлі сланы, і сярэдні з іх меў чорныя біўні. Антыкварная крама месцілася каля царквы з могілкамі. На фатаграфіі ў глыбіні саду свяцілася вакно з жаночым сілуэтам. У гатэльным калідоры шкіпер элегантна рэквізоўваў пляшку ў маладзёна з бакенбардамі. У Эмы была смочка настаўніцы Тамары. У глыбіні калідора, калі ён паўгадзіны таму адчыняў нумар, мільганулася пара, падазрона падобная да ягоных навязлівых знаёмых. Усё гэта пагражала скласціся ў сістэму ці, праўдзівей, у сціхотную мазаіку, дзе яшчэ не хапала нейкіх кавалачкаў смальты.

Марціну карцела распакаваць падарунак дырэктара бібліятэкі, але гэтае жаданне і палохала. Яму мроілася, што вакно асабняка на здымку будзе пустым.

У дзверы асцярожліва пастукалі. Марцін глянуў на гадзіннік, стрэлкі якога перапаўзлі за поўнач, паказваючы, што пачынаецца пятніца. *Памыліліся.* Марцін з астатніх сілаў намагаўся навесці ў бязладдзі думак хоць які парадак.

Стук паўтарыўся і зрабіўся настойлівым. Марціну здалося, што ён чуе ў калідоры прыцішаныя галасы.

З таго боку торгалі за ручку. Марцін ліхаманкава спрабаваў нешта вырашыць. *Запалкі!* Ён знайшоў у кішэні пінжака прыхопленыя з прэзентацыі запалкі і скруціў у жмуток колькі вырваных са штодзённіка аркушаў. Зараз ён чыркне запалкай, і праз хвілю, несучы палёгку, зараве сірэна. Нібыта даведаўшыся пра ягоны намер, за дзвярыма супакоіліся. На ўсялякі выпадак, як і ў ноч пажарнай трывогі, Марцін падышоў да вакна і паглядзеў на блізкі газон.

Якраз тут у дзвярах і спрацаваў электронны замок. Марцін схапіў запалкі з паперай, ды нешта спыніла яго.

Дзверы пачалі павольна, вельмі павольна адчыняцца. У іх яшчэ нікога не было, але на прысценак лёг зялёны водсвет. Марцін памкнуўся схаваць у шуфлядку капэрту з майткамі, аднак замест гэтага адкінуўся ў фатэль ды істэрычна засмяяўся.

*2016*

Леанід Дранько-Майсюк



...Смерць мацней за каралёў,
Смерць мацней за каралеў...

# Ладдзя Роспачы

***Паэма***

*Услед за Уладзімірам Караткевічам*

### 1. Апавяданне пра Гервасія Выліваху

Гервасій Выліваха,
Патомны дваранін,
Не быў святым манахам,
Умеў кахаць жанчын.

Мацак з душой шырокай...
Пад жарсці каламуць
Нахабным левым вокам
Любіў ён падміргнуць.

Век маючы Хрыстовы,
У трыццаць тры гады
На ўсё, на ўсё гатовы
Залётнік малады.

І моц яго не слабла,
І Выліваха мог
Адной рукой у д’ябла
Скруціць умомант рог.

Пагроза для начальства
І сябар для сяброў...
Сваволіў вельмі часта
У розных карчмароў.

Не вельмі і багаты,
Меў замак, два кані,
А талераў, дукатаў
Каб цэбрамі – ані!

Затое ж упрыкметку,
Каб чуцца маладзей,
Шыпшынавую кветку
Прышпільваў да грудзей.

Не войкаў і не ахаў,
І жыў, як гром адзін,
Гервасій Выліваха –
Патомны дваранін.

Як вецер, век свабодны...
І свой раскідваў лёс
І ў Рагачове родным,
І ў Лоеве, і скрозь.

І не баяўся войнаў,
Хваробы і цара,
А родам быў з Давойнаў,
А сілу браў з Дняпра.

Меў у гербе валошку
І востры меч насіў,
І шахматную дошку,
І лютню – дзіва з дзіў!

Той лютняй васьміструннай
(“Галубанькі, пара...”)
Паненак зводзіў юных
З бацькоўскага двара.

І ўслед за імі тую
(Дзівіся, грамада!)
Ігуменню святую,
А гэта ўжо – бяда...

І ў Рагачове слаўным,
Ну што паробіш тут,
У страху праваслаўным
Упаў у роспач люд.

Да каралевы Боны
Ён кінуўся, прыпаў:
“Гярвас на ўсе законы
Святыя напляваў!”

Гервасія ліхога,
Шануючы Статут,
Да каралевы строгай
Паклікалі на суд.

## 2. Гервасій Вылйваха ў каралевы Боны

Гервасій

Сонца табе, каралева маці!
Хай асвятляе яно назаўжды
Замкі твае і твае сенажаці,
Вёскі твае і твае гарады.

Хай жа лясы твае ўсе і палацы
Грэе і грэе ўсю нашу зямлю...
Сонца табе, каралева маці,
Волі тваёй і твайму каралю!

Бона

Ты языком вырабляеш, як пужкай,
Нібы каня, красамоўства запрог!
Сонца жадаеш мне, чортавы служка?!
Змей, ашуканец і адарвірог?!

Мне гаварылі, што вечна ты п’яны
І зневажаеш дзяўчат і жанчын,
І забіраеш спакой у падданых...
Кары жадаеш, люцыпараў сын?!

Гервасій

Пані правіцелька! Радасці маці!
Праўду кажу, далібог, не хлушу:
Не, ты не будзеш бяздумна караці
Воляй ап'яненую душу.

Не зневажаю жанчын, а шкадую...
П'ю не таму, што мне хочацца піць...
Кроў маю ў жылах – маланку сляпую!
З гэткай крывёй у спакоі не жыць!

Бона

Ты – ерэтык, ты не верыш у Бога,
Рай для цябе, як авечы загон...

Гервасій

Рай на зямлі – за парогам, за стогам!
Рай на Дняпры, дзе пяе плытагон!

Бона

Ах, валацуга ты, певень юрлівы,
Клёку не мае твая галава...
Будзеш гарэць у агні справядлівым,
Гэтак цябе пакарае царква!

Гервасій

Попелам стану тады, лёгкім рухам,
Вольную волю займею навек...

Бона

Бачу, сабе ты і словам, і духам
Верыш, не Госпаду – от чалавек...

Гервасій

Веру і з гэтаю верай жадаю
Свет беларускі табе паказаць,
Чары свайго прыдняпроўскага краю –
Там, дзе кахаць, а тады паміраць.

Бона

Бачу, ты ўмееш салодкія словы...
Хоць і піяка, а розум здаровы,
Хоць і спаднічнік, аднак з галавой...
Добра, паказвай свет радасны свой!

## 3. Гервасій Выліваха паказвае Боне родны край

З настроем ваяра,
Што вырваўся з палону,
Па беразе Дняпра
Правёў Гервасій Бону.

Як роднае дабро,
Што склалася ў айчыну,
Ёй паказаў Дняпро,
Свой замак і шыпшыну.

Стаяла ноч, як слуп,
І ў зор густым засеве
Дняпроўскі жыццялюб
Стаў любы каралеве.

“Вось гэты слаўны край,
Ад цемені да ясі,
І ёсць праўдзівы рай!” –
Так гаварыў Гервасій.

А месяц ад таго,
Што стронгай плыў у высях,
У валасах яго,
Як рыбіна, свяціўся

І асвятляў балонь...
І палкі Выліваха
Глядзеўся, як агонь,
Як залатая бляха!

Не змрочны дух балот,
Што вечна млее ў горы –
Сапраўдны патрыёт
Дняпроўскае прасторы!

Нябёсам роўны птах,
Зямлі вясёлай рыцар...
Ён спадабаўся, так –
Вяльможнай італійцы.

За словы, што сказаў,
І за душу жывую –

Ад Боны атрымаў
Манету залатую.

І сонца круг святы
Зірнуў з-за гарызонта
На дар той залаты
З выявай Жыгімонта.

*29 красавіка 2016 г.*

## 4. Смерць прыйшла па Гервасія Выліваху

Смерць (вядомая жанчына!)
Без прычыны прэцца ў двор.
Непатрэбна ёй прычына,
З’явіцца, і ты памёр.

Прыйдзе, есці не папросіць,
І сляза ёй не сляза...
Смерць касой сваёю косіць –
Вельмі вострая каса!

Аж па пяты апранаха,
Цень ад места да сяла...
“Ты – Гервасій Выліваха?
Па цябе я, брат, прыйшла!”

Аніякіх лішніх слоў,
Вельмі просценькі прыпеў –
Смерць мацней за каралёў,
Смерць мацней за каралеў.

*29 красавіка 2016 г.*

## 5. Смерць вядзе Гервасія Выліваху ў пекла

Пекла далёка ад Рагачова...
Доўга ішлі Выліваха і Смерць;
Стрэлі дзяўчыну ў тузе верасовай,
Толькі яе і пашэнціла стрэць.

І як найлепшую ў свеце каханку,
Быццам нікога яшчэ не кахаў,
Лёгкі Гервасій дзяўчыну-сялянку
Пацалаваў, як на лютні зайграў.

Гэтую вельмі жывую сваволю
Смерць ацаніла на свой чорны лад:
“Добрая дзеўка... Пажыць ёй дазволю...
І забяру праз гадоў пяцьдзясят...”

І, варухнуўшы касцістаю мусай[1],
Раптам прызналася: “Хлеб свой раблю,
А не люблю забіраць беларусаў,
Надта ж яны гэту любяць зямлю...”

А Выліваха, нібы з недасыпу,
Носам дзяўбаў, ідучы праз карчы,
Часам аднак і прыпеўкамі сыпаў,
Струны на лютні сваёй дзеручы:

“Я гарэлачкі глыну,
Закушу гарбузкай,
Ты не бойся, дурбадуб,
Мовы беларускай...

На змярканні я знайду
Шпаркую крыніцу
І залезу з галавой
Дзеўцы пад спадніцу...

На світанні, каб далей
Не муціць крыніцы,
Вылезу, як мае быць,
Я з-пад той спадніцы...

Дзе сыны мае жывуць,
Там жывуць і дочкі...
Калі трэба – з цэбра п’ю,
А як трэба – з бочкі...

Згодзен я ў любой дарозе,
На дзярузе, на падлозе,
А ці восень, ці зіма,
Ты не згодная? Дарма...”

А перад пеклам, як вернік руплівы,
Здзейсніў малітвы раптоўнае чын:

---

[1] Муса (давыд-гарадоцкае) – морда.

“Божа зямлі маёй, дзякуй за дзівы
Хлеба, паветра, вады і жанчын...”

Смерць папрасіла сабе на прыборы
Кветку шыпшыны... Гервасій адно
Хмыкнуў і з кветкаю тою, бадзёры,
Рушыў у пекла, на самае дно.

### 6. Ладдзя Роспачы

І не лодка, і не човен,
А вялікая ладдзя
Па вадзе плыве па чорнай
Ад жыцця да забыцця.

Ёй кіруе Перавозчык,
Невідушчы стырнавы...
Там, дзе быць павінны вочы –
У яго там жмак травы.

Перавозчык гэты строгі
За сваю работу здзёр
Грошы з кожнае нябогі,
Быццам пільны кантралёр.

Сам няшчасны і няшчасных
У ладдзі сваёй вязе...
Кожны ланцугом паляскваў
На руцэ і на назе.

Душы грэшныя, як цемень,
Вінаватыя суздром...
Цень хаваецца за ценем,
І грыміць бляшаны гром.

І вільняне, палачане,
І з Гарыні, і з Вяллі,
І нясвіжцы, і случане –
Душы розныя плылі...

“Ну, а ў гэтай лодцы-чоўне,
У ладдзі важкой такой
Ці прыкуты рагачоўцы?!” –
Запытаўся наш герой.

“Змоўкні, раб, лазіны варты! –
Стырнавы азваўся той. –
Я тут Бог і гаспадар тут,
І начальнік над табой!”

“Ты – начальнік?! Поп з дудою!
Я ж начальства не люблю,
І ладдзю тваю з табою,
Як вядро, перакулю!”

Напалохаў так Гервасій
Перавозчыка, і той
Папрасіўся ў моцным страсе:
“Не куляй ладдзю! Пастой!

Паглядзі, у лодцы-чоўне
Рагачоўка ёсць адна,
Што Бярозкай нарачона
І з табою, рагачовец,
За адным вяслом яна...”

## 7. Апавяданне пра Бярозку

На Дняпры шыпшына
Спела, расцвітала.
На Дняпро дзяўчына
Ціха пaглядала.

Не схавала лета
Ні слязы, ні слова...
А дзяўчына гэта
З места Рагачова.

Прыгажосць умыта
Хваляю дняпроўскай,
А душа спавіта
Ласкаю бацькоўскай.
За яе плячыма
Ільняная коска,
Гэтая дзяўчына
Звалася – Бярозка.

Што ж яна шукала
Гэтак адзінока?

Ці каго чакала
Над ракой глыбокай?!

Пэўна, выглядала
На сваё каханне –
Тое, маладое,
Як само світанне...

І яго спаткала
У імжы аслеплай,
Жахам набрынялай,
Па дарозе ў пекла.

...Нібы тая птаха
Дзесь пад Рагачовам
Спраўным Вылівахам
Злоўлена на ловах.

### 8. Ладдзя Роспачы дурэе

Такога, скажам, маху
Нячысты не даваў –
Бярозку й Выліваху
У пекле паяднаў!

Ад гэтае прыгоды
Ажно гула ладдзя:
“Паплаваем да году,
То з’явіцца й дзіця!

Такую, брат, пацеху
Хоць у кішэнь бяры...” –
Паклаліся ад смеху
У лодцы весляры.

Наш беларус, мой Божа,
Адно яго пусці,
То да любошчаў можа
І ў пекле дапаўзці.

### 9. Гервасій Выліваха ідзе ў смяротны пакой

Усё па канцылярскай мерцы
І ўсё з чыноўнаю асновай:

Ёсць кабінет у пані Смерці,
І ёсць прыёмная з аховай.

Пачвары ў той ахове служаць –
Луска і рогі, волас рэдкі...
Не могуць страх адзін адужаць –
Шыпшынавай баяцца кветкі!

“Ах, каб вы спрахлі! Каб вы счэзлі!” –
Зрабіў Гервасій злую міну
І (да Бярозкі каб не лезлі!)
Шыпшыну дзеўчыне пакінуў.

А сам (хай радуюцца чэрці!)
Свой судны час прыняць гатовы,
Пайшоў у кабінет да Смерці,
Спяваючы такія словы:

“Я нічога не баюся,
Плюну д’яблу ў вочы
І са Смерцю ажанюся,
Калі Смерць захоча!”

### 10. Смерць прапанавала Гервасію Выліваху згуляць у шахматы

Пад столю самую імглы нанесла,
І ў павуцінні, у цяжкой імгле,
Стол іржавеў і ля стала два крэслы,
І шахматная дошка на стале.

-----------------------------------------------

Смерць

Я думала, што ты паспакайнееш,
Стрымаешся, каб ціха ў бездань плыць...
Аднак і тут узбаламуціў неруш –
Хацеў маю ладдзю перакуліць?!

Гервасій

Я – чалавек і маю кроў такую,
З якой гарэць прынята, а не цьмець;
З крывёю гэтакаю і звякую,
І не хачу крыві другое мець!

Смерць

Тваё жыццё я забяру і памяць...
Ты не палохайся – тваё жыццё
Само сябе ў тваёй крыві і спаліць,
Як той казаў, пад воўчае выццё.

Гервасій

Каб я палохаўся?! Ну, што за клопат!
Сказаць пустое здумала, кума,
Ёсць ува мне ад пятак і да лоба
Усё што хочаш – страху ж і няма!

Смерць

Ну, добра, што ад страху не зайшлася
Твая душа, не страціла чуццё...
Згуляй са мной у шахматы, Гервасій,
І, можа, выйграеш сваё жыццё?!

Гервасій

О, Смертухна мая, як ты ўгадала
Настрой гульца, жаданне іграка –
Перад канцом удача напаткала
Дняпром хрышчонага жартаўніка!

------------------------------------------------

І як на нейкім жудасным вяселлі,
Дзе лёсу ў жонкі выбралі бяду,
За дошку шахматную двое селі,
Дэбют абдумваючы на хаду.

## 11. Першая партыя

Такая ўжо халера,
І як за ёй паспець –
На сто хадоў наперад
Умее думаць Смерць.

Марозасць і цвярозасць,
Як вастрыё нажа...
Нечалавечы розум
У Смерці і душа.

Тваю пільнуе прыкрасць
Непрыхаваны здзек!

Ці вытрымаеш хітрасць
Такую, чалавек?

І як сінеюць далі,
І як Дняпро цячэ –
Са Смерцю не гулялі
У шахматы яшчэ!

Свае ты гоіш болькі,
Гадуеш млосць і злосць...
Ты – чалавек і толькі,
А Смерць – усё, што ёсць!

Халодная істота,
Ёй люба гэткай быць
І шахматным балотам
Цябе труціць-вадзіць.

А латнікі-жаўнеры,
Нібы твае сыны,
Усё ішлі наперад
І гінулі яны.

Гуляе Смерць-магіла,
Што не чакай дабра...
Твой конь губляе сілу,
І рушыцца тура.

Кароль каўтае сліну
І слон, бо сіл няма...
Гервасій аж гадзіну
Змагаўся і... дарма.

І ў заканцоўцы самай,
Як выйграла яна,
Смерць праспявала: “Аман...”
Благая навіна!

### 12. Пасля першай партыі

Смерць задаволена сабою
І над паверхняю стала
Упершыню такой жывою,
Такой вясёлаю была.

І змрок у павуцінні хісткім
Ажно выспеўваў нейкі спеў,
Гульнёй выдатнай шахматысткі
Змрок любавацца зноў хацеў.

Ну, а Гервасій смуткаванню
І не сказаць каб здаўся, не...
Бо толькі Смерці (не каханню!)
Прайграў на павуцінным дне.

Каханне вось яно, як слёзка
У асалоды на шчацэ...
Стаяла мілая Бярозка
З агнёвай кветкай у руцэ!

“Тваё каханне пойдзе прахам,
І дзеўка з іншым будзе млець...
Згуляй на кветку, Выліваха?” –
Прапанавала раптам Смерць.

“На кветку?! – затрымцеў Гервасій. –
Дык гэта ж як на родны край...”
І тут Бярозка, як знайшлася,
Вярнула кветку: “Пачынай...

Ты выйграеш у чорнай госці,
Счапі ўсе нервы ў кулакі,
Дарогу разумовай злосці
Ёй пакажы ва ўсе бакі!”

Вось так Гервасія натхніла
Бярозка, і пачаўся бой
З такою навальнічнай сілай,
Што Смерць не бачыла такой.

### 13. Другая партыя

Ці д’яблу там, ці Богу
Той сіле быць у служках –
Не знае Смерць спалоху,
Хоць бі яе, хоць гушкай.

У з’едлівым ашчэры
Гервасія вучыла:

“Замест люстэрка – чэрап
Дары сваёй дзяўчыне!

Каб ведала, каб знала,
Што з ёю потым будзе
У старасці злінялай,
У слімаковым хлудзе...”

Ды Выліваха тое
Цкаванне і не слухаў,
Нібыта мужных вояў,
Свае фігуры рухаў.

Візір, кароль і латнік,
Як рыцары, стаялі,
І кожны быў, як ратнік,
Народжаны са сталі.

І сам Гервасій – рыцар –
У пекле рызыкоўным
Шалеў, не кідаў біцца,
Адвагі лютай поўны.

Ды нейк па-хутарански
Намерваўся злаўчыцца,
І проста, па-сялянску,
Сябе настройваў рыцар:

“Каб выйсці з каламуці
Паганай, непрыгожай –
На правілы забудзься,
Тады і пераможаш!

Любую выкінь штуку,
Хай толькі дапаможа;
Сваю пастаў навуку
Ты над навукай Божай!”

І так сваю натуру
Ён кінуў проці правіл,
І лішнюю фігуру
Няўзнак сабе падставіў.

Яшчэ пад бой падсунуў
Цішком ладдзю кашчавай...

Смерць гэты падтасунак
Не ўнюхала, на шчасце!

“Бязвокая зараза! –
Гервасій думаў з’ядла. –
Пабачыш, гэтым разам
Табе не дамся, падла!”

І, дзякуючы слізкай
Стратэгіі віхлівай,
З пачварнай шахматысткай
Расправіўся імкліва.

І з пекла (не пакутнік!)
Ён выйшаў, і па-свойску
Іграў сабе на лютні
І цалаваў Бярозку.

**14. Жаўранкі**

Родныя птушкі жаўранкі,
Зляцелі вы з Божай рукі
У блакіце высокім снаваць,
Беларускія песні спяваць.

Песня першая пра Дняпро-раку –
Любая кожнаму жаўранку.
Песня другая ад першых слоў
І да апошніх пра Рагачоў.

Песня трэцяя – на зайздрасць ляху
І маскалю любому –
Пра Гервасія пра Выліваху,
Які з беларускага дому!

І пяюць яны песню чацвёртую
Пра Бярозку – характарам цвёрдую,
А красы далікатнай, пяшчотнае,
Выліваху быць роднаю згодная.

Песня пятая пра шыпшыну –
Беларускай зямлі цвяціну.
Грэе роднае, як вясна, яна,
А нястроднае паліць да самага дна.

Песня шостая, як з амбону,
Пра яе, каралеву Бону:
“Маці літасці, з роду Сфорца,
Пані розуму, спрыяй табе Творца!”

Песні звонкія ў жаўранкаў любых.
Не для скону пяюць, не для згубы –
Для жыцця, для чуцця і для волі,
А для смерці – ніколі, ніколі...

Родныя птушкі жаўранкі,
Зляцелі вы з Божай рукі
У блакіце высокім снаваць,
Беларускія песні спяваць.

*25 красавіка 2016 г.*

***

*Красавік, травень 2016 г.*



Вінцэсь Мудроў



...вялізны, асветлены знутры шар, ляцеў у цемрыве ночы і быў падобны на нешта казачнае і неверагоднае...

# Марсіяне над вёскай

***Апавяданне***

А восьмай вечара тупкі пляц каля клуба ажывае. Сюды і мальцы на матацыклах пад'язджаюць, і малеча на роварах, і старыя цёткі да клуба клыгаюць, сюд-туд прыкладаючы далоні да броваў і паглядаючы ў канец бальшака. Гэтым часам з Азярышча прыязджае рэйсавы аўтобус. Людзі вяртаюцца з горада наладкаваныя, таму сямейнікі іх тут і пераймаюць, каб паднесці хатулі.

Я таксама таўкуся каля клуба, бо сёння прыязджае мой сябар Мішка Канапелька. Мішка яшчэ ў ліпні паехаў да дзядзькі ў Невель, і вось толькі цяпер вяртаецца. Сустракаю Мішку не толькі я, але і ягоная малодшая сястра Нюрка. Тая ўся змучылася, аўтобус выглядаючы. Відаць, гасцінцаў чакае.

– Дакладна сёння прыедзе? – пытаюся Нюрку, якая ўжо добрых пяць хвілінаў стаіць на дыбачках, неадрыўна ўзіраючыся ў заліты залатою імгой далягляд.

– Дзядзька ліста надаслаў. Напісаў, што сёння.

Усе стаяць моўчкі, і толькі загадчыца клуба Мандрычыха няўцямнай хуткагаворкай распавядае нешта дзвюм вясковым цёткам. Я міжволі прыслухоўваюся.

– Таварышы, там такі быльнік, такі быльнік!

Тры гады таму – якраз было дажджлівае лета – калгас папрасіў усіх, хто можа стаяць на нагах, дапамагчы выбраць палеглы лён. Ну і Мандрычысе далі пару сотак. З тае пары яна і распавядае кожнаму стрэчнаму, ужо можа сотым разам, якія яна пры тым зведала пакуты.

– Быльнік, таварышы, галавы не відаць. І як жа пачало мне потым рукі круціць. Думала, кончуся.

Цёткі, якія на сваім веку выбралі не адзін гектар ільну і ўжо шматкроць чулі гэтую гісторыю, слухалі балаболку з непадробнай увагай і спачувальнаківалі галовамі.

– Ну куды, куды? – гукае Мандрычыха, перарваўшы аповед пра быльнік. Двое малалетак выярашылі ўзлезці на бляшаны шчыт з надпісам «Харчовую праграму выканаем!»

Мандрычысе, як загадчыцы клуба, даводзіцца даглядаць тыя каляровыя шчыты з выявамі трактарыстаў ды маладых даярак, але ўсё адно яны пакарабачаныя, з размытай фарбай на доле, а адзін шчыт, з дынамікай надояў, наогул нахіліўся пасля таго, як у яго ўрэзаўся на матацыкле кінамеханік Лябёдка.

– Едуць! – крыкнуў адзін з гарэзаў, што ўзбіўся на шчыт, і людскі збой заварушыўся, паглядаючы на пыльную, падсвечаную нізкім сонцам аблачыну, што ўзнялася на дарозе.

Аўтобус-пазік спыняецца пасярод пляца, дзверцы з глухімі рыпам адчыняюцца і з пыльнай аблачыны выплываюць: спачатку цётка Авадзіха з гусаком у кашы – вазіла на базар прадаваць ды не прадала; наш сусед па вуліцы Васька Бохан – з мяхом камбікорму на карку; мая аднакласніца Люська Халімонава; потым нейкія незнаёмыя дзядзькі ў капелюшах... Я зацкавана гляджу на Люську, але тут жа задаволена аддзімаюся: дзяўчына з вясёлым падскокам бяжыць да аўтобуса.

– Дома аддам, – адмахваецца Мішка ад сястры, скочыўшы на аўтобусную прыступку.

– Ой, ну Мі-іш, – скуголіць сястра.

Брат уздыхае, пстрыкае зашчапкамі валізы.

– Трымай, – Мішка перадае сястры перавязаныя вяроўчынай кнігі – падручнікі для школы. – А гэта табе дзядзька перадаў, – у Мішкавых руках прыемна шамаціць спавіты ў цэлафан пакунак – відаць, нейкая дзявочая абнова.

Прыціснуўшы кніжкі з пакункам да грудзей, Люська бяжыць да хаты, але брат рашуча яе спыняе:

– Стая-аць...

Папоркаўшыся ў валізе, Мішка дастае даўжэзную жычку, якія дзеўкі заплятаюць у косы, і грымлівую бляшанку манпасье.

– Ну, што новага? – выдыхае Мішка, калі мы парукаліся.

Я крыўлю твар, маўляў, якія тут, у вёсцы, могуць быць навіны, і ў сваю чаргу пытаюся:

– А сабе што-небудзь прывёз?

Ні слова не кажучы, з прытоенай усмешкай на твары Мішка запускае

руку ў кішэнь палатняных портак і выцягвае адтуль колькі вялізных таблецін.

– Што гэта? – пытаюся, узяўшы з падстаўленай далоні адну з іх.

– Сухі спірт, – кажа Мішка прытоеным голасам, а калі я меруся лізнуць таблеціну, хапае мяне за руку.

– Э-ээ... атруцішся.

За спінамі нашымі аглушальна гарлае гусак Авадзіхі. Цётка выпусціла яго з каша, і гусак, распасцёршы крылы, валюхаста ідзе па вуліцы. Узрадаваўся, відаць, што вярнуўся дахаты.

– А каб цябе, гергуна, парвала, – бубніць Авадзіха, паспяваючы за гадунцом. Цётка, відавочна, незадаволена, што не ўдалося прадаць гусака.

Мы сыходзім убок, даўшы дарогу Авадзісе і яе гергуну.

– Дзе ўзяў? – я падкідваю таблеціну на далоні.

– Стрыечны брат з хімкабінета скраў.

– З якога кабінета?

– Ну са школьнага. Ён у Неўлі вучыцца. У дзявяты клас перайшоў.

– А што яшчэ прывёз?

Мішка, адставіўшы калена, зноў лезе ў валізу і выцягвае скрутак папяроснай паперы.

– А гэта ты бачыў?

Я паныла гляджу на скрутак.

– Вось дзіва! Думаў, ты мадэль самалёта прывязеш, ці яшчэ чаго цікавага...

– Больш, цікавага, чым гэтыя рэчы, і прыдумаць цяжка, – перабівае мяне сябар. – Вось пабачыш, хутка пра нашу вёску ў газетах напішуць. Магчыма, нават карэспандэнты з навукоўцамі прыедуць. Паселяцца ў хатах – будзем ім... гэтыя... як іх... інтэрв'ю даваць, і па тры рублі з носа за пастой дзерці.

Я з недаверам гляджу на Мішку і пасміхаюся. Сябар вялікі прыдумшчык. Дня не праходзіць каб ім не авалодала нейкая ідэя. Летась надумаўся выразаць з кансерваваі бляшанкі круцёлку з лопасцямі і пускаць з дапамогаю шпулі. У выніку рассек брыво, ды так, што зашываць у Азярышча вазілі. І дагэтуль ліловы пісяг бачны. Пад Новы год з сіласнай вежы скакаў, у Лёшкі Гнядых з ваеннага гарадка плашч-палатку пазычыўшы. Казаў, што гэта плашч-парашут. Добра яшчэ, што зіма была, у сумёт прызямліўся. А так бы і нагу мог зламаць. А надоечы, іржавых патронаў назбіраўшы, стаў з іх порах ссыпаць ды выбух-пакет рабіць. Ну, той пакет і выбухнуў. Увесь твар небараку пасекла. І веі з брывамі згарэлі. І вось цяпер штосьці новае прыдумаў. Ды такое, што з усёй краіны павінны карэспандэнты з навукоўцамі зляцецца.

– Ну, распавядай, што ты там надумаў, – кажу Мішку, не зганяючы з твару іранічнай усмешкі.

– А вось і не скажу. Пасмейваешся. За дурня мяне прымаеш.

– Ну Мі-іш, – гамзаю з Нюрчынай інтанацыя, і сябар прымірэнча выдыхае:

– Заўтра распавяду. Бачыш, маці ўжо чакае.

Наперадзе, ля весніц, сапраўды стаяла Мішкава маці і махала рукой.

Паўночы круціўся на калючай пасцелі – сплю на гарышчы, забітым сяголетнім сенам, – разважаючы: што гэта такое Мішка надумаў, і як

можна з дапамогай сухога спірту і папяроснай паперы ўчыніць вэрхал з прыездам навукоўцаў і карэспандэнтаў? Можа, хоча зрабіць з паперы летавец ды запусціць над вёскай? Але што тут дзіўнага? Вунь, у ваенным гарадку, які месціцца непадалёку, увесь час летаўцы пускаюць – з намаляванымі пысамі, з даўгімі хвастамі, і нікога гэта асабліва не цікавіць. Змучаны такімі развагамі, я заснуў пад самую раніцу, а прадзёршы вочы, нават не паснедаўшы, пабег да сябра.

Мішка сядзеў на лаве каля хаты і еў булку, густа намазаную павідлам.

– Пачакай, – каротка мовіў Мішка, пабачыўшы мяне, падаўся ў хату і неўзабаве выбег з вялікім кавалкам булкі са шчодрым слоем павідла.

– На, падмацуйся. З Неўля прывёз.

Пачастунак страшэнна смакуе. У наш сельмаг такіх булак не завозяць. Ды і такога павідла не прадаюць.

– Галоўнае... каб Нюрка... нічога... не бачыла, – няўцямна, з набітым ротам, прамаўляе сябар і, праглынуўшы смакошу, з трывогаю ў вачах пазірае на бокі. – Так што ідзем зараз да цябе, а я ўсё што трэба з сабой вазьму.

З'ядаем яшчэ па адным кавалку, запіваем калодзежнай вадой, і рушым да мяне. Мішка прыхапіў з хаты торбу, але што ў ёй – мне невядома, і гэта яшчэ больш распаляе цікаўнасць.

Маці такім часам на ферме, так што ніхто нічога не ўбачыць. Аднак на выпадак, калі прыбяжыць Нюрка, зачыняю дзверы на завалу. Пакуль завіхаўся з дзвярамі, Мішка скруціў з тонкага трансфарматарнага дроціка абадок і перавязваў яго ўпоперак суворай ніткай. Потым перавязаў яшчэ раз – так, што пасярэдзіне ўтварыўся крыж.

– Ведаеш, што гэта? – Мішка махае перад маім носам нейкай белай пласцінкай. – Азбест! Братан з хімкабінета спёр.

Сябар прывязвае пласцінку да сярэдзіны крыжа, махае абадком у паветры.

– Усё, палова справы зроблена. Але застаецца самае складанае, – заклапочана мармыча сябрук.

Я сачу за Мішкавымі завіханнямі і дагэтуль не магу дапяць: якім чынам кавалак азбесціны можа зацікавіць навукоўцаў ды карэспандэнтаў.

– У Неўлі купіў, на апошнія капейкі, – у руках Мішкавых прадаўгаваты цюбік. – Ацэтатны клей. Усё склейвае.

Сябар заклапочана азіраецца.

– Цягні нажніцы. Будзем з паперы мех рабіць.

Цэлых паўгадзіны сябрук поўзае па падлозе, кроячы палосы папяроснай паперы, потым склейвае з тых палос вялізны мяшок, а я яму, як магу, дапамагаю. Урэшце мех, даволі нехлямяжы з выгляду і спрэс у латках – пакуль склейвалі, падзерлі паперу ў некалькіх мясцінах, – быў гатовы, і Мішка з павольнай урачыстасцю прыклеіў да таго месца, дзе завязваюць мяхі, абадок з азбеставай пласцінай.

Цяпер мне зразумела: сябрук хоча запусціць летаўца. Але ж надта кволую паперу падабраў для такой мэты.

– Ну добра... прывяжам, запусцім, а яго адразу ж ветрам парве, – кажу, не прыхоўваючы іранічнай усмешкі.

– Па-першае, нічога прывязваць не будзем. А па-другое, запускаць будзем, калі ветру не будзе.

– Дык а як жа ён паляціць? – пытаюся ўсё з той жа ёлкай усмешкай на вуснах і, Мішка, ляпнуўшы сябе па лбе, адчайдушна выдыхае:

– Сапраўды... спірт забыліся прыляпіць!

Мішка намазвае клеем таблеціну сухога спірту, лепіць да пласціны – з боку меха, – потым яшчэ тры, а падумаўшы лепіць і пятую.

– І што... падпальваем – і ён уздымаецца? – пытаюся ўжо сур'ёзным голасам.

– Мы з братанам у Неўлі ўжо такі мех запускалі. Праўда, узняўся невысока, за дрэва зачапіўся. Таму што дрот быў таўставаты, ды ўсяго дзве таблецiны прыляпілі. А гэты, – сябрук дзьмухнуў у мяшок і той злёгку калыхнуўся, – не меней, чым на кіламетр павінен узняцца.

Я захоплена гляджу на сябра і, не ведаючы, даваць ці не даваць ягоным словам веры, з хваляваннем пацiраю рукі.

– Ну дык пайшлі, запусцім, – гукаю акрыялым голасам, – якраз ветру няма.

– Ноччу будзем запускаць, зараз няма сэнсу, – адказвае сябар і торгае галавой, – дзе тут можна яго прыхаваць?

Моўчкі ківаю на столь, і мы выкульваемся з хаты, пакінуўшы разнасцежанымі дзверы. Ацэтатны клей аказаўся надта смярдзючым, і ім навылёт прасмярдзела хата.

– Ну, дык увечары запускаем? – пытаюся, узлазячы па драбінах на гарышча.

– Не, – гукае з-за спіны сябрук, – сёння кіна няма.

Заміраю на імгненне, спрабуючы адшукаць сувязь паміж мехам з папяроснай паперы і кіном, і сябар ляпае мяне па азадку:

– Хутчэй давай, а то нас могуць убачыць!

Хаваем мяшок за комінам ды яшчэ і прыцярушваем сенам.

– Ты калі-небудзь пра НЛА чуў?

– А? – выдыхаю я, і сябар асуджана махае рукой.

Уладкаваўшыся на драбінах, – я вышэй, ля дзверцаў на гарышча, Мішка – ля маіх ног, – зморана аддыхваемся. Усё ж такі давялося папрацаваць. Ды і ўсё рабілі спехам, бо вось-вось павінна прыйсці маці з фермы.

– У братана ў Неўлі падшыўка часопіса «Тэхніка – моладзі» за мінулы год. Усю яе прачытаў. Там у двух нумарах пра НЛА напісана. Гэта значыць: неапазнаны лятаючы аб'ект. Уяўляеш, пасярод неба раптам узнікае талерка, ці вялізны шар, які свеціцца знутры. І ніхто не можа дапяць – што гэта такое. Шмат ужо было такіх выпадкаў. Цэлы навуковы інстытут вывучае гэтую праблему. Там у адным з нумароў нават адрас пададзены, куды можна паведамляць, калі пабачыш нешта такое. У нас таксама НЛА атрымаецца. Мяшок жа знутры свяціцца будзе. Толькі б на вочы Мандрычысе патрапіў. А тая потым па ўсім белым свеце раззвоніць.

– А чаму падчас кіна запускаць трэба?

– Ну ты дзівак. Запусці сярод ночы – хто гэта ўбачыць. А пасля кіна мальцы з клуба выкуляцца, а па небе немаведама што ляціць ды агнямі зыркае.

Мішка хацеў яшчэ нешта сказаць, але тут ад весніц пачуўся зычны Нюрчын голас:

– Мішка, дзе ты? Мама на абед кліча!

– Ледзь паспелі, – незадаволена мармыча сябар, і мы збягаем па драбінах на зямлю.

Душным суботнім вечарам, калі ўжо падаілі кароў і сонца схавалася за лесам, мы з Мішкам ідзем агародамі, а потым хмызамі ў бок Дабранскай

гары. Гара тая падпірае вёску з паўднёвага боку, і з яе вяршыні бачна ўсё наваколле. Схаваўшыся пад кустом, стоена пераводзім дых.

Лагодны ветрык то абуджаецца, то аціхае, павяваючы ў спіны.

Сёння ў клубе круцяць «Ніхто не хацеў паміраць», і нам добра чуваць раскацістыя галасы, стрэлы і жаночы лямант – фільм, відаць, пра вайну. Сэрца маё парывіста грукае, рвецца з грудзіны, а калі ў клубе, стрэльнуўшы наастачу, адчыняюцца дзверы і ў прастакутніку жоўтай яснасці пачынаюць мітусіцца людзі, і зусім замірае. Зараз будзем запускаць! Але Мішка, глянуўшы на неба, прамаўляе:

– Не, хай зусім сцямнее.

Мяне пачынаюць даймаць дрыжыкі – ці то ад хвалявання, ці то ад прахалоднага ветрыку, што рабіцца ўсё больш зябкім. У клубе пачаліся танцы, і калі там пятым разам завялі Абадзінскага, Мішка, нарэшце, выдыхае:

– Запускаем!

Сябрук нягнуткімі пальцамі выцягвае з кішэні пушку запалак.

– Трымай мех, і як мага вышэй, – стаўшы вокрач, сябар чыркае запалкай.

Мне праз паперу бачна, як таблецiны засвяціліся кволым сінім агнём, потым нібыта патухлі і нечакана загарэліся дружна і зырка. І, што самае дзіўнае, мех у маіх руках пачаў раздзімацца, і Мішка, ускочыўшы на ногі, гракнуў:

– Адпускай!

Мех здрыгануўся, праляцеў колькі метраў над самай зямлёй, а потым імкліва ўзляцеў у неба. Мы з Мішкам ад захаплення нават раты разявілі. І было з чаго. Вялізны, асветлены знутры шар, ляцеў у цемрыве ночы і быў падобны на нешта казачнае і неверагоднае. Лёгкі ветрык гнаў яго дакладна ў бок клуба.

Я парываюся бегчы за шарам, але сябар хапае за рукаво:

– Стой, нам там не варта з’яўляцца.

Цяпер мы ўжо папераменна глядзім то на шар, то на асветлены клубны ганак, дзе, як гэта заўсёды бывае падчас танцаў, віруе невялічкі натоўп. Нечакана музыка ў клубе аціхае, хтосьці нема гарлае, потым свішча і людскі збой на клубным ганку пачынае варушыцца. Шар між тым завісае ў вышыні, а потым, гнаны ветрыкам, ляціць управа, уздоўж нашай вуліцы. У цьмяным святле, што цэдзіцца з праймы клубных дзвярэй, увішнымі мурашамі завіхаюцца людзі. Гамузам, з падвываннем, брэшуць сабакі, гергечуць гусі, а ў цёмных хатах адно за адным запальваецца святло.

Мы з Мішкам бяжым па схіле гары, уздоўж агародаў, не адрываючы вачэй ад шара, а таму раз-пораз спатыкаючыся і налятаючы адзін на другога. У натоўпе, які бяжыць ад клуба, відаць, таксама спатыкаюцца ды падаюць, бо чутныя кароткія мацюкі і вісклівыя воклічы. Бягуць за шарам не толькі мальцы, але і дзеўкі.

Шар між тым пачынае зніжацца.

– Трэба было... больш... таблецін пакласці! – задыхана гукае сябрук і, зачапіўшыся за нешта, ляціць у яму.

Пакуль дапамагаў Мішку падняцца, шар апусціўся яшчэ ніжэй. Нечакана, каля Авадзішынай хаты, ён змяніў кірунак, паляцеў у канец агарода, і бязладны лямант і тупаценне пакрыў трэск сухога дрэва. Гэта трашчаў падгнілы штыкетнік.

– А людцы мае добрыя, а што ж гэта робіцца-а! – прарваў ноч жаночы лямант, які быў заглушаны роспачным гусіным гаганнем.

Нечакана агарод Авадзіхі, па якім бегла чалавечая гурма, асвяціўся зыркім святлом. Мы з Мішкам нават не зразумелі, што здарылася, і застылі на месцы, і толькі, перавёўшы дых, зразумелі, што гэта занялася агнём капешка сена, якая стаяла ў канцы агарода.

Калі мы да яе падбеглі, яна ўжо дагарала, пускаючы ў цёмнае неба вогненныя завітушкі.

– Нічога не чапаць! – крыкнуў нехта пагрозлівым голасам. – Павінна пажарная інспекцыя прыехаць.

Згарэлая капешка патыхала гарачынёй, таму людзі блізка да яе не падыходзілі, і толькі Мішка, закрыўшы рукой твар, пасунуўся да кола агністага прыску, але быў схоплены за каршэнь і адсунуты ўбок.

Мы з сябруком выслізгваем з натоўпу, бяжым прэч ад вогнішча, і Мішка пры гэтым прыкметна накульгвае.

– Што, нагу вывіхнуў? – пытаюся я.

Мішка зладзеявата азіраецца, узнімае нагу, спрабуе падхапіць пачэплены на мысок чаравіка абадок з рэшткамі згарэлых нітак, і дзьме на апечаныя пальцы. Абадок яшчэ гарачы.

– Усё, разбягаемся, – рашуча загадвае сябар, і дадае: – Калі хто будзе пытацца – кажы, што ў арэхі хадзілі!

Раніцай мяне абуджае бразгат вёдзер у двары і зычны голас Мішкавай маці.

– Ці бачыла ты тое дзіва?

– Не, я ўжо спала. Пачула толькі: бягуць па вуліцы, гарлаюць як ашалелыя. Выскачыла ў адной сарочцы. Думала, хата нечая гарыць, – азвалася маці.

У нашым двары стаіць калодзеж, і ад самага ранку каля яго бразгаюць вёдрамі ды балбочуць жанчыны.

– У Авадзіхі агароджу павалілі, бульбу вытапталі і яблыкі абтрэслі. А яшчэ і капешка згарэла. Авадзіха ўсю ноч галасіла. А карга гэтая клубная як тое ўбачыла ў небе, пабегла да старшыні ў раён званіць. Крычала ў трубку: «Прыязджайце, да нас марсіяне прыляцелі!» Зусім з глузду з'ехала.

– Дык а што там было, у небе?

– А халера яго ведае. Кажуць, шаравая маланка ляцела.

Я салодка, на поўную губу пазяхаю, куляюся на бок і абуджаюся ад абрывістага свісту. Сонца свеціць ва ўсе шчыліны, на даху цвыркаюць вераб'і, а на двары зацята кудахча курыца.

– Ну ты і дрыхнеш, – з дакорам кажа Мішка Канапелька, калі я адчыніў дзверцы гарышча. – Заварылі кашу, – ужо стоена шэпча сябар, узбіраючыся па драбінах. – Юрка Гуль малако прывёз у Азярышча, дык да яго ўвесь малаказавод збегся. Пыталіся: ці бачыў ён марсіянаў? Адваротным рэйсам карэспандэнта прывёз, з раённай газеты. А яшчэ раней участковы прыехаў на матацыкле. Сядзяць зараз у клубе і людзей па чарзе выклікаюць. Пытаюцца – што там ды як. І Мандрычыха каля іх круціцца. Нюрку маю таксама выклікалі. Пра нас з табой пыталіся: дзе мы ўчора ўвечары былі ды што рабілі. Сказала: у арэхі хадзілі. Во... дарэчы... – Мішка піхнуў руку ў кішэнь, – я тут надоечы залез у ляшчыннік, набраў крыху ды схаваў ад Нюркі.

Мішка сыпануў мне ў прыгаршчы арэхаў.

– І Авадзіха ў клубе сядзіць. Сказала, што ёй шкоду аж на сто рублёў

нанеслі. Мальцы вунь, чуеш, новы паркан ставяць, – знадворку і сапраўды далятала ляскатанне малатка.

– Прыходзь ўвечары пад аўтобус. Паслухаем – што людзі кажуць. А мы з Нюркай ідзем канюшыну за хатай варушыць – маці загадала.

Народу каля клуба сёння больш чым калі. І ўсе скрозь гамоняць пра начную падзею.

– Сеанс закончыўся, я ўжо дахаты ішла, аж бачу – ляціць нешта, – сіпата апавядае Мандрычыха гурту вясковых цётак. – Не магу нават сказаць – што гэта было. Свеціцца, ківаецца, і не зразумець – высока яно ляціць, ці нізка. Я яшчэ тады падумала – ці не марсіяне гэта?

Мы з Мішкам пераглядваемся і разам закідваем у рот па арэху. Цяпер, відаць, Мандрычыха зменіць кружэлку. Тры гады пра быльнік апавядала, а зараз пра марсіян будзе дзяўбсці.

– Там, я чула, унутры свечка гарэла і анёлы спявалі, – прамовіла сухарлявая цётухна ў чорнай хустцы і тройчы перахрысцілася. Цётка была нетутэйшай. Відаць, прыехала з Азярышча і цяпер чакала аўтобуса.

– Гэта ўсё Амерыка. Яна нам каларадu падкінула, а цяпер во, калі хочаш, і хаты спаліць, – паведаміла дзябёлая цётка, што працавала ў калгаснай канторы бухгалтаркай. – Мая Нінка прыйшла з танцаў, і новая сукенка аж па пояс падзёртая. Казала, лезла праз штыкетнік ды за цвік зачапілася.

– А ці вялікі хоць стог згарэў? – спытаўся нехта за нашымі спінамі.

– Ды які там вялікі. Капешка. На адны вілкі падхапіць можна. Старшыня прапанаваў па пяцьдзясят капеек з хаты сабраць. Усё ж такі гарод Авадзіхі добра стаўклі.

– Дык а што там ляцела? – я пазнаю па голасу Юрку Гуля – вадзілу, што возіць малако ў Азярышча.

– Табе ж кажуць: шаравая маланка, – адказвае Васька Бохан – наш сусед па вуліцы.

– Шаравая маланка зыркая, вочы слепіць, – прамовіў Юрка, прыпальваючы папяросіну.

– А ты яе бачыў? – уедліва пытаецца Бохан, і Юрка, каб пазбегнуць адказу, ляпае па спіне спачатку мяне, а потым Мішку. – А ці не вашы гэта штукі, браты-бязбацькавічы? Казалі, вы ўчора нешта ў кустах хавалі.

Мы панурваем вочы – не любім, калі нас бязбацькавічамі клічуць.

– У арэхі хадзілі, – панура гугнее Мішка, – аж за Балбекі зайшлі, таму вярнуліся позна.

– У гарэхі? А дзе ж яны?

Мішка лезе ў кішэнь, сыпе малакавозчыку ў далонь тузін спелых лузаноў.

З паваротки выязджае аўтобус, усе бязладна гамоняць, але тут жа аціхаюць ды гамузам паварочваюць галовы ў бок кінабудкі. Адтуль выводзяць карэспандэнта. Двое мясцовых хлопцаў яго вядуць, а трэці нясе капялюш. Карэспандэнт ужо не ўпершыню завітвае ў вёску. Цяпер хоць неяк варушыць нагамі, а мінулым разам так напіўся, што яго паклалі на перамотны стол, дзе ён і праспаў да раніцы.

– Усё ж такі добра я прыдумаў з арэхамі, – шапоча Мішка, і я ўхвальна ківаю галавой.

Сёння маці, калі прыйшла на абед, таксама пыталася: дзе гэта я цягаўся

так позна? А я ўзяў ды сыпануў на стол Мішкавых арэхаў. Маці адразу палагаднела і нават адзін арэх пакаштавала, чапялой раскалоўшы.

Праз тры дні, такой жа вечаровай парой, я сядзеў на кухні, еў яечню на вячэру, але тут, як заўсёды абрывіста, знадворку свіснуў сябра. Давялося схапіць недаедзеную лусту хлеба і пад матчыны нараканні: «Паеш ты як чалавек!», – бегчы на надворак.

Мішка стаяў ля весніц і махаў газетай.

– Во, раёнка прыйшла. Пачытай... на апошняй старонцы.

Я схапіў газету і няўцямна, жуючы сухі акраец, уголас прачытаў:

– «З рэдкай атмасфернай з'явай сутыкнуліся ў мінулую суботу жыхары вёскі Бычкі. Прыкладна ў 22 гадзіны 30 хвілін у небе з'явілася шаравая маланка. Яна ляцела з боку райцэнтра ў паўночным напрамку. Завіснуўшы над клубам, маланка паляцела ўздоўж галоўнай вясковай вуліцы і нечакана падпаліла вялізны стог...»

– Ды які там вялізны... – прамовіў я, папярхнуўшыся, і сябар тыцнуў мяне ў бок, маўляў, чытай далей.

– «Вялікую бяду магла прынесці нязваная нябесная госця, калі б не зладжаныя дзеянні мясцовай добраахвотнай пажарнай дружыны, якую ўзначальвае М. Мандрык».

– Гэта хто, Мандрычыха? – спытаў я і зноўку адчуў штуршок у бок.

– «Ачаг узгарання быў своечасова лакалізаваны, і агонь патушаны. У тушэнні пажару вызначыліся механізатар К. Марштрупа і кінамеханік Бычкоўскага кінастацыянара П. Лебядко. Наш кар.»

– А што за наш кар.? – запытаўся я, голасна ікнуўшы.

– Карэспандэнт... ну той, які з Марштрупам і Лябёдкам у будцы піў.

Сябрук выхапіў з маіх рук газеціну.

– Ёсць у мяне адна ідэя. Калі ўсё атрымаецца, да нас не нейкія там азярышчанскія п'яніцы, а сапраўдныя карэспандэнты прыедуць. А ідэя такая, – сябрук мружыць вочы, пазіраючы ў бок Дабранскай гары, – капаем звечара яму, раскладаем у ёй вогнішча і награваем камень...

– Навошта?

– Ды пачакай ты... – крывіцца сябар. – Камень я ўжо прыгледзеў – чорны, як сапраўдны метэарыт. Карацей, награваем яго, вакол ямы насыпаем порах – у мяне паўслоікі прыхавана, – падпальваем, каб вакол была выпаленая зямля, а дзесьці пасля дванаццатай ночы, з розных канцоў вёскі, гарлаем, што з неба штосьці звалілася. Толькі гэта трэба рабіць у панядзелак, калі кіна не будзе. Усе кінуцца да ямы, а там агонь і камень, ды такі гарачы, што плюнь – засіпіць. Мандрычыха, вядома, у Азярышча патэлефануе, маўляў, на вёску метэарыт зваліўся, і на раніцу да нас з'едуцца карэспандэнты і навукоўцы, што метэарыты вывучаюць. Ну як табе ідэя?

Я перасмыкваю плячукамі.

– Перш чым карэспандэнты, да нас участковы прыедзе. Гэтым разам ужо не спудлуе. Зразумее – чые гэта жарцікі. А яшчэ і марсіянаў нам прыгадае.

– Ну дык ты падтрымліваеш маю ідэю, ці не?

Я нічога не адказваю, заклапочана чухаю патыліцу, і Мішка, крутнуўшыся, рашуча шыбуе прэч. Колькі часу стаю ў непаразуменні, а зірнуўшы на Мішкаву спіну, ляпаю далонню па сцягну і бягу следам.

Васіль Жуковіч



...Цябе молім: краіне назвацца не дай
Зноў паўночна-заходнім краем!..

# Рэха цеплыні

***Вершы розных гадоў***

### ТРАГІЧНЫ ЛЁС ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА

У Кастусю жыў акіян свабоды
Найвелічнай з усіх людскіх свабод.
Яе хапіла б усяму народу,
Каб больш рашуча з ім пайшоў народ.

Страх за жыццё смяротнаю быў ношай,
Даносчыкаў паўсюль служыла раць,
Гатовая за акупантаў грошы
Святыню непадкупную прадаць.

Рашучасці народу не ставала –
Лавінай рынуць у паўстання вір...
Свабоды сэрца біцца перастала.

Аплаквала старонка – шкадавала
Павешаных,
сасланых у Сібір.

*Люты 2013*

## ТЫПОВАЯ КАРЦІНА ШКОЛЬНАЯ

*Всё это было бы смешно,*
*Когда бы не было так грустно.*
М.Ю. Лермантаў

Старшакласнікам вершы чытаю
Пра таго, хто ўзняў паўстанне.
Так выразна ён паўстае:
Малады і прыгожы,
Але з лёсам трагічным:
Задушылі-павесілі хлопца
Ля Лукішак у Вільні...

"Пра каго йдзе гамонка?" –
Пытаюся ў юных.
Ды старэйшыя класы,
Бы вады ў рот набралі,
Маўчаць.
Даць гатоў я падказку –
Пра Марыську кажу я, пра тую
Чарнаброву галубку яго...
Зацягнулася паўза... Гадаюць,
Нехта кажа: "Максім Багдановіч"...
Называюць яшчэ і Скарыну...
Смешна! Мне ж не да смеху,
Бо занадта і горка, і сумна.

*27.02.2013*

## З ІМЕМ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

### Трыпціх

#### I

І кроў пралітая, і раны,
І Петрапаўлаўскі астрог –
Усё было, калі тыранаў
Перамагчы змагар не змог.

Пайшлі душыцелі свабоды
Па касінеравых касцях.
Прыгонных – як узнагароду –
Ім раздалі ў тваіх краях.

Але не мог прыняць няволю
Твой дух – паўстаў, яднаў людзей,
Ты клікаў іх да лепшай долі,
Да гераічных, чынных дзей.

***II***

Хай бы, Мухавец-рака,
Ты ўтапіла чужака,
Вераломнага ваяку,
Злога царскага сабаку,
Што з турэцкае мяжы
Бег сюды людзей душыць;
Хай бы гончую заразу
Напаіла да адказу,
Хвалямі пагнала ўраз
Ты суседзям на паказ...
Пераплыў твае ён воды
Дабіваць агмень свабоды.

***III***

О, цень Тадэвуша Касцюшкі,
Выратавальны, грозны цень,
Ты напужай прадажных служкаў –
Прыйдзі у гэты цьмяны дзень!

У сэрцы гнеў, гаркота ў горле
І крыўды даўкае камяк:
Тваё імя схавалі, сцёрлі,
А славяць ворага імя.

*1991*

## *ЗАМОВА ЗА РОДНУЮ МОВУ*

Ойча наш міласэрны нябёсны,
О, пачуй просьбы горкае словы:
Адвядзі, Божа, глум невыносны
Ты ад нашай прачыстае мовы.

Усім людзям з жывою душою,
Як паветра, вада, зямля плодная,
Трэба слова, але не чужое,
А навекі вякоў слова роднае.
Адвядзі ад яго занядбанне,
Ад знявагі яго захіні
Ды благое яго існаванне
Паўнакроўным жыццём замяні.
Ойча наш цудадзейны нябёсны,
На людскія учынкі зірні:
Нам зямлю палівалі агнём і крывёй,
І Чарнобыль пакінуў свой след
смертаносны, –
Нам бракуе аховы Тваёй.
Шматвяковых пакутаў і болю
Нам даволі, даволі, даволі!
Спаконвечнае наша памкненне да волі –
Костка ў горле шайкам варожым.
Наша мова ім так замінае!
Заступіся за нас, моцны Божа, –
Слова продкаў хай гора не знае!
Не пусці яго, Божа, на звод,
Памажы, памудрэў каб народ,
Каб святыні свае ён бярог...
О магутны, о праведны Бог!
Нас бяспамяцтвам Ты не карай,
Сябе самі бязбожна караем,
Цябе молім: краіне назвацца не дай
Зноў паўночна-заходнім краем!

*2000, Вясна 2014*

## СЛОВЫ СЭРЦА

З кім падзяліцца горам:
Мне за дзяржаву сорам –
За “непуцёвую дачку”,
Што выраклася маці.
Хто мне цяпер падасць руку,
Чужому ў роднай хаце?..
Трывалі доўга й набылі
Гнеў майго сэрца словы.
Дзяржава блудная, калі
Да роднай прыйдзеш мовы?

## КЛАСІК ГАРЭЦКІ

**М**ой Божа, так рунела слава,
**А** ў час не лепшы, час ліхі!
**К**аго знішчаў рэжым крывавы?
**С**вядомых, зоркіх, не глухіх!
**І** стаў ахвярай Ты ў жыцці –
**М**агілы нават не знайсці.
**Г**лыбінны, вытанчаны класік,
**А**хвярны, не згубіўся ў часе,
**Р**асстрэл і катаў перамог,
**Э**літны, верны Беларусі.
**Ц**алую, родны, й ганаруся
**К**расой і сілай, бачыць Бог,
**І** ўсім, што ў век кароткі змог!

*22.02.2013*

## ЧАРОЎНЫ ТВОРЦА

**Я**кі ён зорны й сонечны мастак –
**З** размахам гістарычным і касмічным,
**Э**тнограф, археолаг энергічны,
**П**ісьменнік незвычайны, наш Зямляк!

**Д**ушою ўсёй любіў сваю краіну,
**Р**агнеду, Чарадзея, свет-Скарыну...
**А**хоплены высокім пачуццём,
**З**ахоплены мастацтвам і жыццём,
**Д**аследнік роднае зямлі свае,
**О**, як цяпер яго нам не стае!
**В**андруе недзе па Сусвеце зорным,
**І** ўспамінае яго край вазёрны –
**Ч**цароўны творца ў душах паўстае.

*9-10.05.2013*

## ВІДОВІШЧА ПАМЯРКОЎНЫХ

Жыццё – тэатр і людзі ў ім – акторы,
Я пераконваюся год каторы;
З адвечнай сцэны матухны Зямлі
Трагедыі дагэтуль не сышлі.
А нам Бог даў, як надта памяркоўным,
Трагічнага й камічнага пароўну:
Трагікамедыя ў нас, як нідзе,
Беспрастанку з пафасам ідзе...

*Снежань 2010*

## *ПАРТРЭТ ТАГО, ХТО ЗОРЫ ЧЫТАЎ*

*Светлай памяці Алеся Пісьмянкова*

На трамвайным прыпынку
Спаткаў нечакана
Чалавека прыгожага дужа:
Чуб і вусы пшанічныя,
Бровы, бы крылы жораваў,
Вочы добрыя, пранікнёныя,
Голас мужны, такі басавіты!..
Прыязна ўсміхаюся і пытаюся:
– Каго любіш?
– Люблю Беларусь, – адказвае
З усёй уласцівай яму шчырасцю.
Як жа йнакш ён мог адказаць,
Калі ўся яго творчасць
Саткана з любові да Бацькаўшчыны,
Да людзей, –
Так дыктавала яму яго вялікае сэрца,
Якое рана, ой рана спынілася!
Але б’ецца яно несупынна, няўтомна
У радках, між радкоў
Зорных вершаў,
Пераказваць якія – грэх,
Чытайма, сябры, чытайма,
Як зоры чытаў паэт.

*25.02. 2013*

* * *

*Светлай памяці Н.У. Глобус*

Ах, спадарыня Ніна,
Наш унучак Ягорка,
З кім вы пасябравалі,
Плакаў доўга і горка, –
Зажурыўся хлапчынка,
Калі толькі дазнаўся,
Што вы ТАМ, скуль ніколі
Аніхто не вяртаўся.
Проста, так прымітыўна,
Суцяшаў я малога,
Што цяпер там, далёка,
Не баліць вам нічога...
Ну а сам я падумаў,
Калі плакаў унучак,

Ці душы чалавечнай
Насамрэч не балюча?

*17-18.08. 2013*

## З РАДАСНА-ШЧЫМЛІВЫМ ПАЧУЦЦЁМ

У маім запаветным горадзе Берасці
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай,
Прафесара і пісьменніка, аўтара
Узрушальнае кнігі “Доўг памяці”,
Патрыёта чароўнай зямлі,
Які юнаком ваяваў за яе ў партызанах,
Быў паранены цяжка, страціў многа крыві
І сяброў баявых,
Страціў любую, невыказную,
Што яму часта снілася
У бялюткай сукенцы з крыламі вэлюма,
З таямнічаю мілаю ўсмешкаю...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай,
Чалавека, які праз сухоты, шмат іншых бедаў
Прыйшоў да вяршыняў навукі...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай
Адначасна ў радасці й смутку,
Бо яна, тая вуліца, – на ўскраіне места,
А не там, дзе ён жыў,
Дзе штодня ў альма-матэр хадзіў,
Бо, як бачыце, там ёсць Чапаева вуліца,
А яшчэ недарэчная вуліца Крупскае...
Я сустрэўся з Калесніка вуліцай
Не ў тым месцы, бо ў часе не тым...

*18.06, 30.07.2012*

* * *

“Меней гавары, а болей слухай”, –
Вучыць талерантны наш народ
(Не адну, вядома, сотню год).
Хочаш, сэрцам, хочаш, толькі вухам
Мудрую параду успрымай,
Бо народ абачлівы гаворыць
(Каб як меней ведалі мы гора):
“Людзей слухай, а свой розум май”.

*17.07. 2003*

**Ніне Мацяш – у іншасвет**

## *ПРЫМІ МАЕ КВЕТКІ ЖЫВЫЯ*

Ты кветкі любіла,
І я кожны раз пры спатканні
Табе іх дарыў.
Цяпер мне здаецца,
Што мала...
І што не заўсёды любімыя.
Не ведаю я, з якім пачуццём
Ты кветкі выкідвала, калі завядалі.
А гэтыя ружы вянуць не будуць.
Іх можна прыняць альбо не прыняць.
Ты толькі прысніся,
А я сны разгадваць умею,
Убачу цябе — зразумею,
Ці прыняла ты ружы,
Што выраслі ў садзе
Любові маёй і журбы.

*Люты 2011*

## *РЭХА ЦЕПЛЫНІ*

Столькі было цеплыні
У нашых спатканняў!..
Аддаліліся лепшыя дні,
Аддаліліся чыстыя ранні
Жывой светлыні
І сонечныя змярканні.
Абвастрыўся сардэчны голад,
А насустрач – бы цяжкія сны –
Рук і вуснаў страшэнны холад,
Холад снежня і холад вясны.
Холад,
Холад,
Холад,
Холад скразны!..

І толькі здалечыні –
Рэха той
Незабыўнай святой
Тваёй цеплыні.

*Верасень 2012, студзень 2013*



Генрых Далідовіч



...беларусцы нам патрэбныя як буфер,
як наш эксперымент над малымі народнасцямі,
як козыр геапалітыкі...

# Трайны агент

***Дыптых***

*Заканчэнне. Пачатак у №3 (82).*

Пасля таго, калі палкоўнік Зайцаў на пачатку года з'ездзіў у затоены Мінск, прабыў там некалькі не толькі месяцаў, а часам ужо нясцерпных дзён і прывёз сюды, у Вільню, самому Мураўёву даклад, што выкрыў у Мінскай губерні ўсе патаемныя антыдзяржаўныя суполкі, арыштаваў усіх падазроных, пазабіраў у бунтоўных памешчыкаў маёнткі, набыў розныя сакрэтныя паўстанцкія паперы, знакі і, галоўнае, зусім лёгка натрапіў на віленскі след завадатара мецяжу Каліноўскага, – дык вось пасля ўсяго гэтага ён чакаў адпачынку. Стаміўся ад сваіх допытаў і ўпіранняў, хітрыкаў, маны, ад слёз і прызнанняў соцень арыштаваных бунтоўшчыкаў, ад сваёй злосці, якую ўвесь час трэба было хаваць ад сваёй гульні, хлусні, ад вялікай павуціны, якую плёў і плёў кожную хвіліну і ў якую завабліваў сваіх ахвяр, каб заблытаць іх, усё выпытаць і вызначыць, каму што – вісельня ці расстрэл, высылка ў

Сібір або пад тайны назірк тут. Нават і за тое, што хоць і не браў у рукі вінтоўку, а толькі даў акраец хлеба ці словам паспачуваў паўстанцу.

Ды не ўдалося насалодзіцца спакоем і моцным сном: не адпусцілі са службы. Не столькі генерал Весяліцкі, старшыня камісіі, што расследавала мяцеж, колькі сам Мураўёў. Нідзе не дзенешся, падпарадкаваўся. Тым больш, што была радасць – давер, пахвала, абяцанак новага чыну і выгод. Маладзейшыя саслужбоўцы глядзелі на яго з захапленнем, як на героя, хто адзін зрабіў больш за ўсю мінскую жандармерыю, старэйшыя і аднагодкі – хто з павагай і зайздрасцю, а хто з нянавісцю як да самага выбітнага з іх: менавіта ён, адзін без рот салдат і гарматаў дабіў мяцежнікаў. Саслужбоўцы ведалі, як гэтага дамогся, бо спазналі за доўгі час яго характар: ён і з імі гуляў, ні з кім не шчыраваў і нікога не шкадаваў, мог з усмешкай аддаць на згубу, за што яго за вочы абзывалі “мерзавцем из мерзавцев”. Але не мяняўся і не думаў мяняцца, яшчэ болей раздвойваўся, што часам сам разгубліваўся: а дзе, у чым ён сапраўдны? Радня лічылася з ім, той-сёй дзеля сваёй карысці ліслівіў, але амаль усе баяліся і, значыць, у душы ненавідзелі; некалі прыгожая, гарэзная жонка, дачка яго былога шэфа, якіх ён зачараваў “приличными манерами”, трапіўшы ў сямейнае павуцінне, спакваля пачала задыхвацца, знясільвацца і вар’яцець, ведучы па гэтай сцяжыне і дачку; сын-афіцэр загінуў на вайне, і ён, бацька, неаднойчы спажываў сынаву пагібель для свайго поспеху.

Зайцаву, калі нядаўна сутыкнуўся з мяцежнікамі ў Мінску на допыце, цюкнула ў галаву: мала, зусім мала разбірацца з тым, што і як было тут, у краі, летась ды сёлета, трэба і мусова зазірнуць у сталічныя, пецярбургскія архівы за некалькі гадоў да паўстання: там, канечне ж, можна знайсці, бадай, і невялікае, але вельмі значнае пра тое, як ажыўляліся зламысныя парасткі яго, гэтага паўстання. Так, паўстання, бо гэта – не проста выбух гневу, гэта – прага палякаў, літоўцаў, беларусаў да сваёй волі, што “чревато”. Генерал Весяліцкі адмахнуўся: начорта нам корпацца ў архіўным пыле, тут хоць бы як след разабрацца з цяперашнім. “Разабрацца” – найперш бойка, самапахвальна дакласці Пецярбургу пра кіпучую, пераможную работу яго камісіі. Ленавата, абыякава паслухаў яго і Мураўёў, зморшчыўся і ўскінуў не на плечы, а на плячук іншае, па-ягонаму вельмі важнае, а на справе драбязу, што па сіле малодшым чынам жандармерыі – нейкія праверкі-пераправеркі таго, што нашкрэбалі віленскія следчыя. Зайцаў, гуляючы і з Мураўёвым, загаварыў пра тое, што трэба “глубже изучить вопрос”, “пресечь подобное на будущее”, а пасля, бачачы, што той спяшаецца паслаць свой хвалебна-пераможны даклад у сталіцу, пачаў абразумліваць, спакушаць графава самалюбства: зусім нелішне паглядзець, а што і як чыніў тут ранейшы генерал-губернатар, ці не праваронім той польска-беларуска-літоўскае “брожение умов” і “подготовку мятежа”. Мураўёў адразу скеміў, што, прынізіўшы папярэдніка, ён можа выйграць і ў вачах царскага двара, і ўсіх імперскіх сілаў. Мігам пераражаваў “пачутае”, задаволена пасміхнуўся: “А вы, любезный наш, не простой, а интриган большой!” – “Ради вас, ваше превосходительство”, – нахіліўся ў нізкім паклоне Зайцаў, “выяўляючы сваю адданасць” валадару края. І яму, Зайцаву, каб не надта ведаў генерал Весяліцкі, Мураўёў даручыў запрасіць патрэбнае дасье з Пецярбурга, на ўсіх тутэйшых, найперш на былых і цяперашніх студэнтаў, навукоўцаў, пісьменнікаў, а таксама і інжынераў і некаторых вайскоўцаў. “Капай, любезный. И поглубже. Вырой такую

яму, чтобы в нее свалить если не всех полячишек, то белорусцев. Этих надо навечно закопать, дабы мы напрямую вышли к Польше и Европе”.

“Дурнота, і вялікая, – і раней, і цяпер мог сказаць Зайцаў, – беларусцы нам патрэбныя як буфер, як наш эксперымент над малымі народнасцямі, як козыр геапалітыкі. Іх, не ўсіх, а некаторых, самых адданых, паслужлівых, трэба пакінуць, аберагаць, падкормліваць, каб яны сталі нашай падпіткай”. Але ўголас такога цяпер абачліва не сказаў: нечалавечая зараз лютасць на палякаў, літоўцаў, беларусаў, а таксама і на Украіну. Іх усіх ён бачыць толькі пад магільнай плітою.

Дурань. Такое не вынішчыш і за стагоддзі. Калі ёсць хоць адзін іх пісьменнік. А ў беларусаў ёсць такі. І здольны. Дунін-Марцінкевіч. Яго не падкупіш і на нейкай дробязі не вельмі падловіш. Толькі можна затыкнуць яму рот: не надрукаваць яго беларускія творы. Гэта значыць – яшчэ стражэй забараніць беларускую мову.

Дунін-Марцінкевіч і іншыя – вялікі клопат. І ў далёкай будучыні. Але няхай гэтым ужо займаюцца іншыя. Яму, Зайцаву, цяпер трэба злізваць з гэтай Перамогі самае смачнае. Уголас гэтага нікому не скажаш, нават жонцы, якая можа начаўпсці іншым. А на тое, што плявузгаюць “пра чорную душу”, “пра кроў і слёзы лепшых сыноў тутэйшага краю, якіх загубіў”, яму напляваць. Ёсць свая вабнасць у тым, што ён сапраўды крывапіўца, што іншыя, разумнейшыя і дабрэйшыя, яго ахвяры, чарвякі перад ім. Каго захоча, таго і растопча. Улада ягоная цяпер вельмі вялікая. Як ніколі. Трэба быць *олухом царя небесного*, каб не паўпівацца ёю, каб нечым тайна не падпарадкаваць нават Мураўёва, не паставіць сабе на службу Пецярбург, які ўгодліва дазваляе яму ўсё! Абы “закрыл польсколитовско-белорусский вопрос”! Закрые! Не горш за Суворава са штыкамі ды за Мураўёва з гарматамі, якімі ён спапяляў цэлыя вёскі...

Цешачы сябе сваімі патаемнымі думкамі-развагамі, Зайцаў спакойна, удумна перачытаў сотні прысланых з Пецярбурга спраў, дзе на чысценькай казённай вокладцы красаваўся горды двухгаловы арол, менавалася справа, а ў папцы ляжалі хораша напісаныя чарнілам, што ніколі не выцвіце, дбайна падшытыя паперыны – даносы, пратаколы, даведкі, заключэнні, што сведчылі: была беларуская мова, культура, гісторыя, дзяржаўнасць, і пра гэта некаторыя, каму яму яшчэ як след не апаласкалі мазгі, каму не затуманілі розум, ведаюць, ганарацца і спрабуюць гэта ўсё аднавіць. Як кажуць тут, “усё яшчэ бруіцца крынічка пад каменнем і пяском...”

Зайцаў уважліва перачытаў серыю спраў “О революционном духе народа в России”, за 1862 год, тое-сёе адабраў у іхнюю цяперашнюю справу “О беспорядках в Царстве Польском и западных губерниях”, дзе, канечне ж, збярэцца не адна сотня папак і дзе будзе “осветлён вопрос”, апісана, як трэба ў люду, што хоча быць народам, вырываць язык, нішчыць ягоную памяць, свядомасць, будучыню, рабіць яго “ветвью...”

Усеўшыся, як хіхікалі незычліўцы, “железным задам” на сваё цвёрдае крэсла і ўнурыўшыся ў паперы, завочна пазнаёміўся з сотняй тайных агентаў, што адсочвалі тутэйшыя нацыянальныя настроі, і па почырку, складзе напісанага пазнаваў, хто верны як пёс, але тупагаловы, хто прадажны ці вельмі хітры, а хто, як ягоныя жонка ды дачка, хворыя на галаву. За шмат гадоў ён навучыўся “бачыць” і “чуць” паперы, почыркі, напісанае. Ясна, бывае настолькі цікава, пазнавальна, настолькі і сумна, нават нудотна, што і яму, жалезназадаму, часамі хочацца завыць ад казённай руціны, тупаць

нагамі, трэсці перад сабой кулакамі і скрыгітаць зубамі ад варункаў іхняй службы не толькі з прыстойнымі людзьмі, а і з розным быдлам – п'яніцамі, зайздроснікамі, прадажнікамі, ахвотнікамі да лёгкага хлеба, чые хібы можна і трэба спрытна спажыць ім, жандарам, хоць у душы і ненавідзіш брыду.

Міжволі затрымаў у руцэ паперчыну з дасье 1861 года на аднаго тайнага агента. Лісток, почырк на ім былі яму вельмі знаёмыя. “Письмо неизвестного за подписью Владимир от 10 августа”. Подпіс гэты зрабіў яго памочнік, а лісту сапраўды невядомага ім Уладзіміра даваў ход ён, а пасля па волі былога генерал-губернатара паслаў яго, вось гэты ліст, у Пецярбург.

Яшчэ не чытаў, а ўжо, маючы выключную памяць, прыгадаў: “ваш покорный слуга Владимир” быў малады чалавек, студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, на чымсьці ў сталіцы яго падлавілі, і ён стаў платным агентам ахранкі, пачаў віжаваць за сваімі землякамі з гэтага краю. Так-так, тады той віж прыслаў ліст віленскаму паліцмайстру, сам вельмі ахвотна падмеўся выдаць у Мінску, Гродне, Коўне, Вільні тутэйшыя зямляцкія “тайные общества”, дзе той-сёй – так-так, Зайцаў зазірнуў у ліст, – са шляхты “по крестьянскому делу”, і “возвращенных из Сибири” (пасля мецяжу 1830-1831 гадоў), мінска-коўна-віленскіх студэнтаў замышляе антыдзяржаўнае. Канечне, тут, у Вільні, гэтым даносліваым лістом вельмі зацікавіліся, хуценька паказалі яго нават самому генерал-губернатару Назімаву. той прачытаў і абурыўся: “Однако же какой нахалюга и подлец!” рэч у тым, што “покорный слуга” не проста з-за адданасці веры, цару і Айчыне хацеў шчыра памагчы ім, а патрабаваў узнагароду і пры гэтым цанаваўся, тузаўся, прыпалохваў: “В случае ежели вы мне откажете, я буду пробовать счастья в Петербурге”. Назімаў абурыўся, але ж... “сволочь, да наша”, паразважыў і вырашыў, што трэба паслаць нягодніку на яго тайны адрас і прозвішча задатак, а ягоны ліст – у Пецярбург, у Трэцяе аддзяленне, няхай яны, галоўныя імперскія адсочнікі, самі разбіраюцца, што за птах такі гэты прадажнік, шукаючы грашовае шчасце тут, у правінцыі.

Натрапіўшы цяпер на гэты ліст, Зайцаў і цяпер, як кажуць паляўнічыя, ваўчыным нюхам учуў уежлівы след, што можа вывесці на вялікую здабычу. Ён папрасіў у Пецярбурга даслаць яму ўсё, што датычыць справы “покорного слуги Владимира”. Толькі шпарка-шпарка, з нецярпеннем пагартаў новыя прысланыя паперы, зазірнуў на апошні сказ на іх... ахнуў, бадай, упершыню ў жыцці мацюкнуўся.

Ён зразумеў кожнай жылкаю: тады, у 1861-м, азнаёміўшыся з дасланымі імі, віленцамі, дакументамі, сталічныя жандары-фанабэрнікі, як гусакі, ускіпелі-зашыпелі больш за Назімава на свайго платнага даносчыка, адразу ж схапілі таго за каршэнь: “Ты что, сволочь? Трехглавый змий? С полячишками и белорусцами? С нами и еще втайне для себя на стороне приторговываешь? Позоришь нас перед губернией, перед сундуками?” Карацей, завялі на яго іншую справу, а прынесеныя ім новыя паперы афармілі як тайна хаваныя ім, абвінавацілі ў антыўрадавасці і патурылі яго этапам у архангельскую глушэчу да мядзведзяў і камароў. Пстрыкаўся, канечне: я ж – ваш! Ну, памыліўся, каюся, даруйце. Клянуся: буду служыць яшчэ болей верна.

Не даравалі, пазбавіліся ад гнюсніка. Не, Зайцаў ахнуў не ад таго, што вось так несправядліва пацярпеў паслужлівы ім віж, чорт з ім, замест аднаго здрайцы будзе дзясятак яшчэ больш здрадлівых. Накінуць на іх ашыйнік зусім лёгка – за пасады і грошы многія могуць і бацькоў родных прадаць,

а не толькі сяброў, сваю мову, радзіму. Зайцава ўразіла іншае, недаравальна дурное, што ўчынілі пецярбургскія напышлівыя гусакі. Міжволі яны...

Зайцаў загарнуў лёсаносную папку, патрымаў яе ў чамусьці раптоўна запацелых руках, пасля паклаў на стол, што прапах архіўным пылам, і падняўся, натужліва падышоў да акна, па любімай сваёй звычцы падважыў цяжкі жывот складзенымі далоньмі, павагаўся на дыбках хромавых ботаў і спеўна замармытаў:

– Гм-гм-гм...

Ён яшчэ і сам не ведаў, што такое ягонае гэтае "гм" – навіна, што ён адкрыў і цяпер падступаўся абдумаць, у думках мацаў, ціснуў, камячыў, абшчыкваў "езуицким" чуццём. Адчуваў: з гэтага "дельца" можна раздзьмуць вялікае дно.

"Однорукий садист", Весяліцкі, можа і павінен урэшце апынуцца поўным дурнем на задвор'і. "Аднарукі садыст" – гэта па іхніх, жандарскіх, пацешках за тое, што генерал сапраўды аднарукі, але кат з катаў: арыштаваных мяцежнікаў, іхніх памагатых, нават спачуваючых не столькі разумна дапытвае, а б'е неміласэрна, адзіным кулаком выбіваючы прызнанне. Многім наляпіў сінякоў, выбіў зубы, пераламаў рэбры, пусціў кроў, а сам пераўтвараўся ў мясніка-секача, ды так, што на яго агідна глядзець. "Пускай бьет, выбивает из непослушных всю дурь", – усхваляе Мураўёў.

Не толькі ліхадзейства, але і злачынства, канечне, судзіць трэба за катаванне. Ды яно ж для веры, цара і Айчыны. Праўда, як расказалі яму, і мардоўна не скарыў на сваім "допыце" з заламанымі за паясніцу і звязанымі рукамі Каліноўскага. Абражаў, здзекваўся, тоўк-малаціў акрываўленым кулаком, перабіў нос, ссінячыў, выбіў пярэднія зубы, твар зрабіў месівам, а знявечаны Каліноўскі ніяк не адступіўся ад свайго, нікога жывога не назваў, з апошняе сілы агідліва плюнуў крывёю Весяліцкаму ў вочы: "Кат! Імя тваё, як і Мураўёва, будзе навек клятае! Мураўёва – і на яго радзіме, у Масковіі! Вас і там лепшыя людзі назавуць душыцелямі, вешацелямі. Вы, псы-ганчакі, набіваеце сабе цану, подла прыпісваеце нам нянавісць, варожасць да Расіі. Я, як і іншыя, не вораг ёй, я больш за вас люблю рускую мову. На рускай мове атрымаў вышэйшую адукацыю, пазнаў сусветную культуру. Маю там шмат аднадумцаў і сяброў. Але я ненавіджу там і тут тупых і жорсткіх, вашу дурную ўладу, якой рана-позна будзе канец. Я – за незалежную нашу старажытную Літву! Ці, як ужо многія кажуць, за нашу Беларусь! Як вы не высільвайцеся, нас не знішчыце! Устоім! Выжывем і ў створаным вамі пекле! Будзем народам! Дзяржаваю! І даможамся, што ў нас будзе не народ для ўрада, а ўрад для народа!"

Весяліцкі выцер (абмазаў крывёю) твар і адступіўся: такога бі, забі, але пакаяння ад яго не даб'ешся. У яго такая сіла, што яе не пераможаш. Яе можна толькі знішчыць. Куляй ці пятлёю. Па-свойму пераможаны, зганьбаваны, Весяліцкі пабег да Мураўёва, пачаў апраўдваць сваё бяссілле. Той зірнуў на яго з прыкрасцю, але каб не дапусціць сваёй слабасці, загадаў: "Никаких разговоров! Расстрелять! Всю ответственность беру на себя! История меня, "душителя-вешателя", и осудит, и оправдает! Такие, как мы с тобой, генерал, всегда будем нужны! Если даже будем и охаяны! Бей! Бей! Выбивай все, делай их тупыми и послушными! Они не нужны нам умные и образованные, сознательные! Они должны стать для нас рабочим скотом! Благодарите нас, господ, за свой же кусок хлеба, за нашу маленькую милость!"

Каліноўскага не расстралялі. Павесілі.

І зноў жа гэты малады, адукаваны, яшчэ нежанаты (была ў яго каханая) чалавек не збаяўся кары смерці: ішоў да вісельні горда, дапытліва ўзіраўся ў сагнаны, а таксама цікаўны натоўп. Ці вышукваў позіркам сваіх, ацалелых ад арышту, ці хацеў угледзець жаданую будучыню. На эшафоце назвалі дваранінам – адмахнуўся: няма ніякіх дваранаў, усе мы людзі як людзі роўныя! Мураўёў на гэта сказаў так: "Наивный глупец с какими-то социалистическими бреднями, но личность! Надо приложить все усилия, не допустить, дабы он не стал национальным героем для белорусцев. Его надо сделать врагом своего же народа!"

І на гэтым Мураўёў не суцішыўся, чагосьці асцерагаючыся, нават баючыся, паўтараў і паўтараў яму, Зайцаву: "Александр Михайлович, голубчик, ты умный, придумай, что и как сделать, чтобы имя этого Калиновского не сверкало для белорусцев светящейся точной будущего". – "Да вы, граф, уж сами и придумали, – паліслівіў ён. – Сделаем его врагом. Мол, он боролся не за свободу Беларуси, а за независимость шляхетской Польши. Это коварный удар, но точный, прямо в белорусское сердце. А для их будущего надо воспитывать анти-калиновских. Это уже задача наших чиновников, школы, церкви, газет и журналов". – "Да-да, голубчик, Александр Иванович (Мураўёў агаварыўся). Будь добр, приготовь мне секретную подробную записку. О наших действительных намерениях могут знать только наши близкие люди. А из меня они должны лепить образ патриота России и объединителя всех славян, благодетеля и хозяйственника этого края".

Пазіраючы цяпер у акно, Зайцаў аж здзівіўся: ды вясна ўжо на двары. Высокае блакітнае, з кучмамі белых воблакаў неба, сухія чырвона-рудыя дахі, шэрыя сцены дамоў, паўпразрыста зялёныя дрэвы, лёгка апранутыя, але на ўсякі выпадак з парасонікам у руцэ прахожыя, гучны гарадскі шум, далёкі паравозны гудок, вазок з важнай персонай...

Жыццё ідзе сваім ходам, – разважаў Зайцаў. Не, не зусім сваім, яго хочуць перайначыць розныя каліноўскія, але на іх былі, ёсць і будзем мы, ахоўнікі заведзенага ладу і ходу. І мы вечныя, хоць некаму і ненавісныя. Часам нават сваім. Як вось я. Саслужбоўцам, радні, жонцы і дачцэ. Нават часамі сам сабе непрыемны. Ды трэба несці свой крыж. Хоць бы для абранай ідэі: без яе, вялікай ідэі, кожны – толькі рабсіла, люд – статак.

Трэба ісці да Весяліцкага з дакладам ці не? Не. А да Мураўёва? Можа, напісаць адразу ў Пецярбург? Не. Самому туды вытыркацца не варта: не дужа да спадобы будзе там ягоны ліст. Няхай, спаталяючы сваю злосць, Мураўёў пашле туды запіску са сваім подпісам. Што да яе, злосці Мураўёва на Пецярбург, то гэта нікому не сакрэт: той міністрам дзяржаўнай маёмасці быў супраць адмены прыгону, пярэчыў нават самому цару ("Будзе развал імперыі, вялікай дзяржавы, падзе апора ў асобе памешчыкаў-дваранаў, а просты люд стане малазалежны"), дык цар меўся пагнаць яго ў адстаўку. Цар асцерагаўся вялікага сялянскага бунту, новага Пугачова, але не хацеў выглядаць рэтраградам перад светам: вунь у Амерыцы рабства хочуць адмяніць, а вялікая з сусветнай славянскай місіяй Расія – што, будзе ўтрымліваць яго і даваць грунт для розных рэвалюцыянераў? Калі ўспыхнула ў Польшчы і тут паўстанне, цар з радасцю сплавіў Мураўёва сюды: едзь, дабі тое, што не дабіў раней. "Не дабіў!" – тады ў думках перадражніў імператара Мураўёў: дабіў бы, але ж Мікалай І не ўсё задуманае ім дазволіў тут чыніць, лічачы, што тое-сёе запразмернае і выкліча вялікі гнеў.

Зайцаў перадаў справу на “покорного слугу Владимира” Мураўёву. Той праз некалькі дзён паклікаў яго.

Выйшаў з-за стала, ветліва сустрэў. Здаецца, шчыра паважае, цэніць за розум і паслугі. Немалады ўжо, гадоў пад семдзесят, але яшчэ жвавы, напорысты. “Старый осел”, “бульдог”. Апошняе – ад таго, што быў аплылы, нізкалобы, з жорсткімі валасамі, шыракатвары, з масіўным падбародкам, нібы абсечаным носам, з халодна-пранізлівым позіркам, ад чаго ў таго-сяго ажно стыне кроў, з абвіслымі па-сабачаму пасля сківіц шчокамі.

– Слушай, – калі парукаліся, дабрадушна абурыўся Мураўёў, – зачем ты всучил мне дело про какого-то неудачливого агента-белорусца? Он же уже давно в ссылке. Или ему надо еще добавить?

“Не ўнікнуў усё ж. Асёл”.

– Можна дадаць, Міхаіл Мікалаевіч, – як і прасіў Мураўёў, Зайцаў звярнуўся да гаспадара па-сяброўску, – а можна вызваліць і папрасіць прабачэння.

– Нават так? – здзівіўся Мураўёў, цяжка і важка ўзяў папку, апусціўся на канапу, рукой запрасіў прысесці побач. – Але ж, дружа, доказна выкрылі яго злачынства. Яркія дакументы антыўрадавага характару выявілі ў яго.

– Гэтыя паперы, Міхаіл Мікалаевіч, ён прынёс ім сам. І збіраў іх менавіта для ахранкі.

– Не разумею нічога, – прызнаўся Мураўёў. – Вельмі ж хітрамысна пляце павуціну ваша служба.

– Гэтае дасье, Міхаіл Мікалаевіч, прэцэдэнт. І вялікі. Я сказаў бы нават больш: велізарны промах пецярбургскай ахранкі, калі ўважліва чытаць не столькі жандарскія вывады, а лісты, даносы, асабліва першыя, асуджанага. У іх уся соль. Я, Міхаіл Мікалаевіч, вельмі здзівіўся, як пецярбуржцы ахвотна перадалі нам гэтую выкрывальную для іх справу! Не мы тут, а яны там, выбачайце, “сундуки!”

– Ну, дружа! – і стары Мураўёў, які шмат чаго пабачыў, чыніў, уразіўся. – Не тамі, патлумач атупеламу старцу свае пільныя назіранні.

– Уся соль, Міхаіл Мікалаевіч, у тым, што ніякага мецяжу тут магло і не быць. Каб не промах пецярбуржцаў, яго, мяцеж, мог прадухіліць вось гэты студэнт-беларусец, наш тайны агент.

У Мураўёва выцвілыя, цяпер вадзяна-шэрыя вочы палезлі на лоб.

– Гэты “покорный слуга Владимир”, як вы, Міхаіл Мікалаевіч, заўважылі, – пачаў далікатна тлумачыць Зайцаў, – мясцовы, родам з-пад Ашмянаў. Тут, у Вільні, скончыў гімназію і паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт, сустрэўся там з землякамі, сышоўся з нелаяльнымі да нашага ладу, асабліва з нацыянальна настроенымі. Праўда, сярод іх было нямала і нашых, рускіх, выкармленых на злачынных трызненнях герцэнаў ды чарнышэўскіх, а таксама палякаў і ўкраінцаў. Жыў ён, як і той жа Каліноўскі, у нястачы. Гэта і спажыла наша ахранка, падлавіла на дробязі, пагаварыла мякка і спакусіла грашыма. Вось і з’явіўся наш “покорный слуга Владимир”, “Владимир Иванов”. Часта прыязджаў сюды, у наш край, зразумела, па даверы “паплечнікаў”, па іхніх паролях і яўках знаўся тут з апазіцыйна настроенымі, выведваў ад іх патаемнае. Як заўважылі, якраз ён перасцярог нас, што ў красавіку 1861-га будзе тут студэнцкая зборня, пачаў пакрысе адсочваць будучых мяцежнікаў, эмісараў, такіх, як вольны слухач Маскоўскага ўніверсітэта Юльян Чаноўскі. Яго, “Владимира”, спецыяльна пасылалі з Пецярбурга ў Мінскую губерню выявіць, хто і дзе піша крамольныя адозвы, і ён падаў думку, што, скажам,

падбухторніцкую “Гутарку старога дзеда” мог скласці Дунін-Марцінкевіч. Сённяшнія платныя тайныя мінскія агенты, той жа вершаплёт Кубыльцаў, настойваюць на гэтым. Мінская ахранка ўзяла Дуніна-Марцінкевіча пад пільны назірк, робіць усё, каб ён не надрукаваў ні радка на беларускай мове. “Владимир” яшчэ памог выкрыць некалькіх ксяндзоў-падбухторшчыкаў, кадэта інжынернага вучылішча Мінейку, што летась валадарыў мяцежнікамі каля Ашмянаў, нелегальную бібліятэку ў Пецярбурзе...

Мураўёў слухаў вельмі ўважліва і, было відаць, яго вельмі цікавіла інтрыга з Пецярбургам.

– Увесну 1862-га, як ведаеце, Міхаіл Мікалаевіч, тут, у Вільні, палячышкі, беларусцы і жмудзіны пачалі выдаваць падпольны рукапісны часопіс “jednośc” – “Еднасць”. Мы, канечне, кінуліся шукаць пісакаў, што цешылі сябе ідэяй Рэчы Паспалітай, Вялікага Княства Літоўскага, – вёў далей Зайцаў. – І тут у чэрвені таго года трапляе нам у рукі ліст з подпісам невядомага нам “Уладзіміра”, прабачце, “Уладзіміра Іванова”. Уважліва чытаем. Адразу было бачна: аўтар-ананім яшчэ малады, кемны, дасведчаны ў патаемных справах зламыснікаў, але галяк. І, галоўнае, пажадлівы, без высокай маралі. Як кажуць тут, за капейку вош у Маскву пагоніць альбо родную маці прадасць. “Чуў, – піша нам, – што вы можаце даць 1600 рублёў за тое, калі хто падкажа, дзе рэдакцыя насцярожлівага для вас часопіса. Я не пасягаю на столькі, але мне цяпер трэба 800 рублёў срэбрам. Калі дасцё 200 ці 300 задаткам, то адкрыю вам таямніцу. Не дасцё – буду шукаць шчасця ў Пецярбурзе”.

Мураўёў апусціў вочы, захітаў галавою, але не падаў голасу, слухаў.

– Мы, Міхаіл Мікалаевіч, – не стрымаўся, пацешыўся сваёю праніклівасцю Зайцаў, – зразумела, абнюхалі кожнае слова. “Чуў” пра 1600 рублёў – сапраўды, мы тайным агентам абяцалі такія вялікія грошы за лухту, але на самай справе за агромністай сілы бомбу. Значыць, ананім ці з нашай службы, ці з нашых тайных агентаў, ці чорт ведае хто. “Мне цяпер трэба 800”, але возьме нашмат меншы задатак за ўведанае ім. Значыць, можна даць яму і не шмат. Усё роўна выдасць. І да ўсяго, дарагі Міхаіл Мікалаевіч, усіх нас не магло насцярожыць апошняе: “буду шукаць шчасця ў Пецярбурзе”. У разгадцы гэтай імпрэзы нямала патаемнасцей: ён у адчаі? палохае? Але для нас, сышчыкаў, выбачайце, Міхаіл Мікалаевіч, была і яшчэ адна пагроза: а раптам ён, гэты тыпус, правакуе нас, “сундуков”, па загадзе сталічнай ахранкі?

– А ці не быў гэта звычайны сукін сын? – усклікнуў Мураўёў, трасучы “сабачымі” шчокамі. – Ці не бессаромны вымаганец?

– Выбачайце, Міхаіл Мікалаевіч, але амаль так жа ўсклікнуў і генерал-губернатар Назімаў, калі я паказаў яму гэты ліст. Ды мая роля, Міхаіл Мікалаевіч, сціплая: я сказаў яму, што не трэба пасылаць к чорту нягодніка, яго трэба ўсё ж спажыць. Ён, заўважце, намякае і пра іншыя вывіжаваныя ім тайныя суполкі. А ён, дарагі Міхаіл Мікалаевіч, як відаць з сённяшняга дня, выводзіў нас ужо тады на такіх верхаводаў мецяжу, як Аляксандр Аскерка, Францішак Далеўскі, мог, чуеце, мог вывесці і на “генія” беларусцаў ці іхняга “дыктатара” Каліноўскага. Назімаў мяне паслухаў, загадаў даслаць ананіму задатак. Яшчэ ён падумаў-падумаў і дадаў: усё ж дашлі гэты ліст у пецярбургскую ахранку. Не будзем нічога таіць ад іх. Няхай разбіраюцца, хто такі “покорный слуга Владимир”, каго мы зачапілі на кручок. Ці няхай бачаць, што мы не паддаліся на іхнія штучкі-други.

– Ліс! – усклікнуў Мураўёў.

– І я, паверце, дарагі Міхаіл Мікалаевіч, – і шчыра, і лісліва імгненна прыляпіў правую руку да левай грудзіны, як кажуць, “да сэрца”, Зайцаў, – менавіта так падумаў. Такім чынам ён падстрахаваўся. Нават на будучыню. А Пецярбург, паўтаруся, заваліў справу. Мы тут з яе маглі многае вывудзіць, прадухіліць.

– А можа, і добра, Аляксандр Міхайлавіч, што не прадухілілі. Цяпер ёсць больш і спрыяльнейшы шанец выкараніць тут усю заразу, – сказаў Мураўёў. – Так што давай, дружа, Назімава не чапаць. Мы з табой возьмем на сябе і ўвесь цяжар расправы, і поспех ды славу пераможцаў.

Адразу ж воўчым нюхам-духам учуўшы змену настрою Мураўёва, абачліва падхапіўся Зайцаў:

– Ёсць, ваша...

– Ды сядзі, – махнуў-загадаў рукой Мураўёў. – Цяпер зразумеў: у Пецярбурзе, калі займелі на руках ліст з Вільні на “покорного слугу Владимира Иванова”, ускіпелі: а ты водзіш за нос, страшыш і нас? Ды з праціўнікаў імперыі і яе шчырых абаронцаў хочаш, мярзотнік, нажыцца?

– Так-так, Міхаіл Мікалаевіч, – падтакнуў Зайцаў. – Менавіта так. Вы ўсё мудра разгадалі. Агент-двайнік ці трайнік раздражніў іх. Вось яны і загадалі яму прынесці ўсё ім сабранае, патайное, разлічанае для продажу, а пасля ўсё гэта афармілі як здабытае іменна імі, злачынна ўчыненае ім, злачынным польска-беларусцам. Гэта, Міхаіл Мікалаевіч, подлы метад, але без яго часамі не абысціся.

– Разумею, – вяла сказаў Мураўёў. Памаўчаў. пасля, паколькі быў і ў старэчым узросце, але жвава-напорысты, папрасіў: – Падкажы, даражэнькі Аляксандр Міхайлавіч, што цяпер рабіць асабіста мне пасля твайго дакладу? Я маю вялікі козыр у руках супраць Пецярбурга. Тым больш цяпер, калі нейкія (ён сказаў не “нейкія”, а лаянкавае слова) нашы антыпатрыёты лемантуюць (замест гэтага таксама лаянка з лаянкі), Аўстрыя, Францыя і Англія сіпяць, што Пецярбург, я тут паводзімся як драпежныя звяры. Пецярбургу такой бяды, пашумяць-пакрычаць і сціхнуць, бо з ім нельга не лічыцца. А што са мной? Усё зверства тут зноў браць мне толькі на сябе?

– Гэта ваша вялікая місія, Міхаіл Мікалаевіч...

– Ды перастань, – шчыра, груба абарваў Зайцава Мураўёў. – Я зусім “не стары асёл”, “бульдог ці мопс”, як нават лічыце вы, ахранка. Я ўзваліў на свае плечы непамернае, грубае, злоснае, але для Расійскай імперыі неабходнае: я дзесяцігоддзямі тапчу, выразаю, высякаю тут усе парасткі мясцовага. Мяне хваляць, узнагароджваюць і мяне за гэта ненавідзяць у маёй любай, але сапраўды, дурной Расіі!

– Ды што вы, Мі...

– Памаўчы! – зноў груба абарваў яго, Зайцава, Мураўёў. – І ты, і я ведаем – і добра ведаем, – што робім тут страшэнную, нечалавечую работу, каб адразу ж знішчыць узыход кожнай нацыянальнай раслінкі.

– Міхаіл Мікалаевіч...

Мураўёў, узгарачаны, успацелы, зноў перапыніў яго ўзмахам рукі:

– Ладна, – паўтарыў. – Ты таксама не чуў, што я казаў у эмоцыях апошняе. Я быў, ёсць цвёрды: па маім загадзе не менш 128 мяцежнікаў пакараем смерцю, больш 12 тысяч вышлем на катаргу і пасяленне ў Сібір. Я даю табе, дарагі мне Аляксандр Міхайлавіч, даручэнне вялікай важнасці: складаць і складаць спісы ўсіх тых, хто не толькі прагне, але нават

імкнецца, як тут кажуць, “дыхнуць на поўныя грудзі”. Абарвем, не дадзім тут такога дыхання. Гэта – мой загад. І на далёкую будучыню!

– Ёсць! – зноў падхапіўся Зайцаў.

– Думаю, дарагі, што цар-вызваліцель і нас, “прыгоннікаў”, не пакрыўдзіць, – пажадліва прамовіў Мураўёў. – Мне дасць графа Віленскага, а ты станеш генералам.

– Дзякую, Мі...

Ды Мураўёў не даслухаў. Стомлена, але паважна седзячы на канапе, на падлакотніках якой выразаныя з дрэва львы, раптам жвава, з чорцікамі гуллівымі ў вачах, у чымсьці помсліва пасміхнуўся:

– Аддай гэтую папку Весяліцкаму. Няхай ён, балван, пашле па ёй свой даклад у Пецярбург. Няхай ён міжволі стане непрыемны, нават прыкры сталічнай ахранцы. Нам с табой дражніць яе ўсё ж не варта.

“Патриот Отечества”, “благодетель и хозяйственник”, “усмиритель-ветеран Северо-Западного края” граф Віленскі Мураўёў пажыў сыта, са старэчай буркатнёй на паслярэформавы лад, але не шмат. У 1866 годзе ён пакінуў гэты свет. У Вільні яму паставілі помнік, каб ён і мёртвы пільна глядзеў на край. Ды тутэйшая моладзь не давала яму спакою: абмазвала помнік воўчым тлушчам, дык уночы з усяго горада збягаліся бяздомныя брудныя сабакі і аббрэхвалі яго. Перад наступленнем кайзераўцаў на Вільню помнік вывезлі ўглыб Расіі. Абодва, ахвяра Каліноўскі і яго загубца, мелі рацыю: і сёння для адных Мураўёў – “вешацель”, “душыцель”, для іншых – “хозяйственник”.

Генерал Зайцаў “благочинно” дажываў сваё; “Уладзімір Іваноў” віжаваў сярод ссыльных і на поўначы, пісаў на іх даносы, выпрошваў сабе грошы і волю. Апошнія яго сляды губляюцца ў Архангельскай губерні за 1870 год. Як кажуць, так яму, мярзотніку, і трэба.

*2000 – 2004*



Андрэй Гуцаў



...я тваё заміранне
ты маё замірэнне...

# Скандал з нябёсамі й табой

* * *

Сон-дзяўчынка, сон-трава!
Дзеду трызніцца халва,
Птушкі лётаюць па двое.
Я ж – упіўся той травою!
З ёй шчаслівы да відна
Без віна і да п’яна!

Сон-дзяўчынка, сон-трава...
Дзеду трызніцца халва,
Дзеду мроіцца былое –
Не такое і такое,
Што і дзед яшчэ юнак.
Але ўсё даўно не так,
І старому – ні ражна:

Сон – дзяўчынка, смерць – жана!

*2008*

## *СКАНДАЛ З НЯБЁСАМІ Й ТАБОЙ*

Пра перакуленых людзей
у перакуленых аблоках
мне расказаў сягоння дождж,
нябеснай ісцінай сышоўшы,
свайго шукальніка знайшоўшы,
узбунтаваўшы белы свет:
спярша зруйнуй – пасля натхняйся,
перамажы – пасля змагайся,
а даказаўшы – прыкмячай:
вось Бог аглух,
вось дождж мінае,
за ім – твой гнеў...
...і адкрывае

*мой лёгкі спеў,*
крыху шызафрэнічны.

*2011*

## *З НАРОДНАГА*

Вырасла з маліны,
Звісла цераз плот
Чортава галіна
І грахоўны плод.

Хто пабачыць толькі –
Вочы аблізне,
Загадуе больку,
Новую зачне:

Тых – аблае матам,
Гэных – абплюе,
Засіпее гадам
І глузды прап’е!

Дый без дай прычыны
Лезе проста ў рот
Чортава галіна
І грахоўны плод.

Хоць ты лайся разам!
Хоць ты плюй у адказ!
Не мінеш заразы
Аніводзін раз.

...Як ідзеш Айчынай –
Вісне з году ў год
Чортава Галіна
З цыцкай цераз плот!

*2006*

### *ДА НАШАЙ ГАРМАТЫ*

Сабака-гармата. Звярыная зграя...
Вайна – гэта сучка, што ўсім падстаўляе.
Ты, Наша Гармата, не гаўкайся з імі.
Сядзі каля домкі, пільнуйся Радзімы.
Не раз дралі горла разважныя людзі:
САБАЧЫМ ВЯСЕЛЛЯМ
НЕ БЫЦЬ!!

Дык не будзе?

*2012*

### *ХРАМ ЗАЧЫНЕНЫ: МІСІЯ ЗАВЕРШАНА*

Над скрыжаваннем гэты храм.
Не відавочны мне і вам.

Налева – рынак, зручны кошт.
Направа – сервіс "Вынь-Палож".

Ля святлафораў гул аўто,
Быцця маток, жыцця каўток –

І воўк, ахрышчаны ў Тамбове,
Рве падлу Божае любові.

*2012*

### *ЗАВЕІ. СНЕЖАНЬ*

нерэальная дзяўчынка
так рэальна замярзае
і з сярэдзіны і скраю
і ў душы ў яе правальна
нерэальна нерэальна

і з прычын і без прычыны
спрэс канкрэтныя мужчыны
як маглі адагравалі
і ў далонях і ў астрале
да апошняе крывінкі
яе кожнай палавінкі
ажыўлялі абувалі
а вакол шалелі зімы
і ў іх гінулі мужчыны
немагчыма немагчыма

не пытайся болей дружа
што табе на развітанне
твайму тосту за каханне
я прыплёў
завея кружыць
і каму там так халодна
неістотна неістотна

*2011*

* * *

...а цябе разумеў я
і сябе зразумеў я
белы бусел таму
столькі часу таму
на мяжы ўратавання
і памежжы збавення
дзе тваё заміранне
і маё замірэнне
ад спаткання да рання
увесь лёс ды імгненне
на мяжы ўратавання
і памежжы збавення
і не доказ дыханне
і не дзіва здзяйсненне
пазабытых літанняў
і забытых маленняў
ад змяркання да рання
не згасае гарэнне
на мяжы ўратавання
і памежжы збавення
па-за граняй адхлання
спасціжэннем натхнення

іерархі без званняў
гарады без найменняў
па-за гранямі граняў
адчування адценняў
я тваё заміранне
ты маё замірэнне
і ад рання да рання
яркім-яркае сненне

цераз зімы таму
весні бусел таму
*2010*



Паліна Качаткова



...мова мусіць быць жывой...

# Хлопчык у кватэры №0

***Апавяданне***

Надыходзіць момант, і ў галаве ўключаецца гадзіннік.

Уначы і на досвітку гук гадзінніка найбольш выразны.

Гадзіннік уключаеццца, калі падзеі заканчваюцца, а жыццё перастае адбывацца, усё выглядае чужым, змяняе колеры і водары.

Разумееш – твой час сыходзіць, заканчваецца.

Прыадчыненая брамка зачыняецца.

Час таксама зменіцца. Час да з'яўлення гадзінніка пачне сціскацца – успаміны сціраецца, а пасля з'яўлення гадзінніка час будзе, як жэлацінавае жэле – вязкі, бессэнсоўны. Пазачасовае жэле. Час, у якім адбываецца тое, што не мае ніякага дачынення да цябе.

Як адчуць той момант, калі жывое жыццё ператвараецца ў гісторыю альбо забыццё?

Красавік. 1997 год.

У Мінску на асфальце праспекта Францыска Скарыны хістаюцца цені дрэваў. Вецер кідае пыл на вусны.

Парэшткі зімы яшчэ не змытыя дажджамі.

...Твары ў красавіку ўражваюць – быццам людзі выйшлі з падзямелляў: колеры – зямля са снегам.

Красавік 1997 года. На Плошчы Незалежнасці каля Чырвонага касцёла нешта гарэла і дыміла.

Дзяўчына выйшла з паштамту. Яшчэ адчувала пах клею ад пасылкі.

– Дзялімае – недзялімае?

Незразумелае пытанне задала дзяўчыне супрацоўніца на Галоўпаштамце.

– Што?

– Дзялімае – недзялімае? – супрацоўніца паштамта зрабіла рух рукамі – быццам раздзірае нешта на часткі.

І тады дзяўчына зразумела, што пытанне тычыцца пасылкі: “дзялімае” – гэта тое, што дзеліцца на часткі, а “недзялімае” – гэта адна рэч, якая не дзеліцца.

– Дзялімае, – адказала, здала пасылку, а пасля з пахам клею і абгортачнай паперы на руках выйшла з Галоўпаштамта – з бакавога выхаду, на вуліцу імя Свярдлова.

Каля Чырвонага касцёла хістаўся натоўп і гарэла пудзіла. Ужо дагарала. Пудзіла, падобнае да таго, што спальваюць на Гуканні вясны. Толькі там пудзіла жаночае, а тут – мужчынскае.

Тое, што пудзіла – не жаночае, а мужчынскае, дзяўчына паспела зразумець – па агульных абрысах. Пудзіла не паспела дагарэць, звалілася пад ногі натоўпу. Яго затапталі.

Дзяўчына пайшла да Чырвонага касцёла.

Натоўп тым часам яшчэ больш захваляваўся.

З Чырвонага касцёла выйшаў ксёндз і стаяў ля дзвярэй. Назіраў.

Дзяўчына ўбачыла калегу з маленькім сынам – школьнікам малодшых класаў. За спінаю ў хлопчыка быў ранец.

– Пачакайце тут ля касцёла, – сказаў калега і кінуўся ў натоўп.

Дзяўчына засталася стаяць з хлопчыкам ля касцёла. І адначасова натоўп, як пчаліны рой, зняўся з месца і рушыў да паштамта і на праспект. І амаль адразу на мяжы Плошчы з праспектам з’явіліся людзі ў шэрай плямістай форме, у шлемах, падобных да яек. Чорна-шэрых бліскучых яек. Яек дыназаўраў. Яек, з якіх нараджаюцца цмокі.

Людзі ў форме хутка прабегліся і выцягнуліся ў ланцуг, які падзяліў натоўп на часткі: калона рушыла па праспекце ўздоўж паштамта, рэшта людзей засталася на Плошчы.

Тых, хто застаўся ля касцёла, рабілася ўсё меней яны разыходзіліся, ксёндз таксама сышоў.

Дзяўчына загаварыла з яшчэ адным знаёмым, які стаяў з транспарантам. Лозунг на ім яна нават прачытаць не паспела. Хацела параіцца, што ёй рабіць, але знаёмы сказаў:

– Час пікету скончыўся.

Згарнуў транспарант і паспешліва сышоў.

Трэба было рухацца, стаяць на месцы не мела сэнсу.

– Мы можам пайсці рознымі шляхамі, – сказала дзяўчына хлопчыку. – Ты бачыў калі-небудзь турму? Я пакажу табе турму. Паспрабуем прайсці праз гэтыя шэрагі, можа, яны нас прапусцяць.

– Я хачу ісці так, каб бачыць тату.

Дзяўчына глянула ў бок паштамта. Там над галовамі людзей уздымаліся і апускаліся міліцэйскія дубінкі.

– Значыць, мы хутка пройдзем каля турмы, выйдзем на праспект каля крамы пласцінак. І там пабачым твайго тату...

Яны рушылі да Валадаркі, прайшлі праз ачапленне. Іх моўчкі прапусцілі – людзі з яйкамі на галаве.

Прайшлі ля белых турмных муроў, і па вуліцы імя Валадарскага выйшлі на праспект. Карціна была, як у сне – з аднаго боку праспекту па ходніках ішлі людзі, як звычайна, а на другім баку амапаўцы змагаліся з дэманстрантамі – махалі дубінкамі.

– Дзе тата? – спытаў хлопчык.

– Там.

Было страшна і няясна, чым скончыцца. Каля ГУМа зноў ланцуг, зноў круглыя бліскучыя галовы ў шлемах.

І дзяўчыну з хлопчыкам зноў прапусцілі, расступіліся перад імі. Моўчкі. Праз арку дзяўчына з хлопчыкам зайшлі ў двор, пасля ў пад'езд, дзе на першым паверсе жыла дзяўчына.

У кватэры дзяўчына ўключыла тэлевізар – толькі дзве праграмы паказвалі добра, так, што можна было глядзець – беларуская і расейская.

– Ёсць мульцікі, і ёсць навіны, што будзеш глядзець? – звярнулася на да хлопчыка.

– Навіны.

Канал быў расійскі, але паказвалі навіны з Мінска.

*"...черепно-мозговые травмы, по некоторым сведениям, есть убитые..."*

Забітыя?!

Хлопчык сядзеў на канапе з цёмна-бардовай абіўкай перад тэлевізарам. Канапу дапамагла выбраць і набыць сяброўка. Добра дапамагла, нібыта набывала для сябе. Разам ездзілі ў Дом мэблі на Камароўцы. Цёмна-бардовая канапа, абабітая матэрыялам, падобным да плюшу, з выпуклымі хвалямі, у раскладзеным выглядзе вельмі нізкая – як матрац, які ляжыць на падлозе. Канапа падабалася дзяўчыне. За выбар канапы яна была ўдзячная сяброўцы.

З намі не можа адбыцца нічога такога, чаго няма ў нашай падсвядомасці. Але побач з намі можа існаваць нешта не нашае, нябачнае, ледзь адчувальнае і незразумелае, тое, што побач з намі, але не належыць нам, а прыцягвае здарэнні і людзей? Было ж такое, што адчувала ў гэтай кватэры дзяўчына пах, рэзкі пах адэкалону, які невядома каму належыць. Пах моцнага тытуню. Не наш час, не нашыя пахі – рэзкія, выразныя, добра акрэсленыя. Суседзі падказалі, што раней, ад самага пачатку, як збудавалі дом, у кватэры не жылі людзі. Тут была службовая кватэра, у якой супрацоўнікі савецкіх спецслужбаў сустракаліся са сваімі пазаштатнымі агентамі. Вельмі зручна – зайшоў у арку, павярнуў направа, у пад'езд, і адразу кватэра на першым паверсе.

Між тым хлопчык глядзеў навіны па НТВ.

Па тэлевізары перадалі, што на акцыі ў Мінску ёсць параненыя і забітыя. Хлопчык моўчкі з жахам паглядзеў на дзяўчыну.

– Пайду гатаваць вячэру, – сказала хлопчыку, – павячэраем разам, пакуль твой тата прыйдзе цябе забіраць. Ён ведае, дзе я жыву.

Па доўгім калідоры яна прайшла на кухню. Прадуктаў было зусім мала. Была недапітая бутэлька каньяку "Метакса", бульба, алей. І

дзяўчына пачала гатаваць страву, якую яшчэ адна яе сяброўка называла “паранае-жаранае”. Гэтую сяброўку дзяўчына вельмі паважала за тое, што тая скончыла сапраўдную беларускую школу ў вёсцы і ведала азначэнне, дадзенае Леніным матэрыі, па-беларуску: “аб’ектыўная рэчаіснасць, дадзеная нам у адчуваннях”. І для той сяброўкі беларуская мова была роднай, жывой, яна ведала шмат словаў, якія сапраўды жылі, у гэтым сэнсе дзяўчына вельмі ёй зайздросціла, бо самой давялося вывучаць беларускую мову толькі па кнігах, дзе не было нічога пра “паранае-жаранае”. Мова мусіць быць жывой.

Страва прыгатавалася хутка, але хлопчык прапанаваў пачакаць тату і не вячэраць без яго. Дзяўчына падышла на кухні да вакна, узялася знізу за шырокае, драўлянае, шмат разоў пафарбаванае і няроўнае знізу падваконне, падумала: чым усё скончыцца? Адказу не ведала, нават прыкладна.

Тэлефона ў кватэры не было. І дзяўчына пакінула хлопчыка ў кватэры, пайшла на вуліцу да тэлефона-аўтамата на скрыжаванне вуліцы Леніна і Маркса, да дома, дзе крама “Каўбасы”.

Дзяўчына набрала нумар сядзібы руху, які арганізоўваў акцыю.

– Акцыя скончылася, усе разышліся, – паведамілі ёй.

– А дзе Алесь? – спытала дзяўчына.

– Дома відаць ужо! – адказалі ёй весела. Там смяяліся і нешта жавалі.

– Не, не дома...

Пасля дзяўчына набрала нумар тэлефона сяброўкі, той, якая скончыла беларускую школу, спытала: “Што рабіць?”

Сяброўка прапанавала сказаць, што тата заняты, што ён перадае сыну, каб клаўся спаць, а зранку яго забярэ.

Дзяўчыне не хацелася падманваць хлопчыка. Але што яшчэ можна было сказаць?

Дзяўчына гаварыла па тэлефоне гучна, а калі скончыла размову і павярнулася да скрыжавання, то ўбачыла, што каля параднага пад’езда дома, дзе музей Петруся Броўкі, стаяць людзі ў цывільным, кураць і прыглядаюцца да яе. Перагаворваюцца.

Не хапала, каб яшчэ яе забралі. Дзяўчына хутка пабегла ў кватэру. Сказала хлопчыку тое, што ёй параіла сяброўка.

Хлопчык паверыў, ці не паверыў, але паслухаўся, папрасіў дазволу памыць ногі і лёг спаць на канапе.

Дзяўчына прычыніла дзверы пакоя, патушыла там святло і ў калідоры таксама патушыла. Сваю пасцель перанесла на кухню.

Доўга стаяла каля вакна. Спадзявалася, чакала. Нічога, нікога.

Лягла спаць на падлозе, прыслухоўвалася да гукаў пад зямлёй. Недзе там пад падлогай была развілка метро. І там пад падлогай увесь час адбываліся таемныя падземныя рухі. Пад іх дзяўчына і заснула.

Пад раніцу пад зямлёй зноў ажыло метро, задрыжэў паркет – пад домам, пад зямлёй цягнікі разыходзілся па розных адгалінаваннях.

Раніца не прынесла зменаў і навінаў. Ніхто не прыйшоў.

Дзяўчына збегала ў краму, набыла рыбных палачак, глазіраваных сыркоў. Паснедалі. Узялі ранец і пайшлі на працу ў Траецкае прадмесце.

Жанчыны на працы здзівіліся, калі пабачылі дзяўчыну з хлопчыкам.

– А дзе Алесь?

Дзяўчына паціснула плячыма.

– А вы патэлефануйце... – і назвала сябра Алеся.

– Добра. Але зараз мы возьмем батон і пойдзем карміць качак на Свіслачы, – сказала дзяўчына.

Узялі батон, знялі ранец. Школа адмянілася. Пайшлі на Свіслач. Сонца. Красавіцкае сонца на хвалях. Качкі. Сонца блішчыць на зялёных шыях. Дзяўчына вучыла хлопчыка адрозніваць самца ад самак.

– Самец заўсёды яркі, самка шэрая.

Качкі елі батон, да іх далучыліся драпежныя чайкі – хапалі белы хлеб у паветры.

А пасля хлопчыка забраў да сябе сябра таты.

А яны пачалі тэлефанаваць паўсюль, куды тэлефануюць, калі чалавек знікае раптам з вуліцы і яго нідзе няма.

Знайшлі ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска.

Пайшлі туды з сяброўкай, той самай, якая дапамагала выбіраць канапу.

Быў суд, прысудзілі штраф.

Каля Мастацкага музея, паставіўшы нагу на тумбу з вялікім каменным шарам, Алесь уцягнуў шнуркі ў чаравікі. Шнуркі забралі пры затрыманні.

Яго забралі каля таго самага дому, дзе музей Петруся Броўкі. Тыя самыя людзі ў цывільным.

Утрох яны зайшлі да дзяўчыны, выпілі "Метаксы" за вызваленне.

А пасля тата паехаў забіраць хлопчыка.

Гісторыя скончылася.

У хуткім часе шмат людзей пачалі шукаць сваіх блізкіх, якія знікалі пасля мітынгаў. Але тое тычылася будучыні, якая толькі наступала. Тады ніхто не ведаў, што будзе далей.

Дзяўчына вярнулася ў кватэру.

На паркеце ля канапы ляжаў недапісаны ліст да сяброўкі ў Канаду:

"...думаю пра рэальнасць сноў. Цікава, што ў мяне няма і не было (можа, хіба пару разоў у жыцці) кашмараў або сноў, у якіх на мяне нападаюць і мне трэба абараняцца. Але маю некалькі падобных па змесце паўтаральных сноў. У першым я ў вялікім гатэлі і ведаю, што недзе ў ніжніх падземных частках гатэлю ёсць добрая саўна і басейн, І я падыходжу і гляджу – бачу людзей у вадзе. Мне ўсё падабаецца, а потым я іду ў нумар, каб пераапрануцца, але замест распраналак трапляю ў анфілады брудных прыбіральняў і ў выніку не трапляю ў ваду. І тое ж самае пра мора – я пачынаю ісці да мора, але на дарозе бетонныя агароджы, калючы дрот, тупікі. Хаця ў сне пра мора некалькі разоў трапіла да вады, але яна была пякуча-халоднай".

*Мінск, красавік 2016 года*



Тадора Шпілька



...настольнай лямпы цень пачварны
разлёгся на паперах
і вершы сцеражэ старанна,
каб з'есці на вячэру...

# Паўднёвы вецер

* * *

Сытае сонца. Яно на сняданак
Кашы наелася з рэшткаў туману.

Белыя чайкі на золаце рэчкі
пасвяцца, быццам на лузе авечкі.

Восень сплывае ці мы адплываем
у непазбежнасць зімовага раю.

Нізкае сонца. Гарачая кава,
І цішыня атуляе ласкава.

І падаецца, што так было вечна.
...Восеньскі дзень дагарыць, нібы свечка.

* * *

Я чакаю зіму, і ў пакой да мяне
скрозь замкнёныя дзверы ў цаглянай сцяне

залятае натхненне ў нябесным святле,
каб нататнік ажыў на пісьмовым стале.

У далонях натхнення сціскаецца час,
засынае, скруціўшыся колцам на час.

І здаецца: мажлівага межаў няма.
Лепей не пачынайся ніколі, зіма!

Я хачу цябе вечна, бясконца чакаць
і натхненне маё кожны дзень сустракаць!

* * *

Калі мы прыедзем з табою ў Варшаву,
найперш пакаштуем мясцовую каву

і пойдзем бадзяцца па Рынкавым Пляцы,
натхненне жывіць Каралеўскім Палацам,

адценнямі восені і прадчуваннем,
што каву паўторым не раз у кавярні.

Пасля будзем доўга дзівіцца на Віслу
на кожным з мастоў, па-над Віслай навіслым,

і па набярэжнай гуляць да знямогі,
глядзець, як у хвалях знікаюць трывогі.

Я ведаю, спраўдзіцца гэта калісьці...
І золатам стане саспелае лісце.

* * *

Так проста і звыкла палётаць у сне –
плывеш у паветры, як рыба ў вадзе.
Адно толькі сонца вышэй за мяне.
Ніколькі не страшыць уніз паглядзець.

Пасля абуджэння не здолець згадаць
адразу: на яве не можаш лятаць.

Ды расчараванне
міжволі растане
ў адценнях і клопатах рання.

* * *

У нашым доміку ў Палерма пахнуць кавай
усе без выключэння рэчы.
Званкі, абдымкі і сустрэчы
і цені нават.

З акна на кухні панарама ў бок Айчыны.
Аблокі, чайкі, самалёты
туды ж сплываюць ад спякоты
над морам сінім.

А мы з табою выпраўляемся да Этны,
каб узыходжанне з Усходу
па стромкіх схілах без прыгодаў
ці з імі здзейсніць.

І сонца спальвае праменнем
усе шляхі да адступлення.

* * *

Як хораша цябе любіць здалёк,
мой Мінск, ты на адлегласці раднейшы.
І вочы з сумам пазіраюць у твой бок
(чым больш здалёк, тым гэты сум святлейшы).

І я мяркую, што ўзаемна
мой Мінск па мне сумуе, пэўна.

* * *

Я залежная ад цябе,
як ад вясны – бэз,
ад дозы сваёй – наркаман,
ад кавы глытка – каваман.
І нават болей.

Няма без цябе мяне,
як жоўтай лістоты ў вясне,

як рэчкі без берагоў,
як дрэва без каранёў,
без нерваў – болю.

### *КАЛЯДНЫ ВЕРШ*

Кубак разбіты і чай на падлозе.
Хтосьці ля лужыны спіць у знямозе.
Хтосьці, зваліўшыся проста пад елку,
сунуў пад шыю пустую бутэльку.
Нават сабака стаміўся здзіўляцца
ўсім выдурненням і жартам сваяцтва.
Уладкаваўся ва ўзножжы канапы,
мірна пасопвае, звесіўшы лапы.
Соннае царства з паважнай нагоды –
першая раніца новага года.
І дапаўняе ідыліі пэўнасць
храпа зацятага зладжанасць, спеўнасць.
Свята ўдалося! У сонечных бліках
згаслі мінулыя крыўды ды бзікі.
І паяўляюцца ў сонным пакоі
новых надзей легкакрылыя строі...

* * *

радасць сцякае слязой па шчацэ
хораша спіцца замерзлай рацэ
неба скарынка зламаная льду
вечар прылёг адпачыць на ваду
там дзе мяжою на зломе зіма
вострым асколкам параніць сама
вен сваіх тонкіх блакітны сувой
снег паплыве за гарачай крывёй
мы ж застанемся о радасць мая
знічкі лавіць у прасветах галля

* * *

вечаровая завіруха
рукі яе
і рухі
бездапаможная
лютасць яе
і скруха

б’ецца ў вакно
цьмянае дно

але я сёння
ў пастцы бяссоння
яна
ведае:
я ў яе ёсць адна

таму мне не зведаць дна

* * *

поўні лязо неадменна
рэжа блакітныя вены
выкінеш з сэрца мяне
на прасціне
крокі пачуеш і ў дзверы
нехта пагрукае ў цемры
– хто?
і адкуль? і нашто?
– не запалі святла
бо да цябе прыйшла
пачварная
воля твая
...поўні лязо неадменна
рэжа блакітныя вены

* * *

Скрозь сцены бальнічнай палаты наўпрост
паўстаў ад цябе да мяне гэткі мост,

што я адчуваю, як сонца цяпло
далоні твае нібы котка знайшло.

Як вецер палошчацца ў соннай траве
і як самалёт цераз неба плыве.

І наканаванасці рукі тады
таемна адводзяць ад слёз і бяды.

І смерці няма, і нябыту няма.
...Усе перамогі падобны на смак.

* * *

Ты крылы загоіш, паранены птах,
і мужнае сэрца адолее страх
нязведаных крокаў на той вышыні,
адкуль не разгледзець мінулыя дні.
Дзе холад паветра дыханне пячэ,
дарога да зорак скрозь сэрца цячэ.
І нават калі моцны вецер у твар
і сонца не ў стане прабіцца з-за хмар
ты *будзеш*, ты *здолееш*. Веру, мой птах.
У крылаў тваіх на паўнеба размах.

* * *

старой вярбы лістота
маладая
і неба пазалота
усё наскрозь спявае гімн жыццю
і радасць і натхненне ажываюць
на самым дне
тваіх вачэй
на сонцы колеру лістоты маладой
вярбы старой

* * *

Мы ўзірацца не будзем у бездань між хвалямі Шпрэе.
Бездань бездань гукае, і кліча, і вабіць, і грэе
ў нас саміх. Неадольна, няспынна, нязменна, надрыўна
над аблокамі Мінска, Нью-Ёрка, Палерма, Берліна...

* * *

дарога пахне
морам і ўспамінамі аб тым
чаго ніколі не было
дарога ў верасень
дарога да цябе
мой недасяжны поўдзень
мне з вышыні відаць усё
і парашут-крыло
мяне перанясе праз буралом
там дзе аўто не пройдзе
і сонца не апаліць бо
халоднае яно

і змерзлымі рукамі я трымаю стропы
а ты ў сваім
паўднёвым горадзе
глядзі ў вакно
глядзі на мора
хвалі на пяску
напішуць з вершаў маіх строфы

* * *

Панцыры мокрай бліскучай лістоты
Ловяць адбіткі кашлатых аблокаў
Сонца далоняў апошні дотык
І непазбежнасць крокаў
Восень мая пашкадуем тых
Сам хто шкадуе ўсіх
Забываючы пра сябе
Мой alter ego надрыўная восень
І цішыні асколкі
Ў сэрцы нібы іголкі
Неба без дна акіян і крывёю
Дрэвы па ім ... і на момант здалося
Стала душа жывою

* * *

*В.П.*

Ілюзія адзіноты.
(Ілюзіяй можа быць
і яе адсутнасць).
Ты бачыш усмешку ў Вачах Таго,
Хто побач з табой заўсёды,
ты чуеш, ты памятаеш Яго?
І тых, каго смерць баіцца,
смерцю пужаць не трэба.
...Ён тут. Ён з табой.
Нібы акіян і неба.
Паслухай сэрцам Яго прысутнасць

* * *

Настольнай лямпы цень пачварны
разлёгся на паперах
і вершы сцеражэ старанна,
каб з'есці на вячэру.

А мой кудлаты цень стаміўся
і марыць пра адхланне.
Хутчэй бы ў ложак паваліўся
і спаў бы да світання,

каб у душы не гэты верад,
не слоўныя акорды.
І вось лятуць радкі наперад,
што лямпы цень накормяць...

* * *

у кошык з далоняў
натхненне збіралі
і сонца і блікі на хвалях
і вецер нагрэты
і сцежку між дзюнаў
і лета
трохмерны малюнак
імгненні марозівам раставалі
калі жыватамі хвалі
бяздумна скакалі
на выгіны спін берагоў
пахла паветра
ўрачыстым чаканнем
не ведаючы чаго

* * *

прытулак у ценю тваім
знайшоў сабака
забылі апачы
што значыць
плакаць
дарога змагання
ў сэрцы дазвання
адзіна мажлівы твой
вар'яцтва напой
глыток што на дне
пакінь для мяне
на ўдачу
бачыш
я больш не плачу

* * *

там дзе анкер шукае глыбіняў
дзе паўночнае ззянне
паглынае каханне
чырвоныя промні
на чорным бяздонні
метафізіка болю
ракой нада мною
я халодная муза
у праліў Лаперузы
у арктычныя плыні
і мой камень на шыі
там дзе анкер шукае глыбіняў
...не смуткуй бо канец Адысеі
ёсць пачатак для новай дзеі
і анёл твой
з табой
я яму падарыла б букецік камелій

* * *

гарачы паўднёвы вецер
калыша цені
чароды шпакоў крыкліва
купку змярцвелых дрэваў
апанавалі
лета
перацякае ў восень
амаль непрыкметна
і толькі лісце сухое
ўсё больш красамоўна
маўчыць пра тое

проза

Зараслава Камінская



...ты хочаш, каб я напісаў,
што ненавіджу Беларусь?...

# Гульня словаў

***Апавяданне***

***27 кастрычніка, 3:37 раніцы***

Па яго прыйшлі а палове на чацвёртую. Максім ведаў: хапун пачынаецца ў гэты час.

І быў бы расчараваны, каб яго не забралі вось так, традыцыйна, сярод ночы: то б значыла, што там, на тым баку, ставяцца да справы несур'ёзна і нічога ў іх не атрымаецца. А зараз усміхнуўся, пабачыўшы пад вокнамі чорны "варанок": усё як трэба! Гульня пачынаецца!

"Так, не ўсміхайся мне тут, – угаворваў ён сябе, – усё сапсуеш, патрэбны іншы настрой. Ты – перапалоханы, табе жудасна, бо ты чуеш крокі на лесвіцы і ведаеш, што на гэты раз забяруць цябе. Твае ногі саслаблі, сэрца калоціцца, і марная надзея: можа, не спыняцца, пойдуць вышэй? Хочаш бегчы, але няма куды: суседзі не схаваюць. Ты сам-насам са сваім жахам. Загнаная жывёла".

Але ўсё роўна ўсмешку стрымаць было складана, калі ў дзверы пагрукалі:
– Товарищ, откройте, это НКВД.

***Праз паўгадзіны***

З машыны ён выйшаў сам, прагна ўдыхнуў вільготнае начное паветра, бы ў апошні раз, і склаў за спінай рукі – загаду не было, але здаецца, менавіта такога руху вымагалі абставіны.

Два "таварышы з НКВД" павялі яго да двухпавярховага старога будынка: лесвіца ў сутарэнне – калідор – калідор – калідор – цьмяныя лямпачкі – калідор – нейкі пакой і – моцнае электрычнае святло ўдарыла ў вочы.

– Максім, нарэшце, ну, як табе пачатак?

Зноў з'явілася непатрэбная ўсмешка:

– Марк, усё файна. Раніца, машына гэта, "Товарищ, откройте, это НКВД"! О, тут партрэт Сталіна на сцяне – атмасферненька.

– Кабінет следчага. Яшчэ дэталі дапрацоўваю. Не ведаю, тут цябе па правілах трэба абшукваць ці... Усё роўна іншага памяшкання пакуль няма, таму дазволь, я крыху паляпаю па тваіх кішэнях.

– Вы і так занадта цырымонны, таварыш следчы.

– Без жартачак, таварыш падазраваны ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Так, гэта я мацаць не буду, але што гэта ў цябе ў задняй кішэні джынсаў?

– Блін, айфон! Збіраўся дома пакінуць, але па звычцы...

– Прабач, забяру. Зусім не таго часу дэталь, ды і нельга. Яшчэ вазьму гадзіннік і ключы. Дарэчы, як ты ў каханай сваёй на выходныя выпрасіўся?

– Насця ў мяне цудоўная, у яе выпрошвацца не трэба. Мая палова, будучая маці маіх дзяцей, усё такое.

– Гатовы?

– Заўжды гатовы. Пачынай свой квэст.

***Месяц таму***

Максім сустрэўся з Маркам выпадкова, у кавярні.

Праз два old fashioned яны ўзгадалі old times – гадоў шэсць-сем таму былі ў адной камандзе і ганялі па Менску ў гарадскія квэсты:

– Марк, а я памятаю, як ты таму, з іншай каманды, нос зламаў!

– Калі б не зламаў, мы б прайгралі, а так кубак наш.

– Дык цябе ж выключылі! І гэта ж гульня, а кубак – лялечны!

– Ну, мяне выключылі, але каманда перамагла. І я ніколі не стаўлюся да гульні як да нечага штучнага: гэта – іншая рэальнасць, і ты павінен жыць яе правіламі. А галоўным правілам тады было: твая каманда павінна перамагчы. І мая каманда перамагла.

Пасля гэтага выпадку Марк стаў капітанам, а Максім усе гады гульні заставаўся ціхім "мозгам", чый абавязак – шукаць падчас квэсту адказы на пытанні.

– Ты кажаш "гульня". А зараз ведаеш, які мой бізнес? Некалькі квэст-румаў па Менску. То бок, зараз я ствараю рэальнасці і распрацоўваю правілы. Дарэчы, мне патрэбна пратэставаць сцэнар новага квэсту. 37-мы год, рэпрэсіі, дапаможаш? Паўтарыце old fashioned!

І яны дамовіліся: Максім стане першым наведнікам новага квэст-руму, складзе водгук і падрыхтуе парады па дапрацоўцы.

– Пачнем зараз жа: рэгіструйся на сайце, і табе прыйдзе электроннае

паведамленне, калі рыхтавацца – хутчэй за ўсё, у пятніцу ці на выходныя. Так, гартай-гартай, вось тут унізе цісні “Я згодны з правіламі”. І подпіс на паперы: такая стандартная бюракратычная працэдура перад квэстамі, што ты адэкватны. Табе на скрыню павінна было прыйсці пацверджанне аб рэгістрацыі. Не прыйшло? Вось, першы баг знайшоў. Ужо дапамог, тэсціроўчшык, а гэта толькі пачатак!

***Зноў 27 кастрычніка, 4:30 раніцы***

Максіма прывялі ў камеру – маленькі пакой, акенца пад столлю, у куце – дзірка прыбіральні. Адзіная лямпачка: цьмяная, жоўтая, бы падгнілая цыбуліна. Больш нічога не разгледзеў, але адзначыў: “Пакойчык тэст прайшоў, антуражык добры”.

“Таварыш з НКВД” даволі моцна штурхануў яго ў плечы, каб не стаяў у праходзе: Максім ледзьве не ўпаў на нары, але сказаць нічога не паспеў – дзверы зачыніліся.

І як толькі вочы прызвычаліся да змроку, пачаў шукаць у камеры падказкі – яму ж трэба выбірацца. Ці рабіць падкоп? Ці што? На падлозе, пад матрацам, пад ложкам былі раскладзеныя нейкія рэчы. Максім вырашыў адшукаць іх усе, а пасля будзе пасля.

І некалькі разоў спінаю адчуваў: за ім назіраюць у вочка.

***27 кастрычніка, пэўна, 6 раніцы***

Добрыя навіны: ён зразумеў тэматыку квэста. Дрэнныя навіны: не зразумеў, што рабіць зараз. Ні ключа, ні падказкі, што патрабуецца далей па сцэнары.

Пагрукаў у дзверы:

– Гэй, вядзіце начальніка, я ўсё раскажу!

Ніхто не адказаў. Пэўна, так трэба: чаканне тут – такая ж дэкарацыя, як падрапаная брудная сцяна.

Матрасік танненькі, коўдра калючая – але ён усю ноч не спаў, таму вырашыў хоць крыху падрамаць.

***27 кастрычніка, дзесьці 7 гадзін раніцы***

Паспаць не атрымалася: як толькі заплюшчваў вочы, нехта пачынаў грукатаць за дзвярыма чымсьці жалезным.

Максім мармытаў: “Гэта ўжо не квэст, а нейкія здзекі” і спрабаваў накрыць галаву падушкай, але лепей ад гэтага не стала.

***27 кастрычніка, 9:02***

– Так, зараз дзевяць гадзінаў раніцы і дзве хвіліны. А ты ўжо прайшоў квэст?

Марк крыху нахіліў галаву і дэманстрацыйна паапладыраваў.

– Я разгадаў час і ўмовы, а больш, здаецца, нічога ў гэтай камеры і не зробіш.

– Паслухаем, да якой высновы ты прыйшоў, – Марк прысеў на ложак, а “два таварышы” (трэба будзе адзначыць, што тое ўжо занадта – паўсюль вадзіць іх за сабой: кліентаў гэта можа палохаць) засталіся ў дзвярах.

– 1937 год, як ты казаў, масавы хапун беларускай інтэлігенцыі, але ў маім выпадку справа тут, здаецца, тычыцца пісьменнікаў. Ты раскідаў па

пакоі амаль адразу зразумелыя рэчы: сухую кветку, пачак з-пад зубнога парашку з зацемкамі і сцізорык.

Па-першае, лічу, што кветка сімвалізуе “Кветку пажоўклую”, аўтар – Міхась Зарэцкі, расстраляны ў 1937-м. Па-другое, як мы бачым, на пачку зубнога парашку ў нас – лісты дадому Адама Бабарэкі, вось яго подпіс і яго словы: «И духом и телом я остался непарушны и чисты, как и был им всегда...» Арыштаваны ў 1937-м, сасланы, памёр у лагерах. А сцізорык – я толькі ўзгадаў Купалу, які спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, але гэта хіба: ён спрабаваў разрэзаць сабе жывот раней, у 1930-м, калі на яго павесілі кіраўніцтва сфабрыкаваным “Саюзам вызвалення Беларусі” – на такую “адказную” пасаду можна было прызначыць толькі яго і Коласа. Спроба самагубства была няўдалай, але гэта як паглядзець: пасля яе ад класікаў адчапіліся.

– Часам сцізорык гэта толькі сцізорык, Максім. Пэўна, яго выпадкова тут згубілі будаўнікі, калі па маёй замове выразалі на сцяне літары. Ужо развіднела, таму ты павінен быў заўважыць гэты цудоўны верш – галоўнае аздабленне камеры. Але святла недастаткова – недахоп, выпраўім, а зараз – чытай, – Максім уключыў ліхтар.

Тое, што ў змроку здавалася драпінамі, выявілася словамі:

Я не чакаў
І не гадаў,
Бо жыў з адкрытаю душою,
Што стрэне лютая бяда,
Падружыць з допытам,
З турмою.

Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне заціснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары, —
Кажу вам — я не вінаваты!

– Наўрад ці пазнаеш, Максім? Гэтыя словы належаць Міхасю Чароту. Ён ухваляў рэпрэсіі сваіх калег-пісьменнікаў: «Суровы прыгавор падпісваю першым». А пасля Міхася і самога арыштавалі. І расстралялі ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, разам з тымі, каму ён “падпісваў прысуд”.

Яго сябра, Хведаровіч, выпадкова трапіў у камеру, дзе Чарот надрапаў на сцяне свой апошні верш: уяўляеш, апошні верш і яго адзіны чытач? Ды часам, як бачыш, і аднаго чытача дастаткова, каб твор працягваў жыццё.

А я ўсё думаю, калі Чарот шкрэб тыя камяні, ён узгадваў белую паперу, на якой пісаў усё жыццё?

– То бок, я не памыліўся: рэпрэсіі, пісьменнікі, а пытанне з асвятленнем камеры ты вырашыш. Зараз я б пайшоў, выпіў кавы, бо ад тэставання гэтых нар усё цела ные.

– Квэст не скончаны, самае цікавае яшчэ наперадзе – абяцаю. А зараз віншую: ты пераадолеў першы ўзровень, таму зараз прынясуць пад’есці.

Адзін з “таварышаў” прыйшоў з талеркай нічшымнай кашы і кавалкам шэрага хлеба. Маленькім кавалкам. Максім з павагай ставіўся да дэталяў, таму згадзіўся, што нічога іншага прынесці было немагчыма.

Калі ён даеў, посуд забралі і пакінулі яго ў камеры аднаго, з вершам.

***27 кастрычніка, недзе 10 гадзін***

Ніхто не прыходзіць.

***27 кастрычніка, недзе 13 гадзін***

Ніхто не прыходзіць.

***27 кастрычніка, недзе 15 гадзін***

Ніхто не прыходзіць.

***27 кастрычніка, здаецца, вечар***

Максім не вытрымаў: хопіць, ужо нагуляліся. Загрукатаў у дзверы:

– Марк, усё, хопіць, занудны адстой твой квэст, сам з ім валэндайся. Я іду дамоў.

І тут нешта пстрыкнула ў паветры. З нябачных дынамікаў пачуўся механічны голас:

– Товарищи, выступает белорусский советский писатель, глава Временного рабоче-крестьянского правительства Советской Социалистической Республики Белоруссия, Тишка Гартный!

Дзверы адчыніліся – у камеру забег лысы чалавек у акулярах і ўціхамірвальнай кашулі. Крыху пабегаў і схаваўся пад ложак.

Максіму стала няёмка:

– Мужчина, вы переигрываете.

Галава з акулярамі высунулася з-пад ложка:

– Згодны, я згодны з вамі. Я загуляўся. Мне сказалі, я хацеў забіць Сталіна. Божа мой, самаго таварыша Сталіна! Забіць! Чуеце! Чуеце? Гэта іх крокі. Толькі не допыт. Толькі не зноў. Я ж прызнаўся ў злачынстве, я даў чэснае слова!

І імкліва выскачыў з-пад ложка і выбег з камеры – дзверы зноў зачыніліся.

***27 кастрычніка, праз хвіліну***

Бля, лепш бы ніхто не прыходзіў.

***27 кастрычніка, позні вечар***

Наступным разам, калі адчыняцца дзверы і там будзе толькі актор, Максім вырашыў бегчы. Калі спатрэбіцца, даць актору ў морду. А лепш даць у морду Марку – за тое, што зачыніў яго тут і не адказвае на грукат у дзверы: Максім амаль збіў кулакі. Ён змарнаваў на гэтае лайно ўсю суботу, спаць тут немагчыма, бо нешта грукае заўсёды, толькі ён засне, а яшчэ і галодны пасля нішчымніцы.

І тут расчыніліся дзверы.

– Марк, мне гэтая гульня надакучыла.

Марк быў разам з двума таварышамі і трымаў у руках нейкія паперы.

– Ай-яй, табе не падабаецца! Ну дзе ты яшчэ так прасякнешся іншай рэальнасцю! Табе ж недзе трыццаць? Шмат каму з гэтых пісьменнікаў таксама было трыццаць. І яны гэтак жа думалі, што трапілі ў нечую дурную гульню, таму калі выканаюць некалькі заданняў, іх выпусцяць, і яны хутка пабягуць да сваіх каханых.

– Марк, гэта не смешна, я пайшоў.

Ён накіраваўся да выхаду – таварышы заступілі шлях.

– А вось гэта ўжо цікава. Што далей? Зламаеш мне нос? Толькі я выйду – трапіш пад суд. Я не той вахлак, не буду маўчаць.

– На жаль, я яшчэ не вынайшаў, як легальна ўвесці ў квэст фізічны боль – здаецца, яго не хапае ў гэтай рэальнасці. Таму зараз у мяне ёсць толькі словы, каб на цябе ўздзейнічаць: твае словы. Ты падпісаў дамову, Максім. Ты таксама ніколі не чытаеш, калі ціснеш “Я згодны” ў кампутарных праграмах? Дык вось, згодна кантракту, ты зараз удзельнічаеш у эксперыменце. Калі адмовішся, застаешся мне вінны грошы. На, пачытай.

Максім прагледзеў лічбы:

– Ты трызніш. Няма такога закону.

– Хочаш праверыць на ўласным досведзе? У горшым выпадку проста заплаціш мне грошы. Але лепей давай дагуляем да канца.

– Кажы, што я павінен зрабіць, якія заданні вырашыць, каб скончыць квэст.

– Ведаеш, я думаў пра заданні, але тут твой лёс не павінен залежыць ад твайго розуму – у гэтай камеры іншыя правілы. Таму вось, перапішы паперу, пастаў свой подпіс, і ты амаль вольны.

Максім узяў аркуш:

“Я прызнаюся ў тым, што з’яўляюся ворагам беларускага народа – усе мае справы мінулых гадоў былі накіраваны супраць яго шчасця і дабрабыту. Я ненавіджу Беларусь, не лічу сябе беларусам”.

– Што ў цябе з тварам, Максім? Гэта ўсяго толькі словы. Адмыслова нічога канкрэтнага не пісаў, каб ты не падумаў, што перакіну на цябе свае злачынства. За гэтыя словы табе нічога не будзе – зараз не 37-мы, і ворагаў народа не судзяць.

– То бок ты хочаш, каб я напісаў, што ненавіджу Беларусь?

– Так, вось такая крыху асучасненая інтэрпрэтацыя. Можаш нават не перапісваць – падпішы.

Максім чытаў зноў і зноў: “Я ненавіджу Беларусь, не лічу сябе беларусам”.

– Усяго толькі словы, Максім. Падпісвай. І ідзі ўжо дамоў, хоць адзін выходны застанецца.

***Калі вы чытаеце ў электронным варыянце, націсніце CTRL і выберыце спасылку, каб перайсці далей:***

Я падпішу Я не падпішу

***Калі вы чытаеце на паперы, то пераходзьце да ўрыўка, які адпавядае вашаму выбару.***

***Калі выбралі “Я падпішу”:***

– Дзякуй. Гэта было проста, ці не так? І нават дзіўна, што калісьці гэтыя словы штосьці значылі і мелі такую моц, маглі нават забіваць. Таварышы, калі ласка, аддайце ягоныя рэчы і адчыніце дзверы.

Марк забраў падпісаную паперку і саступіў дарогу Максіму:

– Прабач, калі абразіў.

Максім схапіў пакунак і пабег: калідор, калідор, калідор, лесвіца, дзверы – свабода. І зноў – паветра на поўныя грудзі: яно было вільготным, як і раніцою – ды ўвогуле, нічога не змянілася.

**Канец апавядання**

***Калі выбралі "Я не падпішу" – працяг апавядання:***

– Не падпішу.

– Ну, тады ты ведаеш закон жанру. Давядзецца яшчэ пачакаць.

І дзверы камеры зачыніліся.

***28 кастрычніка. Раніца***

Зноў прынеслі нішчымную кашу з хлебам. Еў і думаў, колькі б сапраўды вытрымаў у адзіночцы на такім харчаванні.

***28 кастрычніка. Раніца***

Не паспеў даесці, як з дынамікаў загучаў верш – чытаў, расцягваючы галосныя, мужчына, амаль падвываў:

Пасеклі Край наш напалам,
Каб панскай вытаргаваць ласкі.
Вось гэта – вам, а гэта – нам,
Няма сумлення ў душах рабскіх.

І цягнем мы на новы строй
Старую песню і чужую:
Цыгане шумнаю талпой
Па Бесарабіі качуюць...

За ўсходнім дэспатам-царком
Мы бегаем на задніх лапах,
Нью-Ёрку грозім кулаком
І Чэмберлена лаем трапна.

Засыплем шапкамі яго,
Ура, ура – патопім ў соплях.
А нас тым часам з году ў год
Тут прадаюць ўраздроб і оптам.

Раптам нібы нешта абарвалася, і зноў знаёмы механічны голас бадзёра абвясціў:

"Александр Дайлидович (псевдоним – Алесь Дудар) 28 октября 1937 года приговорён к смертной казни как «руководитель антисоветской объединённой шпионско-террористической национал-фашистской организации». Вы прослушали стихотворение его авторства из материалов дела".

***28 кастрычніка. Абед***

Незнаёмы "турэмшчык" прынёс абед: суп (здаецца, гэта называецца супам) і зноў тую ж самую кашу.

– Перадайце Марку, што мне заўтра на працу. Няхай паскорыцца.

"Турэмшчык" кінуў на падлогу некалькі паперак, і, як толькі зачыніў дзверы, загучаў металічны голас:

“Товарищ, будьте готовы назвать себя: имя, фамилия, род занятий и вашу вину перед советским народом”.

Ну, вось і прыйшоў час шукаць адказ на пытанне “Хто я”, падумаў Максім і падняў старыя аркушы.

***28 кастрычніка. Адразу пасля***

Дзіцячы малюнак: хатка, маленькая маці, вялікі тата, хлопчык і дзяўчынка. Унізе подпіс – здаецца, “Ёня”.

Яшчэ – некалькі чарцяжоў.

Паміж аркушаў – засохлае лісце, якое адразу рассыпалася ў пальцах.

Пяць старонак з рукапісным тэкстам: аловак, нічога не разабраць, толькі адзін урывак чытэльны: “*«Краіна родная мая...» — мармытаў-пяяў ён ціхенька і думаў-думаў, што будзе праз дзвесце, трыста, чатырыста гадоў тут, наўкола?*” У кутку – пячатка “Забаронена”.

Адгадаць, каму ўсё гэта належыць, не атрымлівалася.

Тузанулася ручка, адчыніліся дзверы, з’явіўся Марк.

– Усвядоміў, хто ты ёсць і ў чым твая контррэвалюцыйная дзейнасць?

– Не было ніякай дзейнасці: прыйшла разнарадка, што трэба здаць 100 ворагаў народа – вось мяне і ўключылі ў спіс, бо было толькі 99.

– То бок, ты не адгадаў? Бо зараз распавёў мне гісторыю, тыповую для тагачаснага вязня-пісьменніка. Ці зверху прыйшоў загад, ці збоку – данос:

Цені блудзяць па твары,
Сэрца точыць нуда.
Сёння лепшы таварыш
Можа цябе прадаць...

Той жа Дудар, верш якога табе сёння ўжо чыталі. Ды мне не патрэбна тыповая гісторыя, мне трэба, каб ты назваў асобу. Скажы, Максім, як цябе завуць.

І – раптоўна здагадка:

– Максім. Гарэцкі.

– Ну, дзякуй мне за падказку – ты ўгадаў! Файная задума, як лічыш: для ўдзельнікаў квэсту падбіраць якога-небудзь такога, роднага героя, каб было падабенства. А тут ты Максім, і ён Максім.

Гэты малюнак – твайго сына: бачыш подпіс “Лёня”.

Чарцяжы – у высылцы ты працаваў чарцёжнікам. Званне пісьменніка ў цябе адабралі, бо ты крыва адлюстроўваў рэальнасць у літарах – калі так, мусіш размаўляць мовай прамых ліній.

Ну, лісце з дэндрарыя, дзе любіў гуляць, – гэта так, для атмасферы, толькі адмысловец зразумее.

І, нарэшце, твой рукапіс – тое, за што цябе забілі. Расстралялі ў высылцы, а жонка яшчэ год лічыла, што ты жывы. Пасля ёй сказалі, што ў цябе было кровазліццё ў мозг. Праз дваццаць гадоў цябе, вядома, рэабілітавалі.

– Як я разумею, гэта канец. Магу быць вольным?

– Пачакай. Тут у нас галоўны герой не ты, а Гарэцкі. Побач з героем, як вядзецца, гераіня – жонка: паехала за ім у высылку. Хаця чаму гэта “як вядзецца”? Некаторыя выракаліся.

Дык вось, я вырашыў пад канец падрыхтаваць нешта такое, любоўнае. Крыху паўтаруся, але на – перапішы гэты тэкст. Зараз адным подпісам

не адбудзеш. Вось жа, я ўзяў на сябе смеласць адразу дадаць ва ўзор імя тваёй каханай.

*“Насця, прылюдна, перад усімі, я выракаюся цябе.*

*Я ніколі цябе не кахаў. Усе мае словы – хлусня, а іншага ты не варта.*

*Ты – бруд. Ты – чорнае. Ты – дрэнь. Не хачу больш мець з табою нічога супольнага. Але і ніколі і не меў.*

*Зыходзь з майго жыцця. Назаўсёды.*

*Максім”.*

Марк сачыў за яго тварам:

– Мне здаецца, тэма вымушанага адрачэння была папулярнай у тыя гады. Таму давай пагуляем словамі і на гэтым полі.

– Ты псіх. У мяне рука не падымецца, каб гэта перапісаць.

– Макс, толькі не кажы, што ты ўспрымаеш гэта сур’ёзна! Гэта ж гульня!

Максім устаў, каб выйсці з камеры.

“Два таварышы” засланілі дзверы.

Марк перастаў усміхацца:

– Так, катаванне мы не можам уключыць у квэст, але табе будзе цікава даведацца, што мае хлопцы ўмеюць біць, нават збіваць, так, каб слядоў не было. Таму не раю табе намагацца выйсці і парушыць правілы.

– А што, калі не падпішу?

– Напрыклад, буду трымаць цябе тут. А табе ж заўтра на працу. І ты не давядзеш нікому пасля, дзе бадзяўся.

– Доўга ўсё роўна не пратрымаеш. Мяне пачнуць шукаць. Лухта якая, не магу паверыць, што сказаў гэтую фразу!

– Ну а як табе гэты варыянт: калі ты не перапішаш усё ўласнай рукой зараз, то я гэты тэксцік запошчу з твайго акаўнту ў сацсеткі. З усіх акаўнтаў – у мяне ж твой смартфон. Незапаролены.

– Ты псіх? Гэта ж ужо не гульня, не гульня твая дэбільная! Гэта ж ужо рэальнасць, мая рэальнасць!

– А гэта словы, усяго толькі словы. Глядзі, зараз ты іх напішаш. А я адразу – спалю тваю паперку. Вось тут, адразу, на месцы. І ведаць будзем толькі ты і я.

У іншым выпадку, калі станеш у позу, ведаць будуць усе – твае сябры, яе сябры. У дадатак я запошчу скрын вашай інтымнай перапіскі і дадам некалькі каментароў – ад твайго імя, канечне.

– Дрэнь.

– Магу і такі каментар дадаць. Лепей згаджайся. Лічы, што я псіх, вымагаю невядома чаго. А напішаш гэтыя словы – і ніякіх наступстваў. А ў 37-м наступствы за словы былі б.

Марк дастаў запальнічку:

– На, трымай. Спаліш сваю цыдулку сам, калі мне не верыш. Толькі спачатку – перапішы адрачэнне. Ніхто не даведаецца – толькі ты і я, а мы нікому не раскажам – слова гонару!

***Калі вы чытаеце ў электронным варыянце, націсніце CTRL і выберыце спасылку, каб перайсці далей:***

*Перапісаць паперку* *Не перапісваць*

***Калі вы чытаеце на паперы, то пераходзьце да ўрыўка, які адпавядае выбару.***

***Калі выбралі "Перапісаць паперку":***

Максім пісаў, намагаючыся не думаць пра значэнне слоў:

*"Насця, прылюдна, перад усімі, я выракаюся цябе.*

*Я ніколі цябе не кахаў. Усе мае словы – хлусня, а іншага ты не варта.*

*Ты – бруд. Ты – чорнае. Ты – дрэнь. Не хачу больш мець з табою нічога супольнага. Але і ніколі і не меў.*

*Зыходзь з майго жыцця. Назаўсёды.*

*Максім".*

– Пачакай-пачакай. Спачатку праверу. Так, дапісаў да канца. Палі.

Максім імгненна пстрыкнуў запальнічкай – і ўбачыў, як полымя хутка з'ядае яго словы, усе да апошняга. А людзі ж вераць у ачышчальную моц агню.

– Малайчына, ты выбраў лагічны варыянт. І ўвогуле годна трымаўся – я зрабіў такія-сякія высновы. Прабач, калі што – хлопцы, правядзіце і аддайце ягоныя рэчы.

Максім, не гледзячы ні на кога, моўчкі выйшаў з будынка. Праверыў сацсеткі – нічога ад яго імя не запошчана. Перапіску маглі прачытаць, брыдка. Паабяцаў сабе, што запароліць тэлефон. Некалькі паведамленняў: "Ты дзе? І як ты там?" ад Насці. Як добра, што яму не трэба ад яе адракацца па-сапраўднаму і якая дурная была гульня. Таму хутчэй гульню – забыць, а Насці адказаць на паведамленне:

"Насця, хачу, каб ты была ў маім жыцці. Заўсёды".

**Канец апавядання**

***Калі выбралі "Не перапісваць" – працяг апавядання:***

– Гэта канчаткова?

– Канчаткова. Я не буду перапісваць гэтыя словы ад уласнага імя. Я з такім не гуляю. А ты – рабі, што хочаш. Посці ўва ўсе сеткі – нічога, я патлумачу. Яна зразумее.

Марк маўчаў. Было чутна, як дзесьці за сцяной дзынькае тэлефон Максіма – прыйшло паведамленне.

– Ну, тады на гэтым усё. Ты вольны, – раптам Марк парваў паперку.

– І што, ніякіх пастоў ад майго імя? Ты парушыш свае ж правілы?

– Чаму парушу? Шантаж не заўсёды павінен мець вынік. Я атрымаў ад цябе тое, што хацеў – твае пачуцці. А працягваць і псаваць табе рэпутацыю мне нецікава. Усё, квэст скончаны. Дзякуй за тэст-драйв.

Максім адчуў сябе вельмі, вельмі стомленым, але на аўтамаце запытаў:

– І што, не будзе трэцяга выпрабавання? Па законах жанру павінна быць тры.

– Не, я не прыдумаў нічога такога. Вядома, зараз было б варта прымусіць цябе напісаць такое, за што б цябе маглі забіць. І каб ты адчуў, што цябе сапраўды могуць за твае словы – нематэрыяльнае, неіснуючае, абстрактнае – забіць. І пажадана, каб гэта быў тэкст, які не выкрывае нейкае там палітычнае злачынства, а нешта мастацкае. Пра каханне. Пра лепшы свет. Пра тваю веру. Пра тваю Насцю. І каб ты адчуў, што вось за гэта – заб'юць.

Я калі чытаў пра іх, рэпрэсаваных пісьменнікаў, не разумеў, навошта яны пісалі. Мова не тое каб папулярная. Яшчэ нацыяналістам назавуць. Не надрукуюць нічога. Навошта? Навошта гэтыя словы?

І мяне зацікавіла, як іх катавалі. Не толькі фізічна – словамі.

Адбіралі словы – забарона пісаць на ўсё жыццё. Знямей! Ніякіх вершаў! У думках – хоць паэмы, на паперы – ні-ні.

Ім прыпісвалі чужыя словы – вось так, сваёй рукой, яны пісалі паклёп на сябе, на сябра, на каханую. Што адчувалі, калі пісалі? Што адчувалі, калі чыталі такое самае, напісанае іншымі? Куды, у якія словы, у якія рэальнасці яны хаваліся? Якія словы казалі самім сабе?

Усё, зараз была тая самая выкрывальная прамова злачынцы. Толькі ты не супергерой, каб мяне забіваць. А я не лічу сябе злачынцам.

– Навошта табе гэта?

– Памяць продкаў. Найперш пра рэпрэсіі пісьменнікаў я дазнаўся ад дзеда, а той – ад свайго бацькі: ён быў вось такім, як яны, маўклівым таварышам з НКВД. Мне заўжды хацелася паўтарыць яго досвед, але працаваць у “органах” не хацелася. І дарэчы, ты трымаў у руках арыгінал рукапісу Гарэцкага.

– Працягваеш справу прадзеда-ката? Ухвальна!

– Здаецца мне, Максім, наадварот, руйную. Вяртаю ў гульню забытых пісьменнікаў – не думаю, што мой прашчур-кат за гэта мне б падзякаваў. А тыя, закатаваныя, – яны ж вельмі хацелі, каб іх словы да нас дайшлі, да цябе дайшлі. Дажылі. Але здаецца мне, нічога ў іх не атрымалася. Вось, вазьмі на развітанне, – Марк працягнуў кнігу. – Сцэнар квэсту я дапрацую, а фінал ужо прыдумаў: і вось і ён – буду раздаваць беларускую літаратуру! Пасля таго, што вы разам перажылі, мо табе будзе цікава даведацца, за што яго забілі.

Максім зірнуў – Максім Гарэцкі.

***Калі вы чытаеце ў электронным варыянце, націсніце CTRL і выберыце спасылку, каб перайсці далей:***

*Прачытаць Гарэцкага* *Не чытаць*

Юрый Ігнацюк



...Тут да сябе – мо, пяць хвілін хады,
Тут да сябе – як да мяжы сусвету...

# Успамін аб будучым

### *ПРЫЙШОЎ ТОЙ ЧАС*

Прыйшоў той час, калі нікому не зайздросціш,
Калі вірлівы дзень жыўцом глынае ноч,
Калі вось-вось прыйсці павінны госці,
Ды ўсё ніяк – нікога побач, цішыні апроч.

Няўцямнай думкаю ў ціскі бярэ пытанне –
Ці я сівы, ці раптам пасівеў абсяг.
Здаецца толькі, што прайшло вянчанне,
Але ж даўно па дробязях растрачаны пасаг.

І ўсё ж жыву, і зноў струмкіх радкоў супольнасць
Яднае небакрай з ускраінай зямлі,
Бо ў час, калі паўсюль знікае вольнасць,
Свабодны верш – адзінае, што нельга спапяліць.

Няхай сабе не ўсё тут цалкам зразумела –
Ці я іду, ці хтосьці крочыць ад мяне.
Хоць пакрысе, няхай не надта смела,
Але ж знаходжу музыку, што сэрца закране.

Прыйшоў той час, калі нікому не зайздросціш, –
На зайздрасць проста, пэўна, часу не стае,
Калі вось-вось прыйсці павінны госці,
А, зрэшты, нават лепшы госць нам рады не дае.

Бо ўсё у глыбінях – і абшары, і абсягі,
Палёт свабодных думак і адкрытасць меж,
Бо ўсё унутры – і сімвалы, і сцягі,
І апантанасць мэт, з якімі па жыцці ідзеш.

## *ПРОМНІ ПРАЗ ПОПЕЛ*

Шэры попел каля дзвярэй,
Мабыць, цудам не знік дагэтуль,
Пах скамечаных цыгарэт
Тут пакінуты з нейкай мэтай.

І міжволі кранешся ўбок
Ад старых павучыных кроснаў,
Да паветра – адзіны крок,
Але дыхаць ім надта млосна.

Неадольная думка свідруе скроні,
Попел дзён, што не вернеш, у сэрца б'е,
А гадзіннік з імклівасцю электроннай,
Як п'янчуга заўзяты, хвіліны п'е.

Як заўжды, газ на кухні тчэ
Летуценных надзей тканіну,
І павольна вада цячэ,
А па "тэлеку" – зноў навіны.

Толькі стала прыкметна менш
Бескарыслівых суразмоўцаў,
Тытунёвы сівы струмень
Не памкнецца да столі зноўку.

Тэрыторыя часу губляе межы,
Тут за раніцай следам сыходзіць дзень,

І здаецца амаль навіною свежай
Пазалеташняй з'явы прывідны цень.

За балконным акном сусвет
Разарваны сцяжынкай вузкай –
Там застаўся знаёмы след,
Як імя на збялелых вуснах.

Толькі ўпарта званок маўчыць,
Б'е па шыбах уладна вецер,
Быццам толькі яму лічыць,
Каму колькі пражыць на свеце.

Выпадковых прахожых ледзь чутны поступ,
Як пахмельны сіндром, уздымае кроў,
Толькі родную тут больш не ўбачыш постаць
І не скажаш ёй проста – ідзі дамоў.

А жыццё зноў сваё бярэ:
Паглынае крыжы лістота,
Парасон векавечных дрэў
Гоніць думак самотных слоту.

І паволі знікае прэч
Шэры попел з куткоў таемных,
Нейкі сэнс набывае рэч,
Што заўчора была дарэмнай.

Над тужлівым пагостам усходзіць сонца,
Прагне руху няспыннага новы дзень.
Так заўсёды – спачатку глядзіш у донца,
Каб адтуль лепш убачыць жывы прамень.

### *НА РОСТАНЯХ*

Завершаны, закрэслены, закрыты
Сыходзіць дзень у бездань небыцця.
Няпрошаны, няўцямны і забыты
Стаіш на стромкім беразе жыцця.

Адзіны крок да вечнасці заўсёды
І вечнасць – да рашэння крок зрабіць.
А выбар гэты – згодны ці не згодны –
Цяжэй за смерць і за магчымасць жыць.

Таемны, малады, непрадказальны
На ростанях чакае новы дзень.
Спустошаны, свабодны і апальны
Яму насустрач цяжка ты брыдзеш.

Так лёгка з ім наогул размінуцца,
Калі дрыгва сумненняў цягне ўніз.
Напэўна, шчэ не позна і вярнуцца,
Але ж вяртанне – толькі кампраміс.

Няздольная да голага шматслоўя
Суддзёй трацейскім рубіць вузел ноч.
Няздатны на разумныя высновы
Ад віру часу ты сядзіш наўзбоч.

І прыйдзе дзень – але ж ці стане судным?
І пройдзе ноч – а ці ж была суддзёй?
І ўсё ж пазнаеш спраў і думак сутнасць,
Калі, вядома, зробіш выбар свой.

Пакуль гадзіннік хлопцам нерашучым
Спыніўся на адзнацы нулявой,
Прыкінь: ці з пераможным крыкам – з кручы,
Ці непрыкметна ўзняцца над зямлёй.

## *УСПАМІН АБ БУДУЧЫМ*

Зорак паўночных дрыготкія позіркі.
Гмаха суседняга змрочная здань.
Гукі вірлівыя горада-возера
П’е цішыні трапятлівая лань.
Доўга шчэ ёй заставацца няўспуджанай –
Покуль з табой, як кругі на вадзе
Мы не разыдземся рэхам абуджаным
Па адрасах, куды кліча нас дзень.

Стогнуць паверхі, у цемру закутыя.
Кінуў свой посах вандроўнік-сусвет.
Сон ахінае салодкай пакутаю,
Дорыць у заўтра бясплатны білет.
Доўга шчэ нам ён зусім не спатрэбіцца –
Покуль з табой, быццам з Евай Адам,
З цяжкім рашэннем біблейскага рэбуса
Грэшнай зямлі мы не зведаем драм.

Лічыць гадзіннік хвіліны таропкія,
Ледзь паспявае ён часу ўздагон.
Стомленых стрэлак няпэўнымі крокамі
Ноч набліжае святло да вакон.
Доўга яму шчэ праз шыбы прасочвацца –
Покуль з табой, як агонь і вада,
Наперакор небыццю, што прарочылі,
Мы не ўваскрэснем на ростанях дат.

Цесны пакойчык жыве прадчуваннямі.
Кут незаняты чакае гасцей.
Сэрцы, працятыя спрэс хваляваннямі, –
Нібы хто ў дзверы, – грукочуць часцей.
Доўга не дадзена ім супакоіцца –
Покуль з табой, нібы творцы жыцця,
Мы не пачуем (ці, можа, прымроіцца?)
Песні адвечнае новы працяг.

## ***ЛЮСТЭРКА***

Мой лепшы сябар і найпершы вораг,
Дарадца шчыры і нахабны хлус,
Я да цябе звяртаюся раз-пораз,
Каб зноў падцвердзіць вечны наш хаўрус.
А ты ўсё помніш, ты ўсё ведаеш дакладна,
Як плакаў я, не тоячы дзіцячых слёз,
Як я стагнаў, цяжару часу падуладны,
І як канаў, ужо не чуючы пагроз.

Мой сквапны крытык і ліслівец шчодры,
Увішны лекар і бяздушны кат,
Навідавоку ты са мною згодны,
Але ж прадбачыць цяжка твой адказ.
А ты ўсё помніш, ты ўсё ведаеш дакладна,
Як першы раз цябе я ўсмешкаю сустрэў,
Як рагатаў з тваёй паблажлівай спагады
І як на вуснах на астылых посміх тлеў.

Мой верны Юда, мой надзейны злоснік,
Сусед прыхільны і зласлівы брат,
Мне ад цябе парой бывае млосна,
А часам – лёгка, бо не бачу страт.
А ты ўсё помніш, ты ўсё ведаеш дакладна,
Як часам позірк мой праходзіў праз цябе,

Як раўнадушна я ўспрымаў твае парады,
Як не кранаў мяне жыцця спакуснік-бес.

Тваю прысутнасць у маёй кватэры
Я адчуваў і зблізку і здаля,
Калі лунаў у загранічных сферах,
Калі дадому клікала зямля.
А ты ўсё помніш і ўсяму ты маеш мерку,
Ты – альтэр-эга, ты – маё другое “я”,
Хоць ты ўсяго толькі звычайнае люстэрка,
З якім я падаў, узнімаўся і крыяў.

## ***РАЗВІТАННЕ***

Сышоў ты ціха (мабыць, так наканавана)
І з намі нават развітацца не паспеў.
У лёс не верыў, і ўсё роўна ж ім абраны –
Стаць тым, каго так не хапае мне цяпер.
У змроку дзён знайшоў сваю прыступку,
У даляглядзе мараў рысу адшукаў...
А мне ўсё бачыцца, як ты сядзеў ля грубкі,
Як позірк хітраваты ў вогнішчы блукаў.

Было з табою цяжка мне парою,
А без цябе, прызнаюся, яшчэ цяжэй.
І за тваёй непрабівальнаю сцяною
Было, як зараз разумею, мне цішэй.
Твой змрок цяпер у іншым вымярэнні,
Тваё святло – са мною побач назаўжды...
Мне памяць захавае рэдкія імгненні,
Якіх не варты нават доўгія гады.

Сышоў ты ціха, не шукаючы спагады,
Як быццам прабачэння сам у нас прасіў...
Маўляў, жывіце – вось апошняя парада:
Усё, што змог, я пры жыцці для вас зрабіў.
Праходзіць час – ён, кажуць, добры лекар,
Ды толькі лекі надта горкія ў яго.
І дадзена мне піць іх да сканчэння веку,
Пакуль маё жыццё не выйдзе з берагоў.

## МОЙ ГОРАД

Я бачу свой горад такім незнаёмым –
Як быццам, не жыў тут мо тысячу год.
Амаль што заўчора па аэрадроме
Я крочыў у неба да новых прыгод,
А сёння тут безліч праспектаў і гмахаў
І значна радзей тут імкнуцца ў палёт.
Пабольшала ўсмешак, паменела страхаў
І цвіллю не вее з суседніх балот.

Я бачу свой горад такім незнаёмым –
Здаецца, ён недзе стагоддзі блукаў.
Бадай, толькі ўчора гісторыі зломы
Раскідвалі ўсіх нас па розных кутках,
А сёння мы разам, нам ёсць дзе спыніцца
І кожную хвілю да кроплі пражыць.
Калі ўжо нам шанц выпаў тут нарадзіцца,
То тут нам – любіць, працаваць і спачыць.

Я бачу свой горад такім незнаёмым –
Як быццам ён выгляд мяняе штодня.
Ён – наша ўладанне, ён – наша маёмасць,
Ён – бос нам і адначасова радня.
І сёння, і заўтра забыцца пра ўчора
Не зможам. Бо ў ім наш жыццёвы выток.
У кожнага ёсць свой захоплены горад,
Дзе робім свой першы свабоды глыток.

Я бачу свой горад такім незнаёмым –
Не верыцца часам, што недзе тут рос.
Здаецца, нядаўна быў луг побач з домам,
А сёння – суцвецце імклівых дарог.
Я нават не ведаю, выбраць якую...
А зрэшты, свой шлях я акрэсліў даўно,
І кветак на ім мне пакуль не бракуе.
Мой горад, ты – мэта, ты – курс, ты – стырно.

## Я ЎСЁ ЯШЧЭ ІМКНУСЯ…

Я ўсё яшчэ імкнуся за мяжу,
За грань, за рысу і за гарызонт.
Я гэтую магчымасць заслужу,
Адкрыўшы свой другі ці трэці фронт.

Мне кажуць: не глядзіш, маўляў, на небасхіл...
Пярэчу ўпарта: я і ў лужах зоркі бачу.
А там, дзе б'ецца ў скроні зорны пыл,
Няхай хто іншы па мінулым плача.

Я адчуваю – вось мой Рубікон,
Амаль што побач, дзесьці за вуглом.
Як перайсці, не трапіўшы ў палон? –
Стаіць пытанне ў горле камяком.

Парады слушныя прыходзяць адусюль,
Але ж наўрад ці ад чаго яны ўратуюць.
Ледзь-ледзь пазбегнуць змог гарачых куль,
Як нехта ўжо халодны нож рыхтуе.

Я разумею – месца для надзей
Даўно занята мараю пустой.
І з часам мне здаецца ўсё часцей,
Што свет, дзе я жыву, ужо не мой.

Тут я ў гасцях, і ў гэтым, пэўна, ёсць свой плюс:
Над схваткаю лунаць – хіба ж не перавага?
Але з жыццём мой рушыцца саюз,
І гэта больш, чым да палёту прага.

Я ўсё яшчэ імкнуся за мяжу,
Яна ж сама спяшаецца ў мой край –
Адтуль, дзе на замежнае "банжур"
Гучыць тужліва-роднае "бывай".

Я зразумеў – бязмежная прастора там,
Дзе думкам лёгка існаваць за гарызонтам,
Дзе час бясконцы падуладны снам,
А скон здаецца выкапнёвым дронтам.

Краіна цудаў, залюстроўя свет,
Калодзеж часу і чароўны трус?..
Не – проста правінцыйны мой павет
І кошкі з шыбай прывідны хаўрус.

Я тут жыву, адсюль ісці няма куды,
Якой бязмежнай ні была б мая планета.
Тут да сябе – мо, пяць хвілін хады,
Тут да сябе – як да мяжы сусвету.

## ШТО МЕХА ГРОШАЙ ДАРАЖЭЙ

Я дрэва пасадзіў, і быццам сын не зломак,
І дах над галавой нарэшце не цячэ,
А ўсё здаецца, што я зноў стаю над стромай
Пачатку дзён, і ўсё наперадзе яшчэ.
І будзе сын, які мяне зваць будзе дзедам,
І дрэва радаводу гадаваць пачну,
І ўстане дом, куды на схіле дзён прыеду,
Дзе, зрэшты, назаўжды калісьці я засну.

Мне крыўдаваць на лёс зусім не выпадае –
Ён даў мне ўсё, што толькі здолеў я ўхапіць.
А ўсё астатняе няхай сабе чакае,
Пакуль я вырашу, што лепей – жыць ці быць.
Я не баюся больш раптоўнага сыходу –
Мне загадзя вядомы сэнс апошніх слоў.
Ні райскіх шатаў, ні пякельнага смуроду
Мне не адчуць, пакуль вяртаюся дамоў.

Пакуль дзядоў сваіх у люстры вочы бачу,
А ў сынавых вачах – маіх здзясненне мар,
Я прагі да жыццёвых дробязяў не страчу –
Нават у час, калі зірне сусвет у твар.
Я не сарваў пакуль што плод пазнання з дрэва,
Але ж вучусь і ўжо хаджу не ў першы клас.
Не ведаю – ці добра я жыву, ці дрэнна,
Але ж упэўнены – не марна баўлю час,
Бо сцежкай, што калісьці мною пратаптана,
Да мэты рухацца камусьці ўсё ж ямчэй,
А для таго, хто толькі што сустрэў світанак,
Мой сціплы вопыт меха грошай даражэй.

## ДОЎГІ ШЛЯХ ДА КАХАННЯ

Тут звычка паўсюль, хоць каханне,
Здаецца, калісьці было.
Мне кажуць пра веравызнанне –
Да веры ж так і не дайшло.

Тут з розумам паразуменне
Ці знойдзем? – Пакуль што няўцям.
Марнуючы час на імгненні,
Шкадуем гады для жыцця.

Не любім, не марым, не верым,
Бо лічым, што гэта дарма.
Спрабуем праходзіць скрозь дзверы,
Якіх тут наогул няма.

Бязглуздзіцу стравы нішчымнай
Уводзім да сэнсу быцця
І прагнем у мроях нястрымных
Пачуцця... Ці ўсё ж пачуцця?

Вандруем ад версій да ісцін,
Адкуль толькі крок да хлусні,
І ўпарта чакаем карысці
Ад марнай пустой мітусні.

Ды, зрэшты, прыходзіць хвіліна,
Калі шанц застацца сабой
Адзінаю стане цаглінай,
Што ўстойлівым зробіць дом твой.

Калі веды моц дадуць веры,
А мы ўсё ж прывыкнем кахаць,
Магчыма, і знойдуцца дзверы,
Дзе нас яшчэ будуць чакаць.

### *АЛЬТЭР-ЭГА*

Вораг адданы мой, сябар начны,
Хто ты, навошта ты скраў мае сны?
Дзе атрымаў асабісты мой код,
Каб паказаць раптам свой аперкот?
Дзе ты, чым бавіш да вечара час,
Покуль мой зрок канчаткова не згас?
Сябар закляты мой, вораг начны,
Дзе ты хаваеш свае перуны?

Брат клапатлівы, няўрымслівы кат,
Хто ты – калі ж мне ні кум ані сват?
Чым спакусіў мой няўстойлівы дух,
Як змог прымусіць не ведаць больш скрух?
Дзе ты, куды дзеў пачуцці мае
(Часам мне іх усё больш не стае)?
Кат мой ласкавы, бязлітасны брат,
Мне б адпачыць ад пяшчотных гармат.

Цэнзар мой жорсткі, прыхільны чытач,
Белы мой голуб і змрочны крумкач,
Што падрыхтуеш у спадчыну мне,
Перш чым халодная вечнасць кране?..
Дзе ты, падданы мой і валадар,
Як жа мне ўбачыць сапраўдны твой твар?
Бацька названы, прыёмны мой сын,
Ты – мой адвечны паветраны млын.

## ***НА ЗЛОМЕ ДЗЁН***

На зломе дзён свядомасць б’е пад дых,
Сціскае сэрца вольнае паветра,
Зноў Цой пяе пра справу маладых,
І разумееш, што вайна – не рэтра.

На зломе дзён ламаецца жыццё,
А тыл становіцца пярэднім краем,
І адчуваеш шостым пачуццём,
Што быць над спохваткай не выпадае.

На зломе дзён так хочацца ўначы
Пабыць даўжэй, адкласці абуджэнне,
Але ж ад раніцы мне не ўцячы –
Ёй не пачацца без майго рашэння.

На зломе дзён здаецца хаткай гмах,
А на зямлі з-пад ног сыходзіць неба,
Тут слабым быць перашкаджае страх,
А моцныя прасуюць тварам глебу.

На зломе дзён з’яўлюся зноў на свет,
Каб больш ужо ніколі не зламацца,
Каб зноў паспрабаваць пакінуць след
Там, дзе жыццю няма за што трымацца.

На зломе дзён, каб з сэрца скінуць страх,
Мы мусім, не зважаючы на досвед,
Прайсці па зруйнаваных гарадах
І іх убачыць непазбежны росквіт.

Мікалай Мароз



...чалавека пускаюць на свет божы
для любові....

# “Памяць – адзіны рай...”

***Мініяцюры***

• • •

Пастаральны малюнак дзяцінства: мама, якая нясе з чарэні цёплую ватоўку і падкладвае мне пад бок, нешта светлае шэпча на вуха. А я, усцешаны гэтым цяплом і пяшчотаю, ціха і лагодна заплюшчваю вочы. І сны ў дзяцінстве не такія вычварныя, як цяпер, – яны светлыя і сонечныя. Мо таму, што мама праз усю зіму клала пад бок нагрэтую ватоўку, хаця і не разумела, сляпая ад матулінай любві, што робіць з мяне цяплічнага хлопчыка.

• • •

Чалавек, якога нічога не здзіўляе, жыве ў стане тупасці. Словы не мае, словы Гегеля. Здзіўляць можна не толькі добрым, а і прыкрым – без яго жыццё было б

аднастайным, прэсным і шэрым. Калі б не было таго, з чым змагаемся, – хіба высвечвала б гэтак нечакана, хіба захоплівала б дух усцешанае і светлае?

• • •

Дарога дамоў бліжэй. Такое ўжо ўладарства часу і святая вера ў некранутасць ісціны: дом пакідаеш – журышся, вяртаешся дамоў – самі ногі нясуць.

У Васіля Быкава было інакш. З'язджаў з Радзімы з горыччу і вяртаўся з цяжкім сэрцам. Душа карцела апошні прытулак знайсці на Бацькаўшчыне. Таму веру ў выпакутаваны загаловак апошняй кнігі ўспамінаў пісьменніка «Доўгая дарога дадому».

• • •

Часам вычытаеш нешта трапнае, свежае і ажно задыхнешся ад асалоды. Ул. Калеснік напісаў: «Не так разумны ён, як нюхлівы». У кантэксце пэўнай гаворкі і сітуацыі аўтар меў на ўвазе сваё, не тое, аб чым павяду гаворку, аднак дазволю сабе паразважаць са сваёй «званіцы». Бывае нярэдка: у чалавека нюх, нібы ў таго сабакі, каб ён ведаў, дзе лізнуць, а дзе забрахаць ці ўкусіць.

Праўда, акрамя нюху і сабачай адданасці чалавеку трэба мець сваю галаву на плячах, мець розум. Інакш здарыцца, як у «Сабачым сэрцы» М. Булгакава, калі прафесару давялося вярнуць сабака-чалавеку існае, сапраўднае аблічча.

• • •

Люблю прыемныя сюрпрызы, люблю, калі чалавеку ўсцешна, калі ён радуецца жыццю, як малое дзіця.

Жанчына доўгі час жыла з гультаём, п'яніцам і латругам. Не жыла – пакутавала. Таму і хадзіла, быццам баялася людзей ці саромелася, што ў яе такі муж, хадзіла прыгорбленай і ціхай.

Доўга ў тую ўстанову, дзе працавала Алена, мая гераіня, не заходзіў: усё нешта не выпадала. А пасля выйшаў у адпачынак, аднойчы зайшоў сюды і – быццам пераблытаў будынкі. На тым жа цеснаватым рабочым месцейку згледзеў яе, такую сонечную і ў нечым загадкавую, а ў вачах агеньчыкі-вугольчыкі, ад якіх рабілася цёпла на сэрцы. Апранута яна была не ў цёмнае – і кофта, і спадніца былі ёй да твару, маладзілі жанчыну. І прычоска – мадонна, а не Алена!

Аказалася, муж-латруга ў яе памёр, і яна звязала сваю долю з талковым чалавекам. Няхай і пенсіянерам. Самому давялося бачыць, як брала яна ад кліента грошы і заружавелася ўся, быццам не да канца звыклася з роляй шчаслівай жанчыны. Але яна ўся была начынена шчасцем, яно залатым дажджом абсыпала яе з ног да галавы.

А яшчэ кажуць: няпраўда, што жанчына ў сорак пяць – тая ж ягадка, што да яе прыходзіць другая маладосць. Толькі не такая, як у дваццаць – сталая, узважаная, ад гэтага і больш жаданая, не менш бурліва-няўрымслівая...

• • •

Было, што чалавек кожную раніцу частаваў мяне перажытым. І думкі тыя былі, як вопратка з манаскага пляча. То жонка хворая, і там ёй баліць, і тое не праходзіць, то ў самога клопатаў поўная торба: ляснік – прайдзісвет, не выпісвае, халерны, дроў "па дзяшоўцы", і ён, як ні б'ецца, а цешчы дроў не прывязе. То раптам па ашчадбанку нейкая папера не так пайшла, ашукалі чалавека, то... ці мала якое чарноцце народзіць для майго знаёмага новы дзень.

Спачатку слухаў чалавека ўважліва, спагадліва падтакваў яму, а праз нейкі час зразумеў: падточвае добры па сутнасці чалавек маё сэрца, вымае, калі хочаце, дух. Нейкі вампірызм, няйначай. Пасля рашыўся: буду слухаць, а думаць пра сваё, светлае і ўсцешанае. Яму ўсё адно – трэба некаму выгрузіць перагарэлае за дзень, а мне ніхто не будзе высмоктваць дух, выцэджваць па кроплі маё жыццё.

• • •

"Млына няма, а вецер усё дзьме, і вада і па сённяшні дзень пляскоча ля плаціны..." Хто гэта сказаў? А няважна. Вы адчуваеце тон і настрой сказа? Вось-вось, гэта настальгія па тым, што мінула, калі мы былі маладыя і горача любілі. Калі свята верылі, што раніца будзе больш шчаслівай за ўчарашні вечар. Мы былі сляпыя. І не толькі ад кахання, а і таму, што брала верх маладосць...

А вада ля колішняга млына пляскоча і будзе пляскаць доўга-доўга. Гэта некалі цешыла сэрца майму бацьку, а сёння нясе настальгію і светлы сум у маё сэрца.

Але ў гэтым плёскаце нашы дзеці і ўнукі знаходзяць усё менш музыкі. Ці крыўдна? Не ведаю. Аднаго шкада – рамантыку, якая канула ў Лету. А мо ўсё-такі вернецца яна хоць на пятым ці якім там калені? Гэта прыйдзе тады, відаць, калі чалавек паверыць у казку нашага жыцця.

• • •

Калеку з фізічнай кволасцю шкадуеш. Маральнага – ніколькі. І нават не бярэш пад увагу, што духоўная кволасць перадаецца ад бацькоў. Як той вірус. І ты катэгарычна і безагаворачна не прымаеш ні яго рукі, ні ягоных учынкаў.

Сустракаў у жыцці такіх хворых. І нямала. Адзін устане з-за стала, падасць табе руку, слухае, а – не чуе. Не хоча пачуць цябе, хоць ты ляж тут у ягоным кабінеце. Іншы мае, а не дае. Нават хіхікае ў кулак. Трэці радуецца, калі суседу цяжка...

Гэта хвароба. А хворых трэба лячыць ці даваць ім групу інваліднасці...

• • •

Часта даводзіцца чуць: нам, маўляў, на дваіх з жонкай сто пяцьдзясят гадоў. Нібыта хваліцца чалавек: вось бачыце, калі б мы двое пражылі адно жыццё, то гэты "двайны" чалавек мог заспець і прыгоннае права, і нават Польскае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. А калі дадаць гады цешчы, то можна гаварыць і пра пугачоўшчыну.

А мне ад такой падсумоўкі маркотна. Хочацца як мага далей адсунуць пачатак адышкі і сардэчных боляў, нітрагліцэрыну і ношпы...

• • •

Снег пайшоў ноччу. Спачатку трохі падмарозіла, а пасля, як пад заказ, парадаваў і ён. Снег усцешыў раніцой, калі выйшаў я на ганак.

Снег быў чысты, незаследжаны і цнатлівы. Быццам светлы ўспамін пра маму...

• • •

Скажу пра душу. Не буду гаварыць аб метафізіцы. Мы – пра душу, якая не ў кожнага. Пра добрую душу, пра душу, здольную лячыць. Нельга, каб яна адлятала ў вырай, яна патрэбна нам і летам, і зімой. Зімой, мажліва, і больш жаданая, не такая разамлелая, як летняй спёкай.

• • •

Выбар у жыцці павінен быць. Ёсць з чаго выбіраць у краме і на рынку, чалавек выбірае паміж радзімай і чужынай, выбірае дэпутатаў (хаця тут чым далей, тым усё менш выбару). Не кожны, аднак, можа растлумачыць, для чаго нарадзіўся на свет божы, чаго хоча, чаго дамагаецца.

Пачытаў некалі выказванне Васіля Быкава: "...Што было, тое і будзе. Усё вяртаецца на кругі свая. Мне здаецца, гэта самае дакладнае, што можна сказаць пра будучыню...

Будучае няўлоўнае. І ў гэтым ёсць прывабнасць і страх. І, можа, таму такі няўлоўны сэнс жыцця".

Дык чаго хоча ад жыцця кожны з нас? Багацця? Здароўя на дзвесце гадоў? Чулага і добрага суседа? Хочам, каб брат, сын ці ўнучка не бралі ў рукі наркотыкі?..

А можа і аднаго, і другога, і дваццаць пятага? Каб усё разам. Але ў жыцці так не бывае. Усё роўна нешта дасць расколіну.

Без выбару ў кожнага з нас адно – заставацца чалавекам. На ўсё жыццё. Пры ўсіх уладах і катаклізмах...

• • •

Вячаслаў Адамчык: "Са стратай бацькоў меркне святло роднай хаты. Са стратай роднага парога меркне і глухне святло Бацькаўшчыны". Колькі ж "родных парогаў" страчана?! І тут папрок заслужылі тыя, хто не цэніць самае вялікае і неацэннае ў сэрцы – любоў да бацькоўскага парога. Калі няма ў жывых ні матулі, ні бацькі, але застаецца жыць іхні дух. Павінен заставацца. Разам з хаткаю, якую пакінуў яшчэ ў юначыя гады і якую нялітасціва занядбаў...

• • •

"Кім хацеў стаць і чаму не стаў?" – такое прыкладна пытанне хвалюе героя рамана расійскага празаіка Юрыя Палякова "Грыбны цар". Гэтая пакутлівасць ад таго, што не дамогся вяршыні, і гэта падштурхнула яго скасаваць шлюб, каб пачаць жыццё спачатку, як кажуць, з чыстага ліста.

Калі малады, можа і рызыкнеш на "эксперымент", а калі пражыў з жонкай дваццаць пяць ці трыццаць гадоў, разумееш: ты і яна – у многім падобныя. Падшліфаваліся так, што і гаворка тая ж, і манеры, і нават міміка...

• • •

Усе ведаем словы: “Скажы, хто твой сябар, скажу, хто ты”. Гэта з – нашага, славянскага. Катэгарычна, ці не так? А вось думка амерыканскага пісьменніка Эрнэста Хемінгуэя: “Не мяркуйце пра чалавека па яго сябрах. У Іуды яны былі бездакорныя”.

Якая ж думка вам больш імпануе?..

• • •

Нехта сказаў: “Сям’я – гэта малая царква”. Магчыма, так яно і было некалі. Сёння – гэта капліца, дзе адпяваюць нябожчыка.

Так думаеш, бо з сям’і спала апона святасці і цноты.

• • •

Кінарэжысёр Станіслаў Гаварухін працытаваў неяк Оскара Уайльда: “Раней кнігі пісалі пісьменнікі, а чыталі чытачы. Цяпер кнігі пішуць чытачы, а не чытае ніхто”.

Выказванню больш за сто гадоў, а колькі ў ім па-ранейшаму болю за нашы кнігарні. Каго чытаюць – вядома, каго ставяць на тэлебачанні, на сцэне – таксама. Няма глыбіні думкі. Адны “менты” ды голае “чтиво”. Ну, і яшчэ любоўныя раман на ноч.

Беларускі пісьменнік шукае сябе, шукае тэму. Яе не так лёгка знайсці. Гэта не сякера пад лавай. А бястэмны твор так проста, каб заняць час і наблізіць старасць, чытаць не хачу. І пастаноўкі драматургаў, кволыя, анемічныя, не гляджу. Не па мне. Адна самадзейнасць. Хочацца і не гламурнага – цікавага, з “разынкай”, на сакавітай, без суконнасці, дасціпнай беларускай мове. Не люблю суконшчыкаў, начытаўся некалі такой макулатуры. А яе развялося, як чарвякоў на асфальце пасля цёплага дажджу...

• • •

“Талент, як грошы, – сцвярджаў славуты яўрэйскі класік Шолам Алейхем. – Калі ёсць, ёсць, калі няма, няма!..” Гэтыя словы любіў паўтараць Янка Брыль.

Падкарэктуем думку: не талент, а натхненне, бо калі талент ёсць, дык ён ёсць, бо гэта – здольнасці ад прыроды. Ад бацькоў, ад родных табе людзей. Іншая справа, што “задрэмле” ён на час, на гадзік-другі. Відаць, адсюль і сцвярджэнне Шолама Алейхема.

• • •

Чалавека пускаюць на свет божы для любові. Так яно напачатку і ёсць, пакуль маленькі. Дробненькі і безабаронны.

Пакуль ім цешацца, як новай лялькай. Моляцца на яго, як на бажка.

Пакуль ён не агрызнецца.

Але тады будзе позна...

• • •

Памяць – адзіны рай... Наўмысна не заканчваю думку, хачу, каб чытач сам закончыў яе. Закрыў рукой адказ з нататак і паспрабаваў угадаць. Мы ж закончым думку так, як сказаў адзін вядомы нямецкі вучоны: “Памяць – адзіны рай, з якога нас не могуць выгнаць”. Таленавіта сказана!

паэзія

Алесь Нінько



...блуканні – не прычына
адкінуць веру..

# Прасветлы дар

* * *

Твае вочы — дарога натхнення,
і рука ўслед за думкамі позніцца
лабірынтамі сну і ўяўлення
па бязмежнасці велічнай ходзячы,
галава хутка рыфмамі поўніцца,
ды не хочацца думаць нічога...
Проза, вершы — ніякае розніцы,
калі йдзе захапленне ад Бога.

* * *

Ваганні восеньскіх варункаў
варушаць водсветы надзей.
Са спёкай зводзячы рахункі,
халодны вечар набрыдзе.

У стоме песцяцца аблокі,
чаканнем поўніцца абсяг,
і прыцемкаў цяжкія крокі
між цішыні прагрукацяць.

* * *

Пануры лес застыў смугою,
пануе збэшчаны наплыў,
і крочу я нямым ізгоем,
што свет самотай аздабіў.
Трымцяць нязводнасцю малюнкі,
і слота кліча ўдалячынь
павольнасцю няўмелых рухаў
ды мерным ходам аблачын.

* * *

Табло на сцяне –
непазбежнасць фіналу.
Істота жыве
салодкім падманам,
рэфармаваным
у існасць.
Дваістасць –
часовая рэч:
нічыя з разгромным лікам
дабівае ўжо мяне.

* * *

Шалёнасць мелодый
нямога палёту
натхняе пустэчу
забыцца сляды.

Адхланне ў вечнасць –
экстаз пустаты,
загубленасць фраз
і твар нематы.

* * *

Адзінота.
Схавацца, і ўпотай

Блукаць сутарэннямі
ўласных ілюзій.
Пазбыцца ў друзе,
збіраць па аскепках
крывое люстэрка.
На сцежках,
парослых сумненнямі,
збочыць у цемру,
і там
адолець сябе
і спасцігнуць.
Нарэшце –
памерці і знікнуць,
каб зноў нарадзіцца
і крыкнуць.

* * *

Апошнія рухі злы лёс пераблытаў,
апошнія словы схавала сутонне.
Не чуе ніхто маіх грэшных малітваў...
Учора здаецца бяздоннем.

І млявасцю лёгкай сагрэты,
спакушаны згінуўшай слотай,
малюю я цемры партрэты
на шэрых шматках адзіноты.

* * *

Блуканні – не прычына
адкінуць веру.
Удару крэсівам –
лучына
закрэсліць цемру.

Знядбалым месівам –
душа.
Спазнанне свечкаю
трымціць.
Адвечнай ерассю
іспыт спярша...

Адолеў шлях...
І зноўку вернік ты,

крывіч:
ўваскрослы Зніч –
Твая душа.

* * *

Ты – трапяткі прасветлы дар,
падараваны морам мрояў,
вясёлка сярод чорных хмар,
святло сярод сутоння.

Ты – казачных вятроў павеў,
цнатлівы і дзівосны,
ты – шчасця велічны напеў,
святло маіх нябёсаў.

Паганскае возера
Пялёсткі белае лілеі
спакон люлялі твой спакой,
глыбіні чарамі яснелі,
пеў гімны вецер над вадой.

Кудлаты лес рабіўся кволым,
чарнела цэглай камяніца...
Апоўначы звяры ды хвоі
табе спяшылі пакланіцца.

І каб пазбегнуць ашуканства
у свеце гэтым, злым і хцівым,
я ваўкалакам ноччу шастаў,
каб ад святой вады паганства
набрацца сілаў.

* * *

Міражом асляпляючы дол,
скамянелых анёлаў постаці
пазіралі з нябёсных лугоў.
Вецер вёў сваю песню роспачы.

І самотны матыў гэты зноў
падхапіла адхлання цямрэча.
Я ў палоне абразлівых сноў
навечна.

* * *

Мы ідзем, мы паволі канаем  
у бязлітасна-лютай завеі,  
а шкляныя і п’яныя твары  
нас клічуць далей і далей.

Мы – нашчадкі хаўруса багоў,  
мы – амёбы,  
што выйшлі з вады,  
і ў душы, мабыць,  
кожны гатовы  
зноў вярнуцца туды.

Мы не помнім нічога  
і між казачных сноў  
і д’ябла, і бога  
мы прыдумалі зноў.

* * *

Дэфіцыт уласных думак  
і пачуццяў інфляцыя –  
сумны рахунак  
цывілізацыі.



Юльяна Пятрэнка



...іду паўз чорныя латкі агародаў,
міма кінутых хат на далёкі пясчаны ўзгорак,
туды, дзе ляжыць апошні альхоўскі ліцвін...

# Родныя матывы

***Тры аповеды***

## Апошняй сцяжынкай...

З натужным скрыпам зачыніліся дзверы старога аўтобуса, ён загуў, абсыпаў бурым пылам і пагрукатаў па выбоістай дарозе далей.

Зноў іду знаёмай віхлястай сцежкай ад аўтобуснага прыпынку. З кожным годам яна нібы вужэй робіцца, зарастае безназоўным зеллем, размываецца беспрасветнымі восеньскімі дажджамі. А раней па шырокай дарозе беглі напоўненыя зернем грузавікі, споўдалі гружаныя сенам вазы. А цяпер? Цяпер пройдзе раз у тыдзень да царквы кволая бабка ды пракульгае які дзед да кума ў госці альбо грошай пазычыць.

Па глухой сцяжынцы, якая вілася ўздоўж лесу да самай фермы, цяпер гуляе беспрытульны вецер, закручвае гарачым віхорам пыл. Ферму і цяпер відаць. Дакладней,

тое, што ад яе засталося – парослыя быльнёгам руіны. І вёска хутка зарасце. Кожная трэцяя хата пустая, згорбленая пад цяжарам часу і нягодаў. Жаласліва глядзіць на вуліцу пабітымі шыбамі, лязгае расхістанымі дзвярамі, працягла стогне і крэхча ў непагоду, бы тая старэча. Але вёска не скардзіцца, няспешна цячэ ў ёй звыклае жыццё, усё ідзе сваёй чаргой, як і мае быць. Тырчаць па-над зялёнымі каронамі садоў вострыя стрэхі, глядзяць у неба коміны, каласяцца вакол залацістыя азёры жыта. У вёску я наведаюся пазней, калі захочацца глянуць, што яшчэ засталося тут родным і некранутым, такім, як памятаю з маленства. А зараз ногі нясуць мяне да мілага сэрцу хутара, уздоўж цёмнага бухматага ельніку, праз парослы канюшынай лужок, які ўжо даўно не taпталі капыты статку кароў.

Падымаецца з духмянай зямлі густая паўдзённая спёка, гудуць над самым вухам залатыя пчолы, цвіркае высока ў сінім бязвоблачным небе адзінокі жаўрук. Колькі я сябе памятаю, столькі і чуецца яго нязменная пераліўная песня, адна і тая ж, з году ў год. Хіба птушкі столькі жывуць?

Побач чуецца мернае паскрыпванне ровара.

– Дзень добры! – няспешна коціць паўз мяне незнаёмы вусаты дзядзька ў кепі і ледзь не зварочвае галавы. Да руля і багажніку надзейна прывязаныя невялічкія кошыкі.

– Дзень добры, – разгублена адказваю я.

Хто гэта, адкуль, куды едзе? Невядома. Такі ўжо тут парадак: усе свае, трэба вітацца. Ідзеш, бывае, у краму, нікога не чапаеш, а бабулькі так і выскокваюць са сваіх агародаў: «Што за дзяўчына такая, адкуль з’явілася, да каго прыехала?» – усё ім ведаць хочацца.

Я іх разумею, таму і не крыўджуся. Усім ахвотна пра сваё жыццё-быццё распавядаю: дзе трэба – прамаўчу, дзе трэба – прыкрашу. Няхай сабе пляткараць адвячоркамі на лаўцы: і ім весялей, і мне не сумна.

Хутар відаць здалёк – патанае ў густой зеляніне дыхтоўная крэпкая хатка. Яшчэ дзед дзеда пасадзіў тут вялізны сад. Прыехала ў добры час: ужо зарумяніўся ранет, наліваюцца гарачым сонцам пузатыя орлікі, і пад цяжасцю пунцовых барвінкоў згінаюцца да зямлі сонныя калматыя галіны.

Знаёмы ровар стаіць каля самых варот, і вусаты дзядзька ў кепі круціцца ля лаўкі, знімае свае кошыкі і загароджвае ад мяне дзеда. Я ведаю, што ён там. Сядзіць, як заўсёды, прыхінуўшы побач нязменны кій, і засяроджана паглядае ўдалеч. Аб чым ён думае, аб чым разважае ў такія хвіліны – аднаму Богу вядома.

– О-го-го, прыехала мая Юлька ўсё ж! – дзед слаба ўсміхаецца і кідае пад ногі недакураную цыгарку. – Маці яшчэ ўчора тэлефанавала, вось і чакаю, – раптам яго погляд змяняецца, на абветраным твары весела паблісківаюць шэрыя вочы, усё яшчэ маладыя – такія ж самыя, як на старым чорна-белым партрэце, што вісіць насупраць абразоў, паміж вокнамі. Цяплынь на вуліцы, а ён аніяк не скідае старой футравай камізэлькі.

За дошкавым плотам разрываецца, брэша рыжы кашлаты сабака, што не пазнаў мяне.

– Цуцык! Цуцык, не брашы, каб цябе! – стары не спяшаючыся бярэ агрубелай шурпатай рукой нязменны кій і грукае па плоце.

Ізноў Цуцык? Кожнае лета я даю дурному сабаку мянушкі. І Джэкам называла, і Мухтарам, і Тузікам. А дзеду ўсё адно: сабака Цуцык ды кот Каток.

– Ну, як ты тут? – я нахіляюся і цалую яго ў хударлявую калючую

шчаку. Дзед адмахваецца ад мяне, як ад надакучлівай мухі, але я ведаю, што яму прыемна, чытаю ў хітрых вачах.

– Добра, пайшоў я па яблыкі, – дзядзька нарэшце разумее, што ён тут лішні, і з кошыкамі ідзе ў стары зарослы сад, не звяртаючы ўвагі на злоснага Цуцыка.

Дзед моўчкі дастае чыстую анучку з высушанай, дробна нарэзанай табакай і любоўна разгортвае яе на схудзелых каленях, затым з кішэні з'яўляецца храбусткая цыгарэтная папера.

– Можа, досыць ўжо? – з папрокам гляджу я на яго, сядаю побач і стаўлю на старую лаўку сумку з гасцінцамі. – Сам жа скардзіўся, што ногі кепска ходзяць. Лічыш, ад табакі лепш будзе?

– Горш не будзе, – смяецца ён і звыклым жэстам скручвае чарговую цыгарку. – Ну, распавядай, як там сталіца? Стаіць?

– Стаіць, што з ёю станецца...

– А з універсітэту не выгналі?

– Каго? Мяне? Ды я сама каго хочаш выганю!

– От і правільна. Каза ты гарэзлівая. Памятаеш, як мы каровы пасвілі? А як рыбу лавілі?

– Памятаю, чаму ж не...

Я ведаю, што зараз пачнецца доўгая няспешная гутарка і пра кароў, і пра саўгас, і пра бабулю, і пра вайну, і пра ўсіх без выключэння родзічаў. Але дзеду лянота распавядаць свае байкі, ён прыпас іх да вячэрняй гарбаты, калі будзем сядзець разам на лаўцы з дымнымі эмалёвымі кубкамі ў руках і глядзець, як малінавы шар сонца павольна коціцца за чорныя грэбні лесу.

– Замуж завуць? – раптам пытаецца дзед і хітра мружыцца, што той кот.

– Якое замуж? Рана мне яшчэ, – смяюся я і заплятаю ў тугую касу раскудлачаныя ліхім ветрам валасы.

– Цётка Альжбэта вунь у шаснаццаць пайшла, і то старой дзевай дражнілі, – ён аніяк не жадае заканчваць гутарку, вельмі, павінна быць, яму хочацца праўнукаў дачакацца. – Ну, а хлопца хоць сталічнага знайшла?

– Некалі гуляць, вучыцца трэба, – уклонліва адказваю я. Ну хіба раскажаш старому, што знайшла, згубіла, паплакала, забыла, новага знайшла – справы маладыя...

– Дзякуй, набраў, – паказваюцца над плотам чорныя вусы і кепі. – Паеду, а то старая лаяцца будзе.

– От! І калі паспеў? – здзіўляецца дзед і з сапраўднай дзіцячай цікавасцю разглядае поўныя румяных яблыкаў кошыкі.

– Ага, казаў бог, каб і ты памог! – тузае дзядька аборкі на ровары. – Усе ведаюць, што на хутары ў Паляка лепшыя яблыкі!

– Які я табе паляк? – хмурыць сівыя бровы дзед. – Блёкату аб'еўся? Ідзі, ідзі чорт стары, абрыдзеў ужо!

– Дзед, а чаму цябе Палякам клічуць? – пытаюся я, калі вусаты дзядзька ўжо трэнькае старым роварам па вузкай сцежцы.

– Не ведаю, дурні таму што.

– А ці ёсць хто ў родзе?

– Ды ну, – махае ён рукой, бачу – не жадае працягваць размову.

– І цётка Альжбэта заўсёды лаялася, каб я не шкоднічала і спіну роўна трымала, як і належыць сапраўднай панне.

– Цьфу ты, – смяецца дзед і разганяе мазольнай даланёю гаркаваты духмяны дым. – У яе пад старасць зусім глузды высахлі!

– Ну былі ж тут палякі?
– Былі. Усе былі: і палякі, і рускія, і немцы...
– Дык усё ж паляк?
– Дзед мой казаў, што з ліцвінаў. Вось, нада думаць, і я – той самы ліцвін. Відаць, апошні, – ізноў усмешка ззяе ў яго глыбокіх вачах. – Апошні альхоўскі[1] ліцвін.

Дзед кідае ў высокую хмялючую траву ашчадна выкураную цыгарку, асцярожна складае ў кішэню запалкі і звязвае анучку з табакай. Затым цягнецца за прытуленым да плоту крывенькім кіем. Пасабляць яму нельга, бо пакрыўдзіцца. Зноўку будзе пярэчыць, дасвядчаць, што не стары яшчэ, і сам усё доляе без чужой дапамогі, і таму ў горад не выправіцца ні за якія абаранкі, і не будзе там у бетоннай каробцы сядзець ды на бетонныя каробкі пазіраць. Таму нічога не застаецца, як прапусціць яго ўперад, а потым і самой нырнуць услед у ціхі цяністы дворык.

Ізноў іду цярністай сцежкай ад аўтобуснага прыпынку. Іду ўздоўж цёмнагрывага лесу, праз някошаны лужок, над якім гудуць залатыя працавітыя пчолы, паўз жытнёвыя акіяны, паўз старую разбураную ферму, мінаю адзічэлы хутар з пустою знямелаю хатаю і сіратліва выглядаючымі цераз счарнелы плот курчавымі галінамі, міма спарахнелай лаўкі, дзе раней мы пілі гарбату, а зараз гэтае месца аблюбавалі вужакі. Іду паўз чорныя латкі агародаў, міма кінутых хат на далёкі пясчаны ўзгорак, туды, дзе ляжыць апошні альхоўскі ліцвін...

## Родныя матывы

– Ну, Юльяна, пачакай ты ў мяне, чарцяня малое! – бабця Верка ўжо зусім задыхалася, прысела на выкарчаваную вярбу і апусціла дубец.

Хударлявая дзяўчынка, гадоў шасці, з мурзатым тварам і пазбіванымі каленькамі, насцярожана вызірнула з хмызняку. І нават не хавае гарэзнай шчарбатай усмешкі. Бабцю можна не баяцца – зусім старая, не дагоніць, не тое, што дзед з крапівой – той дужа спрытны і на пад'ём лёгкі.

– Нельга на рэчку адной хадзіць, чуеш? – расчырванелая ад нязвыклага бегу бабця паправіла белую хустку, якая ўжо з'ехала набок, і выцягнула наперад поўныя ногі. Сядзіць, абмахвае старым фартухом цёмны маршчыністы твар.

– Чаму нельга? – зацікаўлена набліжаецца да бабці малая, а сама старанна хавае абедзвюма рукамі белую ў блакітны гарох сукенку, падраную аб плот.

– Хадзі сюды, перапляту, пудзіла, – Верка закасвае рукавы, і дзяўчынка паслухмяна сядае ля яе ног, на засланую жоўтымі казяльцамі зямлю, а старая пачынае разбіраць сухімі вузлаватымі пальцамі зблытаныя залацістыя валасы на маленькай галоўцы. – Нельга, таму што там Вадзянік жыве.

– Дзе?
– Не тузайся! У рэчцы жыве. Падыдзеш да берага, а ён цябе хап! І ў ваду зацягне...
– А дзед казаў, Вадзянік у студні жыве...

* Альхоўцы – вёска ў Брэсцкай вобласці, Ляхавіцкі раён.

– Ну, і ў студні таксама. У вадзе жыве. Таму не лезь туды, бо русалкай станеш.

Юльяна маўчыць, пакуль старая заплятае тугую коску. Але прыціхла не ад страху – потым яна будзе штодзень заглядаць у дзівосную студню і бегаць на кладку, чакаць, пакуль забярэ яе той Вадзянік. Дужа хочацца сядзець на пясчаным дне пад прахалоднай вадой,назіраць за серабрыстымі рыбкамі і прымяраць пацеркі з каляровых ракавінак і багавіння. Але Вадзянік ніколі так і не заявіўся, не пажадаў хапнуць Юльяну і сцягуць з сабою – відаць, сяброваў у яго і без яе хапала.

– Хадзем дадому, – стомлена ўздыхае бабця. – Хутка бабуля Вольга з пашы вернецца...

– А ты не будзеш пра матацыкл казаць? – малая недаверліва паглядае на яе хітрымі зялёнымі вачыма. Напэўна, дзед задасць дусту, як даведаецца, што сама адкрыла гараж, узлезла на матацыкл і неўзабаве звалілася ў адкрытую ямку з бульбай і буракамі.

– Не, не буду, – Верка ўжо ляніва клыпае ў бок вялікай, з разьбянымі аканіцамі хатай, што стаіць між вішнёвых дрэўцаў, якраз насупраць рэчкі.

– І пра гусей не будзеш? – даганяе яе Юльяна і раптам робіцца падазрона паслухмянай, нават шаўковай.

– Што пра гусей? – Верка запавольвае крок і спыняецца. – Дык гэта ты з гусей пер’я надрала?

– Не, не я...

– І навошта?

– Веер зрабіла... Прыгожы, як у прынцэсы.

Верка бярэ малую за руку і моўчкі вядзе да хаты праз свежафарбаваную зялёную брамку. Да прыходу гаспадароў ёй застаецца адно вымыць запэцканую травой і дарожным пылам дзяўчынку. Добра, што на гародзе, на самым сонцапёку ўжо нагрэлася ў луджаных ночвах калодзежная вада.

Бабуля Вольга, зусім яшчэ не старая і статная кабета, вяртаецца з пашы. Коціць па распаленай ліпеньскім сонцам дарозе бліскучы ровар, на якім пабразгваюць вёдры і поўныя бітоны з цёплым яшчэ малаком.

Юльяна выпроствае спіну, важна сядзіць каля Веркі і абыякава паглядае ўдалечыню. Нібы і не сходзіла нікуды: не бегала на кладку паласкаць бабіны ручнікі, не скубла гусей, не ганяла па хляве свіней, якія ніяк не жадалі паддавацца дрэсіроўцы, быццам не катала ў садовай тачцы загорнутага ў бабіну хустку ката, не вучыла лётаць баязлівых куранят, не круціла швейную машынку, не кідалася зялёнымі яшчэ яблыкамі ў суседскага рабаціністага хлопца і не выкідала нялюбую грачаную кашу праз акно ў пышныя бабуліны вяргіні.

Верка ўздыхае з палёгкай – пост здаў, пост прыняў. Суседская ўнучка жывая-здаровая, а значыць, можна з лёгкім сэрцам вяртацца да сваіх градак. А там няхай самі са сваёй гарэзай разбіраюцца.

Бабуля Вольга ўсміхаецца яшчэ здалёк – усё бачыць, усё чытае па вінаватым твары свавольнай унучкі, але ніколі не карае, толькі жмурыць чорныя, нібы ў цыганкі, вочы і незадаволена хітае галавой. Гаспадарка ў яе вялікая: дзве каровы, свінні, куры з гусямі, хапае моцы і на агромністы агарод, і часу на адзіную ўнучку, таму, мабыць, і крыху разбэшчаную. Ні арэлі ёй не трэба, ні цацкі, ні новы ровар. Адно песні з гульнямі давай, адрывае ад хатніх клопатаў, гарэза.

Адвячоркам вяртаецца дадому дзед. Вялікі, магутны і строгі. Але Юльяна

заўсёды скача на ягоныя калені – зайчыкавага хлеба пакаштаваць і казак паслухаць пра сейбіта з чароўным корабам, пра хітрага цмока і медзянога ваўка, пра злосную мачаху з яе падчаркай і пра кемлівых палешукоў. Адно не любіць, калі дзед пабітыя каленкі і локці зялёнкай мазаць пачынае – вось дзе кара сапраўдная.

Вось і сёння пад'язджае да шырокага двара засцелены саломай і старым кажухом воз. Дзед лёгка саскоквае на зямлю, кідае ў воз пугу, высока падымае ўнучку і садзіць на рослага гнедага каня з белай адмецінай на шырокім ілбе. Гэтак сядзець нязручна, перашкаджае хамут, скураныя папругі і лейцы. Лепш, канечне, у сядле ці нават і без яго – Буня ціхі, паслухмяны, не панясе. Але гэтак прыемна туліцца да ягонага гарачага і пахкага цела. Буня прадзе вушамі і памахвае доўгім хвастом, калі адганяе мух. Пацешна падрыгвае на ім мяккая аксамітная скура. Хутка дзед распражэ яго, дасць вады і сена, і тады ўжо можна заплятаць ягоную доўгую грыву і карміць з далоні морквай і яблыкамі.

Але гэта будзе пазней, а цяпер дзяўчо скача ў другі канец вуліцы:

– Стуку-стуку па таку,
Едзе баба на быку,
Пытаецца ў Васіля:
Ці далёка да сяла?
Васіль кажа: – Тры мілі,
Васіліха: – Чатыры.
Васіліха Васіля
Чапялою зацяла,
Пайшоў Васіль плачучы,
Васіліха скачучы!

Зноў стаіць ля прытуленай да бярозы хацінкі нейкая машына, сядзіць у ёй незнаёмы тоўсты дзядзька, чакае некага. Юльяна незадаволена сціскае вусны і хмурыць выцвілыя на сонцы бровы – ізноў госці ў старой Арыны, ну ніяк не дадуць паразмаўляць! Яна незадаволена шморгае носам, абцягвае сукенку, затым смела штурхае невысокія веснічкі і бяжыць праз парослы духмянай травой вузенькі дворык да драўлянага ганка, звыкла ўскоквае ў цёмныя сенцы, асцярожна расчыняе дзверы і апынаецца ў светлай куханьцы.

На лаве ля самай печы маладая жанчына нервова мне ў тонкіх дагледжаных пальцах дзіцячую кофтачку. А пад самымі абразамі на высокім зэдліку сядзіць бялявы хлопчык гадоў сямі і баязліва паглядае на нязваную госцю. Над ім стаіць сівая Арына, старая, але жвавая і гнуткая, нібы ласка. Яна засяроджана пералівае над бялёсай хлапчуковай галавой са шклянкі ў шклянку чыстую калодзежную ваду і ўбівае ў яе яйка. Пабачыла звыклую госцю, і ў глыбокіх агатавых вачах заззяла лагодная ўсмешка. Арына ківае галавой, але не адрываецца ад сваёй справы і не перастае манатонна шаптаць: «Прачыстая маці наперадзе жаркае сонца ставіць, залатым храстом пабіваець, сілу нячыстую праганяець... Земляное ў зямлю, агняное ў агонь, ветраное на вецер...»

Бяляваму хлапчуку і яго маці нічога з гэтага не зразумела. Юльяна чула тыя словы не раз – спужаўся хлопец, звычайная справа. Яна іх напамяць ведае, як ведае і тое, што перашкаджаць ні ў якім разе нельга, таму ціхенька сядае каля маладой прыгожай жанчыны, пільна разглядае яе незвычайныя завушніцы і паўтарае пра сябе разам з Арынай замову:

«Бяру я свае словы, замыкаю сямі ключамі, сямі замкамі, бяру тыя ключы і кідаю ў акіян-мора...»

Нарэшце стомленая Арына выпраўляе гасцей і дае хлапчуку на развітанне абаранак.

– Ну што, зноў учора з садзіка ўцякла? – звонкі, зусім не старэчы голас ужо гучыць у кухні. – Бачыла, як дзед за табою з папругай бегаў, – смяюцца агатавыя вочы.

– Не, з крапівой, – удакладняе Юльяна, прымаючы з яе бялюткіх рук вялікі абаранак.

– У садку цікава, дзеткі там, – Арына апускаецца на лаву побач.

– Нецікава. Бегаць нельга, спяваць нельга, кветкі рваць нельга. І Мішка дражніцца.

– А ты яго пацалуй. Ага, пацалуй, паглядзіш – забудзе дражніцца, заступацца пачне.

– Вось яшчэ! – абураецца Юльяна. Разумее, як перастане Мішка дражніцца, то зусім сумна стане, і біцца не будзе з кім. – І яшчэ казкі зусім нецікавыя распавядаюць – пра спадарожнікі, ледаколы і матросаў. Пасадзяць у радок, як лялек, і распавядаюць. А потым гоняць у барабан грукаць і па дварах старое жалеззе збіраць. А я не хачу жалеззя і матросаў, хачу вяночкі звіваць і птушачак карміць.

– Дарэчы, прынесла мне адна птушачка, што ты зноўку на картах варажыла... – Арына пільна ўглядаецца ў зялёныя вочы.

– Дык я зусім трошачкі...

– Я табе што казала? Выкінь! Ці спалі, як баба печ распаліць.

– Сама спалі. Я печы баюся.

– Агню баішся? Не бойся.

– Не, не агню. Там жыве нехта, у падпеччы.

– Хто? Мыш?

– Не-а, нехта. Чорны. Па начах выглядае.

– Бачыла?

– Ведаю.

– Ты ж смелая?

– Ну, смелая...

– А як смелая, то не бойся паглядзець. Нічога табе гэты нехта не зробіць, ён сам цябе баіцца. Нут-ка, пстрыкні пальцамі. Ага, во так. І кажы: «Зменшыся, зменшыся, зменшыся, знікні!» І вадой святой акрапі. Усё, растае.

– Добра, зраблю.

– А карты выкінь.

– Выкіну.

– А ў наступны раз, як захочаш з садка збегчы, то лепш адразу да мяне кіруй. Па святаяннік адправімся, пакажу, дзе рваць, як сушыць і ад чаго заварваць. Ага?

– Ага, – гарэзлівыя вочы радасна ўспыхнулі і зноў згаслі. – Дык выхавальніца зноўку лаяцца будзе. Крычыць, нагамі тупае, ажно галава балець пачынае.

– Няхай сабе крычыць. А ты не злуй, каб галава не балела. Вакол цябе агонь гарыць, вада цячэ – не падысці, не падступіцца, не дакрануцца...

– Як што, дык я ў ваду і хаваюся, я ж – русалка.

– От і правільна. Ніхто ліха не зробіць. Цябе ж зусім і не Юльянкай клічуць.

– А як? – вочы ад здзіўлення робяцца вялікімі.

Арына нахіляецца і нешта казытліва шэпча ў самае вуха.

– Запомніла? Толькі ніколі не кажы, нікому-нікому, ні ворагу, ні сябру.

– А прынцу?

– А прынцу тым больш, – старая змаўкае, і ўсмешка знікае з яе хударлявага твару. Яна бярэ маленькую далонь і раскрывае яе. – От, глядзі... Вось у цябе лінія жыцця, доўгая і роўная, а гэта – кахання. Вунь яны, прынцы тыя, так і выскокваюць з усіх бакоў. На ўсіх не глядзі, не варта. А вось караля ў цябе няма, – цяжка ўздыхае Арына. – А мо яно і добра? Сэрца не аддасі, сябе не страціш, – і доўга маўчыць, думае пра нешта сваё, далёкае. А потым зноў выпроствае светлыя тонкія бровы. – Да жыватворнай крыніцы ўсе цягнуцца, асабліва ў каго душа зламаная. Не шкадуй, светлай вадой дзяліся, але ж і сабе пакінь... Добра, бяжы ўжо, сонейка сядае, будзе бабуля цябе шукаць.

Дзяўчынка саскоквае з высокай лавы і бяжыць па гаманкой вуліцы, смела абганяе статак кароў, якія ўжо вяртаюцца дадому, і не выпускае з рук Арынінага гасцінца. Сонца ўжо коціцца да зямлі, і ружовыя прамяні асвятляюць шырокую вуліцу і мякка ззяюць ў шатах старых ліп, якія адвячоркам робяцца дзіўнага, бэзава-сіняватага колеру.

Увечары яна ўжо бясклапотна засынае на вялікім ложку, назіраючы, як бабуля Вольга чэша свае доўгія, чорныя, як смоль, валасы зробленай са шчацiння дзіка шчоткай і ціхенька спявае працяглую аднастайную песню, якую чула яшчэ ад маці.

Павекі становяцца цяжкімі, дыханне – роўным і глыбокім, яшчэ далёка да той пары, калі бацькі забяруць яе ў каменны нежывы горад з пыльнымі душнымі вуліцамі і абыякавым натоўпам людзей. Вырвуць з мілага сэрцу асяроддзя, але ніколі не здолеюць вырваць тыя глыбокія карані. А пакуль мерна калышуцца бабуліны доўгія валасы, нібы зіхоткія хвалі, адносяць кудысьці далёка-далёка, і рэхам чуецца адвечная шчырая песня:

– А маё ліцо ды прыгожае,
Ды, як ружа чырвоная, гожае,
Не пайду я ні за селяніна,
Не пайду я ні за двараніна,
А пайду я за крулеўскага сына,
Што з коніка не ссядае,
Мяча з пояса не здымае,
Цераз поле едзе – поле ззяе,
Цераз месца едзе – месца йграе,
Не пайду я ні за селяніна,
Ні за селяніна, ні за двараніна,
А пайду я за крулеўскага сына...

## Хатніца

Ночкай цёмнай восеньскай гарэла лучынка. Кідала цьмянае святло на сцены, дрыжэла на шурпатай падлозе, мякка асвятляла ясны спакойны твар і акруглыя шчокі статнай кабеты. Павітая вакол галавы ільняная намітка хавала ад староннiх вачэй густыя валасы і гладкую акруглую шыю, на якой чырвонаю зычкаю звязаны каўнер доўгай кашулі, што падала мяккімі складкамі да босых ног.

Цёмна ў хаце, а яна схілілася над вышываннем, апусціла глыбокія ўдумлівыя вочы і старанна выводзіць чырвонаю ніткаю аднастайныя ромбы

і раўнюсенькія крыжыкі на рукаўцах маленькай кашулі.

Незадаволена заварушылася прывязаная да нізкай столі плеценая калыска, загойдалася на канапляных вяроўках.

– Ну... чаго ты, – схілілася над ёю жанчына, адклаўшы ў бок вышыванне. – Вось, кашуля табе добра выйдзе, як паслухмяным будзеш... спі дзіцятка, спі, малое, – павольна закалыхала яна люльку. – Дужыя будуць ручанькі, да ўсялякай працы здольныя, – і напеўна зацягнула:

– Як дзіцятка будзе спаць,
Будзе спаць,
А я буду калыхаць,
Калыхаць,
Коцік, коцік, не хадзі,
Не хадзі,
Немаўлятка не будзі,
Не будзі,
Дрома да яго прыйшла,
Ой, прыйшла,
Ды ў люлечку лягла,
Абняла,
Белы месяц ўзыйдзе,
Узыйдзе,
І кудзелю напрадзе,
Напрадзе,
А зорачка будзе ткаць,
Будзе ткаць,
А я буду вышываць,
Вышываць...

Ціха ў хаце, спіць дзіця, слаба памільгвае цьмяная лучынка, лянiва падымаецца ўгору тонкі смалісты дымок...

Паважна ўстала гаспадыня з лавы, праплыла да бялеючай у поцемках печы, зазірнула ў дзяжу, дзе хлеб падымаецца. Ціхенька нашаптала нешта, кінула з аздобленага карункамі фартуху жменю кмену. Як убачыла на лаўцы гліняныя міскі, з асуджэннем пакруціла галавой і загрымела посудам, пачала складаць на палічку. Не паспела накрыць вышываным ручніком, як ізноў заварушылася калыска, галёкнула дзіця, пачуўся цяжкі працяглы ўздых. Адарвалася гаспадыня ад сваіх спраў, дастала з густых валасоў грэбень і шыбнула яго на падлогу, пад самую калысачку. «Ад паганых сурокаў, ад лютых крыксаў, ад ліхіх начніцаў», – зашаптала яна і пяшчотна правяла поўнаю акруглаю далонню па маленькай галоўцы.

А як сціхла немаўля, прысунула бліжэй прасліцу і зноўку ўзялася за працу. Спрытна шчыпле жвавымі пальцамі чэсаны на грабёнцы мяккі лён, і на вачах ператвараецца бязвыглядная кудзеля ў танюсенькую роўную нітку. Хутка справа ладзіцца, шпарка круціцца ў гнуткай мяккай руцэ верацяно.

Дагарэла, патухла кволая лучынка, а яна знай прадзе сабе, быццам падманлівага зорнага святла ёй дастаткова.

– Я кудзельку напраду,
Добру долю падару,
Як у полі, у раздоллі тры паненачкі,
Тры паненачкі, долі дольныя,
Адна доля ды цярністая,
У вяночку ды з калючых траў,
Друга доля ды рыбацкая,
У вяночку ды з галіначак,

Трэцця доля – доля шчасная,
У вяночку ў калоссевым,
Гэта доля – доля хлебная,
Гэта доля – доля збожжавая,
Гэта доля ды свабодная,
Гэта доля валатоўская...

Па-за вокнамі павольна разліваецца ранішні туман, тухнуць адна за адной сонныя далёкія зоркі.

– Долю шчасную праду ды пад люлечку кладу, – чуецца над калыскай адрывісты шэпт. – Долю шчасную праду ды пад люлечку кладу... долю шчасную праду ды пад люлечку кладу...

Як запеў першы певень – страпянулася гаспадыня, узняла галаву...

Як запеў другі певень – ускочыла з лаўкі, кінула вераценца...

Як запеў трэці певень – ступіла кабета ў цёмны кут і знікла... нібы растала ў сініх золкавых прыцемках.

Зноў нецярпліва загойдалася плеценая калыска, пачуўся галасісты патрабавальны плач.

– Іду-іду-у! – саскочыла з печы жанчына, танюткая і зусім маладзенькая. Пазнала немаўля знаёмы матчын голас і сціхла.

– Няймецца табе, – слаба ўсміхнулася яна, папраўляючы дзве тугія касы наўкол галавы. – Пачакай жа ж крышачку, я кароўку падаю, ды вадзічкі прынясу, ды коніка напаю, свінням дам, курам кіну і вярнуся адразу, – ласкава зашаптала яна і туга звязала на тонкім стане кляцістую панёву. – А печ і пазней распалю, так? Ну, пачакай, пачакай крыху, – і раптам на хударлявым твары гарэзна заззялі іскрыстыя вочы. – І кашулька ўжо гатова! І кудзелька ўжо напрана! – пакруціла яна ў руках вышытую кашулю, падняла з падлогі верацяно і заспяшалася да печы.

Падхапіла з прыпечка чыгунок з пакінутай загадзя бульбачкай, уліла ў яго малака і з паклонам паднесла да цёмнага кута:

– Дзякуй табе, Хатніца, Дамавуха-Матухна!

Крысціна Бандурына



...калі прыходзіў момант першай аплявухі,

я ведаў, што далей у ход пойдзе дзяга...

# Гарадскія ланцужкі

***Апавяданне***

Мне падабалася адкрываць шафы, даставаць і мерац адзенне, якое маці схавала мне навырост. У камодах, што стаялі ў бацькоўскім пакоі, заўсёды ляжала шмат цікавых рэчаў, хоць і шмат разоў мной перагледжаных, але па-ранейшаму прывабных. Больш за ўсё мне падабаліся маміны цені, цэлы набор з трох маленькіх паверхаў рознакаляровых квадрацікаў. Яны былі яркія, і я любіў імі маляваць. А яшчэ я мог бясконца перабіраць татавы запальнічкі. На іх былі розныя крутыя рэчы кшталту скарпіёна або арла. Памятаю нават запальнічку ў выглядзе пісталета. Але самай класнай з іх быў карычневы сабака з высалапленым языком. Націскаеш яму на хвост – і з рота вылятае струмень блакітнага агню. Мяне заўжды цікавіла, што там унутры яго.

Таксама цікава было гуляцца з бацькоўскімі залатымі ланцужкамі і пярсцёнкамі, яны без патрэбы валяліся ў скрыні на самай верхняй паліцы камоды. Калі бярэш іх у рукі, то чуеш ціхі перазвон, быццам яны размаўляюць паміж сабой, а калі на пярсцёнак трапляе сонечны прамень, у яго з’яўляюцца смешныя вочкі, якія ўвесь час бегаюць па коле, пакуль круціш яго на пальцы.

Ланцужкі доўгія, важкія, яны заўсёды імкнуцца збегчы з рук, калі трымаеш іх на поўны рост: хвосцік так і цягне ўніз, ірвецца на волю.

...Нехта пазваніў у дзверы. Напэўна, то Алінка прыйшла. Яна павінна была зайсці за мною пасля абеду, але я не думаў, што яна так хутка ўправіцца. Эх, шкада закідваць усё назад, у цёмныя шуфляды. Вазьму з сабою адзін ланцужок, пакажу Аліне, няхай пазайздросціць.

– Здароў! Што ты так хутка? Я думаў, ты пазней прыйдзеш.

Яна зняла шапку і пачухала за вухам. Маці зноў запляла ёй гэты недарэчны хвосцік на патыліцы. Такое ўражанне, што на яе галаве вырасла пальма.

– Здароў. Ой, слухай, я папрасілася раней пайсці гуляць, бо заўтра мяне адпраўляюць на тыдзень да Раства ў вёску да бабулі, – адказала Аліна, адначасова праводзячы рукою па пабелцы на сцяне і малюючы каля маіх дзвярэй чалавечкаў. Такіх, ведаеце, як на прыбіральнях вешаюць, хлопчыка і дзяўчынку.

– Пайшлі ўжо, а то так увесь дзень тут і пратырчым. У нас яшчэ санкі не чышчаныя!

Гэта была нашая любімая гульня: з‘язджаць з гары, стоячы на санках. Наш дом месціўся на ўзгорку, на яго вяршыне расла вялізная вярба (летам на ёй было вельмі добра гойдацца, пакуль бабкі з першага паверху не бачаць), а ўнізе звычайна людзі паркавалі свае машыны. Нашая траса праходзіла акурат ад вярбы да машын, прычым фінішная прамая была самым складаным яе ўчасткам: трэба было ўмудрыцца не зачапіць ніводнай машыны і пры гэтым не ўпасці з санак. Падзенне магло скончыцца трагічна, бо для лепшага кіравання санкамі стаяць трэба было не на сядзенні, а на жалезных “лыжах”, дзякуючы якім санкі і каціліся па снезе. Ногі выварочвала толькі так.

Часта наш сусед з сёмай кватэры, які працаваў кіроўцам аўтобуса ў футбольным клубе, прыязджаў на абед на гэтым аўтобусе, бялюткім, бліскучым, ярчэй за снег, размаляваным у футбольныя мячы, і ставіў яго на стаянку ля падножжа нашага ўзгорка. Вышэйшым пілатажам сярод удзельнікаў “гонак на санках” лічылася з’ехаць стоячы з гары, на хаду паспець легчы і праехаць пад аўтобусам, не зачапіўшы колаў.

Футбольны аўтобус стаяў на сваім звычайным месцы, а вось гара чамусьці пуставала: катацца выйшлі толькі мы.

Пакуль Аліна начышчала снегам свае санкі, я адышоў убок, зрабіўшы выгляд, быццам таксама збіраюся чысціць свае, нахіліўся і кінуў ланцужок у снежную гурбу.

– Гэй, хадзі сюды хутчэй! Глядзі, што я знайшоў, – мне падалося, што ў мяне выдатна атрымалася зрабіць выгляд, быццам я здзіўлены сваёй знаходкай. Я глядзеў, як вочы маёй сяброўкі разгараліся зайздрасцю і жаданнем патрымаць гэтую цацку ў руках, і не мог стрымаць сваёй радасці.

– Ух ты... – толькі і змагла вымавіць яна.

– Хочаш патрымаць? – я вырашыў злітавацца з яе і ганарліва паднёс бліскучы ланцужок да яе рук. Цяжка ўздыхнуўшы, яна раскрыла далоні.

Аліна моўчкі глядзела на ланцужок, яе шчокі пачырванелі яшчэ больш, а я стаяў задаволены і выціраў рукавіцай замерзлыя соплі пад носам. Майму шчасцю не было межаў.

– Твае бацькі дома? – раптам спытала яна, і я адразу спужаўся, што ёй усё вядома.

– Не. Не, нікога няма, а што? – напэўна, у той момант маю радасць з твару як карова языком злізала.

– А давай тады аднясем пакажам маім бацькам? Гэта такая крутая знаходка...

Я не ўмеў адмаўляць. Санкі ўжо былі непатрэбныя, гонкі не хвалявалі, я ішоў услед за ёю, шчаслівы тым, што выглядаю ў яе вачах героем: такую штуку знайшоў! Аліна моцна трымала ланцужок у сваіх руках, мы хутка дайшлі да яе кватэры, і з таго часу я яго больш не бачыў.

Вечарам прыйшлі з працы мае бацькі і выявілі прапажу.

Бацька быў раз'юшаны маім учынкам, бо ў дадатак да таго, што было зроблена, я не мог выразна растлумачыць, навошта я знёс ланцужок з хаты, даў у рукі Аліне і дазволіў аднесці яе бацькам.

Я чакаў пакарання, якое звычайна праходзіла па аднолькавай схеме: бацька зневажальна "крыў" мяне матам, па меры ўзмацнення злосці яго сарказм пераходзіў у суцэльную брудную лаянку, у якой слова "тварына" можна было лічыць кампліментам. Калі прыходзіў момант першай аплявухі, я ведаў, што далей у ход пойдзе дзяга.

Цяжкая бацькава рука ўжо навісла над маёй галавою, калі ў пакой вярнулася маці, якая кожны раз сыходзіла, калі бацька займаўся маім "выхаваннем" – не вытрымлівала. Яна адцягнула яго ад мяне і сказала, што трэба схадзіць да Алініных бацькоў забраць ланцужок – так бы мовіць, па гарачых слядах.

– Няхай во гэты шчанюк сам збіраецца і ідзе! Мазгоў хапіла скрасці, хай здолее і вярнуць, – кінуў у мой бок бацька, павярнуўся да маці спінаю і пайшоў апранацца.

І мы ўтрох пацягнуліся ў суседні пад'езд, павольна і моўчкі падняліся на трэці паверх. Дзверы нам адчыніла цётка Люда, маці маёй сяброўкі. Яна пусціла нас на парог, але далей запрашаць не стала, і пакуль мае бацькі тлумачылі мэту нашага візіту, яна разглядала нас з анёльскім выразам на твары, а пасля паклікала мужа:

– Сяргей, выйдзі сюды, тут пагаварыць трэба.

Яго ўсё не было, зацягвалася вельмі няёмкая паўза, і таму цётка Люда сама пайшла да яго на кухню. У поўнай цішыні мы стаялі і чакалі, пакуль яны там нашушукаюцца. Я разглядаў знаёмую двухпакаёўку, у якой неаднаразова бываў. Яна здавалася мне чужой, быццам я бачыў яе ўпершыню. Мізэрныя пакойчыкі былі спрэс застаўленыя мэбляй, якой пры іншых умовах было б не шмат, але адсутнасць нармальнай прасторы стварала ўражанне, быццам там жыла сям'я "плюшкіных" – так мая маці заўсёды называла бабулю, якая з працы цягнула ў дом розныя слоікі, скрыначкі, пакеты і іншае смецце.

Цётка Люда працавала медсястрой у туберкулёзным дыспансеры, а дзядзька Сяргей быў кіроўцам у ЖКГ, ездзіў на сінім "ЗІЛе" і перавозіў са сметніц старую мэблю, дошкі, ссохлае галлё дрэў. Гэта была ўзорная савецкая сям'я, у якой, акрамя Аліны, быў яшчэ старэйшы сын Анатоль. У лепшых традыцыях жанру выхаваннем сына займаўся бацька: вучыў яго кіраваць машынай, і разьбой па дрэве яны займаліся, і на каратэ хадзілі разам (бацька адводзіў і забіраў яго). Ну а Алінай, адпаведна, займалася маці: купляла ёй розныя часопісы кшталту "Вучымся гатаваць смачна" ці "Наша кухня", вадзіла яе ў школу на брэйн-рынгі, у лялечны тэатр школьнай бібліятэкі, куды прымалі толькі выдатнікаў. Цётка Люда

і дзядзька Сяргей не прапускалі ніводнага бацькоўскага сходу, актыўна падтрымлівалі суботнікі, прыходзілі на ўсе лінейкі абавязкова з кветкамі. Аліну і Толіка першымі з нашага двара прынялі ў піянеры.

Аліміны бацькі раіліся нядоўга. Яны выйшлі з кухні разам, дзядзька Сяргей працягнуў майму бацьку ланцужок і лагодна спытаў:

– Вы пра гэты кажаце?

У яго руках пабліскваў слабенькім праменьчыкам святла ад лямпы зусім іншы ланцужок, больш тонкі і кароткі. Паддаўшыся першаму парыву, чэсны “на сто адсоткаў”, бацька адмовіўся ад таго, што яму было прапанавана.

Быццам бедныя родзічы, маці з бацькам ледзь не кланяліся ім і некалькі разоў папрасілі прабачэння за наш візіт. Калі дзверы за нашымі спінамі зачыніліся, пачаўся другі акт п’есы пад назвай “Пакаранне”, нашмат болей страшны за тое, што было дома. Не стрымаўшыся на нагах пасля чарговай аплявухі, я ўпаў на калені, і тады, аб’яднаныя агульнай прагай помсты, бацька з маці сталі нагамі спіхваць мяне са сходаў. Я ўпіраўся, вісеў на іх нагах, плакаў і енчыў, прасіў спыніцца, але дарэмна, гэта яшчэ больш раздражняла бацьку, услед за якім злавалася і маці.

Яны казалі, што я ім не патрэбны, што сына ў іх больш няма, і кожнае слова біла мяне мацней за ўдары іх ног. Я не хаваў слёз, і калі бацькі выпхнулі нарэшце мяне на вуліцу, кінуўся прэч ад іх.

На вуліцы было цёмна і ціха, ляжаў хрусткі бліскучы снег, з ліхтароў над маўклівымі пад’ездамі падала марознае святло. Я бег і бег, не спыняючыся, пакуль нагам не стала холадна: я нават не заўважыў, што згубіў свой абутак у Аліміным пад’ездзе. Мне не было куды ісці, працяжна скуголіў пусты страўнік, праз шкарпэткі ўсё мацней адчуваўся холад снегу, але больш за ўсё мяне душыла крыўда на бацькоў: я не разумеў, як яны маглі адмовіцца ад мяне, няўжо я зрабіў нешта настолькі кепскае, што заслужыў такія іх словы?

Я цвёрда вырашыў, што дадому не вярнуся, саманадзейна спадзяваўся, што вытрымаю холад, а ноч думаў правесці ў якім-небудзь пад’ездзе, дзе няма кодавага замка. Ногі неслі мяне невядома куды, я зайшоў у незнаёмы раён, і спачатку мяне напалохала маўклівая варожасць дамоў, але потым стала абыякава: мне было ўсё адно, куды ісці.

Цёмнымі завулкамі я выйшаў на шырокі праспект, які разразаў упоперак доўгі ланцуг ліхтароў. За кропкай гарызонту, там, дзе цемра праглынала ўсе магчымыя абрысы будынкаў, ліхтаровае святло злівалася ў вялізныя навагоднія шары, якія танчылі перада мною кожны раз, калі я лыпаў цяжкімі ад наліплых сняжынак вейкамі. Паабапал дарогі міргалі рознакаляровым неонам шматлікія білборды. Я застыў на імгненне ад нечаканасці: да таго гэта было прыгожа, але мароз тут жа сагнаў мяне з месца – да болю калола ў нагах.

Людзі праходзілі міма, паглядалі на мяне з вышыні свайго росту, і ў вачах некаторых з іх было здзіўленне ад выгляду маіх шкарпэтак, хтосьці пазіраў з асуджэннем, але ніхто не спыняўся. Мне прыйшло ў галаву, што знаходзіцца сярод іх небяспечна, і я пайшоў назад, у двары. Вакол была цемра, неба яшчэ з раніцы зацягнула хмарамі, якія да вечара так і не прайшлі і віселі над маёй галавою, закрываючы ад мяне зоркі. Ісці па заледзянелым асфальце было балюча, і я ўвесь час выбіраў месцы, дзе было болей натаптанага снегу, які б не лез пад калашыны і не ўгрызаўся ў ступні.

Слёзы даўно высахлі, і я на некаторы час нават забыў увесь мінулы дзень, быццам яго выразалі з маёй памяці. Я ішоў незнаёмымі вуліцамі і заглядаў у вокны, у якіх гарэла святло і было бачна, што робяць людзі ў сваіх кватэрах. Шмат дзе фіялетавае святло змянялася сінім, белым і іншымі колерамі: большасць людзей бавіла час перад тэлевізарамі. У паўзмроку пакоя на першым паверсе аднаго з дзевяціпавярховікаў мерна рухаўся туды-сюды чалавечы цень на сцяне. Самога ўладара ценю бачна не было, але перыядычна ён спыняўся, з цемры вылятала яго рука, якая, мабыць, пераносіла тэлефон да другога вуха, і тады рух узнаўляўся. У вокнах вышэйшых паверхаў былі бачныя толькі столі ды свяцільні, але з некаторых вокнаў лілося такое цёплае святло, што мне на імгненне ўяўлялася, быццам гэта і ёсць мой дом, дзе мяне сапраўды чакаюць.

Я блукаў па пустых вуліцах разам з мільёнамі сняжынак, і мне хацелася, каб у канцы майго шляху мяне з усмешкай сустрэла мама, узяла за руку і адвяла дадому. Потым я стаў думаць пра тое, што хутка Новы год, а я яшчэ не напісаў пісьмо Дзеду Марозу. Праўда, у мінулым годзе, па парадзе Лёшкі з суседняга дома, я кінуў яго ў снег: Лёшка сказаў, так Дзед Мароз яго хутчэй падбярэ, але на той Новы год да мяне ніхто не прыходзіў, і свайго падарунка я так і не атрымаў. У гэтым годзе я збіраўся папрасіць маму адправіць маё пісьмо.

Святло ліхтароў і святлафораў зліваласся ў рознакаляровыя ланцужкі, якія нагадвалі мне навагоднія гірлянды на елцы. Бацька звычайна прыносіў з лесу маленькую елку, якую мы ставілі ў вядро з пяском на зэдліку ў куце, каб яна была высокай, я вешаў цацкі на яе, а маці – гірлянды і каляровыя стужачкі. А потым мы даставалі нашага лялечнага Дзеда Мароза, ляпілі яму з ваты новую бараду і боцікі і ставілі пад елку.

Нарэшце я ўбачыў адчыненыя дзверы аднаго з пад'ездаў і адразу зразумеў, што даўно не адчуваю ног. Я нават не ўяўляў сабе, як збіраюся класціся спаць на бетоннай падлозе лесвічнай пляцоўкі, але ў той момант гэты пад'езд падаваўся мне самым утульным і цёплым месцам на зямлі. Хутка пачало калоць у нагах, потым я адчуў страшэнны боль і ледзь трымаўся, каб не заплакаць. Я падумаў пра тое, што мама зараз абавязкова б што-небудзь зрабіла, каб мне было лягчэй. Захацелася дадому.

Я падняўся і, ледзь трымаючыся на нагах, пастукаў у дзверы бліжэйшай кватэры. Мне адчыніла высокая жанчына з сівымі валасамі, якая крыху здзіўлена і ўсхвалявана паглядзела на мяне. Я стаяў, падціснуўшы пальцы, каб не так было холадна і балюча нагам, і не ведаў, як выказаць ёй сваю просьбу. Я хацеў патэлефанаваць дадому.

– Прабачце... Вы можаце пазваніць маёй маці? Я заблукаў і не ведаю, куды ісці. Памятаю толькі нумар тэлефона.

Жанчына ўстрапянулася, рыўком расчыніла дзверы шырэй, каб я мог прайсці, і сказала:

– Так-так, канечне, праходзь хутчэй. Ты, пэўна, змёрз? Сядай сюды, – яна паказала рукой на фатэль у бліжнім куце пакоя. – Я зараз прынясу табе гарачай гарбаты.

Я прысеў на край фатэля і, пакуль жанчына на кухні грымела посудам, пачаў разглядаць пакой. Палову яго займала старая вялізная сценка, уся занятая кнігамі. Лак на ёй месцамі злез, пад адной з ножак ляжаў складзены ў некалькі разоў аркуш зжаўцелай паперы. На іншай сцяне, за маёй спінаю, вісеў бардовы дыван з рознымі ўзорамі, пасярэдзіне якога ў самым

версе быў гадзіннік, падобны да тых залатых гадзіннікаў, якія дарослыя чапляюць на рукі. Побач з фатэлем стаяў маленькі столік, на якім ляжала шмат газет, пульт ад тэлевізара і квадратныя тоўстыя акуляры. Кавалак газеты праз іх выглядаў незвычайна вялікім.

Я не мог нарадавацца таму, што пад маімі нагамі была цёплая падлога з мяккім дываном, а не халодны калючы снег. Было цяжка адагрэцца, і мяне крыху калаціла, гарэлі шчокі, а вушы, здавалася, увесь вечар нехта круціў. Вельмі хацелася спаць. Калі жанчына вярнулася з кухні, я ўжо задрамаў. Яна паставіла на столік каля мяне кубак з гарбатай і напалову пусты слоік мёду.

– Ты сказаў, што памятаеш нумар тэлефона. Давай я патэлефаную тваёй маці, скажу, што з табой усё добра. Яна напэўна хвалюецца. А ты пі гарбату з мёдам, пакуль гарачая.

Мяне так размарыла, што цяжка было нават вочы расплюшчыць.

– Мы з мамай вучылі адрас і нумар тэлефона, калі я пайшоў у першы клас. Адрас я так і не запомніў, а вось нумар памятаю: 3-27-11, – прамармытаў я і праваліўся ў сон.

Гарбата засталася стыць на стале. Я не чуў, як жанчына тэлефанавала мне дадому, не чуў, як прыйшла маці, як яны размаўлялі з гэтай жанчынай. Прачнуўся ад дотыку рукі да майго ілба і пачуў матчын голас:

– Божа, ды ён увесь гарыць!

Мне дапамаглі падняцца. Было душна, і я хацеў спаць. Маці апранала мне на ногі боты, якія яна падняла на сходах Алінінага пад’езда. Зрэдзьчасу я расплюшчваў вочы і глядзеў, як яна засяроджана завязвае шнуркі на маіх ботах, апранае шапку, выціраючы мне далонню пот з ілба, і заклапочана глядзіць на мяне. Мне было спакойна ад таго, што яна прыйшла па мяне, што яна побач і я ёй патрэбны.

– Мам, а ты адашлеш маё пісьмо Дзеду Марозу?

На імгненне ў яе вачах бліснула ўсмешка.

– Адашлю, куды я дзенуся. Ты спачатку напішы.

*Лістапад, 2015*

Ігар Высоцкі



...Незнаёмая, нечаканая,
Як у сне, зачараваная,
Я чакаў цябе гэтак даўно....

# Пабачыць сонца

* * *

Я ніколі не верыў у цуды
І ніколі не верыў у лёс –
Ты з’явілася так нечакана,
Нібы вецер цябе прынёс.
Тая восень была халоднаю,
А зямля так хацела цяпла –
Ты сагрэла яе сабою,
Нечаканая песня мая.

Незнаёмая, нечаканая,
Богам мне ты падараваная,
З промняў сонечных ты сатканая
І акропленая расой.
Незнаёмая, нечаканая,
Ў цішу ночы ты небам убраная,

Як у сне зачараваная,
Я чакаў цябе гэтак даўно.

Сарамлівыя крокі кахання
Мы дзялілі з табой на дваіх.
Была радасць і расчараванні,
Было гора і мір на душы.
Шмат гадоў з той пары мінула,
Не адну мы сустрэлі вясну.
Толькі зноў я цябе чакаю,
Як тады, ўпершыню...

Незнаёмая, нечаканая,
Богам мне ты падараваная,
З промняў сонечных ты сатканая
І акропленая расой.
Незнаёмая, нечаканая,
Як у сне, зачараваная,
Я чакаў цябе гэтак даўно.

* * *

Пяцьдзясят на пяцьдзясят – светлае ваконца,
На спатканне да мяне прыйдзе маё сонца.
Многа слоў падрыхтаваў на сустрэчу нашу.
Толькі ком у горле стаў, як цябе пабачыў.

Колькі дзён я не ўдыхаў водар твайго цела?
Колькі дзён не абдымаў я цябе нясмела?
Я любуюся красой – мне пашанцавала:
Ты надзея, мой спакой, такіх у свеце мала.

Ты прынесла маладосць, ты прынесла радасць,
Ты прынесла прыгажосць і вясны духмянасць.
Наглядзецца не магу на сваё каханне,
Лёсу ціха гавару: “Дзякуй за спатканне...”

Ты заплакала, пайшла, я заплюшчыў вочы.
На шчацэ маёй сляза след пакіне ўночы.
Пяцьдзясят на пяцьдзясят – цёмнае ваконца,
Я паверыць не магу, што пабачыў сонца!

* * *

Ты скажы, скажы мне восень,
Што мяне ізноў трывожыць,
І чаму не спіцца уначы?
Можа, хмуры я табою,
Ці мо думы пра былое
Не даюць спакойна спаць душы?

Што збылося, будзе з намі,
Не збылося, дык дажджамі
Змые мая памяць успамін
Аб сябрах і аб каханні,
Аб сустрэчах, расставаннях –
Усяго было ў маім жыцці.

Зноў кудысьці гоніш лісце,
Быццам просіш мяне выйсці
З болем і адчаем да цябе.
Ты абдымеш, ты схаваеш,
За нясмеласць пакараеш,
Сілы мне дасі знайсці сябе.

Будзе дзень і будзе вечар,
Буду зноў чакаць сустрэчы
Я з надзеяй восеньскай пары –
Знаю, будзе зноў каханне,
З верай прыйдзе пакаянне
За мае жыццёвыя грахі.

Ты скажы, скажы мне восень,
Што мяне ізноў трывожыць,
І чаму не спіцца уначы?
Можа, хмуры я табою,
Ці мо думы пра былое
Не даюць спакойна спаць душы?



Гіём Апалінэр



...Гэта Ісус што ўзлятае як лётчыкі ўвішныя
І пабівае ў нябёсах рэкорды ўсявышнія...

# Смутак зоркі

### *БЕСТЫЯРЫЙ, АБО АРФЕЕЎ КАРТЭЖ*

*Элеміру Буржу*

**Арфей**

Глядзіце, як шляхетна і
выразна
Малюнкі ўсё тлумачаць
падрабязна:
Здаецца, што святло гаворыць
урачыста
Вучонай моваю Гермеса
Трысмегіста.

*Пераклад з французскай мовы Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

**Чарапаха**

Ляціць з фракійскага выраю
Мой спеў, святло несучы,

Бо панцыр зрабіўся лiраю,
І ўсе звяры – слухачы!

**Конь**

Трымаеш лейцамі ўсё, што наяве сніцца,
І робяцца страфой вазніца й калясніца,
Рух незавершаны і космас вершаваны –
Крылаты дыямент, табой адшліфаваны.

**Тыбецкая каза**

Тыбету з яго козамі
І золату руна
Не параўнацца з косамі
Той, што ў мяне адна.

**Змяя**

Змеі – увасобленая злосць,
згубіць прыгажосць і маладосць,
Эўрыдыку прынясе ў ахвяру,
Еву, Клеапатру... Вам не досць?
Ведаю і парыжанак пару.

**Кот**

Я запрашу ў сваю кватэру
Каханую – якой паверу,
Кат*а* – для кніжных вечароў,
І вас – на шумную вячэру,
Бо жыць не ўмею без сяброў!

**Трус**

Не будзь, як палахлівы трус,
Калі Амур дае занятак.
А зробіць Муза ператрус –
Наплодзіш вершаў-трусянятак.

**Зайка**

А вунь звяруга вушастая,
Што пыску з куста высоўвае:
Па месцах дзівосных шастае
Дзівоснай парой марцоваю.

### Леў

Абражаны й знявечаны,
Як зрынутыя прынцы,
Жыў леў сярод Нямеччыны –
У гамбурскім звярынцы.

### Вярблюд

Дон Пэдра пакінуў свой родны парог,
Дон Пэдра вярблюдаў купіў чатырох,
Дон Пэдра праехаў на іх сто дарог.
А я мог бы і дзвесце, і Пэдра падвезці –
Каб вярблюдаў я меў чатырох.

### Мыш

О, мышы часу, вось і восень!
Я з’едзены да палавіны.
Дажыў да лічбы дваццаць восем –
Прычым не так, як быў павінны.

### Слон

Біўні ў роце – адмысловы
Схоў багацця й прыгажосці.
А ў паэта – словы, словы...
Вершы са слановай косці.

### Арфей

Жамярыцы і мікробы,
Крылцы, вочкі і хвасты,
Блохі найвышэйшай пробы
Маюць болей пекнаты
Ад сямі дзівосаў свету
Й нават гэтага куплету!

### Вусень

Паэту вусень – брат:
Каб нітку верша прасці,
Працуй, як шаўкапрад,
Бо ў шоўку – мятлік шчасця!

### Муха

Не ўпаўшы ў зімовую спячку,
Пра снег нам спявае элегіі,
Якім навучылі сваячку
Бялюткія мухі з Нарвегіі.

### Блыха

Блыха – як сябар, як *лю*бая –
П'е кроў з нас і згубу нясе.
Ды ўдзячны за кроў і згубу я
Каханай, сябру, блысе.

### Саранча

Еў акрыдаў (саранчу)
Ян Прадвеснік з дзікім мёдам.
Так і я служыць хачу
Толькі боскім асалодам.

### Арфей

Хай жа сэрца прынадаю ў неба ўпадзе!
І ў салёнай ці прэснай нябеснай вадзе,
Колькі я ні злавіў бы, у радасці й скрусе,
Толькі Ты – мая рыба й рыбак мой, ІСУСЕ!

### Дэльфін

Дэльфін гуляецца між хваль,
Ды хвалі – горкія, на жаль.
Вось так і я глытаю горыч:
Каханне й боль заўсёды поруч.

### Каракаціца

Я, шматрукая пачвара,
Толькі пырскаю чарніла,
І майму каханню – кара:
Каціцца ў нябыт, што міла!

### Медуза

Цяжка быць медузаю –
Шторм катуе й тузае.
Гэтаксама шлюзы я
Адчыняю з музаю.

### Рак

Маім сумневам-небаракам
Няма дарогі ў райскі сад,
Калі паўзеш у неба ракам,
Бо крок наперад, два назад.

### Карп

Карп, што схаваўся ў ціхі стаў,
Так доўга жыў, што сумным стаў,
Бо й смерць яго забыла:
Самотна жыць – магіла.

### Арфей

Зімародак і Эрот,
І Сірэн салодкі гнеў...
Губіць чалавечы род
Іх нечалавечы спеў.
Слухаць іх я вам не раю.
Слухайце анёлаў з Раю.

### Сірэны

Загадку горкую, паэце, растлумач:
Што значыць спеў Сірэн, пра што іх вечны плач?
Яны пяюць мой лёс, і ў кожным галашэнні –
Разбіты карабель, гадоў маіх крушэнне.

### Голуб

Найцудоўнейшы з галубоў,
Што Марыі прынёс любоў,
Я прашу, памажы мне згары
Споўніць мары з маёй Мары!

### Паўлін

Сваё хараство вам наўпрост
Пакажа паўлін-выхваляка –
І вабіць распушчаны хвост,
І свеціцца голая ср...ка.

### Пугач

У сэрцы жыве пугач:
Каго палюбіць, пужае.
Усё, што нажыў – боль і плач,
А радасць – заўжды чужая.

### Ібіс

І толькі ібіс на лаціне
Вітацьме здань маю, калі
Сыду ў цямрэчу, на глыбіні
Пяскоў егіпецкай зямлі.

### Вол

Анёл святога Лукі,
Малітваю райскі вол
Сустрэне нас, сябрукі...
Як Госпад нам дасць дазвол.

## *ЗОНА*

Як табе свет астабрыдзеў старэчы

Вежа Эйфеля пастушка масты твае зранку равуць па-авечы

Колькі гадоў ты гібееў экспанатам у Грэцыі й Рыме

Нават аўто выглядаюць занадта старымі
Толькі рэлігія не састарэе ніколі
Простая як самалёты ў ангарах і лётнае поле

Толькі Хрыстовая вера не будзе антыкварыятам
Хто з вас апосталы моды зраўнаецца з Піем X?
А хто сарамлівым паглядам святло з вокнаў ловіць?
Ты што ў касцёл увайсці пабаяўся на споведзь

Ты каталогі гартаеш цалуеш вачыма афішу
Вось паэзія гэтага ранку а прозу ў газетах напішуць
Усяго за чвэрць франка на здымках вялікія людзі
Дэтэктывы шукаюць матывы працяг хутка будзе

Я з раніцы вуліцу бачыў назвы не памят*а*ю
Чысцюткая ў сонечным ззянні нібы труба залатая
Банкіры й рабочыя стэнаграфісткі-красуні шасцёркі й тузы
Праходзяць ёю па буднях на дзень па чатыры разы
Званы звар’яцелыя б’юць па вушах апоўдні
На золку вые сірэна працоўны помні
Рэклама шчытамі й плакатамі выбухае
Абвесткі крычыць са сценаў як папугаі
Як я люблю гэты індустрыяльны стыль
Між авеню дэ Тэрн і Амон-Т’евіль

Вось твая вуліца юная й ты яшчэ ў веку дзіцяці
Табе блакітныя й белыя строі купляе маці
Ты яшчэ хлопчык-званочак што з сябрам Рэнэ Далізам
Ходзіць у храм не чуўшы слова “матэрыялізм”
А дзевятай у спачывальні ледзьве гарыць газніца
Ты ўцякаеш каб ноч навылёт у школьнай капліцы маліцца
Дзе ў аметыставай нішы светла як днём
Німб над чалом Ісуса вечным палае агнём
Гэта нам цуд расцвітае дзівоснай ліліяй
Рудавалосай паходняй што й на вятры ацалее
Гэта сын чалавечы слязамі маці паліты
Дуб што нясе на галінах усе людскія малітвы
Гэта моц і гонар па мечы з нявіннасцю па кудзелі
Гэта зорка шасціканцовая Збаўца што дзеля
Нас памірае ў пятніцу і ўваскрасае ў нядзелю
Гэта Ісус што ўзлятае як лётчыкі ўвішныя
І пабівае ў нябёсах рэкорды ўсявышнія

Вока-Айца Зрок-Хрыстос
Новай веры дваццатае вока
Птушкаю стаў век Хрыста і ў нябёсах лунае высока
Д’яблы крычаць з апраметнай у дзёрзкай надзеі
Гэта адзін з эпігонаў Сымона вядомага мага з Юдэі
Можа ў паветры *лунаць* дык запішам нябогу ў *лунатыкі*
Побач анёлы шліфуюць фігуры нябеснай гімнастыкі
Енах Ілля ды Ікар і яшчэ Апалоній з Тыяны
Служаць эскортам для першага аэраплана
Часам пасунуцца трохі калі святары
Ў сёмае неба прыносяць святыя дары

Калі ж самалёт прызямляецца так і не склаўшы крыл
Мільёнамі ластавак поўніцца небасхіл
Узносяцца сокалы й совы крумкач што нясе журбу
З'яўляюцца з Афрыкі ібіс фламінга і марабу
Птушка Рух апяяны ў паэмах вянец хараства
У кіпцюрах яе чэрап Адама першая галава
Вялізны арол з паднябесся чуваць яго крыкі
А вось і калібры з Амерыкі птах невялікі
Птушка пі-і экзатычная госця з Кітаю
Што мае адно крыло і без пары сваёй не ўзлятае
Птушка-ліра і сімвал Духу Святога голуб
Птушка паўлін чый хвост зацьміў і крылы анёла б
Фенікс што адраджаецца толькі згарыць у агні
Полымя потым попел і зноў жыве ў вышыні
І сірэны пакінуўшы гібельныя пралівы
Тут як тут і бруіцца спеў іх прывабны й жахлівы
І голуб і фенікс і Рух і пі-і з Кітаю
Кожны з крылатай машынаю пабратацца жадае

Вось ты ў Парыжы адзін абступаюць натоўпамі здані
Побач аўтобусаў статкі імчацца ў мычанні
Горла сціскае тугою хватка яе тугая
Быццам ніхто цябе болей на свеце не пакахае
Некалі ў манастыр людзі ішлі з такім горам
Сёння ж пачнеш маліцца і душыць сорам
Сам з сябе кпіш але ўвага жартуеш з пеклам
Толькі іскры лятуць па-над лёсам тваім нягеглым
Быццам карціны вісяць у музеі людской лухты
Падыходзіш бліжэй паглядзець а на кожнай ты

Вось ты ў Парыжы наўкола жанчыны аблічча ў крыві іх
Гэта было... я хацеў бы забыць... прыгажосці агонія й вывіх

Маці Божая проста з полымя ў вочы глядзела мне ў Шартры
І крывёй Найсвяцейшага Сэрца заліла мяне на Манмартры
Бо я хворы шчаслівыя словы гучаць мне жалобай
Я хварэю каханнем як самай ганебнай хваробай
Гэты вобраз катуе бяссоннем ратуе журбой
Гэты вобраз што знік гэты вобраз што вечна з табой

Ты на Міжземнамор'і
Тут лімоны цвітуць круглы год у любое надвор'е
Вы ўпяцёх сябра з Ніцы мантонец і двое яшчэ
З Ла Цюрбі вы на лодцы вяслуеце й сонца пячэ

А ў празрыстых глыбінях між водарасцяў і медуз
Неймаверныя рыбіны й кожная значыць Ісус

Ты спыніўся ў карчме ў маляўнічых ваколіцах Прагі
На стале тваім ружы ты поўны натхнення і прагі
Мусіў нейкую прозу пісаць але з месца не рушыў
Заглядзеўся як жук задрамаў між пялёсткамі ружаў
У саборы Святога Віта ты пазнаў сябе ў вітражах
Ты гатоў быў памерці такі быў смутак і жах
Звар'яцелага Лазара збітага з тропу калі
У габрэйскім квартале гадзіннікі задам наперад пайшлі
Ты таксама жыццё асадзіўшы назад
Пабрыдзеш угару й на шляху ў Пражскі град
Песні чэшскіх прапойцаў адкрыеш наноў

Ты ў Марсэлі сярод кавуноў

Ты на Рэйне ў гатэлі дзе сніцца былое

Ты ад рымскага сонца схаваўся пад мушмулою

Ты ў Амстэрдаме з дзяўчынай чароўнай як сон твой і брыдкай наяве
Што за студэнта з Лейдэна выскачыць неўзабаве
Вам здавалі каморку з лацінскаю назвай папраўдзе
*Cubicula locanda* ты жыў там тры дні яшчэ столькі ж у Гаўдзе

Ты ў парыжскай турме за злачынствы чужыя
Крымінальную справу суддзя табе шые

Ты бадзяўся з валізкамі шчасця й бяды
Пагарэў на падманах прафукаў гады
Закаханы і ў дваццаць і ў трыццаць гадоў
Я заўжды быў вар'ятам цяпер пагатоў

Ты на рукі свае не зможаш зірнуць без рыданняў
Над сабой над каханнем над страхам што лёс ваш спаганіў

Ты глядзіш у твар эмігрантам іх вочы гараць слязьмі
Яны моляцца Богу іх жонкі немаўлят сваіх кормяць грудзьмі
Іх пахі як залы чакання хопіць на ўвесь Сэн-Лазар
Ідуць за святлом сваёй зоркі як калісь Каспар Мельхіёр Бальтазар
Бо вераць што шчодрая плата чакае іх недзе ў Ла-Плаце
А потым дарога дадому й да самага скону багацце

Нясуць пярыны чырвоныя як вы сваё сэрца з надзеяй
Пярыны загінуць як вашы надзеі ніхто з іх не разбагацее
Нехта ў нас застанецца надоўга засяліўшы галечай свае
Каморкі на Ру дэз Экуф і халупы на Ру дэ Раз’е
Штовечар іх бачу ўсё там жа ўсё тыя ж самотнікі й пары
Бо ходзяць кудысьці рэдка як шахматныя фігуры
Габрэйкі ўсе ў парыках замест галаўных убораў
Да ночы сядзяць у крамках між бедных сваіх тавараў

Ты ў бары ля прытону паўпрытомна
П’еш каву за два су і ўсім тут сумна

Ты ўночы з дзеўкамі ў вялікай рэстарацыі

Яны не злыя але як дажыць да раніцы
Чым менш прыгожыя тым больш каханкаў раніцца

Адна дачка паліцыянта з Джэрсі

Ёй рукі мазалі паспелі зжэрці

Яе жывот курс кройкі і шыцця

І рот мне крывіць смех і шкадаванне калі цалую беднае дзіця

Світанак блізка ты брыдзеш бяссонны
На вуліцах звіняць малочніцаў бітоны

Сыходзіць ноч капрызнаю мулаткай
Дасведчанай малюткай атрутаю салодкай

Бо п’еш не разбаўляючы ніколі
Жыццё сваё нагбом як алкаголі

Вяртаешся дамоў калі ўжо развіднее
Да стодаў з Акіяніі да ідалаў з Гвінеі
І кожны з іх Ісус але дзіцячай эры
Што верачы ў багоў не дарасла да веры

Бывай бывай

Сонца гіне на гільяціне

## *СМУТАК ЗОРКІ*

Мне выйшла з чэрапа магутная Афіна
Крывавай зоркаю кранууўшы маю скронь
Пад небам галавы палае несупынна
Багіняю вайны раскладзены агонь

Але стакроць мацней ад зоркавае раны
Што літасцівы боль прыклаў да галавы
Таемнае тугі нябачныя тараны
Руйнуюць ранячы мой розум ледзь жывы

І я цягну далей пякучую хімеру
Як светлячок нясе агеньчык свой далей
Як сэрца Францыі баліць яе жаўнеру
Як спее прыгажосць у завязях лілей

# Тонкая наладка

## *Апавяданні балгарскіх пісьменнікаў*

### Георгі МАРКАЎ

#### Каля Малёвіцы[1]

Я быў запрошаны на сустрэчу-размову са студэнтамі брыгады, якая летам працавала на будаўніцтве новай дарогі на Малёвіцу.

Арганізацыя такіх сустрэч пісьменнікаў з чытачамі была яшчэ вельмі распаўсюджанай формай прапагандысцкіх стасункаў па прымусе. Абодва бакі былі прымушаныя. Пісьменнікаў прымушалі выйсці са свайго вузкага клубна-сяброўскага кола і сустрэцца з тымі, хто, меркавалася, чытаў іх творы. Толькі самыя славалюбныя і пасрэдныя дзеячы літаратурнага фронта прымалі гэты абавязак з задавальненнем, таму што ён пацвярджаў тое, што яны хацелі б мець – вялікае і папулярнае імя. Найбольш прымітыўныя і наіўныя з маіх калегаў радаваліся афішам і газетам, якія абвяшчалі пра іх прыезд у якую-небудзь вёску ці горад, пафаснымі жэстамі прымалі букеты кветак, раздавалі аўтографы з маляўнічымі подпісамі і нават фатаграфаваліся з публікай, каб увекавечыць момант. Часам яны запісвалі ў свае нататнікі адрас якой-небудзь мясцовай настаўніцы з прыгожымі летуценнымі вачыма, якая павінна была сарамліва блукаць па іх снах як доказ сілы іх таленту.

З іншага боку –школьныя, заводскія, раённыя, ваенныя, моладзевыя, жаночыя і іншыя арганізацыі, якія павінны былі адсправаздачыцца за нейкую грамадска-палітычную дзейнасць, часта былі вымушаныя запрашаць пісьменнікаў для літаратурных чытанняў ці для сустрэч з чытачамі. Такім чынам гэткія сустрэчы пісьменніка з публікай, якія не былі выкліканы зацікаўленасцю ні аднаго з бакоў, былі проста пацверджаннем аднаго з правілаў – РАБІЦЬ ДЛЯ ПТУШАЧКІ. Абодва бакі ведалі, што гэтая культурная падзея будзе запісаная ім у актыў, будзе ўлічана па некалькіх кірунках і, адпаведна, заслугоўвае

*Пераклад з балгарскай мовы Таццяны АНІКЕЕНКА.*

[1] Малёвіца – вяршыня ў паўночна-заходняй частцы гары Рыла.

выдаткаў у некалькі нудотных гадзінаў. Менавіта праз адсутнасць натуральнай узаемнай зацікаўленасці размова агаворвалася папярэдне. Сярод слухачоў абіралася некалькі ахвяраў, якія павінны былі прачытаць творы запрошанага пісьменніка (або пісьменнікаў), а таксама прагледзець пэўныя крытычныя артыкулы і падрыхтаваць пытанні, якія зададуць госцю. Звычайна такія размовы былі невыносна фальшывымі, часта забруджанымі цытатамі з кіраўніка партыі краіны. Дыялог наогул не атрымліваўся, бо і пісьменнікі, і чытачы прамаўлялі адзін і той жа маналог. Усе былі прыгнечаныя гэткім жа пачуццём бессэнсоўнасці, якое павінны былі б адчуваць двое зняволеных, калі б ахоўнік загадаў ім размаўляць пра леташні снег. “Ну... ён быў белым”, – сказаў бы першы. “Так, менавіта! Сапраўды быў белым!” – адгукнуўся б другі.

Людзі былі дастаткова мудрымі, каб не задаваць няёмкіх пытанняў, а пісьменнікі дастаткова хітрымі, каб іх не выклікаць. Самыя бяскрыўдныя пытанні тычыліся прататыпаў вядомых літаратурных герояў, але вельмі рэдка гутарка закранала небяспечную зону сапраўднага жыцця і яго літаратурнай фальсіфікацыі, што, мне здаецца, павінна было б быць галоўнай тэмай любой сур’ёзнай літаратурнай размовы ў Балгарыі.

І ўсё ж, насуперак інстынктыўнай асцярожнасці, час ад часу, хаця і рэдка, раптоўна на такіх сустрэчах выбухала бомба. Добра адрэпетаваны сцэнар з бессэнсоўнымі пытаннямі і адказамі ішоў пад адхон, і тады быццам бы гучныя галасы выкрыквалі: “Ці не бачыце, што кароль голы?”

У студэнцкі лагер я прыехаў на машыне пасля абеду. Было цудоўнае сонечнае надвор’е. Гледзячы на аўтамабільную дарогу, якая бегла наверх да недасяжных горных вышыняў, з жалем падумаў, што лёс Віташы[1] напаткае і Рылу, што праз некалькі год не застанецца і напаміну пра прыгожую і змястоўную самотнасць вяршыняў, што горныя пашы будуць засеяныя пустымі бляшанкамі і газетамі, што высакародная барацьба турыстаў са стромкімі пад’ёмамі памрэ на сядзеннях “Масквіча”, які, стогнучы, будзе караскацца ўгару. Студэнт, які мяне сустрэў, нібыта адгадаў мае думкі і раптам сказаў: “Ператвараем гару ў клазет!”

Ягоны голас быў з’едліва-іранічным і відавочна азначаў нешта, з чым ён ніяк не мог прымірыцца. Ён быў вельмі высокі, русы, з чыстымі блакітнымі вачыма і прыгожым тварам. Рухаўся ён трохі няўклюдна і час ад часу дапытліва пазіраў на мяне. Верагодна, хацеў зразумець, што я за птушка.

– Я не чытаў ніводнай вашай кнігі! – сказаў ён, пакуль мы ішлі праз паляну да барака, у якім павінна была прайсці сустрэча. Затым дадаў без аніякай ноткі выбачэння:

– Я не чытаю сучасную балгарскую літаратуру!.. Не думайце, што я не спрабаваў... Колькі разоў... Дзяўчаты кажуць пра таго ці іншага пісьменніка – каму захочацца адставаць ад часу... Але... – тут ён спыніўся, павярнуўся тварам да мяне і, гледзячы ў вочы, сказаў:

– Я проста не разумею, пра што вы пішаце?

Ягоны голас быў перасцярогай, што сустрэча са студэнтамі будзе далёкай ад звычайных спектакляў, у якіх усё ведаеш наперад. Між тым я заўважыў і погляды, якія студэнты кідалі на маю машыну – зусім новую, бліскучую “БМВ” – і я адразу пашкадаваў, што не прыехаў на якім-небудзь разбітым грузавіку. Атмасфера ў бараку, які быў сталовай брыгады, была няветлай. Не было звыклага стала з чырвоным абрусам і, што зусім неверагодна для Балгарыі, на сценах не было ніводнага партрэта і ніводнага лозунга. Мне далі адно крэсла, і студэнты расселіся за сталамі вакол мяне. Пакуль яны падыходзілі адзін за адным у выгаралай на сонцы шэрай грубай брыгаднай вопратцы, мой праваднік сказаў мне, што, калі я

[1] Віташа – гара, размешчаная непадалёк ад Сафіі.

захачу, пасля сустрэчы магу пачаставацца рэдкім далікатэсам – катлетай з маладога аслінага мяса. Мне падалося, што ён жартуе. Я адразу заўважыў і адсутнасць рабскай ветлівасці, якой нас заўжды ахутвалі арганізатары такіх сустрэчаў. Хлопцы і дзяўчаты глядзелі на мяне з сур'ёзнымі строгімі тварамі і нават некалькі жартаў, з якіх я пачаў сустрэчу, не змянілі атмасферу. У бараку было, пэўна, больш за сотню чалавек, і людзі працягвалі падыходзіць. Мой русы праваднік пазнаёміў публіку са мной вельмі шматзначнымі словамі:

– З намі сёння Георгі Маркаў, аўтар кнігі "Мужчыны", якога мы запрасілі сюды... на мужчынскую размову!

З мэтай прадухіліць магчымыя напады я абраў адну з самых пэўных і правераных тэм: "Існаванне нягоднікаў не з'яўляецца апраўданнем, каб і нам абыходзіцца подла". Я заўжды лічыў, што грамадская адказнасць у Балгарыі служыць для адмывання асобных брудных рук, што ў імя партыі, народа і краіны ўчыняліся па сутнасці самыя мярзотныя злачынствы і што адзіным крытэрам застаецца крытэр асабістай адказнасці. Я ніколі не прымаў і не магу прыняць апраўданне кшталту "партыя мне сказала" ці "я не хацеў, але зрабіў, бо мне загадалі". Толькі ў перакладанні сваёй уласнай адказнасці на агульныя паняцці, такія, як партыя, народ, краіна, я бачу ўзаконеную і самую праўдзівую індывідуальную подласць. Я гаварыў прыкладна паўгадзіны. Адчуваў, што мяне слухаюць з крытычнай увагай, што я нечакана прапанаваў ім большае поле для бою, чым яны спадзяваліся. Мне нават падалося, што ім спадабалася ідэя дакладнага размежавання асабістай і партыйнай адказнасці. Калі я скончыў, апладысментаў не было. Замест гэтага я пачуў голас:

– А як вы спалучаеце свае перакананні з прывілеямі, якімі карыстаецеся? З дарагой заходняй машынай, якая стаіць каля дзвярэй? Неяк не вяжуцца разам дзве гэтыя рэчы, хіба не?

Гэтае пытанне мне задаў худы хлопец з касымі вачыма.

– Калі вы апелюеце да асабістай свядомасці іншых, – працягнуў ён амаль піскलявым голасам, – мяркуецца, што вы і самі маеце такую свядомасць! Або... Вы скажаце... Ахвяры вашыя, а прыбытак наш...

Заўважыў, што ўсе сустрэлі гэтыя словы з відавочным адабрэннем і павярнуліся да мяне пачуць адказ. Я адчуў сябе вельмі няёмка і паспрабаваў патлумачыць, што мая машына не азначае прывілеяванасць, але, пачуўшы няўпэўненасць уласнага голасу, завагаўся і змоўк. Яны мелі абсалютную рацыю. Ні многа, ні мала, але ў той час я належаў да дорага аплочванай эліты і самым дурным было б (як гэта рабіў нехта з калегаў) сцвярджаць, што я заслугоўваю ўсё, што мне дадзена. Але размова толькі пачыналася:

– Вы не маглі б сказаць, колькі атрымліваеце ў месяц? – было другое пытанне.

Усе погляды былі скіраваныя на мяне ў чаканні, што зараз я пачну распавядаць казкі. Я назваў прыблізную суму. Столькі за кнігу, столькі за кіно, за тэлебачанне, радыё, за розныя газеты і часопісы... Па зале пракацілася шумная хваля здзіўлення, некалькі чалавек нават прысвіснулі.

– Гэта заробак майго бацькі за паўтара года! – ускрыкнуў нехта.

– Ці ўсе пісьменнікі столькі атрымліваюць?

– Не, – адказаў я, – не... Толькі некалькі...

Я пашкадаваў іх. Але ж мне так хацелася назваць пісьменнікаў, якія былі літаральна фабрыкай па вытворчасці грошай, якія атрымлівалі ў дзесяць разоў болей за мяне, што некаторыя з іх, такія, як Стаян Даскалаў, мелі больш за паўмільёна ў банку, што самыя вялікія хітруны фактычна размяркоўвалі выдавецкую паперу паміж сабой, што я бачыў, як у выдавецтве "Петка Напетаў" на Горнабанскай вуліцы спальваюць непрададзеныя кнігі толькі для таго, каб выдаць іх яшчэ раз праз месяц. Падумаў пра тое, які эфект маглі б мець дакладныя

звесткі пра прыбытак так званых камерцыйных пісьменнікаў, такіх, як Павел Вежынаў, Андрэй Гуляшкін, Багаміл Райноў і іншых, якія шматкроць перавышаў нават самыя фантастычныя ўяўленні пра сацыялістычны заробак. А што б сказалі студэнты пра іншых маіх багаценькіх калег, жонкі і палюбоўніцы якіх ездзілі на пятнічныя кірмашы ў Парыж і Лондан, якія на чорным рынку набывалі валюту ў агромністых колькасцях, адбудоўвалі даражэзныя вілы і цягнулі за сабою цэлую купу напаўаплочваемых ухвальняльнікаў... Гэта было б занадта для студэнтаў...

– І за што вам плацяць гэткія грошы? – запытаў мой праваднік, які відавочна быў задаволены развіццём размовы. – Я казаў вам, што спрабаваў чытаць гэтую літаратуру і не здолеў... Проста ў яе няма нічога агульнага са мной!

– У яе няма нічога агульнага ні з кім! – выкрыкнуў нейкі ўсхваляваны студэнт.

– Калі я чытаю ўсе гэтыя кнігі... – пачаў трэці студэнт, які намагаўся казаць больш спакойна, – я не разумею, для чаго яны напісаныя. Калі для таго, каб адлюстраваць жыццё, трэба сказаць, што вы, пісьменнікі, або не ведаеце жыцця, або хлусіце... Калі для таго, каб узняць нейкія праблемы, то ўзровень настолькі нізкі, што, відаць, праблема выпарылася і нічога не засталося... Але нават калі прыняць, што ўсё гэта – бягучая партыйная прапаганда, трэба сказаць, што яна настолькі танная, што мае адваротны эфект.

– Партыі павінна быць брыдка ад самой сябе, за тое, што яна плаціць такім пісьменнікам! – адгукнуўся яшчэ адзін.

Пасля большасць студэнтаў загаварыла амаль адначасова і мне стала цяжка сачыць за іх думкай. Але ўвесь гэты align="" рознагалосы хор выражаў спантанны пратэст супраць сучаснай літаратуры і ставіў мяне і маіх калег у незайздросны шэраг багатых легкадумных чужынцаў, якія час ад часу наведваюць Балгарыю.

– Ці крытыкі не бачаць гэтых рэчаў? – запытаў яшчэ адзін студэнт, які хутка прааналізаваў нейкі аматарскі раман.

– Якія пісьменнікі, такія і крытыкі! – замест мяне адказаў яму іншы.

А я думаў пра нашую дашчэнту скарумпаваную крытыку. Дзевяноста са ста нашых крытыкаў былі дробнымі чыноўнікамі з зусім беднымі мазгамі і яшчэ больш беднымі сэрцамі. Астатнія дзесяць з сотні былі падзеленыя паміж хітрымі, амбіцыйнымі палітычнымі акрабатамі. І чым больш таленавітымі былі гэтыя крытыкі, тым больш беспрынцыпна пісалі. Плюс было яшчэ некалькі ізаляваных і ад жыцця, і ад літаратуры інтэлектуалаў. Мне хацелася шмат чаго сказаць студэнтам: і пра тое, як пісьменнікі самі сабе арганізоўвалі крытыкаў і крытыку, і пра тое, як пускалі ў дзеянне ўсе сродкі для з'яўлення хвалебных рэцэнзій. Хацелася распавесці ім і пра няшчаснага Максіма Наімавіча, які прыйшоў у рэдакцыю адначасова з дзвюма рэцэнзіямі на адну і тую ж кнігу. У левай кішэні ў яго была станоўчая, а ў правай – адмоўная. Проста чалавек не ведаў стаўленне рэдакцыі да кнігі і даў ёй магчымасць абраць тое, што больш даспадобы. Уся Сафія смяялася з гэтай гісторыі, забываючы, што Максім Наімавіч проста праілюстраваў тое, што, па сутнасці, рабілі ўсе крытыкі. Хацеў таксама распавесці пра тое, як большасць крытыкаў спрабуе злавіць меркаванне "зверху" і адразу ж адпаведна накінуцца на аўтара або ўзняць кнігу да нябёсаў.

Нічога не сказаў. Я пачакаў, пакуль зала не пацішэе і запытаў:

– І ўсё ж, што вам падабаецца ў нашай літаратуры? Калі вам наогул нешта падабаецца.

Нехта паспеў выкрыкнуць першым:

– Канстанцін Паўлаў! – пасля чаго ягонае імя было яшчэ шмат разоў паўторанае. Затым прагучалі імёны Радоя Раліна, Мікалая Кынчава, Ярдана Радзічкава, Георгі Мішава, Стэфана Цанева...

– Ці багаты Канстанцін Паўлаў? – запытала адна дзяўчына.

– Не, – адказаў я.

– А Радой Ралін?

– Ледзь зводзіць канцы з канцамі. Магчыма, вы яго нават бачылі, калі ён у абед праходзіць праз плошчу Славейкава і нясе ў кацялку ежу сваім дзецям...

– А Мікалай Кынчаў?

– Думаю, атрымлівае меней за адну студэнцкую стыпендыю.

Запанавала ажыўленне. Я бачыў, што мае адказы былі менавіта тым, што студэнты хацелі пачуць. Напэўна, яны б жахнуліся, калі б Канстанцін Паўлаў меў вялікі банкаўскі рахунак, альбо, па модзе самых багатых пісьменнікаў, – прыватнага шафёра. Беднасць Кацэта[1] і Радоя быццам бы несла ім аптымістычную надзею, казала пра тое, што не ўсе пісьменнікі былі фабрыкай па вытворчасці грошай, не ўсе гандлявалі сваім талентам. Што тыя, каго яны абралі для сябе, жылі больш бедна за іх саміх. Іх твары праяснелі, быццам бы я паведаміў ім самую лепшую навіну...

Але вельмі хутка гоман сціх. З няёмкасцю я адчуў, што зноў усе вочы скіраваныя на мяне. Яшчэ больш цвёрдыя, больш настойлівыя. Я паспрабаваў не глядзець на іх і спыніў погляд на прасторы паміж сабой і імі ў чаканні самага непрыемнага і страшнага пытання. Але яны маўчалі, відавочна чакаючы, калі я загавару сам, калі скажу пра сябе тое, што вынікала па логіцы. У адзін момант мне здалося, што я не магу іх трываць. Затым у працяглай цішыні на дошкавым тле барака я ўбачыў, як усе гэтыя твары с рознымі выразамі паступова зліліся ў адзін, які са шматзначнай усмешкай мяне запытаў:

– А вы, таварыш Маркаў?!

Голас належаў студэнту з касымі вачыма.

...Аслінымі катлетамі я не пачаставаўся. У мяне зусім не было апетыту, і я спяшаўся як мага хутчэй з'ехаць. Натоўп выйшаў да маёй машыны і з той жа агульнай шматзначнай усмешкай назіраў, як я сеў за руль і няўпэўнена паехаў. Яны не ведалі, што ў той момант я б шмат што аддаў, каб быць сярод іх і такім самым чынам праводзіць якога-небудзь літаратурнага выскачку, які ад'язджае.

Увесь шлях уніз праз Самокаў і ўздоўж вадасховішча на кожным крутым павароце я чуў гэты нястомны голас:

"А вы?"

## Міхаіл ВЕШЫМ

### Тонкая наладка

Сафійскае поле было накрытае коўдрай туману – з'ява нармальная для лістапада. У гэтую паравіну самалёты вылятаюць са спазненнем, а радыё просіць кіроўцаў ва ўмовах кепскай бачнасці рухацца з павышанай увагай.

"Які туман... Які густы туман ахутаў Ветран гэтай восенню..." – пачатак апавядання "Ці ідзе?"[2]

Пра яго і ўзгадаў пісьменнік Г., гледзячы праз акно аўтобуса... Як трапна Дзядзька Вазаў выказаўся адным сказам, што так пасуе гэтай раніцы.

Але як толькі праехалі праз тунэль Віціня, адразу пасвятлела. Нават вызірнула сонца – і дзень ажыў: свежы, як стракаты восеньскі лес, яшчэ не апечаны першым маразам. Ажылі і нешматлікія пасажыры аўтобуса, заварушыліся на сваіх месцах: адзін зашамацеў газетай, другі – упакоўкай ад круасана... Кіроўца прапанаваў уключыць фільм на тэлевізары і адразу ж уключыў яго, не дачакаўшыся адказу. Гэта быў баявік – Ліям Нісан у ролі былога спецагента, а албанскія мафіёзі крадуць яго дачку, нават не здагадваючыя, з кім яны маюць справу...

---

[1] Кацэта – размоўнае скарачэнне імя Канстанцін (тут маецца на ўвазе Канстанцін Паўлаў).

[2] "Ці ідзе" (*балг.* "Иде ли") – апавяданне класіка балгарскай літаратуры Івана Вазава.

Са свайго месца пісьменнік Г. добра бачыў экран, але вырашыў адмовіцца ад прагляду фільма і адкінуўся назад з заплюшчанымі вачыма – ён быў занадта засмучаны для баевікоў...

А трэба было б танчыць ад радасці – ён ужо не невядомы правінцыйны пісьменнік. Ён – лаўрэат! Уладальнік "Ра-Маніі", вялікай узнагароды раманістаў, якая прысуджаецца раз на два гады. Ягоная кніга была адзначаная сярод яшчэ адзінаццаці намінаваных. Уручылі ўзнагароду яму ўчора ўвечары – дакладна 1 лістапада, у Дзень народных абуджальнікаў[1], у шумнае свята... У святле пражэктараў, перад камерамі некалькіх тэлеканалаў, у прысутнасці сталічнай культурнай эліты – журналістаў, пісьменнікаў, літаратараў... На пяцьдзясят другім годзе жыцця ён, нікому не вядомы пісьменнік з правінцыі, дачакаўся нарэшце сваіх пятнаццаці хвілінаў славы – тых самых, пра якія казаў Эндзі Уорхал... Ён так марыў пра гэтую славу, калі пісаў раман. З кожным словам, кожным сказам ён набліжаўся да ўзнагароды, бо меў унутранае адчуванне, што словы складаюцца як трэба і яго кніга атрымаецца добрай... Нават вельмі добрай.

Таму ён не дзівіўся, пабачыўшы сябе ў спісе намінаваных аўтараў.

А калі за некалькі дзён арганізатары конкурсу яму патэлефанавалі, адразу адчуў, што перамог – па іх настойлівым запрашэнні: ён абавязкова павінен прысутнічаць на абвяшчэнні пераможцаў. "А ці ж варта, – запытаў, – ехаць праз усю краіну з іншага канца Благарыі дзеля адной урачыстасці?" Яму адказалі, што варта, нават вельмі, а таму яны аплоцяць яму і дарогу, і гатэль.

"Ха, – падумаў ён, – калі так настойваюць, значыць ёсць дзеля чаго... Відаць, я – нумар адзін, той чалавек, якога хутка вы для сцісласці будзеце называць лаўрэат!"

І за дзень да выезду ў Сафію ён сеў напісаць прамову.

Узнагароды – важныя для пісьменніка, але яшчэ больш важна, што пісьменнік скажа падчас іх атрымання. Акторам проста – яны могуць сыграць здзіўленне, радасць, захапленне... Могуць выгукнуць нібыта спантаннае "ўаў!" Альбо праслязіцца: "Мама, тата, гэты Оскар я прысвячаю Вам!" Падыдзе таксама: "Дзякуй рэжысёру, што даверыў мне гэтую ролю! Дзякуй майму мужу/жонцы за падтрымку! Дзякуй цырульніцы і швачцы!"

Яму прыйшла да галавы ідэя: выказаць праз мікрафон купу бессэнсоўных падзяк... Прадавачцы на аўтавакзале ў Р., якая прадасць яму білет да Сафіі... Кіроўцу аўтобуса, за безаварыйную паездку да сталіцы... Міку Джагеру, які натхняў яго ўсё жыццё, гарэлцы "Фінляндыя", якая асабліва натхняла яго пэўны час...

Ён адкінуў гэтую ідэю – яна падалася яму занадта легкадумнай. Узнагароды – гэта магчымасці, і не толькі фінансавыя. У гэтым выпадку і грошы былі добрымі – сума была такой, што на яе, без празмерных растрат, можна было б пражыць цэлы год... Але цымус у іншым: аўтарытэтная ўзнагарода, такая як "Ра-Манія", ставіць цябе ў святло пражэктараў, і калі табе дадуць мікрафон – вось твой сапраўдны шанец адаслаць пасланне свету... Некаторыя пісьменнікі засталіся ў гісторыі не столькі дзякуючы кнігам, колькі дзякуючы таму, што яны прамаўлялі падчас атрымання ўзнагарод.

Праз гугл ён дазнаўся, пра што казалі вялікія пісьменнікі, уладальнікі Нобелеўскай прэміі. Маркес – пра самоту паўднёва-амерыканскага кантынента. Фолкнер назваў свае слова "Я адмаўляюся прыняць канец чалавека". Архан Памук распавёў успамін пра свайго бацьку.

Прыгадаў і адну прамову Курта Ванегута перад студэнтамі Масачусецкага

---

[1] Дзень народных абуджальнікаў – балгарскае свята ў гонар нацыянальных асветнікаў, пісьменнікаў, рэвалюцыянераў, якія абуджалі ў балгарах нацыянальны дух і імкненне да адукацыі і развіцця.

тэхналагічнага ўніверсітэта, якую не так даўно перачытваў. “Змазвайцеся сродкам для загару!” – паўтараў Ванегут некалькі разоў як важную параду для моладзі ў сваім тыповым абсурдным стылі...

А ён, пісьменнік Г. з горада Р., што скажа ён людзям, якія будуць чакаць пачуць ад яго нешта арыгінальнае? Ён скажа пра самоту балгарскай правінцыі? Ці, у адрозненне ад Фолкнера, што паўсюль бачыць канец чалавека – чалавека, які чытае... Пра свайго бацьку яму няма чаго распавесці, як гэта зрабіў Архан Памук, бацька ягоны быў звычайным працоўным – токар на заводзе, пакуль завод не зачынілі... А пра абсурдны сродак для загару няма чаго і казаць – так і глядзі, што цябе зразумеюць літаральна... І будуць лічыць не пісьменнікам, а дыстрыб’ютарам касметыкі...

Ён зрабіў сабе кавы, выпаліў некалькі цыгарэт на балконе, гледзячы на бязлюдную правінцыйную вуліцу. І раптам нібыта нешта ў ягонай галаве праяснела.

Ён сеў за стол і ад рукі (так ён пісаў і свае раманы, пасля перанабіраючы іх на кампутары) накідаў чарнавік сваёй прамовы. Ён будзе казаць пра павольную літаратуру... Як ёсць “слоў-фуд” – “павольная ежа”, адваротная хуткай – “фаст-фуду”, так павінна быць і павольная літаратура. Якая будзе мець сэнс і прыносіць асалоду чытачу – асалоду ад павольнага чытання... Прыносіць узаемнае задавальненне – не толькі чытачу, але і пісьменніку – асалоду ад павольнага пісання... Бо ён і сам піша павольна – больш за два гады працаваў над раманам, які цяпер журы адзначыла ўзнагародай “Ра-Манія”.

Паставіўшы фінальную кропку, ён усміхнуўся выніку: атрымалася прамова вартая лаўрэата.

Ён набраў чыставік на кампутары і прачытаў, засякаючы час – восем хвілінаў. Ідэальна – не вельмі кароткая, але і без рызыкі надакучыць публіцы. Але... Ці павінен ён яе чытаць? Будзе выглядаць, быццам усё падтасавана. Усе будуць думаць, што ён загадзя ведаў пра ўзнагароду... Што мае свайго чалавека ў журы... І пойдуць намёкі па форумах: чарговы прадвызначаны конкурс...

Таму ён вырашыў гаварыць. Ён вывучыць прамову на памяць і адрэпетуе перад люстэркам... Дома атрымліваецца няблага, але заўтра, перад публікай? Ці не збянтэжыцца ён праз святло пражэктараў? Ці не запнецца перад мікрафонамі, як нявопытны рэпарцёр, які забыў свой тэкст?

Раптам яму захацелася даць задні ход... Адмовіцца і ад урачыстасці, і ад узнагароды... Нашто яму гэтая мітусня – ці не сам у сваім рамане ён пісаў пра тое, што мітусня – гэта самы вялікі вораг пісьменніка... Вось Жан-Поль Сартр адмовіўся ж ад Нобелеўскай прэміі са словамі, што любая ўзнагарода разбэшчвае... Ці можа пісьменнік Г. з горада Р. быць Жан-Полем Сартрам?

Не можа... Па шматлікіх прычынах, але самая істотная з іх: Г. з Р. мусіць аплочваць рахункі, а Жан-Поль Сартр тады і без прэміі ўжо дастаткова зарабіў.

Жонка пацалавала яго на развітанне: я ў цябе веру!

Але ён толькі няўважліва паглядзеў на яе: ягоны розум быў заняты іншым – рэпетаваў сваю прамову. Ён рэпетаваў і пакуль ехаў да Сафіі, і калі выйшаў на сталічным аўтавакзале, і калі ўвайшоў ва ўрачыстую залу ўручэнняў.

Зала ўжо была поўная. У адным куце ён пабачыў накрыты кактэйльны стол – падносы з закускамі і вінныя келіхі, якія афіцыянты напаўнялі па мерцы. Сярод прысутных ён заўважыў і знаёмыя твары: універсітэцкія прафесары, журналісткі штодзённых газет, галоўная рэдактарка “Культурнай афішы” – штотыднёвіка з малым накладам, але з вялікім уплывам у культурным асяроддзі. Пабачыў некалькі пісьменнікаў, таксама са спісу намінантаў, і павітаўся з імі. Адчуў, што і яны спадзяюцца на ўзнагароду – выглядалі напружанымі і поўнымі жадання хутчэй пачуць рашэнне журы.

Журы было сустрэтае належнай авацыяй – дзве прафесаркі літаратуры, адзін

паэт, адзін малады, але ўпэўнены белетрыст. І старшыня – сталы пісьменнік-раманіст, які ўжо адваяваў сабе месца класіка.

Да гэтых аўтарытэтных асобаў былі скіраваныя камеры і мікрафоны журналістаў у чаканні навіны.

І пераможцам стаў...

Старшыня журы вытрымаў артыстычную паўзу, нібыта забыўшыся імя. Ён запусціў руку ў кішэнь пінжака і дастаў складзены аркуш. Вельмі доўга яго раскладаў – як іншаселец з апавядання Ёўкава[1] раскладаў змятую банкноту. Каб вымавіць...

Ягонае імя!

Апладысменты, бляск сполахаў, усмешкі на адных тварах, грымасы на іншых...

Ён, пісьменнік Г. з правінцыйнага горада Р., выйшаў да ўсіх, пачырванелы ад цеплыні і збянтэжанасці. Ён павітаўся за руку са старшынём, і стары раманіст сказаў яму нешта, толькі што – ён у мітусні не пачуў, але, відаць, нешта прыемнае... Пасля ўручыў яму сімвал “Ра-маніі” – статуэтку ў выглядзе раскрытай бронзавай кнігі... І грамату з ягоным іменем. І канверт, з чэкам на салідную суму. А пасля і букет кветак – можа, ад самога міністра культуры...

Збянтэжаны пісьменнік Г. замітусіўся – дзвюх рук было замала, каб прыняць усе прэзенты. Але яму на дапамогу падбегла маладая элегантная дама са складу арганізатараў і разгрузіла яго ад дароў. А старшыня журы кіўнуў яму ў бок мікрафона – ён твой...

Пісьменнік Г. падышоў да стойкі, падправіў мікрафон пад свой рост і сказаў:

– Добры вечар!

Але не было каму яго слухаць... Сталічная культурная публіка ўжо размаўляла паміж сабой і накіроўвалася да кактэйльнага стала... Ён убачыў вядомых журналістаў, якія цягнуліся за келіхамі, заўважыў спіну галоўнай рэдактаркі “Культурнай афішы” – яна хутка накладала сабе ў талерку закускі...

Ён паўтарыў збянтэжана:

– Добры вечар!

Зала адказала яму гудзеннем – як гудзе радыё на неналаджанай станцыі. Паразітны шум ішоў ад дзясяткаў іртоў, якія прыйшлі сюды не дзеля яго – лаўрэата, не дзеля яго рамана або прамовы... А каб паесці, выпіць і пабалакаць...

Пісьменнік Г. з горада Р. адразу зразумеў сітуацыю і не зрабіў трэцюю спробу. Усміхнуўся, магчыма, трохі кісла, і адышоў ад мікрафона, так і не прамовіўшы тэкст, які столькі рэпетаваў...

...Менавіта таму, хаця і з узнагародай у сумцы і з чэкам у кішэні, ён вяртаўся ў свой родны горад Р. у кепскім настроі.

Па тэлевізары ў аўтобусе Ліям Нісан скончаў з бандай албанцаў – апошні мафіёзі быў забіты стрэлам амаль у самую скроню. Затым Ліям вызваліў сваю дачку, яны абняліся і пайшлі цітры. Пасля гэтага дыск скончыўся, па экране пабеглі палоскі і пачулася гудзенне – такое самае, як ва ўчарашняй зале.

Шкодны шум нечакана вярнуў пісьменніка Г. у юнацтва – тады ён вельмі захапляўся рокам. Балгарскае радыё не перадавала заходнюю рок-музыку, таму ён дзень і ноч круціў ручку наладкі на сваім транзістары. Ён склаў сабе спіс з рок-перадачамі на замежных радыёстанцыях і ніколі не прапускаў іх... І сёння іх памятае: у панядзелак а 21:00 пачыналася сербскае “Вече уз радио” з Міколам Караклаічам, а ў суботу, трохі раней за дванаццатую ночы, – Бі-Бі-Сі па-балгарску з Вашай Ані... У чацвер а 15:30 было “Попалбум” па радыё Скоп’е, а ў нядзелю – цэлыя чатыры гадзіны, з 14 да 18, ён слухаў “Свабодную Еўропу” на румынскай – перадача называлася “Метраном” з Карнэлам Кірыякам...

[1] Гутарка ідзе пра апавяданне яшчэ аднаго балгарскага класіка Ёрдана Ёўкава “Іншаселец” (“Другоселец”).

У той час у нас не толькі не перадавалі рок-музыку, улада замінала слухаць і замежныя станцыі... Магутныя глушыльныя прылады перашкаджалі заходнім кароткім хвалям даходзіць да балгарскіх транзістараў. Толькі ты прыціснуўся вухам да дынаміка, раптам музыка глохне і застаецца чуваць толькі гул – станцыя знікае... Але ягоны транзістар маркі “Рыга”, хаця быў і савецкай зборкі, меў адну цудоўную рэч... Рэгулятар тонкай наладкі. Толькі станцыя пачне губляцца, круціш ручку тонкай наладкі – і яна вычышчае прыкрае гудзенне...

Ён усміхнуўся, узгадаўшы тонкую наладку – вось чаго яму бракавала ўчора на ўрачыстасці. Не толькі на ўрачыстасці – для ўсяго грамадства яе бракавала!

Гэтая гульня словаў прагнала ягоны кепскі настрой. Унутры яго праяснела таксама ж, як разышоўся сафійскі туман пасля Віціня. І яму прыйшла ў галаву ідэя для апавядання – з такой самай назвай: “Тонкая наладка”.

З аўтавакзала ён адразу вярнуўся дадому. Жонка чакала яго на кухні: яна прыгатавала ягоную ўлюбёную піцу і паставіла на стол бутэльку віна – адзначыць прэмію.

– Як прайшло ўзнагароджанне? – запытала яна нецярпліва, жадаючы ведаць падрабязнасці.

– Не цяпер! – адказаў ён няўважліва і зачыніўся ў спальні.

Там, побач з сямейным ложкам, стаяў і ягоны стол, за якім на працягу шматлікіх год ён пісаў.

Ён сеў, узяў сваю ўлюбёную асадку і на чыстым белым аркушы напісаў назву будучага апавядання.

А на кухні ягоная жонка засталася сядзець адна за сталом і адна піць віно. Яна не злавалася: былі жанатыя ўжо пятнаццаць год, і яна прывыкла не звяртаць увагі на ягоны настрой. Яна ведала, што ён някепскі чалавек, проста часам яму бракавала тонкай наладкі.

*Пра аўтараў:*

**Георгі Маркаў.**



Балгарскі пісьменнік і дысідэнт. У 60-х гадах лічыўся адным з маладых таленавітых балгарскіх аўтараў, аднак праз цэнзуру частка яго твораў здымалася з друку, а п’есы забараняліся для пастановак. Пасля эміграцыі ў Лондан працаваў на радыё “BBC” і “Свабодная Еўропа”. На радыё ж вёў перадачу, падчас якой зачытваў эсэ, якія ўвайшлі ў яго кнігу “Завочныя рэпартажы пра Балгарыю”. Верагодна, быў забіты (атручаны) на 49 годзе жыцця.

**Міхаіл Вешым.**



Міхаіл Геаргіеў Мішаў (сапраўднае імя) у сучаснай балгарскай літаратуры вылучаецца найперш сваім яскравым гумарам. З’яўляецца аўтарам мноства фельетонаў і апавяданняў. Быў уключаны ў “Анталогію сусветнага гумару”, якая выйшла ў 2002 годзе ў В’етнаме, а яго раман “Англійскі сусед” быў намінаваны на літаратурную ўзнагароду Еўрапейскага парламента. На сённяшні дзень Міхаіл Вешым з’яўляецца галоўным рэдактарам балгарскага гумарыстычнага выдання “Стършел” (“Шэршань”).

# «Перадусім Беларусь»

## *Старонкі з кнігі пра Генадзя Бураўкіна*

**Уладзімір АРЛОЎ, кінарэжысёр**

### Чалавек, якім мы ганарыліся

1978 год. Чароўная беларуская восень. Экранізую паэтычнае эсэ Анатоля Вялюгіна «Зямля і зоры». Адзнялі эпізод сустрэчы аднавяскоўцаў – чатырох з дванаццаці воінаў, што вярнуліся жывымі ў сваю Няжараўку з вайны. Сярод іх герой гэтай навелы – ляснік Міхась Рагоўскі. Ён, здаецца, адзіны на ўсю Міншчыну поўны кавалер ордэна «Славы» ўсіх трох ступеняў. А ўжо на Случчыну – дакладна адзіны.

Пасля абеду адпачываем з аператарам на шырокай печы ў доме лесніка. Тут жа сушацца грыбы і рэзаныя яблыкі. Ідылія! Мы лянотна перагаворваемся, як раптам... Радыёкропка, якая ў вёсках ніколі не выключаецца, перадае навіну: нашую ўстанову Дзяржтэлерадыё ўзначаліў Генадзь Бураўкін! Навіна радасная, бо папярэднікам Бураўкіна быў кволы, нерашучы і ўвогуле недасканалы кіраўнік, якога «дэсанціравалі» на тую пасаду ЦК. І тут раптам – паэт і вядомая свецкая асоба!

Сябрамі мы не былі, а проста былі знаёмыя: усё ж часцяком хадзілі па адных «багемных» сцежках. Да прыкладу, яшчэ ў 1966-м разам удзельнічалі ў тыднёвым семінары творчай моладзі, які ЦК камсамола наладзіў на Нарачы. Спрэчкі, песні, начныя вогнішчы, купанне і бадзянне да раніцы. Потым нас усіх, вартых яго ўвагі ўдзельнікаў таго семінара, сабраў у сваім доме мастак Уладзімір Стэльмашонак. І мы зноў сядзелі з Генадзем побач за сталом. Нашая кампанія «перажоўвала» семінарскія падзеі, бы астывала пасля ліпеньскай нарачанскай спякоты...

І вось 1978-мы. З таго часу я стаў звяртацца да старшыні Бураўкіна на «вы» – усё-такі начальнік! Ён жа па-ранейшаму гаварыў мне «Валодзя»...

*Публікацыю падрыхтаваў Сяргей ШАПРАН.*

Напрыканцы 1970-х наш «Тэлефільм» стаў упоравень з найбуйнейшымі вытворцамі – студыямі Масквы, Ленінграда і Кіева. Секцыя тэлевізійнага кіно Саюза кінематаграфістаў, якую я ўзначальваў гадоў дваццаць, разам з Дзяржтэлерадыё двойчы ў год праводзіла ў Мінску ўсесаюзныя семінары: вясной па праблемах відэафільма (тэхніку «відэа» мы толькі засвойвалі), увосень – па музычным тэлекіно. На нашыя семінары з'язджаліся знакамітыя прафесіяналы з саюзных рэспублік, лаўрэаты Ленінскай прэміі. І старшыня – чалавек у Беларусі аўтарытэтны і вядомы – абавязкова бываў на адкрыцці і закрыцці семінараў, што ўздымала іх узровень і значэнне, прычым Бураўкін прасіў абавязкова знаёміць яго з найбольш цікавымі працамі.

Ён заўсёды глядзеў разам са стваральнікамі чарнавы мантаж усіх нашых фільмаў. Разам абмяркоўвалі ўбачанае. Схема яго выступленняў была звычайна наступнай:

– Гэта я кажу як старшыня і прашу ўлічыць заўвагі... – Ішла якая-небудзь «ідэалагічная» папраўка, часцей за ўсё па тэксце. – А гэта раю ад сябе – можаце згаджацца, можаце не згаджацца... – І рабіў некалькі змястоўных прапаноў.

Паглядзеў Бураўкін і чарнавы мантаж майго фільма «Пытанні на адказы» – пра ганебныя для ўлады падзеі: разгон міліцыяй грамадзянаў, якія 30 кастрычніка 1988 года ішлі на Дзяды ў Курапаты і якія былі сустрэчаны гумовымі палкамі і газам «чаромха». Паглядзеўшы, Бураўкін доўга маўчаў...

Справа ў тым, што ў той час старшыня Дзяржтэлерадыё знаходзіўся, так бы мовіць, у цісках: з аднаго боку яго абвінавачвалі ў патаканні тупой, злачыннай пазіцыі ўладаў «нацыянальна арыентаваныя» дэмакраты (сярод якіх былі і ягоныя сябры, і паплечнікі па літаратурным «цэху»), з другога боку, улада загадвала яму, камуністу, няўхільна праводзіць «лінію партыі». Тая ўлада не жадала аніякіх зменаў і ў зносінах з народам ведала адзін аргумент – узброенную сілу. Генадзь Мікалаевіч у той складанай сітуацыі лавіраваў, як мог.

...Памаўчаўшы пасля прагляду фільма, ён сказаў:

– «Литературная газета» апісала тыя нашыя гаротныя падзеі наступным чынам: сюды прыязджаў яе спецкар Борын, але прыязджаў разам з выдатным аўтарытэтным адвакатам Ларыным, які даў юрыдычную ацэнку дзеянням міліцыі, увогуле ўладаў... – Тут Бураўкін выразна паглядзеў на мяне. Гэтага было дастаткова: я ўсё зразумеў. Прагляд і тое абмеркаванне скончыліся недзе на пачатку сёмай вечара, а ўжо назаўтра а палове дзявятай раніцы я разам са здымачнай групай быў у Маскве, у кватэры Ларына... Вось так мы пры Бураўкіну і працавалі.

Адзняты ў Маскве матэрыял я ўключыў у фільм. Старшыня быў задаволены, бо гэткім чынам была агучана думка не каго-небудзь, а сталічнага аўтарытэтнага адваката. А для мясцовых кіраўнікоў меркаванне, якое зыходзіла з Масквы, было амаль што законам.

Між іншым, у карціне быў эпізод, калі да цяпер ужо нашага, мінскага адваката прыйшлі па абарону атручаныя газам «чаромха» знакамітыя людзі Беларусі: мастакі, пісьменнікі і вучоныя, але адвакат, усё перакруціўшы, зрабіў вінаватымі не ўлады, а... іх саміх. Да таго ж пагражаў стваральнікам фільма: калі, маўляў, вы гэты відэаматэрыял не знішчыце, мы, калегія адвакатаў, юрыдычна даможамся забароны фільма! І тут Бураўкін насмешліва пакпіў з мяне:

– Што ж ты, Валодзя, такі смешны эпізод схаваў кудысьці ў сярэдзіну?! Танна прадаеш яго, танна. А гэта ж – яркі фінал! Уяві: у самым канцы фільма адвакат «забараняе» яго, і – пайшлі фінальныя тытры!

І сапраўды, як я сам да гэтага не даўмеўся?!

Пры Бураўкіну – варта было толькі пераканаць яго ў неабходнасці – мы здымалі ў Сярэдняй Азіі, на Каўказе, у Малдове, Прыбалтыцы, Піцеры, Маскве,


*Генадзь БУРАЎКІН*

на Далёкім Усходзе. Ён імгненна адгукаўся на ідэю: неабходнасць паездкі ў Маскву магла паўстаць у шэсць вечара (як пры мантажы ўзгаданага фільма «Пытанні на адказы»), а ўжо а палове на дзявятую раніцы разам са здымачнай групай ты быў у сталіцы ў патрэбнага табе чалавека...

Бураўкін жа ініцыяваў здымкі фільма «Хлопец з вёскі Белае» – пра касманаўта Уладзіміра Кавалёнка. Адправіў тады мяне з групай у госці да яго ў Сочы. І сам прадстаўляў потым фільм на Усесаюзным фестывалі і прыняў тады ж галоўны прыз (я ў той час знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Чэхаславакіі). А пасля пры ўдзеле героя-касманаўта, які неўзабаве наведаў Мінск, і нашага старшыні мы разам з аператарам на грошы, што прыкладаліся да прыза, накрылі стол у рэстаране «Беларусь», які месціўся тады насупраць стадыёна «Дынама»...

Бураўкін быў «сваім» для нас, кінарэжысёраў. Прыгадваецца, як падчас здымак «Паядынку» паводле Мікалая Матукоўскага ў Віцебск прыехалі Рыгор Барадулін, Сяргей Законнікаў і Генадзь Бураўкін. Раніцай я зайшоў да старшыні, каб зрабіць справаздачу аб ходзе здымак, а ён паўжартам:

– Валодзя, што ж ты без шампанскага на даклад ідзеш?! Цень на ўстанову наводзіш...

Праз нейкі час ужо стрэлілі коркам у столь... А калі пісьменнікі адбылі на адкрыццё аргана ў Полацк, дзе іх чакаў Васіль Быкаў, сам я адправіўся на здымачную пляцоўку.

Калі ў мяне пачаўся «бракаразводны працэс», да старшыні паступіў адпаведны «сігнал» – і ён проста абавязаны быў неяк адрэагаваць на гэта. І ён выклікаў мяне. Мы памаўчалі, бо ён усё разумеў. А пасля дзяжурных абавязковых «увещеваний» сказаў даверліва:

– Вось наш з табой агульны знаёмы развёўся, ажаніўся наноў і сказаў: «А ўсё тое ж самае».

Не ведаю, каго ён меў на ўвазе: Васіля Быкава ці Андрэя Макаёнка – абодва былі маімі знаёмымі, а яго, Бураўкіна, – паплечнікамі і сябрамі...

Генадзь Бураўкін, узначальваючы «тэлефільмаўскія» дэлегацыі на фестывалях, заўсёды вылучаўся сярод іншых старшыняў свецкасцю, элегантнасцю, красамоўствам і гумарам. Мы ганарыліся ім. А ён – намі, бо разумеў, што Беларусь на прасторы СССР і за мяжой прадстаўляюць не тэлеперадачы, а таленавітыя фільмы і – толькі яны. Гэта былі ягоныя козыры. Мы не вазілі ў маскоўскі Глаўк на здачу фільмаў напаўкаштоўныя каменьчыкі для дароў (як гэта рабілі ўральцы), ці ўзімку – дыні (як узбекі), балыкі (як бакінцы), ці віны (як малдаване). Мы вазілі высокапрафесійнае кіно, якое тыражавалася для ўсіх тэлестудыяў неабсяжнага СССР. І магло так здарыцца, што беларускі фільм глядзелі адначасова да пяцідзесяці мільёнаў чалавек!..

Дванаццацігадовае (1978-1990) кіраванне Генадзя Мікалаевіча – час росквіту, узлёту беларускага тэлевізійнага кіно (дарэчы таксама ўзгадаць, што менавіта пры ім быў пабудаваны новы тэлецэнтр на вуліцы Макаёнка – гэта ён, старшыня, «прабіў» ідэю, бо бачыў моц тэлевізійных СМІ). Створаныя тады фільмы й дагэтуль на экранах: гэта іх бессаромна расцягваюць сёння па ўбогіх перадачах, не згадваючы імёнаў стваральнікаў. «Eccohomo – ecco плагіят».

...Пачынаючы з 2001-га, я амаль штогод ладзіў свае творчыя вечарыны – у Саюзе кінематаграфістаў, у тэатры «Зніч» ці ў Тэатры-студыі кінаакцёра. І абавязкова запрашаў былога старшыню Дзяржтэлерадыё БССР. Генадзь Мікалаевіч прыходзіў і чытаў паводле маёй просьбы свае вершы «Такі народ...» і «Паміж зоркай і свечкай». А потым прэзентаваў самае дарагое, што можа быць у творцы, – сваю кнігу з цёплым аўтографам: *«Уладзіміру Арлову, нястомнаму, нястрымнаму, нязломнаму – з пажаданнем яшчэ многіх гадоў, многіх фільмаў, многіх задум, многіх сустрэч у агульных справах. Генадзь Бураўкін. 6.1.2001»*. Шостага першага – мой дзень нараджэння...

Чым я мог аддзячыць свайму кіраўніку за тое, што лепшыя фільмы зняў менавіта пры ім? Толькі адным: зняць фільм пра яго самога. І гэта я зрабіў у 1997-м, калі Бураўкін даўно ўжо не быў старшынёй. Вырашыў зрабіць я гэта экстравагантна: сабраць 13 студзеня, на стары Новы год, чалавек сорак, «букет» творчай інтэлігенцыі, у майстэрні свайго сябра мастака Аляксея Марачкіна. Генадзь у той дзень быў хворы, з высокай тэмпературай, бо застудзіўся напярэдадні. Але ведаў, як цяжка арганізоўваюцца здымкі фільмаў, колькі трэба дзеля гэтага намаганняў, клопатаў, і таму ўсё ж прыйшоў, прычым не адзін, а ў суправаджэнні прыгажуні Юлі.

Непаўторныя, цяпер ужо гістарычныя кадры, дзе ўсе разам: Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін (які чытаў экспромт і байку), Сяргей Законнікаў, Яўген Кулік, Марына Бацюкова, мастакі Васючэнкі... Гаварылі разумныя прамовы, вастрасловілі, падымалі келіхі, танчылі пад самотны фагот... Напрыканцы вечарыны Генадзь, здаецца, нават пачуваўся лепш – гэта відно на экране.

Свае вершы ён чытаў за кадрам фільма. Пад сумныя радкі «Сябры, не адключайце тэлефон!..» я ўстык зманціраваў фотаздымкі Бураўкіна, дзе ён разам з вядомымі асобамі, і пад гук званоў – помнікі тым людзям на Усходніх могілках. «Не дакрычацца і не дазваніцца...» Кранальны выйшаў эпізод...

У фільме гучалі і фрагменты яго песняў: «Збеглі зайкі ўсе ў лясы...» («Калыханка»), «Завіруха мяце, завіруха...» («Завіруха»), «Павуцінка ў верасе...» («Жар-птушка»). Нядаўна чуў тыя песні на канцэрце маладога складу «Верасоў». Некаторым з іх ужо каля сарака гадоў, а гучаць па-ранейшаму сучасна і – кранальна. Песні вось былі і засталіся, а іх аўтар... Цяпер і да яго «не дакрычацца і не дазваніцца...»

*21 мая 2016 г.*

*Аўтарызаваны пераклад з расійскай Сяргея Шапрана.*

## Зінаіда БАНДАРЭНКА

### Тэлебачанне і эпоха Генадзя Бураўкіна

Першае, што асацыятыўна ўзгадваецца, калі называеш імя Генадзя Бураўкіна, — Беларускае тэлебачанне. А лепш сказаць — Бураўкін і Беларускае тэлебачанне. Бо менавіта Генадзь Мікалаевіч, ачоліўшы Дзяржтэлерадыё, распачаў рэарганізацыю пэўных рэдакцый, каб больш часу аддавалася ў эфіры культуры, гісторыі, нашай спадчыне, каб Беларускае тэлебачанне нарэшце зрабілася беларускім. Больш за тое, разам з Бураўкіным на тэлебачанне прыйшла і беларуская мова. Ён ад самага пачатку папярэдзіў не толькі пра рэарганізацыю і ўзнаўленне кадраў, але і пра накірунак на беларускую мову, прычым, казаў, беларуская мова павінна гучаць як у эфіры, так і ў паўсядзённым нашым жыцці, інакш ніколі не вывучым яе.

Вядома, гэтае патрабаванне новага кіраўніка было ўспрынята па-рознаму, але не прыгадаю адкрытых пратэстных настрояў, а тым больш, каб нехта з гэтай прычыны сышоў з тэлебачання.

Мабыць, адыграла ролю яшчэ і тое, што Генадзь Мікалаевіч быў чалавек не толькі інтэлігентны, але і па-чалавечы проста абаяльны. Многім ён падабаўся найперш як паэт, тады шмат хто захапляўся яго паэзіяй. Дый сам ён, канечне, умеў прывабіць да сябе людзей. Асабліва яму сімпатызавала жаночая частка калектыву. «Ой, які ж ён сімпатычны!» — шапталіся ў тэлевізійных кулуарах.

А як ён з людзьмі размаўляў! Ён быў настолькі сумленны, што калі нешта ў цябе не ладзілася, дык да каго пайсці? — вядома, да Бураўкіна! Мае калегі часцяком звярталіся да яго па розных жыццёвых пытаннях. Гэта быў надзвычай цёплы чалавек. І ў гэтым сэнсе яго прыклад паступова рабіўся ўзорам паводзінаў і ў нашым паўсядзённым жыцці. Увогуле, тыя, бураўкінскія часы цяпер прыгадваюцца не толькі як залаты час Беларускага тэлебачання, але і як падарунак лёсу...

Гэткім чынам дзякуючы новаму кіраўніку мы нават не заўважылі, як праз год-два ў нас ужо было новае, беларускае тэлебачанне. Яно сапраўды стала якасна новым, бо калі, напрыклад, з'явілася ў эфіры «Калыханка», гэта быў выбух літаральна на ўсю краіну! «Калыханку» на словы Бураўкіна ўпадабалі ўсе, ад немаўлятак да дарослых. І гэта быў той рэдкі выпадак, калі любоў была шчырая.

Адначасова на тэлебачанні пачалі з'яўляцца новыя твары. Памятаю, аднойчы Генадзь Мікалаевіч сказаў на лятучцы, што хацеў бы абнавіць дыктарскую групу. Патрэбна была, так бы мовіць, свежая кроў. Такім чынам, бываючы ў камандзіроўках па рэспубліцы, мы сталі звяртаць увагу на мясцовых дыктараў і прыкмецілі, у прыватнасці, брэсцкага дыктара Валянціна Аксенцюка, у якога была сям'я, жонка і двое дзетак. У выніку ж пераводу ў Мінск ён не толькі пачаў працаваць на Беларускім тэлебачанні, але ў хуткім часе атрымаў кватэру... Менавіта пры Бураўкіне працаваў на тэлебачанні Уладзімір Някляеў і запісала некалькі перадач Святлана Алексіевіч. Дзякуючы шмат у чым менавіта Генадзю Мікалаевічу з'явіўся ў Мінску Анатоль Сыс. Упершыню мы ўбачылі яго ў Гомелі падчас конкурсу, што праводзіўся з мэтай пошуку новых галасоў для тэлебачання і радыё. Анатоль адразу звярнуў на сябе ўвагу: высокі, хударлявы і крыху нязграбны. «Я не буду гаварыць, — сказаў ён тады, і было заўважна, што ён саромеецца публічнасці. — Лепш пачытаю свае вершы». І — пачаў чытаць. Разам з Галінай Феліксаўнай Сядзельнікавай, мастацкім кіраўніком дыктараў Беларускага радыё, мы ледзь не ў адзін голас сказалі: «Божа мой, канечне, яму трэба дапамагчы!..» Хоць вядоўца з Сыса быў, шчыра кажучы, ніякі, бо ў яго была праблема ў моўным апараце — такое здараецца, гэта прыродная праблема, якую ніякімі практыкаваннямі выправіць нельга. Аднак мы прапанавалі прыехаць яму на апошні тур конкурсу дыктараў у Мінск, каб яго паглядзела кіраўніцтва. І сапраўды, пачуўшы ягоныя вершы, Генадзь Мікалаевіч меў з ім гутарку. А потым я прыводзіла Анатоля да Ніла Гілевіча, які дапамог выдаць яму першую кнігу «Агмень». Калі ж, скончыўшы Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і адслужыўшы ў войску, Сыс зноў прыехаў у Мінск, то ўжо працаваў на тэлебачанні, праўда, у якасці рабочага-кабельмейстэра — на жаль, нічога іншага яму не маглі прапанаваць. Але ў яго была адна бяда, пра якую ўсе ведалі і якая не раз даводзіла яго да рызыкі звальнення. Аднак Бураўкін не спяшаўся з гэтым — ён трымаў Сыса да апошняга, гаварыў: «Мне не хочацца закопваць ваш талент». Анатоль прасіў прабачэння і яшчэ нейкі час працягваў працаваць на тэлебачанні...

Увогуле, Генадзь Мікалаевіч звяртаў на дыктараў вялікую ўвагу. Справа ў тым, што інфармацыйныя тэлевізійныя дыктары мелі значна менш тэхнічнага спрыту, чым дыктары радыё, — тэледыктары, асабліва праграмныя, маглі сказаць: «Паважаныя тэлегледачы, прапануем вам паглядзець сёння мастацкі фільм...», а

потым ішлі ў дыктарскую глядзець фільм — вось і ўся моўная пратыка. І калі мы неяк сядзелі ўтрох — Генадзь Мікалаевіч, Галіна Сядзельнікава і я, — раптам нарадзілася такая прапанова: а давайце часова мяняць дыктараў тэлебачання на дыктараў радыё. Вядома, спачатку гэтая ініцыятыва была ўспрынята тэлевізійнымі дыктарамі без энтузіязму, але ў выніку такой практыкі, якая доўжылася па дватры месяцы, быў напрацаваны, без перабольшвання, сапраўдны прафесіяналізм. І калі значна пазней у краіне змянілася ўлада і на тэлебачанні грымнуў гром, ніхто з нашай дыктарскай групы не застаўся без працы. Першай тады сышла я, а праз некалькі месяцаў дыктарская была ўжо пустая. Але ўладкаваліся ўсе, і адбылося гэта дзякуючы ў тым ліку тым зярнятам, якія кінуў у зямлю Генадзь Мікалаевіч і якія, праросшы, далі добрыя ўзыходы.

...Ужо значна пазней, калі Бураўкін вярнуўся са Злучаных Штатаў Амерыкі (нехта з нашых агульных сяброў потым распавядаў, што калі быў у Амерыцы, дык не мог не заўважыць, як глядзелі амерыканцы на Генадзя Мікалаевіча і Юлію Якаўлеўну — такая гэта была прыгожая пара!), ён аднойчы нечакана патэлефанаваў мне, прычым было відавочна, што быў разгублены: «Зінаіда Аляксандраўна, не ведаю, як вам сказаць... На тэлебачанні будзе праходзіць конкурс дыктараў, а нашая дачка Света хоча стаць дыктарам. Я вас аб адным прашу: пастаўцеся да яе не як да дачкі Бураўкіна, а як да звычайнай канкурсанткі. Калі ў яе ёсць здольнасці, дык рашэнне застаецца за вамі, калі ж не, дык ні ў якім разе не рабіце нічога, каб прыняць яе. У нас з вамі склаліся добрыя стасункі, калі мы разам працавалі, дык хай яны ніяк не паўплываюць на вашае рашэнне цяпер». Але Святлана вылучалася сярод усіх канкурсантаў не толькі паводзінамі і знешнасцю (хоць і славянскага тыпу, яна між тым была вельмі падобная да француженкі), але нават артыкуляцыйна: у яе была свая адметная, мяккая жаноцкая манера гаварыць. Святлана ўмомант прываблівала да сябе, і таму рашэнне аб яе прыняцці было адзінагалоснае. Прычым яна адразу пачала чытаць інфармацыйныя выпускі і вельмі падабалася гледачам. Ведаю гэта пэўна, бо ў нас існавала такая завядзёнка: не браць адразу чалавека ў штат, а каб месяц-другі папрацаваў дыктарам-практыкантам; мы нават абвяшчалі ў эфіры, што, маўляў, з сённяшняга дня пачынаюць працаваць новыя дыктары, і просім пісаць і тэлефанаваць, выказваючы сваю думку пра іх. Дык вось, тэлегледачы сімпатызавалі Святлане больш за астатніх практыкантаў. Аднак працавала яна ў нас, на жаль нядоўга, бо ў той час пачалося шальмаванне не толькі апазіцыі, але і інтэлігенцыі. Не стаў выключэннем і Генадзь Мікалаевіч, якога не саромеліся паліваць брудам найперш за яго шчырыя і праўдзівыя выказванні і інтэрв'ю. У выніку Света аднойчы падышла да мяне: «Зінаіда Аляксандраўна, я буду звальняцца, бо не магу так больш. Тое, што я бачу па тэлебачанні, абсалютна непрыстойна. Я не магу здраджваць тату». І — звольнілася.

Але ж Генадзь Бураўкін быў не толькі старшынёй Дзяржтэлерадыё — ён быў, і праз усё жыццё заставаўся, паэтам. А я, часта выступаючы на канцэртах майстроў культуры, кожнага разу імкнулася прадстаўляць беларускую паэзію. У паэтычных жа зборніках Бураўкіна лёгка было адшукаць верш ці нават чатырохрадкоўе, якія сваім настроем былі вельмі прыдатныя для гэтых канцэртаў. Калі, напрыклад, выступаў Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. І. Цітовіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Дрынеўскага, нават рэдактар філармоніі прасіў: «Будуць дні культуры, пачынай з верша Бураўкіна». Гэты верш безназоўны, але я падавала яго як «Беларуская песня»:

Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала.

Не прасілася слёзна: «Прызнайце...»
Проста з людам тутэйшым жыла.
Лёс ягоны цярпліва дзяліла,
Не падсмейвалася з-за вугла,
Галасіла на ранніх магілах,
Гулкі рэй на вяселлях вяла.
Не прымала маны і прынукі,
Не сцірала загару са шчок
І хавала сялянскія рукі
Пад сатканы самой хвартушок.
Засталася спагаднай і годнай,
Разбудзіла маўклівы абшар
Некрыклівая споведзь народа,
Васількова́га краю душа.

І калі Бураўкін прыйшоў на тэлебачанне, я ведала яго, канечне, найперш як паэта. І сустракаліся мы з ім значна раней, недзе яшчэ з канца 1970-х. Бачыліся на днях культуры і падчас запісу тэлевізійнай праграмы «Дом літаратара»... Паэты звычайна няўмела чытаюць свае вершы, аднак Бураўкін і тут быў рэдкім, зайздросным выключэннем — ён чытаў не тое, што артыстычна, а найперш душэўна, прычым гэтая душэўнасць, якая адчувалася нават тэмбральна, сыходзіла аднекуль з глыбіняў яго ўласнай душы. Гэта была не штучная, а прыродная якасць...

Наогул кажучы, у яго вельмі шмат мудрых, філасофскіх вершаў. Многія з іх люблю, у тым ліку з апошняй яго кнігі «Нагаварыцца з зоркамі», як, напрыклад, гэты, прысвечаны Людміле Кашкурэвіч, які Генадзь Мікалаевіч напісаў, ужо ведаючы пра сваю хваробу:

У кватэры настылай
Я шукаю прытулку ў мальбе...
Мой адзіны,
Мой мілы,
Навучы мяне жыць без цябе.

Я хаджу, як сляпая,
Пераблытаўшы ночы і дні.
Мне цябе не хапае.
Ты хоць зрэдку мне ціха шапні.

Як набрацца мне сілы,
Каб не згаснуць у чорнай журбе?
Мой адзіны,
Мой мілы,
Навучы мяне жыць без цябе!..

...А ў другой палове 1990-х пачаліся зусім іншыя часы, калі Бураўкіну ўжо не давалі магчымасці выступаць са сваімі вершамі. Памятаю, я вяла ў Маладэчне фестываль беларускай песні, дзе мы выпадкова сустрэліся з Генадзем Мікалаевічам, які з вялікай цяжкасцю патрапіў на канцэрт. Ён распавёў, як дзяжурная ледзь не таемна пасяліла яго ў гатэлі, папярэдзіўшы: «Я вельмі добра ведаю і вас, і вашу паэзію, і даю вам месца ў гатэлі пры ўмове, каб ніхто вас не заўважыў». Гаварыў гэта Генадзь Мікалаевіч за слязьмі на вачах... Запрашэнне на той фестываль ён атрымаў як звычайны глядач, а не як паэт і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, не як аўтар многіх папулярных песень і ўвогуле чалавек высокага кшталту.

Калі ж набліжалася ягонае 75-годдзе, мне здавалася недаравальным не адзначыць яго, і я ўзялася за яго арганізацыю — сама дамаўлялася з артыстамі і выступоўцамі. Вечарына адбылася ў канцэртай зале Палаца мастацтваў. Праўда, не ўсе тады здолелі быць, хто абяцаў. Не прыйшлі без тлумачэнняў Ігар Лучанок і

Эдуард Зарыцкі. Абяцалі быць таксама Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч (яны ж не толькі «Калыханку» спяваюць, але і «Белы снег»), аднак перад самым канцэртам Ядзя патэлефанавала: «Прабачце, мы не зможам быць...» Зрэшты я ўдзячная ім за тое, што дапамаглі тады з апаратурай і асвятленнем. Праўда, перад самым канцэртам пачаліся перашкоды: у канцэртную залу доўга не дапускалі, а потым папярэдзілі, што нібыта ў сувязі з рамонтам будзе адключана святло. Аднак людзі сказалі: «Выйдзем на прыступкі і вечарыну будзем праводзіць там»... Тым не менш, хоць і з сумным адценнем, але ўсё прайшло добра. Гучалі вершы паэта і песні на яго словы, любімую ж «Калыханку» спявала ўся зала...

А апошні раз мы бачыліся ў тую яго апошнюю вясну. Я якраз знаходзілася ў лякарні, як пайшла пагалоска па калідоры: «Бураўкіна прывезлі...» Ужо было вядома, што ў яго анкалогія... Я забягала да яго штовечар. Колькі разоў так было: зазірну ў палату, а ён спіць, пастаю, пагляджу дый пайду. Мы, мабыць, толькі разы тры і размаўлялі, дый тое — хвілінак пяць, бо гаварыць яму было цяжка. «Добра. Дзякуй», — звычайна казаў ён стомлена і закрываў вочы. Вельмі балюча было на яго ў такім стане глядзець... А потым я ўжо больш па тэлефоне з Юліяй Якаўлеўнай размаўляла... Многія хацелі наведаць яго, прарвацца да яго... Памятаю, як аднойчы ўзрадавалася, калі Сяргей Законнікаў сказаў (мы дзесьці сустрэліся, я кажу: «Захварэў, Сярожачка, наш Генадзь Мікалаевіч...», – стаю і слёзы міжволі самі цякуць): «Ды ён з такога роду! Яго мама яшчэ жывая! Ён абавязкова выстаіць!» І я паверыла ў тое, што ён пераможа хваробу...

Канечне, яго імя застанецца, я ў гэтым не сумняваюся. У нас і без таго не так ужо багата на падобныя асобы. А хто іншы? Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч — найперш гэтыя тры волаты ўзгадваюцца, дзе б ні быў і з кім бы ні сустракаўся. Яны былі, яны па-ранейшаму разам з намі, яны й застануцца.

*19 красавіка 2016 г.*

*Літаратурны запіс Сяргея Шапрана.*

## Вольга ІПАТАВА

### Ён дапамагаў мне стаць асобай...

Азіраючыся на мінулыя гады, яшчэ раз упэўніваюся: адзін з самых цікавых перыядаў майго жыцця звязаны з працай на Рэспубліканскім тэлебачанні, куды мяне ў 1987 годзе запрасіў яго колішні старшыня Генадзь Бураўкін. Ды не проста працаваць – а ўзначаліць адну з самых нялёгкіх рэдакцый – літаратурна-драматычную.

Прызнацца, я была здзіўленая: тэлебачанне – куды больш ідэалагічная ўстанова, чымся газеты, а я ж не была членам кампартыі (што было абавязкова для галоўнага рэдактара адной з вядучых рэдакцый).

Але й тое сказаць – на той момант літаратурна-драматычная рэдакцыя БТ перажывала складаны перыяд. Канфлікты, скандалы, бясконцыя лісты і, найболей, ананімкі ў ЦК партыі. Найбольшая супярэчнасць была ў наяўнасці дзвюх «партый». Адна з іх – рэжысёры, многія са шматгадовым вопытам тэлевізійных пастановак, спектакляў (як, напрыклад, У. Карпілаў, У. Траццякоў), другая – літсупрацоўнікі, у асноўным паэты – выпускнікі філалагічнага факультэта БДУ, без аніякага вопыту працы на тэлебачанні. Для мяне ж складанасць была ў наладжванні нармальных адносінаў з абодвума бакамі – амаль усе супрацоўнікі былі старэйшыя за мяне,

і гэтыя старэйшыя па першым часе давалі мне зразумець, што слухацца і падпарадкоўвацца мне яны не збіраюцца, і я для іх невялікі аўтарытэт.

Але і ў мяне былі свае «козыры». Я толькі што скончыла аспірантуру Маскоўскага літаратурнага інстытута, друкавалася ў маскоўскіх часопісах. Па-другое, у мяне ўжо быў салідны тэлевізійны вопыт (я папрацавала на Гродзенскай студыі тэлебачання, часта рабіла сюжэты на Мінск, і рэжысёры мяне ведалі па ранейшай працы). Але самым галоўным, на мой погляд, была поўная і безумоўная падтрымка старшыні Белдзяржкамітэта. Як я даведалася, ён схітрыў, каб маю кандыдатуру не «зарэзалі» наверсе, у ЦК кампартыі Беларусі: маўляў, яе той-сёй не рэкамендуе браць, бо яна руская. Таварыш, які адказваў там за ідэалогію і нацыянальную палітыку, узгарэўся – як гэта так, нацыяналізм! І маю кандыдатуру зацвердзілі.

Першыя месяцы былі самыя цяжкія. Я адчувала сябе як чалавек, які штурхае ўгару цяжкі воз без аніякага выніку. Чытала і бракавала сцэнарыі, вытрымлівала скандалы, наладжвала «мірныя перамовы» паміж «кааліцыямі», а калегі – галоўныя рэдактары – па-ранейшаму глядзелі на мяне са шкадаваннем, як на камікадзе. Альбо – як на крэатуру старшыні, у якім беларускі паэт «перамог» чыноўніка, і ізноў узяў на высокую пасаду «сваю», паколькі ўсе ранейшыя галоўныя рэдактары літаратурна-драматычнай рэдакцыі былі менавіта калегі-паэты.

Але час ішоў. Са скандаламі сыйшло некалькі чалавек, пасыпаліся на мяне скаргі ў ЦК КПБ. Але кожны раз старшыня Дзяржтэлерадыё падтрымліваў мае прапановы і рашэнні. І вось паступова перадачы нашай рэдакцыі сталі займаць першыя-другія месцы па рэйтынгу. Сталі прыходзіць лісты ад гледачоў – усё болей і болей. І вось нарэшце (далей цытую па лістах да сына, які ў той час праходзіў службу ў арміі на Украіне і, дзякуй Богу, захаваў гэтыя лісты):

«Наша рэдакцыя заняла за год 3-е месца. Гэта вялікі поспех і прызнанне – мы ж былі звычайна на самых апошніх месцах» (11.03.1988).

«Я адбіваюся ад даносаў. Перадачы сталі вострымі, праціўнікі дэмакратызацыі гвалтуюць. На пляцы Волі ішоў экалагічны мітынг, такія ж коцяцца па Полацку, Салігорску і г. д.» (29.03.1988).

«Нашу рэдакцыю ўсё часцей называюць лепшай. Але там, “наверсе”, як перадача, дык гвалт і скандал. Сёння ішла такая “бомба” – пра расстрэл мірных жыхароў у 1937-40 гг. у Зялёным Лузе. Чарапы жанчын з дзіркамі ад куляў, шкілеты дзяцей... Генеральны пракурор прыязджаў, пры Бураўкіне пачаў крычаць на мяне, той яго жорстка спыніў...» (16.08.1988)

«Уяві – нашы рэжысёры і рэдактары так разыйшліся, так прывыклі, што яны цяпер самыя “перабудоўшчыкі”, што ўжо я і Мялешка [мой намеснік у тыя часы. – *В. І.*] для іх як тармазы. На Бураўкіна вялікі ціск з-за нас. Ды ён малайчына, абараняе рэдакцыю як можа. Назваў мяне “асой сярод мух”» (20.03.1988).

«Нечакана памёр скульптар Анікейчык, самы сумленны з усіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР. Калі там – нечуваны выпадак! – Бураўкіну не хацелі даваць слова і за тое прагаласавалі ўсе, і нейкая даярка ажно тупала: “На ферму яго! На ферму!”, “за” былі толькі тры галасы – Гілевіча, Чыгрынава і Анікейчыка» (09.02.1989).

«Спектакль “Я, Іван Дамінікавіч” пра Я. Купалу ледзь не даканаў: два даносы былі ў ЦК, рэдакцыя раскалолася – чаму НКВД гаворыць па-руску, гэта ж абраза для рускіх. І ўвогуле “зверху” незадавальненне: навошта чапаць НКВД? Чанін (намеснік Бураўкіна) пасля гэтай калатнечы злёг з мікраінсультам» (6.02.1989).

Гэта, зноў жа, толькі адзін з такіх эпізодаў тагачаснага жыцця нашай рэдакцыі. Але самы для мяне значны – гэта рэпартаж з Вільні, дзе праходзіў першы з’езд Беларускага народнага фронта, таму пра яго асобна.

Нягледзячы на ўсё заступніцтва старшыні, ніхто не дазволіў бы даць мне тэхніку для такога запісу. А я лічыла, што гэта значная падзея, і яе абавязкова патрэб-




*Рыгор БАРАДУЛІН і Генадзь БУРАЎКІН*

на паказаць. Таму пайшла на своеасаблівае службовае «злачынства»: аформіла паездку ў Вільню (а гэта заказ на аўтобус, тэхніку, тэлеаператара і гукарэжысёра) як нарыс пра шматдзетную маці. Мантаж, агучка і афармленне ішлі пад гэтым грыфам, а ў эфір пайшло зусім іншае.

Быў вялікі скандал. Але і тут старшыня Белдзяржтэлерадыё неяк згасіў яго, узяўшы на сябе адказнасць. Затое нашу рэдакцыю літаральна завалілі лістамі – (большасць – падзякамі, а яшчэ – пагрозамі). Я па-сапраўднаму адчувала сябе шчаслівай і запатрабаванай – мы, уся рэдакцыя, працавалі як ніколі зладжана, сваркі і непаразуменні скончыліся, кожны адчуваў сябе на сваім месцы. Нас сапраўды глядзелі мільёны, пра гэта казалі і рэйтынгі перадач, і лісты-водгукі.

Як жа мне шкада, што амаль усё з напрацаванага намі ў тыя гады знішчана, асабліва ў часы старшынства Сталярова! Ужо ж, здаецца, на што бяскрыўдная перадача была запісаная пра адну са старэйшых дзяячак Віленшчыны Зоську Верас, дык і яе «парэзалі» так, як не снілася ў самым страшным сне. Зніклі, па сутнасці, лепшыя перадачы таго часу, людзі, пра якіх тады ішла гаворка, ужо не паўстануць перад намі з блакітнага экрана ніколі. А гэта – і віленчукі, сябры КПЗБ, і дзеячы навукі і культуры з іншых рэспублік.

Мне шкада і інтэрв'ю з самім Генадзем Бураўкіным, зробленага ўжо ў часы яго працы ў ААН, інтэрв'ю, пасля якога Васіль Мельяновіч, які запрасіў нас з рэжысёркай Валерыяй Скварцовай у Амерыку зрабіць цыкл перадач пра беларускую эміграцыю, плакаў ад расчуленасці і гонару за *такога* прадстаўніка Беларусі, у адрозненне ад безаблічных чыноўнікаў мінулых часоў.

Цяпер, калі мне не даюць нават пропуска ў маю былую рэдакцыю, бачыш, як далёка разышліся нашыя колішнія надзеі і сённяшняя рэчаіснасць...

У тыя гады мы спадзяваліся на тое, што Беларусь пойдзе па сапраўды дэмакратычным шляху, і таму адчувалі кожнага аднадумца як роднага, пра што сведчыць апошні ліст з тых, што я пісала сыну ў войска:

«Зрабіла я харошую перадачу да 50-годдзя С. Законнікава, пасля заехалі мы да яго на 30 хвілін (у мяне праз гадзіну быў новы запіс), і я, паглядзеўшы на сямействы Бураўкіных, Кудраўцоў, іншых пісьменнікаў, якія там былі, раптам адчула, што мая сям'я і яны ўсе самае дарагое, што ў мяне ёсць...»

...Пасля былі і іншыя гады, калі мы з Генадзем Бураўкіным не знаходзілі паразумення, і не размаўлялі, і сварыліся. Тады было шмат гаворак, што Саюз пісьменнікаў зжыў сваё, трэба яго распусціць і стварыць новы. Я была супраць, бо, на маю думку, разбурыць лёгка, а вось стварыць цяжэй. Васіль Быкаў нас пamірыў, і хоць мы так і не вярнуліся да тых, былых адносінаў – настаўнік і вучаніца (бо і я расла, і мяняліся абставіны), усё ж для мяне Генадзь Мікалаевіч, творца і грамадскі дзяяч, застаўся адным з тых, хто ў нечым пэўны час вызначаў мой шлях, каго я буду заўсёды ўзгадваць з пашанай і падзякай...

*31 снежня 2015 г.*

*г. Бэры, Канада*

## Віктар КАЗЬКО

### Чужы сярод сваіх

*Так как мёртвые существуют теперь лишь в нас,
это мы без устали бьём себя, когда вспоминаем
об ударах, которые им когда-то нанесли.*
Марсель Пруст

Колькі мінула ўжо часу, а маёй памяці ўсё няймецца. Усё лаўлю і лаўлю сябе на тым, нібыта ён толькі што прайшоў перада мной ці ідзе недзе сярод натоўпу. Мільгае і мільгае яго постаць, выбітная, прыкметная здалёку. Так было, ён увогуле быў шырокі. І не толькі постаццю. Шырокі па жыцці, светаадчуванні, характару душы. Мо таму і засцяцца мае вочы. Я збіваюся з нагі, хачу гукнуць яго і збянтэжана прыпыняю сябе. Але яго твар перада мною, у маіх вачах. Твар, усмешка, і няма разумення, што ён даўно ўжо не тут.

Колькі ж гэта нас, беларусаў, падобных адзін да аднаго. Хаця і ніколькі не падобных. Але ж нешта ёсць у нас такое, што вымушае нас шукаць і бачыць тых, хто запаў у душу, хто сёння ходзіць зусім іншымі сцежкамі. А нябачна і каля нас. Што гэта – самаўнушэнне, самападман, аберацыя зроку і памяці? Містыка нарэшце. Мо і так. Містыка. Толькі тая, якую вынайшлі і якой падмянілі невытлумачальнае імі матэрыялісты. Бо не хапіла матэрыялістычнага розуму прызнаць і назваць рэчы сваімі імёнамі. Прасцей падмяніць існаванне ў нас і над намі Вышэйшага, Боскага, сусветна духоўнага і адухоўленага звыклымі побытова-ярлыковымі паняццямі: «Гэтага няма, бо не можа быць ніколі».

А ён быў. Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. Хаця і выкраслены напрыканцы жыцця са свядомасці шмат і шмат каго. Толькі ён і з магілы аказвае сябе, падае голас усім жывым, беларусам. І гэта зусім не містыка. Гэта прысуд часу — гучаць голасу сапраўднага паэта, чалавека, грамадзяніна. Каб той-сёй, граючы на баяне, у гуках і хвалях сваёй музыкі хаця б на хвілінку ўздрыгануўся – ёсць на свеце вялікія і сапраўдныя музыкі, непадуладныя нічыёй волі, ні магільнаму пяску, крыжу і каменю на грудзях. Забыццю. Яны ўвайшлі ў вечнасць і зліліся з вечнасцю. Там іх пачатак і працяг. Імгненню яны непадуладныя, а тым больш дачасніку. Таму што зусім іншага роду і пароды.

Блізка звялі мяне з Генадзем Мікалаевічам нечаканасць і няўчассе. Недзе перад новым, 1980-м годам ён запрасіў мяне разам з Нілам Сымонавічам Гілевічам да сябе на лецішча. Было ўжо зусім па-святочнаму марозна і на душы светла. На хвоі і дарогу церусіў лёгкі сухі сняжок. Ехалі як у будучае, у новае дзесяцігоддзе. Асабліва не гаварылі, задуменна ўбіралі ў сябе надвячорак і лупаты наплыў сустрэчнага машыннага руху. Ніл Сымонавіч і Генадзь Мікалаевіч сядзелі моўчкі, амаль помнікава, занятыя сабой, хаця гэта ім было і не ўласціва. Абодва мелі цікаўнасць як да кожнага чалавека, так і да саміх сябе, што заўсёды вылучае нашага вяскоўца і творцу. А я паміж імі быў збоку прыпёку.

Зразумела, ведаў, сустракаўся з імі і раней у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Але гэта былі сустрэчы здалёк і з паклонам. Надта ж вялікая была паміж намі адлегласць. Ніл Сымонавіч — мажны, высокі, разважлівы нават у хадзе, з рудаватым прафесарскім партфелем, заўсёдна заклапочаны. Генадзь Мікалаевіч — хуткі на знаёмыя твары паваротам галавы, усмешкай. Але не па-міністэрску з пустымі рукамі, ні партфеля, ні папкі, ні нават «дыпламата», моднага на той час.

Увогуле я тады прыглядаўся да хады класікаў: класікі ці не? Атрымлівалася

— не. Быкаў ішоў як у атаку, трохі ўгнуўшыся, нібы абмінаючы кулі. Алесь Адамовіч — як за плугам, сам, нібыта конік, ківаючы галавой. Якія класікі — вочы б не глядзелі. Але класікі. Алімпійцы. А я ў салоне міністэрскай «Волгі» Бураўкіна – дарэчы, белай, у адрозненне ад іншых міністэрскіх «членавозаў» таго часу, спрэс чорных, – паэт, натура і рамантык, і я, заціснуты між імі, што верабей у падстрэшшы, яшчэ толькі ўчора фабзаяц, піянер і камса-камсамолец. Як жа я быў уражаны, калі даведаўся, чаму я знаходжуся сярод іх.

Ніл Сымонавіч і Генадзь Мікалаевіч – абодва разглядаліся ў ЦК КПБ на пасаду галоўнага кіраўніка Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яны дамовіліся паміж сабой – ніякага суперніцтва і гульняў. Ставіцца і паводзіць сябе адкрыта і шчыра. Хай наверсе вырашаюць самі. Паставілі толькі адну ўмову: згодны пайсці на кіраўніцтва, але пры поўнай, як гавораць, змене каравула. Умова для ЦК была нечаканай і не з лёгкіх. Там прывыклі, што ўмовы ставяць яны: ніякіх рэзкіх рухаў. Час усё ж быў балотны, застойны.

І тут, пэўна, трэба зрабіць адступленне. Балотны час быў не толькі ў вярхах. Не адставалі і нізы, нашае пісьменніцкае балота, хаця і ўтульнае, лагоднае, але здаўна хранічна і непарушна застойнае. Двум мядзведзям і ў адным берлагу цесна. А тут столькі геніяў на адным гектары. Шмат хто яшчэ апроч усяго і шчыра верыў у тое, што пазней нараклі камунізмам ці сацыялізмам з чалавечым тварам. Спадзяваўся надаць ладу такі твар. Як ужо казаў вышэй, Генадзь Мікалаевіч нездарма быў паэтам і рамантыкам. Хаця пытанне гэта было вельмі далікатнае, і не мне судзіць. Былі, былі ў ім жаданне і прага, пры ўсёй яго разважлівасці і памяркоўнасці, заўсёды і часам да самазабіцця і самазабыцця ахвярна кідацца ў працу і бойку, змагацца іншым разам і з ветракамі. Маладосць натуры і вера часам да ўтапічнасці не пакідала яго да апошняй хвіліны, да скону. Ён па прыродзе быў змагар, грамадзянін і сын, крывінка роднай яму зямлі, якой прысягнуў першым сваім крыкам і першай слязой. Прысягнуў на шчасце і гора, нарадзіўшыся з талентам і сумленнем. Творцам, паэтам і грамадзянінам, дзяржаўнікам. Гэта тры асобы, што неўміруча жылі ў ім. Жылі ў змаганні. І часам даводзілася душыць ці то аднаго, ці то другога, наступаць ім на горла. І тут ніхто не ведае яго танталавых пакутаў, не бачыць яго плачу кроўю, бо ён пры ўсёй сваёй шчырасці і адкрытасці быў чалавек патаемны. Як і кожны сапраўдны творца. Да раны, да болю – вясковы, наш, беларускі звычай – чужое вока не дапускаць. Гэта якраз тое, што нас захоўвае і ратуе ў свеце, што ідзе за намі з нашых балотаў і крыніцаў у дзедавых лапцях і саматканых апратках.

Вось і тут ён пайшоў следам за сваім болем і паклічам крыві. Спадзеючыся, верачы, што, падобна Харону, пераплыве застаялы наш Стыкс, зрушыць, ускоціць на гару наш ледавіковы валун. Не так, само сабой, палымяна і пафасна гэта гучала яму. Бо ён увогуле цураўся ўзнёслых словаў: селянін, стаўшы за плуг, толькі хрысціцца і моўчкі пачынае рабіць. Працы па плячах шукаў Генадзь Мікалаевіч. Верыў сабе і ў сябе. Меў падставы. На тэлебачанні, якое ўзначальваў, справіўся больш, чым з балотам, з нерушам. Надаў яму матчыну мову, а прымусіць гаварыць нямога – гэта значна больш, чым лекаванне і падвіжніцтва. Тэлевізіёншчыкі, што рабілі разам з ім, дзівіліся: Бураўкін не прапускае ніводнай беларускай тэлепраграмы. А гэта з цягам часу ці не хатні Чарнобыль. Але духоўны, лёсавы Чарнобыль быў яму яшчэ наперадзе. І ён дабраахвотна быў гатовы пайсці пад яго рэактар. Таму што сам па сваёй генерацыі, этыцы і эстэтыцы быў рэактарам, доўга носячы нешта ў сабе, але кожную хвіліну нечакана гатовы выбухнуць. І выбухаў. Але не проста так, не пуста, не гучным і халодным громам без агню. А глыбінна і асэнсавана і амаль заўсёды гнеўна, агучваючы прысуд і агаляючы няпраўду. Для прыкладу з таго, што ў недалёкай памяці адзіны толькі з апошніх выпадкаў, што сведчыць пра гэта.

На справаздачна-выбарчым сходзе нашага ПЭН-цэнтра пісьменнік Леанід Маракоў пажадаў увайсці ў склад праўлення. Сціпла-нясціпла – справа дзясятая. Але варта прыгадаць, хто такі Леанід Маракоў. Мне – у нейкім родзе чалавек, які паўтарыў на Беларусі Салжаніцына. Адзін склаў мартыралог беларусаў, што загінулі ў сталінскіх ГУЛагах. Склаў спісы, на свае грошы надрукаваў і выдаў некалькі тамоў, да таго паспяховы бізнесмен, абанкруціўся на гэтым. Але ж не спыніўся, не супакоіўся, бо рэч у сабе, што не паддаецца спакою. Праз край ідэй і задумак. Увесь час, не вытыркаючыся, нешта маракуе, прыдумляе, марна ў адзіноцтве спрабуе здзейсніць. Увогуле з дзівакоў, якія ўпрыгожваюць свет.

І вось гэты дзівак прапанаваў сябе ў склад праўлення гаваркога нашага ПЭН-цэнтра. Пракацілі. Леанід выслухаў вынікі галасавання, моўчкі склаў свае паперы і пайшоў прэч. Не паспелі яшчэ за ім закрыцца дзверы, падняўся Генадзь Мікалаевіч:

– Я думаю, усе тут разумеюць: толькі што адбылася вялікая подласць.

Гэта шараговы выпадак у характары Бураўкіна. Іх безліч. І ўсе яго сябры таму сведкі. Сведкі яго абурэння і апантанасці не толькі ў сваім асяродку, але і на самым высокім узроўні, калі ён, не азіраючыся, ляпіў праўду ў вочы тым, перад кім некаторыя гучна і кашлянуць не асмельваліся. І што паказальна, ён ніколі не ставіў гэта сабе ў заслугу. Каб не вяртацца больш да гэтага, – цяпер, прабачце, пра тое, што тычылася непасрэдна мяне.

У часопісе «Маладосць», дзе на тую пару Бураўкін быў галоўным радактарам, павінна была друкавацца мая аповесць «Цвіце на Палессі груша». Не ведаю, якія падводныя плыні вакол яе былі. Я лічыў яе бяскрыўднай, без кукіша ў кішэні. Інакш пра яе думалі іншыя. Узнікла нават пытанне ў цэнзуры. Пытанне цэнзуры тады – крыж. Шмат і шмат пазней ужо Генадзь Мікалаевіч паведаў мне, што ён сам пайшоў да галоўнага цэнзара. Замкнуліся на ключ у таго ў кабінеце.

– Дзве гадзіны сядзелі. Перабралі і ўзгадалі камсамольскае юнацтва, усю нашую біяграфію...

Што яны яшчэ там узгадвалі і перабіралі, я не ведаю. Генадзь увогуле быў не гаваркі на дэталі і падрабязнасці. Ён заўсёды і цалкам быў у перспектыве. Аповесць выйшла ў часопісе амаль некранутай. Ацалела грушка. Не тое было з друкаваннем у Маскве, у «Дружбе народов». Калі я не вытрымаў таго, як рэжацца твор па жывому, запярэчыў рэдактарцы Таццяне Аркадзеўне Смалянскай, дарэчы, рэдактару ад Бога, з «Новага мира» Твардоўскага, нашай зямлячцы з Мазыра:

— Чаго вы так перасцерагаецеся, Таццяна Аркадзеўна. Яна ж надрукавана ўжо ў Беларусі, у часопісе «Маладосць».

— Што мне вашая «Маладосць», — адказала яна. — Я раблю ў Маскве, у «Дружбе народов».

Такія выпадкі ў маіх адносінах і сяброўскія адносіны з іншымі можна было б множыць і множыць. Але я асцерагаюся зводзіць да простасці і вытлумачальна побытовага ўзроўню асобу Генадзя Мікалаевіча, бо за гэтым ён можа і згубіцца. А быў ён далёка неадназначны і зусім няпросты. Усім вядома, хто заўсёды зразумелы і ясны. І ў гэтым вялікая небяспека нашай памяці і ўспамінаў.

І ў той жа час мушу адзначыць – больш сяброўскага і самаахвярнага чалавека цяжка сабе і ўявіць. Прыкра, але яго ахвярнасць, гарэнне пры жыцці ў шмат і шмат у каго часам выклікала толькі дакор, чаму напрыканцы жыцця ён з многімі з сяброў вымушаны быў развітацца, разысціся, зноў жа прынцыпова. Бо меў прынцыпы. І галоўныя з іх – родная зямля, мілая і любая яму Беларусь, яго сям'я, маці і матчына мова, без чаго творчасць, паэзія – пусты гук.

У тую памятную зімовую паездку на лецішча Генадзь Мікалаевіч і Ніл Сымонавіч прапанавалі мне ўвайсці ў новы склад вышэй згаданага ўжо новага каравула. Сказаць, што я быў уражаны і здзіўлены, – нічога не сказаць. Быў разгублены і збянтэжаны. Я ніколі не рваўся да ўлады і публічнасці. Гэта было зусім не маё.

Падсвядома разумеў, адчуваў сябе адным толькі начальнікам і падначаленым – пісьмоваму сталу і чыстаму аркушу паперы, хаця і іх пабойваўся. І тое, што я пагадзіўся на іх прапанову, думаю, якраз лепш за ўсё сведчыла пра гэта. Помніце А. Твардоўскага: коцікаў трэба браць і душыць, пакуль яны сляпыя. І я слепа пагадзіўся, не ўстояў перад міністрам і прафесарам. Дзякуй Богу, што крыху пазней хапіла розуму саскочыць з уладнага кручка і вярнуцца да самога сябе.

Завяршэнне паездкі і сустрэчы было азмрочана. Хаця ноч была светлая, зорная. Неба разраджалася сыпкай і сухой буйнай снегавой крупою. Міністэрская машына, як сялянскі конь, ведала дарогу дадому, спяшалася насустрач новаму дзесяцігоддзю, а разам з ёй і мы ўтрох – ужо ў тым дзесяцігоддзі.

Толькі, на сваю бяду, напярэдадні яго, уключылі радыё: «Что век грядущий нам готовит?» Паслухаць апошнія навіны. Пачулі і жахнуліся. Як гаварылі тады і, дарэчы, пасля, калі ўладзе было патрэбна навешаць народу чарговыя локшыны на вушы: у Афганістан уведзены абмежаваны кантынгент савецкіх войск. Жахнуліся. Асабліва ўражаны быў Бураўкін, як найбольш дасведчаны, чым гэта патыхае, чым можа абярнуцца.

Я ні да таго, ні пазней ніколі не бачыў яго такім абураным і нават разгубленым. Вонкава пры ўсіх абставінах ён заўсёды стрымліваў свае пачуцці, свой боль і выбуховы тэмперамент, гарэў усярэдзіне, душой, сэрцам. А тут не вытрымаў:

– Усё, павязуць на Беларусь труны з белагаловымі хлопчыкамі...

Гэта наша белагаловае і сінявокае гора будучыні неаднойчы і пазней прарывалася вонку і гучала ў яго вершах:

Дзеўчанё яснавокае і хлапчук светларусы –
Па вясновай зямлі ідуць беларусы.
Узіраюцца ў неба зусім без апаскі
Каля сцежкі зрываюць паніклыя краскі.
І прагрэс перад позіркам іхнім дрыжыць:
«А ці будзем мы жыць?»
А ці будзем мы жыць?!»

Але мех з гэтым беларускім горам, і не толькі беларускім, я думаю, быў развязаны менавіта тады, у тую ноч напрыканцы сёмага дзесяцігоддзя дваццатага веку. Яшчэ далёка да Чарнобыля, прыходу Мішы Мечанага і Барыса Бяспалага, да Белавежскай пушчы, распаду імперыі. Але працэс, як любіў мовіць той жа Міша Мечаны, пайшоў. Архангел паднёс да вуснаў сваю нябесную дуду.

Не выключана, у тую ноч голас яшчэ бязгукавай дуды сэрцам паэта пачуў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. І зноў жа тут няма ні перабольшвання, ні містыкі. Не толькі паэты, але ці не ўсе мы падсвядомыя настрадамусы, хаця і не здагадваемся пра гэта. Пра тое, што, не ведаючы, ведаем, што носім у сваёй радаводнай крыві і падкорцы. У апошняй, як сведчаць сёння вучоныя, апроч нікім неспазнанага, ёсць яшчэ і зусім патаемныя зоны маўчання, дзе стоена чакае свайго часу, пэўнай хвіліны, імгнення наша мінулае і будучае, здольнае павесці і далучыць нас да сусвету і космасу, якія ўжо меў чалавек. Бязмоўныя зоны маўчання амаль нашага айчыннага, беларускага, на якія настроены сэрцам творца, паэт.

Мо самы слабы і бездапаможны чалавек на зямлі ў зоне маўчання. Але і космас ужо ў яго зоне. Космас асілка, волата. І не толькі духам. Таму што ў мінулым яго далёкі продак валодаў ім. Валодаў нябёсамі. Гравітацыяй і антыгравітацыяй, левітацыяй, тэлепатыяй і яшчэ невядома чым, бо зона ж, зона. Сацыялістычная, капіталістычная. Але галоўнае ў гэтай зоне для нас — меў голас, меў матчыну мову, быў відушчы ёю.

Нешта падобнае на тую хвіліну адбылося, пэўна, і з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным. Перад ім праблiснула горкая нашая будучыня. Пэўна, з той хвіліны

пачалася і яго горкая будучыня і нядоля. Не. Ён яшчэ вонкава заставаўся ў дабрабыце і пашане, пры пасадах і на ўздыме. Але следам за ім выспявалі і ішлі здрады, плёткі і падседжванне, зайздрасць.

Яго, як гэта пазней адбылося і з Мараковым, “пракінулі” на пост старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Непрадказальны. Умовы ставіць. А перш за ўсё – надта нацыянальны. Ён пачаў губляць сяброў, паплечнікаў. Яны неўпрыкмет сыходзілі ў новых людзей, у новае жыццё. Носам адчувалі набліжэнне новага часу. Ціха, а іншым разам і подла выракаліся саміх сябе.

І добра, у нейкай ступені даравальна, каб гэта былі толькі чужыя яму людзі. А то ж больш свае, з якімі ён не раз сядзеў у застоллі ў сваёй хаце, якім ён дапамагаў стаць на ногі. Падняліся, з’ядналіся свае і чужыя. Не маглі дараваць, пэўна, не заўсёды яму, сабе каля яго. Звычайная, канечне, дзея і справы здрады і натура здраднікаў. Варта толькі забрахаць з падваротні ў вёсцы аднаму сабаку, як узнімаецца ўся зграя.

А тут было на каго і за што брахаць: вялікае бачыцца не толькі на адлегласці. Як жа, набліжаны да самога Пятра Міронавіча Машэрава, быў уласным карэспандэнтам газеты «Правда», галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», міністр, а яшчэ «Калыханку» для ўсіх дзяцей Беларусі напісаў. Канечне, міністр – паэт, ды яшчэ з талентам, дзіцячымі вершыкамі забаўляецца – гэта нонсенс, накшталт яўрэя-аленявода. Абкладалі з усіх бакоў. Нечысць ажывае ў цемры, апаўночы, у няўчассе. А няўчассе ўжо набліжалася, цемра згушчалася. І мо асабліва шчыравалі нябачныя дагэтуль, пры святле, якім і не пашчасціла бы засвяціцца ўдзень. Толькі ўчора яны пішчом лезлі са сваіх нораў да кармушкі, так званага пісьменніцкага карыта, абівалі парогі і кланяліся ў ногі, а цяпер на чым свет стаіць праклінал і яго. Надыходзіў час спалення яго, спалення ўсяго, чаму толькі што пакланяліся. Дарваліся, не разумеючы, што шаленства і талент – розныя рэчы. Сваё мінулае, хоць і пастылае, трэба, не хочаш, а мусіш, шанаваць. Таму што яно зусім не толькі тваё, гэта мінулае тваіх бацькоў, тваёй краіны, народу. І самы найвялікшы грэх паганіць магілы продкаў. Бо так будзе і з вашымі магіламі. Гэта толькі пачынаюць сёння разумець многія з нас, таму што не ведаюць ужо, а ці будуць увогуле ў іх могілкі і магілы, ці не прагаўкаюць яны і іх. Ці будуць яны, нават літаратурныя могілкі, у нашых рэфарматараў, апалагетаў сучаснай творчасці, што зацвярджаюць сябе абразай, жоўцю, блявоцінай: «Старыя нашы пісьменнікі, розныя Барадаўкіны (Відаць, маюцца на ўвазе Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін. — *В. К.*), якія вучаць, як радзіму любіць, – папса ў квадраце». На гэта можа быць толькі адзіны адказ: каго хоча пакрыўдзіць Бог, таго пазбаўляе розуму, ці паводле Крылова: «Ай, Моська! Знать, она сильна, что лает на слона!»

Але, як мы ні адбіваліся ад свайго мінулага, як бы ні скідвалі яго з карабля сучаснасці, паводле таго ж Гілевіча: «Быў час, быў век, была эпоха». Калі ёсць, быў чалавек – ён застаецца чалавекам, які б ні быў час, якія ні былі б улады. На ім трымаецца і мае працяг будучыня. Да гэтага можна дадаць і тое, як бы мы ні крывіліся на тых, хто кіраваў намі, быў звыш нас, колішняя, а ў нас спачатку ці не цалкам партызанская ўлада ўмела бачыць і пазнаваць чалавека, знаходзіць, як тады гаварылі, патрэбныя ёй вінцікі. Па розуму, дзяржаўнасці і не пустадомнай балбатлівай гаспадарлівасці, што бракуе нашым гаспадарам сёння. Бракуе, вызначае іх і характарызуе, калі многія, многія паплечнікі, падручныя і памагатыя, нават бліжэйшыя сябры – зладзеявата калгасныя, пазбаўленыя культуры, зямлі і народу, – пераўтвараюцца ў турэмшчыкаў, сядзельцаў. У адметны новы клас нашага цяпер грамадства, вышэйшага чынавенства. І гэта тычыцца не толькі нашай краіны. Гэта прыкмета часу, які захапіў і зацугляў сёння народ і свет.

Можна сумна меркаваць пра гэта па нашых суседзях, дзе стала ўжо хапаюць за нячыстую руку мэраў, губернатараў, міністраў і выкрываюць пярэваратняў у

пагонах. Звыкла – з гразі ды ў князі, адразу ў князі. А тыя, у каго не атрымалася адразу ў князі, пратоптвалі туды ж сабе дарогу, часам на крыві, а больш — нягучна і цішком, на подласці. Асабліва не пашанцавала нашаму пакаленню. Нізы і вярхі паядналіся натурамі, хаця і не трывалі адно аднаго. Паядналіся ў змаганні паміж сабой і з усім светам: назапасілі амбіцый і комплексаў.

І хаця працягваецца гэта і сёння, выявілася гэта найбольш у пасляперабудовачны час. На вялікі жаль, распалася зусім не краіна, імперыя, а чалавек, дух яго. Па-жывому адышоў дух чалавека ад чалавека. Ён быў забіты і знішчаны перш-наперш у культуры, у творчасці і творцах. Выбітны расійскі філолаг, гісторык і пісьменнік А. Чудакоў ужо ў нашыя дні пісаў: «У культуры ёсць з'явы, якія не ніжэй, не вышэй за які б тое ні было ўзровень, таму што яны па-за ўзроўнямі, у іншым вымярэнні. Яны – культурная кроў народа». Якраз менавіта гэтая кроў была і атручана, і падменена народу, яго сумленню і свядомасці.

Творцаў, хаця і падручных партыі, звялі да нікчэмнасці, смецця. Шчыравалі зноў жа свае і чужыя. Сапраўды, няма нічога больш жудаснага за нас жа саміх. Гэта – гістарычна. У свой час амерыканцы ўздумалі даць свабоду былым рабам, неграм, арганізавалі негрыцянскую краіну Ліберыю. Больш зацятых і жорсткіх рабаўладальнікаў, ганіцеляў свабоды свет тады не ведаў.

Беларусь прыпала да тэлескрыняў. Рвалі горла народныя красамоўцы-выкрывальнкі, архітэктары і дойліды новага грамадства, радасна, без болю і одуму развіталіся з мінулым і былым ладам жыцця, абвяшчалі новы выбар. Вырашыў далучыцца да гэтага новага выбару і Бураўкін. Быў у росквіце сілаў, не з яго характарам было заставацца ў акопах. На радзіме, на Віцебшчыне, яго вылучылі кандыдатам у Вярхоўны Савет БССР.

Што тут пачалося, сёння можна толькі здагадвацца. З тае пары мы ўсе помнім: «Над нами мессеры кружили» – свае і чужыя. Абклалі з усіх бакоў, з зямлі і неба. Не даравалі нічога. А перш за ўсё – паспяховасці, розуму. Дзейнічалі па-кітайску: бі па вышынях. Прыгадалі нават юнацкую паэму «Ленін думае пра Беларусь». Хаця шмат хто і колькі яшчэ часу прытрымліваліся таго, што сапраўды думае, думаў, і ў душы былі гатовы падпісацца пад гэтым, не выключана і кан'юнктурна. А за Бураўкіным гэта было маладосцю, рамантыкай, творчасцю душы.

У дэпутаты яго не пусцілі. І не варта тут круціць і крывіць душой: баяліся. Бо паўсюдна, як гавораць, з'явілася мноства новых званых, але не абраных, што праглі быць абранымі. Бураўкін для самазванцаў быў небяспечны.

Як на маю думку цяпер, тады адбылася параза не Бураўкіна, а, пэўна, усёй нашай краіны. Менавіта тады ў яе яшчэ быў выбар, куды праляжа і пойдзе яе дарога, якім будзе яе лёс сёння. Перамаглі іншыя, хаця і падзеленыя на сваіх і чужых, прайграла Беларусь. А з Бураўкіным згулялі ў новую гульню свае і чужыя. І невядома, хто з іх больш баяўся яго. Гэта было неасэнсаванае, іх інстынктыўнае аб'яднанне. Бураўкіна ні адным, ні другім нельга было пакідаць без прыгляду. Бураўкін ёсць Бураўкін, ён мог даць і ў хамут, што ўсё ж лепш разумела ўлада.

Старэйшае насельніцтва, якое ў свой час выпісвала часопіс «Иностранная литература», павінна помніць «прынцып Пітэра» — нейтралізацыю непажаданага работніка метадам сухой, ці то ўдарнай вазгонкі. Згодна з ім, такога дзеяча проста адсаджвалі ад грамадства, улады, нават павышалі. Даходзіла да таго, што адмыслова і тэрмінова будавалі недзе ў пустыні, накшталт Сахары, адміністра-тыўны гмах, лабараторыю ці інстытут і прызначалі яго туды кіраўніком. Нешта падобнае прарабілі і ў адносінах да Бураўкіна: прызначылі паўнамоцным паслом у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрк.

Такі вось іезуіцкі, цалкам, пэўна, усё ж савецкі, метад ударнага ўзняцця. Трэба прызнаць, вельмі дзейны, пэўна, таму, што тады яшчэ ў дзяржаўных структурах, у «камітэтах глыбокага бурэння» мелася і была жывая аналітыка, што амаль

знікла сёння: існуе згодна сямі пятніцам на адзін тыдзень. І яго, Бураўкіна, не пакідалі без прыгляду і за акіянам. І з Амерыкі беглі, беглі за ім плёткі, іх укідвалі і ўводзілі ў вушы так званаму піплу, больш апазіцыйнаму, зразумела: мяркуйце самі, які ваш Бураўкін.

Вось як ён сам распавёў пра гэта пры адной з нашых гаворак: «Можа, ад таго, што я чалавек эмацыйны, скажам так, я больш паэтычны, чым публіцыстычны... Непрынясце з двух бакоў я адчуваў. Можа, не ўсё ведаў, але адчуваў. Мне бывала крыўдна і нават балюча. Я разумеў, што гэта несправядліва, і не мог даўмецца, як гэта людзі не разумеюць, чаму я так раблю, чаму так выступаю. Калі я вярнуўся з Амерыкі, і мяне, як кажуць, выкінулі з кіраўнічых структур, Васіль Быкаў мне растлумачыў. Мы сядзелі з Васілём у яго кватэры. Я тады перажываў, быў у мяне такі перыяд, можа, год, можа, меней. І Васіль мне тады сказаў: "Генадзь, а што ты хацеў? Чаго ты перажываеш? Ды нікуды цябе не пусцяць. І не таму, што ты няўмека ці вораг. Табе ніколі не даруюць тваёй беларускасці. Відаць, ты не зразумеў, што ёсць палітыкі, якія могуць усё дараваць, але так званага нацыяналізму – ніколі не даруюць. Што адбываецца і сёння ў адносінах Расіі да Беларусі". Я тады, скажу шчыра, можа, і не з усім пагадзіўся, а пасля пераканаўся: так. З гэтым было ўсё ясна. Пытанне другое: а што з іншым бокам, чаму і той бок падазрона да мяне ставіўся? А другі бок, думаю, памятаў той службовы шлях, які я прайшоў. Я не быў радыкалам. Я бачыў, што і сярод камуністаў ёсць разумныя людзі, і нават сярод чыноўнікаў, з якімі мая службовая дарога сутыкала мяне. І непрымірымасць некаторых бэнээфаўскіх лідэраў да ўсіх, хто быў у партыі, хто займаў нейкія пасады, прыняць не мог. Таму і для іх аказаўся не сваім. Што зробіш. Я сапраўды пра гэта не хачу гаварыць. Гэта не надта весела. Хаця гэта было. Сёння я ў нейкім сэнсе нават зайздрошчу сабе тагачаснаму. Бо сёння ў мяне не хапіла б ні мужнасці, ні сілы».

Апошняе вельмі спрэчна. Бо роднай зямлёй мужнасць і сіла былі закладзены магутныя, але так распараджаецца і выкарыстоўваецца імі Айчына, Бацькаўшчына. Так здзекліва творыцца гісторыя. Пасля Амерыкі Бураўкін аддаўся грамадскай працы. Я здзіўляўся, колькі ў ім сілы, маторыкі. Хаця ён іншым разам і прагаворваўся, праўда, у адносінах творчасці: адчуваю – усё магу, але ўжо не той... Калі так можна сказаць, ён пайшоў у народ, у школы, навучальныя ўстановы, на гарадскія акцыі, вечарыны. Толькі і тут падсяклі, перацялі мову і голас. Занеслі ў спісы пісьменнікаў, якіх не трэба «пушчаць» у школы, універсітэты – увогуле: «нікуды не пушчаць». Хаця на самым пачатку, здаецца, наблізілі і да памагатых новай уладзе. Але ён зблізу прыгледзеўся да яе і дабраахвотна сышоў.

Адзіным прытулкам і супакаеннем была прырода, лес. Любая яму пара года – жнівеньская, вераснёўская, час яго народзінаў. Тут была і лірыка, і рамантыка, але пры гэтым і чыста сялянскае, беларускае стаўленне да зямлі па восені, яе пладнасці. «Для мяне дарагі вынік. Мы ж перажылі вайну, і нам вельмі хацелася выніку. А якраз такая пара дае мне адчуванне выніку». І як ён абыходзіўся з тым вынікам зямлі – грыбам. Прыкмячаў яго здалёк. Спакваля паціху набліжаўся, схілена, паклонна адгорваў мох ці то хваёвыя іголкі, карэнна агаляў. І азіраўся ці то ў пошуках брацікa таго грыба, ці проста асцерагаўся, каб не адабралі яго здабычу. І нешта прыгаворваў. Я абыходзіў яго бокам, каб не сурочыць яго ўдачу і баравіковы россып.

Колькі было тых святых імгненняў. Было прыгожа і сумна. Такую вясковую чысціню і замілаванне паэта да ўсяго існага ён захаваў у сабе да апошняй хвіліны. Хацеў звярнуцца і да прозы. Гаварыў, што ў задуме ўспаміны пра Васіля Быкава. Але – «человек предполагает, а Бог располагает».

Перад маімі вачыма часта паўстаюць дзве постаці, два малюнкі. Першы. Свя-

точна ўпрыгожаны стадыён, поўны глядачоў. Ідуць мясцовыя спаборніцтвы. На бегавой дарожцы – юнак. І бяжыць ён ці не босым.

– Ой, гэта было тады, каля я ўжо вучыўся ў Полацку, – узгадвае Бураўкін. – Лёс мой так склаўся, што восем класаў я вучыўся ў Расонах, а дзявяты і дзясяты заканчваў у Полацку. Ну, і паколькі Полацк – горад, там былі гарадскія спаборніцтвы паміж школамі. На іншыя віды я не мог прэтэндаваць, вось па бегу быў сярод лепшых. А як я мог не бегаць, калі хадзіў у школу за восем кіламетраў кожны дзень. І вось аднойчы мне настаўнік фізкультуры прапанаваў выступіць за школу на гарадскіх спаборніцтвах. Стадыён, канечне, прымітыўны, але ўсё ж такі стадыён. Усе выходзяць – тады красовак не было – у нейкіх тапачках, а ў мяне і іх няма. А бегчы трэба. І я пабег у шкарпэтках. Басанож не асмеліўся, гэта мне здавалася ўжо занадта бедна. І калі я бег, здзекліва, як цяпер разумею, мне крычалі: «Эй, шкарпэткі! Давай!» Даў, заняў трэцяе месца.

Да гэтага трэба дадаць, што бегавыя дарожкі ў той час высыпалі трушчаным паравозным гарам, жужалем. Бегаць па іх у шкарпэтках усё роўна, што басанож. А Бураўкін пад галёканне і здзек бяжыць. Бяжыць.

І другая карцінка, пра якую распавяла Ірына Міхайлаўна, жонка Васіля Уладзіміравіча Быкава. Неяк ехалі яны на радзіму Васіля Уладзіміравіча ды не там каля Бягомля павярнулі. Хітры і не надта прыкметны, схаваны ў бары паваротак. Першай апомнілася Ірына Міхайлаўна:

– А ці так мы едзем, Васіль? Вельмі ж пустая дарога. Ніхто нас не прыціскае і не пераганяе. Адны толькі сустрэчныя машыны, чорныя «Волгі». І ўсе верашчаць, верашчаць...

Быкаў звярнуў ці не на ўрадавую трасу, да замаскіраванага ў глыбі леса чыноўнага дома адпачынку ці санаторыя. Таму і вольная дарога, таму і верашчаць чорныя «Волгі». Ён замінае ім, як замінаў усё жыццё.

Вось такія дзве карцінкі, дзве постаці. Адна – басанож па колкаму да крыві жужалю. Другая – насупраць руху. Недарэмна Генадзь Мікалаевіч пры пахаванні Быкава нёс крыж па праспекце Незалежнасці да могілак.

Мы – Юля Якаўлеўна, удава Бураўкіна, я і журналіст Сяргей Ваганаў прыйшлі да магілы паэта, калі на ёй ужо паставілі помнік. Дзень быў пад настрой, жалобна-сумны. Імжэў звычайны для Беларусі дробны дождж. Партрэтныя абрысы Генадзя Мікалаевіча то выяўна праступалі з каменя, то хаваліся ў мармуровай кропельна тумановай морасі. Нібыта ён хацеў выйсці да нас, а яго не пускалі. А я думаў пра тое, як усёй Беларусі не хапае сёння яго. Мо таму ён так і мроіцца мне, так няймецца маёй памяці. І я лаўлю і лаўлю сябе на тым, нібыта ён толькі што прайшоў міма ці ідзе недзе сярод натоўпу. Напамінкам вечнасці мільгае і мільгае яго выбітная і мажная постаць.

*Красавік 2016 г.*

## Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

### Дзякуй Богу, што мы адзін у аднаго былі

У апошнія месяцы ягонага жыцця мы сустракаліся амаль штодня. Ці перамаўляліся, калі сустрэцца не выпадала, па тэлефоне.

Ён патэлефанаваў, калі яго перавялі з мінскага шпіталю ў «ракавы корпус». У Бараўляны, дзе, нягледзячы на ўсе супакаенні дактароў («Тут лепшая дыягностыка, мы проста паглядзець, якасныя аналізы зрабіць»), ён усё зразумеў.

– Ляжу, жыццё перабіраю, – сказаў ён на маё звыклае «як пачуваешся»? –

Што зрабіў так, а што не так, што напісаў і што ўжо не напішу, дзе пабываў, а дзе ўжо не буду... – І, мусібыць, каб не такімі сумнымі былі гэтыя пераборы, скончыў. – Што выпіваў і чаго ўжо не вып'ю...

Цяжка ўявіць нешта такое, чаго б ты не выпіваў... – не прыдумаў я лепшага, каб падтрымаць яго, жарту, і ён прыняў той жарт, сказаўшы, што раней і сам так лічыў, але сёння ўспомніў, што напой гэтакі ёсць: тэкіла.

– Тады чакай... – сказаў я, апранаючыся, і праз паўтары гадзіны быў у Бараўлянах. Але пакуль я ехаў, яму стала кепска, яго паклалі ў палату рэанімацыі, куды мяне з тэкілай не пусцілі.

Прыйшоў я да Генадзя Бураўкіна з той самай пляшкай тэкілы ўжо тады, калі яго прывезлі са шпіталю дахаты. Быў пачатак вясны, і для таго, каб дарабіць недаробленае, напісаць недапісанае і выпіць невыпітае, заставалася ў яго менш за тры месяцы.

Ён быў слабы. Жонка дапамагла яму сесці ў ложку. На маё пытанне пра тэкілу сказала: «Цяпер ужо ўсё можна. Дый каб нельга было, усё адно ж ён зробіць так, як вы дамовіліся».

Нарэзала і прынесла лімон, соль, кілішкі. Я наліў. Ён насыпаў дробку солі на левую далонь, лізнуў... Урачыста, амаль рытуальна выпіў... Зажмурыўся, заеў скрыдлікам лімона... Смакуючы, памаўчаў, паварушыў, злізваючы рэшткі смаку, губамі, расплюшчыў вочы і сказаў: «Чакаў большага...»

Гэтыя два словы на парозе смерці здаліся мне глыбокай-глыбокай метафарай.

Усе мы чакаем большага. Ад усіх і ўсяго. Ад бацькоў, каханых, сяброў, жыцця...

Ад Бога.

* * *

«Чакаў большага...» – сказаў Генадзь Бураўкін пры першай нашай сустрэчы, седзячы ў сваім рэдактарскім кабінеце за сваім рэдактарскім сталом, на якім ляжала нізка маіх вершаў.

Было гэта ў самым пачатку 70-х гадоў XX стагоддзя. Бураўкін толькі-толькі быў прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць».

Ну што такога ён мне сказаў? Нічога такога. А вось стала мне гэта ўпоперак. Крыўдануў. Я прыехаў з Масквы, дзе мне прапаноўвалі добрую працу, ад якой я адмовіўся ды яшчэ забраў з выдавецтва «Молодая гвардия» гатовы да друку рукапіс кнігі на рускай мове, бо вырашыў, што мая першая мая кніга мусіць быць беларуская, вярнуўся дахаты... – і таксама чакаў большага. А што пачуў? І праз тое, што пачуў, Бураўкін мне не глянуўся. Паэт, а ў гарнітуры, пры гальштуку... Ды яшчэ ў акулярах... Зусім як загадчык аддзела прапаганды ЦК ЛКСМБ, у дзверы якога я выпадкова пастукаў, шукаючы кабінет галоўнага рэдактара «Маладосці». І гэтае ўражанне даволі доўгі час не давала мне зблізіцца з Генадзем. Ды ён і сам не шукаў збліжэння, бо я сказаў, выходзячы з кабінета, што ад яго ўвогуле не чакаю нічога...

Так вось міла пагаварылі.

Назаўтра патэлефанаваў Мікола Аўрамчык, загадчык аддзела паэзіі часопіса «Маладосць». Сказаў, што рэдактар падпісаў нізку ў друк, толькі адзін верш зняў. Маўляў, як я да гэтага?..

Гэта было маё першае здзіўленне, якое называлася Генадзь Бураўкін. Пазней было нямала іншых...

Тое, што ён лічыў справай, ён рабіў, як справу, і не кіраваўся ў гэтым асабістымі стасункамі. Ці амаль не кіраваўся, калі мець на ўвазе ягоныя адносіны з асобнымі людзьмі. Скажам, з Нілам Гілевічам, у сутнасці адносінаў з якім (як і ў адносінах Барадуліна да Гілевіча) я так і не разабраўся. З той простай прычыны, што не надта й хацеў.

* * *

У гады, калі Ніл Гілевіч быў першым сакратаром і фактычна кіраўніком Саюза пісьменнікаў (старшынёй Саюза фармальна быў Максім Танк, які нічым і нікім не кіраваў), Генадзь Бураўкін даволі рэзка (што было ў ягоным характары) спрачаўся з ім на радах, на сходах, іншым разам маючы на тое прычыну, а іншым разам і не. Па звычцы. І вось аднойчы пасля такой спрэчкі ён, узнерваваны, прапанаваў зайсці ў кавярню, выпіць па кілішку. Пайшлі праз парк Горкага, бачым паперадзе Гілевіча. Восень была, пачаўся халодны дождж, мы з парасонамі, а Ніл – без. Дагналі яго, Бураўкін стаў пад мой парасон, свой падаў Гілевічу. «Ніл, як і пра што б мы ні спрачаліся, але я не хачу, каб ты прастудзіўся і памёр».

У кавярні Гілевіч быў з намі трэцім.

* * *

Перад ад'ездам Быкава ў Фінляндыю Бураўкін патэлефанаваў: «Мы збіраемся ў Васіля, каб развітацца. Думаю, табе варта прыйсці». «Мяне не запрашалі». «Тым больш».

У мяне з Быкавым напружыліся на той час адносіны. Як пасля аказалася, ні праз што, але хто ж тады тое ведаў... І трэба было чуць, як Генадзь прамовіў гэтае «тым больш».

Я не пайшоў. Але патэлефанаваў Быкаву. І, магчыма, калі б не было таго званка, не было б шмат чаго іншага. Ад быкаўскай кватэркі, у якой жыў я пасля яго ў Хельсінкі, да прыпавесці «Чмель і вандроўнік». Тым больш – да фінскага каменя на быкаўскай магіле.

* * *

Калі Васіля Быкава не стала, Бураўкін адразу пачаў рабіць кнігу ўспамінаў пра яго. Я тады ў Хельсінкі жыў, ён патэлефанаваў: «Напішы за тыдзень-другі старонак дваццаць-трыццаць, табе ёсць што напісаць». Я спытаў, ці нельга напісаць меней і пазней? Ён сказаў, што ў беларусаў пазней – гэта ніколі. Такая ў іх ёсць нацыянальная рыса.

Пасля ён тэлефанаваў мне ці не праз дзень, усё падганяў. «Пішы, трэба выдаць хутчэй... Гэта ж Васіль».

Калі я прыехаў у Мінск, аддаў Генадзю рукапіс і папрасіў паказаць тое, што напісана ім, ён сказаў: «Няма чаго паказваць. Нічога я не напісаў».

Як не напісаў? Мяне ў каршэнь гнаў, а сам не напісаў?..

Размаўлялі ў яго на лецішчы. Казаў ён вось што (хай не слова ў слова). «Разумееш, Валодзя, сам не думаў, што такая праблема ўзнікне. Калі пра Быкава пісаць, дык толькі праўду. Не хлусню ж пра яго... А ў праўдзе, ведаеш, не заўсёды ён глядзіцца хораша. Скажам, у гісторыі з першай жонкай. Дык навошта мне такім яго ўспамінаць? Я паспрабаваў нейкія моманты проста апусціць, тады парываецца логіка. Без папярэдніх незразумелыя наступныя дзеянні, адносіны з людзьмі, увогуле шмат незразумелага. І я вырашыў пачакаць. Можа, нешта ўва мне, у маіх адносінах да таго, што адбывалася ў тым часе, зменіцца, тады напішу...»

Нічога не змянілася. Не напісаў.

* * *

Праўдалюбства ў Бураўкіна, як і ў Быкава, было рысай характару. Прычым, праўда патрабавалася ва ўсім – і ў вялікім, і ў малым. У дробязях, у дэталях. Праз гэтыя дробязі і дэталі мы з ім аднойчы нават пасварыліся.

Сядзелі ў застоллі (а ў застоллях Бураўкін быў нястомным распавядальнікам), і распавёў ён гісторыю пра тое, як яны ўтрох (з Барадуліным і Караткевічам)

застольнічалі ў Каралішчавічах (пісьменніцкім Доме творчасці). Мне гісторыя спадабалася, толькі падалася (як для гісторыі пра самых багатых на фантазіі беларускіх творцаў) беднаватай, і я (захаваўшы сутнасць) узбагаціў яе дэталямі. Ну, зрабіў літаратурнай, паколькі гісторыя пра літаратараў. Недзе (на помню ўжо, дзе) надрукаваў, Генадзь прачытаў і ўз'еўся. «Гісторыя ж лепшай стала...» – спрабаваў я бараніцца, а ён мне: «Так. Але гэтага лепшага не было!» – «Чаго не было?» – «Унтаў не было!» (Я Караткевіча ў унты абуў, якія ён з Поўначы прывёз, навошта унтам без толку каля дзвярэй стаяць?) «Як не было, калі былі. Каля дзвярэй дома ў яго стаялі. Мог ён абуць іх?» – «Мог. Але тады не абуваў!..»

Урэшце ён так мяне гэтымі унтамі дастаў, што я дзвярыма ляснуў.

Зноў усплыла тая гісторыя, калі я ўгаворваў яго ўспаміны пра Быкава напісаць. Ён адмаўляўся: «Не магу. Бо тут не напішаш напалову. Ці ўсё – ці нічога, а я не гатовы да ўсяго. – І раптам сказаў, падміргнуўшы: – А, можа, яго ў унты абуць, каб весялей было...»

* * *

Прыйшоў да Бураўкіна, вярнуўшыся з Вушачаў, дзе пахавалі Рыгора Барадуліна. Побач з маці, як ён і прасіў.

Стаў распавядаць, як усё было. У Чырвоным касцёле ў Мінску, у падворку хаты ў Вушачах, на могілках...

«Не ўяўляю, як мы без яго...» – сказаў Генадзь і змоўк. Гледзячы на яго, знясіленага хваробай, зразумець, чаму ён змоўк, было не цяжка. Я паспрабаваў перавесці размову на іншае, кнігу «Знакі прыпынку» з валізы дастаў: «Вось прынёс табе...» – але ён вярнуўся да пахавання Рыгора: «Кажы далей...»

Я расказаў, як згадаў, калі парадкавалі магілу, даўні ягоны аповед пра тое, як Рыгор маці хаваў. Калі яе засыпалі зямлёй, ён адышоў убок і стаў шпурляць сасновыя шышкі ў неба. У магілу падалі камякі зямлі, а ў нябёсы ляцелі сасновыя шышкі...

– Як ты думаеш: што гэта было? – спытаў я. – Крыўда на Бога, які забраў найдарагое?.. – І Генадзь ледзь заўважна плячыма пацепнуў: «Можа быць. Але каму-каму, толькі не Рыгору на Бога крыўдаваць. Бог столькі яму даў... Як нікому... – І ўсміхнуўся. – Помніш, як мы дамовіліся, што ён першы сярод нас, і гэта не абмяркоўваецца?..»

Я не помніў такога (хоць у якім-небудзь застоллі такое магло быць), але кіўнуў і прачытаў верш, што напісаўся ў Вушачах, у падворку хаты Рыгора.

Ты ўспомні: прыйшлі мы сюды,
Глядзелі ў глыбіні і высі
Дасяжныя. Так пачаліся
Падманы прызрыстай вады.
На ёй мы шукалі сляды
Анёлаў, абутых і босых.
Так доўжыліся ў нашых лёсах
Падманы празрыстай вады.

Квітнелі і спелі сады.
Жыццё выглядала, як дзіва,
І ў ім зіхацелі праўдзіва
Падманы празрыстай вады.

Сляды прывялі ў нікуды.
Самкнуліся, ціха сыйшліся,
Як вейкі, глыбіні і высі,
Падманы празрыстай вады.

Генадзь дзіўна зрэагаваў. «Добра, што мы не ўсе разам паміраем... – Пасля дадаў. – Па-мойму, адна страфа лішняя...»

Дома я адну страфу скрэсліў.

Развітваючыся, кнігу «Знакі прыпынку» (дзе шмат пра яго, пра Быкава, пра Барадуліна) яму надпісаў:

Не стала Васіля... За ім – Рыгора...
Але адолей боль, хваробу, гора,
Бо ўсё цяпер за іх дваіх, Генадзь,
Табе і дажываць, і дарабляць...

Ён прачытаў, падзякаваў і ўздыхнуў: «Наўрад ці... Усё гэта, Валодзя, за нас трох рабіць, addаць, табе...»

Я сказаў, што так мы не дамаўляліся...

**НА МОСЦЕ**

Рака – нібы ва ўскрытай вене
Зямная кроў.

І бляск лятучага імгнення
Між берагоў,
І чалавечыя маленні,
І рык звяроў,
Усё – як з берага камені
У скрут віроў,
Дзе круцяцца ў шалёнай пене
Млыны гадоў!..

Старэйшых за мяне ўсё меней
Маіх сяброў.

* * *

Ёсць людзі, якія ў гісторыі нашай літаратуры, культуры – назаўсёды побач.

Колас і Купала.

Чорны і Гарэцкі.

Барадулін і Бураўкін.

Яны звязаныя творчасцю, лёсам, параднёныя той зямлёй, на якой з'явіліся, і небам, пад якім узраслі.

І яшчэ – сяброўства. Апошні верш Рыгора Барадуліна, які ён напісаў ужо ў такім стане, што почырк не разабраць, і верш чытаецца, як кардыяграма сэрца, прысвечаны Генадзю Бураўкіну. І ў развітальнай споведзі Бураўкіна, запісанай Сяргеем Шапранам, самыя пранікнёныя словы – пра Барадуліна. Здаецца, яны прыйшлі ў гэты свет, абняўшыся, і, абняўшыся, з яго сышлі.

За гэты час чаго толькі ў свеце ні сталася! Якія грымелі грамы і бліскалі маланкі! Але ва ўсім, што было, што грымела і бліскала, чуліся галасы двух гэтых найталенавітых, найгодных сыноў Беларусі, якіх абрала яна сваімі паэтамі. Дзеля яе і пражылі яны жыццё, як распавялі песню. Беларускую песню такой красы, музыка якой ніколі не аціхне і словы якой ніколі не забудуцца.

* * *

Усё меней старых і надзейных сяброў. Людзей, якіх любіў я, і якія любілі мяне.

Услед за Рыгорам Барадуліным не стала Генадзя Бураўкіна.

За тры дні да ягонай смерці мы прынеслі яму ягоную кнігу вершаў. Апошнюю. Ён проста прагнуў яе ўбачыць, бо разумеў, ведаў, што яна – развітальная.

Каб гэта адбылося, мы, не паспяваючы выдаць кнігу, зрабілі яе ўручную. Адзін асобнік. І трэба было бачыць ягоны твар, калі ён узяў кнігу ў рукі. Гэта было не шчасце ці радасць, цяжка шчасцю ці радасці выявіцца на мяжы жыцця і смерці – гэта было Вялікае Супакаенне. Што жыццё пражыў як належыць. Зрабіў у ім што мог.

Так сыходзяць паэты.

Ён быў блізкі, дарагі мне чалавек. Я прыходзіў да яго, ужо цяжка хворага, каб падбадзёрыць, падняць дух, а ён з той сілай, з якой мог, паціскаў мне руку і казаў: «Трымайся».

Так сябруюць паэты.

Ён быў чалавекам не толькі з паэтычным, але і з палітычным мысленнем. Балюча перажываў сваю незапатрабаванасць як дзяржаўнага дзеяча. І не з-за асабістых амбіцый – ён насамрэч мог шмат зрабіць для Беларусі на любой, самай адказнай пасадзе. Васіль Быкаў казаў: «Калі гэтай уладзе не патрэбны паэт і дзяржаўны дзеяч Генадзь Бураўкін, значыць, ёй непатрэбная Беларусь». Уладзе гэтай без патрэбы быў і сам Васіль Быкаў, і Рыгор Барадулін, і Генадзь Бураўкін. Але ўлада – не Беларусь. Яна яшчэ скажа дзякуй сваім найлепшым сынам, якія самааддана ёй служылі і верна, самаахвярна любілі. Да апошняга ўздыху. Яе адну.

Кнігу сваіх апошніх вершаў Генадзь Бураўкін назваў «Нагаварыцца з зоркамі». Ён гаварыў з імі на зямлі – цяпер размаўляе ў небе...

Вось і ўсё, што з ім сталася.

**КАЛЫХАНКА**

*Памяці Генадзя Бураўкіна*

Па маёй ці тваёй,
не па нечай – па нашай віне
Беларусь, як чужая, у крэўнай сваёй старане.
І калі памірае праз роспач і скруху паэт,
Ён не той пакідае, у якім нарадзіўся, сусвет.

Той сусвет быў Айчынай. Калыскай ягонаю быў.
Ён паэта люляў, малаком белай мовы паіў,
Баіў байкі яму –
Там у кожным паэтавым сне
Бай хадзіў па сцяне
У чырвоным сваім каптане...

Баю-бай, баю-бай. Спяць, раскінуўшы рукі, сыны.
Сняцца некаму рускія. Некаму польскія сны.
А каму беларускія – той прачынаецца ў снах
І крычыць! І не чуе! Не бачыць! Бо прывід! Бо жах!

Спіце, воі. Мужчыны. Далёка яшчэ да відна.
Вы праспалі Айчыну! І ў снах беларускіх яна
Не Пагоняй ляціць, а ваўчыцай на бруху паўзе
І сама сабе лапу, каб вырвацца з пасткі, грызе.

Баю-бай, баю-бай. Спіце, дзеткі, бяспамятным сном.
Маладыя ваўкі! Піце матчыну кроў з малаком!..
Даганяйце па следзе, што ў кожным паэтавым сне
Чырванее на лёсе,
на лёне,
на белым, як смерць, палатне...

* * *

Я рэдка бачыў заўсёды сабранага Генадзя Бураўкіна ў разгубленасці, а тым больш у адчаі.

Аднойчы ўбачыў у Маскве. У ветрана-дажджлівы кастрычніцкі вечар 1980 года. Ён бег, натыкаючыся на людзей у натоўпе, па пероне Беларускага вакзала, заўважыў мяне каля вагона, зашаптаў на вуха ашалела: «Валодзя, Машэрава забілі. Цяпер — усё!»

Што — усё?..

Ён лічыў Машэрава беларускім патрыётам. Я — не. Ці, так скажам, меў сумнеў. Таму ў вагоне я нагадваў яму і пра асушэнне Палесся (Машэраў!), і пра руйнаванне Нямігі (Машэраў!), а галоўнае — пра расправу з беларускімі школамі, пра русіфікацыю (Машэраў!), на што (неяк яшчэ прымаючы Палессе і Нямігу) Бураўкін шаптаў (ён усю тую ноч размаўляў так, нібы нехта нас падслухоўвае): «Ты не разумееш... Яго змушалі, гэта вымушанае... А насамрэч... Ён жа наш... Калі б не ён... Зусім ужо нічога магло не быць нашага... Тое ж беларускае тэлебачанне... Мы ж сустракаліся, ты ж чуў...»

Так, мы сустракаліся — і я чуў. Але ж і бачыў. І тое, што чуў, з тым, што бачыў, не супадала. «Тое ж беларускае тэлебачанне» было асабістай рызыкай Бураўкіна. Так, Машэраў пару разоў прыкрыў яго напачатку, але не ад такіх ужо сур'ёзных замахаў. І невядома, што было б далей. А Генадзь (недзе ўжо каля Воршы, мы ў тую ноч не спалі) раптам сказаў: «Можа быць, за гэта (выходзіла, што за беларускасць) яго і забілі».

У адной з нашых апошніх сустрэч я вярнуўся да той размовы, спытаў пра Машэрава. Як ён цяпер думае: забілі, ці не? І ён сказаў, што не ведае, але хутчэй за ўсё версія забойства — легенда. «А ў кожнай легендзе, — тут жа дадаў ён, — ёсць такая праўда, якой ніколі не будзе ў праўдзе».

Што ж, яно так.

Але тут іншае.

Ва ўсіх нас здараліся ўсплёскі ўдзячнасці. Найчасцей імгненныя. Сёння аддзячылі — заўтра зыначылі. Бураўкін умеў быць удзячным нават за драбязу — і доўга. Нават, пра што сведчаць ягоная ўдзячнасць Машэраву, да канца. Вось у чым праўда.

* * *

Даўні мой сябар Яўген Еўтушэнка (адзін з першых, хто кінуўся бараніць мяне, выцягваць з турмы пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года), пражыўшы ўжо немалое жыццё, напісаў: «Я мир не делю на талантливых или бездарных, а на благодарных и неблагодарных».

Варта доўга пажыць на гэтым свеце хоць бы дзеля таго, каб зразумець, хто ў ім хто і што ў ім што.

На чалавечай удзячнасці трымаецца свет. На ўдзячнасці Богу, бацькам, родным, сябрам, блізкім, таму незнаёмцу, які на дарозе, дзе ты паслізнуўся, падхапіў цябе пад руку... На ўдзячнасці тым, хто падараваў табе шчасце любові, цуд кахання, радасць сяброўства, падзяляў твае святы і страты, дапамагаў табе і тваім родным, калі сам ты не мог ім дапамагчы. І калі насамрэч ёсць у свеце нешта такое, што называецца *жыццёвая мудрасць*, дык гэта яна.

Я шмат за што ўдзячны Генадзю Бураўкіну, але больш за ўсё — за тыя снежаньскія дні і ночы 2010 года, калі невядомыя людзі ў чорным выкралі мяне са шпіталю хуткай дапамогі, калі Вольга, мая жонка, не ведаючы, жывы я ці мёртвы, дзесяць сутак не змыкала вачэй — і мае сябры, сярод якіх быў і Бураўкін, дапамаглі ёй выжыць. Днём і ўночы былі побач.

Калі ўвесь той жах скончыўся, мае сябры прыйшлі на мой дзень народзінаў.

І Генадзь Бураўкін падараваў мне саламяную скрыпку. Сказаў, што выбраў яе ў падарунак не таму Някляеву, які палітыкай заняўся, а таму, які ў паэзіі застаўся. Які напісаў «Паланэз». І яшчэ сказаў, што калі б я ўмеў граць на скрыпцы, ён падараваў бы мне скрыпку звычайную, а паколькі не ўмею, дык выбраў у падарунак чароўную. Каб грала сама.

...Пакуль ён быў, скрыпка маўчала. Калі яго не стала — аднойчы ўночы ціха-ціха, нібы ветрыку ў фортцы гукнулася, зайграла. Бо насамрэч чароўная, Генадзь не падманваў сяброў. І за гэта я таксама яму ўдзячны.

## Сяргей ПАНІЗЬНІК

### У кожным позірку – памяць…

У 1975 годзе ва Уруччы армейскімі выведнікамі я быў пакараны за тое, што «страціў класавую пільнасць», і за сувязь з буржуазнымі нацыяналістамі быў пазбаўлены партбілета і капітанскіх пагонаў. Справа ў тым, што я, на той час афіцэр Савецкай Арміі, дазволіў сабе разам з Міколам Прашковічам паездку ў Зэльву і там запісаў на магнітафон вершы ў выкананні Ларысы Геніюш, фатаграфаваў яе сям’ю. Пазней перапісваўся з Ларысай Антонаўнай і яе сынам Юркам, які жыў у Польшчы. У гады службы ў Цэнтральнай групе войск (тады яшчэ Чэхаславакія) часта прыязджаў з гарадка Міловіцэ-над-Лабэм у Прагу, каб наведаць Міхася Іванавіча Забэйду-Суміцкага – запісаць успаміны, сфатаграфаваць. Аднаго разу на сустрэчы з чэхамі папрасіў прабачэння за прысутнасць на іх зямлі ў вайсковай форме. За асуджэнне акупацыі трапіў пад пільны нагляд. І на службе ў дывізійнай газеце ва Уруччы – пасля допытаў і канфіскацый – справа па абвінавачванні мяне ў ідэйнай нядобранадзейнасці была даведзена да канца.

Зразумела, што працы цывільнаму «антысаветчыку» не знаходзілася. Алесь Пятровіч Траяноўскі, супрацоўнік газеты «Звязда», па-сяброўску перамовіўся з начальнікам мінскай станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. Прыдалося тое, што выпускнік факультэта журналістыкі Вышэйшай ваенна-палітычнай вучэльні ў Львове быў напачатку выпускніком фельчарскага аддзялення медыцынскай вучэльні ў Магілёве. «Зрыфмаваліся» гарады. Так «траўмаваны» адстаўны капітан стаў працаваць фельчарам траўмабрыгады на станцыі хуткай дапамогі.

Быў загад выключыць мяне і з Саюза пісьменнікаў, але каб пазбавіць білета з аўтографам Максіма Танка, не хапіла галасоў. І калі творчыя спакусы як паэта былі панішчаны самымі жорсткімі тагачаснымі падзеямі ў маім лёсе, то прыцягненне да празаічнага радка абудзіла кніга «Я з вогненнай вёскі...» Мама згадвала, што пасля майго нараджэння ў 1942 годзе неба за Дзвіною часта палымнела начамі – карнікі вынішчалі непакорную прастору. А хто застаўся пасля вогненных вёсак? І вось я пры кожнай нагодзе вырываўся на спапялелую Асвейшчыну, каб выслухаць ацалелых вязняў Саласпілса, Майданака, Равенсбрука, былых дзяцей, уратаваных прыёмнымі мацяркамі Латвіі...

Некаторы час давялося папрацаваць стылістам у рэдакцыі дзвюхмоўнай тады газеты «Вячэрні Мінск» (неўзабаве пасля мяне той скрыпучы стульчык заняў Мікола Прашковіч). Некаторыя мае допісы сталі праходзіць на старонкі газет, у газеце «Голас Радзімы» нават вершы надрукавалі.

Тады ж дачуўся, што старшынём Дзяржаўнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні працуе апантаны беларушчынай творца – прыязны, як аказалася, начальнік – Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. Памкнуўся да яго. І без насцярогі і засцярогі з боку высокага, аўтарытэтнага кіраўніка быў прыняты на працу ў сакавіку 1979 года – стаў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм БТ.

Быў ачумелы ад грандыёзнасці творчых праектаў, праграм, масштабаў працы апантаных людзей, якіх натхняў на неймаверныя высілкі сам Генадзь Мікалаевіч. Здавалася б: ёсць акадэмічныя тэатры, а вось тут, у павільёнах, запісваюцца цудоўныя спектаклі! Разумелі мы задуму-заклік: усімі магчымымі спосабамі даводзіць да людзей Роднае Слова, Нацыянальную Ідэю, каб варушылі незаспанымі звілінамі, шукалі разлегласці ў думанні. Нібыта падказваў грамадзяніну дзяржаўны тэлевізар: «Паважаны глядач! Ты абавязкова наведаеш і бібліятэкі, бо цябе натхняюць з экрана Мікола Аўрамчык, Аляксей Пысін, Фёдар Янкоўскі, Алесь Кулакоўскі...»

Для мяне, нявопытнага літаратара, тэлебачанне Бураўкіна стала жаралом творчасці, дзівосным прыкладам, як можна ладзіць Кузню Нацыі, апраменьваць душы здабытым багаццем народных скарбаў. Гледачы захапляліся кадрамі з праграм «Спадчына», «Памяць», «У сям'і адзінай»... О, як я стараўся напоўніць звесткамі пра кніжныя навінкі нашых выдавецтваў, калі даручылі весці штомесячную 15-хвілінную літаратурную тэлеперадачу! Бязмерна насычаліся сцэнарыі ад паездак з рэжысёрам Эдуардам Перагудам. Адам Мальдзіс вёў нас па купалаўскай Вільні, а потым – да Скарыны, Сімяона Полацкага, Каятана Марашэўскага, Ігната Храпавіцкага, Яна Баршчэўскага... Гледачам узнаўляліся абліччы Беларусі, крэўныя сувязі будзіцеляў, іх асветніцкі подзвіг. З мінуласці вырастала Будучыня. Прытомнеў і я.

Да канца тых 1970-х у зваротах да розных інстанцый я стараўся апраўдацца за прышытыя ва Уруччы ярлыкі. Аднаго разу, памятаю, сакратар партарганізацыі Валерый Скварцоў зазначыў, што апраўданні за наводкі асабістаў дарэмныя, і сур'ёзна загадаў: «Пішыце заяву...» Я ад нечаканасці перапытаў: «Куды?» – «У КПСС» – ратаваць ад жорсткіх прысудаў, рэабілітаваць мяне вырашылі тут. Вырашылі з дабраславення Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна. Да спагадлівасці Івана Рыгоравіча Новікава, загадчыка карпункта газеты «Правда», далучылася канчатковае рашэнне сакратара ЦК КПБ Уладзіміра Ігнатавіча Бровікава.

Тое вяртанне да грамадзянскай паўнавартаснасці – хай сабе і праз неабходны на тыя часы партбілет – і па сёння цаню як важную веху ў рабоце. І дзякую Генадзю Мікалаевічу не толькі за разуменне-спачуванне, а фактычна, за маё адратаванне – вывад да сцяжынак літаратурнай службы...

І да сёння зберагаю не толькі сцэнарыі даўніх перадач (тэлеальманаха «Спадчына», напрыклад), а таксама фотаархіў, дзе ў кадрах прысутнічае Паэт, дзяржаўны дзеяч Бураўкін... 6 верасня 1987 года ў Полацку праходзіла XIV Скарынаўскае свята кнігі. Вось недалёка ад помніка Ф. Скарыну палачанін падпісвае сваю кнігу паэтэсе-палачанцы Валянціне Аколавай. На другім кадры ён побач з Ірынай Жарнасек, Пятром Сушкам, Алесем Пісьмянковым...

А 1 верасня 1990 года Пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ААН Генадзь Бураўкін прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці Беларускага грамадска-культурнага цэнтра «Полацак» у амерыканскім гарадку Стронгсвіл (ваколіцы Кліўленда). Пачыналася XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Мой аб'ектыў «шукаў» постаць Генадзя Мікалаевіча. Вось ля яго спынілася група людзей. Сярод гасцей і гаспадароў свята злева ў кадры відаць жонку Генадзя Мікалаевіча – чароўную Юлію Якаўлеўну, побач – спявак Леанід Барткевіч, далей – старшыня Рады БНР Язэп Сажыч і старшыня мінскага клуба «Спадчына» Анатоль Белы...

У чэрвені 1998 года рэдакцыя часопіса «Вожык» праводзіла сустрэчы з чытачамі ў Полацку, Наваполацку, Верхнядзвінску. Разам з Бураўкіным і Валянцінам Болтачам (Блакітам) выступаў Навум Гальпяровіч. Да іх далучыўся і я. Пашанотных гасцей запрасіў у сваю прыдзвінскую літсядзібу (вёска Цінкаўцы, музей «Хата бабкі Параскі на Шляху з грэкаў у варагі»). Харомiна была тым першым прытулкам, калі я распачынаў пошукі ацалелых сведкаў Асвейскай трагедыі. У прытулку пад Бігосавам стомлены Бураўкін нават прыснуў, а на

развітанне ўручыў сваю кніжачку «Конь незацугляны» з дароўным надпісам: *«Слаўнаму і любаму Сяргею Панізніку – у хаце бабкі Параскі з нізкім паклонам. Генадзь Бураўкін. 10.VI.1998».*

Чытаеш аўтографы – і нібы прытуляешся да чала дарагога чалавека... Вось аздобленыя шчырай цеплынёй радкі Генадзя Мікалаевіча на яго зборніку «Узмах крыла»: *«Дарагому Сяргею Панізніку, земляку, руплівцу на роднай ніве, нястомнаму і разумнаму – шчыра. Генадзь Бураўкін. 24.09.1996. Дом Купалы».*

Аднаго разу ўстрапянуўся ад нечаканасці: перабіраючы ашчадны запас, разгарнуў даўно набыты зборнічак Бураўкіна «З любоўю і нянавісцю зямною» (1963). Генадзь Мікалаевіч зразумеў мой паклон і неабыякавасць просьбы. І вось чытаю кожны раз надпіс, нібыта псалм зямны: *«Міламу Сяржу Панізніку – памятку нашай маладосці і з праверанай гадамі (дзесяцігоддзямі!) любоўю, шчыра Генадзь Бураўкін. 14.XI.2007».*

А гэта ўжо не архіўная «знаходка»: на аркушыку паперы ўнізе высвечваюцца дзве даты: «5.08.2011» і «Зак. 13.09.2011». Гэта «пашпартныя дадзеныя» ўсмешлівага як быццам бы майго верша пад назвай: «Высокія Літары Вечара» з падзагалоўкам «Ад імя Генадзя Бураўкіна». Сёння я не асмеліўся б акрэсліць такое пазначэнне, а тады, пяць гадоў назад, пасля цёплых чарговых згадак пра нашыя сустрэчы, прачытанне яго вершаў пра закаханне можна было. Вось тыя дванаццаць радкоў «Ад імя...» (папярэдне адна заўвага, пра што, зрэшты, ведаюць не толькі паэты: Любімай Генадзя Мікалаевіча была, ёсць і будзе толькі Юлія, дачка Якава):

**ВЫСОКІЯ ЛІТАРЫ ВЕЧАРА**

*Ад імя Генадзя Бураўкіна*

Дужэй Маладзік за Паэта:
Трымаў мне на серпіку Вёску.
Жыццё перачытвала Лета,
За Полацкам ставіла Коску.
А Менскам прытушана Поўня:
З праспекта ўсё Неба – пустое...
Ды веру: і Восень напоўніць
Мяне вершаваным настоем.
Паглядвае Коска на Клічнік
(Шукае прытулак гатэльны?).
...Прыцьмеў Беларусі налічнік,
А позірк Любімай – чытэльны!

Верш-прысвячэнне «Высокія Літары Вечара» быў творам для мяне нечаканым, асаблівым. Я стараюся пазначаць, каму адрасаваны верш тады, калі сам адрасат уяўляецца мне асобай незвычайнай, таямнічай, з асаблівай роллю, апостальскім прызначэннем і ў жыцці, і ў літаратуры. Вось чаму вершы-прысвячэнні ствараюцца толькі *пры свячэнні* імя. У дадзеным выпадку – і строгага, і ўсмешлівага, і па-сапраўднаму сваяцкага імя Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна. І ці не дзіўна, што яго даўні падарунак у «Хаце бабкі Параскі на Шляху з грэкаў у варагі» – незабытая на паліцах кніжачка пад сімвалічнай назвай «Конь незацугляны» – абудзіў у мяне яшчэ адно ўзрушэнне. І датаю 7 кастрычніка 2011 года было падпісана яшчэ адно прысвячэнне:

**КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ**

*Генадзю Бураўкіну*

Сёння Грэку і Варагу
шлях да нас каляны.

Толькі ж Конь незацугляны
аббягае ўсе паляны
і не мае страху.

Ён Дзвіне не валацуга:
быў жа і на Гербе!
Гэта нелюдзь ходзіць цугам,
хваліцца: у нас напруга...

А Ваш Конь імчыцца лугам,
як паверне вострым вухам, —
зноў мы ўсе – у свербе,
нават воін пешы.

Нацыю не зацугляць,
дзе падковамі звіняць
Б у р а ў к і н а
в е р ш ы.

І праз пяць гадоў ад напісання гэтага тэксту ў мяне не затухае свячэнне імя. Так і хочацца напрамую звярнуцца да Прысутнага:

– А Ваш... А Ваш... А Ваш Конь імчыцца лугам... лугам... лугам...

*Люты-сакавік 2016 г.*

## Аляксандр ФЯДУТА

### «Больш чым паэт…»

*Я пришла к поэту в гости...*
Ганна Ахматава.

Ішоў 1996 год. Прэзідэнт указам зняў з пасады Мікалая Галко – галоўнага рэдактара парламенцкай «Народнай газеты». Як прызначыў, так і зняў.

Мяне запрасіў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка. Адносіны ў нас былі складаныя. Потым яны будуць яшчэ складаней. Але гэта – потым. Тады мы былі саюзнікамі: у паветры пахла зменамі ў Канстытуцыі, пра якія ўжо загаварыў кіраўнік дзяржавы.

– Аляксандр Іосіфавіч, як Вы паставіцеся да таго, каб мы разгледзелі Вашу кандыдатуру на пасаду рэдактара «Народнай»? Будуць некалькі кандыдатур разглядаць – чаму б не разгледзець і Вашу?

Прапанова была нечаканай.

– Толькі Вы самі пагаварыце з камуністамі. Калі яны падтрымаюць, то ўдваіх з Калякіным Шарэцкага мы здолеем уламаць.

Я паехаў не да Калякіна. Я паехаў да Лашкевіча – сакратара ЦК ПКБ, які курыраваў пытанні фінансавання. Анатоль Уладзіміравіч не адмовіў, але і не стаў абнадзейваць. Проста параіў на ўсялякі выпадак сабраць каманду.

І я падумаў пра Бураўкіна.

Генадзь Мікалаевіч Бураўкін быў заўсёды больш, чым паэт. Паэт таксама. Але для мяне – больш. Фактычна стваральнік беларускага тэлебачання, былы рэдактар часопіса «Маладосць», уласны карэспандэнт «Праўды» – у тыя часы галоўнай газеты краіны. Гэта – калі казаць пра яго «медыйныя» пасады. А ў 1996 годзе... намеснік галоўнага рэдактара сатырычнага часопіса «Вожык».

Цяпер я разумею, што гэта было неверагоднае нахабства з майго боку. Але я паехаў да Бураўкіна.

Гэта была нашая першая вялікая размова.

«Прыйшоў я ў госці да паэта...»

Ён сядзеў перада мной у невялікім кабінеціку ў Доме друку. Слухаў, глядзеў па-над акулярамі на нахабнага хлапчука: Бураўкіну праз некалькі месяцаў павінна было споўніцца шэсцьдзесят, а мне – трыццаць два. Я гаварыў пра тое, якой бачу будучую газету, а сам тым часам прыгадваў, калі ўбачыў яго ўпершыню.

Я быў школьнікам. Да нас у Гродна прыехалі сапраўдныя беларускія пісьменнікі. Усе падобныя сустрэчы ў кнігарні № 1 «Раніца» заканчваліся продажам дэфіцытнай літаратуры, таму народу набілася шмат.

Не памятаю нікога – толькі Бураўкіна.

Ён чытаў фрагменты са сваёй паэмы пра Юрыя Гагарына. А потым абвясціў:

– А зараз – урывак з паэмы «Ленін думае пра Беларусь»...

У паветры павісла нейкае недаўменнае маўчанне. А паэт, гледзячы кудысьці па-над галовамі прысутных, у шкляную сцяну, за якой віднеўся танк на пастаменце, пачаў чытаць.

Не пра Леніна.

Пра Скарыну.

І маўчанне перастала быць недаўменным. Нібыта – назва цалкам афіцыёзная. А вершы былі не пра гэта. Вершы былі пра нешта іншае.

Кожная птушка ў сваё гняздо вяртаецца з выраю,
Кожны бадзяга-звер знаходзіць сваю бярлогу.
Кожная рыба свайго трымаецца віру.
Дык ці ж магу я забыцца матчынага парогу?
Кожная краска ўсцілае сваю сцягу палявую.
Кожнае дрэва скідае ліст свайму долу.
Кожная пчолка прыносіць мёд у свой вулей.
Дык ці ж я мог сваіх кніг не прынесці дадому?

Гэта цяпер радкі Скарыны ведаюць на памяць. У мае часы вучылі «Санет» Багдановіча. Таму схаванай бураўкінскай цытаты я не бачыў. Але нешта ў гэтых вершах было прыцягальнае.

І калі потым Грамадства кнігалюбаў выдала зборнік вершаў «Песня пра кнігу», і я знайшоў у ім той жа фрагмент – толькі на рускай мове, – раптам падумаў, што па-беларуску гучала лепш...

...І я замоўк.

Генадзь Мікалаевіч уздыхнуў і пачаў адмаўляцца. Ён рабіў гэта вельмі далікатна: яму не хацелася мяне крыўдзіць, гэта было заўважна. Далікатнасць наогул была неад'емнай рысай яго характару. А ў дадзеным выпадку ён і не хацеў крыўдзіць хлапца, які прыйшоў да яго з нахабнай прапановай стаць яго намеснікам, і не хацеў дэманстраваць нявер'е ў сілы «кавуновага» (зялёная скарынка – аграрыі, чырвоны асяродак – камуністы) Вярхоўнага Савета абараніць беларускую дэмакратыю.

Потым ужо я зразумеў гэта. А тады Бураўкін спаслаўся на ўзрост, на здароўе, на літаратурныя планы...

...І я сышоў.

А праз тры дні Бураўкін знайшоў у кагосьці нумар майго тэлефона і, патэлефанаваўшы, яшчэ раз папрасіў прабачэння за адмову.

Так пачалося нашае сяброўства.

Генадзь Мікалаевіч быў дзіўным старэйшым сябрам. Да яго заўсёды можна было звярнуцца па параду. Яго тэлефон не адключаўся.

– Прыходзь, – гаварыў ён, калі па інтанацыях разумеў, што не хачу давярацца «выпадковаму слухачу». І я прыходзіў.

Памятаю, як напярэдадні Кангрэса дэмакратычных сіл «У абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры», членам аргкамітэта якога мы абодва з'яўляліся, немагчыма было знайсці адказ на пытанне: хто павінен адкрываць кангрэс? Усебеларускі народны сход, што праводзіўся ў падтрымку рэферэндуму, адкрываў Філарэт, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі. Патрэбна была альтэрнатыва, якая не асацыюецца наўпростава з палітыкай. Абодва народныя паэты Беларусі, якія знаходзіліся ў той момант у Мінску, – Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч – былі залішне шчыльна ангажаваныя ў палітыку: Барадулін з'яўляўся членам сойма БНФ, Гілевіча памяталі як дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Бураўкін выслухаў мае сумневы, прыкрыў цёмныя павекі, хвіліну памаўчаў, потым вочы яго адкрыліся, і ён выбухнуў:

– Брыль.

Гэта было беспамылковае рашэнне. Усе зразумелі гэта, калі велічны акадэмік і народны пісьменнік Іван Антонавіч Брыль адкрываў кангрэс. У яго словах не было палітыкі. Ён гаварыў пра беларускую культуру, пра беларускую мову, пра беларускі народ, які заслужыў свабоду, але не навучыўся карыстацца ёю...

Я глядзеў у гэты момант на Бураўкіна. Буйны паэт, дыпламат, дзяржаўны дзеяч – ён жа мог на маё пытанне адказаць пакрыўджана:

– А я?

Але ён думаў не пра сябе. І гэтае – «А я?» – проста не прыйшло яму ў галаву.

...Бураўкін мог працягнуць сваю кар'еру ў постсавецкай Беларусі. Але, як разумею, яму было брыдка шукаць агульную мову з новымі гаспадарамі рэспублікі, якія так і не зразумелі, што жывуць яны ўжо ў суверэннай краіне. Ён, які памятаў Машэрава, спрачаўся са Слюньковым і чуў натуральную беларускую мову з вуснаў Кісялёва, грэбаваў зносінамі з запанавалай шэрасцю.

Але і для апазіцыі ён доўгі час быў чужынцам.

У 2001 годзе, калі сутаргава шукалі кандыдата ў прэзідэнты, я папрасіў аб сустрэчы тагачаснага лідара БНФ Вінцука Вячорку. Вячорка здаваўся мне найбольш разумным з «партайгеносе», ды, відаць, такім і быў. Пасля пятай ці шостай спробы ён нарэшце пагадзіўся на сустрэчу. Мы пілі каву ў «Блюзе» – цяпер гэтай утульнай кавярні няма, на яго месцы, паводле капрызу дырэктара саўгаса «Беларусь», узвялі навабуд, што выдаецца за гатэль «Европа».

Я паспрабаваў растлумачыць Вячорку тое, што лічыў, увогуле, відавочным. Што БНФ не зможа вылучыць уласнага кандыдата, але зможа згуляць сваю гульню: правесці кампанію – і зняцца на карысць адзінага кандыдата дэмакратычных сіл. Але кандыдат ад Фронту павінен выклікаць павагу і шараговых выбаршчыкаў, і наменклатуры.

– Каго Вы маеце на ўвазе? – спытаўся Вячорка.

– Бураўкіна.

– А Домаш?

Я сказаў шчыра: Домаш не гнуткі, і калі яго будуць змушаць сысці з дыстанцыі, ён зламаецца.

Тады мне здавалася, што Вячорка мяне пачуў. Але зрабіў інакш. Гэта было яго права.

Праз шмат гадоў (шмат? – гадоў восем, напэўна) я распавёў пра гэтую размову Генадзю Мікалаевічу. І пачуў у адказ роўным голасам, без інтанавання прамоўленае:

– Са мной нават не пагаварылі...

А да 2010 года сама канцэпцыя правядзення кампаніі па такой схеме вырадзілася ў Кастусёва: замест паэта, міністра і дыпламата Фронт вылучыў правінцыйнага камунальніка. Зрэшты, тым Фронтам і не Вячорка ўжо кіраваў...

Бураўкін цяжка перажываў тое становішча, у якім апынулася беларуская літаратура. Немагчымасць сустрэч з чытачамі ў рэгіёнах зрабілася для яго сапраўдным болем. І яшчэ большым болем сталі наклады кніг. Генадзь Мікалаевіч звык да таго, што наклад – гэта дзясяткі тысяч. Паказчык таго, што чытачы вакол цябе існуюць. Выданне ж зборніка вершаў накладам у трыста асобнікаў, ды яшчэ за свой кошт, давала падставы для роздуму.

Тым больш – калі гаворка ішла пра «Выбранае». Бураўкін добра разумеў, што збор твораў у дзяржаўным выдавецтве можа выйсці толькі ў тым выпадку, калі ты цалкам лаяльны да гэтай дзяржавы. Дакладней: не да беларускай дзяржавы – да «гэтага». І свой том у серыі «Беларускі кнігазбор» рыхтаваў адказна.

І трэба ж было, каб я патэлефанаваў яму менавіта ў гэты момант. Я ішоў па праспекце Незалежнасці ў кірунку «Акадэмкнігі» і хвілінаў дваццаць літаральна крычаў у тэлефонную трубку – так мяне ўзрушылі «кнігазбораўскія» тамы Анатоля Вярцінскага і Ніла Гілевіча:

– Генадзь Мікалаевіч, яны там што, з глузду з’ехалі? Зразумела, што кожнаму паэту дарагія ўсе вершы, што ў «Выбранае» яны ўключаюць іх у адпаведнасці з уласнымі ўяўленнямі. Аднак не маладыя ж людзі, са сваімі прыхільнасцямі. У выніку моладзь атрымае не жывую паэзію, а шкуру забітага мамонта, прычым дрэннага вырабу. Вось Рыгор Іванавіч, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло, – у самога сіл не хапіла, дык ён Мішу Скоблу папрасіў! Той маладзейшы, адабраў вершы, па сваёй эстэтыцы больш сучасныя. А тут – адзін прамоў парламенцкіх панапіхваў, другі – чым больш, тым лепш! Напішу артыкул у «Нашу Ніву»! Ужо і назву прыдумаў!

– Якую? – акуратна пацікавіўся Бураўкін.

– «Клуб літаратурных самагубцаў, або Савецкія Танкі».

– Кхм... Саша, паслухай мяне... Не рабі гэтага...

– Чаму?

– Адной назвы дастаткова. Ніл далёка не ў лепшым стане. Не дай Бог, што з ім здарыцца – на цябе яго смерць спішуць. Не бяры грэх на душу... Ну, зрабілі старыя глупства, што ж цяпер. Хай падумаюць, што не заўважыў... Бо мог жа не заўважыць, праўда?

– Генадзь Мікалаевіч, але хоць Вы гэтую дурасць не рабіце! Папрасіце Міхася (Скоблу) або Глеба (Лабадзенку), хай складуць замест Вас...

– Позна, Саша, позна... І я гэтае глупства зрабіў... Праз тыдзень усім бачна будзе – з друкарні прывязуць. Прыходзь – я табе падпішу...

Я прыйшоў. Юлія Якаўлеўна, як заўсёды, заварыла чай, і мы пілі, абмяркоўваючы «глупства» жывых беларускіх класікаў.

З нагоды таго «кнігазбораўскага» тома я выказаў Генадзю Мікалаевічу яшчэ адну крыўду: чаму ён не ўключыў у яго цалкам свой самы вядомы, мабыць (пасля, зразумела, «Калыханкі»), твор – паэму «Ленін думае пра Беларусь», а разбіў яе на «ўрыўкі з паэмы». Бо нічога крамольнага, паводле дэмакратычных паняццяў, апроч імя, якое вынесена ў загаловак, у паэме няма.

– Можа быць, ты і маеш рацыю. Але я ад яе не адмаўляюся. Проста – аднатомнік, таму лічыш па радках. Лішняе адкідваеш...

Я ўсміхнуўся.

– Думаеш, што хітрую?

– Хітруеце, Генадзь Мікалаевіч...

– Так, хітрую... А ты потым, ва ўспамінах, напішаш: «Бураўкін сарамліва апусціў вочы»? Не пішы так, чуеш?

– Не напішу, Генадзь Мікалаевіч.

Не напісаў.

Выбары 2010 года Бураўкін успрыняў як асабістую трагедыю. Яны толькі пачыналіся, а Генадзь Мікалаевіч, з яго неверагодным адчуваннем таго, што адбываецца, патэлефанаваў да мяне і патрабавальным голасам папрасіў прыйсці да яго.

Я прыйшоў.

Ён сядзеў за пісьмовым сталом каля вакна, перад маленькім радыёпрымачом, па якім слухаў сваю любімую «Свабоду».

– Ты мне нічога не хочаш сказаць?

– Пра што, Генадзь Мікалаевіч?

– Ты разумееш, каго ўцягнуў у палітыку? Ты разумееш, хто такі Някляеў?!

Бураўкін гаварыў нязвыкла – што называецца, на падвышаных танах.

– Някляеў – геній. Рыгор ужо стары, і Валодзя сёння – нумар адзін. Ён – галоўны беларускі паэт. Ты разумееш, якую адказнасць бярэш на сябе? Ты абавязаны – абавязаны, чуеш?! – зрабіць так, каб з ім нічога не здарылася! Я не стаў яго адгаворваць, ён азартны, але ж ты не першы дзень у палітыцы!

– Генадзь Мікалаевіч...

– Саша, дай мне слова, што з ім нічога не здарыцца. Што ты будзеш з Валодзем да канца. І што ён вернецца ў літаратуру.

– Генадзь Мікалаевіч...

– Адказвай, калі ў цябе пытаецца старэйшы!

Ён чакаў адказу.

– Генадзь Мікалаевіч, абяцаю.

– Усё. Цяпер ідзі да яго.

І пасля падзей 19 снежня Бураўкін быў адным з нямногіх, хто нікуды не схаваўся. Ён, Васіль Лявонаў, Таццяна Працька, Уладзімір Арлоў, Міхась Скобла... Нямногія. Раз у два дні Бураўкін тэлефанаваў маёй жонцы, пытаўся, ці ёсць навіны. Як і Лявонаў. Гэта быў велізарны кантраст, бо былі і тыя, хто дваццаць гадоў святкаваў з намі кожнае свята – і раптам яны зніклі, выпалі з нашага жыцця... Чалавек, які лічыўся маім старэйшым сябрам з 1994 года, прыехаў да Марыны «супакойваць»:

– Не хвалюйся! Сашу дадуць чатырнаццаць, «скостят» да дзесяці, адсядзіць пяць гадоў – выйдзе.

Дзякуй. «Суцешыў».

А Бураўкін і Лявонаў тэлефанавалі, каб сапраўды супакоіць. Каб спытаць, ці патрэбна дапамога. Пры гэтым дапамогай былі самі іх галасы ў тэлефоннай слухаўцы – Марына не адчувала сябе адзінокай. Так і званок Святланы Алексіевіч аднекуль – «адтуль» (з Парыжа) са словамі падтрымкі – быў важны: не кінулі, не забыліся...

Уяўляю, колькі тэлефанаваў Генадзь Мікалаевіч Вользе Някляевай! Бо яны ж сябравалі сем'ямі і шмат гадоў.

Гэта важна – разумець, што ёсць старэйшы і мудры сябар, які знойдзе словы і кіне табе рэпліку ў тэлефоннай размове, як выратавальны круг у вір, які ўжо ўцягнуў цябе...

І пасля свайго вызвалення ў красавіку 2011 года я ўзяў турэмны сшытак з вершамі і пайшоў да Бураўкіна.

Дзверы адчыніла Юлія Якаўлеўна:

– Саша?! Госпадзі! Чаму не патэлефанаваў?!

Яна ўпершыню звярнулася тады да мяне без імя па бацьку.

– Я ішоў міма...

Я схлусіў. Я ішоў да Генадзя Мікалаевіча з турэмнымі вершамі. А яго не было дома.

– Зараз я пазваню яму!

Юлія Якаўлеўна дрыготкімі ад хвалявання пальцамі націскала кнопкі на «мабілцы».

– Гена, вяртайся! Саша прыйшоў. Які-які?! Аляксандр Іосіфавіч!

Праз дзесяць хвілінаў Бураўкін быў ужо дома. Яго вялікія вочы былі поўныя слёз.

– Божа, ты не ўяўляеш, як мы хваляваліся! Валодзя хоць дома, а ты...

– Генадзь Мікалаевіч, я там... вершы пісаў...

І погляд яго адразу змяніўся. Стаў больш строгім.

Колькі графаманаў прыходзіла да былога галоўнага рэдактара «Маладосці» са сваімі вершамі... І вось – яшчэ адзін прыйшоў, сябар называецца! І не прагоніш у такой сітуацыі. Прыйдзецца слухаць.

– Добра. Чытай.

Кожны верш ён «рэцэнзаваў» без якога-небудзь прытворнага жалю. Ты прыйшоў да паэта? Прыйшоў з вершамі? Значыць, ацэнка будзе, як кажуць, па гамбургскім рахунку. Ведаў, братка, куды ідзеш.

Можа быць, гэта быў адзін з самых шчаслівых дзён у маім жыцці. Таму што тры ці чатыры вершы з напісаных у «амерыканцы» Генадзю Мікалаевічу ўсё ж спадабаліся.

Шмат разоў я прасіў яго:

– Генадзь Мікалаевіч, напішыце мемуары! Выдадзім.

Бураўкін адмаўляўся. Хоць адчуваў асаблівы смак да эга-літаратуры. Прачытаў, па яго словах, падораныя яму тамы біяграфічнага альманаха «Асоба і час», паспеў прачытаць і першыя кнігі «Беларускай мемуарнай бібліятэкі». Але сам пісаць успаміны адмовіўся наадрэз.

– Лічы, што забабоны. Вася Быкаў выпусціў мемуары – памёр. Валік Болтач выпусціў – таксама памёр. Не хачу. Не ведаю, колькі Бог мне яшчэ на зямлі адпусціў жыць. Але паскараць свой сыход не маю намеру. Не ўгаворвай.

Пазней фрагменты яго вусных успамінаў прагучаць на хвалях радыё «Рацыя», якую былы старшыня Дзяржтэлерадыё БССР слухаў па-старому – у эфіры, не ў інтэрнэце.

У апошні раз я прыехаў да Бураўкіна на дачу. Гэта былі кароткія выхадныя, якія я праводзіў у Мінску, вырваўшыся на радзіму з Кіева. Была восень. Дача рыхтавалася да «зімоўкі». Стаялі напаўголыя чырвоныя дрэвы, і падгнілыя яблыкі, якія гаспадары не паспелі сабраць, хуталіся ў апалае лісце.

Генадзь Мікалаевіч заўсёды жыва цікавіўся падзеямі ва Украіне. У яго было там шмат сяброў – Барыс Алійнык, Дзмітро Паўлычка... Бураўкін любіў паўтараць анекдот пра тое, як Кучма прыехаў дадому да Паўлычкі, які не любіў Кучму. Прывёз зорку Героя Украіны:

– Дзіма пытаецца: «Леанід Данілавіч, я ж Вас крытыкую, а Вы мяне ўзнагароджваеце?!» Той адказвае: «Быў Шэлест – быў Паўлычка. Быў Шчарбіцкі – быў Паўлычка. Быў Краўчук – быў Паўлычка. Кучмы не будзе, а Паўлычка – будзе! Хай лепш я застануся ў гісторыі не тым, каго Паўлычка крытыкаваў, а тым, хто Паўлычку ўзнагародзіў!»

Цалкам наменклатурны анекдот – пра хітраватага кіраўніка і сумленнага паэта.

Але тым разам Бураўкін анекдотаў не расказваў. Яго цікавіла рэальная Украіна – жывая, якая змагалася. І ён – слухаў...

Такім я яго і запомніў – чалавекам, які слухае. У кабінеце, сярод зборнікаў вершаў, надпісаных яму аўтарамі. Была тая восеньская свежасць, калі яшчэ не халодна, і сонца свеціць, і хочацца заплюшчыць вочы, каб абараніцца ад прамых прамянёў...

*7 мая 2016 г.*

*Аўтарызаваны пераклад з расійскай Сяргея Шапрана.*



Тацяна Сапач



...добра тым, хто ўмее сказаць пра волю Божую,

ані ня крывячы пры гэтым душой...

# “Пісаў індус...”

***З электроннага ліставання***

***Паэтка Тацяна Сапач (1962–2010) мела шмат сяброўскіх і працоўных кантактаў праз электронную пошту. Гэтага вымагала яе аўтарская перадача на Літоўскай тэлевізіі, праекты дакументальнага кіно, творчасць, грамадская дзейнасць, а найперш – характар Тацяны – чалавека адкрытага і ахвочага да сумоўя. У адабраных мною фрагментах электроннай перапіскі захаваная аўтарская мова, якая дазваляе ажывіць вобраз Тацяны як для тых, хто яе ведаў асабіста, так і для тых, хто не ведаў. Са згоды рэдакцыі “Дзеяслова” ў гэтай часопіснай публікацыі персаналіі ў большасці выпадкаў не расшыфроўваюцца і не каментуюцца, бо інфармацыя даступная ў сеціве.***

**Сяргей Дубавец**

*Публікацыя Сяргея ДУБАЎЦА.*

*Аўтарскі правапіс захаваны.*

*30.06.2007*
*Вользе Нікалайчык*

Глыбокалюбезная Волечка, гэта я, Таня. Дасылаю свае пра-

пановы на фільмы: “Эмігранты каханьня”. Пра тых хлопцаў і дзевак, што выйшлі ў Літву замуж ці жаніліся і ў працэсе інтэграцыі ў літоўскае жыцьцё адкрылі ў сабе беларусаў. Палітычная эміграцыя. Пра хлопца, які ў першыя дні новай Літвы папрасіў у ёй палітычнага прытулку. У рубрыку «Творцы». Сям’я мастакоў А. Аблажэя і К. Балаховіч. Скульптар Э. Падбярэскі. Паэтычны геній А. Мінкін. Фатаграфічны геній Д. Раманюк. Мастак Ул. Голуб. «Дзеці». Партрэты нашчадкаў славутых беларускіх сем’яў – кім сталі ўнукі і праўнукі Луцкевічаў, Станкевічаў, Аляхновічаў, Ластоўскіх... Баю-бай, каго хочаш, выбірай.

З глыбокім прыветам,

Сапач.

*30.09.2007*

*Кацярыне Сумаравай*

Здароў, Сумаравачка, бедная мая трудзяшчаяся цiжало і ў поці ляца дзевачка! Радая была атрымаць ад цябе пару-тройку слоўцаў. Трымайся там! Бірутэ* дамовілася, што выстава па выніках пленэру адкрыецца 22-га кастрычніка. Яны мяркуюць зноў усіх сабраць разам. Прыедзеш? Бачыла твае класныя фоткі (Рычардас пазычыў) і нават зьмясьціла іх да сябе ў перадачу. На гэтыя выходныя была ў сябе ў Дубку – памятаеш, распавядала табе? Насушыла грыбоў цэлы мех, адчуваю сябе тоўстай запасьлівай вавёркай.

Як кажа мой сьвёкар, «жызьнь ідзёт сваім чэрэдом», і он чартоўскі праў. Дочачка мая зьехала на працу, і я працую, і друг мой любезны: не жыцьцё, а суцэльная праца. Але пакуль яшчэ не надакучыла. Надакучыць – нешта прыдумаем. На гэтай высокай ноце адпраўляюся дрыхнуць. Дабраначкі!

**Тацяна сустрэлася з Кацярынай на пленэры, які арганізоўвала намесніца старшыні Саюзу пісьменнікаў Літвы Бірутэ Янушкайце.*

*01.10.2007*

*Тацяне Поклад**

Даражэнькая Тацянка! Падымаем келіх класнага белага віна за тваё здароўе! Няйнакш, як у твой гонар, сёньня ў Вільні надзвычай сонечна й цёпла. Будзь здаровенькая, вясёленькая, трымайся! І – вяртайся!

Таня, Сяргей, мысьленна з намі і з табой таксама наша валаокая дшчэр.

**Тацяна Поклад працавала на Радыё Свабода ў Празе.*

*07.10.2007*

*Кацярыне Сумаравай*

Добрай раніцы, Кацярынка, Сумаравачка мая дарагая! У Вільні дождж, але гэта якраз маё ўлюбёнае надвор’е, ды і час самы лепшы ў сьвеце – во-о-осень! Пра вернісаж яшчэ няма зусім пэўных зьвестак, але можаш сама перапытаць у Біруты. Пра фоткі дарэмна ты такога бескампраміснага меркаваньня, па-мойму, класная дзевачка на тых фотках, і красавіца, і радная саўсем. Перадачка ў мяне пра пленэр выйшла мілая, калі хочаш, пераганю на дыск, так, для цікаўнасьці?.. Я запыталася пра Дом правоў чалавека, Андрэй (дырэктар) кажа: калі будзе свабодна ў гэты час, то ясна, што можна будзе спыніцца, на тых самых умовах – 10 эўра за суткі. Так што застаецца цяпер толькі залатвіць усё з запрашэньнямі ды візамі. Напрыканцы наступнага тыдня буду ў Беларусі, патэлефаную – люблю я эта дзела, пабалтаць...

А цяпер бягу на працу – здымаць сьвята песьні, усялякія гоп-ца-ца, работа такая дурацкая прываліла, але мусіш рабіць... Прывітаньне перадае Аблажэй, паранейшаму ў цябе закаханы беззапаветна...

Пісаў індус на гарэ эльбрус, жду адвета как салавей лета.

*11.10.2007*
*Кацярыне Сумаравай*
Добрай раніцы!

Не, у Менск пакуль што не патраплю, проста буду ў Беларусі, зусім недалёка ад мяжы. Памятаеш, я распавядала пра дамок на курыных ножках – да лесу што перадам, што задам... Там у нас дзіркі ў сьценах, няма электрычнасьці, etc, etc, etc... усе астатнія прэлясьці жытла наводшыбе, але гэта практычна адзінае месца ў сьвеце, дзе мой міленькі хоць трохі адпачывае. Пакуль больш-менш цёпла, павязу яго туды, дый сама за ім, як нітка за голкай (суправаджаецца горкім уздыхам), будзем швэндацца па лесе, зьбяром грыбоў, можа. У нас там сувязь – толькі калі выйсьці ў чыстае поле і стаць на купіну. Што я і зраблю, мілая мая Сумаравачка. Бірутэ ўжо назвала канчатковую дату вернісажу – 23-га, абяцала, што ўсім загадзя дашле запрашэньні. Добра было б, каб так і было... Буду зараз перакладаць Рычардаса, сабаку. Ён умудрыўся розным перакладчыкам раздаць розныя вершы, і бедная Бірутэ цяпер мучаецца ад неразьбярыхі ў будучым альманаху, вось які хуліган (чэм, впротчэм, і цэнен).

З ПАЖАДАНЬНЯМІ ЗНАЙСЬЦІ ДАРОГУ ДА МАЙСТЭРНІ – Т.

*20.10.2007*
*Кацярыне Сумаравай*
Кацярынка-карцінка!

Пра начлег у Доме... запыталася: здаецца, усё ў парадку, Андрэй кажа, што на 80% справа вырашаная – маўляў, ніякіх сэмінараў на гэты час не плянавалася, таму месца будзе. Але для пэўнасьці перателефаную яшчэ раз, хіба заўтра. Пра вернісаж ведаю мала, але мне здаецца, што ў любым выпадку будзе класна. Найперш класна, што зноў усе пабачацца і трохі разьняволяцца.

Ці вядома дакладна, Марачкін зьбіраецца, ці не? Я прэтэндую на ягоны вольны час, хачу зрабіць вялікае інтэрвію для архіву. Бачыш, якая я зануда, проста ужасас!

Ну, але пакуль што – пакуль. Т.

*20.10.2007*
*Тацяне Поклад*
Дзяцё нашае мілае, як ты там маесься? Учора атрымалі твой прывет ад Валеркі Руселіка, у такіх словах, літаральна: спадарыня Поклад перадае прывет усім, хто на яе яшчэ не забыўся... І знаеце што, наша дарагуша? Не даждзёцесь! Лучша прыіжжайце скарэй, а то эта ужэ нікуда ні гадзіцца, ваша долгае зьдзеся атсутствіе. Вільня на месцы, і тут нармальна, і мы цябе любім. Прывецік Ігнатку.

*21.10.2007*
*Кацярыне Сумаравай*
Здароў, Кацярынка-катрынка!

Біруцін тэлефон не адказвае: літоўцы маюць звычку адключацца на выходныя... З Домам усё ОК, заўтра вечарам загружайцеся, а ў аўторак пабачымся і пашвэндаемся па самай прыгожай у сьвеце Вільні. Рыхтуйся – буду мучыць цябе ў сваёй бессьмяротнай перадачцы, ха-ха!

Шкода, што Марачкіна ня будзе; радасна, што будуць астатнія. Да сустрэчы!

*21.10.2007*
*Тацяне Поклад*
Таньця, здароў! Прывецік табе ад Сардэлі*: прыяжджала да мамкі з таткам адсыпацца ды ад'ядацца на пару дзён. Паехала назад у свой непанятны мне зусім Беласток, будзе там на радзіве зажыгаць, а ў наступную суботу зьбіраецца весьці «Бардаўскую восень». О так от дзеткі падрастаюць, на невядома што гледзячы...

Усё тут збольшага гэтаксама, як заўсёды і як раней: хто сварыцца, хто мірыцца, хто дзьмецца, каму – усё па барабану, і гэта правільна. Будзе ў нас класная вечарына на Коласавыя 125 гадоў, досыць нефармальная, безь вялікай колькасьці запрошаных – ці нават, дакладней, зусім без запрошаных, я падабрала вершы Коласа й Купалы. Буду чытаць, а народ будзе адгадваць, чыё. Так і высьветліцца, жывее лі ані ішчо фсех жывых.

Нічога не зразумела пра добрыя справы ў мой гонар, і гэта яўна азначае, што мы занадта даўно ня бачыліся... Т.

**Так Тацяна часам называла дачку Адэлю.*

*14.12.2007*

*Аляксею Знаткевічу*

Дарагі Аляксей, ня ведаю, ці гэта ў Вас заведзена – выпраўляць памылкі, але рабіць гэта варта. У сёньняшняй «Начной Свабодзе» Вы аб'явілі зачытаныя мною пераклады зь літоўскай паэткі Інэзы Буйткувене як мае ўласныя вершы. Калі не памыляюся, Вы і самі займаецеся перакладамі, таму павінны разумець, наколькі далікатная сфэра дачыненьняў з аўтарамі і арыгіналамі. Да таго ж, гэтыя пераклады ніякім чынам не стасуюцца з маімі ўласнымі вершамі. Памылка выйшла праз Вашу няўважлівасьць, бо, дасылаючы на Свабоду запіс, я пазначала, што ёсьць мае вершы, а што – пераклады. Са спадзяваньнем на Вашае разуменьне,

Т. Сапач.

*25.12.2007*

*Паліне Сьцепаненцы*

Поля, мы ўсе Вас віншуем таксама. Прывітаньні перадае Сярожка Вітушка. Пасьля перадачы з Вашым удзелам (а ён заўсёды «глядзіць»*) патэлефанаваў: «я яе ня ведаю такую»... Дужа чакае новага Вашага прыезду ў Вільню. I я таксама, яснае дзела. Я нарабіла ўсялякіх прысмакаў, частую сваю дочачку. Учора прыехала зь Беластоку, накупляла тату-маме падарункаў. Дзіўнае адчуваньне – дзіця вырасла...

Як удаўся Ваш пірог з капустай? І што вынікла з Вашай зь Мельнікавым** размовы? Што-небудзь новае на новы год? Было б няблага.

З Калядамі!

**Слова «глядзіць» узятае ў двукоссі, бо Сяржук Вітушка на той час цалкам страціў зрок.*

***Эдуард Мельнікаў у Вільні рыхтаваў перадачы для Белсата.*

*17.01.2008*

*Валерыю Місюку*

Дзякуй за ліст.

Сапраўды, нармальная атрымалася размова, і для мяне карысная. Напрыклад, пра т.зв. «маршруты выхаднога дня». Я была перакананая, што паказваць дамы й месцы, зьвязаныя з колішнім беларускім жыцьцём – непатрэбна, маўляў, столькі разоў ужо паказвалі, усе і так усё ведаюць выдатна, навошта паўтарацца? Аднак жа – ёсьць і патрэба, і сэнс, і для мяне пэўнае выйсце ў выпадку «цэйтноту»... У наступнай жа перадачы скарыстаюся з гэтай парады.

Яшчэ вельмі важнай падалася мне заўвага пра геаграфію перадачы, пра тое, што неабходна, каб абавязкова зьяўляліся на экране беларусы з розных рэгіёнаў Літвы, і, наколькі я зразумела, людзям ня так істотна, якіх яны там поглядаў трымаюцца, з кім сябруюць, а з кім – не, галоўнае, што ў іх ёсьць нейкае грамадзкае жыцьцё, што яны сябе беларусамі ўсьведамляюць... і гэта вельмі прыемна, што ў нашых, віленскіх, няма зацыкленасьці на сваёй выключнасьці, «правільнасьці».

Зрэшты, было пару заўваг, што называецца, «не па дзелу». Часам нават цяжка было зразумець сутнасьць прэтэнзіяў – я маю на ўвазе Стася Махнача. Ну, але ж усім не дагодзіш.

Валерка, вельмі спадзяюся, што Вы падумаеце ў вольную хвілінку, і прышлеце як-небудзь свае прапановы, ці тэмы, ці пару словаў пра людзей, якіх варта ўгаварыць на здымку. Буду шчыра ўдзячная.

На ўсё добрае –

Т. Дубавец

*09.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Ну, вось – цяпер ты будзеш ведаць адрас сваёй кампутарна прадзьвінутай мамачкі...

«Звоняць у Вільні ледзь чутна, і гукі Сэрца кранаюць знаёмаю мукай...» Чуствуеш?

Учора зьвязвалася з братам; у аўторак, кажа, нарэшце бабу Маню пакладуць у лякарню, так няпроста ўсё ў нашай цудоўнай бацькаўшчыне – пагатоў, лекаваньне старых людзей. Ледзьве ня з боем прыйшлося тую лякарню выбіваць, Ларыска там і прасіла, і пагражала, і плакала... Уяўляеш, практычна тры тыдні не спадобіліся хоць які дыягназ паставіць, казлы! І яшчэ празрыста намякаюць, што бяз "бабак" нічога ня будзе. І што ты думаеш – прыйдзецца прымаць іхныя с...ныя правілы гульні – і плаціць, і ўсьміхацца, і лісьлівіць...

Сёньня ў Вільні на целіку будзе чарговы белсатаўскі запіс, падыду, бо Борык Пятровіч павінен пад'ехаць, можа, пацешыць паведамленьнем, што мая дочачка ім у «Дзеяслоў» што-небудзь даслала, а яны зьбіраюцца друкаваць?

Усё ў нас, т.ч., ОК. Больш-менш.

Пісаў індус з гары Эльбрус, жду атвета, как салавей лета.

*11.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Дарагая мая, любезная падружка!

Ва перьвых страках сваіво пісьма сьпяшу саабшчыць, што мы жывы-здаровы, чаго і вам жалаем. Зрэшты, здаровыя ня надта каб. Зараз тата пойдзе па Колдрэкс – ішгярсю *(вып'ю з літоўскай. – СД.)*, і порадок!

Я, дарэчы, на той запіс, дзе Руселік быў, не засталася, хадзілі з татам на госьці да Каракорскіх, всьледствіе чэво я была агітаваная наступны тэлевізійны сэзон пачаць у іх кампаніі. Калі ўсё будзе добра, м. б., так і зраблю: задзяўблі, шчыра кажучы, парадачкі на роднай тэлевізіі, калі пра здымку трэба рупіцца за два тыдні наперад, плюс прочая падобная дурня...

А дзе Валерка свае аччоты пячатае? Цікава ўсё ж, як там далей Белсат экзістуе: на папярэдні запіс, кажуць, прыйшло 10 чалавек, дык Наташа Калесьнік там вешалася – трэба ж было так іх рассадзіць, каб 10 выглядала як 40...

Бабулі дыягнаставалі інсульт, будуць цяпер пракапываць нейкія лекі, пабудзе ў лякарні пару тыдняў; асноўны клопат, ясна, прыйдзецца на Толіка з Ларыскай, бо адведваць трэба будзе штодня – пакарміць там, тое, другое... Я паеду, відаць, у чацьвер, пасьля заробку; дзед, як водзіцца, напражэнія ня вынес, і горка зопіл... Слабыя стварэньні гэныя мужыкі...

Фрыкадэлечка* дарагая, што да Ліпая, дык, калі ня зможаш сустрэцца ў папярэдне прызначаны час, вядома ж, ператэлефануй, перадамоўся – сіе есьць эціка дзелавых дачыненьняў, і ня толькі дзелавых. Але ты й сама гэта ведаеш, ці ня так, дшчэр мая дарагая, любезная?

Вядома, хацелася б пацешыцца якім беларускім творам Тэды Лі... Мы цярплівыя, мы дачакаемся.

Усё, татка прыйшоў, Колдрэкс прынёс! Ура!!!

Пісаў індус, і г.д.

**Яшчэ адзін Тацянін варыянт імя Адэля.*

*11.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Матушка так абрадавалася тваім кулінарным накіраванасьцям, што адразу прыступае да апісаньня селядца. Панюхай – і заплач!

Спачатку – уласна селядзец, дробна паскрыляны; пацісьнуць трохі цытрыны, цыбуля (лепш чырвоная, т.зв. салятная), трошачкі алею па ўсёй плошчы, бульба, маянэз, морква, маянэз, зноў бульба, маянэз, бурак, маянэз – шчодрым слоем, наверх (для радасьці) можна пацерці крутое яйка і пасыпаць кропчыку. Посьпехаў!

Пачытала беднага Валерачку-дурачка, сапраўды, трэба будзе сьвіснуць на госьці нязграбу ды пакарміць, незаўважна для яго, шляхціца нашага невераятнага...

А калі ты зьбіраесься прыехаць, дзетка-канхветка? Мы з бацечкам засумавалі, дальбог!

Пісаў індус...

*14.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Хэлоў, дарагое бэбі!

Трымайся там!

Заўтра еду ў Маркава (ці Маладэчна), адведаць бабу Маню, а заадно трохі разгрузіць малых. Пакуль жа – дахворваю, далёжваю ў «лёжку» (варыянт тарашкевіцы паводле Клінава), пасьпела прыняць віншаваньні ад таты з днём Валянціна, выпіла першую каву, прагледзела пошту, наўрала ў адказ на адзін зь лістоў «з тры корабы»... Карацей, жызьнь б’ёт ключом!

Ты ж ужо хаця не перажывай так моцна з-за батоно Бадры: калі ён быў не гаўнюк, дык той сьвет на тое і «лепшы сьвет», каб забясьпечыць піплу дастойны працяг... А што да вясельля, дык, мне здаецца, гэта можа быць цікава, а гэта ўжо дастатковы матыў, каб пайсьці. Тым больш, пасьля табе будзе каму пра ўсё пабачанае распавесьці... І той хтосьці – вядома, хто, ха-ха-ха!!!

Как ты там пітаесься? Ці атрымалася ўкрыць селядзец па поўнай праграме – шыншылай на атласнай падкладцы?

Прыяжджай хоць на дзянёк.

Індус

*19.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, дшчэр!

Маць твая паправілася ўжо, і цяпер зьдзяйсьняе новыя працоўныя, кулінарныя, etc... подзьвігі. Сёньня кіравала тваім другам Валеркам, у часе здымкі. Сумен ён ёсьць вельмі, бо, пасьля выключэньня, яму пачала сьвяціць ануляцыя віду на жыхарства, з усімі выцякаючымі. Балда, а не дзяцёнак; і злосьць, і шкода...

Заўтра мантаж, а ў чацьвер буду зажыгаць у СП Літоўскім на паэтычнай вечарынцы. Для зажжэнія ёсьць самае галоўнае – пунсовая ружа на пінжак, падораны Ліляй Каракорскай (зрэшты, пунсовая ружа – таго ж паходжаньня).

У Маркаве пабыла нядоўга, але хоць супакоілася больш-менш: баба Маня трохі правіцца, хаця да канчатковай перамогі яшчэ далёка. Яна як бы зьмяніла-

ся ўнутрана, і гэта яўна наступства інсульту: нейкія такія зьявіліся ў яе рысы, што ніколі не былі ёй уласьцівыя. Але цешыць, прынамсі, тое, што яна пачала ўставаць, хадзіць, абыходзіцца вакол сябе. Звазілі да яе дзеда, яны там сядзелі цесьненька, балбаталі міжсобку так уміліцельна, я ледзьве не разраўлася: такія маленькія абодва, старэнькія...

Калі цябе чакаць?

Паслухай, дзетка, тут нам прыслалі прапановы на «варштаты» ў Польшчы ў сакавіку, м. б., цябе зацікавіць, ці кагосьці з тваіх карашоў. Перасылаем табе, паглядзі.

Татка кажа, што сумуе бяз дочачкі вельмі.

Пісаў індус...

*21.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здароў, фрыкадэлька!

Тата сьпіць, стомлены, але задаволены. Усё ўдалося: татава жана зажгла на ўсе сто, пры дапамозе ўласнае несьмяротнае харызмы ды, ясная рэч, удалага цьвятка на лацкане сьпінжака...

А ўвогуле, скажу табе, дшчэр, па сакрэце: пісьменьнікі – такія зануды... Ня нада зь імі дружыць. Дый ні з кім увогуле дружыць ня варта. Апрача сяброў, незалежна ад цэхавай прыналежнасьці. Вот такая мудрасьць жыцьцёвая мяне наведала, па выніку паэцічаскіх чцений.

Пра Маркава й бабулю пакуль нічога новага ня ведаю. Пагляджу, м. б., пад'еду ізноў у выходныя – як выпадзе.

Тацянка Поклад нарэшце вярнулася са сваёй Прагі. Заўтра будзем зь ёй бачыцца. Пасьля раскажу.

Т.

*25.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Ну, што ж маўчыць мая дзетка-канхветка?

Як дражайшае здароўе? І – усё ж такі – калі ты плянуеш непазьбежны прыезд да мучыцеляў мамы-таты? Ведаючы, я магла менш-больш плянаваць свае перамяшчэньні: Маркава, etc...

У Вільні ў сераду будзе паніхіда па І. Казулінай у касьцёле на Зарэччы. Гэтак вырашаюцца, самі сабою, нашыя з татам сумневы на прадзьмет паездкі ў Менск, на пахаваньне – маўляў, і трэба, і магчымасьці няма – па часе... Тут у нас зьявіліся розныя харошыя дзеці ў ЭГУ: малыя, а пры тым адказныя, і без пантоў, і без дурацкіх закідонаў – нармальныя, душэўныя такія. Яны й рупяцца цяпер і пра даты розныя, і пра ўсё. Во так во.

Татка сьпіць. Уначы мучыўся з зубам. Трэба палячыць, ды ўсё бабак прыкараць.

Чакаем цябе.

*25.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Мілая наша дзевачка!

Тараканаў ня бойся, я табе дам пачытаць выдаюшчуюся вешч аб іх – у перакладзе нашага агульнага знаёмага Аблажэя. Аўтарка, Бірутэ Янушкайтэ, сьцьвярджае, што істоты гэта ня толькі мірныя і людзям ня шкодныя, але нават наадварот – вельмі ў нашым, чалавечым, жыцьці пажаданыя: і талерантнасьць у нас узгадоўваюць, і т. п. прэлесьці.

Нагадваю, што ў гэтую суботку ў нас Казюк!!! Такім чынам, будзе нам усім чым заняцца.

Сэрцайкі купім, пальмы там розныя...

Пісаў індус...

*25.02.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне!

Я прыгадала, што павінна памятаць лічбы 11 і 26, і прыгадала – зь якой прычыны, і радая, што не пазьнюся: з Днём народзінаў вітаем, шчасьця-радасьці жадаем!

Мы тут жывем сабе патроху. Я выпусьціла анонс з Вашымі дзяўчатамі, заінтрыгавала публіку, як мае быць. Выйшаў пару дзён таму альманах зь вершамі-перакладамі па-беларуску, літоўску й польску. Была прэзэнтацыя, прыязджалі Пятровіч, Някляеў і Пашкевіч; паабяцалі адправіць мяне ў наступны раз на «Бязьмежжа», калі буду харошая, зноў пачну вершыкі пісаць. А я б і рада, ды не выходзіць нічога людзкага. О-ох, ня бачыць мне, т. ч., бязьмежжа...

Распавядаў мне адзін з маіх студэнтаў пра «Форум» па Вашым сцэнары – пра гастарбайтэраў. Кажа, што нарэшце адчувалася, што папярэдне тэма прадумлялася, і ўдзельнікі спадабаліся.

Што да нашага дзядзечкі-нарколяга, дык ён шчасьліва займаецца сваім любімым дзелам, як і займаўся, і жыве ў Новай Вільні, а завуць яго Валдас Банайціс. Прыедзеце – абавязкова пазнаёмцеся; зь ім проста так пабалбатаць бывае дужа цікава...

Яшчэ раз – з народзінамі!

Т.

*26.02.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Дзетачка мая, любачка!

Сумныя там у вас, сапраўды, навіны. Трымайся!

Сёньня ў Паліны Качатковай дзень нараджэньня, 40 гадоў. Я даслала ёй віншаваньне, а яна як расчулілася!

Памірае ў Вільні баба Вера Шостак – памятаеш, тая, што былая гімназістка, і што люльку смаліць... Напрыканцы мінулага году ёй споўнілася 90, але, калі чалавек класны, здаецца, што ён павінен жыць вечна. Прынамсі, бабе Веры ані не пасуе ўміраць...

Татка чытае «Жанчыны выходзяць з-пад кантролю» і сьцьвярджае, што нейкая Крысьціна Курчанкова косіць пад Тэду Лі. Што за такая? Ты зь ёй не знаёмая?

Пара на працу. Буду сёньня здымаць in memoriam Казулінай.

Мамця

*06.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Сардэлечка, дзевачка наша дарагая!

Бачыш, як позна табе адказваю... Удома здох інтэрскі нэт, таму прыйшлося выбірацца да таты, каб усе лісты перачытаць і паадпісваць. Такім чынам, еду заўтра калоць кабанчыка: якраз добрая справа для працоўнай кабеты на 8 сакавіка...

Пахавалі сёньня бабу Веру Шостак – тую, што паліла люльку, і пражыла 90 гадоў. Надвор'е на ўсю гэтую гісторыю выпала прэлесьнейшае – вецер, холад, і мокры сьнег. Публіка паехала зараз на памінальны абед, найперш друг Аблажэй з жаною сваёю Крысьцінаю ды разнаабразьнейшыя руселікі. Сьнег за вакном валіць і валіць...

Пасьля 12-га сакавіка хочам пад’ехаць у крупны індустрыйны цэнтар пад назвай Беласток, падвязём матар’яльную дапамогу адному беднаму працоўнаму чалавеку, якому сабакі працадаўцы дзенях не налічаюць воўрамя. Ты не была б супраць?

Жду атвета, як салавей лета. Індус

*10.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Прывет табе ад дзядзі Антонава Андрушы, які зараз сядзіць, перабірае нэгатывы дзеда Анішчыка. А на нэгатывах – суцэльныя пляжныя сэсіі з цэлюлітам. Очэнь, очэнь інцерэсна.

Пасьля Маркава сплю, не магу адаспацца. Усё ж такі цяжкі гэта хлеб – вясковае жыцьцё і вясковая праца... Хоць і «ўсе мы з хат», і іншае да т. п., паступова знаходзіш сябе адвыклым ад адсутнасьці гарачай вады ў кране, і адсутнасьці самога крану, і неабходнасьці рабіць многія вельмі істотныя, бо традыцыйныя, але амаль забытыя справы, накшталт выпусканьня кішок... Зрэшты, каўбасы выйшлі, па выніку, дужа знатныя: прывезла татку, дык ён ня мог адарвацца, хоць перад тым быў пад’еўшы.

Што да тваіх развагаў пра Беласток і Менск, і працоўныя магчымасьці – дык, мамка ж ты мая, ці ж я магу што раіць. Падумай і вырашы, мы з бацькам будзем з табой салідарныя ў любым выпадку, ты ж ведаеш.

Ці ж патрапіш, можа, пацешыць татачку з мамуськай нарэшце якім беларускім творам?

Як табе Сіньція Чарняўскайце? Ці варта шукаць зь ёй знаёмства – дзеля наступнага дазволу на пераклад?

Заўтра вырашыла пачаць сяданьне на дыету. Буду паведамляць пра посьпехі.

Маць твая

*14.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здароўцека, любезная дзетка-канхветка!

Ясна, што хацелася б пабачыцца, але ж во – усё не на нашую карысьць... Далей будзем глядзець, як там нам выпадзе – ці прыедзем, ці адкладзем радасьць аб’яднаньня сям’і на пазьнейшы час. Бо трэба было б мне перад Вялікаднем зноў у Маркава наведацца: прыбраць трохі, памыць, т.п.

Пакуль жа тут усё рыхтуецца да 25 сакавіка, і, як найчасьцей гэта бывае ў нас, у беларусаў, чуць-чуць праз задніцу: усе свараццa, спрачаюцца, чорт ведае што, увогуле, з чорт ведае чым упрыкуску... Але ж не бывае так, каб ніяк не было, значыць неяк будзе.

Ты нічога не напісала пра свае ўражаньні ад прозы Лаўры Сіньціі Чарняўскайце. Зайшло? Будзеш перакладаць?

Пайду зараз у сэканд-хэнд, куплю сабе ў якасьці ўзнагароды за ціжолую жызьнь якую-небудзь глупасьць.

Прывітаньні перадае татэльбойм.

Аця-аця! Маман

*17.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Прывецік, дарагая дзетачка!

Маць твая працягвае зажыгаць у абсалютна неўласьцівай сфэры, а менавіта – у галіне грамадзкай дзейнасьці... Па-ранейшаму адбываюцца пасідзелкі ў справе 25 сакавіка, і па-ранейшаму поўна ўсялякай фігні й нэрваў. Дзяды – поўная невменуха, перасвараныя, перакрыўджаныя, амбіцый – горы! І сіл маіх пачці што ўжэ нет...

Увечары зьбярэцца туча дзевак, будзем сьлініць марачкі, надпісваць адрасы і дасылаць запрашэньні. Хочаш быць у Вільні 25-га? Будзь!

Нічога зноў ня пішаш пра празаікесу літоўскую (як там яе?), і ці разьлічваць на твой удзел у перакладах. Бачыш, якая мамачка ў цябе разнаабразна акціўная...

Перацэлефанаваў толькі што друг Руселік, таксама зьбіраецца падысьці марачкі сьлініць. Во так во – шчыра, шчыльна, як на сяўбе ці на касьбе! Ото беларусы! Ото працаўнікі! Язьвіцельнасьць мая робіцца з кожным днём усё больш атрутнай...

Між тым – у Вільні вясна, сонечна і суха. За тыдзень Вялікдзень.

Маман. Татка кажа, што любя.

*20.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здароў, дарагуша мая малая!

Двух меркаваньняў наконт тваіх паводзінаў пасьля Беластоку й быць ня можа: вядома ж, ехаць трэба толькі да мамачкі ды татачкі! Тут усё абмяркуем, абдумаем – і рашым: ці Украіну-нэньку ратаваць, ці старонцы роднай радавацца, ці яшчэ што...

У нас цяпер на гасьцях Ірына Дубянецкая, але яна размаўляе зь Вітушачкам пра абсурднасьць дыктоўкі як спосабу выказаць салідарнасьць у справе незалежнасьці. Праз тэлефон. І, дарэчы, мае рацыю, хіба не?

Нічога дужа цікавага ў нас тут не адбываецца, апрача хіба дзеда Нюні, які атрымаў бабкі на сьвяткаваньне 25 сакавіка – і не аддае-е-е!.. Яму кажуць: гэтыя грошы выдзеленыя на сьвята, а ён кажа: я заплянаваў за камунальныя паслугі заплаціць з гэтых грошай, яму зноў: гэта – на сьвята, а ён – сваё. Карацей, очэнь, очэнь серцэ ад гэтага ўсяго радаваецца...

Прыходзіла да мяне сёньня Юля Круглік, хоча з наступнага году пераводзіцца з ЭГУ куды-небудзь у Польшчу, кажа, што Колас можа дапамагчы. Маўляў, тэле- і кіна- адукацыі ў Польшчы класныя. Так, мабыць, і ёсьць. А яна дзевачка, як я й меркавала, цэпкая такая, што й прадэманстравала мне ў чарговы раз.

Пішы хоць парачку радочкаў.

Мама

*21.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здароўцека!

Але вы там сябруеце – як павукі ў слоіку!

Ці ж вы пісалі агульнанацыянальную дыктоўку?

Мне Руселік прыслаў настойлівае запрашэньне, але мы з таткам мелі ўсялякія розныя клопаты, дык і апраўданьне сваёй адсутнасьці на гэтым судзьбаносным мерапрыемстве мелі таксама. Ні слова пад дзіктоўку! – такі на сёньня, пад уплывам Дубянецкай, паўтараем мы дзявіз. Ні руху па загаду!

У нас зноў іньцерскі нэт ёсьць у хаце, можам нават ня толькі пісаць любенькай нашай дзетцы, але і слухаць яе этэр. Калі ты працуеш?

Мы цябе любім і чакаем.

Танечка й Сірожык

*29.03.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, таварышч шагалаведас! Перадача вашая спадабалася сапраўды, вельмі. Такое, у прынцыпе, і ёсьць ідэальны варыянт простага этэру: ёсьць і імправізацыя, але ўсё не пустое, бо падрыхтаванае. Так дзержаць!

Татуся цябе знойдзе тэлефанічна, калі – ня ведаю. На ўсялякі выпадак, не

забывайся тэлефон. Пра Вапу ён адгукнуўся ў тым сэньсе, што пабачыцца з вышэйзгаданым было б вельмі й вельмі ня лішне. Так што вот так вот от.

Буду чакаць вас заўтра – харошымі ды галоднымі.

Танечка

*14.04.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, дшчэр!

Як дзялы?

Учора адведвала мяне Вольця. Мачо ейны аказаўся дробненькім чарнявенькім хлопчыкам, пацешыў мяне сваім апэтытам і параю-тройкай адмыслова вывучаных ветлівых беларускіх словаў. Сёньня яшчэ будуць тут, а заўтра зьбіраюцца ў Менск.

Я бягу ў ЭГУ, там нейкі чарговы праектас, трэба папрысутнічаць на прэсусе.

Ці ж зьвязалася ты, на маю ніжайшую просьбу, з Гарулёвым?

Жду адвету...

*30.04.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова!

Клас будзе, калі менавіта вечарком я дшчэр сваю і пабачу заўтра. Бо вечаркі мне дужа здоўжваюцца без людзей радных і неабхадзімых.

На прадзьмет Паўліка (гэта каторага зьбілі?) нічога ня маю супраць. Лепш, аднак, каб ён атвіко *(прыбыў з літоўскай. – С.Д.)* ў слаўны град наш не з суботы на нядзелю, а, напрыклад, з пятніцы на суботу. Гэта я так разважаю з нагоды вяртаньня ў суботу айца, стомленага і не гатовага да гасьця... От так от от.

А в астальном, прэкрасная маркіза, фсё харашо, фсё харашо!

Змантавала сёньня перадачку з тваёй нелюбімай сьпявачкай у якасьці галоўнай гераіні.

Цяпер хачу есьці і спаць.

Астаюся – твая маць

*11.05.2008*

*Стрыечнай сястры Тамары Касяк*

Прывітаньне, дарагая сястрыца!

Ну, вось, мы й знайшліся...

Сто гадоў цябе ня бачыла, сто гадоў нічога пра цябе ня чула. Вядома, інтэрнэт наўрад ці можа замяніць жывыя дачыненьні цалкам, але – хоць трохі набліжае адзін да аднаго, і за тое дзякуй...

Мы з Сяргеем па-ранейшаму ў Вільні, я па-ранейшаму на тэлебачаньні, Сярожка займаецца рознымі праектамі, і кніжнымі, і радыйнымі. Дарэчы, калі будзе жаданьне, мае перадачкі можаш паглядзець: на старонцы... Трэба клікнуць «у Вільні», там, пачынаючы з сакавіка, зьмяшчаюць выпускі майго «Віленскага сшытка».

Адэлечка, як і раней, вельмі падобная да цябе зьнешне. Заканчвае журфак, цяпер піша дыплом, зьбіраецца працаваць у Беларусі, у інфармацыйным агенцтве «Белапан» – яе ўжо прынялі на працу. А дагэтуль была ў Польшчы, працавала на радыё «Рацыя», якое вяшчае на Беларусь. Апошнім часам усё часьцей загаворвае пра магістратуру, ну, але – будзе бачна.

Неяк нядаўна разважалі з Адэлькай пра нашыя новыя магчымасьці, у сувязі з Шэнгенам для Літвы, і для нас як яе жыхароў. Гэта ж, – ускрычалі мы ледзьве не ва ўнісон, – цяпер мы можам цёцю Тому сабой пацешыць! І калі-небудзь так яно і будзе, дальбог, толькі трэба, каб думка нашая дасьпела да канкрэтнага жаданьня...

Наступнымі выходнымі зьбіраюся ў Маркава да сваіх, цяпер досыць часта да іх езджу, зусім мамуся стала старэнькая, слабенькая, хварэе бясконца. Малыя – Толік з Ларысай – малойцы, з усім спраўляюцца стаічна – і са сваімі праблемамі, і бацькоў падглядаюць, і мяне не папракаюць, што зьехала ў белы сьвет, усё на іх пакінуўшы. Ня ведаю, ці то я старэю, ці што, але ўсё часьцей хочацца быць між сваіх, ля сваіх, размаўляць, успамінаць.

Вельмі файна сустрэліся былі на гадавіну па бабулі Адэлі. У Арпе зайшлі з Сяргеем Тадзікавым у хату – сэрца сьціснулася: самыя шчасьлівыя часы тут прайшлі, дзяцінства, усё жыцьцё было наперадзе... Цяпер хатка здалася маленечкай, і нізкай, і цёмнай. Сяргеева сям'я наўрад ці там што рабіць будзе, жонка ягоная (прынамсі, так здалося) – чалавек ня тое што невясковы, але нейкі іншы, інакшы. І такое ўражаньне, па выніку, што вельмі важнае штосьці страчана незваротна. Ну, але ты мяне ня слухай, я й праўда раблюся занадта сэнтыментальнай.

Напішы пра сваю сямейку, пра дзетак, пра ўсё-ўсё...

Чакаю. Т.

*16.05.2008*

*Тамары Касяк*

Здароў, Томачка, дзевачка мая дарагая!

Лацінка твая чытаецца нармальна, абы ты знаходзіла для лістоў трохі часу – мне на радасьць.

Шчыра радуюся за цябе, за тваю сям'ю. Малайчынка!

Што да нашага з Адэлькай жаданьня як-небудзь да цябе дабрацца, дык гэта пакуль што толькі мары. Гэтае лета, паводле папярэдніх планаў, будзе гарачанькае – Адэлька толькі пачне працаваць на новым месцы, наўрад ці ёй дадуць адпачынак, я мяркую як мага больш часу быць у Маркаве, а яшчэ хачу зьняць свой фільмік, а яшчэ мяне запрасілі ў журы аднаго кінафестывалю, які пройдзе ў беларускай правінцыі, а яшчэ... Карацей, добра было б у суткі дадаць пару лішніх гадзінак, каб усё пасьпець.

Пакуль – жывём сабе паціху, я заканчваю сэзон на тэлебачаньні, пасьля зьбіраюся часова пасупрацоўнічаць з радыё «Свабода», буду рабіць так званыя «партрэты» гарадоў і вёсак. Люблю я ета дзела – вандраваць, зь людзьмі размаўляць, іншым пасьля расказваць...

Усё, труба завёт!

Да новага ліста! Таня

*07.06.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Добры вечар!

А мы яшчэ купальнага сэзону не распачалі – усё не дабярэм часу. Зайздросьцім!

Зрэшты, маем зараз класны занятак – глядзім футбол, чэмпіянат Эўропы.

Як вашыя намеры на прадзьмет Глыбокага і «Магніфікату»*? Добра было б вас там пабачыць.

Я паглядзела праграму, павінна быць вельмі някепска. Удзельнічае швэйцарац, ягоны фільм у мінулым годзе быў прызнаны за найлепшы, «Сьвятар на пэнсіі» – пра прытулак для старых, вельмі старых сьвятароў, васьмідзесяці-, дзевяноста-гадовых... Як яны дачыняюцца адзін з адным, з абслугаю, іхныя згадкі пра маладосьць; вельмі цёплае кіно, поўнае гумару. Яшчэ – сярод удзельнікаў Віктар Асьлюк, гэтага вы ведаеце; Зоя Катовіч... Карацей, як хочаце гэта назавіце, але насамрэч я проста вас спакушаю прыехаць. Вось.

Дзякуй за добрае слова пра перадачачку. Вам, праўда, зайшло?

Пакуль пішу дзядзю Мельнікаву справаздачу аб практыцы ягоных студыёзусаў, а заўтра еду ў Беларусь да таты-мамы.

Пішыце, што яшчэ ў вас новага-добрага.

Т.

**Тацяна ўваходзіла ў журы фестывалю хрысціянскага кіно «Магніфікат», а таксама кіравала тэлевізійнай практыкай студэнтаў ЕГУ.*

*12.06.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Прывецікас, любезная дшчэр!

Якія ў цябе пляны на бліжэйшую будучыню?

Мы з татам, які – нарэшце! – атрымаў пашпарціну, зьбіраемся пад'ехаць у Дубок на пятніцу-суботу, каб паглядзець, як там справы пасьля зімы, і прыгледзець уютнае мясьцечка для прыбіральні, а заадно зрабіць пару інтэрўюшак у свабадзянскую маю перадачулю. Во колькі маем справаў – харошых і разных! Можа, ты маеш намер у якісьці спосаб скласьці нам кумпанію? Пішы нямедлінна.

Ацец і маць твая

*25.06.2008*

*Дачцэ Адэлі*

ЗДРАСТУЙЦЯ!

Ну, як справы?

Накупіла вам з Аленаю кучу розных маек і маечак, перадам з Дашкевічам, мерайце, разьбірайцеся, што – каму.

Сёньня ў Вільні абараняе дзісер Віця Марціновіч. Шуму, шуму! Усе кругом запрошаныя быць сьведкамі трыюмфу. Але я не пайшла. Вырашыла, што трэба трохі адпачыць ад людзей. Таму спраўдзіла новыя калекцыі сэканд-хэндаў, трохі прыбралася ў хаце, а зараз зьбіраюся глядзець футбік.

Ці там ёсьць якія навіны ад таты? Калі пазвоніць, прывецік яму глыбачайшы. Пэўна, паеду ў пятніцу на пару дзён у Маркава, пагляджу, што там да чаго.

Ці ж удалася табе сустрэча з Борыкам?

Жду адвета, как усягды.

*27.06.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Прэведас!

Сёньня ўвечары Дашкевіч будзе дома – з майкамі, цукеркамі, а таксама асабістым кубкам для маёй працоўнай дачкі. Патэлефануй, забяры. І дай яму, пэрспэктыўнаму дакумэнталістасу, паглядзець кіношку, якую я табе ўрачыста была ўручыла (дыск, я бачыла, шчастліва покоітся на піяніне).

Як табе ўчарашні разгром расейцаў? Трэба сказаць, што ц. Алена правільна выбрала краіну для вандраваньня... Віват, Гішпанія!

Сваю красату мілай мамачцы ты запраста можаш прадэманстраваць, бо апарат я ня звозіла, а толькі паклала яго ў чумайдан, адкуль ты яго (часова!!!) можаш выцягнуць. Там фоткі з Глыбокага, патрэбныя для перадачы. Яшчэ ў Менску я забылася сваю туш, і з гэтай прычыны хаджу зараз з лысымі вачыма. Очэнь, очэнь прэкрасна. Прошэ адшукаць і перадаць праз пана Дубаўца, які на сувязь так і ня выйшаў?

Яшчэ просьба (апошняя!!!) – пакладзі мне на тэл. пару капеек.

Пака-пака. Лублу. Мамашкес

*27.06.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Патэлефануйце і вы, і я – заўтра, як буду ў Беларусі.

Класьненька, усе сустрэнемся ў Вільні.

Фільм Дашыка* з вашым удзелам зусім нічога сабе, толькі што зноў героі не жывуць у кадры, а выконваюць рэжысэравы заданьні – праходзяць, углядаюцца, азіраюцца... Але самае важнае, што новая кіношка ўжо на добры парадак больш прафэсійная, чым ранейшая, г.зн. аўтар падрастае. І гэдо радуе, як казаў адзін мой добры сябар.

Заставайцеся здаровы, таварышч двоечніца-хвасьцістка. Пішыце

**Дашыкам Тацяна называе Алега Дашкевіча.*

*27.06.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Я ўгаварыла Дашыка папрацаваць у мяне апэратарам. Хачу зьняць кінарэпартаж у сваёй вёсачцы – там будзе парафіяльнае сьвята. Касьцёлік адчыняецца раз на год, людзей зьяжджаецца мора, ксяндзоў – аж некалькі штук адразу; служба, шэсьце, кірмаш – шуму! А пасьля ўсе распаўзаюцца, і зноў – цішыня. А галоўнай дзейнай асобай у мяне будзе наш сусед Ясюня, зь дзяцінства глухі й нямы. Зрэшты, ён і без майго прызначэньня на гэтым сьвяце галоўны – ідзе паперадзе ўсіх, нясе крыж.

Вельмі хочацца, каб атрымалася.

Ваша Т.

*27.06.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывецікас!

Дашкевіч – файны апэратар, абы толькі камэру змог у Беларусь пераправіць без прыгодаў, а там ужо разьбярэмся. Ён найбольш харош тым, што ўмее зьлівацца з асяродзьдзем, і людзі хутка перастаюць заўважаць ягоную прысутнасьць (і камэры), а гэта ў выпадку дакумэнтальнага кіно ледзьве не настолькі ж важна, як уменьне будаваць кадр. Да слова кажучы, і кадр будаваць вышэйзгаданы маэстра ўмее – я мела магчымасьць у тым пераканацца неяк на адной з т.зв. журналісцкіх школ. Мы працавалі ў пары, ён здымаў, я рабіла ўсё астатняе. Упечатленіе – калдаўское!

З надзеяй, што вы не губляеце часу дарма, а вучыцеся, вучыцеся і яшчэ раз вучыцеся – ваша Т.

*14.07.2008*

*Алене Радкевіч*

Глыбокалюбезная Алена Яўгенаўна, здрастуйця!

Зрабіла перадачачку пра вёску Пелігрында ў Астравецкім раёне. Ляжыць на ФТП, там жа – анонс, тэкст і фоты. Назва вёскі чытаецца з націскам на апошнім складзе – ПелігрындА.

Яшчэ маю запісы з паездкі ў Друскенікі*. Там – санаторый «Беларусь», куча народу зь Беларусі лекуецца на водах, дзеткі, хворыя на ДЦП, з мамкамі; тамтэйшыя, друскеніцкія беларусы са сваімі цэннымі мысьлямі аб Родзіне; сьвята беларускай культуры – песьні, саломка, кніжны кірмаш; бедны Чачот на могілках...

Застаюся – Т.

** Для Радыё Свабода Тацяна рабіла перадачы серыі «Падарожжы Свабоды».*

*15.07.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне, Поля!

Мы з вамі разьмінуліся на мяжы: я вярталася зь вёскі, а вы якраз, відаць, праходзілі які мытны кантроль... бо я паспрабавала патэлефанаваць, але вы не падымалі слухаўку. Як справы наогул? Як Віця пачуваецца? Трымайцеся! І пішыце абавязкова, я вельмі за вас перажываю.

Можа, пры нагодзе пэратэлефануеце Вользе Цярэшчанцы. Яна мне званіла, хацела штосьці ведаць пра віленскую вучобу, але я была саўсім не ў кантэксьце.

На ўсё добрае – Т.

*23.07.2008*

*Алене Радкевіч*

Здароўцека! Маю запісы з Палесься, перадачку зраблю на наступным тыдні, ОК? Пасьля, калі ня супраць, магу прывезьці чаго-якога са сваёй Маладачаншчыны, буду там пару дзён. А далей – ня ведаю, дзе дакладна апынуся, бо сёлета нешта ў нас – паездкі, паездкі, паездкі. Гнітафон буду браць з сабой.

З глыбокім прыветам – іскранна Ваша...

*24.07.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне!

Ну, як фільмас? Ці скора завяршаеце? І што атрымліваецца?

Я матляюся па гарадам і весям бясконца, то на Палесьсі сваякоў адведалі, то цяпер у свой Дубок зьбіраемся, а пасьля – да маці з бацькам. І нешта я ў гэты летні адпачынак пасьпела станіцца больш, чым у працоўную зіму...

Прываліла нечакана работы: замовілі фільмец для літоўскіх школ пра беларусаў Літвы, і з Рымашэўскай я пабачылася – відаць, з пачатку сэзону буду рабіць вэрсію сваёй перадачачкі для Белсату, і ў прынцыпе, яна нечакана выказала вялікую зацікаўленасьць у маёй сьціплай пэрсоне... Такія неспадзяванкі во...

Напішыце нумар свайго беларускага тэлефону. Буду на Родзіне – хоць словам-другім перакінемся.

Застаюся – шчыра Вашая...

Прывітаньне Віцю

*28.07.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Добры дзень!

Патрымайцеся трохі... Павінна ж, урэшце, усё гэта калі-небудзь скончыцца. Можа, ад’езд Х. дасьць якое энэргетычнае вызваленьне. Бо, мне ўяўляецца, што якраз гэты персанаж адзін з самых граматных людажэраў. Чым больш каго выматае – тым самому, любімаму, прыемней і радасьней... Не паддавайцеся! Больш адпачывайце, калі гэта магчыма.

Ці Адэліна бесьсьмертнае праізьведзеніе пачыталі, можа? І (калі пачыталі) як Вам?

Нас усіх тут Валерава* сьмерць прыбіла па поўнай праграме. Дзіўна было першыя дні пасьля гэтай навіны ісьці па горадзе – і бачыць, што вакол анічога не зьмянілася. Нічога не зьмяняецца вакол, ведаеце? Бедныя бацькі Валеравы, ён быў ім адзінай радасьцю. Першыя двое дзяцей у іх памерлі ў дзіцячым узросьце, Валерка быў адзіны, трэці. Добра тым, хто ўмее сказаць пра волю Божую, ані ня крывячы пры гэтым душой. Не атрымоўваецца... Зьбіраем зараз міжсобку грошы, каб хоць памагчы бацькам.

Такія навіны. Трымайцеся.

**Маецца на ўвазе Валеры Місюк, які загінуў ад удару токам.*

*29.07.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова!

Учора, аказваецца, пра цябе, выдатную пісьменьніцу, гаварылі па «Свабодзе». Мы з татам ня чулі, а сёньня Аблажэй ператэлефанаваў. Кісьліцына сказала, што ты ейная любімая пісьменьніца, ну, ці нешта такое...

О так от!

*30.07.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, рабёнак!

Размаўляла толькі што з Танькай Поклад, яна ўчора езьдзіла разам са студэнтамі-беларусістамі з ЭГУ на іх практыку па вёсках Віленскага краю. Я падумала: пэўна, Паўлу гэта было б цікава? Гэтая практыка працягнецца яшчэ пару тыдняў, а ў ЭГУ вельмі вітаюць усіх, хто хоча далучыцца.

Ці ж попіла мая дзетка гранатавенькага сачку?

З глыбокім пруветам – матушка

*25.08.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне!

Вярнулася ў Вільню толькі-толькі. Ня мела нідзе ў Беларусі інтэрнэту, ні ў вёсцы, ні ў санаторыі (былі з С.І. на Нарачы, даведаліся шмат цікавага пра сваё бясцэннае здароўе), так што во толькі цяпер магу Вам што-якое параіць, калі яшчэ ня позна. Аблажэй быў бы вельмі дарэчы, вядома ж. Асабліва калі б даць яму паразважаць пра мат-перамат у жаночых вуснах...

У мяне пачынаецца новы тэлевізійны сэзон. Куды лета падзелася?

Як склаўся ваш фільм? Ці хоць трохі жыцьцёвых сілаў асталося?

Пішыце. Ужо зь Вільні нікуды ня буду зьязджаць.

Т.

*25.08.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Поля, Аблажэеў тэлефон такі: ...Я думаю, ён не адмовіцца.

Што да кіна, дык менш увагі зьвяртайце на ацэнкі гэтых людзей. Хто такі, урэшце, гэты Х., каб слухацца ягоных ср...х вэрдыктаў, што ён зрабіў вартага нашае ўвагі, што сказаў разумнае? Прышч, які воляю абставінаў атрымаў трохі ўлады, і ня болей за тое. Дай вам божа яшчэ трошкі цярпеньня, каб усё гэта закончыць, а тады – дыстанцыя, дыстанцыя, і яшчэ раз дыстанцыя. Прынамсі, ясна, што трэба трымацца падалей ад падобнай брацііі...

Т.

*01.09.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне!

Чытаю Танкавы «Лісткі календара», хачу апошні даўжок сплаціць радзіву «Свабода» – зраблю перадачку цыклю «Падарожжы...» з Пількаўшчыны. Тэарэтычна, дык можна было б і далей па Беларусі езьдзіць і пра свае ўражаньні распавядаць,

але з досьведу мінулых гадоў ведаю, што практычна гэта ніяк немагчыма: калі пачынаеш займацца Віленскай тэлевізіяй, дык ужо і засядаеш у Вільні намертва...

Добра, што прыедзеце ў прыгожы час. У кастрычніку ў Вільні бывае класна. Будзем швэндацца там і сям, будзем каву піць па кавярнях.

Сёньня Лапцёнак нібыта выбіраецца з Дому на нейкае іншае месца жыхарства, але зь Вільні не зьязджае. С.І. казаў, што Сухарукаў быццам бы падшукаў для яго нейкі недарагі інтэрнат. Вы ж ведаеце, што адбыўся конкурс на дырэктара, і Л-к па выніку застаўся не пры дзялах? Ня ведаю, як і што далей будзе. У мой дзень народзінаў патэлефанаваў зь нейкім вельмі дзіўным тэкстам у якасьці пажаданьня-віншаваньня: маўляў, каб і далей я была настолькі занятай, што справы іншых мяне не хвалявалі б... ці нешта ў такіх катэгорыях. Што б гэта значыла?

Зноў зрабілася горача. Восень восеньню, а і лета нас не пакідае...

Ваша Т.

*08.09.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Поля, прывітаньне!

Заўтра сюды прыязджае Юрка Каліна зь Беластоку, ён цяпер курыруе нейкую частку Белсату, будзем размаўляць зь ім пра мой удзел у ТБ. Мне здаецца, ён у камандзе чалавек далёка не апошні, і, калі вы ня супраць, я паразмаўляла б зь ім пра вашыя абставіны. Мне здаецца, што аднавіць курсы для Віці – гэта зусім рэальна, а пасьля курсаў можна было б завязвацца на наступную работу непасрэдна з Калінам. Наколькі мне вядома, менавіта на яго падвязаная касявіцевая тусоўка, ды некаторыя іншыя людзі.

Чакаю адказу. Ня вешайце носу! Усе гэтыя абставіны – гэта, вядома, непрыемнасьць немалая. І ўсё ж гэта як мінімум не канец сьвету?

Т.

*11.09.2008*

*Алене Радкевіч*

Здароў, Алена!

Хачу зрабіць новае «падарожжа» зь яшчэ адной літоўскай вёскі ў Беларусі, пад назовам Гіры, у перакладзе – лес, гай. Там, апрэч уласна літоўскасьці, ёсьць сёе-тое цікавенькае.

Але, паслухай, нежаданьне нашага агульнага любімага радыё хоць як-небудзь матар'яльна стымуляваць сваіх карэспандэнтаў... перастае ўжо здавацца мне мілай шуткаю. А, можа, цёця-бугальтарка якую памылку зрабіла? Пацікаўся, калі ласка, ОК?

Т.

*14.09.2008*

*Тацяне Поклад*

Добрай раніцы!

Таньця, я думаю, што ў Парыжы і абмяркуем усялякія розныя нашы сумесныя працы. Пакуль што ў Інфоруме мая праца трохі нэрвовая, але гэта хутчэй ад спэцыфікі маёй натуры: надта ж парадак люблю... Але і другі бок з мной звыкаецца, з гэтым маймі спэцыфічнымі якасьцямі. Цяпер маю штотыдзень перадачульцечку на ЛТ, і, паводле дамовы, з кастрычніка буду мець дзьве перадачкі ў месяц на Белсаце. Але, апроч гэтага, абы хапіла сілаў, Юрка Каліна прапанаваў удзельнічаць у «Рэпартэры» – гэта такая перадача, якая складаецца з розных рэпартажаў, зробленых розным аўтарамі, у розных манерах, на розныя тэмы. А

ў нас жа тут ёсьць што й каго здымаць! Такія вось аб'ёмы і рабочыя прасторы. Так што – Вільня цябе чакае і ў гэтым сэньсе.

Пакуль-пакуль. Ігнатку прывецікас

*16.09.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Добры вечар!

Займаюся рэчамі, мала сабе ўласьцівымі – выбіваю грошы. З радыё «Свабода», дзе за лета зрабіла 5 перадач, а яны не спадобіліся заплаціць за ўвесь час ані цэнта; з ЭГУ, за студэнтаў, зь якімі возькалася на практыцы, і таксама не атрымала ні капейкі; зь Літоўскай тэлевізіі – за першую перадачу сэзону... Калі ўсе заплацяць, буду багатая страшэнна!

Пакуль жа наскрэбла 2 літы 20 цэнтаў на талёнчык, каб заўтра неяк даехаць да працы. Злая, як чорт! Працуеш, працуеш... Ну, але, кажуць, дурня работа любіць.

Такое вось у мяне выйшла пасланьне, ня надта аптымістычнае.

Ай, чорт яго ўсё бяры!

Бачылася з Калінам, не змагла ні пра што паразмаўляць толкам – дужа шмат было староньніх людзей. З кастрычніка пачну выходзіць на Белсаце 2 разы на месяц, з дзьвюх віленскіх перадачак буду перамантоўваць адну для іх.

Буду вас чакаць, бо й пагаварыць няма з кім, неяк так выходзіць...

Т.

*18.09.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне, Полечка!

Ваша Орша ці не штодня ў нас у целіку – на БеларусьТВ даюць рэпартажы пра тое, як яна харашэе. Паказваюць вуліцы, мінакоў, а я лаўлю сябе на тым, што шукаю між іх вас зь Віцем. Але вы, відаць, па іншых вуліцах ходзіце і ў іншы час.

Тэлефанаваў пару дзён таму містэр Мельнікаў. Ужо ў Вільні. Запісвалі на тэлевізіі новы форум, да выбараў. Кажуць, ледзьве наскрэблі пару чалавек у публіку: студэнты яшчэ не прыехалі, тутэйшыя займаюцца гародчыкамі і грыбамі. І я ўсё грыбы сушу. А тэлефанаваў на прадзьмет новых практыкантаў. Як вашыя кінадачыненьні завяршыліся, ці, можа, яшчэ доўжацца?

Працаваць ня хочацца. Халодна, ваду гарачую адключылі, чаго раней не здаралася ніколі.

Што б пачытаць харошае? Можа, маеце якія ўражаньні і парады?

Т.

*19.09.2008*

*Тацяне Поклад*

Таньця, я вырашыла безь цябе нікуды ня ехаць. Хай Сярожачка Гаўрыленачка зьезьдзіць, а я сэмінары цярпець не магу – ні ў Вільні, ні ў Менску, ані нават у Парыжы. Лепш апошні раз у Дубку пабуду, болей будзе карысьці (калі мець на ўвазе адпачынак і натхненьне).

Трымайся, мая маленькая, харошая, міленькая дзяўчыначка.

У Вільні вільготна й цёпла. Пачала лістота ападаць. Кажуць, што ў Менску выйшла мая кніжулька зь перакладамі бабы Веры. Прыкінь?

Т.

*21.09.2008*

*Эдуарду Мельнікаву*

Добры дзень!

«Сьляпыя» Сяргеевы экскурсіі, наколькі мне вядома, здымаў Віктар Корзун. Я не здымала: якраз было лета, у мяне не было магчымасьці.

Яшчэ гэтыя экскурсіі здымаў на фота – вельмі добрыя фота! – Андрэй Антонаў. Дарэчы, ён вялікі й добры Вітушкаў сябар, адзін з тых, хто рэальна ім апякуецца цяпер – дапамагае з камputарнымі справамі, арганізаваў быў збор грошай на трэнажор для Сяргея, каб той, сьляпы, не рызыкаваў, прагульваючыся ўзімку ў галалёд... і да т.п. Вось хто надаўся б, на маю думку, у якасьці распавядальніка.

Яшчэ – былыя Сяргеевы вучні (ён нейкі час выкладаў гісторыю ў Віленскай беларускай школе, быў класным кіраўніком у адным зь першых выпускаў гэтай школы); былыя калегі-настаўнікі; сьвятар з праваслаўнай царквы Сьв. Мікалая ў Вільні айцец Васіль Навінскі – Сяргей разам зь ім спрабаваў у свой час наладзіць царкоўныя набажэнствы на беларускай мове; Генадзь Сагановіч, які, дарэчы, цяпер часта бывае ў Вільні – па-сутнасьці, ён калісьці прышчапіў Сярожку смак да беларушчыны.

Касэты з удзелам Сяргея ў перадачах падрыхтую да вашага прыезду.

На ўсё добрае – Т. Дубавец

*25.09.2008*

*Наталцы Бабінай*

Добры дзень!

Дзякуй за віншаваньне. Я пакуль бачыла кніжачку толькі ў інтэрнэце, днямі павінны перадаць зь Менску пару асобнікаў. Там галоўная гераіня ня я зусім, бо новых вершаў у зборніку практычна няма; там пераклады, а галоўнае – карпатлівая й талкова зробленая Ірынай Дубянецкай рэдактура перакладу.

Аб прэзэнтацыі яшчэ ня думалі. Я ня ўмею гэтым займацца. Магчыма, Барыс (Пятровіч) нешта прапануе. Тады Вам напішу.

На ўсё добрае – Т. Дубавец

*01.10.2008*

*Тацяне Поклад*

Здароў, Танька!

Дзякуй за ліст і за інфармацыю. Я, праўду кажучы, ня ведала нічога. Зрэшты, я апошнім часам у Вільні й пры кампе бываю досыць рэдка, дагульваю лета ў Дубку...

Ясна, што паспрабую нешта зрабіць – наколькі, вядома, гэта ў маіх сілах.

Дарэчы, на месца Лапцёнка ў Дом правоў чалавека прыйшла новая цёця, нейкая эгу-шная цаца – і ўсё перамянілася ўмомант: анічога па-беларуску...

Трымайся

Т.

*05.10.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Добрай раніцы, Поля!

Займаюся размовамі па тэлефоне: з Аблажэем, які скардзіцца на постмадэрністаў і дзівіцца, што ёсьць такая прафэсія – рэдактар (дарэчы, вельмі адказна рыхтуецца да свайго ў дзелу ў «Форуме» ў якасьці экспэрта па матах); зь Вітушачкам, поўным розных ідэй, як хутка і проста разбагацець; зь Людкай, Вітушкавай жонкай, стомленай ад шматлікіх прац і незадаволенай сямейнікамі... Зараз нарэшце накрашу валасы ў колер залатой чакаляды (так напісана на абгортцы) і паеду здымаць чарговыя песьні чарговых тутэйшых бабушак.

Учора трымала ўжо ў руках тую самую кніжачку, пра якую направа й налева раздаю інтэрўі (шчыра – без усялякае ахвоты, бо сказаць мне, па вялікім

рахунку, няма чаго). Кніжачка сімпатычная, сувэнірчык такі... Буду хадзіць на госьці з сувэнірчыкам і з грыбамі – і таго, і другога ў мяне цяпер прыкладна аднолькавая колькасьць.

На наступным тыдні нейкія мельнікаўскія людзі запрасілі мяне да ўдзелу ў здымках фільма пра Вітушку, маўляў, калісьці ж разам працавалі на тэлебачаньні. Буду мэмуарстваваць, хоць і ня хочацца. Згадзілася выключна дзеля добрага стаўленьня да Вітушкі.

Такія во мае пляны і задачы на бягучы пэрыяд.

Прыязджайце хутчэй! Т.

*06.10.2008*

*Юрку Каліну*

Здароў, Юрка!

Смс-ку атрымала; хлопец ужо, я бачыла, даслаў эскіз застаўкі з назвай «Паштоўка...» Як на мой густ, дык зусім нічога сабе, але ж, здаецца, у нас з пані Дырэктаркай густы розныя, дык, можа, і не спадабаецца...

Першая перадачка да канца гэтага тыдня будзе гатова, і будзе ў вас. Скажы, калі ласка, а калі й якія даты вызначаныя на этэр? Бо мае прад'юсары тлумачаць мне ўсё неяк цьмяна, ці, можа, я ня ўсё ўмею разумець. Кажуць, перадачка павінна быць у вас за тыдзень да выхаду, а калі той выхад, як быццам ня ведаюць...

На ўсё добрае – Т. Дубавец

Стэлефанавалася з Саўкам, усё высьветліла. Будзем рабіць «зь» бяз мяккага знаку. «На жаль», – сказаў Саўка...

Шчасьліва!

*10.10.2008*

*Алене Радкевіч*

Здароўцека!

Дзенгі атрымала, нават пасьпела ўжо ажыцьцявіць зь іх дапамогаю жыцьцядайнейшы шопінг – накупіла масак, пудраў і шмінак, і цяпер на разнастайных прэзэнтацыях кніжачкі зьяўляюся ў баявой раскрасцы. Очань ачаравацельная. З кніжачкай сытуацыя вельмі сьмешная. Вершыкаў новых там практычна няма, а што ёсьць каштоўнае – дык гэта бабы Веры пераклады; але інтэрўі раздаю я, і глупыя – заўважу – інтэрўі. Ніхто мяне ня слухаецца, і ня хоча пытацца ў тых, у каго варта пытацца – у перакладчыцы, у рэдактаркі перакладу, ва ўкладальніка...

З канца кастрычніка буду выходзіць на Белсаце са сваёй перадачачкай (раз на два тыдні), сёньня заслала ім пілётны выпуск, і цяпер трохі мне вальней. Бо ведаеш жа, якая заўсёды бывае мясарубка ў пачатку чаго б там ні было. Вы ж там маеце магчымасьць глядзець Белсат? Буду паказваць Вільню!

«Падарожжы» ня кіну ў сілу вялікай любові да гэтага дзела. На наступным тыдні буду ў тых самых Гірах, пра якія табе, здаецца, пісала. Там яшчэ цікавостка – аказваецца, паводле Мальдзіса, у гэтай вёсачцы фальклярысты запісалі песьні, складзеныя і сьпяваныя каліноўцамі ў час паўстаньня.

Трымайся!

Т.

*12.10.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Добрай раніцы, Поля!

У нас дождж. У нас цёпла. У нас многа жоўтага і барвовага на схілах віленскіх пагоркаў.

Прыехала Адэлечка, займаемся – з найвялікшым задавальненьнем! – шопінгам.

Прыкінулі дзіцёнка па поўнай праграме, і цяпер маё мацярынскае сэрца можа біцца спакайней – усё ўцеплена, усё прыкрыта...

Ня ведаю, ці буду 18-га ў Вільні. Нас запрасілі ў Клюшчаны, на службу ў памяць па Казімеру Сваяку. Калі атрымаецца, дык паедзем. Калі не – сустрэнемся на вашым шоў.

Зрэшты, вы ж яшчэ застанецеся? На сэсію?

Цяпер у Вільні Славамір *(Адамовіч. – СД.),* прыехаў сустрэцца з дачкой. Бачыла яго на сустрэчы з Разанавым у Доме пісьменьнікаў. Шчакасьценькі такі... Заўтра, відаць, буду рабіць зь ім інтэрвію – пра эмігранцкі лёс і пісьменьніцкі посьпех.

Да сустрэчы!

Т.

*11.11.2008*

*Ірыне Дубянецкай*

Здароў, Ірынка-карцінка!

Адказваю на ўсё па парадку.

20-га, пасьля таго, як Сярожа сустрэне Айца, варта ж, відаць, хоць на хвілінку якую прывезьці яго да нас дахаты – на гарбатку, перакусіць чаго перад дарогай, яшчэ сёе-тое... Дарэчы, Ойчанька, як і Ірына дарагая, ня есьць нічога паходжаньнем з жывёльнага сьвету, ці ўсё ж сыр або якія вяршкі сабе дазваляе?

Здымаць я буду, і буду здымаць, бадай, усё, што будзе ў Вільні: ЭГУ, набажэнства, калі будзе, сустрэчу зь беларусамі, калі будзе...

26-га ў нас паседзімо абавязкова. У які гэта можа быць час?

Чалавек, якога магу рэкамэндаваць у якасьці найлепшага ў сьвеце віленскага арганізатара, гэта наш чэсьць і совесьць Валянцін Стэх. Ён выконвае функцыі дырэктара нашага з табой СП у Літве, таму, пэўна, мог бы арганізаваць залю ў СП Літвы, або як вядомы тут грамадзкі дзяяч мог бы – у Доме нацыянальных меншыняў, гэта таксама някепска, бо знаходзіцца ў цэнтры. Напішы яму абавязкова ўсю канкрэтыку, каб нам не рабіць сапсаваны тэлефон.

Дарэчы, ён і людзей-віншавальнікаў параіць.

Жду адвета, как салавей лета. Т.

*11.11.2008*

*Тацяне Поклад*

Прывецікас! Прыязджай!

У нас тут усё вельмі сьмешна. Часам. Сёньня сабралася была здымаць адкрыцьцё выставы аднаго чудзеснага мастака Алеся Поклада, прыехала, а мне сіненькая і зялёненькая з твару галерэйшчыца кажа: няльзя здымаць! аўтар не вялеў! – Пачаму, спрашаваю... – Няльзя, і фатаграфаваць нялььзя, і вапшчэ. Знаеце, увідзіт хто па целівізару – ідзею украдзёт, ілі сачэтаніе цьветоф...

Я пасьля падумала – ці тут крымінал які ўпрэжаны, ці Сашка проста звар’яцеў... Але, бачыш, нясумна. 15-га дзеці, пры спрыяньні Паўлінкі, робяць у Вільні бардаўскі фэст беларуска-літоўскі. А пасьля айцец Надсан прылятае, плянуецца, што зладзіць тут набажэнства ў Базыльянскіх мурох. А пасьля ты прыляціш.

Трымайся, дзетка наша міленькая! Да сустрэчы!

*14.11.2008*

*Тацяне Поклад*

Здароўцека!

Прысылай свае хвосьцікі!

А мяне апошнім часам вельмі добра стрыжэ маладзічка, якая калісь вучылася на цырульніцу ў Беларусі. Кожнага разу гэта ня проста стрыжэньне-учасаньне,

а сапраўдны дамскі клюб! Як яна ўспамінае Менск, Беларусь!.. Як яна хоча зьездзіць туды, паглядзець! Мужык ейны гаворыць: што за праблемы, сядзем на самаход ды паедзем... Яна: але я не хачу ў МОЙ Менск разам зь ім, ён нічога не зразумее ў МАІМ Менску! Па выніку я нашу на самай макаўцы чубчык-фантанчык, вельмі гарэзьлівы і зручны. Страсаю раніцою зь яго пыл і пер’е – і ў бой!

Сёньня павінна прыехаць Сардэля са сваім сябрам. Я, як сапраўдная Мумі-мама, вару і пару ад самага сьвітанку (ночку не даспала!), а пасьля паеду на адкрыцьцё выставы Юлі Дарашкевіч. Напішу яшчэ ўвечары, добра, пане бобра?

Т.

*14.11.2008*

*Тацяне Поклад*

Здароў, Танечка!

Фоткі атрымала. Хвосьцікі на месцы, а дзе шчочкі дзявочыя румяныя? Ай-я-яй!

Вярнулася зь Юлідарашкевічнай выставы. Файная дзяўчына, файныя фоты. Вельмі прафэсійна працуе. І мужная да ўсяго таго, і вельмі жаноцкая. Абяцаюць, што выстава патрывае нейкі час, так што, можа, і ты яшчэ пабачыш, вярнуўшыся.

Яшчэ – куча дзетак вельмі прыемных у ЭГУ, першакурсьнікаў; пісалі эсэ на конкурс «Быць беларусам» (ці штосьці такое), Сяргей журыў, даў мне пачытаць самыя цікавыя. Часам нават жыць захацелася, такія дзеці харошыя.

Усё, іду даварваць-дапарваць. Засталося баклажаны нафаршаваць яшчэ.

Да сустрэчы!

*16.11.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывітаньне!

22-га пастараюся быць у Вільні. Тут зьбіраецца прыехаць айцец Надсан зь Лёндану, дык будзе ўсялякага клопату – трэба будзе сустрэць, прыняць, завезьці ў Менск, і г.д. Ну, але на нейкай стадыі, можа, абыдуцца без майго ўдзелу.

Справы тут розныя. У асноўным праца і праца. Вось Адэлька прыехала са сваім сябрам. Бачылі сёньня над Вільняю дзьве вясёлкі – адная поўная, яскравая, ладненькай дугою ад хмарачосаў да антокальскіх гор, другая падзертая, і як бы выцьвілая. Цікавей за ўсё было назіраць, як людзі рэагавалі – спыніліся, пасталі сярод вуліцы, замоўклі... Трэба думаць: сярэдзіна лістапада, а тут такое!

Як вашыя справы? Як новая работа?

Да сустрэчы!

*18.11.2008*

*Тацяне Поклад*

Здарова, Танішча!

А дзе ж ваш Лукашукас падзеўся? Заслужана аддыхае, ці зноў на падвышэньні?

Я ўчора Свабоду слухала, і мела, што чуць – і «дасьледаваньне», і ракіцкі рэпартаж, і нешта яшчэ – не памятаю дакладна, але памятаю добрае ўражаньне. Ну, і ты там у анонсе пашчабятала – о, думаю, Танечка мая міленькая, жывая, вясёлая...

Юбіц сапраўды ажывае, цьфу-цьфу, каб не сурочыць. Надта ж натхніліся посьпехам гэтай бардаўскай вечарыны, хочуць цяпер замахнуцца на сапраўдны фэст. А я ўчора Таньку Бабіч «малявала» – памятаеш, я распавядала табе пра рубрыку «Галерэя», дзе за час інтэрвію (25-30 хв.) малюецца партрэт героя? Яна ж таксама Юбіц, і мы дамовіліся на супольнае сьвята напрыканцы тэлесэзону: выставу ўсіх партрэтаў з удзелам усіх мадэляў, з музыкай, віном і т.п. Крута?

Усё, пабегла на працу, буду глядзець, як там і што ўчора наздымала.

Увечары напішу.

Т.

*18.11.2008*

*Тацяне Поклад*

Прывецікас!

Зьвярні ўвагу на сваю апіску ў слове «Беларусь». Трэба запатэнтаваць. Якаянебудзь Сьвета Курс такую ўдачу не абмінула б...

Пазаўтры ойчанька Надсан прылятае. Сярожа павязе яго ў Менск, а пасьля ўсіх урачыстасьцяў у Менску тут у нас будуць усялякія сустрэчы – Стэх арганізаваў памяшканьне, бабушкі шыкуюць кветкі і словы, а таксама фрызуры й сукні. Я шыкую пачостку і камэру – буду ойчаньку карміць-паіць і фільмаваць. Ламаю пакуль галаву, як сумясьціць тое й другое, амаль несумяшчальнае...

Часу няма – ужасас! Ніяк не магу зь Людкай пабачыцца. Усе размовы – праз тэлефон. Вось табе й жывем у адным горадзе!

Сёньня быў першы марозік. Заўтра абяцаюць першы сьнег.

Уяўляеш, як цябе тут не хапае?

*25.11.2008*

*Паліне Сьцепаненцы*

Прывецікас!

Ну, як здымка?

У Грузінкі ўсё будзе ОК, па ёй бачна. Невядома, ці вернецца Ванечка, але дасягнуць яго – яна дасягне.

У нас заўтра Надсан. Я замачыла грыбы. Многа грыбоў. Бо бугальтар наш Барыс так і ня выйшаў з запою, пасяму бабак нет. Так што застаюцца грыбы.

Мая багатая сяброўка перабірала-такі шафу, і сёе-тое адабрала для Полі. Кашулечкі там, маечкі. З куртак чамусьці яна не вырастае, на жаль.

Дык вы 7-га будзеце зноў? На Форуме, ці гэта ўжо сесія?

Пакуль-пакуль. Пішыце. Т.

*27.11.2008*

*Кірылу Атаманчыку*

Вітаю!

Ясна, што трэба гэта зрабіць. І, ведаеце, што я на гэты конт думаю: трэба, каб людзей на гэта дзела сабраў чалавек нэйтральны – ня правы, ня левы; чалавек, які ва ўсіх выклікае давер, ці, прынамсі, ня мае адмоўнага іміджу. Думаю, гэтакі чалавек – Валянцін Стэх. Помніце яго па мінулым Дні Волі?

Я б закінула яму гэтую думку, і ён бы арганізаваў супольную сустрэчу.

Адкажыце хутчэй, і, калі вы са мной згодныя, я зьвяжуся з Валянцінам.

І яшчэ. Каго варта было б на такую сустрэчу паклікаць?

На ўсё добрае – Т. Дубавец

*01.12.2008*

*Дачцэ Адэлі*

Здарова, дзетка!

Як ты даехала?

У нас тут Ірына захварэла, я ёй вымушаная апекавацца – занесла лекі, плед, ежы згатавала. А ў яе соплі аж па падлозе сьцелюцца. І нічога зрабіць ня ўмее, такое ўжо «дзіця» бесталковае...

Я зайшлася ў расейскамоўную кнігарню, паглядзела для Васілінкі кніжку па бісеры. Горшая, чым тая, што мы бачылі ўчора. І ведаеш, колькі каштуе? 50 літаў!

Можа, зазірні заўтра ў Менску ў кнігарню, раптам ёсьць, а то й дзешавейшыя... дык я тады тут купляць ня буду, а ў Менску куплю. ОК?

Татка гаворыць, што да цябе вельмі добра ставіцца.

Мамашкес

*(Працяг будзе)*

Сяргей Законнікаў



...“Дзе ты, косю мой верны, блукаў,
Што любіў апантана, найболей,
Што ў агромністым свеце шукаў?”
– Толькі волю, адзіную волю!..

# Рабскі дзень, вольная ноч

***Раздзелы з кнігі***

## Дзень. Чаму я люта ненавіджу хлусню?

Мне цяжка было вырвацца на волю з феадальнага саўгаса, дзе ўлетку яшчэ падлеткам працаваў на полі, пасля грузчыкам, атрымаць пашпарт і паступіць вучыцца. Асабліва даўся ў знакі пры паступленні ва ўніверсітэт экзамен па нямецкай мове, бо ў школе яе выкладалі выпадковыя людзі, якія не мелі спецыяльнай адукацыі. Але на тым выпрабаванні не скончыліся. Жыццё падкінула новыя іспыты. Пачатак вучобы ў 1964 годзе ў БДУ стаўся драматычным.

Што ж адбылося? З 4 класа я супрацоўнічаў з раённай газетай, быў школьным карэспандэнтам, а затым памалу вырас да селькара. Акрамя першых рыфмаваных практыкаванняў друкаваў допісы, замалёўкі, нарысы, фельетоны, расказваў пра лепшых людзей або выцягваў на святло недахопы ў жыцці саўгаса, выяўляў супраць лясных і азёрных браканьераў. У старэйшых класах “асвоіў” абласную і рэспубліканскія газеты,

а нарыс пра загадчыцу сельскага клуба Валянціну Аляксееву быў апублікаваны нават у Маскве, у “Советской культуре”.

Калі быў дзевяцікласнікам, упершыню сутыкнуўся з агрэсіўнымі нападкамі за сваё выступленне ў друку, з нахабнай хлуснёй. Я надрукаваў у абласной газеце “Віцебскі рабочы” замалёўку “Дзяўчына з легенды”, у якой расказаў пра жыццёвы подзвіг юнай жыхаркі маёй вёскі, якая спачатку разам з іншымі жанчынамі пякла хлеб для партызан, а затым стала сувязной атрада і загінула ў 1942 годзе пасля катаванняў у гестапаўскай вязніцы ў Фролкавічах. Мне больш імпанавалі менавіта такія, яшчэ невядомыя чытачам, героі, а не даўно ўслаўленыя партызанскія начальнікі. Але два вышэйшыя камандзіры, якія пасля вайны яшчэ доўга не маглі падзяліць славу і раўніва сачылі за тым, каго і колькі разоў упамінаюць у прэсе, страшэнна пакрыўдзіліся, што я, пішучы пра сувязную, назваў толькі атраднае начальства, не ўспомніў брыгаднае. Прытым кожны камбрыг лічыў дзяўчыну “сваёй”. Калі ж рэдакцыя адмовілася быць суддзёй у іхняй спрэчцы за сувязную, яны аб’ядналіся і разам зноў абрынуліся на аўтара-школьніка. Цяпер яны выцягнулі з мінулага факт, што камандзір атрада, да якога была прыпісана дзяўчына, у 1944 годзе ў час блакады раптам перабег на бок немцаў, а таму пра ягоных партызан нельга пісаць, ды і ўвогуле, ніякая яна не гераіня – проста пякла хлеб, збірала звесткі. Які тут гераізм? Пісаць трэба пра іх! Урэшце доўгая цяжба з амбітнымі камбрыгамі скончылася на маю карысць, але на час яе, каб не дражніць “важных гусакоў”, рэдакцыя газеты прыпыніла публікацыю маіх вершаў і карэспандэнцый. Так не тэарэтычна, а практычна жыццё вучыла мяне нянавісці да хлусні.

Мая вёска Глыбачка пры праўленні Мікіты Хрушчова, пасля прыняцця ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 25 снежня 1962 г. “Аб узбуйненні раёнаў Беларускай ССР”, перайшла да Лепельскага раёна. Натуральна, што супрацоўніцтва з ушацкай газетай “Сацыялістычны шлях” адразу змянілася на цесную сувязь з новай “раёнкай” пад назвай “Ленінскі сцяг” (у СССР “шляхоў” і “сцягоў” была процьма, пра непаўторнасць назваў ніхто не думаў). Яе рэдактар Іван Дзмітрыевіч Алексін, добры знаёмы майго бацькі, шчыра падтрымліваў селькара з глыбінкі.

Калі клапатлівы апякун даведаўся, што я стаў студэнтам БДУ, то ўзрадаваўся, прапанаваў падрыхтаваць падборку вершаў, дадаць фотаздымак і прыслаць у рэдакцыю. “Яшчэ напішам урэзку. Няхай чытачы ведаюць, што нашы селькары “не лыкам шытыя”. Ліст высылай на маё прозвішча, каб не згубіўся”, – скончыў размову ў рэдакцыі Іван Дзмітрыевіч.

Дамову з рэдактарам я выканаў. Але ў віры знаёмстваў у студэнцкай грамадзе, у клопатах першых месяцаў вучобы проста забыўся пра вершы, пасланыя ў “раёнку”. Якое ж было маё здзіўленне, калі атрымаў з газеты не яе асобнік з падборкай, а грубую адпіску. Пісаў нехта К. (прозвішча не падаю з дзвюх прычын: за дурноту чалавека не павінны расплачвацца блізкія, да таго ж – шмат гонару абсалютна выпадковай асобе). Яго разважанні з прычыны майго ліста падаліся надта дзіўнымі, а разбор вершаў такім прымітыўным, што закралася падазрэнне: адказваў не супрацоўнік рэдакцыі, а старонні чалавек. На такую думку наводзіла і жахлівая непісьменнасць, якая кідалася ў вочы. Меркаванне пасля пацвердзілася: з Лепельскай МБА (міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі) выгналі за п’янку інжынера. Знаёмы начальнік з яго зжаліўся і дапамог прытуліцца ў аддзеле пісем раённай газеты.

Як на тую бяду, калі мой ліст прыйшоў у “Ленінскі сцяг”, І.Д. Алексін быў у адпачынку. Супрацоўнік аддзела пісем, па-першае, не сумняваючыся, ускрыў ліст, адрасаваны не яму, па-другое, без высвятлення абставінаў абвінаваціў першакурсніка ў нясціпласці, нават нахабстве, бо той прыслаў тузін вершаў, фатаграфію, ды яшчэ накіраваў свае творы на імя самога рэдактара. Яго водгук на вершы заключаўся ў тым, што яны слабыя і неактуальныя, а яшчэ ў трафарэтным пажаданні – аўтару трэба вучыцца ў А. Пушкіна, М. Лермантава, М. Някрасава.

Больш за 80 арфаграфічных і сінтаксічных памылак, якія заўважыў у лісце, я выправіў чырвоным алоўкам.

Калі паказаў эпісталярны твор К. хлопцам, як мы называлі сябе жартам – “аднапакойнікам”, то яны яшчэ больш, чым я, абурыліся паводзінамі невука, хамскімі адносінамі да пастаяннага аўтара газеты. Талакой вырашылі даць адлуп *непісьменнаму* супрацоўніку аддзела *пісьмаў*.

Студэнты ў той час жылі ў інтэрнатах не па 2-3 чалавекі ў пакоі, як цяпер, а звычайна ажно па шэсць. Акрамя таго наша “камуна” прытуліла некалькіх “зайцоў”, якім не дасталося дзяржаўнай жылплошчы, з філалагічнага, гістарычнага, матэматычнага факультэтаў. Спалі на ложках па два чалавекі – “валетам”, а тыя, каму не хапала месца, туліліся на падлозе ўсюды, нават пад сталом. Якраз такой вялікай сябрынай мы і адказвалі лепельскаму “Бялінскаму”.

Адны хлопцы сядзелі за сталом, іншыя стаялі за іх плячамі, калектыўна, па слову нараджаўся ліст. Незвычайная праца суправаджалася жартамі, рогатам. Добра помню, што сцэнка нагадвала тую, якую ў карціне “Запарожцы пішуць ліст турэцкаму султану” перадаў геніяльны мастак Ілля Рэпін.

Я нават узнавіў у памяці пасланні непрымірымых бакоў. Мухамед IV быў аўтарам бяспрыкладна самаўслаўляльнага тэксту: “Я, султан, сын Мухаммеда, брат Солнца и Луны, внук и наместник Бога, владелец царств Македонского, Вавилонского, Иерусалимского, Великого и Малого Египта, царь над царями, властитель над властелинами, необыкновенный рыцарь, никем не победимый воин, неотступный хранитель гроба Господня, попечитель самого Бога, надежда и утешение мусульман, смущение и великий защитник христиан – повелеваю Вам, запорожским казакам, сдаться мне добровольно безо всякого сопротивления и меня Вашими нападками не заставлять беспокоиться”.

Цяпер, каб не памыліцца, давялося зверыць дакладнасць слоў, якія дайшлі з даўніны, а тады памяць у мяне была выдатная. Адказ запарожскіх казакоў турэцкаму султану не перадаю поўнасцю, бо ў ім віруе, ліецца цераз край нецэнзурная лексіка. Мяркую, што хопіць толькі аднаго сказа: “Не будеш ти, сукін ти сыну, синів християнських під собой мати, твойго війска ми не боімось, землею і водою будем биться з тобою, распрой...б твою мать”.

Рэпінскае палатно ўспомнілася мне ў тыя хвіліны нездарма: быў зразумелы душэўны стан казакоў – гордых, свабодалюбных людзей. Самаўзвялічванне, пыха, нахабства, замах на годнасць і волю іншага з боку любога агрэсара заўсёды выклікаюць рашучы пратэст, у якім зліваюцца з’едлівасць, сарказм, сатыра. Тут было ўжо не да захоўвання дыпламатычнасці! Моцнае пачуццё абурэння поўніла маладыя студэнцкія душы, шчыравалі мы над лістом з імпэтам і абуранасцю запарожцаў. Адрознівалася нашае пасланне толькі тым, што ў ім адсутнічалі нецэнзурныя словы.

Вышэй я згадаў класіка рускай літаратурнай крытыкі Вісарыёна Белінскага з той прычыны, што ліст пачынаўся зваротам: “Милостивый государь!” Дух эпісталярнага жанру XIX стагоддзя прысутнічаў і далей. Пісалі па-руску, бо было ясна, што “крытык” лепельскага разліву роднай мовай не валодае. Зыходзячы з узроўню ліста гэтага чалавека, мы выказалі меркаванне, што калі ў рэдакцыі газеты ён стане месці падлогу, паліць грубкі, а не займацца аналізам паэзіі, то карысці грамадству прынясе непараўнана болей.

Хоць ліст быў калектыўным, але падпісаць давялося мне – аўтару пасланых у рэдакцыю вершаў. Нехта прапанаваў пакласці яшчэ ў канверт пасланне К. са шматлікімі выпраўленнямі. Памылкі пацягнулі на тлустую “адзінку”, якая па-настаўніцку размашыста была пастаўлена чырвоным алоўкам у канцы ліста.

Пасля мы зразумелі, што зрабілі непапраўную памылку, калі пісалі такі жартоўны адлуп, ставілі на адказе непісьменнага чалавека кепскую адзнаку, бо адрасат аказаўся подлай і помслівай асобай. Але, як казала мая мама, “каб жа знаццё”...

“Пярун” грымнуў, і тое сталася сапраўды надта нечаканым, бо на дварэ была зіма. Раніцай па дарозе на заняткі з інтэрната, што месціўся на Паркавай магістралі (цяперашні праспект Пераможцаў), да будынка філалагічнага факультэта на вуліцы Чырвонаармейскай (цяпер тут размешчаны гістфак БДУ), студэнты звычайна рабілі прыпынак у скверыку каля купалаўскага тэатра, каб пачытаць свежыя газеты, якія размяшчаліся на спецыяльных шчытах. Я па завядзёнцы спыняўся найперш каля “Чырвонай змены”, у якой друкаваўся.

Раптам пачуў, што хлопцы гукаюць ад шчыта, на якім наклейвалася газета “Знамя юности”. Галасы былі ўстрывожаныя. Падышоў, глянуў на разварот. Пад грознай рубрыкай “Именем нашей морали” стаяў “падвалам” матэрыял са знішчальным загалоўкам “Прежде стань человеком”, які быў набраны тлустым чорным шрыфтам. У першых жа абзацах тэксту кінулася ў вочы маё імя і прозвішча.

Малады, але ўжо вядомы паэт-зямляк Б. бэсціў мяне за тое, што я выявіў нахабства, бо прыслаў у раённую газету падборку вершаў і фатаграфію, а калі іх не надрукавалі, то абразіў рэдакцыйнага супрацоўніка – прапанаваў яму замест разгляду вершаў падмятаць падлогу, паліць грубкі. Пачынаўся артыкул радком: “Как не возопить в отчаянии...” Гаворка зводзілася да таго, што пачаткоўцу зайздросна бачыць у беларускіх і ўсесаюзных газетах, часопісах публікацыі іншых аўтараў, вось і ён захацеў вядомасці, літаратурнай славы. Але перш, чым стаць паэтам, трэба быць сціплым, выхаваным чалавекам. Дарэчы, вершы не былі забракаваны, два атрымалі станоўчую ацэнку, і ў астатніх рэцэнзент знайшоў па некалькі ўдалых радкоў, што мяне, безумоўна, парадавала.

Але адкуль такая пільная ўвага да пачаткоўца з боку папулярнай газеты? Як высветлілася потым, журналісты Леанід В. і Сяргей В. са “Знамя юности” былі ў камандзіроўцы ў Лепельскім раёне. Па завядзёнцы наведалі мясцовую рэдакцыю. Тут і пераняў іх пакрыўджаны, раззлаваны супрацоўнік аддзела пісьмаў. Уласнае пасланне, якое густа чырванела ад дурноты і памылак, ён, канешне ж, не паказаў. Затое наш ліст быў перададзены з належнымі каментарыямі. Журналісты, ласыя да сенсацый, ухапіліся за “гучную тэму”. А як жа, гэта ж не вывазка гною на калгасныя палі! Тут пахне не абы якім скандалам, калі яго хітра і ўмела раздзьмуць. Па прыездзе ў Мінск журналісты адшукалі для непаслухмянага аўтара вершаў аўтарытэтнага суддзю, які пасля апраўдваўся тым, што прыняў мяне за... “сына паліцая”.

Патлумачу, чаму ў катавасію з апублікаваннем вершаў пачаткоўца паэт прыплёў вайну. Справа ў тым, што ў час варожай акупацыі ў Лепелі стаяў фашысцкі гарнізон, а Вушацкі край быў партызанскім, таму ў нашай мясцовасці доўга існавалі рэцыдывы “ваеннага супрацьстаяння” сярод насельніцтва. Але такое апраўданне, як кажуць у народзе, нагадвае “дзіцячае лепятанне на лужку”. Паэт не падумаў пра элементарнае высвятленне: каго ж ён судзіць? Можна было пацікавіцца і даведацца, што нарадзіўся пачатковец у Вульскім раёне, з 7 гадоў жыве на Вушаччыне, што ягоная маці была партызанкай брыгады імя Чапаева, а бацька – франтавіком-зенітчыкам. Такое даследаванне зрабіць лёгка. А ўрэшце, якое дачыненне да гэтай гісторыі мелі мае бацькі?

Тым не менш бяда набліжалася. У савецкі час любое крытычнае выступленне газеты не заставалася без разгляду. Аўтар разноснага артыкула спакойна атрымаў свой ганарар і не шманаў пра тое, што чакае студэнта-першакурсніка. А мне неўзабаве давялося на пасяджэнні камітэта камсамола ўніверсітэта стаяць у тарцы стала, за якім сядзела 16 чалавек – “суддзяў”.

У той момант адразу згадаліся словы з прыгавора майму дзядзьку, паэту Сяргею Ракіту, якія ўрэзаліся ў памяць (напісанне захоўваецца): “1937 г., октября 4-5 дня, г. Минск. Специальная Судебная Коллегия Верховного суда БССР в составе: председательствующего – И. О. Председателя Спец. Коллегии т. Карпика В. О., членов Спецколлегии т.т. Федосенко Г. А. и Зубчонка Т. У., при секретаре т. Куз-

нецове заслушавши и рассмотревши в закрытом судебном заседании уголовное дело /.../ приговорила: Законникова-Ракита Сергея Васильевича на основании ст. ст. 72-а и 76 УК БССР подвергнуть лишению свободы в исправительно-трудовых лагерях сроком на десять /10/ лет. Поразить избирательных прав по отбытии наказания сроком на пять /5/ лет. Приговор окончательный и кассационному обжалованию не подлежит".

Перад арыштам ён напісаў чуйныя, прарочыя радкі:

Слухай, мой друг незнаёмы!
Ноч, цішыня, спакой.
Чуеш трывожныя бомы? –
Едуць за мной і табой...

Дзядзьку судзілі за вернасць праўдзе. Ён абараняў Янку Купалу, якога тады крытыкавалі за "нацдэмаўскія творы", казаў, што "калгасы – гэта калонія дзяржавы", што новы беларускі правапіс ("наркамаўка") абцяжарвае карыстанне беларускай мовай, што ідзе русіфікацыя Беларусі. Якраз за ўсе справядлівыя выказванні яму і прыпісалі ўдзел у "контрреволюционной нацдемовской организации", якую энкавэдысты самі прыдумалі. З вышыні сённяшняга дня, у якім праблемы, узнятыя дзядзькам, застаюцца нявырашанымі, яго словы набываюць яшчэ больш значны і актуальны сэнс, трэба толькі дзівіцца выключнай прадбачлівасці і смеласці маладога паэта, якога паглынуў сталінскі ГУЛАГ...

Прайшло шмат гадоў, і я даведаўся, што маё меркаванне, выказанае ў трыпціху "Лесапавал", пра імкненне дзядзькі трапіць на фронт, пра заклік да паўстання, пацвердзілася дакументальна. 23 чэрвеня 1941 года вязень 11-га лагернага пункта Унжэнскага лагера НКУС СССР (станцыя Сухабязводнае Горкаўскай вобласці) Сяргей Ракіта быў арыштаваны паўторна. Яго судзіла лагерная тройка. У ваенны час артыкул 58 – 10, частка 1 прыраўніваўся да артыкула 58 – 2, які прадугледжваў вышэйшую меру – расстрэл. Тэрмін пакарання, вынесены тройкай, невядомы, як загінуў дзядзька – няясна і сёння... З гэтай прычыны я некалі напісаў:

Можа, у дол пахавалі,
Можа, сняжком замяло...
На чалавекапавале
Нормы тады не было.

...Прачуханка па камсамольскай лініі была доўгай, нуднай, але я так і не зразумеў, чаму з'яўляюся парушальнікам маралі. Няўжо гэта злачынства – праўдзіва і адкрыта сказаць супрацоўніку рэдакцыі, што ён займае не сваё месца, калі выяўляе невуцтва, глухату да паэзіі, элементарную непісьменнасць?

Камітэт камсамола, за выключэннем спагадлівай, мілай старшакурсніцы Ліды Пістуновіч з аддзялення рускай мовы і літаратуры, складаўся з бывалых дзецюкоў, якія перад вучобай ва ўніверсітэце недзе працавалі, адслужылі армію. Яны адчувалі сваю ўладу над першакурснікам-слабаком, прагнулі "крыві". Абмеркаванне скончылася прапановамі па вынясенні спагнання, якія былі "драконаўскімі": першая – выключыць з універсітэта і з камсамола, другая – выключыць з камсамола, што таксама аўтаматычна пазбаўляла вучобы ва ўніверсітэце, трэцяя – вынесці строгую вымову па камсамольскай лініі з занясеннем ва ўліковую картку і выселіць з інтэрната.

Тут узяла слова Ліда Пістуновіч. Надзвычай хвалюючыся, дрыжачымі ад абурэння вуснамі яна напорыста прамаўляла: "Як вам не сорамна губіць хлопца! Вы паглядзіце, хто стаіць перад вамі! Ён жа зусім маладзенькі, зялёны. Вясковы хлопец з такімі цяжкасцямі атрымаў пашпарт, паспяхова здаў уступныя экзамены, добра вучыцца, а вы хочаце яго выгнаць. Вы заўважылі, з якім жахам і здзіўленнем ён глядзіць на вас? Што вы робіце? Калі дапусціў памылку ў паводзінах, гэта не

бяда, выправіцца. А вы адразу даўбнёй па галаве! Ды каму? Пачынаючаму паэту! Можа, некалі будзем ім ганарыцца. Я катэгарычна супраць жорсткіх прапаноў. У крайнім выпадку можна вынесці простую вымову".

Дэбаты ішлі доўга і бурліва. У выніку справядлівая дзяўчына, хоць і не дамаглася свайго, але выратавала маю далейшую вучобу. Камітэт камсамола прагаласаваў за строгую вымову з занясеннем ва ўліковую картку і выключэнне з інтэрната. Супраць гэтага была толькі адна непахісная, сумленная Ліда, якую не забываю...

Нават цяпер, аглядаючыся ў мінулае, я добра бачу тых камсамольскіх "суддзяў", пахмурныя выразы твараў, міміку, інтанацыі. Чаму помніцца тое пасяджэнне? Таму што сэрца тады трымцела, разрывалася ў грудзях ад крыўды, ад балючага адчаю. Мой лёс вісеў на тонкай нітачцы, якая магла абарвацца. Вось узнялі рукі "за" – і ўсё. Гэтыя трапяткія пачуцці "на разрыў аорты" камітэтчыкі, замбіраваныя роляй уладарных вяршыцеляў лёсу першакурсніка, так і не адчулі...

Мне вядома, што некалькі з іх заўчасна пайшлі з жыцця, у астатніх кар'ера, дзеля якой стараліся, збылася. Напрыклад, Алег С. пасля прыходу ў 1994 годзе аўтарытарызму нават прэтэндаваў на статус прыдворнага ідэолага, ды ва ўмовах рэгулярнага "ператрахвання" ўзурпатарам кадраў згубіўся ў панылых чыноўніцкіх калідорах. Але судзіць маіх "суддзяў" не буду, на гэта ёсць Вышэйшая Воля...

Спагнанні, накладзеныя на мяне, сябры сустрэлі спакойна: "Не перажывай! Як жыў з намі, так і далей будзеш жыць. Давядзецца толькі хавацца на іншых паверхах або ўцякаць з інтэрната ў выпадку праверак. Вымова таксама не бяда, прыйдзе час – здымуць". Гэтая падтрымка сталася надзвычай патрэбнай, бо зарабіць грошай, каб зняць жыллё, студэнту дзённага навучання было цяжка. Часам мы займаліся разгрузкай вагонаў, але разавыя заробкі не з'яўляліся выйсцем са становішча.

Я застаўся ў інтэрнаце. Праўда, неаднойчы позна ўвечары, калі праверачная камісія рабіла нечаканы налёт, даводзілася раптоўна падхопліваццa з ложка або з "агульнай бярлогі" і ўцякаць на чыгуначны вакзал. Там знаходзілі прытулак і іншыя сталічныя студэнты – мае сябры па няшчасці. Не адна амаль што бяссонная ноч была праведзена на мулкіх драўляных лавах, бо міліцыянеры спаць не давалі, наладжвалі праз пэўныя інтэрвалы пабудку.

Але пакуты на гэтым не спыніліся. Газету "Знамя юности" выпісвалі ў многіх беларускіх сем'ях. Нумар з негатыўным матэрыялам атрымалі і ў маёй Глыбачцы. Не ведаю як дзе, а на Віцебшчыне любяць радавацца, калі некага са знаёмых напаткаюць непрыемнасці. Некаторыя аднавяскоўцы, якія зайздросцілі майму паступленню ў БДУ, цяпер бегалі па хатах з газетаю, злараднічалі: "Паглядзіце, што пра сына настаўнікаў пішуць. Мабыць, хутка яго выганяць з універсітэта. Будзе зноў разам з намі ўкалваць у саўгасе!"

Не трэба расказваць, якое горкае ўзрушэнне панавала ў сэрцах мамы і таты. Я стараўся супакоіць іх лістамі, але зрабіць гэта не ўдалося. Праз нейкі час бацька не вытрываў невядомасці, прыехаў у Мінск, каб высветліць абставіны, пераканацца, што мяне не выключылі з універсітэта.

Было надта сорамна, што прынёс непатрэбныя перажыванні родным людзям, якія з апошняга дапамагаюць вучыцца, трымаюць на сваіх плячах. Але бацька пабыў у студэнцкім гурце, які неўзабаве стане яму і ўсёй нашай сям'і блізкім, з пераканаўчых тлумачэнняў адчуў, што асноўныя перуны небяспекі нада мной адгрымелі, больш-менш супакоіўся і паехаў дахаты суцяшаць маму. Я не сказаў яму толькі пра тое, што пазбаўлены інтэрната, бо гэта было б новым ударам. Не выдалі мяне і хлопцы.

Тым часам "Знамя юности" паднесла мне новы сюрпрыз. На гэты раз журналістамі была сфабрыкавана фальшыўка, магчыма, нават яшчэ больш крыўдная, чым першы матэрыял. Справа ў тым, што газета вяла яшчэ адну рубрыку – "По

следам наших выступлений”, расказвала пра прынятыя меры да герояў абвінаваўчых публікацый. Камітэт камсамола правёў “разведку” на курсе і ўпэўніўся, што калі правесці сход, то студэнты не стануць бэсціць мяне, усё можа сарвацца. Але рэагаванне на публікацыю абавязкова павінна з’явіцца. Спадзеючыся на безабароннасць першакурсніка, камсамольскія функцыянеры і газетныя шчаўкапёры пайшлі на злачынства – разам бессаромна згламэздалі, зляпалі справаздачу са сходу, які... не праводзіўся. У ёй, цынічна выкарыстоўваючы рэальныя прозвішчы студэнтаў, цытаваліся фрагменты “выступленняў”, былі, напрыклад, такія “пярліны журналістыкі”: “Вот он в аудитории бежит по проходу, втягивая голову в плечи, чтобы спрятаться от возмущения товарищей, но гнев его догоняет”.

Не хвалячыся, а толькі канстатуючы, даводзіцца згадаць галоўную рысу ўласнага характару – абвостранае пачуццё праўды і справядлівасці. Неаднойчы давялося з-за гэтага перажыць фізічныя і маральныя траўмы, уступаць у бойку з яўна “пераўзыходзячымі сіламі непрыяцеля”, але мяняцца не збіраюся.

Я абурыўся нахабнай фальшыўкай, прыйшоў у рэдакцыю і запатрабаваў апублікаваць абвяржэнне – сказаць пра тое, што ніякага сходу не было. Прымала мяне *супрацоўніца аддзела пісьмаў* (пасада знаёмая!) Валянціна Антуськова, якая надта перапалохалася. Жанчына, чырванеючы і заікаючыся, стала тлумачыць, што камсамольскі сход планаваўся, што рэдакцыйная справаздача рыхтавалася загадзя, што ім цяпер няёмка, але апублікаваць абвяржэнне немагчыма, бо аўтарытэт папулярнай газеты намнога важней за перажыванні студэнта-першакурсніка. Да галоўнага рэдактара я не пайшоў, бо зразумеў марнасць такога паходу...

Праз пэўны час “Знамя юности” (без удзелу аўтара!) друкавала мае вершы ў перакладзе на рускую мову, выступала з пахвальнымі рэцэнзіямі на кнігі. Але маё стаўленне да газеты засталося грэблівым. З часу “камсамольскага суда” я ўсімі фібрамі душы люта ненавіджу хлусню, ад каго б яна ні была, не прабачаю яе нават блізкім сябрам, якія ў гэтым пераканаліся даўно.

Можна ўявіць, як пачуваю сябе цяпер, калі пры аўтарытарызме ўсё жыццё шматпакутнай Беларусі наскрозь працята бясконцай цынічнай маной.

## Ноч. Вакзальныя мроі

На вакзалах мне давялося бавіць час і начаваць без сну, у чуйнай дрымоце, даволі часта. Відаць, адпаведна мітусліваму, ройнаму настрою і асаблівай атмасферы, якая навечна набрыняла радаснымі і горкімі слязьмі – заўсёднай соллю сустрэч і расстанняў, тут прыходзяць абрывістыя, рваныя, але выразныя, кінематаграфічныя мроі.

У памяці назаўжды засталася экзатычная вандроўка за акіян, якую давялося “агораць”, у літаральным сэнсе гэтага слова, аднаму, без ведання англійскай мовы. Запрашэнне ў чэрвені 1997 года ў г. Вашынгтон на Сусветную канферэнцыю па праблемах культуры і духоўнасці, у якой удзельнічала 348 пісьменнікаў, філосафаў, гісторыкаў, рэлігійных дзеячаў са 110 краін, было нечаканым падарункам. Я ўдзячны лёсу за пяць дзён гутарак з выдатным кінарэжысёрам, акцёрам, бліскучым знаўцам чалавечай душы Раланам Антонавічам Быкавым, хоць у расійскай дэлегацыі мелася і яшчэ шмат таленавітых, цікавых творцаў. На форуме ніякіх праблем не ўзнікла, ўсе выступленні ўдзельнікаў параўнаўча няблага перакладаліся на рускую мову.

Але перад тым былі нязручнасці. З Мінска да Франкфурта-на-Майне, а пасля да Нью-Ёрка даляцеў камфортна, хапіла маіх вельмі сціплых ведаў нямецкай мовы. Затое ў амерыканскім аэрапорце пачаліся пакуты: як жа запоўніць мытную дэкларацыю? Я стаяў ля стойкі, паныла назіраючы, як аднарэйснікі без затрымкі праходзяць кантроль. Выручылі тры вясёлыя сцюардэсы з люфтганзаўскага “Боінга”, якія праходзілі міма. Я ўхапіўся за немак як за апошнюю ратавальную

саломінку, сказаў, што іхні пасажыр з Беларусі трапіў у стрэсавую сітуацыю. Старэйшая засмяялася, паляпала па плячы, сказала: “Gut!” і хуценька аформіла дакумент на ўваход у Амерыку. Мілыя дзяўчаты пажадалі мне шчаслівага падарожжа і грацыёзна зніклі ў бязмежжы аэрапорта. А я зноў быў практычна нямым, бездапаможным, і з гэтай прычыны мяне чакаў новы стрэс.

Амерыканскія службы насцярожыла тое, што я прыляцеў без багажу, з адным “дыпламатам”. Праўда, памеры ён меў нестандартныя, што дазволіла запакаваць бялізну і некалькі чыстых кашуль, сувеніры, кнігі і лісты для землякоў-эмігрантаў. Мая непадобнасць да звыклых пасажыраў якраз і выклікала павышаную цікавасць. У выніку гаспадарам давялося шукаць у сваіх шэрагах службоўца з веданнем нямецкай мовы, толькі з яго дапамогай фармальнасці былі нарэшце вырашаны. Пехатою я дайшоў да тэрмінала мясцовых авіяліній, дзе трэба было даволі доўга чакаць рэйса на Вашынгтон.

Тут сеў на лаву, з палёгкаю ўздыхнуў і пачаў чытаць кнігу па гісторыі старажытнай Беларусі, якую набыў перад ад’ездам. Непадалёку на суседняй лаўцы сядзела маладзіца, з твару мексіканка. Яна раптам усміхнулася і звярнулася з нейкім пытаннем, але я мог збянтэжана прамовіць толькі: “Sorry”. Было бачна, што гэта яе здзівіла.

Заглыбіўшыся ў чытанне, абсалютна не чакаў таго, што адбылося праз паўгадзіны. Зморany пералётам, знерваваны, я задрамаў з кнігай на каленях. У бязладным сне сыходзіліся лавы вершнікаў, луналі бел-чырвона-белыя сцягі, іржалі, хрыпелі коні, пена ляцела з храпаў, мацнелі ўдары шабляў, разгаралася сеча... Я здрыгануўся ўсім целам, калі знянацку на мае вочы леглі ласкавыя, лёгкія далоні. Каму гэта ў Нью-Ёрку захацелася са мною пафамільярнічаць?! За спінаю пачуўся жаночы і мужчынскі смех: “Ну хто? Угадаў?” Я азірнуўся і сам зарагатаў. Побач стаялі ўкраінская паэтка Ганна Чубач, з якой нядаўна ўдзельнічаў у Міжнародным Шаўчэнкаўскім свяце ў Херсоне, плыў на цеплаходзе па Дняпры, і дэкан філалагічнага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта, вядомы літаратуразнаўца Міхайла Наенка. Яны кіраваліся на той жа форум. Мы абняліся, Ганүся не магла супакоіцца: “Ну мы і настрашылі цябе ! Ты аж з твару змяніўся!” Яна, карпулентная, мажная, але спрытная і рухавая, была ў шыкоўнай, вышытай украінскай сукенцы, а таму незвычайнымі паводзінамі і экзатычным адзеннем канчаткова шакіравала мексіканку. Той нават захацелася ўдакладніць: што ж гэта за дзіўныя людзі паляцяць разам з ёю ў Вашынгтон? Дэкан, які няблага валодаў англійскай, задаволіў яе цікаўнасць...

Блытаныя, неверагодныя мроі, больш падобныя на кашмары, даймалі мяне на ўсходнім чыгуначным вакзале Берліна. Было гэта адразу пасля падзення Берлінскай сцяны, якая праходзіла праз вуліцы і нават дамы, якая доўгі час не так фізічна, як маральна рассякала горад і ўвесь нямецкі народ на дзве часткі. Напэўна, у галаве тады сышлося і пераплялося ўсе, што звязана з Германіяй, з другой сусветнай вайной.

Да сапраўды гістарычнай падзеі мне давялося пабыць ля злашчаснай сцяны і з аднаго, і з другога боку. Свабоднае, заможнае жыццё ў Заходнім Берліне і ў ФРГ прыцягвала ўсходніх немцаў, яны часта спрабавалі пераадолець узведзеную трохмятровую бетонную перашкоду з калючым дротам наверсе (усяго каля 150 кіламетраў, па горадзе 40 кіламетраў) пры дапамозе падкопаў, бульдозераў, дэльтапланаў, паветраных шароў. 1 кастрычніка 1973 года ўлада ГДР аддала загад страляць па перабежчыках на Захад на паражэнне нават тады, калі гэта будуць жанчыны і дзеці.

У 1974 годзе з дэлегацыяй віцебскіх камсамольцаў мне разам з жонкай Ліляй давялося быць у ГДР. Помніцца вялікая экскурсія па ўсходнім Берліне. Я ўглядаўся ў пахмурныя, строгія аблічччы нямецкіх памежнікаў, якія не падпускалі турыстаў блізка да сцяны, на нашых вымуштраваных вайскоўцаў, якія чаканілі крок у Заходні Берлін, каб несці ганаровую варту ля помніка савецкім воінам у парку Вялікі Тыргартэн, і думаў пра тое, колькі ўсялякіх нікому не патрэбных праблем пакідае

пасля сябе любая вайна. А ў 1988 годзе з Заходняга Берліна назіраў, як за змрочнай сцяной віруе маніфестацыя ўсходніх гараджан, якія змагаліся за волю і аб'яднанне ў адной народнай сям'і. Тады даведаўся, што з ГДР у ФРГ было болей чым 5 тысяч паспяховых уцёкаў, што не 125, а 1245 чалавек на мяжы забілі. Абсалютна новай для мяне стала лічба 250 тысяч – столькі людзей было за грошы адпушчана ў ФРГ. Уначы з 9 на 10 лістапада 1989 года заслоны памежнікаў не стрымалі націску людзей, пачаўся масавы пераход з усходняй часткі Берліна на захад, а затым і рух з захаду на ўсход. Сведкі гэтага грандыёзнага братання расказвалі мне, што ў іх мазгі плавіліся, аднімалася мова, такі быў глыбокі шок ад неймавернай радасці.

Цяпер, у 1990 годзе, радасных усмешак не было. На вакзале, дзе мне даводзілася неаднойчы чакаць цягнікоў на Усход і Захад, у акуратных, дысцыплінаваных немцаў я яшчэ ніколі не бачыў такой татальнай засмечанасці і бруду, не чуў неверагодна дзікунскіх крыкаў і лаянкі. Сапраўды, пераходны перыяд у любой, нават самай культурнай краіне, вызначаецца анархіяй і антысанітарыяй. Уразіла масавая бойка немцаў з туркамі, якія спачатку задзіраліся ў вестыбюлі, а затым з галёканнем выкаціліся на плошчу. А ў будынку скрозь сядзелі гаманкія, неахайныя табары румынаў, турак, тунісцаў, прадстаўнікоў шматнацыянальнай Югаславіі. Асобна чакалі ад'езду да новага месца жыхарства немцы-перасяленцы з СССР, знясіленыя доўгай вандроўкай.

Дрымота на чамаданах, якая прыйшла, нягледзячы на вакзальны вэрхал, прынесла маміны ваенныя ўспаміны...

Росны жнівеньскі луг. Мужчыны з вёскі Хоціна вядуць з папасу коней. Трэба везці сабранае збожжа ў далёкае Багародзіцкае партызанам, якія засталіся без хлеба. Мама бяжыць насустрач: "Мужчынкі, уцякайце да лесу, не ідзіце ў вёску. Гэта не нашы. Нешта тут не тое". А тыя смяюцца: "У страху вочы вялікія. Ды свае гэта, свае! Не панікуй, Валя!"

А вёска ачэплена фашысцкімі карнікамі, якія ўкаціліся ціха, непрыкметна, прытым былі ў звыклай партызанскай вопратцы. Яшчэ ніхто нічога не зразумеў. Жанчыны скардзяцца карнікам, што немцы забралі амаль усіх каровак, клянуць іх. Нясуць жбаны з малаком, частуюць фальшывых партызан. А тыя сабралі мужчын і пагналі нібыта ў Сокарава. Па дарозе ў кар'еры забілі. Забівалі не кулямі, а палкамі... Коні яшчэ доўга сіратліва, панына стаялі на вясковай вуліцы, здавалася, што разумелі бяду...

Без ніякага пераходу следам за вайной у дрымоту ўрываюцца адразу адна за другой стрэсавыя сітуацыі, у якіх быў: аўтобусная катастрофа ля Барысава і небяспечны пералёт на "Дугласе" па маршруце Катанія – Рым над Тырэнскім морам. Фрагменты перажытага ўспыхваюць і згасаюць, працінае фантомны боль у левым плячы, нібы на яве адчуваю ў роце пясок і раструшчанае шкло, бачу, як апантана моляцца манашкі ў салоне самалёце, які імкліва падае, як вольна лятаюць па ім шалікі, парасоны, кнігі...

Але ўсё гэта не для лірыкі. Толькі эпічная паэма можа ўвабраць у сябе такое і заціснуць тугім вузлом...

Драўляныя лавы старога мінскага чыгуначнага вакзала помняцца лепш, усёй істотаю – ад макаўкі да пят. Гэта таму, што тут у чуйныя сны прыходзілі першыя вершы.

Вось я сяджу на мулкай лаўцы, ды мне ўтульна, добра. Толькі што ўдала выслізнуў з аблавы на "зайцоў", якую праводзіў у інтэрнаце на Паркавай, 9 сам дэкан філфака Р. Булацкі з прадстаўнікамі прафкама. Цяпер расслабіўся, назіраю і думаю.

Калі прыходзяць цягнікі, выходжу на перон. Цікава назіраць за людскім вірам, за эмоцыямі. Увечары сюды з усяго горада сцякаюцца закаханыя парачкі. Яны карыстаюцца ад'ездамі і прыездамі, каб пад маркай пасажыраў, хоць і похапкам, але нашаптацца, намілавацца, нацалавацца. Позняй ноччу закаханых няма, разбрыдаюцца па сваіх прытулках спаць.

...Метадычна тупаюць па праходах і ўспорваюць соладка спячых міліцыянеры, не дадуць мне рыхтавацца да практычных заняткаў, адпачыць таксама замінаюць. Рабіць няма чаго. Застаецца толькі драмаць, думаць, а калі нешта прыйдзе ў галаву – запісваць у блакнот. Ён і аловак заўжды напагатове.

Учора высніў нашу вясковую кузню. Каваль Асвальд Тускенус часта паўтараў выслоўе: "Капыты павінны быць чыстымі, няма ног – няма каня". Наглядаць за яго працай, за мужчынамі, якія яму дапамагаюць, надзвычай цікава:

Як злодзея, пяньковым путам вяжуць
Шалёнага, крутога жарабка
Ля кузні, чорнай ад дымоў і сажы, –
Аж звоняць цуглі ў жылістых руках.
А конь дрыжыць, плыве па ветры грыва,
Бы зоркі, зрэнкі помсліва гараць.
Падковы выплылі з агню, як рыбы,
На капытах прыручаных блішчаць.
А праз хвіліну на дарозе золкай
Снапамі іскраў разлятуцца камяні,
І над зямлёй скапычанай вясёлка
Падковаю на шчасце зазвініць.

Многае ў зямным жыцці сыходзіць на нішто. Але асабліва шкада коней, якіх вельмі люблю. Тады я не ведаў, што адзін з дарагіх мне рускіх пісьменнікаў, ён жа акцёр і рэжысёр В. Шукшын, некалі скажа: "Калі памрэ апошні конь – свет рухне, таму што самыя лепшыя людзі – гэта коні".

Я неаднойчы мусіў вяртацца да вобраза каня як сімвала волі:

"Дзе ты, косю мой верны, блукаў,
Што любіў апантана, найболей,
Што ў агромністым свеце шукаў?"
– Толькі волю, адзіную волю!

Значна пазней у час бяссоніцы прыйшоў "Сюжэт":

Бальшак шырокі...
Конь...
І воля...
Калі б я ўмеў змалёўваць свет,
Мог лёгкім пэндзлем пасваволіць,
То гэты выбраў бы сюжэт.

Не фарбай,
А душой шчаслівай
Выпісваў бы рухомы лад:
Каня крутую шыю, грыву
І недасяжны далягляд.

З жыцця,
Якое цісне болем,
Каб і хацеў, дык не ўцячы...
Але Дарога,
Конь
І Воля
Мне сняцца, мрояцца ўначы...

А мае першыя каструбаватыя радкі пра каня неўзабаве з лёгкай рукі Алега Антонавіча Лойкі, шаноўнага выкладчыка і рэдактара, трапяць у калектыўны ўніверсітэцкі зборнік "Натхненне". Быў шчаслівы, што знаходжуся ў паэтычнай

сябрыне з Жэняй Янішчыц, Алесем Разанавым, Мар'янам Дуксам, Юркам Голубам, Леанідам Дайнекам. Ды ўсё гэта будзе пазней...

У гэтую ноч не да вершаў. Рэдакцыя "Чырвонай змены" перадала ліст з Гомеля, які парваў душу на дробныя частачкі і развеяў яе на ветры. Вось ён, парны аркуш са сшытка ў лінейку: "Мілы Сярожа! Доўга думала, перш чым напісаць гэты ліст. Але я так узрадавалася, калі прачытала твае вершы ў газеце, што ты жывы і нарэшце знайшоўся, з таго, з такой радаснай прычыны і не магу не напісаць. Пішу, а сэрца калоціцца, рукі дрыжаць. Цябе так доўга не было. Ты вярнуўся, ты вярнуўся. Божачка, якое шчасце! Я не забылася, як мы гаварылі і не маглі нагаварыцца з табой на беразе Сажа. Якая я тады была шчаслівая, я не адчувала сябе, лунала, як аблачынка, над Гомелем. Нашы сустрэчы для мяне, як цудоўны сон. Нават не магу паверыць, што ўсё гэта было.

Я не забылася, як ты казаў, што паэту трэба бачыць і чуць тое, што знаходзіцца за межамі вока і вуха. А таму ўпэўнена, што цяпер нават на адлегласці ты ўбачыш і пачуеш мяне, зразумееш пачуцці, якія перапаўняюць маю істоту.

Разумею, што з тых нашых маладых спатканняў прайшло шмат часу. І ты не той, і я не тая. Табе давялося прайсці праз страшэнныя пакуты. У цябе была жонка, сын. Я ведаю пра гэта, бо сачыла за тваім лёсам. Можа, яны знайшліся, і вы жывяце разам? Жадаю табе сямейнага ладу і згоды, бо пасля няволі чалавеку яшчэ больш хочацца жыць, атрымаць ад свайго існавання хоць нейкую радасць, асалоду.

Я ж няўдала выйшла замуж, засталася адна, без дзетак. Працую настаўніцай у школе. Жыццё практычна пражыта. Гляджу цяпер на чужое шчасце, але не зайздрошчу. Проста часам шкадую сябе. Вось і ўсё.

Мой любы Сярожа, нешта пяшчотнае пісаць не буду, ці мала што ты можаш падумаць. Наогул, усё гэта падобна на запіскі вар'яткі, таму "не бяры да галавы". Я сама не ведаю, што ва мне гаворыць, гэта і я і не я. Не судзі мяне строга. Я ж нічога не хачу, нічога не прашу, мне ад цябе нічога-нічога не трэба.

Калі не адкажаш, зразумею цябе, не пакрыўджуся. Я шчаслівая, што ты вярнуўся, што ты ёсць у гэтым свеце. Цалую. Бывай! Твая N."

З якімі трымценнем і ўсхваляванасцю пісаў адказ незнаёмай жанчыне, дзядзькавай каханцы, – ведаю толькі сам. Гэта заняло больш тыдня. Некалькі разоў рваў напісанае. Нарэшце расказаў, што я пляменнік Сяргея Ракіты, што вершы ў газеце мае, што наша сям'я таксама спадзявалася на лепшае, але ён загінуў у сталінскім канцлагеры.

Прайшоў месяц. Зваротнай сувязі няма. Калі за гэты час не адказала, то, відаць, ніколі ўжо не напіша. Пра дзядзьку расказваў бацька, успаміналі пісьменнікі, якія яго ведалі. Няблага быў злеплены матухнай-прыродай гэты родны мне чалавек: стройны, плячысты, рысы аблічча буйныя, выразныя, запамінальныя, характарам камунікабельны, прыязны, меў схільнасць да гумару. А якая яна, калі шчымліва памятае юначае пачуццё? Смяшлівая або засяроджаная, рамантычная або практычная? А з выгляду якая – чарнявая... русявая... бялявая? З яе радкоў такое не можа высвеціцца. Так назаўсёды і застанецца яна загадкай?..

З лістом у руках засынаю на вакзальнай лаве да чарговай міліцэйскай пабудкі...

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць шаноўнага
**Сяргея Іванавіча ЗАКОННІКАВА**
са слаўным юбілеем і зычаць яму моцнага здароўя,
натхнення і трываласці на доўгія гады жыцця і творчасці!



Мікола Гіль



...пішу Вам, каб падзякаваць за харошую беларускую газету, за грамадзянскую мужнасць, за прыстойнасць чалавечую...

# Добры дзень, родны "ЛіМ"!..

***З пошты былога рэдактара штотыднёвіка***

"Лімаўская" пошта ніколі, бадай, не была такой багатай і разнастайнай, такой вострай і злабадзённай, як у першай палове 1990-х гадоў. Упершыню за многія гады людзі пісалі ў газету без боязі, шчыра і адкрыта дзелячыся набалелымі думкамі і развагамі па актуальных адраджэнцкіх пытаннях і праблемах, выказваючы ўдзячнасць за тыя ці іншыя публікацыі, наогул ухваляючы і падтрымліваючы пазіцыю і накірунак газеты.

Пераважная большасць чытацкіх допісаў без затрымкі, літаральна з ходу трапляла на старонкі "ЛіМа", усё, больш-менш вартае ўвагі, не залежвалася ў рэдакцыйных шуфлядах. Інакш дзейнічаць, нават думаць мы ў рэдакцыі не маглі: калі чытач павярнуўся да газеты, як кажуць, тварам, дык і мы стараліся па магчымасці ісці яму насустрач. Чытацкая пошта не толькі аздабляла старонкі тыднёвіка, але і рабіла яго яшчэ больш баявітым, нават, як гаварылі мы, газетчыкі, "зубастым".

А ў маёй рэдактарскай папачцы заставалася з пошты хіба тое, што было адрасавана мне асабіста, ды зрэдзьчасу тое, што

па нейкіх прычынах (мела прыватны альбо дробязны змест ці адзнаку мастацкай бездапаможнасці) не магло быць надрукавана.

Трапляла сяды-тады ў папачку і тое, што мы свядома, бадай, не рашаліся друкаваць, каб не нашкодзіць нашай агульнай справе, не выклікаць на нелюбімую, нават ненавісную для ўладнай і прыўладнай антыбеларускай хеўры газету заўчасны і трагічны, смяротны ўдар.

Адкладвалася ў папачку і тое, што мы не маглі друкаваць з іншае прычыны. Прыходзілі ў рэдакцыю і лісты адкрытых ворагаў беларушчыны і, значыць, “ЛіМа”, аўтары якіх вылівалі на тыднёвік і найперш на ягонага рэдактара вёдры і бочкі памыяў і ўсялякага іншага паскудства і бруду, даходзячы ажно да таго, што абвінавачвалі “ЛіМ” у прапагандзе русафобіі, распальванні антыпольскіх і антыўкраінскіх настрояў, нават фашызму. Мы не баяліся гэтых нікчэмных і цынічных зласліўцаў, часам друкавалі і іх, каб чытачы ведалі, хто і чаго варты, кім і чаму, дзеля чаго на беларускай зямлі ўзгадаваны такія нашы “дабрадзеі”. Ды пускаць на старонкі ўсё іхняе агіднае і смярдзючае плявузганне – ці не зашмат было б гонару для паклёпнікаў і правакатараў?!

*Привет, так называемые белорусы! Недавно пробовал читать вашу газетёнку, “Лим” называется. А там какие-то бредовые идеи о свободе и независимости. Вы что, слабоумные? На что вы, быдло, надеетесь? Я вам советую забыть скорее все колхозное и способствовать быстрейшему переходу территории в состав России. Не для того Россия свою землю у Польши отвоевала, чтобы отдать ее недоразвитому племени. У меня все! Ваш колонизатор*!

Гэта адзін з прыкладаў такой пісаніны. Ананімнай. Не проста злоснай, а – гнюснай, з ашчэранымі зубамі. З жоўцю. Куслівай.

Былі і іншыя карэспандэнцыі. Падпісаныя, з прозвішчамі і пасадамі аўтараў. Вонкава спакойныя, амаль дзелавітыя, нават “аналітычныя”, з нібыта разумнымі, дасведчанымі развагамі, з падвядзеннем пад іх грунту гістарычных фактаў. З кідкімі, запамінальнымі загалоўкамі, кшталту: “Газета подстрекает к геноциду”. З такімі вось подступамі да абвінавачванняў штотыднёвіка бадай што ў крымінале: *“В последнее время многие газеты переживают трудные времена из-за отсутствия бумаги, денег, а то из-за уменьшения читательского спроса. Тяжелый недуг, видимо, поразил и газету национальной интеллигенции Беларуси “ЛіМ”, которая, чтобы остаться на плаву, хватается без разбору за сомнительные материалы, помогающие взбудоражить общественность и напоминающие ей, что прекращать охоту на ведьм даже в демократическом обществе пока не следует...*” І з такімі вось высновамі: *“В Беларуси есть немало настоящих и гуманистов и патриотов, которые никогда не пойдут на поводу у подстрекателей. И если последние не умерят свой пыл, то будем надеяться, что в наших законах найдется соответствующая трактовка их деятельности...*”

Само сабою, прыкра такое было чытаць і тады (гэтыя сапраўды “подстрекатели” і “провокаторы” жывуць на нашай жа зямлі, да ўсяго – нярэдка нашай жа гадоўлі), а тым больш – сёння. Зноў адолелі, перамаглі нас нашы ворагі і незычліўцы. Няхай не вязуць нас у цялятніках у ГУЛАГі, няхай не расстрэльваюць ва ўнутранай турме КГБ – так званай “амерыканцы”, ды ўсё роўна жыццё наша называць жыццём не выпадае. Па-ранейшаму жывём мы ў забраным краі. Беларускаму слову, беларускай думцы, як і лепшым носьбітам іх, ходу няма. Анікуды. Усё беларускае адкінута на ўзбочыну, і нават далей, у “цёмныя норы, у глухія лясы, за чорныя горы”. На чэзнанне-мадзенне, на скананне-паміранне.

І ў гэтым беспрасвецці маё старое і хворае сэрца саграваюць, падтрымліваюць успаміны. І найлепшыя з іх звязаны акурат з часам майго рэдактарства ў “ЛіМе”. Пазнакі таго часу – у згаданай рэдактарскай папачцы. Светлыя, вядома, якіх у ёй – пераважная большасць. Пра паасобныя з іх і хачу распавесці.

## СВЯТОЧНЫ СПІЧ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Набліжалася 27 ліпеня 1996 года – Дзень незалежнасці Беларусі. Як і чым яго адзначыць на старонках штотыднёвіка? Было зроблена інтэрв'ю Г. Карпенкі – сур'ёзнае, грунтоўнае, у загаловак якога былі вынесены такія словы Генадзя Дзмітрыевіча: "Галоўная ідэя – будаванне свайго дому, сваёй дзяржавы". Але хацелася, як кажуць, і яшчэ нечага. Скажам, публіцыстычнага слова пісьменніка. Звярнуліся не да абы-каго – да Васіля Быкава. Ён прыязна ставіўся да газеты, заўсёды з ахвотаю адгукаўся на нашы просьбы і прапановы. І гэтым разам Васіль Уладзіміравіч практычна не адмовіўся. Праўда, напісаць зараз, неадкладна штосьці спецыяльна для "ЛіМа" яму з нейкае прычыны не выпадала, аднак жа і засмучаць родны тыднёвік адмовай ён, па ўсім, не хацеў, і таму прапанаваў ("Калі вас гэта не бянтэжыць, вядома...") артыкул, толькі што напісаны ім акурат з гэтае ж нагоды – Дня незалежнасці Беларусі – па замове нейкае маскоўскае газеты. Апошняя акалічнасць нас, вядома ж, не бянтэжыла (ці шмат нашых падпісчыкаў чытаюць тое маскоўскае выданне?!), і неўзабаве мы мелі ў рэдакцыі той трохстаронкавы артыкул. Я сам пераклаў яго на беларускую мову. Тры-чатыры моманты ў артыкуле насцярожвалі, спараджалі пытанне: чым можа агукнуцца нам яго публікацыя? Не друкаваць Быкава – абсурд! Але ж гэтыя моманты тычацца асабіста ППРБ, а мы ўжо добра ведалі, чым такое "журналісцкае свавольства" абарочваецца. Непакоіліся мы, само сабою, не за ўласны лёс, а за лёс выдання. Што рабіць? Хто падкажа? Ці не найлепш будзе, калі сам... аўтар артыкула? Васіль Уладзіміравіч іранічна хмыкнуў, выслухаўшы нашае, пэўна ж, не надта ўцямнае тлумачэнне, а пасля катэгарычна і досыць з'едліва (гэта адчулася па ягоным голасе ў трубцы) сказаў: "У такім разе – не друкуйце!" І паклаў слухаўку. Мы ведалі прынцыповасць, цвёрдасць, нават пэўную зацятасць Васіля Уладзіміравіча, калі справа тычылася чагосьці важнага, сур"ёзнага, несумненнага, і звярталіся да яго з такою просьбаю, спадзеючыся, шчыра кажучы, на цуд: вельмі ж хацелася, каб у святочным нумары тыднёвіка было ягонае выступленне. Цуду, на жаль, не адбылося. А на самаўпраўства з быкаўскім тэкстам мы пайсці не маглі.

Так і аказаліся тыя тры лісткі машынапісу ў маёй папачцы.

Вось яны.

## БЕЛАРУСЬ ПЛЯШЕТ И ПОЕТ

*Суверенность, независимость – понятия политического лексикона, с некоторых пор обретшие у нас негативный, граничащий с бранью оттенок. А между тем сравнительно недавно суверенность и независимость имели иной, вполне уважительный, почти сокральный смысл и не сходили со страниц большевистской печати.*

*Правда, тогда они относились к народам отдалённых стран, ведших "самоотверженную борьбу против колониальных поработителей". Иное дело теперь, когда той самой свободы и независимости возжелали народы собственной, незабвенной страны Советов. Многие из нынешних демократов, не говоря уже о коммунистах-ленинцах, спешно перекрасились в матёрых патриотов-державников и, как за главный аргумент собственной метаморфозы, ухватились за один из двух постулатов известных соглашений – о целостности территорий. Другой же, не менее (а может, и более) важный – о праве наций на самоопределение – при этом выбрасывается за ненадобностью, словно его там никогда и не было.*

*Давно известно, что главные истины просты и элементарны – как хлеб и вода, жизнь и смерть. Это книжники и фарисеи во все времена запутывали их к собственной выгоде. Успешно запутывается ныне суверенность и независимость.*

*Недавний порыв наций и народов к освобождению из-под имперских глыб произошёл не по причине чьего-либо недосмотра или лукавства, как это пытаются изобразить новоявленные апологеты державности, а всё-таки на основе безрадостного опыта 70-летнего существования в леденящем узилище тоталитарной империи. В Беловеже был удачно использован редкий момент, нечасто случающийся в истории империй, и эта империя рухнула. Без крови и особенных потрясений, избежав изнурительной внутренней борьбы, словно по-щучьему велению. Казалось бы, уже одно это обстоятельство должно снискать благословение всех, в том числе и россиян, наконец-то освободившихся от постылой надобности, как утверждали патриоты, кормить и развивать неблагодарные малоразвитые нации. Благословения, однако, не получилось, многозначительный опыт принёс негативный результат, и все его участники только и знают – роптать. Но отчего? Почему так? Не в силу ли всё той же неожиданности, внезапности, счастливо осенивших в Беловеже руководителей трёх братских республик, но оставивших в растерянном безразличии населявшие их народы? В самом деле, что-то было не учтено, что-то упущено. Семьдесят лет подневольного существования в образцовой социалистической казарме деформировали людское сознание, породив особую человеческую ментальность социальных иждивенцев, ожидавших всё нужное для жизни (и счастья) извне и сверху – от партии, политбюро, совмина и домоуправления. Опять же, стоит ли сбрасывать со счетов как спонтанный, так и хорошо организованный саботаж коммунистического авангарда (именуемого ныне номенклатурой), который, успешно оправившись от путчевского испуга, понял, что "охота на ведьм" не состоится, а прихватизаторская экономика даже соблазнительнее партноменклатурной привилегированности.*

*В Беларуси путчевский испуг оказался, может быть, сильнее, чем в других местах, особенно после того, как на окраине Минска устрашающе возникли "Куропаты". Но он и прошел скорее, когда обнаружилось, что БНФ лишь тщетно пугает люстрацией, осуществить которую он не в состоянии: вся кагебистская картотека предусмотрительно отправлена на Лубянку. Данное обстоятельство и определило политический выбор белорусского руководства – не Запад, но Восток. Так самая большая гроза миновала, даже не прогремев над Беларусью.*

*Первые успехи ободрили, их надлежало закрепить. Неважно, что экономика вскоре оказалась в руинах, в труху превратились "зайчики", политика реформ приказала долго жить. Зато путём шокового референдума и хитроумного избирательного закона была устранена оппозиция, а прежде того появился "всенародно избранный" президент, и с ним на политическом горизонте замаячил загадочный призрак Славянского Союза ("Славянского базара", "Славянского Собора"). Неважно, что об этой идее нет определенного мнения у самого славянства, доселе не выхаркавшего с кровью предыдущую, коммунистическую идею. Зато предостаточно энтузиазма у новоявленного претендента в его Президенты. Ну а суверенность и независимость? Её вспоминают в Беларуси как досадный политический казус и на все лады ругают "демократов" Горбачёва и Ельцина. Первого за развал КПСС, другого – СССР. О собственных демократах помалкивают, кажется, таковых в Беларуси уже не усматривают. Оно и в самом деле похоже на правду.*

*С помощью ОМОНа устранена не только парламентская оппозиция, но и сам парламент, вместо которого в стране действует новоизобретенная президентская "вертикаль". Экономика в параличе, курс на долгожданную интеграцию с Россией зависает в воздухе: кому нужна нищая сестра-иждивенка? Даже если она заявляет о своей готовности принять на постой и прокорм чужие войска, где гарантия того, что эти войска действительно будут накормлены? К тому же ученые-академики глубокомысленно поучают, что полного суверенитета не бывает, что независимость – плод коварных усилий ЦРУ. Разумеется, выкорчевать агентуру*

*ЦРУ – весьма хлопотное, если не зряшное дело, зато у всех на виду финансовая деятельность Фонда Сороса. Но, как метко заметило недавно радио “Свобода”, зачем нам американские миллионы, если их невозможено украсть? Значит, вон из Беларуси, господин Сорос, которому тут же был создан режим наибольшего неблагоприятствования. Заткнут рот независимой прессе, развалена наука, при последнем издыхании национальная культура. Зато пляшет и поет в Витебске щедро профинансированный президентом “Славянский базар” и свинцовой силой наливается сумасбродная диктатура.*

*С чем и поздравляем Беларусь в День ее независимости!*

## АБАРВАЛАСЯ ЖЫЦЦЁ – АБАРВАЛАСЯ І ДАСЛЕДАВАННЕ

Адзін з самых светлых маіх успамінаў пачатку 90-х гадоў савецкага веку звязаны з імем і воблікам таленавітага нашага паэта Івана Ласкова. Ды сталася так, што кантакты нашыя, якія перарасталі ў сяброўства, звязаны не так з ягонай паэзіяй, як з моўнымі, а найперш з ягонымі гістарычнымі, скажу так, даследаваннямі.

Шчымлівымі сведкамі гэтага – тры лісты Івана Антонавіча (мільганула: гэтак звалі і выдатнага нашага празаіка, аднаго з самых начытаных і інтэлігентных літаратараў, карпатлівага і патрабавальнага настаўніка многіх маладзейшых творцаў пяра Янку Брыля), што зберагліся ў маёй папцы.

*Добры дзень, шаноўны Мікола Сымонавіч!*

*Можа, памятаеце, у кастрычніку мінулага года я даслаў Вам артыкул “Адкуль пайшла беларуская мова”. Мы пра яго гаварылі з Вамі напачатку лістапада, калі я прыязджаў у Мінск. Тады Вы абяцалі мне, што артыкул з часам будзе надрукаваны.*

*Я “ЛіМ” выпісваю і чытаю, але гэтага свайго артыкула пакуль што не бачыў. Праўда, некалькі нумароў я не атрымаў (губляюцца!). Па ганарары меркаваць аб публікацыі я не магу, бо прасіў пералічыць яго на рахунак Таварыства беларускай мовы.*

*Я папрасіў аднаго знаёмага-мінчука зайсці ў “ЛіМ” і спытацца пра мой артыкул. Яму сказалі, што нічога майго ў рэдакцыі няма.*

*Вельмі прашу Вас паведаміць, ці ён надрукаваны, ці проста згубіўся? Калі так, то я дашлю яшчэ адзін паасобнік.*

*Дасылаю Вам газету “Русские ведомости”. Думаю, што публіцысты “ЛіМа” маглі б скарыстаць яго на старонках газеты. Беларускі чытач павінен ведаць, якія цемрашальскія сілы дзейнічаюць цяпер у Расеі, якая пагроза ідзе з яе Беларусі. “Русская партия” замахваецца аж на ўсю Украіну на ўсход ад Дняпра! Беларусь “Русская партия” у сваёй праграме не згадвае, але гэта не азначае, што не точаць зуб... На другой старонцы “Русские ведомости” друкуюць заклік “рускай” з Магілёва: “Не должна перевестись русская нация! Кто, кроме нас, встанет на нашу зашиту? Только мы сами!”*

*Усяго найлепшага.*

*І. Ласкоў.*

*4 лютага 1992 года.*

Гэта – першы ліст з далёкага Якуцка, дзе жыў наш паэт. Апынуўся ён там у выніку таго, што падчас вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве пазнаёміўся, пасябраваў і пабраўся з якуцкай паэтэсай. Не памятаю сёння, што здарылася з яго артыкулам у “рэдакцыйнай кухні”. Мо сапраўды згубіўся нейкім чынам: скажам, у час рамонту, ці ў выніку начнога шмону ў “лімаўскіх” кабінетах, учыненага задужа цікаўнымі “товарищами в цивильном”? Як не памятаю і таго, ці ён усё ж знайшоўся, ці быў наноў дасланы Ласковым. Аднак жа артыкул быў неўзабаве надрукаваны. Пра гэта – другі ліст з Якуцка.

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*

*Вельмі ўсцешаны публікацыяй на старонках "ЛіМа" майго артыкула "Адкуль пайшла беларуская мова". Шчыры дзякуй рэдакцыі і Вам асабіста.*

*Зразумела, хібаў пры падрыхтоўцы такіх складаных тэкстаў не ўнікнеш. Так і тут пракралася некалькі памылак. У старажытных словах, чамусьці ва ўсіх выпадках, на месцы ѣ (яць) пастаўлены ъ (ер). У другім слупку (сёмы радок зверху) замест "старажытнарускай" надрукавана "старажытнай", у восьмым (38-мы радок зверху) прапушчаны прыназоўнік "у", з-за чаго ўзнік не той сэнс (было: "перанеслі сваю сталіцу ў Маскву", стала: "перанеслі сваю сталіцу Маскву"). Застаецца толькі пашкадаваць, што, будучы ў Мінску ўвосень, не здолеў вычытаць артыкул пасля машынкі. Зрэшты, гэта дробязі, і адзначаю я гэтыя памылкі толькі таму, што артыкул дыскусійны і апаненты могуць чапляцца да любой хібы.*

*Яшчэ раз сардэчна дзякую.*

*З пажаданнем поспехаў Іван Ласкоў.*

*6 красавіка 1992 года.*

Крыўдаваў за памылкі Іван Антонавіч слушна, вядома, хоць унікнуць іх у газетных публікацыях сапраўды цяжка. Ну вось, адносна тых самых "яця" і "ера": ды такіх літар проста не было ў наборных касах газетных лінатыпаў, як няма, напэўна, і ў гэтым маім старым, дабітым кампутары.

Галоўнае ж у тым, што артыкул І. Ласкова выклікаў велізарную цікавасць, хоць, вядома ж, і не адназначную. Гучалі, скажам, папрокі ў недасведчанасці і нават дылетанцтве, сёй-той ківаў на мараль з крылоўскай байкі пра шаўца і пекара (намякаючы на тое, што аўтар – хімік па адукацыі, а не філолаг). Дык жа Ласкоў і не хаваў гэтага! Але, як чалавек адукаваны, цікаўны і ўніклівы, заўважыў, грунтоўна вывучыў і распавёў пра тое, пра што не мог не распавесці. Яму, беларусу, было непамысна і крыўдна ад таго, што ў гісторыі нашага народа столькі белых плям, столькі хлусні, розных выдумак, сумнеўных нацяжак і бязглуздых міфаў.

Пра тое, што канкрэтна сцвярджаў і досыць пераканаўча даводзіў І. Ласкоў у сваім артыкуле, гаварыць наўрад ці ёсць неабходнасць: усё гэта занатавана на старонках "ЛіМа" 1992 года.

Яшчэ большы чытацкі поспех мела наступная публікацыя нашага далёкага якуцкага карэспандэнта. Пра яе І. Ласкоў піша ў лісце ад 24 лістапада таго ж 1992 года:

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*

*Пасылаю Вам свой новы артыкул – "Дагістарычныя блуканні". Нарэшце, з дапамогай лінгвістычных пошукаў удалося надзейна аддзяліць летапісную літву ад летапіснай жамойці – г.зн. знайсці доказы таго, што літва і жамойць – розныя этнасы. Спадзяюся, што "ЛіМ" не адмовіцца надрукаваць гэтую працу. Ведаючы цяжкае становішча беларускага друку і "ЛіМа" ў прыватнасці, ганарар прашу пакінуць у рэдакцыі, на патрэбы газеты.*

*Калі артыкул будзе прыняты, то праз нейкі час будзе даслана яго другая, заключная частка – па матэрыяле не меней цікавая.*

*З пажаданнем поспехаў "ЛіМу" і Вам асабіста, І. Ласкоў.*

Вядома ж, мы без затрымкі надрукавалі гэтае новае лінгвістычнае даследаванне Івана Антонавіча (пад назваю "Племя пяці родаў"). Мы ўспрынялі яго ў "ЛіМе" з вялікай цікавасцю. Наша старажытная гісторыя, паходжанне і станаўленне беларускага этнасу паўставала, бадай што, у новым святле. Прынамсі, выдавала, што сучасныя літоўцы – самазванцы, якія зусім беспадстаўна прысвоілі сабе і нашу назву (мы спрадвеку былі літ(ць)вінамі, літоўцамі, а яны гэтак жа

спрадвеку – жамойтамі), і нашых князёў (ніводнае імя вялікалітоўскіх князёў не вытлумачваецца сродкамі мовы сучасных так званых літоўцаў), і нашу гісторыю, і нашу сталіцу, урэшце. І нас здзіўляла і бянтэжыла тое, што адносна публікацыі захоўвалі маўчанне нашы навукоўцы – гісторыкі, этнолагі, мовазнаўцы. Ім ніякавата было ўступаць у дыскусію з "дылетантам"? Ці сам час – вірлівы, неакрэслены, зменлівы (ішоў 1993 год) – не спрыяў разгарненню навуковых спрэчак? Маўляў, не да гэтага, тут найпершая праблема і задача – проста выжыць? Хто яго ведае.

Пасля ж надышлі і задоўжыліся на многія гады яшчэ горшыя часіны, калі пытанні беларушчыны ў беларускай па назве дзяржаве наогул спісаны з парадку дня. Але ж напісанае – застаецца? Нібыта так, калі верыць старажытным.

Зрэшты, мо не было б маўчання вакол цікавых (нават бездадносна да высноваў) лінгвістычна-гістарычных даследаванняў паэта і навукоўца, калі б быў сёння з намі сам Іван Ласкоў. На жаль, ён трагічна загінуў. Быў жорстка забіты на сваёй дачы пад Якуцкам. За што і чаму? Цяжкія, няпростыя пытанні. Была такая версія. Нібыта Іван Антонавіч па нашай беларускай празе да праўды і справядлівасці, па нашай жа беларускай упартасці, якая прымяняецца не заўсёды там, дзе трэба, і надта ж неаглядна, штосьці капнуў пад нейкіх якуцкіх ці не літаратурных мафіёзі (ёсць яны, аказваецца, і ў сцюдзёнай Рэспубліцы Саха), і тыя не даравалі ганарліваму і надта ж чэснаму беларусу.

А мне й сёння не верыцца. Бо – стаіць уваччу Іван, Ваня Ласкоў: жывы, рухавы, непаседлівы, гаварлівы, адметны найперш бадай тым, што быў невысокага расточку, але меў надзіва густы, трубна-барытоністы голас. Апошняя акалічнасць ці не штораз змушала міжволі азірацца і шукаць вачыма таго, вялікага і мажнога, каму мог бы належыць гэткі голас. Бачу яго на «лімаўскіх» калідорах: апошнія гады сустракаў яго акурат там. Прыязджаючы зрэдку ў Мінск (часта бываць не выпадала – далячынь, край свету – Якуцк), ён не прамінаў зайсці ў наш "ЛіМ", у рэдакцыі "Полымя" і "Беларусі", якія месціліся побач, на тых жа калідорах. Ці не двойчы заходзіў з сынам – ладнаватым, ужо вышэйшым за бацьку падлеткам, беларусам, але трошкі й якутам. На просьбы распавесці пра Якуцію і якутаў – распавядаў (ад яго пачуў, што найбольш арганізавана, упарта, зацята і доўга, са зброяй у руках супраціўляліся рускім казакам-каланізатарам менавіта якуты), але з куды большым жаданнем і прагаю слухаў нашы аповеды аб тым, што робіцца на Беларусі, распытваў, якія перспектывы развіцця роднай літаратуры, асветы і культуры. Не пакідаў думкі вярнуцца на Радзіму. Якім чынам і калі, якім коштам, з якімі выдаткамі – маўчаў, не гаварыў. Разрываўся паміж унутраным поклічам і абавязкам перад сям"ёю? Фізічна жыў там, дзе вечная мерзлата, а душою – тут, на зямлі зялёных пушчаў і блакітных азёр, жытнёвых палеткаў і мурожных лугоў?

Дзе яна, душа ягоная, цяпер? Пэўна ж, тут, дома...

## АЛЕСЬ ЧОБАТ І ЯГО СУМНЫЯ ЖАРТЫ

Чытачы "ЛіМа" першай паловы 1990-х памятаюць, безумоўна, публікацыі гродзенца Алеся Чобата – надзвычай каларытную, вельмі дэталізаваную, гарэзлівую, густа насычаную гумарам і ironіяй, шмат у чым парадаксальную, часам аголена публіцыстычную, смелую, вострую на думку і слова, баявітую, а найперш проста таленавітую і прозу, і паэзію. Мы яго ахвотна друкавалі, цешачыся з таго, што бадай зайздросцілі сваім "лімаўскім" чытачам: яны яшчэ будуць мець шчасце і радасць прачытаць вось гэтую яго чарговую, як заўсёды шчодрую на неардынарныя, свежыя думкі і высновы, вонкава вясёлую, а на самой справе горкую і балючую рэч. У 1996 годзе, здаецца, Алесь Чобат стаў "лімаўскім" лаўрэатам – як аўтар лепшых публікацый года.

Асаблівую адметнасць творчасці Алеся Чобата надавала тэма "пальшчызны"

на Беларусі. Тэма, скажам шчыра, няпростая, даўняя і дасюль балючая для ўсіх свядомых беларусаў. У нас яна агукаецца штораз, калі толькі заходзіць гаворка пра нашу гісторыю цягам апошніх пяці стагоддзяў, і будзе агукацца яшчэ вельмі доўга.

Нядаўна, скажам, трапіў на вочы вялікі, шчодры на факты і высновы артыкул з красамоўнай назвай "Канец Літвы". Само сабою, не сённяшняй Летувіскай Рэспублікі, а – Вялікага Княства Літоўскага, нашай, па сутнасці, сярэдневечнай дзяржавы. І што сцвярджае аўтар артыкула? Што ВКЛ загубіла Расія, Расійская царская імперыя. Думаецца, акцэнт тут зроблены відочна памылковы. Так, Расійская імперыя разам з іншымі коршакамі разарвала на кавалкі і спыніла існаванне ў канцы XVIII стагоддзя польскай Рэчы Паспалітай, але – менавіта польскай дзяржавы, дзе ўжо не было аніякага ВКЛ. Польская Рэч Паспалітая паводле канстытуцыі 3 мая 1791 года была ўжо ўнітарным утварэннем. З ВКЛ было скончана. Расія цягам двух царскіх стагоддзяў і аднаго савецкага зніштажала Беларусь... А ВКЛ зліквідавала Польшча. Пачалося гэтае зліквідаванне яшчэ ў XVI стагоддзі, а мо і ў XV. Польшча рабіла ўсё для таго, каб як мага хутчэй акаталічыць і тым самым спольшчыць спачатку літоўскую (гэта значыць, беларускую – у сённяшнім разуменні) шляхту, а пасля і просты люд. Першае яна паспяхова здзейсніла. Народ жа, пакінуты без уласнай культурна-духоўнай эліты, быў асуджаны на незайздроснае існаванне, на паступовае няўмольнае перараджэнне ці выміранне.

На вялікі жаль, прэтэнзіі на так званыя "крэсы ўсходнія" аказаліся занадта жывучымі і ў даваеннай Польшчы, і ў паваеннай. Палякі і ў часы "народнай дэмакратыі" не зрабілі і спробы папрасіць прабачэння ў беларусаў за стагоддзі гвалту і прыгнёту, рабунку і здзекаў. А пасля распаду Савецкага Саюза і ўзнікнення на заходніх межах Польшчы незалежнай Беларусі шавіністычныя трызненні аб "вялікай Польшчы" быццам набылі новую падпітку. Хай не "ад можа да можа", як калісь, а хоць бы – "у старых межах", давераснёўскіх. Зноў пачалі шмат гаварыць аб паляках на Беларусі, аб адраджэнні на ўсходзе польскага (не каталіцкага, а менавіта польскага!) касцёла, аб развіцці тут польскай культуры. І гэта прытым, што ніколі ніякіх палякаў на Беларусі практычна не было, масавае перасяленне іх з Польшчы не адзначана ні ў адным стагоддзі. А вось тое, што палякі на тэрыторыі ВКЛ не мелі права набываць зямлю і маёмасць, зафіксавана, і не аднойчы. І вожыку ясна, што палякі тут – усяго толькі "касцёльныя", гэта значыць беларусы "польскай веры", бо касцёл жа, як памятаем, польскі, а не проста каталіцкі. І ў выніку ўжо паўстаў так званы "Звёнзэк полякуў на Бялорусі". Акурат – палякаў на Беларусі, нават не – беларускіх палякаў. Дробязь, вядома, але – немалаважная дробязь...

Алесь Чобат, будучы гарадзенцам і штодня бачачы самыя розныя, малыя і вялікія пазнакі празмернай, скажам так, актыўнасці "польскай меншасці", а часам не толькі актыўнасці, але і сякіх-такіх "выбрыкаў" ейнага кіраўніцтва, не мог не пісаць пра гэта. І пісаў гэтак жа, як і пра ўсё іншае: гумарыстычна-іранічна-сатырычна, чым, вядома ж, здабыў вялікую нелюбоў "обыватэлюў польскіх".

Міжволі згадваецца пампезнае гулкае свята пад назваю "Фестываль культур народаў Беларусі", што праходзіць у той жа Гародні ці не штогадова. Аказваецца, Беларусь не мона-, а шматнацыянальная дзяржава, у якой жывуць больш чым два дзясяткі народаў, у тым ліку грузінскі, азербайджанскі, армянскі, карэйскі, башкірскі, нямецкі і г.д. І ўсё гэта – на поўным сур'ёзе, з арганізацыяй і фінансаваннем на дзяржаўным узроўні.

Шкада, што сёння няма і "ЛіМа" колішняга, і што пастарэў-прытаміўся няйначай спадар Чобат, а то ж як бы ён мог разгарнуцца-разысціся на такой спажыўнай для яго парадаксальнага таленту глебе!

Даўно тое было ўжо, але я і сёння згадаю ягоныя "сустрэчы з пані Сухоцкай і панам Пазнаньскім" ды "Colchozum veto", скажам, і не магу ўстрымацца, каб не

ўсміхнуцца: і хораша, бо – таленавіта напісана, і горка-скрушліва – бо праўдзіва і балюча.

А напамінам пра тое і пра самога Аляксандра Хведаравіча Чобата – некалькі ягоных лістоў да мяне той самай – 90-я гады – маёй "лімаўскай" пары. Два-тры з іх прывяду тут. Без каментароў. Проста, каб паказаць, што і ў лістах адбілася, як у люстэрку, ягоная адмысловая, ні на кога не падобная, тужліва-усмешлівая, самотна-здзеклівая і надта ж беларуская, але зусім не мужычая, а з вялікім пачуццём уласнае годнасці натура.

*г. Гродна. 15.03.1996 г.*

*Шаноўны Мікалай Сямёнавіч!*

*Прабачце, што звяртаюся непасрэдна да Вас "праз галовы" супрацоўнікаў, якіх люблю і паважаю. Але я прашу ўважліва прачытаць гэты артыкул, які я прапаную да друку – справа ў тым, што многімі людзьмі, многімі сумленнымі патрыётамі ён можа быць ацэнены, як казалі "саветы", "неоднозначно": здрадніцкі, тэндэнцыйны, заказны, раскольніцкі і г.д. А ўсё з той прычыны, што беларусы вельмі цікавыя людзі: вось за апошнія дзесяць гадоў прайгравалі баталію за баталіяй, рухаліся сЛіМачым крокам, дыскутавалі без канца і толку – але ўсё "рабілі правільна" і так будзем далей! Мы не любім паглядзець на сябе ў люстэрка. І я не прэтэндую на апошнюю ісціну, але ў люстэрка я паспрабаваў паглядзець н а  с я б е – і там убачыць і сябе, і свой народ, але так, як я яго бачу.*

*Мы хварэем на тую ж бальшавіцкую хваробу, што праўда толькі адна, верная дарога адна, а наш Сусанін самы лепшы на свеце...*

*Прашу Вас, Мікалай Сямёнавіч, знайдзіце час і перагледзіце гэтую работу. Не магу ведаць, што там у Мінску і як, але калі "ЛіМ" прыме гэтую работу да друку, то асмелюся з тых прычынаў, якія я памянуў вышэй, сказаць тое , што думаю – калі друкаваць, дык цяпер. Прабачце, што так пішу, але прашу Вас першы раз і прашу не дзеля сябе. Добрага Вам здароўя, бо ўсё астатняе ад нас ужо не залежыць... Такія цяпер сумныя жарты.*

*Аляксандр Чобат.*

Другі ліст – кароценькі, проста падзячны:

*Дарагі Мікалай Сямёнавіч!*

*Запозненая дзякую за "Colchozum veto" – калі ласка, прабачце мяне, гультая. Але хай ужо лепш будзе пазняк, чым ніколі...*

*Асмельваюся прапанаваць новыя вершы. Калі на іх цяпер ізноў не той час з прычыны новых палкоўнікаў, значыць, не той – нічога страшнага. Але ў любым выпадку прашу Вас прыняць іх на добрую памяць. Як Вы аднойчы казалі: "Усё, што магу..."*

*Дай Вам Бог здароўя і яшчэ раз здароўя, бо ўсё астатняе ад нас не залежыць.*

*З павагай Алесь Чобат.*

*30.01.1997.*

Тут просяцца кароценькія каментары. Першы – наконт палкоўнікаў. Маюцца на ўвазе палкоўнікі Посахаў і Замяталін: пэўна, хтосьці з іх замяніў другога на высокай пасадзе акурат тым часам. Другі – адносна "ўсё, што магу..." Калі я віншаваў у рэдакцыі новых "лімаўскіх" лаўрэатаў, у тым ліку і Чобата, дык нагадаў ім словы генерала з фільма "Гарачы снег" па Бондараву. Там генерал уручаў ацалелым артылерыстам узнагароды, прыгаворваючы: "Усё, што магу...", маючы на ўвазе магчымасці сваёй "улады" – вышэйшых узнагарод ён асабіста не меў права даваць. Я ж меў на ўвазе наш невялікі "лімаўскі" прэміяльны фонд.

І трэці ліст:

*30.04.97. Гродна.*
*Паважаны Мікалай Сямёнавіч, добры дзень!*

*Дзякуе Вам у чарговы раз правінцыйны сціплы аўтар – так аператыўна надрукавалі апошнюю маю падборку! Ды яшчэ цалкам! – але ж самі ведаеце, як то ў нас рабіць людзям дабро. Ты яму робіш дабро, а ён цябе завальвае новай работай. Хіба толькі мяне можа апраўдаць, Мікалай Сямёнавіч, з маім "Евангеллем ад Максіма" – раблю я трэці год у Гродне ў Музеі Максіма Багдановіча, чытаю экскурсіі ды лекцыі, капаюся ў старых выданнях. Вот і назбіралася за тры гады... Артыкулаў пра нашых святых шмат нагароджана, але да ўсяго ўсё суха, акадэмічна, як быццам паталагаанатамы нябожчыка рэзалі. Але і вершам не так проста – таму і аддаю "ЛіМу" на ацэнку, бо тыднёвік для мяне быў і ёсць нейкі пэўны ўзровень, заслона ад халтуры. Прашу Вас і калегаў знайсці час і паглядзець мае вершы – спадзяюся, а раптам атрымаліся, як усе аўтары спадзяюцца.*

*Дарэчы, ці не хацелі б Вы прыехаць на дзень-два да Гродна? Усё ж такі наш музей толькі намнога меншы за сталічны, але ніхто не кажа, што горшы, плюс нядаўна адчынілася ў нас – ужо пры цяперашнім прыжыме! – экспазіцыя Ларысы Геніюш. Хіба першая такая памяць па ёй...*

*Прыязджайце, мы з Данутай будзем Вам радыя.*
*Дай Бог здароўя і апекі ў гэтым жыцці.*
*Ваш Алесь Чобат.*

Ну хіба ж можна было не зберагчы такі ліст?!

## ПРАЧНІЦЕСЯ. УСТАНЬЦЕ. ЙДЗІЦЕ...

Часта пісаў у "ЛіМ" той парою пенсіянер з вёскі Астрошыцы Лагойскага раёна Віктар Скараход. Часцей – допісы, водгукі на падзеі бурнага палітычнага, эканамічнага ды сацыяльнага жыцця таго часу. Але "грашыў" і вершамі, сведчаннем чаго – і гэты ліст з папкі былога рэдактара.

*Добры дзень, шматпаважаны Мікалай Сымонавіч!*
*Дзякую за публікацыю: купіў 1 кг масла.*
*А зараз у Ваш архіў:*

Маўчаць паэты Беларусі.
Стаміліся і заляглі.
А неба Бацькаўшчыны любай
Укрылі хмары й тулягі.
Адзін Гілевіч сее зоры,
Свяцілі каб табе і мне,
Ды Быкаў, гонар наш і годнасць,
Шчыруе зранку ў баразне.
Сяргей Законнікаў стральбіну
Дранкуляй-рыфмаю наб'е
Ды смаляне ваўкам куртатым
Па галаве ці па спіне.
Ды, можа, хто яшчэ з руплівых
Да сонца выйдзе на загон
Будзіць і весці люд санлівы
Да ясназорных лепшых дзён.
Прачніцеся. Устаньце. Йдзіце
З сяўнёй, за плугам ці з касой.

Вясёлкі-песні шлях расквецяць
І павядуць нас за сабой.

*Са шчырым шанаваннем В. Скараход. 12.10.*

Дата – прастаўлена, а года – няма, і канверціка – таксама: чамусьці не збярогся.

## У ДЗЕНЬ ПЕРАВАРОТУ

Пра Сяргея Іванавіча Грахоўскага, пра ягоныя стасункі з "ЛіМам" той пары можна было б распавесці нямала: ён быў, бадай, адным з самых актыўных "лімаўскіх" аўтараў. Больш за тое: ён практычна быў "ЛіМаўцам", бо амаль штодня заходзіў у рэдакцыю і гэтак жа часта тэлефанаваў. І надзвычай часта, больш, бадай, чым хто іншы, дукаваўся ў "ЛіМе". Ды я пішу не ўспаміны, а ўсяго толькі гартаю сваю архіўную, так бы мовіць, папку. А ў ёй знаходжу два аркушыкі пажаўцелай ужо газетнай пісчай паперы з рукапісам верша С. Грахоўскага "Пераварот". Пасля дзвюх строф, напісаных адным почыркам, стаіць дата: 20 жніўня 1991 г. Пасля апошняй, трэцяй страфы, запісанай маёй рукою, – 21 жніўня 1991 г. Зірнуў на лісток і прыгадаў...

Маскоўскі путч супраць Гарбачова мы літаральна ўсе ў "ЛіМе" прынялі, як кажуць, "у штыкі", ні на хвіліну не сумняваючыся ў яго хуткім і ганебным правале. Прынамсі, страху чамусьці не адчулі. Мо таму, што надта ўжо ж несамавіта выглядала тая кучка нейкіх разгубленых, панікла-зладзеяватых путчыстаў з дрыжачымі рукамі. Само сабою, ніякіх крокаў па падтрымцы іх рабіць нават і не думалі. Такога ж настрою прытрымліваліся і аўтары тыднёвіка, найперш пісьменнікі, якія ў тыя тры дні завітвалі ці званілі ў рэдакцыю.

20 жніўня пазваніў і Сяргей Іванавіч. Сказаўшы, што пачуваецца не надта добра, папрасіў запісаць пад ягоную дыктоўку дзве страфы верша, якія напісаліся пад уражаннем тэлевізійных карцінак з Масквы. Хтосьці з хлопцаў – ці не Барыс Пятровіч? – запісаў іх, буйна, размашыста:

Нас дасюль не навучылі
Ні Іспанія, ні Чылі,
І даверлівы народ
Дапусціў пераварот.

Не дай, Божа, да асноў
Дабяруцца партакраты, –
Нас усіх чакаюць зноў
Голад, кулі, кроў і краты.

А назаўтра зранку Сяргей Іванавіч зноў пазваніў і ўжо мне прадыктаваў такі дадатак да ўчарашняга верша:

Учора ў вас дрыжалі рукі,
А сёння ўжо яны ў крыві.
Пад сцягам сталінскай навукі
Ўсё ж не знасіць вам галавы.

Гэта, як бачна, нават не верш, а проста вершаваны водгук на падзею, што ўсё ж ускалыхнула свет. Калі б путчысты сапраўды захапілі ўладу, наш народ і свет магла б напаткаць вялікая бяда. Заканамерна, што такі вокамгненны гарачы водгук на спробу дзяржаўнага перавароту ў краіне мы атрымалі акурат ад Сяргея Іванавіча: ён, былы шматгадовы вязень сталінскага гулага, востра прадчуваў бяду, цудоўна ведаў почырк катаў "сталінскай навукі".

А разам з гэтымі лісткамі зберaглося і такое пісьмо С. Грахоўскага да мяне адносна публікацыі нізкі ягоных вершаў пад назвай “Свечкі”: маўляў, хацеў бы бачыць свае “Свечкі” не ў царкве, а ў бліжэйшым нумары “ЛіМа”.

*Дарагі Мікола Сымонавіч!*

*У сакавіку здаў у аддзел літаратуры невялічкую падборку вершаў. На апошнім пасяджэнні Рады СП Юрась Мікалаевіч (Свірка, загадчык аддзела. — М. Г.) запэўніў, што яны “вось-вось на падыходзе”.*

*Канчаецца май, а публікацыі няма. Ці не згубіліся мае вершы ў рэдакцыйным патоку?*

*Я да 11 чэрвеня буду мокнуць і мерзнуць на Нарачы. Калі сапраўды мая чарга наблізілася, прашу паставіць*

*З пажаданнем поспехаў і з павагай Сяргей Грахоўскі.*

*24 мая 1991. “Сосны”.*

Ну што тут сказаць? Мы Сяргея Іванавіча, зважаючы ўжо на яго пашанотны ўзрост і трагічны лёс, не крыўдзілі, вершы ягоныя і іншыя матэрыялы не трымалі ў чарзе на публікацыю, пускалі ў друк, як правіла, па-за чаргою. Ды нездарма ж кажуць: старое – як малое. Самая мінімальная затрымка часта выклікала крыўду старога паэта. Акурат пра гэта гаворыць і гэтае ягонае пісьмо з санаторыя “Сосны” на Нарачы. Вядома ж, мы пайшлі яму насустрач і паставілі ягоныя “Свечкі” (назва цыклу вершаў) у самы бліжэйшы нумар, акурат да вяртання Сяргея Іванавіча з Нарачы.

## МАЛІТВА МІКОЛЫ АРАХОЎСКАГА

Кніжка, у якой сабраны “народныя”, ананімныя, “псеўдаананімныя” і аўтарскія гумарыстычныя і сатырычныя творы, прысвечаныя нашаму “ўсенародна абранаму”, выйшла амаль дзесяць гадоў таму, пасля было яе другое, а мо і трэцяе выданне. Чуў я пра гэтую незвычайную “энцыклапедыю”, шмат што з яе чытаў па розных публікацыях, а трымаць у руках дасюль не даводзілася. Цяпер жа такая магчымасць надарылася. Пагартаў, прачытаў – што ў каторы раз, што – упершыню. Ураджанне – неадназначнае. Шмат слабізны, нават бездапаможнасці. Але нямала і па-сапраўднаму дасціпных, па-народнаму гарэзных і насмешлівых, з добрай доляй іроніі і сарказму твораў, што давала падставы не адзін раз шчыра, ад душы смяяцца, а часцей – рагатаць над яе старонкамі.

Складальнікі кніжкі спадары Людвік Буракоўскі і Кастусь Атрашэўскі, выказаўшы спадзяванне, “што смех гэты не доўга будзе “смехам скрозь слёзы”, зазначаюць: “Таксама маем надзею на папаўненне нашых збораў, бо не прэтэндуем на вычарпальнасць, а крыніцы народнае творчасці яшчэ не павысахлі”. Вядома! Не сухія яны былі ў першыя гады прэзідэнцтва “дарагога і любімага” Аляксандра Рыгоравіча, а тым больш шчодра і буйна заструменілі з часам, калі вобраз ППРБ набыў сапраўды фальклорны акрас.

Пацвярджэннем нявысахласці гэтых крыніц з’яўляецца і верш драматурга і “лімаўскага” аўтара з вёскі Сялец Бярозаўскага раёна, прыкаванага да ложка Міколы Арахоўскага “Малітва”. Пошта прынесла верш у “ЛіМ” у пачатку красавіка 1996 года з такою прыпіскаю: “Шаноўны рэдактар, дасылаю вам “Малітву” і інш. для апошняй рубрыкі ў вашай газеце. Буду вам удзячны, калі палічыце гэты матэрыял вартым публікацыі. З павагаю – Мікола Арахоўскі, член СП Беларусі”. Матэрыял безумоўна быў варты публікацыі, але на старонкі “ЛіМа” не трапіў. Не таму, што мы пабаяліся яго надрукаваць. Мы друкавалі і куды больш вострыя матэрыялы, але – узважаныя, абгрунтаваныя, усебакова прадуманыя, да якіх цяжка было, як

кажуць, прыдрацца, адшукаць у іх ці прыпісаць ім “крамолу”. “Малітва” ж магла даць падставы органам зварганіць судовую справу “аб знявазе прэзідэнта” з вядомымі наступствамі. Таму мы шчыра падзякавалі спадару Міколу, пажадалі яму здароўя і творчых поспехаў, а – “матэрыял” ягоны аказаўся ў маёй папачцы. Вось ён.

**МАЛІТВА**

О, Аляксандр Рыгоравіч, родны,
Стань наўсягда прэзідэнтам народным!
Нам без цябе не вярнуцца ў часы,
Дзе за рубель аж кіло кілбасы,
Хай дзярмакраты сіпяць, как гадзюкі,
Помнім друзей тваіх добрыя рукі,
Што і кармілі, і чарку давалі,
Семдзесят лет ад бяды зашчышчалі...
Вы, бэнээфы, не лыбцэся, гады!
Знойдуцца людзі, пазбавяць улады
Вас, што заселі ў катэджах з аховай.
Хваціць пазорыць нас хамскаю мовай!
Вашае места, нацысты і каты, –
Скотамагільнік у Курапатах!
Морды наелі, накраўшы гваздзей...
Больш не падманеце простых людзей!
Гэта з-за вас прападает народ,
Гэта з-за вас у стране недарод,
Мойвы не купіш, не робяць заводы,
Больна глядзеці, как гінет прырода...
О, Аляксандр Рыгоравіч, любы,
Не аддавай нас фашыстам на згубу!
Ты ж, как і мы, тэлевізар глядзіш...
Ну нахалеру нам этат Парыж?
Знімуць штаны, за какія грахі?
Там жа галота – “Камэй” ды духі.
Наша дарога не Захад, а Ўсход,
Дзе працвітает расійскі народ.
Божа, как весела раньша мы жылі!
Божа, как дружна народы дружылі!
Возьмет, бывала, Чэчня чэмайданы,
Едзет у госці да Казахстана...
Вы не ўлыбайцесь, Зянон Станіслававіч!
Знаем, адкуль вашы байкі крававыя
Пра КГБ, генацыд, дэпартацыі...
Гэта ж заходніх спецслужб правакацыі.
О, наш спасіцель, фанар у тумане,
Слухай народ свой, народ не падманет:
Справа пачата, лікуют серца –
З намі ісці табе ўжо да канца.
Снова і снова мы будзем іх біць,
Мы іх навучым Расію любіць!
Больша не будуць яны галадаць –
Кроўю накормім, еці іху маць!
Хочуць устоі, паскуды, падрыць...
Інцялігенцыю нада закрыць!
Ад Ільіча нам ізвесна даўно:
В іх галавах не мазгі, а гаўно.
Вернай дарогай пайшлі мы цяпер.
Слаўся, барэц наш за СССР!
Амін!

Няма сёння сярод нас Міколы Арахоўскага – недзе неўзабаве пасля таго ліста хвароба даканала гумарыста і жыццялюба, шматабяцальнага пісьменніка-

драматурга. Смерць забрала яго ў надта ж маладым веку. А створанае ім – жыве. У тым ліку і горка-іранічная "Малітва" – хоць сабе пакуль што ўсяго ў папачцы былога рэдактара "ЛІМа".

## І ЧАМУ АНАНІМКА?

Знайшоў у папцы лісток са школьнага сшытка ў клетачку. Пісьмо напісана размашыста, але добра разборлівым почыркам. Чытаю:

*Добрага дня Вам, "ЛіМ" і шаноўны спадар-рэдактар Мікола Сымонавіч!*

*Піша Вам савецкі ўвогуле беспрацоўны Камароўскі. Сяджу цяпер у дзеда Сяргея ў вёсцы за Ваўкавыскам, корміць дзед пакуль, вось бульбу пасадзім, трэба будзе ў Мінск вяртацца. Стараюся і тут чытаць Вас – еду на ровары ў "цэнтр", у прыклубную бібліятэку, там, уявіце сабе, "ЛіМ" выпісалі, малайцы.*

*Пішу Вам, каб падзякаваць за харошую беларускую газету, за грамадзянскую мужнасць, за прыстойнасць чалавечую. Увогуле рэдкія ўжо гэта становяцца якасці, драбнее, апашляецца народ, пішучы – таксама, баль правіць пачынаюць розныя там Акчэўскія, Багадзяжы, Росцікавы, Якубовічы, палкоўнікі Посахаў ды Замяталін яшчэ, ды Малумаў, ды... Як многа рознай ... корміш ты сабе на згубу, зямля беларуская!.. На жаль... Але ёсць яшчэ і нармальныя людзі. У Дзень радыё чуў па радыё рэдактарку газеты "Беларуская маладзёжная" (чаму яе няма ў каталогу на падпіску?) Таццяну Мельнічук (такое, здаецца, прозвішча), адчайная дзеўка, Вы, калі гэта магчыма, падтрымайце яе і яе газету.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч! Упэўнены, што палкоўнік Замяталін ужо даўно шукае спосаб, каб зрабіць з рэдактарам "ЛіМа" тое, што зрабілі яны з Сярэдзічам. Вы паглядзіце добра, раю, як ваш пастаянны чытач і падпісчык ці не з 1961 года, ці няма ў вас у рэдакцыі свайго М. Галко. Калі ёсць, хутчэй адпраўце яго ў "Советскую Белоруссию", "Белорусскую ниву" (як гэтыя падонкі – Пазнякова слова – хочуць быць усе беларусамі...). Хай "ЛіМ" застанецца "ЛіМам"!*

*Няхай усё будзе добра ў Вас і ў "ЛіМе"!*

*Загляне сонца і ў наша ваконца!*

Вось такі цёплы і шчыры, па ўсім, ліст, а – без подпісу і без адрасу. Прозвішча, праўда, называецца – Камароўскі, але... Сярод членаў Саюза пісьменнікаў толькі адзін з такім прозвішчам – Алесь Камароўскі, ды аўтар ліста – відавочна не ён: спадар Алесь 1947 года нараджэння і наўрад ці мог бы быць падпісчыкам "ЛіМа" у 1961-м.

Быў яшчэ Яўген Камароўскі, вядомы мовазнавец і шматгадовы выкладчык БДУ, 1930 года нараджэння. Але ж ён родам, як і Алесь Камароўскі, са Стаўбцоўшчыны, тут жа згадваецца дзед у вёсцы за Ваўкавыскам...

Карацей кажучы, такі ўдзячны і прыязны рэспандэнт "ЛіМа" застаецца загадкай. Як і тое, чаму ягоны ліст стаўся, па сутнасці, ананімным.

Дарэчы, і даты пад пісьмом чытача таксама няма. Але па ўскосных фактах можна меркаваць, што напісана яно ў 1995 годзе: здаецца, недзе ў пачатку гэтага года І. Сярэдзіча турнулі з рэдактарства "Народнай газеты"?..

## ЗАПІСКІ РЫГОРА

Рыгор – гэта Барадулін, а запіскі... Ну, мо не запіскі, а прыпіскі, якімі Рыгор Іванавіч суправаджаў свае вершы, дасылаючы іх у рэдакцыю. Ніколі, здаецца, не прыносіў вершаў, а прысылаў. Надрукаванымі на машынцы. А ў пачатку ці ў канцы часам – прыпіска ад рукі, абавязкова на асобным аркушы паперы.

Такіх запісак ад “Рыгора” аказалася ў папачцы ажно сем. Зместам падобных, але ў сім-тым розных. Пераважна кароценькія, у два-тры радкі, часам трошкі большыя – на радкоў пяць-шэсць, разам з кароткім подпісам — Рыгор. Сціслыя і сціплыя дакументы, а ўсё ж нямала гавораць пра іх аўтара (ці ствaральніка).

Вось яны.

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*
*Прапаную ў Тваю газету торбачку вершаў.*
*На твой суд.*
*Рыгор.*
*11.Ш.92.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*
*Як і дамаўляліся, аддаю на Твой суд. Калі ласка, дай у сваёй газеце.*
*Рыгор.*
*14.VII.92.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*
*Тваёй газеце прапаную.*
*Загадзя дзякуй!*
*Рыгор.*
*21.IX.92.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*
*Зірні на мой палітверш.*
*Можа прыдасца.*
*Калі гэта не перабягае чаргу Грахоўскаму.*
*Рыгор.*
*29.III.94.*

*Шаноўны Мікола Сымонавіч!*
*На твой суд. Буду ўдзячны, калі дасі ў сваёй газеце. Стараюся дужа не назаляць. Ухіл узяты крыху публіцыстычны. У нашыя дні й валуны палітызаваныя. Не хацеў адстаць.*
*Рыгор.*
*29.VII.94.*

*Мікола Сымонавіч!*
*Калі можна, дай гэтую ношку вершаў у сваёй газеце.*
*Рыгор.*
*25.I.95.*

*Шаноўнейшы Мікола Сымонавіч!*
*А ведаеш, аддалена рыфмуюцца словы шаноўнейшы й Сымонавіч. Пішучы, адчуў гэта.*
*Калі будзе твая ласка, дай верш “Здаралася” на пачатак ношкі вершаў.*
*Даруй за клопат.*
*Дзякуй.*
*Рыгор.*
*30.I.95.*

Такія вось запіскі. Знанага (ужо народнага!) паэта і – майго аднакурсніка, адно Рыгор Іванавіч вучыўся на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, а я на аддзяленні журналістыкі таго ж філфака. Ды зваротак – толькі афіцыйны і пашанотны. Затое подпіс – проста Рыгор. Думай, што хочаш. Фамільярнасці – ні-ні. Але й фанабэрыі – таксама. От такая от формачка. Барадулінская. Трошачкі бы нават з улешчваннем (“будзе твая ласка”, “у тваёй газеце”, “на твой суд”). А мо – проста культурна, выхавана? Гэтак прынята пры звароце да рэдактара? А які б ён ні быў – усё адно рэдактар? Хутчэй так і ёсць яно. Рыгор – яшчэ той хітраван. Абы што не напіша. Цану слову ого як ведае! Жарцік? Можна і яго кінуць, нібы між іншым. Скажам, наконт валуна спалітызаванага. Альбо наконт Сяргея Іванавіча Грахоўскага. Значыцца, заўважае Рыгор Іванавіч, што другі Іванавіч друкуецца ў “ЛіМе” ці не часцей. Ну а што да адчування пэўнага сугучча між “шаноўнейшы й Сымонавіч”, дык каму гэта адчуць, як не Барадуліну?! Маэстра і куды больш далёкія, куды больш складаныя сугуччы ўлоўліваў і дасюль улоўлівае.

Карацей кажучы, чыста барадулінскія запіскі. Фактычна аўтографы нашага народнага паэта. Дык чаму б мне і не паганарыцца, га?

І найперш – за газету, за наш і мой родны “ЛіМ”. Бо вось жа: сам Рыгор Барадулін не тое што не абыходзіў краем ці бокам, а наадварот, досыць актыўна і настойліва “бамбаваў” рэдакцыю і рэдактара просьбамі апублікаваць чарговую нізку (на ягонай мове – торбачку, ношку) сваіх вершаў.

## АДРАСАТ З ГЛЕН КОЎ

Глен Коў – амерыканскі гарадок, а пісаў адтуль у “ЛіМ” таленавіты беларускі пісьменнік – празаік і паэт – Масей Сяднёў. Чалавек нялёгкага, пакручастага лёсу, як і амаль усіх беларусаў, што ў выніку Другой сусветнай, альбо Вялікай Айчыннай вайны апынуліся з розных прычын за мяжою. Спачатку пісаў проста на рэдакцыю, а пазней часта – і на маё імя асабіста.

Ведалі мы яго нейкі час завочна, з расповедаў Барыса Сачанкі, а потым Лявона Пранчака ды іншых нашых літаратараў, якія ездзілі ў Амерыку. Урэшце і сам Масей Сяднёў прыехаў на спатканне з Бацькаўшчынай пасля шматгадовай ростані. Само сабою, не абмінуў ён і “ЛіМ”, быў у нас у рэдакцыі. Рады мы былі сустрэчы, а практычна – знаёмству, ды бянтэжыла адна акалічнасць: у вачах у дзядзькі Масея, як памкнуліся звяртацца да яго некаторыя нашы маладзёны, быў відочны адбітак страху, даўняй боязі. Ён больш слухаў нас, чым распавядаў сам, а нам хацелася, каб было якраз наадварот. Што ж, крыўдаваць нам не выпадала. Ён і так змог пераадолець страх і рашыцца на паездку, прытым ужо ў зусім немаладыя гады. Усе мы і самі з цяжкасцю выбаўляліся з цянётаў сталінізму, хоць не зведалі і паловы таго, што зведаў той самы Масей Сяднёў. Тым больш здзіўляла і захапляла яго амаль што маладая творчая і жыццёвая актыўнасць, вялікая цікаўнасць да ўсяго, што рабілася і робіцца ў нас.

Пісаў ён у “ЛіМ” досыць часта, прысылаючы то новыя вершы, то крытычныя ці публіцыстычныя артыкулы і нататкі. І штораз прыходзіла пачуццё шкадавання: як бы мог разгарнуцца ягоны неаспрэчны і немалы талент, калі б жыццёвыя і іншыя варункі скл аліся для яго інакш, калі б яны аказаліся непараўнана больш спрыяльнымі і спагаднымі.

У маёй папцы аказаліся тры лісты ад Масея Сяднёва, адрасаваныя мне асабіста. Рэшта, напэўна, у “лімаўскіх” архівах, калі яны зберагліся ў гэты ліхаманкавы час. Лісты кароценькія, але цікавыя і адметныя нейкаю асабліваю, бы трошкі наіўнаю шчырасцю, а яшчэ – і быццам нейкаю вінаватасцю перад кімсьці ці чымсьці.

Зрэшты, няхай яны гавораць за сябе самі.

*Глыбокапаважаны Мікола Сямёнавіч.*

*Кіньце, калі ласка, сваім мудрым вокам на опус, што я тут дасылаю Вам – ці ён можа быць змешчаны ў Вашай паважанай газеце. Карціць мне, але й баюся.*

*З прывітаннямі і найлепшымі пажаданнямі М. Сяднёў.*

*2.7.92.*

*Вельміпаважаны Мікола Сямёнавіч.*

*Зноў назаляю Вам сваёю пісанінай, да таго ж, можа – нязвычнай. Дасылаю Вам тут некалькі кавалкаў свайго творства – мо што й кінецца Вашаму воку.*

*Чуў – пайшло маё "Гляньма ў вочы сучаснасці". Цешыць.*

*Некалі (даўно-даўно) пасылаў у Вашу паважаную газету і іншыя свае рэчы: "Барыс Сачанка", "Лёгкія "апавяданні Васіля Хомчанкі", "Герман Гесэ пра мастацкую творчасць"(пераклад з нямецкай), ды, відаць, яно не падыйшло, а то й нятрапіла ў Вашую рэдакцыю наогул. Ну во бачаце, і паскардзіўся. Але не – проста прыйшло на думку, каб адабраць у Вас яшчэ больш часу.*

*З пашанай М. Сяднёў.*

*11.8.92.*

*Шаноўны Мікола Сямёнавіч.*

*Важуся пасласць Вам свой опус "Беларуская літаратура перад выпрабаваннем", мо знойдзеце магчымасць змясціць яго ў Вашай паважанай газеце. Вашым "ЛіМам", можна сказаць, жыву, радуюся Вашым гэтым выданнем, цешуся, калі й маё сціплае слова знаходзіць у ім прытулак.*

*Зычу Вам поспехаў, вытрываласці, гарту.*

*З найлепшымі прывітаннямі Ваш М. Сяднёў*

*28.9.93.*

*(Працяг будзе)*



Таццяна Барысюк



...выпадковае знаёмства з беларускай мовай і літаратурай – гэта не тое, пра што я калі-небудзь пашкадаваў...

# "...Мая моц і слабасць у тым, што я не іду следам за іншымі"

***Гутарка з прафесарам Арнольдам Макмілінам***

***Таццяна Барысюк: Спадар Арнольд! Многім было б цікава даведацца, як сталася так, што Вы, заслужаны прафесар Лонданскага ўніверсітэта, англійскі філолаг, сталі спачатку русістам, пасля пазнаёміліся з беларускай мовай, палюбілі і сталі беларусістам? Што гэтаму паспрыяла?***

***Арнольд Макмілін:*** У 1959-1964 гадах я вывучаў рускую мову і літаратуру, будучы студэнтам Лонданскага ўніверсітэта, і адразу ж паступіў у аспірантуру, планаваў напісаць дысертацыю пра рускую паэзію 18-га стагоддзя. Але з'яўленне новага натхняльніка прафесара Роберта Оці ва ўніверсітэце прымусіла мяне пакінуць Ламаносава, Сумарокава і да т.п. і звярнуцца да яго з лінгвістычнай тэмай (хоць я заўсёды раней вывучаў літаратуру). У рэшце рэшт мы пагадзіліся, што гісторыя беларускай мовы патрабуе далейшага вывучэння, і таму мая доктарская дысертацыя


*Арнольд МАКМІЛІН.*

называлася «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы ў 19-м стагоддзі». Гэтая праца была скончаная ў 1971 годзе і ператварылася ў маю першую кнігу ў 1973 годзе. Як толькі я скончыў яе, неўзабаве атрымаў запрашэнне з Германіі выдаць кароткую гісторыю беларускай літаратуры. У 1977 годзе яна і стала маёй першай кнігай па беларускай літаратуры. Кніга была разгледжаная ў часопісе "Полымя" трыма рэцэнзентамі (для якіх быў зроблены пераклад на рускую мову – пасля яго трымалі ў нейкім таемным архіве). З гэтых аглядаў я зразумеў, што мяне абвінавачваюць у "буржуазным аб'ектывізме", а гэта для мяне было больш ненаўмысным кампліментам, чым папрокам. Пасля напісаліся яшчэ чатыры кнігі (у 1999-м, 2002-м, 2010-м і 2015-м гадах), усе яны перакладзеныя на беларускую мову, апошняя з іх – пра маладую беларускую паэзію. Нягледзячы на тое, што на працягу маёй кар'еры я спачатку быў выкладчыкам (у 1965-1976 гадах), пасля прафесарам рускай літаратуры (з 1977 года), я маю, прынамсі, дзве трацiны публікацыяў па беларускай тэматыцы. Гэта дастаткова яскрава сведчыць пра маю любоў да беларускай літаратуры. А сяброўскія адносіны з такімі цудоўнымі пісьменнікамі, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў і многімі іншымі, дапамаглі захаваць сваю энергію пры вывучэнні беларускай літаратуры.

***Т.Б.: Спадар Арнольд, вельмі хацелася б даведацца, якія праблемы цікавяць сучаснае англійскае літаратуразнаўства, якія метадалагічныя пошукі там з'яўляюцца актуальнымі? Якія англійскія літаратуразнаўцы вывучаюць, напрыклад, тэорыю паэзіі, паэтычныя ідэі і жанры?***

***А.М.:*** Наколькі мне вядома, асноўнымі напрамкамі англійскай філалогіі з'яўляюцца аналіз тэксту і крытычныя біяграфіі асобных аўтараў ці груп аўтараў. Брытанскія вучоныя не настолькі апантаныя тэорыяй, як калісьці амерыканскія і французскія вучоныя і як дагэтуль нямецкія вучоныя. Наведванне кнігарні, а таксама бібліятэкі пакажа вялікі выбар кніг пра кнігі.

***Т.Б.: У Вялікабрытаніі Вы адзіны беларусіст у сферы літаратуразнаўства, або яшчэ хто вывучае беларускае мастацтва слова?***

***А.М.:*** Цяпер я больш ці менш – адзіны ў Вялікабрытаніі спецыяліст па беларускай літаратуры, хоць раней Шырын Акінер даследавала татарскі рукапіс у Брытанскай бібліятэцы і маладую беларускую паэзію 1960-х гадоў. Нябожчык Гай дэ Пікарда быў першым даследчыкам беларускай музыкі. Цяпер, здаецца, у нас больш цікавасці да палітыкі, эканомікі і гісторыі.

***Т.Б.: Спадар Арнольд, якія-небудзь сучасныя англійскія, ірландскія, шатландскія паэты згадваюць у сваіх творах Беларусь і беларусаў? Або, з іншага боку, ці ёсць такія творы сучасных беларускіх паэтаў пра Вялікабрытанію, Ірландыю, Шатландыю, якія Вы лічыце высокамастацкімі і вартымі глыбокага асэнсавання?***

***А.М.:*** Я не магу ўспомніць, каб англійскія, ірландскія або шатландскія паэты згадвалі Беларусь у сваіх працах. Больш напісана ў Беларусі пра Брытанію і брытанцаў: заўважаюцца сваім багатым уяўленнем (нават фантазіяй) "Індыя" з кнігі "Прошча" (1996) У. Някляева, "Лонданскі вітраж" і "Беларусізацыя Брытаніі" У. Арлова з яго кнігі "Божая кароўка з Пятай авеню" (1998). Ёсць, несумнеўна, шмат іншых прыкладаў, але яшчэ варта адзначыць Дзяніса Хвастоўскага, які трагічна нядоўга пражыў (1976-2001) і які, здаецца, любіў называць сябе шатландцам. Ягоны верш "Нядоўга думаў Тэд Макена..." з пасмяротнага зборніка "Лугназад" (2008)



*На Першым міжнародным навуковым кангрэсе беларускай культуры 6 траўня 2016 года. Злева направа: І.В. Саверчанка, Д.А. Бесталкоў, Т.П. Барысюк, А.А. Данільчык, Г.М. Кісліцына, А. Макмілін, М.У. Мікуліч і А.А. Суша.*

утрымлівае не меней фантазіі, чым "Індыя" У. Някляева. Дарэчы, у гэтыя часы еўрапейскага [раз]яднання англічане маглі пасміхацца не толькі з "Агаленшчыны" і іншых трансфармацый Хвастоўскім нацыянальных імёнаў, але і з таго, што асабліва падабаецца, як у нашых найбліжэйшых суседзяў – "Сранцыя".

***Т.Б.: Якіх сучасных англійскіх паэтаў вы любіце і паважаеце? Ці адлюстроўвае іх творчасць асноўныя заканамернасці сучаснага літаратурнага развіцця, ці з'яўляецца іх творчасць партрэтам сучаснай паэзіі сваёй краіны?***

***А.М.:*** Маімі любімымі англійскімі паэтамі дваццатага стагоддзя з'яўляюцца У.Б. Ейтс, У.Х. Одэн, Філіп Ларкін, Тэд Х'юз і Шэймас Хіні. Як і ў Беларусі, ёсць шмат цікавых паэтаў, хоць ніхто ў нас не паўтарыў словы Гаруна пра тое, што "сам народ – пясняр". Я дадам яшчэ некалькі паэтаў, якія падабаюцца: Сайман Арміцідж, Вэндзі Коуп, Кэрал Эн Дафі, Роберт Грэйвс, Тоні Харысан, Адрыян Анры, Роджар Макгоў, Дэрэк Махан, Эндру Моўшэн, Пітэр Портэр і Вэрнан Сканэл. Некаторыя з вышэйпералічаных паэтаў распрацавалі (калі хочаце) паэзію, але ў асноўным іх "служба" – у арыгінальным і майстэрскім абыходжанні з разнастайнымі элементамі паэзіі, не ў апошнюю чаргу з музычнасцю (асабліва рытмам) мовы і вобразаў.

***Т.Б.: Спадар Арнольд, якія паэтычныя жанры, цвёрдыя формы і віды верша распаўсюджаны ў сучаснай англійскай паэзіі? Ці часта сустракаюцца ў англійскай паэзіі рыфмаваныя вершы? Ці пішуцца лімерыкі і санеты?***

***А.М.:*** У англійскай паэзіі існуе вялікая разнастайнасць жанраў, ад санетаў да вольнага верша. Тут лічыцца, што самыя дасканалыя лімерыкі былі напісаны Эдвардам Лірам (1812-1888). Некаторыя паэты рыфмуюць свае вершы, а іншыя не робяць гэтага зусім. Творы з дакладнай рыфмай звычайна гучаць як "віршы", лірыка нізкай якасці, асабліва ў нашыя дні. Мне здаецца, што вольны верш стаў самай распаўсюджанай формай.

***Т.Б.: Якія ўяўленні англічанаў пра Беларусь, а беларусаў пра англічанаў з’яўляюцца стэрэатыпнымі і таму не зусім дакладнымі, якія патрабуюць аналізу і карэктыроўкі? Якімі рысамі характару беларусы падобныя на англічанаў, а якімі адрозніваюцца?***

***А.М.:*** Англічане мала ведаюць пра Беларусь, і тое, што яны ведаюць, у асноўным звязана з Чарнобылем і палітыкай. Англічане былі карыкатурнымі (часта самі па сабе), прынамсі, з 18-га стагоддзя. Асноўнымі падабенствамі паміж брытанцамі і беларусамі з’яўляюцца ветлівасць і адносны спакой, хоць, вядома ж, любыя абагульненні небяспечныя. Многія брытанцы, у тым ліку дыпламаты, якія прыязджаюць у Беларусь працаваць, знаходзяць вельмі прывабным сціплы, ветлівы і гасцінны характар беларусаў. Я таксама падчас наведвання Менску на працягу аднаго месяца ў 1965 годзе, прыехаўшы туды з Масквы, дзе я правёў цэлы навучальны год, знайшоў вялікую дабрыню ў Беларусі.

***Т.Б.: Калі параўнаць мову Шэкспіра і мову Купалы, чым яны адрозніваюцца (вымаўленне, эмацыянальнае напаўненне, дух)?***

***А.М.:*** Цяжка параўноўваць мову паэта і драматурга 17-га стагоддзя і паэта канца 19 – пачатку 20 стагоддзя. Мова Шэкспіра патрабуе практыкі ў праслухоўванні, аднак вымаўленне істотна не змянілася. Што датычыцца духу і эмацыянальнага зместу, словы, безумоўна, неабходныя, але – як і ў любым тэатры – майстэрства акцёраў мае першаснае значэнне. Я веру, што мова Купалы бліжэй да сучасных беларусаў, чым Шэкспірава да сучасных англічанаў. Каб “лёгка” чытаць Чосэра ці раннія тэксты, падобныя да “Беавульфа”, большасці неспецыялістаў патрэбна карыстацца перакладамі на сучасную англійскую мову, аднак няма неабходнасці для такога перакладу ў дачыненні да Шэкспіра.

***Т.Б.: Вы шмат разоў наведвалі Беларусь. Ці пісалі Вы ўспаміны пра нашу краіну?***

***А.М.:*** Аднойчы я быў запрошаны нябожчыкам Сакратам Яновічам даць пісьмовае інтэрв’ю. Яно называлася “Арнольду Макміліну 60” і было надрукавана ў часопісе “Annus Albaruthenicus” за 2002 год. У асноўным яно тычылася майго першага візіту ў Менск.

***Т.Б.: Якія ў Вас любімыя мясціны ў Лондане, дзе Вам падабаецца хадзіць, разважаць, назіраць за прыродай і архітэктурным пейзажам? Якія любімыя месцы адпачынку ў Вас у Менску?***

***А.М.:*** У Лондане мне пашанцавала жыць у Блумсбэры, дзе жылі некаторыя аўтары, у тым ліку Чарльз Дыкенс, Літан Стрэйчы і Вірджынія Вульф. Ёсць шмат невялікіх паркаў (вядомых як садовыя плошчы) паблізу і вялікая прастора з садамі і возерам, Рыджэнтс-парк, у некалькіх хвілінах хады. Меней культывуецца больш дзікі Хэмпстэд-Хіт, які знаходзіцца ў 20 хвілінах язды на аўтобусе; яго мясціны былі напісаныя многімі выдатнымі англійскімі мастакамі 18-га і 19-га стагоддзяў. У Менску я амаль заўсёды спыняюся ў тым самым гатэлі, у “Юбілейным”, і часта гуляю ў парку праз дарогу, між зялёных дрэваў, каля рэчкі.

***Т.Б.: Давайце пагаворым пра святы. У Менску даволі яскрава, з размахам, адзначаюцца Новы год, Каляды, Вялікдзень, Купалле, Дзень беларускага пісьменства і Дзень горада (апошнія два – у верасні). Якія дзяржаўныя, нацыянальныя, фальклорныя і рэлігійныя святы шануюцца ў Лондане? Якія з іх любіце адзначаць Вы? Што Вас у іх прываблівае?***

***А.М.:*** Мы адзначаем (з рэлігіяй ці без яе) Каляды, Новы год, Вялікдзень і так званыя банкаўскія вакацыі (выходныя панядзелкі) у канцы мая і ў канцы жніўня. Ёсць такія “дні”, пра якія большасць з нас не ведаюць, пакуль мы не пачуем, напрыклад, па радыё, або якія адпавядаюць асаблівым зацікаўленням. Гэта Дзень перамір’я з нагоды заканчэння Першай сусветнай вайны і ўрачыстае

адкрыццё парламента і выступленне каралевы. У такіх святах шмат пампезнасці, але колькасць людзей, якіх закранаюць яны, вельмі малая.

***Т.Б.: Спадар Арнольд! Цяпер выходзіць шмат кніг пра сакрэты поспеху славутых людзей. Якія жыццёвыя прынцыпы, эмацыянальна-валявыя ўстаноўкі, рысы характару дапамаглі Вам стаць вядомым англійскім беларусазнаўцам-літаратуразнаўцам?***

***А.М.:*** Мая моц і слабасць у тым, што я асабліва не іду ўслед за іншымі крытыкамі і навукоўцамі. Веданне некаторых з лепшых пісьменнікаў было прыемным і пачэсным, але гэта іх тэксты, якія я імкнуся асэнсаваць, праілюстраваўшы маёй англійскай мовай для іншых чытачоў. Хоць я прыехаў у Беларусь выпадкова, так бы мовіць, я любіў пісаць пра кнігі і іх аўтараў, якія практычна не былі вядомымі ў Заходняй Еўропе, а не паўтараць даследаванні іншых пра добра вядомых рускіх пісьменнікаў. Маё выпадковае знаёмства з беларускай мовай і літаратурай – гэта не тое, пра што я калі-небудзь пашкадаваў.

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць шаноўнага
**Арнольда МАКМІЛІНА** з юбілеем
і зычаць яму моцнага здароўя, бадзёрасці, аптымізму
і новых яскравых адкрыццяў у літаратуры!

Уладзімір Мароз



...выдзерці мову –

значыць, выдзерці душу Беларусі...

# Матрыца Беларусь

Закруцілася ўсё ад вершаванага радка... Але ж ты не з раніцы хапаешся за кнігу, тым больш паэтычную. Вольга на досвітку паляцела прымаць экзамен, а для мяне той суботні дзень пачаўся экзатычнай турботай – павёз падушкі, каб пачысціць пяро. Збіраліся даўно залатвіць гэтую справу, сядзела стрэмкай. Як і шмат іншага дробнага нязробленага – вярэдзіць часам, але не зрушваецца, пакуль нейкім чынам не прыйдзе момант. Дачка забараніла нам спаць на падушках з пер'я – кляшчы там жахлівыя, для скуры і ўвогуле для здароўя шкодныя. Вось і прыкупілі сінтэтычныя. А старых шкада – пачысцім, паслужаць яшчэ. Сабралі ўсе – і ў Мікалаеўшчыне, і ў кватэры. Больш за дваццаць кілаграмаў цягнуў на другі паверх у хімчыстку.

Пашанцавала – нікога не было, не чакаў, толькі пасля мяне набеглі ўжо кліенты. Назад цягнуў дзевяць акуратненькіх пругкіх падушак шэсцьдзесят на шэсцьдзесят у свежанькіх наперніках. З жонкай сустрэліся ў ЦУМе, адразу купілі столькі ж навалак. Хуценька ірванулі дадому, сабраліся – і на сваю родную і любімую брэсцкую шашу, якую ведаю за столькі гадоў (ды трыццаць ужо!) на памяць. Дзе фотакамеры стаяць (іх

чатыры да павароткі на Стоўбцы), дзе перасоўныя могуць паставіць (і ўсё роўна тры разы напорваўся!), адпаведна, дзе ехаць як належыць, а дзе можна прышпіліць за сто трыццаць. Парушэнне, зразумела, ды натуру не пераробіш, не спыняе, што на большай хуткасці і паліва ідзе больш, неэканомна. Адно што "чайнікі" нервуюць па дарозе – паўзе па левай паласе, хоць справа вольна, ды і правілы дыктуюць на шашы ехаць якраз па правай. Зганяеш дурніцаў – то паваротак левы пакажаш, а калі прыпячэ, то і дальнім святлом мірганеш, пры гэтым сядзіш на хвасце, што таксама павінна нерваваць папярэдняга. Праўда, можа ён і на цябе глядзіць як на дурня – чаго ляціць? Чаго, чаго... Ды на свой родны хутар спяшаюся, хутчэй глыток настоенага лекавага хваёвага водару глынуць, на крыж перажагнацца, на агародзік глянуць, у лес выбрацца! Ад дома да хаты (восемдзесят шэсць кіламетраў) дарога займае гадзіну і тры-шэсць хвілін, у гадзіну ўціснуцца ніколі не атрымлівалася, як ні гані, бо Стоўбцы з Акінчыцамі прытарможваюць даволі. Але ж на месцы. Выкладваю на сонцы падушкі, каб прагрэліся і правятрыліся – ды ў лес, нават не пераапранаючыся. Лісічкі чакаюць (сёлета павылазілі ці не з пачатку лета!), ды сунічкі.

Жоўценька-залацістыя грыбкі трапляюцца, хай і зрэдчас – у адным месцы, ў другім. Сунемся далей, каб дапяць свайго запаветнага месца. Сунічная паляна! Не толькі ў Бергмана яна ёсць, а і тут, у наднёманскім лесе ў нас неруш. Божачкі, якія цудоўныя ягады! – водар адмысловы, колер някідка-прызыўны – ірві ў сваю насалоду. Самае цікавае, што сам потым не ясі, адно што ў лесе ўкінеш колькі бобак у рот. Для Марыны найперш, каб не забывалася на смак беларускага лесу, бо ёй дзеля працы толькі зрэдчас удаецца вырвацца з намі на хутар. "Дзякуй, бацька лес!" – гаворым з Вольгай заўсёды, калі садзімся ў машыну на зваротны шлях. За вячэрай з удзячнасцю лесу і ўсяму астатняму спрыяльнаму бярэм па тры-чатыры глыткі віскі. На галаву напой не ціснe, разліваецца па целе, настрой паляпшаецца, ўся гарадская мітрэнга канчаткова сплывае. Гарэлкі ўжо даўно не ўжываю, хіба што нагода якая нявыкрутная, бо там спірт рэктыфікаваны, выціснуты хімічнай рэакцыяй з чаго хочаш – з нафты, апілак, гною. Дэнатурат, адным словам, галава пасля баліць, хоць ты і кроплю вазьмі. А тут спірт дыстыляваны, атрыманы натуральнай узгонкай, няхай і дамескаў значна больш, але і яны па-свойму карысныя для арганізма.

Мой малодшы брат Ігар вычытаў недзе, што з узростам варта выпіваць толькі ром, тэкілу ці віскі, мо яшчэ каньяк. У яго ў Рагачове на пяцідзесяцігоддзе (аграсядзібу зняў дзеля юбілею) мы так і рабілі – спрабавалі тэкілу дамініканскую. Чысценькі, выдатны напой. У нас тут аграсядзіба свая, дзякуючы светлай памяці нашаму дзеду Костусю, што пабудаваўся на хутары ў такім месцы, дзе сосны, луг і Нёман. Сядзім за круглым нашым сталом пад парасонам старых пакручастых яблынь, палім цыгарэты. Не сядзіцца – у галаў стрэліла пайсці на Нёман акунуцца. Сёння даволі цёпла, перад тым дні халодныя, вада рачная не паспела прагрэцца. Але ж карціць, ды й Вольга не супраць. Рушым звыклай сцяжынай праз лясок да наднёманскай пясчанай гары, якая ўжо амаль уся зарасла лазою ды соснамі. Наверсе ў адным месцы адвеку ляжыць вялізны валун. Шматкроць за сплыўшыя гады садзіўся на яго ды сузіральна любаваўся нашай беларускай ракой, клінам лужка Клешчыцы, які мае гэтую назву таму, што тут узялі ў "клешчы" французскі атрад у 1812 годзе, глыбокай (рыбу там з дзедам неаднойчы лавілі) затокай Кума, даляглядамі за Нёманам, цёмнай сцяной далёкага лесу з прыгожай назвай Паласня. Аб гэтым валуне нават верш думаў напісаць – сядзіць маладзіца, глядзіць у далячыць ды чакае свайго каханага з несупынных беларускіх войнаў. Цяпер прысядзь – за дрэвамі нічога не згледзіш. Мала таго, нехта спрабаваў камлыгу прысабечыць, падкапаў, каб выцягнуць (ды так, на маю радасць, і не здолеў!), камень асеў у яміну, стаў упоравень з зямлёй. Прысесці, зразумела можна...

Спускаемся да Нёмна, праз лазнякі выходзім да адзінага яшчэ пясчанага месца – натуральны пляж наш. Гэта ўсё маё, я тут гаспадар – кажу жонцы без усялякіх жартаў. Люблю быць гаспадаром. Купацца будзем натуральным чынам, адзежы для вады нават і не думалі браць. Як на тое, гумавая лодка з маторам аднекуль узялася, дзядзька з хлопцам катаюцца па Нёмне. А, каб на вас! Не чакаю, пакуль яны павалтузяцца на вадзе, жанчыны ў лодцы няма, агаляюся ды лезу ў ваду. Халодная! Але прыцярпецца на нейкія хвіліны можна, затое бадзёрыць, разганяе кроў. Міжвольныя сведкі зразумелі сітуацыю, з натугай (матор слабаваты) паплылі супраць плыні прочкі. Тады і Вольга скідае з сябе ўсё ды ідзе ў ваду. Паслянёманская бадзёрасць прыспешвае нас у ложак, дзе здараецца тое, што і павінна здарацца ў мужчыны з жанчынаю. Целы пасля рачной вады надзіва гладкія, як і пасля лазні... Сёння самы доўгі летні дзень, не цямнее яшчэ, куды ж спаць? Выпалілі па цыгарэтцы на балконе, агароджа якога спрэс абвіта вінаграднікам, а кроны купкі высачэзных акацый амаль побач – рукой дастаць. Ціха і ўтульна, такі супакойны вечар можа здарыцца толькі тут, на тваім хутары. У адпаведным настроі патупаў яшчэ крыху, уладкаваў на палічцы да астатніх прачытаныя і прывезеныя з Мінска апошнія "Дзеясловы" – цэлая бібліятэчка ўжо. Кніжныя паліцы тут у мяне беларускія, воку ёсць дзе спыніцца. Кніг за жыццё назбіралася шмат, у горадзе цесна ад іх, таму большая палова агромністай бібліятэкі ўжо ў Мікалаеўшчыне. Ды час спыняць эпізод самага доўгага дня, а то атрымаецца яшчэ адзін "Адзін дзень" (мой аповед, надрукаваны Андрэем Федарэнкам у "Маладосці"). Бяру па завядзёнцы ў рукі кніжку ды ўладкоўваюся ў ложак. На гэты раз "Зямны акіян" Гіёма Апалінэра (пераклады Эдзі Агняцвет). Перачытваю вершы французскага паэта, беларуса па кудзелі, натыкаюся на паэтычны радок...

Чаму не іншая кніжка з сотняў апынулася перад вачыма? Выпадкова-невыпадкова? Свядома-падсвядома? Якраз для гэтага маленькага томіка нагода не адна. У свой час мой калега-таварыш-сябар, калі пабыў у горадзе над Сенай, напісаў тэкст "Стомленасць Парыжам" з галоўным персанажам Гіёмам Апалінэрам. А я да горада, дзе свята заўжды з табой, так і не дабраўся, хоць абяцаў яшчэ перад шлюбам будучай жонцы, што мы абавязкова трапім у Парыж. Незвычайна прыцягальнае слова, асабліва для рамантычнай маладосці. Не тое, каб зайдросціў таварышу, але няспраўджанасць абяцання любімаму чалавеку вісела непрыкметна над душою, ды і жонка, калі я даваў ёй нагоду дапячы, злосна кідала – дзе твой Парыж? Дзяцей вырасцілі, да пенсіі дажылі, далёкая Амерыка з небакраямі Нью-Ёрка, да прыкладу, стала амаль сваёй, а неспазнаны горад так і заставаўся недасяжным.

Ды ёсць Бог на свеце. Надарыўся ў мяне на працы сумесны з французамі дакументальны фільм. Уласна, дзякуючы мне ён і стаў магчымым, проста вельмі хацелася дапамагчы беларускаму хлопцу Дзіму з не зусім характэрным для нашых мясцін прозвішчам Махамет, які жыў у Парыжы і шукаў грошы на праект "Цені Нарвілішак". Справа была нетаропкая, амаль тры гады доўжылася праца. Нарэшце ў французскай прадзюсаркі з'явіліся грошы на сканчэнне фільма, з нагоды даведаўся аб суме, якую ім даў нацыянальны цэнтр кінематаграфіі. О! Не збяднеюць, калі выдаткуюць з яе кроплю, каб запрасіць рэдактара глянуць мантаж, тым больш нашыя беларускія тэрміны вытворчасці ўжо сканчаліся. Так і здарылася. Больш за тое, выхавана запрасілі мяне з жонкаю. Вандроўка ў Парыж – асобная гісторыя, але пакінуць яго, не пабачыўшы помнік Апалінэру, было проста немагчыма. Леанід тлумачыў, як знайсці, але дзе ж ты ўтрымаеш у галаве! Добра, што ў адзін з дзён гаспадыняй з намі была Даша, яшчэ адна мая рэжысёрка-выхаванка, якая таксама жыве ў Парыжы. Колькі яна тут гадоў, але сама гэты помнік не бачыла. Па мабільніку ў сеціве ўсё шукала вулічку Апалінэра,

нарэшце атрымалася. Гэта ў Лацінскім квартале, своеасаблівым куточку старога Парыжа.

Помнік стаяў у невялічкіх прысадах каля храма Сэн-Жэрмэн дэ Прэ. Уласна, не помнік, а бюст работы сябра паэта Пабла Пікаса на круглым стаўпе-пастаменце. Усё круглае, але выдае чамусьці на кубізм. Мо ад таго, што сам бюст нейкі дзіўны, не зусім правільны. Калі Лёня другі раз быў у Парыжы, то помніка на месцы не было – скралі на бронзу? Потым яму нехта сказаў, што бюст зноў на сваім месцы. Калі скралі, то можа гэта ўжо і не рука Пікаса, а копія? Як ні ёсць, затое можна завітаць да знанага французскага паэта беларуса па кудзелі Вільгельма Кастравіцкага. Прысады яшчэ не ўладкаваныя толкам, гарманічнага ўражання ад мясціны не атрымоўваецца. Нядалеч вулічка Гіёма Апалінэра, зусім маленькая, сотні метраў няма. Другі бок яе вольны, пачынаецца плошча. Як і ўсюды ў Парыжы, поўна людзей у вулічных кавярнях, але мы тут не прысаджваемся, шыбуем далей. У раёне Сарбоны натыкаемся на доўгую глухую сцяну-агароджу, там на вялікай плошчы выпісаны цалкам (не фрагмент які!) знакаміты верш Арцюра Рэмбо "П'яны карабель". Зайдросна стала, ёсць жа і ў нас глухія сцены, верш Коласа ці Купалы можна выштукаваць як твор манументальнага мастацтва. Металічную сцяну на месцы дома, дзе нарадзіўся Багдановіч, зрабілі, але там толькі невялічкі тэкст з "Апокрыфа" пра васількі. Калі дажывем да "Пагоні" на сцяне? Добрай волі няма шанаваць сваіх прарокаў – вядомая беларуская мітрэнга.

Што да Парыжа, то комплекс знік – абяцанне жонцы (лепш позна, чым ніколі!) спраўдзілася, ды і гісторыя з Апалінэрам стала тваёй. І да яе можна ў любы час вярнуцца, узяўшы ў рукі беларускі томік паэта ці перачытаўшы вядомае эсэ майго таварыша, назва якога рознымі людзьмі згадвалася шматкроць і сутнасна, і іранічна.

*

Яшчэ адной нагодай было і тое, што кніжка Апалінэра была з аўтографам. У свой час пачуў, што Аляксей Каўка, наш маскоўскі беларус і мой добры знаёмца, здаў сваю бібліятэку ў архіў-музей, але перад гэтым напісаў тэкст пра аўтографы ў кнігах. Выдатная ідэя! Самому так трэба зрабіць, няшмат мы кажам адзін аднаму добрых слоў, тут жа па-іншаму не будзе, бо аўтографы назбірваюцца бальшынёй ад людзей, якіх любіш, творы якіх чытаеш. Пачну калі-небудзь, дасць Бог, невялікая частка кніг з аўтографамі на хутары, астатнія дома ў бібліятэцы. Сярод іх і дзве кнігі Каўкі з дарчымі надпісамі. Як і з іншымі цікавымі людзьмі, пазнаёміліся мы з ім праз маё дакументальнае кіно, калі да 110-гадовага юбілею здымалі фільм пра Купалу "Шлях паэта". Тэксты Аляксея Канстанцінавіча ўжо трапляліся мне на вочы, прыемна здзіўлялі не толькі вастрынёй і праўдзівасцю думкі, але і сваім адметным непаўторным стылем. Здаецца, як так можна пісаць? Не зусім звыклыя канструкцыі, абароты. Але потым задавальненне абсалютнае. Вось і надумаў зняць яго сінхрон пра Купалу, тым больш у Маскву абавязкова ехаць трэба – як у фільме без гатэля "Масква", апошняга сумна-вядомага для беларусаў Купалавага дома?

Не памятаю, у якім месцы здымалі Каўку, якія словы ён казаў (фільм бы глянуць нанова), але потым усёй здымачнай групай сядзелі ў яго невялікай маскоўскай кватэрцы, абедалі з чаркай. Прыемна было чалавеку, што землякі не забываюцца на шчырага і нязломнага руплівцу беларушчыны ў касмапалітычнай, але і вялікадзяржаўнай Маскве. Удзячны лёсу быў і я за такое знаёмства. Пасля ўжо з маёй парады Аляксея Канстанцінавіча здымалі ў фільме "БНР. Час звеставання". Нарэшце, "Згадкі страчанага раю" пра дарагога майго старэйшага таварыша Уладзіміра Конана. Зноў без Масквы аніяк – тут і жонка Конана Лола Званарова, і Перадзелкіна...

У тую зіму 1998-га мароз быў градусаў пад трыццаць. Паздымаеш з паўгадзіны на вуліцы – столькі ж трэба адаграваца ў "Рафіку", які напрыканцы камандзіроўкі ўвогуле перастаў заводзіцца ад халадэчы. Як яшчэ "Конвас" (кінакамера) вытрываў? Маскоўскага беларуса здымалі каля Ленінскай бібліятэкі, проста на прыступках, у зімовым паліто і высокай цёплай шапцы. Машыну ўдалося прытуліць на вуліцы насупраць. Зноў жа пасля высокіх і ўзнёслых слоў подбегам у аўто, а там, як той казаў, у нас ужо было...

Пасля і ў Мінску сустракаліся некалькі разоў, адкуль у мяне і кнігі з аўтографамі, і выпускі Каўкава "Скарыніча". Як ні дзіўна, ні ў адным са згаданых фільмаў Аляксей Канстанцінавіч сябе пасля не бачыў. І вось нагода паправіць становішча хоць бы з адной стужкай надарылася. Настойліва запрасіла мяне з фільмам у Маскву Лола – на вечарыну памяці Конана. У звязку з юбілеем, 80-годдзем з дня яго нараджэння. Са скрыпам адпусцілі з працы, але вырваўся. І правільна зрабіў – без фільма, маленькага шэдэўра рэжысёра Мікалая Князева, вечарына была б зусім фармальнай. Былі толькі тры чалавекі, якія добра ведалі Уладзіміра Міхайлавіча – Лола, я ды Аляксей Канстанцінавіч. Астатнія мо і бачылі калі Конана, а то і Кане. Як Бутрамееў, які толькі раз сустракаўся, але пагаварыць перад людзьмі – калі ласка. Фільм усе хвалілі, а Каўка, згледзеўшы сябе на экране на шаснаццаць гадоў маладзейшым, зусім расчуліўся: "Божа, дык я гаварыў такія прыгожыя і ўзнёслыя словы! Валодзечка, здыміце іх са стужкі ды прышліце мне!" Няма праблем – адказаў. Каўка скардзіўся на зрок, які ўжо аніяк не паправіш. Падпісаў яму сваю "Шляхцянку-восень". Аляксей Канстанцінавіч пайшоў раней, я выйшаў за ім у калідор развітацца. "Не магу слухаць, калі тут пра Крым пайшло! Конан не сцярпеў бы такога! Валодзя, а мо па чарцы дзе? Але ж ты не п'еш". "Ды не, чаму не п'ю? Проста цягнік у мяне позна вечарам, ды і да канца імпрэзы трэба дабыць".

На тым і развіталіся сардэчна. У Мінску я зняў тэксты з фільма, конанаўскі тэкст надрукаваў у "Літаратурнай Беларусі", а Каўкаў даслаў Аляксею Канстанцінавічу. Потым ён быў у Мінску на пахаванні Анатоля Кудраўца, але ў мяне на той час здарылася нейкая нявыкрутка. Адказ прыйшоў пазней, Аляксей Канстанцінавіч у сваім стылі (літаратурным) падзякаваў, пасумаваў аб сябрах-таварышах, што адзін за адным адыходзяць у іншы свет. Скончыў аптымістычна – застаўся яшчэ тут Мароз – ёсць з кім сустрэцца ў Мінску. Дадавала прыемнасці, што вестачка ад яго, хоць і падсвядома, была акурат у дзень майго нараджэння. Сустрэнемся яшчэ, дасць Бог, – і наўпрост, і праз літаратурныя тэксты ды аўтографы.

*

Калі дакладна, у кнізе Гіёма Апалінэра не аўтограф (адкуль жа ён можа быць?), проста дарчы надпіс. Дарагі для мяне як напамін аб студэнцтве і бестурботнай маладосці, як прыемнае прадвесце паваротку жыцця. *"Мороз до ГАПа не дорос И стал писателем Мороз! "Ш.Питроф"*. Надпіс чорным фламастэрам, якіх тады далёка не ў кожнага было, у мяне дакладна – дастаць яшчэ трэба (скажы каму цяпер – пасмяюцца!). Даты няма, але гэта канец сямідзясятых, архітэктура, нязмушаны аптымізм. Які я на той час пісьменнік? Ну, вучуся завочна ў Літаратурным інстытуце, ну, маю чатыры вершы ў калектыўнай нізцы маладых, надрукаванай у красавіцкай "Маладосці" 1981 года Петрусём Макалём, да якога мяне накіравалі мастакі-плакатысты, а з імі я пазнаёміўся праз цешчу (во, як няпроста!).

Па завядзёнцы (ведаў, не ў пустэльні жыву) належала аддзячыць загадчыку аддзела паэзіі, ды саромеўся ісці з пляшкай у рэдакцыю. Выйшла само сабою – сядзім неяк з Кошалем у Доме літаратара, а тут і Пятрусь Міхайлавіч. Эмацыйны быў чалавек, у падагрэтым настроі гаварыў: "Дайце мне ўзвод, тут жа пайду

і адваюю сваю родную вёску ў палякаў!" Такім чынам залатвілася справа з падзякай. З часопісам, сваёй першай паэтычнай публікацыяй, насіўся, паказваў у "Мінскпраекце". Для літаратараў гэта нічога не значыла, ды і з кім я тады быў знаёмы? Але сам сябе ўжо лічыў паэтам – хто лепш ведае чалавека, чым ён сам? Унутраная перакананасць была, без яе і не варта брацца за любую справу. Няхай пакуль ніхто не здагадваецца, што ты пісьменнік, галоўнае, каб ты сам быў у гэтым пераканаены. Упэўненасці дастаткова для пачатку шляху.

Для архітэктараў жа публікацыя значэнне мела – Мароз паэт! Таму і з'явіўся такі надпіс на кнізе, падараванай мне, хутчэй за ўсё, на дзень нараджэння. Абрэвіатура ГАП абазначала "галоўны архітэктар праекта". Апошняя прыступка росту, калі ты можа сябе называць сапраўдным архітэктарам. Можна быць кіраўніком майстэрні, галоўным архітэктарам праектнага інстытута, але гэта ўжо проста пасады. Вяршыняй творчай было званне ГАПа. За няпоўныя пяць гадоў (столькі выпала ў мяне на "Мінскпраект"), такога дасягнуць не мог ніхто, вось і я быў проста старшым архітэктарам. Думаю, што змог бы стаць сапраўдным дойлідам. Ужо выспельвалася выснова, што калі мы праектуем фабрыку, гэта павінен быць храм, а не з дакладнасцю наадварот, як гаварыў вядомы нямецкі і амерыканскі архітэктар Людвіг Міс Ван Дэр Роэ. Проста наперадзе шлях мусіў зрабіць паваротак.

Чалавек, які падпісаў кнігу, як у ваду глядзеў. Гэта быў Саня Пятроў. Вучыўся ён на курс вышэй ад нас, потым пабраўся шлюбам з нашай аднакурсніцай Галінай, прывабнай чарнявай дзяўчынай. Да кола маіх мінскпраектаўскіх таварышаў, з якімі гулялася і пілося, не належаў (не ўспомню, каб мы з Пятровым бралі чарку), але знаёмства было – не мог жа проста так з'явіцца падарунак у выглядзе паэтычнай кнігі? Пасля майго сыходу з архітэктуры, які адбыўся хоць і свядома, але вымушана ў 1981 годзе, з ім больш не сустракаліся. І якое было дзіва, калі не так даўно ўбачыў у сеціве, што галоўным архітэктарам Мінска прызначаны Аляксандр Пятроў! Гляджу на фотаздымак, чалавек з сівымі валасамі і з барадой, на вуліцы і не пазнаў бы, але тут можна прыгледзецца – здаецца, ён. Парадаваўся пра сябе, што Саня з маёй маладосці так вырас па кар'ернай лесвіцы, нават падумаў – можа сустрэцца?

На праводзінах у апошні шлях Леаніда Левіна (якраз з ім жыццё не развяло канчаткова, пяць гадоў таму зрабіў дакументальны фільм аб сваім былым кіраўніку майстэрні, выдатным архітэктары, неардынарным чалавеку) да дамавіны падышоў іхні калега. Пільна прыглядаўся – ці не Пятроў? Але так і не рашыўся агукнуць. Праўда, мог бы і ён мяне пазнаць – з маім нязменным праз гады характэрным фэйсам, носам і вусамі. Не, пайшоў наверх па лесвіцы. Мо і не ён быў? На тых праводзінах адзначыў для сябе, што ўжо нікога не пазнаю з архітэктараў (а ведаў жа шмат каго!), што тая частка майго жыцця цяпер проста даўняя гісторыя. А сустрэцца? Дзеля чаго? Распытаць, як жыццё, што зрабіў, колькі дзяцей і як яны, ці не развёўся з Галкай, якая і мяне ў свой час прываблівала? Падзякаваць з гледзішча гадоў за тую кнігу з надпісам-прадбачаннем? Даўно ўпэўніўся – можна мець ці аднавіць стасункі з чалавекам, калі ёсць агульная справа. У іншым выпадку цікавасці аніякай няма.

*

Але аднойчы пытанне, ці варта адгукацца на вестку з маладосці, паўстала псіхалагічна востра. Пачаў нарэшце набіраць свае запісы на кампутары. Запісы з дзевятнаццігадовага ўзросту, бо з шаснаццацігадовага (можна сказаць, адлік майго пісання) тры спісаныя агульныя сшыткі згарэлі, калі здарыўся пажар у бабінай хаце. І за год 1974 (мне дваццаць адзін) натрапіў на апавяданне, пра якое забыўся. Тэкст прачытаўся лёгка, падараваўшы задавальненне і адкрыццё,

што я ўжо тады, раней за вершы, напісаў апавяданне. Натуральна, аб каханні, аб чым жа пісаць у такія гады? Дадаў адно назву – “Маскоўскае лета” ды паправіў колькі слоў-русізмаў і прапанаваў аднаму з нямногіх нашых часопісаў. Ні згуку не пачуў у адказ, такая зболышага ў нас культура творчых узаемін.

Але ж апавяданне ёсць! Аб платанічным рамане ў Маскве, калі мы два месяцы былі на практыцы ў агромністым саюзным праектным інстытуце. Гераіняй яго была праектантка Вера, старэйшая за мяне на восем гадоў, што тады здавалася вялікай розніцай. З тэкстам наноў усплыло бестурботнае шчаслівае маладое лета, нашыя шпацыры па сапраўднай Маскве з яе нетурыстычнымі вулкамі, невялікімі храмамі ды ўтульнымі дворыкамі, дзе мы сядзелі і палілі цыгарэты, шчырыя размовы, прага закаханасці, пацалункі як знак нараджэння пачуцця. Пасля той практыкі бачыліся толькі раз, ужо зімой, ды напісалі адзін аднаму па два лісты. І ўсё. Звычайны вынік лёгкага вытворчага (не блытаць са службовым!) рамана. Калі вучыўся ў літаратурным інстытуце, жадання патэлефанаваць Веры ўжо не ўзнікала – у мяне была Вольга, тое адзінае, што, як гавораць, ужо назаўжды. Але покліч маладосці не адкінеш, у сеціве знайшоў звесткі аб Веры Паўлаўне, цяпер рыэлтарцы. З аднаго артыкула зразумеў, што гэта якраз той чалавек, з якім я быў знаёмы ў 1974 годзе. Кантактных тэлефонаў не трапілася, але хіба гэта праблема? Можа, знайсці, патэлефанаваць, а то і сустрэцца, калі буду ў Маскве? Настолькі ўбілася, што нават са сваімі таварышамі раіўся – ці варта сустракацца праз сорак гадоў? Віктар адказаў, што сэнсу няма, а Мікалай наадварот – а чаму б і не? Калі на цвярозы розум, сапраўды. Ну, пахвалюся, што стаў пісьменнікам, паэтам, што зняў дзясяткі дакументальных фільмаў, што ў мяне цудоўная сям’я, трое дзяцей, якія радуюць бацькоўскае сэрца, заакіянскія ўнукі. А мо яна так і засталася адна, не выйшла замуж, не мае дзяцей? Навошта вярэдзіць балючае, няхай жыццёвыя раны і зацягнуліся з часам? Сустрэча дзеля сустрэчы, бо далей зноў нічога. Але куды пры ўсёй рацыі падзець паэзію? Нікуды, паэзія – гэта святое, як ні банальна гучыць. Як і светлае, адзінае для цябе нязмушанае юнацтва, якое да гэтага часу жывіць, сілкуе паэзію.

Сустрэча-несустрэча, знак усё роўна застаўся. Не толькі тэксты запісаў, не толькі апавядання, яшчэ дарчы надпіс: *“На память будущему маститому архитектору Володе Морозу. 6/VIII-74г. Зетилова”*. Надпіс у перакладной кнізе англійскага аўтара “Ландшафт и архитектура”, выдадзенай “Стройиздатом” у 1965 годзе. Мы ж вучыліся на горадабудаўнікоў, аб гэтай цікавай кнізе ведаў, толькі дзе ж яе дастанеш праз дзевяць гадоў пасля выдання? Таму быў вельмі ўдзячны Веры за такі каштоўны і карысны для творчага развіцця падарунак, бо ў савецкі час архітэктура была, а на звяз яе з ландшафтам увагі асабліва не звярталі. Да маёй тэорыі арганічнасці, якая пакрысе выспявала, гэтая кніга паклалася як найлепш. Як і да выспявання паэзіі. Кнігі я любіў з дзяцінства, ужо ў студэнцтве іх было, а за жыццё назбіралася столькі, што ўвогуле няма куды дзяваць. Толькі з маладых гадоў згаданыя дзве з дарчымі надпісамі-аўтографамі псіхалагічна найдарожшыя, бо ёсць прадвесцем паваротку.

*

Аўтографы – тваё, а самыя кніжкі як з’ява, як тэксты – для ўсіх. Толькі кожны ўсё роўна бачыць, знаходзіць у кнізе сваё. Цёплым летнім вечарам самага доўгага дня вока спыняецца: *“Я веру, – свет пераўтвараюць тыя, хто ад паэзіі ідзе...”* Гіём Апалінэр, 1909 год. Якраз гэты радок паклікаў пакуль яшчэ неакрэслены аповед, тут жа закіпела ў галаве, калі думкі пачынаюць чапляцца адна за другую, плесціся ў нечаканыя звязы, клікаць яўныя і неяўныя асацыяцыі, рэфлексіі. Плынь свядомасці, нічога новага не скажаш. Бо душа шчыра адгукаецца – і я веру! Інача не стаў бы пісаць вершы. Вера ў слова, у слова высокае, мастацкае, адухоўленае –

незнішчальная праз усе часы. Згадайце, колькі вершаў напісана аб паэзіі – цэлыя анталогіі выдаваліся і выдаюцца. Такое можна згадаць яшчэ толькі з вершамі пра музыку. Вершаў аб прозе ніколі не сустракаў. Што тут? Адзінае – паэзія ёсць вышэйшаю формай літаратуры, таямнічаю, неспазнанай, неразгаданай (колькі хочаш слоў можна дадаць!). Гэта як вера – ці яна ёсць, ці яе няма. Вера ўратуе свет, прыгажосць ўратуе свет. Няхай сёння, як і ў часы Апалінэра *"Спее ў Еўропе пасеў хрысціянства – ніяк не даспее"*, безвыходнасці няма – даспее. І паэзія будзе дзеля гэтага ў першых шэрагах, як бы не высільваліся разбурыць яе безрытмоўем, безрыфмоўем, безсэнсоўем, здзекам. Скулля! Геніі, вялікія і проста сапраўдныя паэты былі і будуць, паэзія ніколі не згіне. Хоць сэнсу ў мастацкім пісанні, калі папраўдзе, робіцца ўсё менш і менш. Навошта сёння кнігі? Каму яны патрэбныя? Для чаго піша чалавек? Прасцей было б сказаць, што гэта невытлумачальнае. Але ж імкнешся хоць нешта зразумець, найперш для сябе. У свой час трапіў мне ў рукі раман Міхаіла Анчарава "Самшытавы лес". Не памятаю, калі, якім чынам трапіў, хто даў пачытаць (у маёй бібліятэцы такой кнігі няма), што за пісьменнік такі, што за дрэва такое – самшыт? Тады ўдакладняў для сябе ў энцыклапедыі пра аўтара і дрэва, ды і сёння праз сеціва гэта зрабіць зусім нескладана. Не істотна. Сутнасна іншае – у гэтым рамане знайшоў адказ на тое, для чаго піша чалавек. Піша ў надзеі, што якраз яго слова будзе той апошняй кропляй, якая на шалях дабра і зла перахіліць вагу ў бок дабра. Што цікава – у такім вымярэнні апошняй кропляй можа быць не вышыня таленту, а якраз светлае слова. Хто яго скажа, чыя гэта будзе кропля – нікому невядома. А можа, якраз твая? Божа! Вось ён, адказ! Хто б ні збіваў са шляху, у цябе застаецца надзея на перамогу дабра, як ні пафасна гэта гучыць. Таму і пішаш. Настолькі лёг глыбока ў душу адказ, што стаў ужо нібыта тваім уласным, знойдзеным табою. Пераказваю іншым, калі заходзіць гаворка аб сэнсе жыцця, як быццам сваё. Але спасылку на першакрыніцу (хоць імя аўтара і назва рамана нікому нічога не гавораць) даю. У нейкім сэнсе постмадэрнісцкая праява. Постмадэрнізм – увогуле рэч дзіўная. Высільваешся неяк для сябе зразумець. Аднойчы Інэса, мая таварышка са студэнцкіх гадоў, дала кароткае азначэнне: *адлюстраванне адлюстраванага*. Таксама не ад сябе, спаслаўшыся на кнігу французскай аўтаркі, якую раіла мне прачытаць, калі я цікавулюся постмадэрнізмам. Ці Уладзімір Міхайлавіч Конан сказаў гэтыя два словы, бо і ў яго я пытаўся пры адной з нашых размоў аб сутнасці пануючага (ці моднага) цяпер у мастацтве накірунку. Таксама не істотна, азначэнне мне спадабалася, ужо ад сябе тлумачу іншым, што такое постмадэрн. Сапраўды, мы нешта чытаем, чуем, потым тое можна перакручваць на свой лад, тэксты пісаць. І аўтара можна за такімі тэкстамі ўбачыць (адзін бярэ адно, другі – другое). Толькі арыгінальнай, сваёй думкі можна ў такіх тэкстах і не знайсці. А перакручваць іншага, іншае – найчасцей выходзіць "сцёб", змрок, цемра, у лепшым выпадку прыцемкі. То бок сутнасць постмадэрнізму – хутчэй разбурэнне, а не стварэнне. Згадайма сучасныя верлібры, тэксты, запісаныя па форме пад вершы, якія можна пісаць хутка і бясконца, якія да паэзіі аднесці складана. Ты паспрабуй сваю думку ўвабраць у рытмы і рыфмы, адпрэчыць зло такім чынам. Дзе там! Гэта ж акром таленту працы вялікай патрабуе, а думаць не хочацца. Папраўдзе, усе мы крыху постмадэрністы, часта ідзём ад прачытанага, пачутага, напісанага. Але што ў такім выпадку ты прынёс свайго, што сказаў такога, чаго раней не было? Ноў-хаў, як цяпер кажуць?

Выраз-азначэнне "ціхі беларускі нонканфармізм" выспеліўся ў галаве якраз за працай над згаданым фільмам "БНР. Час звеставання". Першым сказаў аб гэтым двум навукоўцам, аўтарам сцэнарыя. Тэрмін "нонканфармізм" яны прымалі, але да чаго тут азначэнні "ціхі" і "беларускі"? Нейкая лірыка ўжо. Не зразумелі, адным словам, што мяне тады не вельмі і засмуціла. Пасля і эсэ, і верш напісаў пад такою назвай. У свой час на ваеннай дакладнай дробнамасштабнай карце "Слонім"

знайшоў лес Літву і балота Пагоню каля свайго Даманава ў Івацэвічскім раёне. Іншы б не пасаромеўся назваць гэта гістарычным адкрыццём, якое пацвярджае месца летапіснай Літвы, акрэсленае Міколам Ермаловічам. Прапанаваў стварыць Беларускі храм хрысціянскіх канфесій, выдаць хрысціянскую энцыклапедыю. Крыжы паставіць на межах Беларусі (ужо на свае вочы бачыў увасабленне ідэі на мяжы з Расіяй, па дарозе на Добруш і Гомель – ці хто чытаў мой тэкст, ці проста духоўнае сугучча?). Крыжы – увогуле цэлая тэма, важкі пласт, пачынаючы з фільма “Крыж ля дарогі” і сканчаючы тым, што гэты крыж, выраблены для здымкаў, стаіць у мяне на хутары. І кніга “Крыжы на ростанях” ёсць, названая па вянку санетаў. Хоць вера, насамрэч, большая ад сімвала. Аб роднай мове напісаў з гледзішча хрысціянскага – грэх грэбаваць ёю, бо Госпадам нам дадзена. Ды яшчэ наш абавязак перад сваімі (найперш крэўнымі) продкамі-папярэднікамі – не маем права сказаць ім, што іх, як і мовы, на якой яны спрадвеку размаўлялі, быццам і не было. Бо ў такім выпадку і людзьмі называцца неяк праблематычна. Сваю гісторыю Беларусі выклаў – эсэ “Беларускі шлях. Звенчакі айчыннай гісторыі”. Кароткую гісторыю пісалі, але так, каб за адлік браліся не звыклыя перыяды, а натуральных крутабег часу – стагоддзі, – не сустракаў. Гэткі падыход наймацней грунтуе погляд на Беларусь як **суб’ект** гісторыі. Фота з жонкай на вокладцы “Шляхцянкі-восені” – нідзе такога ў зборніках нашых паэтаў не бачыў! Ці згадаеш усё? Дзякаваць Богу, нешта ёсць, не соромна, што паэтам, празаікам і эсэістам сябе называеш, ды яшчэ сцэнарыстам і кінарэжысёрам. Толькі, як сам жа ў адным вершы сказаў, “спяшацца не будзем падводзіць рашаючы вынік”.

Але ж не для таго пішаш і друкуеш кнігі, фільмы здымаеш, каб нечым вылучыцца, быць адметным (хоць і гэтага, калі быць шчырым, не адкінуць дарэшты, такая ўжо чалавечая прырода). Проста з адказамі аб сэнсе творчых высілкаў чалавека, увогуле яго прызначэння і існавання на зямлі ўсё роўна застаешся сам насам. А іх, адказаў, можа быць яшчэ шмат. Зноў жа, хрысціянскі. Калі даў табе Госпадзь грошык, які ў часы зямнога быцця Ісуса Хрыста называўся талентам, то ўжо права не маеш закопваць яго ў зямлю, яшчэ адзін грэх браць на душу, а павінен працаваць, прымнажаць дадзенае. А потым неяк прыкмячаеш, што табе проста падабаецца пісаць, выштукоўванне вершаў, тэкстаў; пісанне як працэс дае асалоду. Складваць словы, знаходзіць іх, падбіраць іх, каб думка была выказана нязмушана, знаходзіць свае вобразы.... Сугучнае ў “Адзінотным” Васілія Розанава (1912 год!): “Зачем? Кому нужно? Просто мне нужно. Ах, добрый читатель, я уже давно пишу “без читателя”, – просто потому, что *нравится*. Как “без читателя” и издаю... Просто, так нравится...”. Ці яшчэ вельмі пранікнёныя радкі Уладзіміра Сакалова: “Я даже рад, что я поэт, // Что и потом смогу с к а з а т ь, // Когда весь этот белый свет // Я перестану осязать”. Проста падабаецца. Але і Розанаў (нездарма ўсё ж чытач згадваецца), і Сакалоў спадзяваліся, што хоць хто-небудзь ды прачытае іх слова. Як ні выкручвайся, а водгуку пісьменніку хочацца. Не мінула і мяне гэтая тэма-праблема, адзін з ранніх вершаў так і называецца – “Аб паэзіі”. “Другая знойдзецца душа – // Твайму адкажа слову. // Ды тут не нам ужо рашаць, // Не нам тварыць замову...”. І былі, і ёсць выпадкі судакранання, канкрэтнага водсвету таго, аб чым ты напісаў. То там нехта скажа, то там адгукнецца. Асабліва мяне ўразіла, калі адзін літаратар (мы з ім проста знаёмыя, не больш) з падпісанай яму кнігі назваў потым адзін верш, які больш астатніх лёг яму на душу: “Жаночы ранак”. Сам я глядзеў проста – ну, ёсць такі верш і ёсць, на сустрэчах ніколі яго не чытаў. Аказваецца, каго і кранае. Толькі складана, паўтаруся, з водгукамі, асабліва ў апошнія гады, бо кнігі цяпер амаль не чытаюць. Значыць, пішаш сапраўды больш для сябе. Здаецца, на гэтым можна і супакоіцца. Але ж турзае, думку не спыніш. І аднойчы прыйшоў яшчэ адзін

адказ. Самае цікавае, у нейкім сэнсе ён прадбачыўся ўжо ў згаданым вершы “Аб паэзіі”, дзе заключная страфа скіроўвала ў вышыню: “Жыве яна сама сабой // Ў нябачнай наасферы, // Як наша вечная любоў – // Адбітак вечнай веры”.

Так збеглася, што пасля фільма “У пошуках новай зямлі” прыйшла задума напісаць “Ліст Коласу”. І пачаў яго за мемарыяльным сталом песняра ў яго музеі. Так, так, здараецца! У вобразе Коласа сядзеў я за тым сталом (дазволілі дзеля мастацтва), і ў фільме кадр ёсць. Пісаць у лісце дзядзьку Якубу збіраўся, натуральна, аб мове, аб тым, што практычна ўсё, напісанае класікам у апошнім лісце ў ЦК, актуальнае, на жаль, і сёння. Далей памкнення, праўда, пакуль не дайшло. Зноў патаўчы ваду ў ступе – і што? Але думкі снуюць, спеляцца. У пэўны момант выштурхнулася: **Матрыца Беларусь!** Вось, вось, акром іншага, дзеля чаго мы пішам! Не буду тут пашыраць, што кожны народ мае сваю матрыцу, кажу найперш аб сваім, набалелым. Існуе яна, не можа таго не быць! У той жа нябачнай наасферы ёсць такая духоўная субстанцыя, але і абсалютна рэальная, проста нам гэты свет пакуль яшчэ незразумелы. У ячэйкі яе кладзецца ўсё да драбніцы, што зроблена на карысць Беларусі, дзеля роднай Бацькаўшчыны. Спадзяешся, што будзе і твая ячэйка ў той матрыцы, твая часцінка любові да роднай краіны, якая тым больш увасобленая ў тэксты і фільмы. Зрэшты, можа быць і любоў неўвасобленая (асэнсаваная ці нават неасэнсаваная), бо не ўсім жа сапраўдным беларусам быць паэтамі ці мастакамі. У згаданай любові абавязковым і неабходным элементам, кутавым камнем у падмурку ёсць наша родная беларуская мова. Магчыма, якраз гэта ёсць перадумова найпершая, неаспрэчная, найгалоўная. Найважны крытэрый, па якім запаўняецца матрыца – бо што вылучае адзін народ ад другога?

Да слова, з’явіліся ў нас апошнім часам рускамоўныя беларускія нацыяналісты, нават абмяркоўваецца такая з’ява, калі не шырока, то даволі. І самому, бывала, думалася – няхай сабе, быццам таксама робіцца справа беларуская. Але калі капнуць глыбей – не. Што такое любіць Беларусь па-руску? Гэта як быць крыху цяжарным. Дык вызначыся – цяжарны ты ці ўсё ж пустадомак неаплоднены? Выдзерці мову – значыць, выдзерці душу Беларусі. А без душы нічога няма, пустэльня, што тут, братка, ні кажы. І Віфлеемская зорка не заззяе. Падман, фальш. Гэта ж не XIX-е стагоддзе, калі не было дзе слова надрукаваць па-беларуску. Сядзяць філарэты каля любімага каменя ў Карчоўскім лесе, вогнішча паляць, Адам Міцкевіч і гаворыць сваім сябрам: “Наша родная мова – беларуская, ці яшчэ русінская, ці літоўска-русінская. Людзей шмат на ёй размаўляюць – каля дзесяці мільёнаў чалавек. Самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. Нашыя вялікія князі карысталіся ёю для дыпламатычнай перапіскі. Але даўно тое было. А цяпер дзе мае беларускія вершы ўбачаць свет? Што рабіць?” Яму адказвае, напэўна, Тамаш Зан: “Братка наш Адам Навагрудскі, сын Міколы. Нельга свой талент у зямлю закопваць. Што тут зробіш – пішы па-польску, усё роўна аб нашай зямлі і яе людзях пісаць будзеш...”

Мова жыла, але на той час страціла голас. А тут ужо больш за стагоддзе надрукавацца ёсць дзе. Сёння беларуская справа не можа быць без беларускай мовы. Проста па азначэнні. І плён высілкаў такіх не трапіць у матрыцу Беларусь, яна іх проста не распазнае, не расчытае, не прыме. Бо гэтая субстанцыя неад’емная ад мовы... Дык вось. Папаўняюцца ячэйкі матрыцы пастаянна, штодзень дадаецца плён сынамі Беларусі ў яе духоўны свет. І ў нейкі пэўны момант будзе назапашана крытычная маса энергіі (як і ў выпадку з кропляй на шалях вагаў дабра і зла), нечая апошняя кропля-слова запоўніць апошнюю ячэйку, матрыца поўнасцю набрыняе і ператворыцца ў **зорку Беларусь**. Якая загарыцца на небе, ярка й непагасна заззяе ў сусвеце. Каб не згаснуць ужо ніколі.

*2014, 2015*

Іван Саверчанка



...дзеля дасягнення вялікай мэты
і шчаслівага жыцця, трэба спадзявацца,
перадусім, на ўласныя сілы...

# Акадэмік

***Штрыхі да творчага партрэта Вацлава Ластоўскага***

*Вацлаў Ластоўскі – унікальная постаць беларускай літаратуры і культуры пачатку XX стагоддзя. Таленавіты пісьменнік, этнограф, гісторык, кнігазнавец, грамадскі дзеяч і старшыня Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Вацлаў Ластоўскі пакінуў багатую мастацкую і інтэлектуальную спадчыну. У гісторыю беларускай літаратуры ён увайшоў як аўтар выдатных аповесцяў і апавяданняў, прыпавесцяў і абразкоў, яркіх успамінаў і публіцыстычных твораў. Пяру Вацлава Ластоўскага належаць пафасныя вершы і рытмізаваныя замалёўкі.*

## I

Нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі ў 1883 годзе ў маёнтку Калеснікаў (Глыбоцкі раён). Пачатковую адукацыю атрымаў дома, затым вучыўся ў вясковай школцы, якая была ў суседняй вёсцы Стары Пагост. Нейкі час юнак навучаўся лекарскай прафесіі ў дзядзькі Францішка Ластоўскага. У 1896 годзе ён перабраўся ў Вільню, дзе тры гады навучаўся купецкай справе.


*Вацлаў ЛАСТОЎСКІ.*

У 1899 годзе Ластоўскі накіраваўся ў Пецярбург. Там зарабляў на жыццё працай бухгалтара, бібліятэкара, а ў вольны час слухаў лекцыі ва ўніверсітэтах. У 1906 годзе яго арыштоўваюць за прапаганду сацыялістычных ідэй і на некалькі месяцаў адпраўляюць за краты.

З 1906 года Ластоўскі жыве ў Рызе, дзе далучаецца да беларускага руху, становіцца сябрам Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

У сакавіку 1909 года Вацлаў Ластоўскі заняў пасаду сакратара "Нашай Нівы", якую займаў да 1914 года. Ён таксама загадваў першай беларускай кнігарняй у Вільні. Вацлаў Ластоўскі працаваў плячо ў плячо з волатамі нацыянальнага адраджэння – Янкам Купалам, Ядвігіным Ш., братамі Луцкевічамі.

Вацлаў Ластоўскі па-сапраўднаму захапіўся вывучэннем гісторыі Беларусі. У 1910 годзе ён апублікаваў першую ў нацыянальнай гістарыяграфіі абагульняльную працу: *"Кароткая гісторыя Беларусі"*, напісаную даступна і вельмі ярка. Ва ўступным слове да кнігі аўтар вельмі сціпла ацэньваў вынікі ўласнай працы. Але на самай справе – гэта была праца, якая закладвала фундамент нацыянальнай гістарыяграфіі, акрэслівала яе важнейшыя напрамкі і галіны.

Да галоўных вартасцяў "Кароткай гісторыі Беларусі" Вацлава Ластоўскага належыць тое, што на яе старонках вучоны прадставіў якасна новую канцэпцыю дзяржаўнасці Беларусі і гісторыі беларускага народа як адметнай супольнасці, што сфармавалася на грунце плямён, якія жылі ў басейнах Дзвіны, Прыпяці, Дняпра Сожа і Нёмана – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і літвінаў. На падставе аб'ектыўных крытэрыяў ён прапанаваў навуковую перыядызацыю нацыянальнай гісторыі.

Вацлаў Ластоўскі ўнікнуў класавага падыходу пры асвятленні палітычных і грамадскіх падзей. Ён упершыню звярнуў увагу на дзейнасць буйных палітычных асобаў, князёў і магнатаў, дзеячаў культуры і царквы, паказаў іх ролю і месца ў нацыянальнай гісторыі. Вучоны раскрыў малавядомыя факты знешняй палітыкі і дыпламатыі, асвятліў шматлікія вайсковыя падзеі, адзначыў найбольш буйныя культурныя здабыткі беларускага народа.

Вацлаў Ластоўскі актыўна друкаваўся на старонках "Нашай Нівы". Тут былі змешчаны яго яркія апавяданні і абразкі: "Нарадзіны" (1909), "Зайчык" (1909), "Слёзы", "Мары", "Лебядзіная песня" (1910), "Панас гуляе" (1910), "Краскі" (1910), "Мост у Кутах" (1910), "Апаўшае лісце" (1910), "Голад" (1911), "Хрыстос нарадзіўся" (1911), "Дзень ружавай кветкі" (1912). Ужо першыя літаратурныя творы Ластоўскага сведчылі пра яго несумненны пісьменніцкі талент, асаблівую ўвагу да ўнутранага свету героеў, імкненне да пабудовы складаных сюжэтаў, яркіх дыялогаў, старанную працу над мовай і стылем твораў.

Падчас працы ў "Нашай Ніве" Вацлаў Ластоўскі напісаў шмат нарысаў і публіцыстычных артыкулаў. Асабліва значны яго артыкул *"Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў"* (1910). У ім пісьменнік-інтэлектуал звярнуўся да міфалогіі беларусаў, падаў звесткі пра пантэон язычніцкіх багоў – Перуна, Воласа, Ладу, Дажбога, Ярылу, раскрыў сімвалічную сутнасць старадаўніх святаў і абрадаў беларусаў.

На старонках "Нашай Нівы" пісьменнік змясціў шэраг папулярных артыкулаў на гістарычную тэматыку: "Земскія суды" (1912), "Копныя суды" (1912), "Станы ў старой Беларусі" (1912), "Раздзелы і сваркі" ( 1912), "Хлебаробства на Беларусі ў даўнія часы" (1914).

У 1912 годзе Вацлаў Ластоўскі апублікаваў аповесць – *"Прыгоды Панаса і Тараса"*. Яна была надрукавана ў Пінску асобнай брашурай пад псеўданімам "Арцём

Музыка". Аповесць"Прыгоды Панаса і Тараса" – выключна яркі і надзвычай цікавы празаічны твор. Яна з'яўляецца істотным укладам пісьменніка ў развіццё сатырычна-гумарыстычнай традыцыі, якая мела глыбокія карані ў нацыянальнай літаратуры. У аповесці "Прыгоды Панаса і Тараса" мноства забаўных здарэнняў і карнавальных сцэн.

Твор скіраваны супраць палякаў, іх непамерных амбіцый і ганарыстасці. Сюжэт аповесці пабудаваны паводле прыгодніцкай логікі. Беларускія сяляне – Панас і Тарас, што жывуць у адной з вёсак на Піншчыне, выпраўляюцца ў падарожжа. Яны хочуць паглядзець свет, убачыць, як жывуць іншыя людзі. Падрыхтаваўшы калёсы і назапасіўшы ежы, яны накіроўваюцца ў бок Берасця, а затым трапляюць у Польшчу. Там сяляне назіраюць дзівосныя падзеі, якія пісьменнік напаўняе сімвалічным сэнсам. Тамтэйшыя жыхары – мазуры – паводзяць сябе незвычайным чынам, камічна і надзвычай пацешна. Яны амаль нічога не ўмеюць рабіць па-людску. У выніку, беларускія сяляне – Панас і Тарас – навучаюць іх шмат якім рэчам, разнастайным побытавым і гаспадарчым заняткам – як правільна надзяваць нагавіцы, як накарміць кароў свежай травой, як падрыхтаваць лазню, як узвесці жыллё. Пісьменнік пакеплівае з мазураў, смяецца з іх блуклівасці, паказвае іх адпрыродную нягегласць, някемлівасць, а часам і дзікунства, як напрыклад, – звычай запрагаць жанчын у плуг, замест валоў.

Аповесць "Прыгоды Панаса і Тараса" – стылёва надзвычай адметная. Майстар слова ўмела выкарыстоўваў казачны стыль, устойлівыя эпічныя формулы, якія шмат разоў паўтараюцца, а таксама рыфму і рытмізаваныя малюнкі: "Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі – пык! пык! пык! – пакурваюць. Конікі – трух! трух! трух! – патрухваюць" .

Шырокі грамадскі водгук атрымаў артыкул Вацлава Ластоўскага *"Сплачывайце доўг"*, апублікаваны ў "Нашай Ніве" 5 ліпеня 1913 года. У ім пісьменнік-інтэлектуал акрэсліў шляхі развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства. Ён вельмі высока ацэньваў грамадскую місію літаратараў – паэтаў і празаікаў. "Паэта, – падкрэсліваў Ластоўскі, – павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю".

У артыкуле *"Родная мова"* (1914) Вацлаў Ластоўскі прадставіў фундаментальнае асэнсаванне ролі роднай мовы ў развіцці беларускага грамадства і нацыі. Ён узрушана пісаў: "Родная мова наша для нас – гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажывае народ наш: яго болесцей і радасцей, голас яго сэрца і святло яго розуму".

Працуючы ў "Нашай Ніве", Вацлаў Ластоўскі дапамог Максіму Багдановічу ў падрыхтоўцы і выданні "Вянка" (1914) – адзінага прыжыццёвага зборніка твораў геніяльнага паэта.

## II

Побач з навуковай і творчай працай Вацлаў Ластоўскі ўвесь час актыўна займаўся палітычнай дзейнасцю. З 1915 года ён уваходзіў у склад кіраўніцтва партыі "Хрысціянская злучнасць". Ластоўскі браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы "Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі" (1916), які быў накіраваны на міжнародную канферэнцыю ў Лазане (Швейцарыя). У дакуменце, які меў стратэгічнае значэнне, абгрунтоўвалася права беларусаў на ўласную дзяржаўнасць.

З 1918 года Вацлаў Ластоўскі з'яўляўся сябрам Віленскага беларускага савета. Менавіта ад гэтай арганізацыі ён быў накіраваны ў сакавіку 1918 года ў склад Рады БНР. Напэўна, ён прымаў дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы асноватворных дакументаў БНР, у прыватнасці "Трэцяй Устаўнай Граматы", прынятай 25 сакавіка 1918 года. Вацлаў Ластоўскі зрабіў надзвычай шмат для ўвасаблення ў жыццё ідэі незалежнай і вольнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

У канцы 1918 года Вацлаў Ластоўскі выконваў абавязкі беларускага аташэ пры пасольстве Літвы ў Берліне, дзе працягваў адстойваць інтарэсы беларусаў. У 1919 года ён стаў сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

У снежні 1919 года ў адказны гістарычны момант Вацлаў Ластоўскі ўзначаліў Урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Але ўжо 17 снежня 1919 года ён быў арыштаваны польскімі ўладамі. Вызвалілі яго ў лютым 1920 года.

Затым Вацлаў Ластоўскі пераехаў спачатку ў Рыгу, а затым у Коўна. Разам з Тамашом Грыбам, Дуж-Душэўскім і Аляксандрам Цвікевічам, Вацлаў Ластоўскі ўвайшоў у Камітэт загранічных груп Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Вельмі важная старонка ў жыцці Ластоўскага – арганізацыя антыпольскага партызанскага руху.

Пасля падпісання папярэдніх мірных дамоў паміж панскай Польшчай і Савецкай Расіяй у кастрычніку 1920 года Вацлаў Ластоўскі актывізаваў міжнародную дзейнасць, каб адстаяць інтарэсы Беларусі. У пасланні да мірнай канферэнцыі, якая адбывалася ў Парыжы, ён прасіў краіны Антанты дапамагчы Ураду БНР. Але яго звароты засталіся непачутымі.

Усведамляючы асабістую адказнасць за лёс Беларусі, Вацлаў Ластоўскі ініцыяваў стварэнне, 20 кастрычніка 1920 года падчас канферэнцыі ў Рызе, блоку беларускіх партый для барацьбы “за незалежную і непадзельную” Беларусь.

Вацлаў Ластоўскі актыўна займаўся рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасцю. У 1916 – 1617 гадах ён рэдагаваў і выдаваў газету *“Томан”*, напісаў для яе шмат літаратурных і публіцыстычных твораў. Ва ўступным артыкуле рэдактар акрэсліў агульнанацыянальную місію новага выдання: “Патрэба газеты адчуваецца наймацней тады, калі настаюць часы важных перамен, калі ідзе справа аб долі народаў. Беларускі край цяпер пераживае якраз такі вялікі гістарычны момант: перад намі адкрываецца шырокі прастор для працы, і ў гэты момант больш, чым калі, патрэбна нам беларуская газета”.

Вацлаў Ластоўскі старанна апрацоўваў народныя легенды і паданні, аб чым сведчаць надрукаваныя ў газеце “Томана” апавяданні: “Сцяпан і Вяльяна”, “Юга і Грамавік”, “Каменная труна”. Апавяданне “Каменная труна” (1917) заснавана на легендзе пра пана Бутрыма Няміру. Пан вылучаўся асаблівай жорсткасцю, забіў уласную жонку Мару і яе каханага Стаўра. Няміра быў пакараны, а яго цела застыла ў каменнай труне, якая ляжыць на гары непадалёк ад мястэчка Дзісна.

Несумненнай мастацкай удачай Вацлава Ластоўскага з’яўляецца апавяданне “Злыя вочы” (1917), надрукаванае ў “Томане”. Для гэтага апавядання характэрны выключны псіхалагізм. Пісьменнік перадае душэўны стан героя, яго ўнутраныя трывогі. Злыя вочы – сімвал усяго нялюдскага, жорсткага, крыважэрнага.

У 1918 годзе Вацлаў Ластоўскі выдаваў часопіс *“Крывічанін”*. У ім ён змясціў “Прыпавесць аб старым мужу і гожай дзеве”, у аснове якой народнае паданне з дыдактычна-павучальным сюжэтам. На старонках часопіса быў надрукаваны канцэптуальны артыкул Ластоўскага пад назвай: “Нацыянальнае пытанне”. У ім пісьменнік-інтэлектуал абгрунтоўваў права ўсіх народаў, у тым ліку і беларусаў, на развіццё ўласнай культуры і палітычную незалежнасць.

У 1922 годзе Вацлаў Ластоўскі надрукаваў некалькі твораў у часопісе “Беларускі сцяг”, сярод якіх патрыятычныя вершы: “Наперад, змагарна наперад!” і “Благаслаўлён сын...”. Верш “Наперад, змагарна наперад!” – палымяны заклік паэта да супрацьстаяння ворагам, да кансалідацыі народа, з мэтай захавання гістарычнай перспектывы беларусаў як асобнай нацыі.

## III

З 1923 года Вацлаў Ластоўскі, улічваючы новыя грамадска-палітычныя рэаліі, змяніў тактыку паводзінаў і скарэктаваў прыярытэты ўласнай дзейнасці. Ён

выразна ўсведамляў, што для народа і краіны ў новых абставінах абсалютным прыярытэтам з'яўляецца ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, рэалізацыя навуковых і культурна-асветніцкіх праектаў, развіццё высокаякаснай нацыянальнай літаратуры, станаўленне прафесійнай філалогіі, актывізацыя ўсіх галін духоўнай дзейнасці. Яго пазіцыя была глыбока матываванай, што вынікае з прадмовы да часопіса *"Крывіч"*, дзе ў прыватнасці адзначалася: "Увесь час рэвалюцыі ўсе нашыя сілы былі скіраваныя ў старану абароны палітычных пазіцый, клалася на гэты бок многа ахвярнай і труднай працы, ніва ж нашай культурнай працы была пакінута выключна ініцыятыве і засабам паасобных дзеячаў. У выніку атрымалася значнае папярэджанне працы палітычнай перад культурнаю. Настаў вялікі час, калі беларускай адраджэнчай думцы, ані на момант не спыняючы ні з якога боку змагання, патрэба акапацца на здабытых дагэтуль пазіцыях: прыступіць да творчай працы ў дзедзіне нашага самапазнання, самаацэны і самакрытыкі".

Жывучы ў Коўна, Вацлаў Ластоўскі на працягу пяці год, ад 1923 да 1927, рыхтаваў і выдаваў часопіс "Крывіч". На яго старонках ён надрукаваў мноства артыкулаў на гістарычную тэматыку – пра паленне кніг на Беларусі, пра друкарні, пра Навагрудскую мітраполію, пра Віленскую акадэмію, аб лесаўчыках, пра ўнію і інш. Грунтоўныя публікацыі Вацлава Ластоўскага – гэта вынік яго шматбаковых даследаванняў гісторыі і культуры Беларусі.

У часопісе "Крывіч" Вацлаў Ластоўскі змясціў вялікую колькасць літаратурных твораў, нарысаў, замалёвак. У шматлікіх апавяданнях і мастацкіх замалёўках аўтар шырока выкарыстоўваў народныя легенды і паданні. З вуснай народнай творчасці пачэрпнуты сюжэты такіх яго твораў, як "Векавечная мяжа", "Бяздоннае багацце", "Князь Барыс і Чорт", "Аб сытой свінні", "Дзед і ўнук", "Певень і гуся", "Аб мядзведзю і асінавым калу з голасам", "Аб чорце бязродным", "Пад старасць адгукнецца", "Ліхая баба", "Варона і рак", "Вуж куртаты і мужык багаты", "Чаму Панас стаўся Ваўкалакам", "Як Кузьма стрэльбу рабіў", "Лепей вол ярэмны, як жарабец стаенны", "Смерд і ваявода". Яны адлюстроўвалі шматвяковы досвед народа і выконвалі павучальна-дыдактычныя функцыі.

Народны аповед пра міфічных істотаў – цмокаў – Вацлаў Ластоўскі скарыстаў у якасці асновы для яркага апавядання "Цмок" (1926). Паводле сюжэта твора, цмокі вылупляюцца з яйка, якое нясе певень на сёмы год жыцця. Калі тое яйка насіць пад пахай тры гады, дык з яго абавязкова вылупіцца цмок, які потым будзе ўслугоўваць гаспадару, прыносіць яму золата і серабро. Герой апавядання спрабуе абзавесціся ўласным цмокам, але церпіць фіяска. Пісьменнік, відавочна, звярнуўся да народнага сюжэта пра цмокаў з тым, каб сцвердзіць істотную сентэнцыю, – дзеля дасягнення вялікай мэты і шчаслівага жыцця, трэба спадзявацца, перадусім, на ўласныя сілы, а не шукаць намарна чароўных сродкаў.

Найбольш значным празаічным творам у спадчыне Вацлава Ластоўскага з'яўляецца аповесць *"Лабірынты"* (1923). Твор утрымлівае прыгодніцкія элементы і шматлікія містычныя сцэны. Галоўны герой "Лабірынтаў", ад імя якога вядзецца апавяданне, накіроўваецца з Вільні ў Полацк, каб убачыць помнікі мінуўшчыны. У Полацку ён знаёміцца з археолагам Іванам Іванавічам і мешчанінам Грыгорам Н., – сівавусым старцам, які размаўляў выключна па-беларуску. Ён меў мянушку Падземны чалавек, бо ведаў старадаўнія падземныя хады ў Полацку. Галоўны герой аповесці дзіўным, загадкавым чынам трапляе ў падземны горад, дзе працуюць вучоныя. Усе людзі там не ведаюць старасці.

У аповесці дамінуе інтэлектуальны пачатак, героі дыскутуюць аб узроўні культуры славянскіх народаў у дахрысціянскія часы. Вуснамі персанажаў аповесці пісьменнік сцвярджаў, што продкі беларусаў мелі шырокія пазнанні ў астраноміі, карысталіся ўласнымі найменнямі нябесных знакаў: "Як довад магу прывесці, што дагэтуль сярод нашага простага народа, які паўтысячы лет ходзіць у чужым

ярме, дагэтуль маюцца ўласныя назовы важнейшых нябесных знакаў. Напрыклад, гвязду Венеру дасягоння называюць Чагір. Пад найменнем Чагір фігуруе Венера ў супрасльскім календары XVIII ст... Вялікую Мядзведзіцу называюць Стажарамі; Плеяды – Сітцом, або Вуціным Гняздом; Арыёнаў пояс – Кігачамі; тры гвязды каля Млечнай Дарогі называюць Пралямі, або Жалезны Абруч; у галаве Млечнай Дарогі знаюць Касьбітоў, а саму Млечную Дарогу называюць Вайсковым Станам. Назоваў гэтых захавалася многа. А што гэта знача? Гэта знача, што быў калісь час, калі ў нас працвітала астралогія, глыбокае знанне якой з'яўлялася прывілеем класа вучоных, але была адначасна, мабыць, ведай, даступнай для ўсіх станаў".

Герой твора Падземны чалавек даводзіў, што на востраве Багінскага возера стаяў капец, на якім была ўзведена бажніца, што дапамагала заўсёды дакладна вызначаць поўдзень: "На востраве, яшчэ да скасавання паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ўсярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень".

На старонках аповесці "Лабірынты" Вацлаў Ластоўскі выказаў гіпотэзу аб існаванні кніг, напісаных для славян грэчаскім алфавітам задоўга да перакладаў Кірылы і Мяфодзія. Іх, на думку пісьменніка, ў I – V стагоддзях. падрыхтавалі хрысціянскія місіянеры – маніхеі, паўлікіяне і месальянцы: "Усе гэтыя сектанты пісалі грэцкімі літарамі па-славянску, дапасоўваючы іх да славянсай мовы" .

Шэраг апокрыфаў, паводле Вацлава Ластоўскага, гэтаксама былі перакладзены на славянскую мову раней IX стагоддзя: "І пераклад кананічных кніг на славянскую мову папярэдзілі розныя сказанні, як прыкладам: "Сказанне аб Адаме", "Кнігі Эноха справядлівага", "Сказанне аб Ламэху і Мельхіседэку", "Запаветы дванаццаці патрыярхаў", "Пасланне Абраама да Хрыста", ""Евангелле Хамы", "Евангелле Нікадымава" і шмат іншых".

У ковенскі перыяд Вацлавам Ластоўскім быў напісаны верш у прозе "У час аблогі" (1924), напоўнены трагізмам, адчуваннем адзіноты і пакінутасці. Другі верш – "Чала я не схіліў прад сілай" – гэта паэтычная споведзь вялікага чалавека, які шчыра служыў народу, дбаў пра яго будучыню, не баючыся аніякіх перашкод і варожых пастак.

Вядома, Вацлаў Ластоўскі не цалкам адышоў ад палітычнай працы, аб чым сведчыць яго глыбока выверанае і аргументаванае выступленне на V Асамблееі Лігі Нацый, якая праходзіла ў Жэневе ў верасні 1924 года. У сваёй прамове ён асуджаў ганебны падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй, які адбыўся ў 1920 годзе ў Рызе. Паказваючы здзекі над беларусамі з боку палякаў і рускіх, палітык зазначаў: "Гэты кароткі агляд палажэнняў беларусаў пад Польшчай і пад Масквой паказуе, што ні там ні тут не мае беларус свабоды, што і там і тут ён знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Каторая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка. І саламенны і раменны хамут муляе шыю". Вацлаў Ластоўскі даводзіў, што асноўная агульнанацыянальная задача для беларусаў, здабыць сапраўдную свабоду: "Быць вольным – прыроднае і людскае права кожнага чалавека і кожнага народа".

Працяглы час, звыш двух дзесяцігоддзяў, Вацлаў Ластоўскі збіраў матэрыял для руска-беларускага слоўніка. Праца ўбычыла свет у 1924 годзе пад назвай: *"Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік"*. У прадмове, змешчанай перад слоўнікам, Вацлаў Ластоўскі сфамуляваў уласную канцэпцыю мовы, дакладна вызначыў яе сацыяльныя і грамадскія функцыі. Выдатны філолаг усведамляў выключную ролю слова ў фармаванні асобы і працэсе пазнання. "Слова, – пісаў Ластоўскі, – гэта не ўмоўны знак для выражэння мыслі, але мастацкі абраз, вызваны найжывейшымі пачуваннямі, якія прырода і жыццё выклікалі ў першабытным чалавеку. Яно знаходзіцца ў цесным звязку з народным бытам, яго светаглядам, гісторыяй, звычаямі і абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсць вялікай нацыянальнай легендай і скарбніцай, святой спадчынай, каторая пераходзіць з пакалення ў пакаленне, з дзядоў на ўнукаў. Увесь светагляд і паэзія нашых

прадзедаў замыкаліся ў мове. Кожнае слова было легендай-пагудкай, мітам, было поўнае зместу і паэзіі: бо міт асновываўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове. Слова ёсць творчасцю ўсяго народа, формы слова шліфаваліся многімі пакаленнямі і сталецьцямі, пакуль сталіся тым, чым яны сягоння ёсць".

Вацлаў Ластоўскі вызначыў асноўныя чыннікі фармавання беларускай літаратурнай мовы, акрэсліў шляхі ўздзеянне на яе старaславянскай мовы, гоцка-нямецкіх уплываў, а таксама ўздзеянне польскай і чэшскай моў. Аўтар слоўніка выступаў за чысціню беларускай літаратурна мовы, паказваў небяспеку засмечвання яе непатрэбнымі запазычаннямі. Ён падкрэсліваў: "Мова – гэта аблічча душы народа, і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым". Слоўнік Вацлава Ластоўскага істотна ўзбагаціў нацыянальную філалагічную навуку, ён і цяпер не страціў свайго практычнага і навуковага значэння.

Важным напрамкам навуковых пошукаў Вацлава Ластўскага на працягу доўгага часу з'яўлялася старажытнае беларускае прыгожае пісьменства, рукапісныя кнігі, княскія граматы і помнікі юрыдычнай думкі. У 1926 годзе ён апублікаваў фундаментальную *"Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі"*, якая стала значнай падзеяй у культурным і духоўным жыцці краіны.

"Гісторыя..." Вацлава Ластоўскага ахоплівала перыяд ад X да XVIII стагоддзя. У выданні навуковец падаў падрабязныя бібліяграфічныя звесткі і змясціў разгорнутыя характарыстыкі помнікаў пісьменства – Сятога Пісання на беларускай мове, богаслужбовых твораў, паломніцкай літаратуры, зборнікаў пропаведзяў, жыццяў, хронік і летапісаў, палемічнай літаратуры.

Даволі поўна ў кнізе былі прадстаўлены помнікі перакладной літаратуры, у прыватнасці – "Александрыя", "Аповесць пра Трою", "Рымскія дзяянні", "Арыстоцелевы врата", "Хроніка Малалы", "Шастакрыл" і "Лапатачнік".

Асобныя, найбольш каштоўныя старажытныя творы, невялікія паводле памераў, Вацлаў Ластоўскі асабіста рэканструяваў і змясціў у выданні. Сярод іх – "Аповесць пра Грунвальдскую бітву" і шэраг рэдкіх інтэрмедый XVII – XVIII стагоддзяў.

***

Увесну 1927 года Вацлаў Ластоўскі, паводле запрашэння Ураду Савецкай Беларусі, пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск.

Першае чым ён заняўся – разгортванне музейнай справы на Беларусі. На пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея ён зрабіў неверагодна шмат для пошукаў і захавання помнікай матэрыяльнай культуры.

Каля 1928 года Вацлаў Ластоўскі быў прызначаны на пасаду неадменнага сакратара Інбелкульта. Ён адначасова кіраваў кафедрай этнаграфіі, рэдагаваў "Працы кафедры этнаграфіі", працаваў у "Камісіі жывой беларускай мовы", ладзіў этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі. Менавіта Вацлаў Ластоўскі адшукаў нацыянальную рэліквію – крыж Еўфрасінні Полацкай. Ён актыўна спрыяў стварэнню на базе Інбелкульта Нацыянальнай Акадэміі Навук. У канцы 1928 – пачатку 1929 года Савет народных камісараў БССР зацвердзіў яго ў званні акадэміка Беларускай Акадэміі навук. Аднак, 20 лістапада 1929 года пастановай СНК БССР, ён быў зняты з пасады сакратара Беларускай Акадэміі Навук.

18 ліпеня 1930 года Вацлава Ластоўскага арыштавалі, а ў яго кватэры супрацоўнікі Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення правялі вобыск. З бібліятэкі забралі шмат рукапісаў.

Акадэміка Ластоўскага саслалі ў Саратаў. 23 студзеня 1938 года Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла Вацлава Ластоўскага да расстрэлу. Заўчасная смерць Вацлава Ластоўскага стала велізарнай стратай для беларускай гуманітарнай навукі і ўсёй нацыянальнай культуры.

Анатоль Астапенка



...лягчэй знішчыць чалавека,
чым выдаліць яго памяць і розум...

# Гросмайстар беларускага слова

## Уступ

Сон
Сон.
Сон.
Ноччу, бязлюднай і цёмнай,
Іду па зямлі.
Вышэзны і лёгкі,
Пакалыхваюся ад тугі.
Галава прыгнута пад небам.
Я плачу.
Зоркі – слёзы мае.
Спяць гарады і вёскі,
Я над імі іду.
Высокі, пахілы і лёгкі,
Пакалыхваюся ад тугі.
Шукаю шэрую вёску,
Вёску сваю.

Стральцоў... Празаік, паэт, літаратурны крытык, эсэіст, перакладчык, публіцыст...

Я сабраўся напісаць нарыс пра Міхася Стральцова. Хутка высветлілася, што крытыкі ўжо шмат напісалі пра ягоную творчасць, разабралі па костачках ягоныя вершы, эсэ і асабліва апавяданні. Усе хвалілі яго, называлі геніем, самародкам, лепшым празаікам і г. д.

Уражвае колькасць і якасць літаратараў, якія пісалі пра творчасць Стральцова: Алесь Адамовіч, Раіса Баравікова, Рыгор Барадулін, Віктар Гардзей, Пятро Васючэнка, Адам Глобус, Альгерд Бахарэвіч, Леанід і Васіль Дранько-Майсюкі, Валянцін Аскоцкі, Ціхан Чарнякевіч... А таксама – класік-літаратуразнаўца Арнольд Макмілін з Англіі. Былі напісаныя цікавыя ўспаміны сябрамі-пісьменнікамі – Янкам Брылём, Віктарам Карамазавым, калегамі-крытыкамі – Алай Сямёнавай, Анатолем Сідарэвічам...

Але ніхто не напісаў пра ягонае асабістае жыццё – нібы яго і не было. Маўчыць дакументальная літаратура, журналісты, маўчыць інтэрнэт. Вось пра Максіма Багадановіча, які жыў гадоў гадоў на 70 раней за Міхася Стральцова, – калі ласка – усё вядома, усё напісана, перапісана...

Успамінаю свае сустрэчы з Міхасём, размовы, дыскусіі, застоллі, але зноў-такі – памяць не дае нічога вартага пра тое, каб Стральцоў узгадваў са сваіх юнацкіх, студэнцкіх гадоў, не гаворачы пра дзяцінства.

Сёння я ў каторы раз пачаў праглядваць розныя матэрыялы, што аселі ў папцы пад назвай “Стральцоў”. І мне на вочы патрапілі радкі, што стаяць тут у якасці эпіграфа. Гэта прадмова да ягонага твора “Адзін лапаць, адзін чунь”.

І я выразна ўбачыў Міхася. Гэта ж ён пра сябе: “*Я над імі іду. Высокі, пахілы і лёгкі, Пакалыхваюся ад тугі. Шукаю шэрую вёску, вёску сваю...*”

## Дзяцінства, школа, універсітэт

Нарадзіўся Міхась Лявонцьевіч Стральцоў 14 лютага 1937 года ў вёсцы Сычын Слаўгарадскага раёна. У савецкія часы мы не ведалі, а цяпер ведаем: Міхась нарадзіўся ў Дзень закаханых. Бацька будучага пісьменніка Лявон Клімавіч Стральцоў быў дырэктарам школы, а маці – Марыя Міхайлаўна – хатняй гаспадыняй. Малы хлопчык Міхась рос не па гадах разумным. Маці ўспаміналa, што Міхась рана навучыўся чытаць і пісаць.

Сярэднюю адукацыю Міхась Стральцоў атрымаў у Нова-Ельненскай школе.

Як і ўсе вяскоўцы – ды фактычна і ўсе грамадзяне савецкай Беларусі – юнак Міша Стральцоў верыў у савецкія ідэі, марыў пра эру камунізму і, канечне, падзяляў усенародную любоў да правадыра – Сталіна. Аб гэтым сведчыць ягоны першы надрукаваны твор (у 1952-м годзе), які меў загаловак: “Товарищу Сталину”. Аўтару тады было пятнаццаць гадоў.

Першыя яго вершы, напісаныя на рускай мове, былі змешчаны ў вучнёўскім рукапісным часопісе “Прамень” і ў газеце “За Радзіму” (1952). На першы свой ганарар з “раёнкі” Міхась купіў грабянец, а сястрычцы ляльку.

Празаічны дэбют адбыўся ў 1957 г. (апавяданне “Дома”, часопіс “Маладосць”).

Сваю родную вёску Сычын Міхась вельмі любіў, і гэтая любоў прайшла праз усё ягонае жыццё. У многіх творах ён зноў і зноў вяртаецца да сваёй радзімы, да аднавяскоўцаў, родных палеткаў, лясоў і вадаёмаў. За год да смерці М. Стральцова, у 1986 годзе, адбылася Чарнобыльская катастрофа. Яна самым непасрэдным чынам закранула малую радзіму пісьменніка.

Усё было вельмі засакрэчана, і змест ніжэй змешчанага тэксту яму, пэўна ж, не быў вядомы (Міхась тады ўжо захварэў смяротнай хваробай і жыць яму заставалася трохі больш за два месяцы):

*«Шифротелеграмма заместителя начальника химических войск Министерства*

*обороны СССР А. Кунцевича командующему войсками Министерства обороны СССР Белорусского военного округа В.М. Шуралеву о результатах измерения радиоактивного загрязнения в населенных пунктах Могилевской, Гомельской и Брянской областей 19 июня 1987 г. Секретно.*

*1. Рекомендовать директивным порядком переселить жителей сел с плотностями заражения 80 Ки/км кв., в том числе Чудяны, Малиновка, Репище, Новая Ельня, Рыславль (полный список имеется в ГО БССР).*

*2. Рассмотреть вопрос об отселении населения из сел с плотностями заражения 40 Ки/км кв. с.».*

Гэтыя вёскі – наваколле радзімы Стральцова. Сычын таксама ў гэтай зоне.

Але няшчасны лёс родных мясцінаў яшчэ наперадзе.



*Міхась СТРАЛЬЦОЎ.*

Наведаўшы ў 1987 годзе Сычын, Рыгор Барадулін пісаў: «*Стыне гняздо буславае. Стыне гняздо Міхася Стральцова. Але штовясны з выраяў у сваё гняздо вяртаюцца буслы. І дзе б ні быў Міхась, ён сваімі думкамі, сваімі словамі вяртаецца ў Сычын, каб ісці далей у свет па-стральцоўску – светла і роздумна*».

Міхась паступае вучыцца ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта.

Недзе на трэцім курсе ён, як сам дакладна апісаў у апавяданні “Свет Іванавіч, былы Дожуан”, мяняе згодна з выклікам часу свой знешні выгляд: адгадоўвае доўгія валасы, паднімае “каўнер курткі” і “катастрафічна звужае штаны” – “затое так прасторна было плячам пад шырачэзнымі пінжакамі...”. Па гэтым жа, у многім аўтабіяграфічным апавяданні можна даведацца пра літаратурныя схільнасці Стральцова. Ён чытае французскія раманы – Эміля Бландэ, Люсьена Раўбампрэ... Але галоўнае – у ягонай свядомасці адбываецца пераварот. Здарылася гэта пасля XX з’езду КПСС, калі на камсамольскім сходзе зачыталі закрыты ліст ЦК КПСС пра культ асобы Сталіна. І адгэтуль – “партрэт “бацькі ўсіх народаў” пыліўся ў інтэрнацкай шафе-кладоўцы”.

У 1959 годзе Стральцоў скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ і пайшоў працаваць у газету «Літаратура і мастацтва». Ён жэніцца, і неўзабаве ягоная жонка Галіна Сямёнаўна нараджае дзвюх дачок – Вікторыю і Вераніку.

На працягу ўсяго творчага шляху пісьменнік быў звязаны з літаратурным і журналісцкім рамяством – працаваў у рэдакцыях штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» (1959–1961, 1969–1972), часопісах «Полымя» (1961–1962), «Маладосць» (1962–1968), «Нёман» (з 1984 г.).

Ён быў з кагорты прадстаўнікоў пакалення «дзяцей вайны». Многія з іх унеслі значны ўклад у беларускую літаратуру. Таму іх называюць таксама “філалагічным” пакаленнем. Гэта – А. Пысін, І. Чыгрынаў, В. Карамазаў, У. Караткевіч, Б. Сачанка, В. Адамчык і іншыя.

Першае апавяданне “Блакітны вецер” ён піша дваццацігадовым юнаком.

Гэты твор уражвае сваёй дасканаласцю, майстэрствам. Магло падацца, што пісаў яго салідны пісьменнік, вядомы майстра – настолькі высока была паднятая планка. Ужо ў гэтым апавяданні ён паказаў, фактычна сфармуляваў крэда свайго жыцця: пісаць трэба толькі моцна, а інакш лепш зусім не пісаць. І гэты прынцып ён пранясе праз усе сваё не надта доўгае жыццё. У гэтым і адна з прычынаў поўнай адсутнасці празаічных твораў пасля 1973 года да самай смерці.

Апавяданне «Блакітны вецер», апублікаванае ў 1957 годзе, дало назву першаму зборніку прозы, які выйшаў у 1962 годзе і ў які, апроч названага, увайшлі яшчэ апавяданні «Дома», «Мацеевы дровы», «Восеньскі ўспамін», «Двое ў лесе», «Суседзі», «Перад дарогай».

## І. ТВОРЦА

### *Асоба*

Прайшло, мусіць, гадоў трыццаць – сорак ад тых часоў, калі аўтар гэтага тэкста бачыўся, размаўляў і проста бавіў час з Міхасём Стральцовым. Няўмольны час назаўжды сцірае з памяці страчаную эпоху, людзей і падзеі. Застаецца, галоўным чынам, толькі адчуванне, музыка ды, мабыць, колер і гучанне тых нямногіх – блізкіх, найбольш яскравых і незвычайных постацей мінулага.

Цяжка сказаць, што нас звязвала – некалькі гадоў (асабліва ў другой палове 70-х) мы мелі зносіны досыць часта: сустракалі разам святы, гасцявалі адзін у аднаго, выпівалі. Размаўлялі, слухалі музыку. У нас была вялікая розніца ва ўзросце – Міхась стрэйшы на 10 год. Розныя прафесіі – я быў аспірантам у галіне тэаратэчнай фізікі, а потым навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі АН БССР, ён – пісьменнік. І гэтыя бясконцыя размовы... Магчыма, прымаючы тэрміналогію Курта Ванегута, мы былі людзі з «аднаго караса».

...Голас у яго быў ціхі, мова беларуская, але з своеасаблівымі фанетычнымі рысамі, з рысамі магілёўскага дыялекту (напрыклад, мяккае “р” – “старі-і-ік”). Але, апрача дыялектных асаблівасцяў, мове Міхася былі характэрныя больш важкія, толькі яму ўласцівыя асаблівасці. Ён не ўмеў гаварыць так, каб нічога істотнага не сказаць, як гэта часта ў іншых здараецца. Кожная ягоная фраза мела вагу, часам была загадкавай, але гэта толькі на першы пагляд, незразумелай гэтая фраза была толькі ад нашай недасведчанасці. Стральцоўская фраза мела сэнс, паступова ператваралася ў цэлы тэзіс, які можна было ўспрымаць альбо не – у залежнасці ад вашай дасведчанасці і інтэлекту.

Успамінаецца такі выпадак. Аднойчы, гуляючы з аўтарам гэтай кнігі ў зялёным масіве мікрараёна Серабранка (гэта было недзе ў другой палове 70-х гадоў), Міхась запытаўся: «Ці ведаеш ты, Анатоль, што гэта?», паказваючы на нейкую травінку, якая для мяне заўсёды мела назву такую ж, як і ўсякая іншая «наземная» расліна з саду, – «трава». «Не», – кажу. «Гэта – звычайная канюшына. А вось гэта з мяцёлкай – лісахвост. Тая раслінка з блакітнымі кветачкамі – крынічнік, добры антытаксічны сродак. Гэтая трава завецца купальнік...» Міхась заўзята, як вучоны-батанік, апавядаў пра кожную расліну.

Вельмі здзіўлены, я запытаў, адкуль такія веды, бо не батанік жа ён паводле адукацыі. Стральцоў адказаў, што «пісьменнік павінен дасканала ведаць усё, пра што ён піша. І калі піша пра траву, то мусіць ведаць, што гэта за від. Калі піша пра аблокі, то адразу трэба адзначыць, якія яны – пярыстыя ці хмаравыя. Калі піша пра характар чалавека, то без ведання псіхалогіі не абысціся. І так ува ўсім”.

Ён ведаў не горш за арнітолага і птушынае царства, мог беспамылкова распазнаваць галасы птушак, ведаў іх назвы, характары і мову... Аб гэтым жа піша ва ўспамінах і Роза Станкевіч, прыхільніца творчасці Стральцова, якая сустракалася з Міхасём у апошні год яго жыцця: “*...С птицами, чьи голоса Ты так точно и с неприкрытой радостью, с гордостью узнавал. А, может быть, и понимал*”.

«Пісьменнік як ніхто мусіць мець універсальныя веды», – сцвярджаў Стральцоў.

Міхась Стральцоў ведаў тэмы свае творчасці ва ўсёй шырыні. Ён быў знаўцам сусветнай літаратуры, як паэзіі, так і прозы, драматургіі. Мог без падрыхтоўкі прачытаць цэлую лекцыю аб творчасці Генрыха Мана ці Мікалая Забалоцкага.

Памяць у яго была фенаменальная. Прытым і ў час добрай выпіўкі алкаголь амаль не чапаў яго логікі і памяці, з заплюшчанымі вачыма ён без запінкі дэкламаваў вершы, урыўкі з паэм самых розных паэтаў.

У апошнія гады жыцця каля яго роем таўкліся шматлікія пачаткоўцы дый больш сталыя паэты, і ўсім ён, як мог, дапамагаў. Мне здаецца, што яго безадказнасцю шмат хто злоўжываў, а час, патрачаны на якога графамана, ён мог выкарыстаць зусім інакш, напісаць тое, чаго за яго ўжо ніхто не напіша. Бо часу заставалася няшмат...

І яшчэ. Нельга не сказаць пра вялікую любоў Стральцова да класічнай музыкі. Ён любіў слухаць вальсы Шапэна, сімфанічную музыку Моцарта і Бетховена. Але найбольшую прыцягальнасць для яго меў Рыхард Вагнер. Ён гадзінамі мог слухаць «Палёт валькірыяў» і ўверцюру да оперы «Тангейзер». Узнёслая, боская музыка вялікага немца прыцягвала і чаравала яго, здавалася, што нарэшце вярнуўся той нябачны свет сапраўднага, без ілжывых пустых лозунгаў будаўнікоў "самага лепшага грамадства". Яго жыццё сапраўды нагадвала палёт над рэчаіснасцю і было суцэльнай уверцюрай перад лепшай будучыняй, што так і не адбылася...

Што можна вылучыць найбольш значным у творчасці Міхася Стральцова? Якія творы найбольш вярэдзяць душы сучасных літаратуразнаўцаў, што з нарастаючай ступенню "цытавання" ўзгадвадаюць цяпер Стральцова? Тут і паэзія, і проза і крытыка... Што? А ўсё!

Вядомая на гэты конт сяброўская эпіграма Рыгора Барадуліна:

Спрачаліся за Гамера сем гарадоў,
тры секцыі — за Міхася Стральцова:
празаік Стральцоў, паэт Стральцоў,
крытык Стральцоў...
За кім праўда?
За вечнасцю слова!

## *Празаік Стральцоў*

Ён увайшоў у літаратуру адразу і трывала.

Пра прозу Стральцова напісана шмат. Ужо да пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя! Такое ўражанне, што гэта правіла "харошага тону" напісаць крытычны артыкул, рэцэнзію, эсэ пра творчасць празаіка Стральцова. Амаль усе сходзяяцца на адным: Стральцоў – паэт у прозе, глыбокі лірык, рамантык і філосаф.

Можна, напрыклад, працытаваць уступ да літаратурна-крытычных нататкаў "У пошуках гармоніі" (1981) Таццяны Шамякінай: *"Міхась Стральцоў стаў вядомым як пісьменнік у пачатку 60-х гадоў, у час, калі многа гаварылі пра лірычны стылёвы напрамак як самастойны і адзін з найбольш цікавых у сучаснай савецкай прозе.*

*Рост лірычнай прозы ў гэтыя гады можна тлумачыць рознымі прычынамі: і пошукам новых прыёмаў тыпізацыі, і павышанай цікавасцю да ўнутранага свету чалавека, і значнасцю маральна-этычных праблем у сучасным грамадстве, і імкненнем пісьменнікаў да філасофскага асэнсавання рэчаіснасці.* ***Зразумела, лірыч-****ная проза існавала і раней. Але менавіта ў гэты час адбывалася размежаванне розных стылёвых плыняў".*

Праўда, Т. Шамякіна ў духу часу піша далей яўную агітку: *"М. Стральцоў марыць аб гарманічна развітым чалавеку камуністычнага грамадства, і мара аб гармоніі становіцца асноўным лірычным пафасам творчасці пісьменніка..."* Гэта, канечне, не пра Стральцова. Але ў цэлым усё правільна: *"Сярод сучасных беларускіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення М. Стральцоў, на наш погляд, найбольш лірычны. Вытокі яго лірызму – у характары таленту, своеасаблівасці творчай індывідуальнасці, тэмпераменце".*

Найбольш характэрныя стральцоўскія апавяданні – “Сена на асфальце”, “Свет Іванавіч, былы Донжуан”, “Смаленне вепрука”, аповесць “Адзін лапаць, адзін чунь”.

## *Сена на асфальце*

Знакамітае і знакавае апавяданне “Сена на асфальце” было надрукавана ў “Маладосці” ў 1964 годзе.

Трэба сказаць, што традыцыя паказу псіхалагічнага стану былога вяскоўца, які трапляе ў горад, у беларускай літаратуры даўняя: яна сягае да твораў Яна Баршчэўскага, Адама Гурыновіча, Леапольда Родзевіча, і працягвалася ў класічных творах Максіма Гарэцкага, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Кузьмы Чорнага...

Міхась Стральцоў аднаўляе гэтую традыцыю, і аднаўляе настолькі, што янаператвараецца ў якасна новую праблему рэалізацыі творчага чалавека ва ўмовах урбаністычнага характару гарадскога жыцця, савецкай рэчаіснасці і сацыялістычнага рэалізму.

М. Стральцоў – чалавек вёскі, але сутнасць яго не толькі ў вясковых вытоках, а ў вялікай бязмернай любові да яе, да навакольных палеткаў, лясоў і рэчкі Галуба. Разам з тым Стральцоў быў высокаадукаваны чалавек, тонкі інтэлігент, і вёскі было ўжо для яго мала. Таму і апынуўся ён у горадзе, дзе ўсё ж больш мажлівасцяў для здавальнення духоўных патрэб. Але ўсё гэта разам утварыла сапраўднае замкнёнае кола, з якога нельга было вырвацца. Пра жыццё ў горадзе ён казаў: «Загналі нас у катакомбы». Яму не ставала ў горадзе паветра, а вёска была такой далёкай і нерэальнай. Гэты сталы антаганізм горада і вёскі ў ягонай душы змушаў пісьменніка шукаць выйсця ў асяроддзі такіх жа, як і ён, своеасаблівых вясковых «эмігрантаў», людзей, якія не маглі прымірыць вёску і горад у сваім унутраным жыцці. І таму «Сена на асфальце» – гэта і яго твор, і яго жыццёвая філасофія.

Без гэтага сімбіёзу горада і вёскі не зразумець натуры Міхася, светагляду, тут, мне падаецца, і ляжыць ключ да раскрыцця *загадкі Стральцова*, як сказаў Рыгор Барадулін на юбілейным вечары пісьменніка.

Хутчэй нават не сімбіёз, а супярэчнасць, нават процілегласць горада і вёскі ўвесь час турбуе і нават душыць Стральцова. Вясковае мінулае не дазваляе, ці, хутчэй, не прапускае яго ў штат гарадскога жыхара. Аналагічныя думкі выказвае Адам Глобус: *“Вяскоўца, які пераапрануўся ў гараджаніна, Стральцоў назваў “сенам на асфальце”. Такі прамежкавы чалавек ужо не быў паўнавартасным вяскоўцам, але і гараджанінам ён не стаў”.*

Пятро Васючэнка звяртае ўвагу на яшчэ адну цікавую рысу паводзін вяскоўца, які не можа зміры́цца з гарадскім жыццём, прыняць яго, а шукае ягоныя прыкметы ў сваім новым жыцці – “стральцоўскі герой няспынна мігруе паміж вясковай хатай і гарадской кватэрай, што ўлюбёныя яго заняткі – касьба, паход у грыбы і... рэфлексія па страчаным вясковым Эдэме. Што ўлюбёнае надвор’е героя – дождж”.

Арнольд Макмілін, аналізуючы “Сена на асфальце”, звяртае ўвагу на ўнутраныя аспекты пераўтварэння вяскоўца ў гараджаніна, духоўны свет чалавека, які прымірае ў сабе выклікі цывілізацыі. *“Яго назва выразна нагадвае пра нялёгкія адносіны паміж двума светамі – горадам і вёскай, а таксама пра цяжкасці тых, чыё жыццё спазнала карэнныя змены пры перасяленні з аднаго асяроддзя ў другое. У аповедзе Стральцова, аднак, няма таго асуджальнага тону, з якім мы сустракаемся ў апавяданнях другога пісьменніка, зацікаўленага падобнымі тэмамі – Сакрата Яновіча, з яго вядомай формулай “хам на паркеце”. Стральцоў карыстаецца наратарскімі галасамі, якія тонка ўзнаўляюць партрэты персанажаў з іх унутранымі думкамі і знешнімі клопатамі”.*

Урэшце, у канцы свайго "Сена..." пісьменнік сам раскрывае сваю задуму: "Мне хацелася, даўно хацелася прымірыць горад і вёску ў сваёй душы, і гэта была мая самая патаемная і самая душэўная думка".

У канцы апавядання ён заўважае жмуток падсохлага сена на тратуары, які ўсё яшчэ пахне лугамі і летам: "Сена на асфальце, – падумаў я, – сена на асфальце..."

Пятро Васючэнка адзначае, што "Далікатная творчая асоба М. Стральцова супрацiўлялася нават лiтаратурна-крытычнай iдэнтыфiкацыi – калi мастака спрабавалi прывязаць да адной плынi, стылю, тэмы. Дастаткова было пісьменніку выдаць зборнік прозы «Сена на асфальце» (1966), як некаторыя крытыкі паспяшаліся вызначыць ягоную творчую пазіцыю як погляд выхадца з вёскі, які настальгуе па пакінутым асяроддзі, пакутуе, нібы герой ранняй прозы М. Гарэцкага, ад немагчымасці вярнуцца ў старую лазню, другім разам ступіць у раку вясковага дзяцінства.

Але не мае рацыі А. Сідарэвіч, які піша, што *"Сена на асфальце" – гэта пакаленне, якое не магло прыжыцца або кепска прыжывалася ў месце... яшчэ не гараджане, але ўжо і не сяляне"*. З гэтым можна згадзіцца, толькі зрабіўшы папраўку на тое, што маладыя – больш адукаваныя, або тыя, што прыехалі на вучобу ў ВНУ, адаптаваліся якраз хутка. Горад (напрыклад, Мінск) на 90 адсоткаў складаецца з выхадцаў з вёскі, і пачуваюць сябе яны тут зусім няблага. Іншая справа, што разам з тым ёсць частка інтэлігентаў, якія ніколі не прымуць правілаў гульні асноўнай масы грамадства, яны будуць шукаць сэнс сярод гарадскога тлуму і гарадскіх "катакомбаў".

Фактычна кожны крытык абавязкова распавядзе пра антаганізм паміж горадам і вёскай, пра настальгію Стральцова па роднай прыродзе Слаўгардчыны, рачулцы Галуба ды лесу... Пра сена на асфальце... Вёску ў горадзе...

Але ніхто не сказаў галоўнага: што "сена" – сам Стральцоў, а "горад" – гэта жорсткая савецкая рэчаіснасць, магутны молах таталітарызму, у якім няма месца асобе, няма месца іншадумству, летуценнасці, урэшце – сапраўднасці. Стральцоў не знаходзіць сабе месца ў гэтым самым лепшым ладзе будаўнікоў камунізму, дзе трэба выкінуць сваё "Я", прыняць правілы гульні, заснаванай на мане, цынізме і жывёльным страху.

І ў сваіх творах, і сваім жыццём Міхась сцвярджае гімн сапраўднасці, адвечнай прыгажосці, нерушу. І не мае аніякага значэння – у вёсцы нарадзіўся аўтар "Сена на асфальце" і "Смалення вепрука" альбо ў горадзе. Такі чалавек мог бы быць выпускніком самай элітнай сталічнай школы, не выпаўзаць з гарадскога жыцця з ягонымі тэатрамі, рэстаранамі – і заставацца Стральцовым. Бо ён хацеў малога – не крывіць душой, не ілгаць, не крыўдзіць слабейшых, – а любіць і быць любімым.

## *Аповесць "Адзін лапаць, адзін чунь"*

Гэта, фактычна, апошні празаічны твор Стральцова. Напісаны ў 1966 годзе. Аўтару 29 гадоў.

"Адзін лапаць, адзін чунь" – аповесць, прысвечаная жыццю пасляваеннай вёскі, на якое аўтар глядзіць праз прызму пачуццяў сямігадовага хлопчыка Іванкі. Апісваючы дзіцячыя пачуцці, Стральцоў дэманструе сапраўднае майстэрства і глыбокія веды вясковага жыцця. Як і ў папярэдніх празаічных творах ён віртуозна спалучае свой каронны лірычны тон з дакладным апісаннем канкрэтных жыццёвых дэталяў і дзеянняў. "*Ён тады пашкадаваў, што ў яго парвалася рагатка. Дастаў яе праз дзіравую кішэню з-за падкладкі світкі і разглядваў, торгаў за канцы парваную стволку, парваную другі ўжо раз; той, першы раз ён надтачыў адзін яе канец не надта пругкім, затое тоўстым паскам, у брыжыках, бо выразаны пасак быў з процівагаза якраз паўз круглае шкельца*". Дакладнасць

апісання не выклікае сумневу ў перажыванні тых дзіцячых падзей самім аўтарам. У гэтым урыўку і далей па ўсім тэксце мы бачым фатаграфічна дакладны зрэз грамадства, зрэз пасляваеннага жыцця, перанесены адзін да аднаго на сучаснага чалавека. Гэта гісторыя ў сваім чысцейшым выглядзе.

Алесь Адамовіч у прадмове да кнігі "Выбранае" адносіць аповесць да жамчужын сярод усяго напісанага Стральцовым, да таго, чаму наканавана жыць. Адамовіч, бадай, адзіны з крытыкаў, які звяртае ўвагу на тое, пра што, магчыма, і сам Стральцоў не ведаў.

Ён піша: *"Асаблівасць твораў Стральцова ў шырокім, вольным дыханні думкі, па-сапраўднаму мастацкай. Гуманізм, чалавечнасць, што ідзе ад самой душы народнай, ёю выпраменьваецца, – вось тая нацыянальная ідэя, на якой ён пагаджаецца найперш і канчаткова"*.

Сапраўды, савецкі час (60-х – 70-х гадоў XX ст.), час творчага росквіту М. Стральцова як празаіка яшчэ не быў гатовы для ўспрыняцця і тым больш фармулявання сутнасці беларускай нацыі і яе падмурка – беларускай нацыянальнай ідэі. Творы Стральцова, асабліва аповесць "Адзін лапаць, адзін чунь" і бліскучае эсэ "Загадка Багдановіча" – за некалькі дзесяцігоддзяў да прыходу сапраўднага нацыянальнага адраджэння беларусаў – сталі прадвесцем і падставай тых працэсаў, што пачаліся ў канцы 80-х гадоў і прывялі да ўтварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь.

## Смаленне вепрука

Ніводнае апавяданне М. Стральцова не выклікала столькі водгукаў і рэцэнзій, літаратуразнаўцаў, як "Смаленне вепрука". Можа быць, колькасць напісанага з разлікам на сціплую велічыню самога тэксту перасягне па шчыльнасці не толькі напісанае Стральцовым, але і многіх майстроў кароткай навелы. У Беларусі дык дакладна. У свеце, мяркую, і напісанае пра гэты твор, і якасць самога твора – можа пацягацца з тэкстамі вялікіх апавядальнікаў, такіх як Стэфан Цвейг альбо Іван Бунін.

*"Памятаю, апавяданне «Смаленне вепрука» вельмі высока ацанілі многія нашы суседзі: рускія, украінцы, літоўцы. Апавяданне для іх было адкрыццём адносін беларусаў са светам, жыццём, адкрыццём нашага светапогляду, характару, разумення таго як беларус любіць прыроду. «Смаленне вепрука» — этапнае апавяданне для беларускай навелістыкі",* – у сваю чаргу падкрэслівае У. Гніламёдаў.

Наноў адкрываюць Міхася Стральцова сучасныя літаратары. Вось як адчувае "Вепрука" Альгерд Бахарэвіч: *"Гэты тэкст, на мой погляд, найлепшае, што было напісана ў Беларусі савецкіх часоў. Такому не навучыш, такое можна толькі слухаць з заплюшчанымі вачыма. Па эстэтыцы, па сіле ўспрымання, па стылі, па інтанацыі, абранай аўтарам – усё гэта тут супала такім шчаслівым чынам, што дзень, калі напісалася «Смаленне», мог бы лічыцца пачаткам новай эры"*.

На мой погляд, "Смаленне вепрука", ды і ўся проза Стральцова – лепшае ў беларускай літаратуры не толькі савецкіх часоў. Яно над часамі.

Тут: забілі кабанчыка – "вепрука". У беларускіх вёсках гэта рабіў кожны гаспадар, гэта неабходны, завяршальны этап цяжкай сялянскай працы гадавання свіней. Вядома, гэты этап самы прыемны і радасны для сяляніна, бо пасля смалення і разборкі тушы ўсё сямейства і нават суседзяў чакаў смачны абед са свежынай. Потым – выраб крывянкі, сальцісона, каўбас і іншых прысмакаў.

Таму, як ні кажыце, дзень, калі гаспадар вырашыў развітацца са сваім кабанчыкам – важкі дзень, асаблівы. І вельмі важнымі, адказным з'яўляюцца першыя акцыі з ахвярай: яе трэба талкова забіць і, па-другое, не менш важна – правільна абсмаліць. Менавіта гэтая асаблівасць дня, важнасць усяго дзеяння як для гасападара, так і для ахвяры, вепрука, у Стральцова адчуваецца ўжо з першых радкоў апавядання. Дакладней, не важнасць самаго дзеяння – а намеру

аўтара напісаць пра гэтае дзеянне. І ён капітулюе перад гэтай неабсяжнай і невыканальнай задачай: *“Цяпер я ведаю, што, бадай, не напішу: баюся, каб тое, што хацеў напісаць, не прыцішылася няўзнак, а то і згубілася там, у здзейсненай пісаніне, а яно ж мне самае важнае”*. Ёсць намер напісаць апавяданне, але не больш. Але гэтае “не больш”, гэты намер аказаўся мацней за само апавяданне.

Блізкія думкі выказвае Пятро Васючэнка ў сваім эсэ “Стомлены перша-адкрывальнік”. “*У сваёй творчасці ён не цярпеў паўтораў, рэдка спыняўся на адной і той жа жанравай мадыфікацыі,* – піша П. Васючэнка, – *калі жанр «супраціўляўся», Стральцоў не спрабаваў пераадолець супраціў – ён змяняў сам жанр... Такім чынам нараджалася «апавяданне апавяданняў», «анталагічнае апавяданне», як называлі яго крытыкі, «эпітафія апавяданню, якое магло б называцца «Смаленне вепрука», як вызначыў яго жанр сам аўтар. Крытыкі, якія стварылі культ гэтага апавядання (усё ж такі апавядання!), «Смаленне вепрука» (1973), высока ацэньвалі ў творы ўсё: ад дасціпнай задумы да стылю, віртуознасць якога дазволіла аўтару спаборнічаць з раннім Кузьмой Чорным (выказванне Алеся Адамовіча) і нават з Іванам Буніным (ацэнка Я. Брыля)”*.

## ***Паэт Стральцоў***

Аўтар гэтага эсэ вершамі асабліва не займаўся. Але адзін верш мне запомніўся. Цікава, што – як я пазней даведаўся – яго любяць цытаваць і цяпер сучасныя літаратары. Ён невялікі:

Трамвай, як сараканожка, –
марудна імклівы і доўгі,
яшчэ да таго ж сляпы.
Асаджаны глуха і вусцішна
над стукатам нізкіх ног.
Трамвай, як сараканожка...
Не, не падабаецца мне гэтае параўнанне.
Параўнаю трамвай лепш з вожыкам,
што цвёрда і шпарка
бяжыць па падлозе – тук! тук!

Вельмі дакладна, вобразна. Прыгожа. Трамвай-сараканожка-вожык... І тут тая ж стральцоўская дыхатамія: трамавай і вожык – цывілізацыя і прырода. Вынік такога дыялектычнага яднання супрацьлегласцей стварае ўражанне ўтварэння ці з’яўлення нечага трэцяга – за чым і стаіць праўда.

Паэт Алесь Разанаў выказвае думку: *“у паэзіі Стральцова заўсёды прысутнічае штосьці па-над радкамі, штосьці невымоўнае: Паэзія Стральцова — гэта паэзія вызвалення ад словаў, таму што ў ёй заўсёды прысутнічае штосьці больш важнае, чым “здзейсненая пісаніна”*.

Пры жыцці М. Стральцова было выдадзена чатыры зборнікі вершаў: «Ядлоўцавы куст» (1973), «Цень ад вясла» (1979), «Яшчэ і заўтра» (1983), «Мой свеце ясны» (1986).

Рэдактар першага зборніка “Ядлоўцавы куст” Леанід Дранько-Майсюк. У сваёй пазнейшай публікацыі «Выгнаны патрыцый» («Крыніца, № 9 за 1994 год) ён досыць высока ацэньвае мастацкі ўзровень стральцоўскай паэзіі. Аднак гэтую кнігу крытыкі прынялі дастаткова халодна і недаверліва. Крытыкам не верылася, што выдатны празаік Стральцоў застанецца і ў паэзіі такім жа наватарам, філосафам і лірыкам. Але ўжо з першых вершаў зборніка стала бачна: аўтар не збіраецца паўтараць стандарту з цыкла “першых кніг паэта” і не распранаецца перад чытачом у прыступах незямнога кахання ці настальгіі па родных вясковых краявідах, водару лугоў і шчабятанню птушак, якіх ведаў па імёнах. Не, ён многага не хоча, напісаць “хаця б адзін радок”:

Я хачу напісаць радок,
толькі адзін радок,
які наіўны паэт
з галавой, кучаравай, як воблака,
мог бы ўзяць за эпіграф.
Напішу хоць бы так:
"Я аднойчы бачыў кепскага чалавека".

Стральцоў становіцца паэтам у горадзе, і да мінулага – да вясковай цішы і яе некранутай прыроды – вяртання ўжо няма:

І я там быў і нешта клікаў –
Ды толькі тое ўсё сплыло
У свет, што стаў такі вялікі,
Што трошкі болей за сяло.

І ў гэтым зборніку, і ў вершах, што ўвайшлі ў далейшыя зборнікі, Стральцоў выступае як лірык горада, паэт гарадской рамантыкі і асабліва гарадскіх ускраін.

Вы бачылі ўскраіну,
        дзе хаткі, дамкі
        і будыніны,
дзе няма магазінаў –
ёсць крамы,
кнігарні,
ларкі,
        дзе тралейбус з апошнім
ці перадапошнім нумарам
валюхаецца вузкай вуліцай,
чапляючыся за платы?

Стральцоў-празаік уступае ў дыялог і з паэтам Стральцовым, ён выстаўляе рахунак і патрабуе тлумачэння. Як, дарэчы, і шматлікія прыхільнікі ягоных бліскучых апавяданняў. І паэт-Стральцоў дае адказ:

Ты мо здзіўляешся, што прозе
Я оды вершыкам пішу:
Яшчэ мне з ёю па дарозе,
З дарогі селавой на возе
Шчэ з ёй уз'еду на шашу.

Ведаў бы ён тады, што ўжо ніколі не ўз'едзе на "шашу" прозы...

П. Ваючэнка таксама адзначае гарадскую накіраванасць стральцоўскай паэзіі, называючы яго нават "Калумбам мінскіх завулкаў": "*Найбольш такіх азарэнняў, на нашу думку, у творах, звязаных з абжытым і знаёмым стральцоўскім хранатопам: ён непаўторны паэт гарадскіх ускраінаў, Калумб мінскіх завулкаў, дзе за ягоным часам мірна ўжываліся сена і асфальт. Пра гэта сведчаць вершы «У горадзе, пасля дажджу...», «Ускраіна. Мясакамбінат», «Балада вуліцы». Гарадской вобразнасці ў вершах М. Стральцова значна больш, чым вясковай або прыродна-аўтэнтычнай, урбаністыка больш натхняе Стральцова-паэта, што пацвярджае ён сам у лірычным прызнанні, прысвечаным сябру, рускаму літаратару В. Аскоцкаму: «Мы – заложнікі мясцовага трамвая...»*

Многія крытыкі даволі стрымана ацанілі не толькі першы зборнік паэзіі, але і пазнейшыя паэтычная творы Стральцова. Магчыма, так атрымалася таму, што цяжка было паверыць, што празаік, хоць і прызнаны, зможа напісаць такую ж якасную, высокую паэзію.

І яны памыліліся. Вершы атрымаліся. Вось як піша даследчыца творчасці М. Стральцова, балгарскі навуковец-філолаг Роза Станкевіч:

«*Міхася Стральцова можна назваць ведзьмаком, чараўніком паэтычнага слова. Словы ў яго паэзіі выпраменьваюць асаблівае ззянне, яны як цудадзейны магніт прыцягваюць іншыя, самыя ўдалыя і самыя патрэбныя словы. У яго паэзіі словы не проста існуюць, а жывуць. Жывуць па законе біяцэнозу, у мастацкім згодзе. Яны выпраменьваюць энергію, і ствараюць поле кантэксту, «зараджаюць», дапаўняюць адно аднаго*». І крыху пазней дадае: «*Уся творчасць М. Стральцова, не толькі яго паэзія, уяўляе патаемную размову пра сябе і пра складаныя змены, якія адбываюцца з чалавекам. Сапраўдная паэзія – гэта заўсёды споведзь душы*».

Тое, што і ў прозе, і вершах, і ў эсэ Старльцова прысутнасць аўтара непарыўна звязана з самым аб'ектам – бясспрэчна. Ён піша заўсёды пра сябе, пра стан сваёй душы і праз сваіх герояў выстаўляе яе выварат перад чытачом.

Падагульняе крытыкаў сучасны паэт Андрэй Хадановіч: *“Шмат хто пісаў пра парадаксальнасьць Стральцова, пра яго эстэцтва, пра яго патрабавальнасьць да сябе й дасканалы мастацкі густ. У такіх латах у нарпаэты ня выб'есься – бібліяграфічнай хуткасьці ня хопіць. Хтосьці пісаў і пра тое, што ў Стральцова проста няма (ці амаль няма) слабых, прахадных вершаў. Які нарпаэт мог бы гэтым пахваліцца? Пры тым, што найлепшага Стральцова немагчыма пераблытаць ні з кім”*.

Вясною 1986 года выйшла апошняя кніга паэзіі «Мой свеце ясны». Галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Серафім Андраюк паспрыяў выданню зборніка ў якасным афармленні – мастак Аляксандар Шэвераў зрабіў да кнігі прыгожыя ілюстрацыі. Мікола Федзюковіч напісаў прыхільную рэцэнзію. У Доме літаратара адбылася прэзентацыя кнігі (прычым презентавалася таксама і кніга крытыкі “Пячатка майстра”).

У самым першым вершы «Перед новай старонкай» з кнігі «Мой свеце ясны» ёсць словы:

Саюз паэзіі і прозы –
Пад неба ўзносяць журавы.
І пошум трапяткі бярозы,
І дуба роздум векавы.

Паэзія і проза ў Стральцова блізкія, гэта два магутныя волаты, якія ствараюць гармонію ўсяго сусвету.

Але цяпер невяртанне прозы ў творчасць пісьменніка становіцца для яго сумным, але фактам. І ён вымушаны пагадзіцца:

І рытмы тыя, ды ўжо лад
Другі. І сэрца холад цупкі.
І да халупы ад палат
Не ўгору, а на ніз приступкі.

Прадчуванне канца свайго зямнога быцця, магчыма несвядома, прабіваецца ў асобных вершах апошняга зборніка. І любімая ўскраіна ўжо набывае адценне тлену:

Ускраіна абвалаклася дымам.
Гараць, гараць бадылле і лісцё.
Пад гэтым небам, сінім і любімым,
Не верыцца чамусьці ў небыццё.

У сваім эсэ пра Багдановіча Стральцоў піша: «*Максім Багдановіч мог быць і вучоным, публіцыстам, і крытыкам – і ўсё толькі таму, што ён быў паэт*». Неверагодна: усё сказанае цалкам адносіцца і да самога Міхася Стральцова. Гэтыя два чалавекі нібы адкрываюць і закрываюць літаратурны абшар ХХ стагоддзя Беларусі.

У 1986 годзе М. Стральцову за апошні зборнік паэзіі была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы (пасмяротна).

## Эсэ, публіцыстыка, крытыка

У жанрах эсэ, крытыкі і публіцыстыкі М. Стральцоў адчуваў сябе не горш чым у прозе і паэзіі. Тая ж высока паднятая планка. Праўда, цвёрда вызначыць жанр твораў, напісаных Стральцовым, часта было не вельмі проста. Так, “Загадку Багдановіча” большасць аўтараў адносяць да жанру эсэ, але ў “Выбраным” (Мн., 1987) гэты твор змешчаны ў раздзеле “Аповесці”. Насамрэч памылкі тут няма, гэты твор можна аднесці і да першага жанру, і да другога. А хутчэй за ўсё – гэты твор наджанравы і проста ўяўляе сабой высокамастацкую прозу.

### *“Загадка Багдановіча” (1967-1968)*

*“Больш цэнтральнай фігуры, чым Багдановіч, у нас не было,* – піша Міхась Стральцоў, – *Багдановіч – паэт, крытык, публіцыст, тэарэтык літаратуры. Гэта наш класік, гонар нашай літаратуры”.*

Гэта ўсё так. Аднак Стральцоў даводзіць – галоўным у асобе Максіма Багдановіча быў не проста літаратурны талент, а ягоная вялізная любасць да Беларусі, любасць-агапэ, суцэльная, бязмерная любасць, якая выпраменьвала творчую энергію ў розных кірунках, у выніку чаго ствараліся вершы, гістарычныя эсэ, апавяданні, фальклорныя малюнкі...

Факт, які не мае тлумачэння: чаму Максім Багдановіч, пражыўшы ў Расіі большую частку свайго кароткага жыцця, – да 20 гадоў, становіцца не рускім паэтам ці празаікам, а беларускім, маючы аб краіне Беларусь толькі тэарэтычныя звесткі і вывучыўшы беларускую мову завочна, без кантакту з яе носьбітамі? І стаў ён не проста выдатным паэтам, а “цэнтральнай” беларускай фігурай. Чаму ж так выйшла? Можа, гэта гучыць неяк і пафасна, але я перакананы: яго паклікала Беларусь. Паклікала ў містычным, трансцэндэнтным сэнсе, паклікала менавіта *яго* з далёкага Яраслаўля.

На пачатку XX ст. наша краіна цярпела вялізны пасіянарны ўздым, стваралася новая беларуская літаратура і культура, стваралася беларуская нацыя. У такія часы гуртуюцца найлепшыя нацыянальныя сілы, чыніцца мабілізацыйны працэс нацыі. Гэты працэс у кожнага народа абавязкова адбываецца. Часам ён называецца “фармаванне нацыі”. Толькі ў большасці нацыяў да пачатку XX-га стагоддзя такі перыяд параўтварэння этнасу ўжо скончыўся. Еўропа ўяўляла стракаты пейзаж як старэйшых, “культурных” нацыяў: французаў, ангельцаў, немцаў, італьянцаў, так і маладзейшых: венграў, румынаў, чэхаў... Беларусам трэба было даганяць іншых. Выбару не было – ці знікнуць, рассыціўшыся ў рускай ці польскай нацыях, ці заявіць пра сябе тэрмінова. Часу не было. Мабілізацыя зачапіла ўсіх, але не ўсе “былі абраныя”. Багдановіч быў абраны. Усё ягонае жыццё, як піша Стральцоў, – *“гэта подзвіг. Напорлівае і роўнае гарэнне адной страсці. І кароткатэрміновае. Вось чаму яго жыццё нагадвае ўспышку метэора”.*

Багадановіч быў пакліканы Беларуссю. Яшчэ не вельмі добра ведаючы беларускую мову, ні разу (у свядомым жыцці) не пабываўшы ў краіне, якой ён прысвяціў жыццё, ён становіцца яе лепшым паэтам, яе сцягам і сімвалам. І самае галоўнае – ён першы беларускі нацыяналіст у сучасным значэнні гэтага слова. Вось у чым, як піша Стральцоў, існасць Багдановіча-нацыяналіста: *“Не, мусіць, і “кліч продкаў”, і талент, і воля маюць значэнне тады, калі іх прыводзіць у рух якая-небудзь вялікая, па-грамадску значная ідэя. Для Багдановіча такой ідэяй была ідэя нацыянальнага і сацыяльнага разняволення роднага народа. А падказаў яе Багдановічу час.*

***Слухайце час!*** *– гаворыць нам сваім прыкладам Багдановіч”.*

Стральцоў напісаў сваё эсэ “Загадка Багдановіча” ў 1967–1968 гг. У той час такое спалучэнне слоў, як “нацыянальная ідэя” ці (не дай Бог!) – “нацыяналіст” – у прынцыпе не маглі з’явіцца ў дзяржаўных выданнях. Таму і гучыць “разня-

воленне", нават стандартнае – "сацыяльнае разняволенне" народа. Ключавым тут ёсць выраз "ідэя нацыянальнага..." Ці, пераставіўшы словы, – "нацыянальная ідэя".

І яшчэ цікавы момант. Стральцоў звяртае нашу ўвагу на той гістарычны перыяд, у які прыйшоў Багдановіч. "Слухайце час!" І гэта быў час Максіма Багдановіча. Час патрабаваў яго. Не бацька паэта – вядомы этнограф Адам Багдановіч, не гісторык Паўночна-Заходняга краю М. Каяловіч патрэбны былі тады Беларусі, час чакаў і дачакаўся свайго нацыянальнага героя. Такім нацыянальным героем, геніем стаў сын Адама Багдановіча – Максім. І ён адчуў свой час і выканаў пастаўленае Творцам заданне за дадзены яму такі кароткі тэрмін.

### *Крытычныя артыкулы*

*"Мастак не заўсёды ў стане правільна зразумець прычыны сваіх цяжкасцей, крытык павінен убачыць. Зразумець. Растлумачыць. Не абавязкова на ўзроўні таго ці іншага майстра, але абавязкова на ўзроўні літаратурнага працэсу",* – лічыць М. Стральцоў.

Яшчэ ў 1965 годзе выходзіць зборнік літартурна-крытычных артыкулаў "Жыццё ў слове". Ён уважліва сочыць за творчасцю сяброў-літаратараў, а таксама аналізуе творы беларускіх класікаў і іншых творцаў-пісьменнікаў. Апошні прыжыццёвы зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ «Пячатка майстра» выйшаў у 1986 годзе. Стральцоў запрашае нас у свет выдатных беларускіх майстраў пяра Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Аляксея Пысіна, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі, Уладзімера Хадыкі, Анатоля Вялюгіна, Рыгора Барадуліна і іншых. Стральцоў не проста малюе партрэты выдатных літаратараў, ён разбурае звыклыя крытычныя схемы, спалучае навуковы аналіз з публіцыстычным словам. Кожнага з празаікаў і паэтаў ён разглядае ў кантэксце нацыянальных асаблівасцей беларусаў, іх традыцый і звычаяў. Віктар Карамазаў у гэтай сувязі адзначае, што *«культура думкі, свой лад і стыль, высокія, без збою, крытэрыі, тонкі, адметна стральцоўскі густ і такт ва ўсім робяць кнігу своеасаблівым самапартрэтам Стральцова – даследчыка і мастака, які, калі пакарыстацца ягоным вызначэннем ролі Максіма Багдановіча, "творыць і аналізуе, аналізуе і творыць"».*

### *"Буранны паўстанак. І вякуе дзень даўжэй за век"*

Міхась Стральцоў пераклаў на беларускую мову шэраг твораў рускіх, італьянскіх і лацінаамерыканскіх паэтаў. Ён з'яўляецца аўтарам перакладу на беларускую мову рамана Чынгіза Айтматава «Буранны паўстанак. І вякуе дзень даўжэй за век» (1987). Зварот пісьменніка да гэтага твора – не выпадковы.

Пад назвай «И дольше века длится день» знакаміты раман Чынгіза Айтматова быў надрукваны ў 1980 годзе ў часопісе «Новый мир». Пазней ён выдаваўся пад назвай «Буранный полустанок». У 1990 годзе, ужо пасля смерці М. Стральцова, у часопісе «Знамя» выйшла «аповесць да рамана» «Белае воблака Чынгісхана», пазней уключаная ў склад твора.

Калі выйшаў згаданы раман Ч. Айтматава, часопіс «Новы мір» зачытвалі, перадавалі з рук у рукі, пераказвалі. Яго поспех быў неймаверны. Для Міхася Стральцова ён быў каштоўным і па той прычыне, што ў «Буранным паўстанку» ён убачыў працяг сваіх спрадвечных думак пра сэнс быцця, пра тую ж адвечную дыхатамію – вёскі і горада. І пра... нацыянальную ідэю. Тое, пра што ён так і не напісаў, але насіў у сваім сэрцы. Магчыма, таму і закарцела яму перакласці твор Ч. Айтматава на родную мову.

Адна з галоўных думак рамана ў тым, што нашмат лягчэй знішчыць чалавека, чым выдаліць яго памяць і розум, *«вырваць карані таго, што бывае з чалавекам да апошняй хвіліны, застаючыся яго адзіным набыткам, які памірае з ім недасягальным для іншых»*. Жуаньжуані прыдумалі самы варварскі спосаб – адбіраць жывую памяць чалавека, што, на думку Ч. Айтматава, самае *«цяжкае з усіх мажлівых і неймаверных злачынстваў»*. Яны знішчалі памяць раба страшным катаваннем: брылі яму галаву і апраналі на яе шыры – кавалак шкуры з выйнай часткі толькі што забітага вярблюда. Пасля гэтага яму звязвалі рукі і ногі і набівалі на шыю калодку, каб ён не мог крануць галавой зямлі, і пакідалі ў пустыні на некалькі дзён. На пякучым сонцы шыры скурчвалася, здушваючы галаву, валасы ўрасталі ў скуру, прыносячы невыносныя пакуты. Ахвяра альбо гінула, альбо губляла памяць пра мінулае жыццё і станавілася ідэальным рабом, пазбаўленым уласнай волі. Такія рабы атрымалі назву – манкурты.

Сказанае мае непасрэднае дачыненне да Беларусі.

Калі ў другой палове 80-х гадоў (ужо пасля смерці Стральцова) прыйшла перабудова і пачаўся рух за нацыянальнае адраджэнне беларусаў, то выявілася жахлівая рэч, якую гадамі ўсяляк замоўчвалі. Выявілася, што такім ж айтматаўскімі манкуртамі за гады панавання камуністаў і пабудовы сацыялізму сталі беларусы, якія забыліся на сваю мову, на сваю гераічную гісторыю, згубілі сваю нацыянальную індэнтыфікацыю.

І людзі выйшлі на вуліцы, пачаліся мітынгі за перабудову, затрохся і распаўся Савецкі Саюз, а КПСС спыніла сваё існаванне. Узнік Беларускі Народны Фронт, які адной з галоўных задач якраз і паставіў нацынальнае адраджэнне і вяртанне беларусам іх гістарычнай памяці. Менавіта ў тыя часы з лёгкай рукі Алеся Адамовіча з трыбун, на самых розных сходах, мітынгах і шэсцях можна было пачуць аблічальнае і гнеўнае слова “Манкурты! Манкурты!” Яно было адрасавана нам, беларусам, як напамінанне аб нашай трагічнай гісторыі і яе сумных выніках і як кіраўніцтва для дзеяння – з другога боку.

У “Буранным паўстанку” маці манкурта ў роспачы гаворыць:

“*Можна забраць зямлю, можна забраць багацце, можна забраць і жыццё, але хто прыдумаў, хто адважваецца пасягаць на памяць чалавека?! Госпадзе, калі ты ёсць, як навёў ты такое на людзей? Хіба мала зла на зямлі і без гэтага?*”

*(Працяг будзе)*

Марыя Маляўка



...літаратура – бясконцае вяртанне
да спрадвечнай гісторыі...

# Нататнік чароўнага горада

## *Рэцэнзія на кнігу Людкі Сільновай*

***Людка Сільнова. Горад Мілаград. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71). – 312 с.***

Пасля доўгага перапынку выйшаў чарговы зборнік паэзіі Людкі Сільновай – “Горад Мілаград”. Апошнія кнігі – паэтычны зборнік “Зачараваная краіна” і зборнік літаратуразнаўчых твораў “Крышталёвы сад” – пабачылі свет у 2007 годзе. Піша Марыя Маляўка.

Паэзія Людкі Сільновай – не асобная з’ява, а частка вялікай любові да Слова, яго спазнання і гульні з ім. Менавіта так яе варта разглядаць. Гэта не здзіўляе, бо аўтарка – шматгранная асоба: паэтка, перакладчыца, крытык, мастачка; на яе рахунку шэраг пошукаў і эксперыментаў: транслінгвізм, візуальная проза і нават спробы стварыць уласную мову. У гэтым спісе вершы шмат у чым набываюць змест асабістай дэкларацыі, маніфесту.

Яны не мастацтва, не шоу з навукай –
Расшчэплены атам, містэрыя гуку!




Зборнік утрымлівае дастаткова вялікую колькасць раздзелаў – дванаццаць. Прынцып просты – яны адлюстроўваюць розныя старонкі жыцця. Стыль пісьма Людкі Сільновай можна назваць скануючым: здаецца, літаральна ўсё, што трапляе на вока, ператвараецца ў мастацкі вобраз. Гэтыя вобразы не адрываюцца ў разгалінаваныя абстракцыі, а застаюцца дзесьці побач са сваёй першакрыніцай. Адчуваецца ўплыў бібліятэчнай працы аўтаркі: нізкі вершаў чытаюцца, быццам перагортваюцца старонкі кнігі, і не важна, у якім выглядзе чытаеш – папяровым ці электронным. Не кнігі як носьбіта, а Кнігі першапачатковай, змесцішча сэнсаў і протасюжэтаў. Нават адчуваеш пах старой паперы (ці пергаменту) – глыбіні часу, глыбіні свядомасці, адлюстраванай у Слове. Як казала сама Людка Сільнова падчас атрымання прэміі "Гліняны Вялес" (1995 год), "Я думала, што я толькі працую ў бібліятэцы, а я ў Бібліятэцы жыву, толькі ў яшчэ большай. І навокал тэксты, тэксты, тэксты... Не хачу чытаць – а чытаю, бо яны ж перад маімі вачыма".

У паэзіі – кнігазбор, а ў кнігазборы – паэзія.

Адсюль яшчэ адна асаблівасць – глыбокая ўкаранёнасць твораў у тэкставы змест культуры. Шмат зваротаў да міфалогіі – скандынаўскай, грэцкай, а найперш славянскай. Архетыповыя вобразы – клавішы клавіятуры, на якой друкуюць, ці ніткі, з якіх тчэцца палатно вершаванага тэксту.

Не ведаю, як вы,
а я, скажу адразу,
Жыву – ніжэй травы –
ў міфалагічным часе.

Сюды ж можна аднесці адсылкі да класікаў, тэмы кнігі як з'явы, асоб і лёсаў іншых беларускіх творцаў. Людка Сільнова з тых аўтараў, якія замыкаюць на сабе "правадкі" ўсіх значных тэкстаў-сэнсаў. У інтэрв'ю "Дзеяслову" яна казала аб сваім жаданні "уступіць у размову з роўнымі", "пачувацца сяброўкаю вялікага Нябеснага калегіюму пісьменьнікаў, мысьляроў розных часоў і народаў". Сіла такіх аўтараў больш у паглыбленні і прысвячэнні, чым у "фантанаванні" асабістай творчай энергіі. А прыцягальнасць – у любові самога аўтара да той прыгажосці, якая існуе і да якой можна дадаць сваю невялікую рыску.

Як ужо адзначалася ў анатацыях, шмат увагі ў зборніку займае урбаністычнасць, "чалавек у горадзе", "паэт у горадзе". Тэма горада (хоць і іншага) вынесена і ў назву. Звычайна ад загалоўка кожнай новай кнігі падсвядома чакаеш самага што ні ёсць постмадэрнісцкага сэнсу, але тут яго няма. Мілаград – "горад-казка", горад-мара, у якім пры жаданні можна знайсці адсылкі да міфічных гарадоў – сховішчаў сілы, мудрасці, дабра – якія існуюць у свядомасці бадай што кожнага народа. Чыста на асацыятыўным узроўні пры чытанні верша "Прагулка па Мілаградзе" узнікае вобраз яшчэ і "горада вытокаў", забытай калыскі душы, з адвечным пытаннем: "Якім ты быў?"

Зборнік пачынаецца урбаністычнымі замалёўкамі, у якіх самае запамінальнае – адчуванне летняй спёкі і нуды; высушанасць, выснажанасць, уласцівая ўсім русіфікаваным, саветызаваным гарадам, якая вісіць у паветры незалежна ад пары года. Некаторы перадоз займенніка "я" надае гэтым вершам адценне мемуарнасці.

Другі раздзел “Свабода-зіма” і чацвёрты – “Рыцарскія хронікі” перагукаюцца тэмамі Поўначы, рунічных таямніц, ваярства. Па аб’ёмы гэтыя тэмы можна назваць дамінуючымі. Але нават сюжэты, адарваныя па часе ці прасторы, не адрываюцца ад радкоў усё той жа адзінай Кнігі, якая паслядоўна разгортваецца перад вачыма.

Цікава, што ў ваярскіх вобразах больш статыкі, чым дынамікі, схопленыя часам карціны, “вобраз сцэны”. І тут у якасці ключа прыходзіць узгаданы паэткай у інтэрв’ю вобраз “скрыжавання магчымасцяў”, у якім ёсць “пэўная “кропка сілы”, моцная крыніца натхненьня”.

Ці не самым эмацыйна насычаным падаўся невялікі раздзел “Тутэйшыя”. У назве – адсылка да аднайменнага і дастаткова легендарнага літаратурнага аб’яднання. І тым самым – адсылкі да страчаных надзей, сумневаў, нявырашаных пытанняў.

За першыя чатыры часткі складваецца ўстойлівае ўражанне, што аўтарка – паэт-назіральнік. І акурат пяты раздзел – “Паэт у мегаполісе” – сустракае вершам “Назіральнасць”. Далей узнікае вобраз нататніка – сховішча паэта. У ім ёсць свабода...

...І на любым свабодным месцы
Мой верш, мой горад паўстае.

...і замкнёнасць.

Людзьмі
Інфармацыйнага грамадства
Не будзе дзённік трызненняў
Чытацца.

Нешта небяспечнае ёсць у паэзіі, змешчанай у сэрца мегаполіса.

– Добра, вершу мой,
Выходжу!
Толькі рыфмы

Абясшкоджу.
Бачыш,
Як радочкі нізка?
Ток адключым,
Каб не пырскалі
Электрычнымі
Разрадамі...

...Ёсць! У спальню,
За нарадамі!

Але і мегаполіс небяспечны для паэзіі: ён высушвае яе. У цягніку ўзнікае амаль драматургічны вобраз дзяўчынкі, якую вязуць з вёскі ў “Вялікі свет”.

Здаецца мне, што гэта
Быў лёсу нейкі знак:
Прыціхлы дух паэта
У высахлых руках...

Астатнія невялікія па аб’ёме раздзелы займаюць меншую частку кнігі. З іх найбольш тэматычна запамінальныя “Белы кодэкс” – тэма кнігі і служэння кнізе, і “Хараство Хрыста” – каляхрамавыя замалёўкі, прасякнутыя настроем святочнай раніцы.

Што датычыцца тэхнікі пісьма, класічнай і лёгкай за кошт невялікіх даўжынь радка і страфы, то тут самае цікавае – эксперыменты з рытмам і чаргаванні рытмаў.

Як эмблема, як сімвал, як
Непарушнае –
Шызы голуб і чорны грак:
Беларусь мая.

Трапляюцца надзвычай шчырыя і прыгожыя ў сваёй непасрэднасці вобразы.

Ён быў самы прыгожы з усіх,
Хто пісаў у нас вершы.

Кнігу жыцця якім разам чытаю!
Час аддаваць.

Святло праходзіць
Праз халоднасць шкла...
У кнізе водгукаў
Пішу: “Была...”

Здзейсніўшы паэтычную экскурсію ў горад Мілаград, пераконваешся, што літаратура – бясконцае вяртанне да спрадвечнай гісторыі, а мова – мора з няспынным рухам хваляў. Мы ўсё ў тым жа полі культуры, дзе ўсё цячэ і перацякае адно ў адно, а не рэактыўна мчыць па прамой, як малюе нам урбанізаваная свядомасць. І ад гэтага трошкі камфортней існаваць.



Леанід Галубовіч



...галоўнай тэмай і ўнутранай ідэяй рамана з'яўляецца спроба вызначэння самасвядомасці беларусаў...

# Са сховаў нацыянальнай самасвядомасці

## *Рэцэнзія на кнігу Валерыя Казакова*

***Валерий Казаков. «Черный кот». – Минск: Харвест, 2016. – 256 с.***

Празаічныя творы пісьменніка Валерыя Казакова заўжды інтрыгуючыя – на мяжы рэальнасці (амаль дакументальнай) і рамантычна-прыгодніцкай фантазіі. Цікава, што, спрабуючы прымірыць у адным жанры гэтыя дзве сутнасці і нават прывесці іх да пэўнай гармоніі, ён як пісьменнік не церпіць творчай паразы. Як на мяне, дык наадварот – штораз выйграе. Нездарма ж мае даволі шырокую па нашым часе чытацкую аўдыторыю (у нас і ў Расіі) і шмат якія літаратурныя прэміі ды ўзнагароды, у тым ліку і дзяржаўныя. Не здараджвае ён сваёй творчай манеры і на гэты раз, у рэцэнзуемым тут рамане, які мае адмысловую назву "Черный кот". Чамусьці адразу прыходзіць на розум вядомае выказванне: *цяжка знайсці чорнага ката ў цёмным пакоі*... В. Казакоў рызыкнуў.

У кароткай анатацыі да кніжкі напісана, што аўтар задаўся мэтай разабрацца ў падзеях, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў паваенны час і разгадаць сэнс таемнай аперацыі,




якая быццам бы прыкладна так і называлася – "Чорны кот"... Але гэта такая трошкі зашыфраваная выдавецкая версія тэматыкі твора. Шырэй пра аўтарскую задумку, хоць і не менш туманна, распавёў у пасляслоўі Алесь Карлюкевіч, які ўсё ж не прамінуў адцеміць, што *"пісьменнік трапятліва з душэўнай трывогай і сардэчнымі перажываннямі прагне разабрацца , чаго ж мы, беларусы, вартыя... (...) ён не выбудоўвае мадэлі, не дае парадаў, а страсае пыл бяспамяцтва, падымаючы тую пространь часу, у якой неабходна разабрацца нам самім".*

Што ж прачыталася ў гэтым *дэтэктыўна-рамантычным* творы мне як рэцэнзенту? Па-першае, падалося, што аўтары анатацыі і пасляслоўя не выкрылі падтэкстаў рамана ці проста замаўчалі іх дзеля чытацкага прыцягнення ці якой іншай мэты.

Бо, як на маю думку, галоўнай тэмай і ўнутранай (хоць і не надта выпуклай тэкстава) ідэяй рамана ўсё ж з'яўляецца спроба вызначэння самасвядомасці беларусаў, іх стаўленне да родавай, айчыннай і дзяржаўнай суверэннасці, ментальная адпрыродна-ўнутраная прага да аб'яднальнай ідэі, цярпімасці і цэласнасці нацыі і ўсяго беларускага народа як такога... І ўвесь гэты, мной улоўлены (мажліва, надта суб'ектыўна), падтэкст твора трымаецца на разгорнутым інтрыгоўным сюжэце, выпісаным у трох паралельных лініях, якія напрыканцы, як у тым вядомым вершы А. Вярцінскага, нечакана для чытача, але па волі аўтара, усё ж некалі павінны не толькі перасячыся, а сысціся ў адну лінію...

Адразу пазначу тыя лініі. Першая – другая палова вайны, школа Абвера, нацыяналістычнае несувымернае змаганне за незалежнасць Беларусі (сярод немцаў, але супраць саветаў), заведамая параза і сыход на Захад альбо на затоеную дыверсійную работу ў тыле, у рэшце рэшт, пагібель, турма ці расстрэл...

Другая – пасляваенны перыяд, барацьба органаў бяспекі з дыверсійнымі групамі антысавецкага супраціву, трагічны вырак большасці нязломных супраціўленцаў...

Трэці – сучасны перыяд, прыгодніцкія гісторыі маладога опера КДБ падчас пошуку сакрэтных схронаў, пакінутых акаўцамі і службай абвера на тэрыторыі рэспублікі, яго знаёмства і каханне з апазіцыянеркай і эвалюцыя яго нацыянальнай самасвядомасці...

Дзеянне адбываецца ў асноўным на тэрыторыі Нясвіжчыны і Наваградчыны, апроч статычных зваротаў галоўнага героя да Мінска...

Цяпер што да зместу, сюжэту і самой мастацкай ідэі рамана.

Малады опер органаў бяспекі РБ Вячаслаў Скарга займаецца разгадкай нацыяналістычнага супраціву ў Беларусі падчас вайны і ў пасляваенны час... Ён раіцца і шукае падтрымкі ў старога калегі-адстаўніка Ягора Кузьміча... Але пакуль у яго запасніках толькі невялікая папка з няяснымі намёткамі і статыстыкай... Між тым, аўтар падае карціну, што ў разведвальна-дыверсійнай школе пры сумнавядомым батальёне "Дальвіц", дзе навучаюць беларускіх нацыянал-патрыётаў, якія апынуліся на баку нямецкіх захопнікаў, з мэтай засылкі ў савецкі тыл для ідэалагічнай працы з насельніцтвам, ваенных дзеянняў і шпіянажу... (Па даведачным тэксце відаць, што аўтар пашамацеў шмат якімі архіўнымі дакументамі). Пад сваімі ці злёгку зменененымі прозвішчамі і імёнамі мы пазнаём прататыпаў вядомых нам людзей: Вітушкін, Захарка, Астроцкі, Рагуля, Ларыса Гайнюш, Наталля Арэссева ды іншых. Вядома, у школе былі не толькі свядомыя нацыяналісты, але і тыя, хто мелі вялікую крыўду і нянавісць на *"ср...ную систему, когда большевики с жидами всё из моей хаты выгребли, меня – в армию, батьков и младших – в Сибирь"* (Васіль Трэба з-пад Нясвіжа) і проста амаральныя і бандыцкага ўхілу

тыпы. Вось што кажа жонка гаспадара хаты, у якой начаваў Зміцер Стальмах, які, ужо пасля школы, прыехаў ад нямецкай камендатуры ў вёску з інспекцыяй: *“Паршивыми усих гэта вайна зрабила и веры ни да кога не засталося”.* Але ўсё ж, унікаючы навешвання ярлыкоў каму б там ні было, аўтар, на мой погляд, больш прыхільны ў вобразных выявах і характарах да людзей свядомаснага складу. Да прыкладу, выхаванец дыверсійнай школы Абвера, той жа З. Стальмах, пры чарговым наборы вясковай моладзі ў рады СБМ, думае пра сябе і сваё так: *“Ты знаешь, Боже, не хотел я этих метаний, не искал службы ни у этих, ни у тех, готовых истребить весь тобою созданный мир. (...) С надеждой на какое будущее говорю красивые слова забитым и не всегда сытым пацанам? Что они смогут сделать во имя наших призрачных идеалов свободы и национального воскрешения страны? (...) А потом, чем черт не шутит, может, именно твои воспитанники или их дети когда-то добьются этой самой независимости. (...) Чего свои мечты сам же и топчешь? Ты сеятель, и совсем не обязательно, что именно тебе доведется жать посеянный тобою хлеб”.* Хоць ён ведае, што: *“Ни немцы, ни партизаны, ни аковцы так и не смогли загнать всю белорусскую молодежь в ряды своих сторонников и растащить ее по рабочим бригадам, лесным отрядам и войсковым отделам. Хлопцы и девчата в западных районах предпочитали держаться своего хозяйства и на любые посулы глядели косо...”*

У тым жа ракурсе пададзены вобраз маладога капітана Ягора, які з атрадам органаў бяспекі адразу пасля вайны якраз выследжвае, палоніць альбо знішчае групоўкі баявікоў і асобных дыверсантаў тыпу З. Скаргі... Ён сустракаецца з маладой дзяўчынай Аленай (як выявіцца, сувязной ад Саюза беларускай моладзі). Вылоўліваючы з прылесных вёсак апошніх змагароў з атрада генерала Вітушкіна, што не паспелі перабрацца ў заходнюю Нямеччыну, ён слухае як дзяўчына пяе народную беларускую песню, якая даймае і трывожыць нацыянальна-родавае нутро маладога чэкіста: *“Егору хотелось прервать колдовское пение, но он с удивлением понял, что не в состоянии сопротивляться: ни ноги, ни руки, ни язык не желали слушаться и отказывались повиноваться командам разума, а незнакомое, тайное начало его естества, разбуженное песней девушки, оказалось неподвластным воле и рассудку. Именно там, на берегу безымянного ручейка, он осознал свою сопричастность с древним народом (...) ощутил себя частью этого самобытного мира”.*

Нездарма на роздыху падчас аперацыі па знішчэнні дыверсанта Джыхара ён раздумваецца: *“Кто тебе сказал, что прав именно ты? Они прилипли к Гитлеру, ты прилип к Сталину! Или Цанава с Пономаренко за твой народ радели, лучшей ему доли желали? Дай им волю, они бы твоими руками еще и не столько людзей на тот свет и в Сибирь отправили”.* Узаемная прыхільнасць маладых людзей перарастае ў пачуццё прывязанасці, але іх каханне так і не займела (ды і не магло займець) шчаслівага фіналу. Невядомыя (з якога лагера?) спіхваюць дзяўчыну з высокага моста проста пад колы цягніка...

Бальшавіцкае кіраўніцтва Беларусі, раздражнёнае сітуацыяй з нацыянал-змагарамі, усё больш заклапочана пытаннямі барацьбы з ляснымі супраціўленцамі, бо насамрэч тых, хто гатовы за незалежнасць Айчыны скласці свае галовы, аказалася не так і мала. Аўтар падае сустрэчу Лаўрэнція Фаміча (прататып Цанавы) і Панцеляймона (прататып Панамарэнкі). Першы гнобіць лясных змагароў за тое, што, бачыш, *“колхозы им не нравятся, хутора им милее...”*, тады як другі запэўнівае, што *“всю республику партизанскую поднимем и люто, всенародно казним! Предателям туда и дорога, но вот другое меня беспокоит: я тут списки осужденных просматривал, послушай, откуда столько молодежи? Дети совсем!”* Лаўрэнцій: *“Это ж выкормыши, организованного сраного Союза белорусской молодежи. Видишь, еще и пяти лет не прошло, как республику освободили, а*

*гаденыши подросли и головы на своих болотах поднимать стали..."* Панцеляймон: *"В Минске и при Кубе, и до него и после своих доморощенных национал-наставников хватало и хватает! Эти пострашнее лесовиков, сволоты недобитой. Они вон в пальто и шляпах по столице разгуливают, вместе с нами на партконференции ходят, кафедры и редакции возглавляют, книжечки пописывают и ждут, ждут любого нашего промаха..."* і дадае, што з імі трэба так , каб з *"этих недобитых в своё время купало-колосовских последователей и подпевал только мякина летела"*.

Прыкладна так тая неадназначная сітуацыя (у няроўнай па сіле і магчымасцях барацьбе) бачылася аўтару рамана. Асабліва цяжка было нацыянал-патрыётам, якія апынуліся ў жорнах вайны паміж двума задушлівымі камянямі – немцамі і саветамі. І ўсё ж аўтар найбольш зацыклены на вобразе маладога опера КДБ Вячаслава Скаргі і пастаронкава адсочвае (падтэкстава, а зрэдзьчас і наўпрост) змены ў яго характары, паводзінах і светапоглядзе... З нічога ўзнікае займальная гісторыя. Опер заўважыў, што міліцыянты затрымліваюць маладую прыгожую дзяўчыну. За што? Ды за тое, што тая апранутая ў строі бел-чырвона-белых колераў! І ў Вячаслава ўзнікае задумка: дапамагчы ёй вылузацца з рук недалёкіх "блюстителей порядка" і заадно паспрабаваць завербаваць дамачку з апазіцыйнага асяродку... Хітрасць спрацавала, але вярбоўка выйшла навыварат, бо Стэфанія сама прыцягнула яго да сябе. Карацей, каханне... Пачаўшы знаёмства са сваімі родзічамі, якія ўсе паходзяць з гістарычных мясцінаў (Нясвіжчыны ды Наваградчыны), а да ўсяго яшчэ маюць шляхецкія і нават далёкія княска-каралеўскія карані, маладзёны нечакана для сябе патрапляюць у прыгодніцкую гісторыю. Аказваецца стрыечны брат Стэфаніі хутаранец Казімір, прыватнік (фермер, наколькі ім можна быць у сучаснай Беларусі) мае сваю таямніцу, перададзеную яму дзедам і бацькам. Гэта дэтэктыўная сюжэтная лінія рамана з адшуканымі ў схронах скрынкамі з сакрэтнымі дакументамі, картамі і планамі, пакінутымі акаўцамі (ваярамі польскай Арміі Краёвай, у якой было нямала беларусаў-заходнікаў) на патаемнае захаванне да пэўнага часу ў хутараніна-аднаасобніка Казіміра Сапіцы. Унук не можа больш трымаць таямніцу пры сабе, паколькі за семдзесят гадоў ніхто так і не прыйшоў па схаванае. На радасцях знаёмства з чалавекам са сталіцы ён не стрымлівае сакрэту і распавядае пра хованку оперу КДБ і магчымаму сваяку Вячаславу Скаргу. Трэба дадаць, што сам Казімір чалавек не зашуганы, мае ўласны погляд на сённяшні стан грамадскага жыцця, як нашага, так і замежнага: *"По Европе едешь – дороги в сельской местности пообсажены, ухожены. Старое дерево затрухлевает – его спилят и новое посадят. Усадьбы кругом живописные глаз радуют, и главное, ни колхозов, ни СПК нет, а хозяин есть, и еды завались. Вот вам и вся недолга. Вы уж меня простите, больная для меня тема. Вот так, на детей и внуков теперь надежда..."*

Падчас усёй гэтай гісторыі вельмі цікава адсочваць за эвалюцыйнай зменлівасцю поглядаў і ідэйнай скіраванасцю маладога опера КДБ Вячаслава, якія робяць яго сутнасную натуру ўсё больш выяўнай у пытаннях нацыянальнай годнасці і самавызначэння... Нават стары кэдэбэшны адстаўнік Ягор Кузьміч сам пра сябе заўважае, цікуючы за развіццём справы, якую вядзе малады опер Скарга: *"Уходить тебе надо, Славочка, из нашей системы. И контора уже не та, и ты для нее не создан"*. І гэтаму не асабліва здзіўляешся, калі ведаеш у якім інтэлігентным атачэнні выхоўваўся Вячаслаў. А даведацца можна хоць бы вось з гэтага маналога, які ён чуў не менш за дзвесце разоў, ад свайго дзядзькі-прафесара: *"Вода прошлого, как различить твои потаенные родники, где найти твои истинные, незамутненые струи и есть ли они вообще среди бурных потоков и морей исторической лжи и нечистот? Лжи в угоду новому князю, патриарху, императору, генеральному секретарю, президенту. Часто приходится слышать, что нет ничего подлее нашей отечественной истории. Так ли это? Может жизь*

*прошлого и историческая наука – не одно и тоже? Может быть, всё может быть. Но, мой друг, если тебе невзначай зацепило прошлое, если ты хоть однажды ощутил в себе его таинственную прохладу, ты уже никогда не купишься на приторную патоку вузовского учебника. Ты пролистаешь его как досадную агитку... (...) Тем четче будет проступать обсурдность твоих обязательств перед тем, что сегодня называется государством, властью, наукой. Не бойся стать изгоем своего времени, это закономерно, иллюзорность твоих никчемных потерь с лихвой компенсирует громада прошлого. И однажды ты поймешь: смерть нашего государства – в величии порабощенного им народа".*

На фоне такой суб'ектывісцкай рыторыкі асобнага чалавека-мысляра, рэзка адценены два раздзелы, у якіх ярка і арыгінальна апісаны запальна-палемічныя дыялогі і спрэчкі "просталюдзінаў" ці электарату, як прынята цяпер казаць, у часе іх вострых дыскусій на грамадска-палітычныя тэмы, якія вельмі падобныя на інтэрпрэтацыю навязаных тэлебачаннем ды інтэрнетам прыўладных ідэалагічных схемаў, як, дарэчы, і з процілеглага боку – інтэлігентна-апазіцыйнай сходкі з набрыдлымі штампамі стыхійна-бунтоўных празаходніх настрояў... Відаць, гэтыя два раздзелы-ўстаўкі аўтар уключыў у раманную карціну як агульны фон надзённых рэалій сучаснага беларускага жыцця.

Аднак на знаходцы акаўскіх скрынак прыгодніцка-рамантычная гісторыя рамана не канчаецца. Стары гэбэшнік Ягор Кузьміч высілкамі сваіх былых агентаў вызнае і месца яшчэ аднаго сакрэтнага ваеннага спрата. *"Тайник там, судя по расшифрованным записям из твоих польских тетрадей. Только шифр, как мы и предпологали, не аковский, а, видать, немецкий. Польский разведчик только его скопировал и передал своим. Что там, сказать трудно"*. А там аказваецца вялікая картатэка (дасье) Абвера і СД на ўсю беларускую агентуру, завербаваную падчас вайны. *"Такие серо-зелёные картонные карточки с фотографией и полными данными агента: настоящие фамилия, имя, отчество, адрес основного и запасного места жительства, оперативные имена, пароли, специализация, поощрения, награды, особые приметы, кем и когда завербован"*. Трыццаць адна тысяча картачак. Тут і камуністы і камандзіры партызанскіх атрадаў... І яшчэ – два пеналы асобна з пазнакай СД. На гэтых кроў і кроў... Ягор Кузьміч прапаноўвае ўсе знаходкі адвезці і перадаць у *кантору*. Слава пачынае разважаць, маўляў, ужо ўсе яны на тым свеце... Але ж – дзеці і ўнукі, яны то ў чым вінаватыя?.. Урэшце, натомленыя, узялі па чарцы... І малады опер Вячаслаў Скарга правальваецца ў сон-прастрацыю, у якім яго апаноўвае неймаверна страшная карціна: любімую ім Стэфанію, амаль голую, скатаваную, акрываўленую прыводзіць на яго вочы нямецкі афіцэр і безапеляцыйна працягвае яму паперу, кажучы, што, калі ён яе падпіша, то будзе вызвалены разам са сваёй каханкай... І ён – падпісвае... Ачомаўшыся, Скарга *"встал, подошел к чемоданам, с брезгливостью взял две верхние коробки с карточками и высыпал их содержимое в огонь, в пожирающее и все очищающее пламя. Тонкий картон изогнулся с облегчением, глядя на него десятками фотографий незнакомых, но прощенных им людей"*.

Так канчаецца першая частка рамана, якая і склала гэтую кніжку Валерыя Казакова "Черный кот".

Што да пісьменніцкага майстэрства, то ў аўтара даволі ясны моўны склад выкладання тэксту і строгі традыцыйны стыль пісьма. Няма вычварнасці, хоць і мастацкай метафарычнай вобразнасці не надта шмат. Агулам тэкставая карціна супадае з адпаведнай рэчаіснасцю таго часу. Паўтаноў у працэсе апісання той ці іншай дзеі альбо таго ці іншага вобраза герояў рамана аўтар стараецца пазбягаць, таму залішняй сентыментальнай лірыкі "са слязьмі на вачах" у сюжэтную канву не дапускае... У яго даволі арыгінальныя маналогі афарыстычнага, хоць нярэдка і дыдактычнага, характару. А вось дыялогі – несумненная ўдача пісьменніка. Яны

заўжды палемічныя ў сваёй аснове, шчырыя, маюць жывы нерв, рухавую думку, чуйную эмоцыю, захоўваюць натуральнасць суразмоўцаў ...

Сам жа аўтар як апавядальнік гэтай рамантычнай і дэтэктыўна-прыгодніцкай гісторыі спрабуе трымаць сябе наводдаль падзеяў і ўчынкаў ды ідэйных трансляцый сваіх герояў, падтэкстава накладваючы на іх тыя ці іншыя суб'ектыўныя адценні сваіх вычуванняў. Зрэшты, не-не, ды час ад часу праскоквае ў гэтым калейдаскапічным "серыяле", як прынята казаць, 25-ты кадр... Як бы ненавязліва, коратка, але запамінальна: найперш, з вострай характарыстыкай дзеянняў і ўчынкаў "змагароў" *("Про этого Джихаря у нас разное рассказывают, байки, но уж больно страшные . Я сам видел, что он с людьми делал. Говорят, он никого не щадил, ни своих, ни наших. Одному полицаю, еще при немцах, собственоручно язык отрезал за то, что он по-русски с ним заговорил")*, хоць і савецкай уладзе, бальшавікам і чэкістам таксама перападае нямала крытычных стрэмак *("Оказывается, что после войны у нас, в Белоруссии, больше ста тысяч человек погибли и были репрессированы за сопротивление советской власти! И это только в три послевоенных года! А неизвестная война шла чуть ли не до пятьдесят седьмого. Ужас какой!*

*Теперь вы мне говорите, что белорусские города в основном бомбила наша же авиация!")*.

Таму – раю чытаць, раздумвацца і аналізаваць. Цвяроза і холадна. Бо сюжэт схіляе да авантурнага і захопленага паглынання тэксту. Зазначу, што ў аўтара не было мэты перапісаць гісторыю. Пераасэнсаваць з сённяшняга пункту погляду – так.

Вось і напрыканцы рамана (у яго падтэксце), як мне падаецца, ім зроблены намёк: а ці не пара ўжо нам дзеля нацыянальнай годнасці, умацавання дзяржаўнага суверэнітэту і росквіту Айчыны дараваць адно аднаму ўсе нашыя крыўды і непаразуменні, паўстаць нарэшце над усімі сваімі ментальнымі хібамі і слабасцямі?.. Хоць, зважаючы на сённяшні стан як улады так і апазіцыі (тая нават не можа прымірыцца ўнутры сябе самой, што найбольш прыкра), на жаль, такой еднасці не назіраецца і чамусьці з цяжкасцю прадбачыцца... Праўда, ёсць разуменне і асэнсаванне яе неабходнасці... Таму – сейфы і кампутарныя дыскі з картатэкамі сучаснікаў надзейна захоўваюцца і знішчаць іх (як і люстраваць) пакуль ніхто не збіраецца. Напэўна, чакаючы лепшага часу... А ён жа абавязкова наступіць. Тым больш, што і працяг рамана маецца быць...

Я разумею, што стаўленне да гэтай кнігі ў людзей розных поглядаў будзе не ва ўсім супадаць з маім. Але і гэта, я лічу, таксама будзе сведчыць на карысць твора, яго розгаласу і чытацкай прыцягальнасці.

дзеяпіс

# Рунь

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Алена Ігнацюк. Будзе ўсё наадварот. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 79). – 96 с.**




Са старонак новай, трэцяй па ліку кнігі пінскай паэткі на нас глядзіць лірычны герой – інтэлігент, які на ўлонні прыроды назірае за аблокамі і разважае пра сутнасць поглядаў Сакрата і Мандэльштама. У кнізе шмат вобразаў з дзяцінства – мармеладавае неба, фанцікі і зялёныя шакаладкі. Сваю паэзію яна параўноўвае з апошнімі. Кажа, што зялёны колер – сімвал аднаўлення, а ў жыцця не можа быць толькі салодкі смак. А фанцікі – гэта яркія, але пустыя знутры вобразы. Паэтку бянтэжыць абыякавасць у грамадстве, сваімі вершамі яна стараецца ўварвацца ў светаадчуванне чалавека скрозь гэтую рысу. У кнізе Алены Ігнацюк таксама ёсць пластылінавыя людзі, людзі-профілі, людзі без стрыжня, без асновы...

Сябе Алена Ігнацюк параўноўвае з Зінаідай Гіпіус *у блакітна-ружовых пальчатках*. Чаму менавіта з ёй? *“Я параўнала сваю паэзію з творчасцю З. Гіпіус хутчэй інтуітыўна. З’явіўся вобраз як сімвал рэфармаванай, моцнай, памкнёнай ад цемры да святла паэзіі. І гэта паэзія адчування адной хвіліны. Наступная хвіліна ўжо іншая”.*

Тэксты новай кнігі Алена Ігнацюк адносіць да “адваротнага”. Паводле словаў аўтаркі, гэта больш часавая катэгорыя, якая ідзе ад космасу, ад інтуіцыі, ідзе заўсёды пад знакам “+”.

**Наста Кудасава. Маё невымаўля. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 78). – 116 с.**




Хочам падзяліцца радасцю з аматарамі паэзіі: выйшла добрая (не выдатная, не выбітная — добрая!) кніга. Адзначым пачуццё меры ў гукапісе. І пачуццё густу ў цытаваннях. Вершы Насты Кудасавай як глыток паветра для нырца па жэмчуг — хуткі і глыбокі. Акурат такі, каб паспець скласці восем радкоў. Гэта сярэдні памер Настаых вершаў, памер, велікаваты для допісу ў ФБ і малаваты для тоўстага часопіса... Гэта вершы-сугестыі, дзе інтуіцыя ёсць творчым метадам, дзе адкрыццё робіцца праз аксюмаран, на мяжы фолу.

*...проста верасень гладзіць жалуды па галовах,*
*зняўшы душаў капелюшы.*
*я з усіх чалавечых і рыбіных моваў*
*помню толькі «люблю» і «пішы».*
*быццам дзесьці пад скурай прарыў цеплатрасы*
*вострым кіпнем балючага «ты».*

*быццам восень мая зараз кінецца з часу,*
*як на бераг — ад шчасця — кіты...*

«Маё невымаўля» — голас Паэзіі, што прарваўся з лабірынту маўчання.




**Макмілін Арнольд. Рунь: Маладыя беларускія паэты XXI стагоддзя. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 236 с.**

Да свайго 75-годдзя вядомы брытанскі даследчык беларускай літаратуры, прафесар Арнольд Макмілін падрыхтаваў беларускамоўны варыянт (ангельскамоўны выйшаў у Вялікабрытаніі раней) манаграфіі пра маладую беларускую паэзію. Аўтар аналізуе творчасць 40 паэтаў, якія нарадзіліся пасля 1980 г., на падставе іх дэбютных зборнікаў, выдадзеных на пачатку гэтага стагоддзя. Кніга, якая яшчэ да перакладу выклікала розгалас у літаратурных колах, складаецца з васьмі раздзелаў “Гістарычная спадчына”, “Рэлігія і розныя форма набожнасці”, “Пратэст супраць адчужанасці”, “Ужыванне мовы і яе абарона”, “Лірычны прарыў”, “Гумар”, “Паэзія перформанса” і “Паэты і паэтычнае натхненне”. Відавочна, класіфікацыя, ацэнкі і акцэнты Арнольда Макміліна могуць выклікаць здзіўленне ў айчыннага чытача. Але маладая беларуская паэзія мусіць быць удзячная шаноўнаму прафесару: у нас падобнага даследавання няма (і не прадбачыцца), а погляд з боку заўжды цікавы і карысны!




**Свэн Нурдквіст. Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 12). – 32 с.**

Новая кніга для дзетак і іх бацькоў, працяг гісторый пра дзядулю Пэтсана і кацянятка Фіндуса пабачыла свет у серыі «Каляровы ровар». Казка шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста, перакладзеная Надзеяй Кандрусевіч, ужо чакае сваіх чытачоў на паліцах мінскіх кнігарняў. Сімпатычныя і забаўныя героі Пэтсан і Фіндус, якія ажылі на старонках кніг шведскага аўтара, не маюць патрэбы ў прадстаўленні — яны вельмі папулярныя па ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі, і казкі пра іх пераствораныя больш чым на 30 моў.

Вядома ж, не абыдзецца без авантураў і прыгод, падчас якіх Фіндус дазнаецца шмат новага пра навакольны свет, поўны цікавых раслінаў і жывёл, а таксама знойдзе новых прыяцеляў — фантазійных істотак мюклаў, нечым падобных на маленькіх добрых гномаў, якія ратуюць усіх, каму патрэбная дапамога.

На нашай роднай мове выйшлі кнігі “Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды”, пасля — “Блінны торт”. А цяпер серыя для дзяцей “Каляровы ровар” працягваецца гісторыяй «Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі». З яе юныя чытачы і чытачкі даведаюцца, як пазнаёміліся і пасябравалі дзядуля Пэтсан і ягоны ўлюбёнец коцік Фіндус. Выданне шыкоўна ілюстраванае — адно задавальненне трымаць яе ў руках! Казка стане сапраўдным падарункам для ўсёй сям’і.

# Нашыя аўтары

**Анікеенка Таццяна** – перакладчыца. Скончыла славянскае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ па спецыяльнасці балгарская і беларуская мова і літаратура. З перакладамі друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў», «Arche». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімір** — рэжысёр тэатра і кіно, публіцыст, паэт-песеннік. Аўтар кнігі мемуараў «Магія белага экрана». Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Баку. Жыве ў Мінску.

**Астапенка Анатоль** – публіцыст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Доктар паліталогіі МАІТ. Аўтар кніг «Паслухайце нацыяналіста» і «Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце». Пад псеўданімам Антон Кулон выдаў кнігу эсэ «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Нарадзіўся ў 1947 годзе на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бандарэнка Зінаіда** – дыктарка Беларускага тэлебачання. Народная артыстка Беларусі. З 1959 дыктар Гомельскай абласной студыі тэлебачання, з 1962 працуе на Беларускай рэспубліканскай студыі тэлебачання (з 1976 кіраўнік групы дыктараў). Нарадзілася ў 1939 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бандурына Крысціна** – празаік, паэтка. Навучаецца на філфаку ГДУ імя Францыска Скарыны. Фіналістка конкурсу «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава (2014), скончыла Школу маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў (2015). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мазыры, жыве ў Гомелі.

**Барысюк Таццяна** – паэтка, празаік, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтарка паэтычнага зборніка «Аўтапартрэт», а таксама чатырох літаратурна-кампаратывістычных манаграфій. Нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Высоцкі Ігар** – паэт, бард. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў і Беларускі інстытут правазнаўства. Працаваў на Ашмянскай мытні. Нарадзіўся на Магілёўшчыне. Цяпер знаходзіцца ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў в.Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Гуцаў Андрэй** — паэт, празаік, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Адчужэнне» і «Шалёная ноч», прозы «Кніга зданяў», шматлікіх перакладаў з латышскае мовы. Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Галавінцы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1993). Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Крылатыя сябры», «Мелодыя сьвятла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Забалацьце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Законнікаў Сяргей** — паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1991). Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Ігнацюк Юрый** – журналіст. Намеснік галоўнага рэдактара газеты «Сельмашавец» ААТ «Гомсельмаш». Друкаваў вершы ў газетах «Сельмашавец», «Гомельская праўда», «Гомельскія ведамасці», «Футбол», у літаратурным альманаху «Магістраль». Намінант нацыянальнай літаратурнай прэміі «Паэт года-2015» (Расія). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Іпатава Вольга** — паэтка, празаік, публіцыст. Аўтарка кніг «Раніца», «Ліпеньскія навальніцы», «Парасткі», «Вецер над стромай», «Перакат», «Прадыслава», «За морам хвалынскім», «Альгердава дзіда» і інш. Нарадзілася ў 1945 годзе ў мястэчку Мір на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі імя Е. Гедройца (2014). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце

на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах. Жыве ў Мінску.

**Камінская Зараслава** – празаік. Скончыла журфак БДУ. Працавала капірайтэрам, зараз займаецца дыджытал-камунікацыямі. Нарадзілася ў Наваполацку ў 1985 годзе, жыве ў Мінску.

**Качаткова Паліна** — празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Апавяданні друкаваліся ў «ЛіМе», «Крыніцы», «Нашай ніве» і інш. выданнях. Аўтарка кнігі «Матылі». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Макмілін Арнольд** – філолаг-славіст. Прафесар. Доктар славянскай філалогіі. Вучыўся ў Лонданскім універсітэце. Выкладаў рускую мову і літаратуру ва ўніверсітэтах Лондана і Ліверпуля. Ад 1987 года — прафесар рускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта. Аўтар шэраг кніг, прысвечаных беларускай літаратуры, сярод якіх «Пісьменства ў халодным клімаце: Беларуская літаратура ад 70-х гг. ХХ ст. да нашых дзён», «Рунь: Маладыя паэты пачатку ХХІ ст.» і інш. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Ньюкасле. Жыве ў Лондане.

**Маляўка Марыя** – крытык, празаік. Скончыла Факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Працуе журналістам. Скончыла Школу маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Друкавалася ў часопісе «Дзеяслоў», газеце «Літаратурная Беларусь». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Кіеве. Жыве ў Мінску.

**Мароз Мікалай** – празаік. Аўтар кніг «Развеяны сум», «Папялішча – нятлен», «Не маючы літасці», «Не прасі палёгкі ў жыцця». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Старое Янчына на Барысаўшчыне. Жыве ў мястэчку Шуміліна на Віцебшчыне.

**Мароз Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Івацэвіччыне. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» (2010). Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны», «Багун» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Нінько Алесь** – паэт. Вучыўся на філалагічным і гістарычным факультэтах БДУ. Друкаваўся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», газетах «ЛіМ», «Чырвоная Змена» і інш., у рэгіянальных калектыўных зборніках, у «Анталогіі маладога верша». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнічшчыне. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі» прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Панізьнік Сяргей** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Кастры Купалля», «Палявая пошта», «Ча-ло і век», «Стырно» і інш., публіцыстыкі «Пасля вогненных вёсак...», прозы «Асвейская трагедыя» і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Бабышкі на Мёршчыне. Жыве ў Мінску.

**Пятрэнка Юльяна** – празаік. Працуе ў Гомельскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Аўтарка раману «Лунные кружева, серебряные нити». Нарадзілася ў 1981 годзе ў вёсцы Жгунь Добрушскага раёна на Гомельшчыне. Жыве ў Гомелі.

**Саверчанка Іван** – літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук, прафесар. Дырэктар філіяла «Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы» Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Аўтар дзевяці манаграфій, звыш 250 навуковых публікацый. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Маліноўка на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сапач Тацяна** – паэтка, журналістка, перакладчыца. Аўтарка кніг «Восень» і «Няхай не пакіне нас Восень». Адна з аўтарак перадачы «Палітычная геаграфія» на Радыё Свабода. Аўтарка праграмы «Віленскі сшытак» на Літоўскай нацыянальнай тэлевізіі. Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Маркава на Маладэчаншчыне. Трагічна загінула ў 2010 годзе.

**Семілетаў Іван** – мастак. Удзельнік выстаў з 1997 года. Працы знаходзяцца ў Рускім музеі сучаснага мастацтва ў Нью-Ёрку, прыватных калекцыях Амерыкі, Партугаліі, Нямеччыны, Італіі, Сірыі. Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Фядута Аляксандр** – журналіст, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Читатель в творческом сознании А.С. Пушкина», «Лукашенко: политическая биография», «Паэтычны аглядальнік», «Американские стихи» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шпілька Тадора (Будовіч Таццяна)** — паэтка. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.